## ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

X том *Даследаванняў і матэрыялаў* прысвечаны шэрагу важных аспектаў літаратурнага працэсу на ліцвінска-беларускіх землях у XIX ст. У першую чаргу мы закранаем асобныя пытанні, звязаныя з пашырэннем на Віцебшчыне і Смаленшчыне славутае *Беларускае Энеіды*. Нядаўна выяўленыя Вячаславам Мартысюком «древнѣйшія списки» (Яўхім Карскі) дазваляюць зрабіць шэраг істотных удакладненняў у справе ўзнікнення і атрыбуцыі твора. На нашую думку, паэма паўстала ў эпоху станаўлення нацыянальнае ідэнтычнасці ўсходнеславянскіх этнасаў, калі прадстаўнікі тагачасных элітаў грамадства імкнуліся з дапамогаю літаратурных тэкстаў абудзіць нацыянальныя пачуцці сваіх суайчыннікаў (*Слова пра паход Ігаравы*, *Украінская Энеіда*, *Краледворскі рукапіс*). Аўтар *Беларускае Энеіды* – паэт канца XVIII – пачатку XIX ст. Ягоны твор захаваўся адно ва ўзнаўленнях (магчыма, пасля працяглага вуснага бытавання) у магілёўска-віцебскім інтэлігенцкім асяроддзі ў 1830-я гг. (Ігнат Манькоўскі, браты Мыслоўскія ды іншыя), а таксама ў смаленскім атачэнні Вінцэнта Равінскага. Тое, што дайшло да нашага часу, – гэта парэшткі даўняе травестацыі невядомага Беларускага Аўтара.

У даследаванні звяртаецца ўвага на адметнасці рукапісу Мыслоўскага, выкананага беларускаю лацінкаю (наяўнасць літары ***й***, якая абазначала гук [ў]). Адзначаюцца спробы Восіпа Бадзянскага, а пазней Барыса Залескага зрусіфікаваць беларускі тэкст *Энеіды*, а Я. Карскага – прывязаць яго да заходняе Смаленшчыны.

Аналіз рукапісаў сярэдзіны XIX ст. дазволіў сцвердзіць, што твор пісаўся адычнаю страфою, якая з прычыны вуснага бытавання ў значнай ступені была страчаная (захаваліся чатыры правільныя дэцымы). Адсутнасць “цокання” (характэрнае асаблівасці беларускае мовы Смаленшчыны) у рукапісе, які паходзіць з дому Равінскіх, зводзіць прынятую ў беларускім літаратуразнаўстве атрыбуцыю твора да маргінальнае. Далейшыя пошукі павінны пацвердзіць ранняе паўстанне *Беларускае Энеіды* і нарадзіць новыя гіпотэзы адносна ейнага аўтарства.

Наступныя два раздзелы тома знаёмяць з тэкстамі, створанымі тагачаснымі асветнікамі, дзеля простага люду. Адны з іх, раней цалкам нязнаныя (з рукапісаў Мяніцкіх), празаічныя, іншыя – агульнавядомыя (Яна Чачота) – вершаваныя. Аб’ядноўвае іх тое, што яны напісаныя ў форме

казанняў як спроба павысіць цывілізацыйны ўзровень цёмнае сялянскае масы.

Беларускамоўнае ўзнаўленне вандроўных нататак Адама Плуга – маем надзею – дазволіць па-іншаму зірнуць на літаратурны працэс на ліцвінска-беларускіх землях у сярэдзіне XIX ст., на праблему беларускамоўнае творчасці ўвогуле і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў прыватнасці. На аснове аналізу тае публікацыі можна таксама зразумець стаўленне Беларускага Дудара да абвінавачванняў, што пішучы на беларускай гаворцы ён пашырае правінцыялізм.

У працы таксама закранаюцца асобныя праявы нацыянальнага і рэлігійнага жыцця на Беларусі ў другой палове XIX ст., барацьба каталіцкае супольнасці супраць гвалтоўнага наступу расейскага імперыялізму на нацыянальную і рэлігійную свядомасць насельнікаў Беларусі, якія ад безвыходнасці шукалі абароны ў таксама скрыўджанага заходняга суседа.

Публікуюцца як раней друкаваныя тэксты, так і рукапісныя архіўныя матэрыялы.

Дадзены том паўстаў дзякуючы дапамозе шэрагу беларускіх і замежных навукоўцаў. У першую чаргу прагнем падзякаваць гісторыкам і мовазнаўцам Вячаславу Мартысюку і Зміцеру Крымоўскаму, філолагам Язэпу Янушкевічу і Лявону Баршчэўскаму, а таксама інфарматыку Антону Францішку Брылю.

## Прынцыпы перадачы рукапісных тэкстаў

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца напісанае ў арыгінале злітна – ня|быў.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма вертыкальнымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |**1r**| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |**1v**| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~Biedny~~; напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – $^{\text{Uiszow}}$.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам “нечытэльна” – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# *Энеіда* Вергілія і ейныя травестацыі

Рымскі паэт Публій Вергілій Марон (70 да н. э. – 19 да н. э.) на замову Гая Юлія Цэзара Актавіяна Аўгуста (63 да н. э. – 14 н. э.) дзеля станаўлення дзяржаўнай свядомасці ды нацыянальнага гонару народа і абароны дынастычных інтарэсаў імператара цягам дзесяці гадоў (29–19 да н. э.) напісаў на падставе паданняў, што выводзіліся непасрэдна з паэмы *Ἰλιάς* (*Іліяда*) Гамера, патрыятычны эпас *Aeneis* (*Энеіда*), прысвечаны гісторыі легендарнага траянскага героя Энея, які пасля разбурэння Троі перасяліўся з рэшткамі свайго народа на Апенінскі паўвостраў, дзе ягоныя нашчадкі заснавалі Рымскую дзяржаву.

Перайманні-наследаванні *Энеідзе* з’явіліся ўжо ў I ст. н. э. Істотна тое, што твор у хрысціянскую эпоху стаўся абавязковым у сістэме школьнае адукацыі. У XV ст. *Энеіду* пачалі актыўна перакладаць (спачатку прозаю, пасля вершам) на еўрапейскія мовы – французскую (1500), гішпанскую, шатландскую (1513), нямецкую (1515, 1610), італьянскую (1581), галандскую (1646) і інш.

Першы польскі пераклад *Wergiliusz Aeneida. To jest o Aeneaszu Trojańskim ksiąg dwanaście* Энджэя Каханоўскага (1542–1596) убачыў свет у 1590 г. у Кракаве. У XVII ст. ён тройчы[1] перавыдаваўся ў тагачаснай сталіцы Польшчы, а ў 1754 г. – у Варшаве. З перакладу Э. Каханоўскага пададзім зварот-просьбу Юноны да Эола:

Eole (bo tobie
Jupiter wszechmogący dał moc nad wałami
Uśmierzać, y znowu ich unosić wiatrami)
Tyrrheńskim morzem mnie lud ohydzony płynie,
Z Troią mdłe bogi wiozący ku Włoskiey krainie.
Porusz wiatrów, a wiatry ich okręty zaley,
Albo rozgrom po morzu od siebie naydaley.
Mam czternaście nadobnych Bogiń w swey opiece,
Z których co naycudnieyszą Deiopeą w ręce
Tobie za żonę oddam w małżeństwo stateczne,
Za takową posługą z Tobą zawżdy żyła,
A nadobnym cię płodem Oyca uczyniła.
[Virgilii Aeneida 1754: 3]

Да канца 1820-х гг. былі апублікаваныя па-польску яшчэ два поўныя пераклады *Энеіды*: Францішка Ксавэрыя Дмахоўскага (1762–1808) – *Enei-*

[1] Два выданні XVII ст. пазначаны, як і першае, 1590 годам.

*da* (Warszawa 1809)[1] і Яцка Ідзі Пшыбыльскага (1756–1819) – *Eneida, czyli wiersz bohatyrski ku czci Enejasza z Troi* (Kraków 1811), а таксама тры частковыя: Марціна Мольскага (1751–1822), кс. Вінцэнты Якубоўскага (1751–1826) і Эўзэбіўша Славацкага (1773–1814)[2].

Тая самая просьба Юноны да Эола ў Ф.К. Дмахоўскага гучыць так:

Kiedy od ludzi i bogów
Oyca, tobie Eolu, ten urząd nadany,
Byś uciszał, i wiatrem poruszał bałwany:
Niemiły wdłuż Tyreńskiéy ród płynie odnogi,
Troię do Włoch prowadząc i pobite bogi,
Day moc wiatrom, i zatop okręty w głębiźnie,
Albo rosprosz po morskiéy rozbitków płaszczyźnie.
Mam cztérnaście Nimf rzadką ozdobnych urodą,
Z tych naypięknieyszą tobie Deiopeię młodą,
Wiecznym węzłem poślubię, i nadam za żonę:
Ona, żeś obowiązał w iéy prośbie Junonę,
Łoże monarchy wiatrów na zawsze podzieli,
I małżonka prześlicznym płodem uweseli.
[Wirgiliusz 1830: 5–6]

Расейскі пераклад першае песні *Энеіды* Васіля Санкоўскага (1741 – 1798) з'явіўся ў 1769 г. [гл.: Виргилій 1775], а другое – у 1772 г.[3]. Поўны пераклад *Энеіды* прыдворнага паэта Васіля Пятрова (1736–1799)[4] быў апублікаваны ў 1780-я гг. [гл.: Вергилий 1770, online; Вергилий, online; Виргилій 1781]. Гэтыя пераклады маглі выкарыстоўваць у сваёй працы і расейскі травестатар *Энеіды*, і ўкраінскі. Пададзім фрагмент перакладу В. Пятрова, напісаны александрыйскім вершам, памятаючы, што Вісарыён Бялінскі надзвычай непрыхільна выказаўся пра стыль гэтага паэта: «Трудно вообразить себе что-нибудь жестче, грубее и напыщеннее дебелой лиры этого семинарского певца» [Белинский, online].

Еолъ, которому Зевесъ далъ всемогущій
Власть волны воздымать, и усмирять ревущи!
Враждебный мнѣ народъ, межь Тусскихъ мчась валовъ,
Преноситъ Иліонъ во Латій и боговъ.
Ты бурю устремивъ пожри суда волнами;
Или разсыпь всѣ врозь, и понтъ покрой пловцами.

---

[1] Апошнія тры кнігі *Энеіды* ў выданні 1809 г. пераклаў В. Якубоўскі, а ў выданні 1830 г. – Францішак Салезы Дмахоўскі (1801–1871) і Францішак Кавальскі (1799–1862).

[2] Э. Славацкі пераклаў фрагменты асобных кніг *Энеіды*: II і III – прозаю, IV – вершам, VI – прозаю, IX – вершам. Усе яны былі апублікаваныя ў 1826 г. у Вільні [гл.: Słowacki 1826: 140–207].

[3] В. Санкоўскі паходзіў з Украіны, вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі, пасля – у Маскоўскай і Маскоўскім універсітэце. Добра ведаў старажытныя мовы, быў выдаўцом часопіса «Доброе намереніе» (1763–1765).

[4] В. Пятроў пачаў перакладаць паэму Вергілія на пачатку 1770-х гг. і тады ж апублікаваў ейныя фрагменты ў перыёдыцы.

Четырнатцать я Нимфъ имѣю у себя,
Изъ нихъ всѣхъ лучшею одной дарю тебя;
Чтобъ, въ награжденіе твоей ко мнѣ заслуги,
Ты наслаждался сей объятіемъ супруги,
Чтобъ Деіопея весь съ тобой вѣкъ жила;
Тебѣбъ, Еолъ, дитя прекрасно родила.
[Виргилий 1781: 6]

На беларускую мову фрагмент *Энеіды* Вергілія пераклаў Л. Баршчэўскі[1].

Першыя травестацыі славутае паэмы Вергілія датуюцца XVII ст. Пачынальнікам лічыцца італьянец Джавані Батыста Лалі (1772–1637)[2], які ў 1634 г. выдаў *L'Eneide travestita* [гл.: Lalli 1651]. Але сапраўдную славу жанру травестацыі ў духу бурлеска і іроікамічнае паэмы прынёс сваім *Le Virgile travesty en vers burlesques* (1648–1653) французскі паэт Поль Скарон (1610–1660) [гл.: Scarron Paul 1655].

Для ўсходнеславянскіх травестацый *Энеіды* найважнейшае значэнне меў твор аўстрыйскага паэта Алоіса Блумаўэра (1755–1798) *Virgils Aeneis travestiert* (1784–1788): менавіта ён натхніў і расейскага, і ўкраінскага, і, магчыма, беларускага паэтаў.

Нямецкамоўная травестацыя з'явілася на самым пачатку рэлігійных і палітычных рэформаў імператара Святое рымскае імперыі германскае нацыі Ёзафа II (Іосіфа II) Габсбурга (1741–1790), які ў 1781 г. выдаў эдыкт пра талеранцыю для праваслаўных і пратэстантаў, а таксама пачаў працэс падпарадкавання касцёла дзяржаве і абмежавання ягоных дачыненняў з Ватыканам. Істотна таксама тое, што ў гэты ж час быў прыняты закон пра свабоду слова і друку, а А. Блумаўэр апынуўся на пасадзе цэнзара (1782–1793) у рэфармаванай цэнзурнай камісіі і стаў галоўным рэдактарам (1782–1784) венскае "Realzeitung", якая прапагандавала рэвалюцыйныя асветніцкія ідэі. Першыя дзве кнігі твора А. Блумаўэра выйшлі ў Франкфурце ў 1783 г. пад тытулам *Abentheuer des frommen Helden Aeneas, oder Virgils Aeneis travestiert von J[ohannes] A[loisius] Blumauer* (*Прыгоды набожнага героя Энея, альбо Энеіда Вергілія, травеставаная Ё[ханэсам] А[лоісам] Блумаўэрам*) [гл.: Blumauer 1783].

---

[1] Гл.: *Хрэстаматыя па літаратуры народаў свету*, Мінск 1995, ч. 1, с. 122–124.

[2] Іван Франко ў рэцэнзіі на працу Мікалая Дашкевіча *Малорусская и другие бурлескные (шутливые) Энеиды* падае шэраг ранейшых травестацый: "Лаллі підвів тільки, так сказати, суму давнішим проблемам того роду. Ще мантуанець Теофіл Фоленго пародіював Вергілія в своїй поемі *Bardo da Cipada* (1517). На початку XVII ст. вийшла в Іспанії поема Космо де Альдани *L'Asneida* (*Спів до осла*) як травестія до *Енеїди*, але всі примірники сеї книжки затратилися. У Франції травестував *Енеїду* сучасний Скарронові Гійом де Бребеф (умер 1661). В Німеччині першу травестію *Енеїди* (під впливом Скаррона) зладив Йоганн Георг Шмідт (умер 1730 р.), але його праця, два грубі фоліанти, зложена в рукописі в міській бібліотеці в Страсбурзі, згоріли в 1870 р. Про Міхаеліса, що розпочав свою травестовану *Енеїду* коло 1771 р., згадує проф. Дашкевич; варто подати, що власне він був творцем тої строфи, яку прийняв Блюмауер у своїй травестії" [Франко 1979: 317–318].

А ўжо ў наступным годзе быў надрукаваны першы з трох тамоў *Virgils Aeneis travestiert von Blumauer*, дзе змешчаныя чатыры кнігі твора[1]. Характэрна, што паэма публікавалася коштам папярэдняе падпіскі, але, відаць, узніклі пэўныя праблемы, дык сам імператар у адмысловым прывілеі (змешчаны на пачатку другога тома) рэгламентаваў фінансава-выдавецкія справы, беручы пад сваю абарону аўтарскія правы А. Блумаўэра. Цікава яшчэ і тое, што сярод тых, хто падпісаўся на выданне аўстрыйскага паэта, быў "невядомы" з Пецярбурга ("Petersburg. 1 Ungenannter" [Blumauer 1785: II, b. n.]). Ці быў гэтым "невядомым" Мікалай Осіпаў (1751–1799)? Магчыма. Але цяпер – ва ўсякім разе – мы дакладна ведаем, што ў сярэдзіне 1780-х гг. паэма А. Блумаўэра трапіла ў сталіцу Расейскае імперыі. Звяртаем на гэта ўвагу, бо калісь Міхайла Маркоўскі (1869–1947), спрабуючы давесці, што *Виргиліева Энеида* І. Катлярэўскага была напісаная раней за *Виргилиеву Энейду, вывороченную наизнанку* М. Осіпава, сцвярджаў наступнае:

> в покажчику передплатників на *Енеїду* Блумауерову в І томі, який вийшов р. 1784, зазначено, що у Львів замовлено її 15 примірників; а в Петербург не виписано ні одного примірника; за покажчиком ІІІ тому, який вийшов 1788, у Львів замовлено 21 примір., в Чернівці 1 примірник, Тарнопіль 1 прим, і в Ляйпціг – батьківщину вчителя Котляревського німецької мови Шаля 7 прим., в Петербург знов ні одного примірника. І тільки в другому томі другого видання *Енеїди* Блумауерової 1793 р. зазначено, що в Петербург виписав її якийсь один Унгенавютер. На жаль, у Києві ніде не можна знайти 2 тому першого видання *Енеїди* Блумауерової. Занести в Полтаву *Енеїду* Блумауерову міг і другий навчитель німецької мови в Полтавській семінарії Андрій Пепчій, родом з города Уйфака в Угорщині, що вчителював у Полтаві з 1781 р. до 1796 р. [Марковський 1926, 9: 133].

Якраз у другім томе першага выдання *Virgils Aeneis travestiert*, якога не меў М. Маркоўскі, маецца пазнака, што яно было замоўленае невядомым расіянінам. Дарэчы, гэта быў адзіны трохтомнік, які атрымалі ў Расеі, прынамсі, па падпісцы.

Паэма А. Блумаўэра – гэта з'едлівая сатыра, народжаная антыклерыкальным рэфармізмам імператара Ёзафа ІІ, на рымскі каталіцызм. Ягоны Эней – гэта заснавальнік не толькі Рыма, але і Ватыкана. Набожная даверлівасць Вергіліеўскіх траянцаў перанакіроўваецца супраць хрысціянскіх догмаў і забабонаў.

Следам за Дж.Б. Лалі, які дзеля свае травестацыі выкарыстаў пашыраную ў італьянскай паэзіі актаву з рыфмоўкаю abababcc, А. Блумаўэр таксама паслядоўна ўжывае класічную форму верша – септыму з рыфмоўкаю aBaBCCd[2].

Es war einmal ein großer Held,
Der sich Aeneas nannte:

[1] Другі том (пятая і шостая кнігі) выйшаў у свет у 1785 г., а трэці (сёмая, восьмая і дзявятая кнігі) – у 1788 г.

[2] Сёмы радок – халасты.

Aus Troja nahm er's Fersengeld,
Als man die Stadt verbrannte,
Und reiste fort mit Sack und Pack,
Doch litt er manchen Schabernack
Von Jupiters Xantippe.
[Blumauer 1784: I, 3]

Стройная сістэма строфаў нямецкага паэта, пэўна, скіравала М. Осіпава шукаць адпаведную форму. А ў сувязі з тым, што лаканічныя пасажы нямецкае мовы расейскаму паэту, відаць, не ўдавалася перадаваць эквілінеарна, ён выкарыстоўвае дзесяцірадковую адычную страфу[1], што ў 1780-я гг. стала надзвычай папулярнаю ў "высокай" расейскай паэзіі.

Frau Venus kam, und machte da
Dem Donnerer Visite;
Denn da versagte der Papa
Ihr niemals eine Bitte. –
„Ach, Herr Papa!" so fing sie an,
Was hat mein Sohn euch denn gethan,
Daß ihr so sehr ihn hudelt?

Потомъ Цитерска щеголиха,
Любви и волокитства мать,
Подкравшись въ двери изъ подтиха,
Изволила предъ нимъ предстать;
Какъ Нѣмка передъ нимъ присѣла,
И жалобно ему запѣла:
«Ахъ! батюшка сударикъ мой!
Чемъ сынъ мой сдѣлался виновенъ?
За что Еолъ толико злобенъ?
Тебѣ по мнѣ онъ не чужой.

Er soll, nicht wahr, ich merk' es wohl,
Italien nicht finden?
Verspracht ihr mir nicht selbst: er soll
Noch Roms Triregnum gründen?
Und weil ihr da des Leibes pflegt,
Geht euer Weibchen her, und neckt
Mir meinen armen Jungen".
[Blumauer 1884: I, 17–18]

Теперь я вижу очень ясно,
Ему что Рима не видать;
Старанье все мое напрасно,
Чтобъ тамо царство основать.
Твоя супружница Юнона
Всегда во всемъ ему препона,
И хочетъ выгнать съ свѣта вонъ;
Вездѣ ему напасти строитъ,
Всегда немилосердно гонитъ,
И хочетъ, чтобъ погибнулъ онъ».
[Н. О. 1800: 25–26]

Расейскія літаратуразнаўцы, кажучы пра *Виргиліеву Энейду, вывороченную наизнанку*, звычайна падкрэсліваюць ейную самастойнасць, хоць і прызнаюць, што яна можа быць названая пераробкаю ці вольным наследаваннем паэмы А. Блумаўэра. І сапраўды, з 83 строф першае кнігі нямецкага паэта ў М. Осіпава "атрымалася" 77, з якіх толькі 8 можна назваць самастойнымі, г. зн. у іх ёсць матывы, якіх няма ў А. Блумаўэра (тут мы не ўлічваем тыя пасажы, дзе М. Осіпаў замяняў дэталі нямецкага быту апісаннямі расейскіх мяшчанскіх рэалій). Шматлікія строфы ёсць амаль дакладным перакладам з нямецкае мовы. Напрыклад, літаральна слова ў слова М. Осіпаў перакладае празаічны "Inhalt" да кнігі:

[1] Здаецца, у сатырычных творах да М. Осіпава яна не ўжывалася.

> Wie der fromme Held Aeneas über Meer auf die Fahrt ging, und von einem Sturm gar unsanft hergenommen, hierauf aber von der Königin in Lybia freundlich angenommen und köstlich bewirthet ward [Blumauer 1784: 3].

> Еней претерпѣвши кораблекрушеніе былъ брошенъ на пустой берегъ, и принятъ благосклонно Ливійскою Царицею, которою угощенъ великолѣпно [Н. О. 1800: 28].

У той жа час М. Осіпаў апускае шэраг строфаў А. Блумаўэра: найбольш значны фрагмент – гэта 5 строфаў, у якіх Юпітар апавядае Венеры пра нашчадкаў Энея – уладыкаў Ватыкану. Напрыклад:

> Der also dieses Reich regiert,
> Wird sehr die Welt kuranzen:
> Ein jeder fromme König wird
> Nach seiner Pfeife tanzen.
> Er hält von andrer Leute Geld
> Ein großes Kriegsheer, und die Welt
> Küßt ihm dafür den Stiefel.
> [Blumauer 1784, I: 21]

Відавочна, антыклерыкальны пафас *Virgils Aeneis travestiert* не меў права на існаванне ў Расеі Кацярыны II, хоць след гэтага пафасу сям-там і застаўся:

> Потомъ явится сильно племя
> Однихъ мужчинъ все холостыхъ;
> Съ себя тѣ сбросятъ свѣтско бремя;
> Не будетъ вовсе женъ у нихъ.
> Всѣ будутъ пѣть по ихъ погудкѣ,
> Плясать по ихъ всѣ будутъ дудкѣ,
> Весь свѣтъ подъ власть свою возмутъ;
> Вездѣ свои поставятъ троны,
> И всѣхъ подъ ноготь свой прижмутъ.
> [Н. О. 1800: 28]

Здаецца, публікацыя травестацыі М. Осіпава не сталася значнаю падзеяю тагачаснага літаратурнага працэсу. Мікалай Карамзін (1766–1826) у рэцэнзіі, змешчанай у часопісе «Московскій журналъ» (1792, май) даволі стрымана адгукнуўся на выхад першае часткі паэмы:

> я поздравил бы русскую литературу с хорошим, и весьма хорошим комическим произведением; но, к сожалению, много и слабого, растянутого, слишком низкого; много также нечистых или противных ушам стихов [Карамзин, online].

Пэўна, аднак, што «читателей, имеющих вкус», было не так шмат, дык паэма М. Осіпава карысталася папулярнасцю ў грамадстве, што дазволіла травестатару працягваць працу і выдаць у 1792–1796 гг. яшчэ тры часткі (у Вергілія і А. Блумаўэра – кнігі; у М. Осіпава – песні).

У першай палове 1790-х гг. *Виргиліева Энейда, вывороченная наизнанку* трапіла да І. Катлярэўскага і натхніла яго[1] на стварэнне ўкраінскае травестацыі. Дакладна вядома, што ўжо да кастрычніка 1794 г. была завершана ейная першая рэдакцыя (дзве часткі, якія адпавядаюць першай і трэцяй кананічнага ўкраінскага тэксту); яна мела наступны тытул: *Перецыганенная Енеида. Съ Рускаго Языка на Малороссійскій. 1794го Года, Октября 11-ть дня* [гл.: Дашкевичъ 1901: 40][2]. У першай частцы паэмы налічвалася 62 страфы-дэцымы[3], а завяршалася яна ўцёкамі Энея з Карфагену і самаспаленнем Дыдоны. Як бачым, І. Катлярэўскі не прытрымліваўся ўзораў: як у Вергілія, так і ў ягоных травестатараў аповед пра падарожжа Энея з Троі, а таксама побыт у Дыдоны апісваецца ў першых чатырох кнігах. А. Блумаўэру спатрэбілася на гэта 303 страфы, а М. Осіпаву – 383.

Другая частка твора ўкраінскага паэта (паводле рукапісу 1794 г.)[4] уключыла ў сябе 139 строфаў, у якіх ішла гаворка пра прыгоды Энея на Сіцыліі, а таксама пра ягонае падарожжа (разам з Сівілаю) у пекла і вяртанне назад, што адпавядала шостай кнізе Вергілія, А. Блумаўэра (167 строфаў) і М. Осіпава (249 строфаў). Завяршаўся рукапіс красамоўным словам «Конецъ». Гэта, відавочна, азначала, што паэт-травестатар лічыў сваю працу закончанаю і не планаваў працягваць паэму. Цікава адзначыць, што наступная частка ўкраінскае *Энеіды* з'явіцца толькі праз пятнаццаць гадоў[5].

Можна звярнуць увагу і на тое, што І. Катлярэўскі хіба не лічыў патрэбным у сярэдзіне 1790-х гг. друкаваць свой твор, пра што могуць сведчыць нецэнзурныя словы, якія раз-пораз ён ужываў. Рукапіс 1794 г. сведчыць таксама і пра тое, што на першым этапе травеставання *Энеіды* Вергілія паэт не меў яшчэ мэты стварыць эпапею ўкраінскага казацтва, якое воляю лёсу, пасля ліквідацыі Кацярынаю II у 1775 г. Запарожскае Сечы, вымушанае было бадзяцца ў пошуках хлеба і волі, шукаць пратэкцыі турэцкага султана (Задунайская Сеч).

Расейскія і ўкраінскія літаратуразнаўцы і гісторыкі хіба ніколі не задумваліся пра мову, з якое І. Катлярэўскі "перацыганіў" сваю *Энеіду*. «*Съ Рускаго Языка*» – гэта, паводле іхнага меркавання, з «русского языка», г. зн., расейскае мовы. Але, здаецца, тут не ўсё так проста. Рэч у тым, што ў XVIII ст. значна часцей ужывалася словазлучэнне «россиийскій языкъ», чым «русскій языкъ». Паводле назіранняў Марыі Мазур, толькі ў XIX ст. «*русский* "возьмет верх" над *российским*, а в XX в. уже повсеместно будет

[1] Так сцвярджае большасць сучасных літаратуразнаўцаў.

[2] Гаворка пра г. зв. Балхавіцінскі спіс *Энеіды* І. Катлярэўскага, выяўлены М. Дашкевічам. Апублікаваны М. Маркоўскім у 1927 г. [гл.: Марковський 1927: 110–182].

[3] У трох строфах першае часткі і ў трох строфах другое адсутнічае па радку, што пазначана ў рукапісе («стихъ пропущенъ» альбо «нѣтъ стиха»).

[4] У пазнейшых выданнях і рукапісах паэмы гэтая частка будзе адпавядаць трэцяй частцы твора І. Катлярэўскага.

[5] Праўда, яшчэ да 1798 г. (часу выхаду ў свет выдання Максіма Парпуры, 1763–1828) напісана яшчэ адна частка – другая, якая па зместу адпавядае пятай кнізе Вергілія, А. Блумаўэра і М. Осіпава.

употребляться именование *русский*» [Мазур, online]. А вось у XVIII ст. большасць пісьменнікаў і філолагаў выкарыстоўвалі азначэнне «россійскій». Сярод іх – Васіль Традзьякоўскі (1703–1768), Міхайла Ламаносаў (1711–1765), Кацярына II (1729–1796), аўтар папулярнага падручніка *Краткія правила россійской грамматики* Антон Барсаў (1739–1791), Дзяніс Фанвізін (1745–1792), Гаўрыла Дзяржавін (1743–1816) і інш.[1]. Даследніца падае, што 46% тагачасных аўтараў ужывала тэрмін «россійскій», 27% – «россійскій» ды «русскій» і толькі 27% – «русскій» [Мазур, online].

Праўда, назіралася тэндэнцыя ўжываць «определение *русский*, если речь шла о пословицах, сказках, песнях и даже словесности» [Мазур, online]. Улічваючы грубаваты мяшчанскі гумар паэмы М. Осіпава, можна дапусціць, што менавіта з гэтай прычыны «языкъ» твора названы не «россійскимъ», а «рускимъ». Аднак чаму ў такім выпадку ўкраінская мова падаецца тут як «Языкъ Малороссійскій»? Чаму не «Языкъ Малорусскій»? Повязь з народнай стыхіяй у І. Катлярэўскага нашмат большая, чым у М. Осіпава. Дык, можа, варта нам тут прыгадаць, што цягам стагоддзяў «языкомъ руськимъ» (з адным "с", як і ў рукапісе 1794 г.) называлася беларуская мова?

Наступныя нашыя дапушчэнні ў гэтым кірунку блакуюцца, з аднаго боку, – адсутнасцю як друкаванага, так і рукапіснага беларускамоўнага асобніка *Энеіды* 1780-х – пачатку 1790-х гг., а з другога, – наяўнасцю выдання *Виргиліева Энейда, вывороченная наизнанку* (1791).

Больш за тое, пакуль не знойдзецца пацвярджэння словам Рамуальда Падбярэскага, што беларуская *Энеіда* „napisana przed 50 laty" [Podbereski 1844: XII], гаворка пра "перацыганеную" *«съ Рускаго Языка»* паэму І. Катлярэўскага з'яўляецца беспрадметнаю.

Перш-наперш належыць высветліць, як у XVIII ст. вывучалася і даследавалася *Энеіда* Вергілія на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, ад Вільні і Гародні да Смаленска; ці перакладалі тутэйшыя адукаваныя людзі знаныя творы рымскага паэта; урэшце, ці ведалі ліцвіны-беларусы пра еўрапейскія травестацыі, ці спрабавалі самі тварыць падобнае? Нашыя пошукі павінны ахапіць не толькі расейскамоўны друк Імперыі[2], але перш-наперш польскамоўную перыёдыку: і не толькі віленскую, але і варшаўскую ды львоўска-кракаўскую.

Як, увогуле, адукаванае ліцвінска-беларускае грамадства паставілася да пародый-травестацый на класічныя творы еўрапейскае літаратуры? Прынамсі, у Вільні павінны былі ведаць і пра еўрапейскія, пра ўсходнеславянскія пераробкі Вергілія. На жаль, пакуль не выяўлена водгукаў на выхад у свет твораў М. Осіпава і І. Катлярэўскага ў тагачасных польскіх выданнях. Не было іх, прынамсі, – негатыўных, і тады, калі з'явіліся ў дру-

[1] У той жа час Васіль Тацішчаў (1686–1750), Аляксандар Сумарокаў (1717–1777) і Мікалай Карамзін паслядоўна выкарыстоўвалі азначэнне «русскій».

[2] Як вядома, расейскія зацікаўленні беларускамоўнымі тэкстамі (літаратураю) датуюцца другою (?) паловаю 1830-х гг. і інспіраваныя славяназнаўчымі даследаваннямі Паўла Шафарыка і Восіпа Бадзянскага.

ку фрагменты травестацыі Фердынанда Хатомскага (1797–1880), рэдактара газеты „Tygodnik polski i zagraniczny”:

Zucha i szablę śpiewam, co losy wiecznemi,
Z pustek Troi, do Włoskiej przywędrował ziemi.
Wiele biédak ucierpiał na lądzie i wodzie,
Nie raz cwałował pieszo i nieraz o głodzie:
Lecz najwięcej mu szkodził gniew Księżny Junony,
Burczymuchy Jowisza siostrzyczki i żony;
Kiedy czubił swych wrogów, Watykan zakładał,
Kiedy Bogom domowym ziemię cudzo nadał.
Odtąd data Latronów i Pajaców imię,
I twoje kamienice murowany Rzymie!
[Chotomcki 1818: 289–290]

Зрэшты, польскі паэт абраў іншы, адрозны ад папярэднікаў, стыль травестацыі. Вось як Юнона просіць Эола загубіць траянцаў:

Juno do jego z gniewem przyskoczyła progów,
I rzekła: „Pan masz urząd z łaski ojca Bogów,
A szczególnie jest na to pono ci oddany!
Abyś jak karty szuler przewracał bałwany.
Eneasz teraz z swemi manatkami płynie,
Z pustek Troi, ku slawnéj sałatą krainie;
Wypuść wiatry źe smyczy, niech mocą szaloną,
W przepaściach morza flotę urwiszów pochłoną.
Mam czternaście Panienek słynących urodą,
Z tych dam ci Dejopeję rozkoszną i młodą,
*Nota Bene* za żonę ... a ona ci za to,
Uszyje Szlafrok modny z atłasu na lato,
I twe łoże Eolu, w twym domku wygodnym,
Wkrótce po ślubie, uczci synaczkiem dorodnym”.
[Chotomcki 1818: 292–293]

Ф. Хатомскі, можна сказаць, адно перакладае-пераказвае твор Вергілія, далучаючы нязлосныя “шкалярскія” жарты:

„Ty który jak gracz tęgi w Faraonie karty
Rządzisz niebo i ziemię i bogi, i czarty,
Cóż ci biedny Eneasz w całym życiu spłatał?
Żeś mu skórę tak tęgo dziś rano wyłatał.
On jak może się biedak z tylu nieszczęść grzebie,
A ty mu grosza nie dasz w naglącej potrzebie.
Nędzy jego Trytony są naoczne świadki,
Słuchaj kochany Papo, słuchaj głosu matki!
A wszakże obiecałeś, że grzeczni Rzymianie,
W każdym kącie rozszerzą swoje panowanie.
Cóż mogło nagle rzeczy porządek przewrócić,
Ledwom trochę po Troi, przestała się smucić,
W nadziei że Trojanom za liczne zasługi

Przebaczysz uchybienia i darujesz długi;
Nic ztego, zawsze suszysz nad tem tylko głowę,
Abyś Trojanom płatać mógł psikusy nowe?
[Chotomcki 1818: 299]

Цікавы ў справе стаўлення чытацкае грамадскасці да травестацый водгук, напісаны 20 жніўня 1819 г., віленчука К.[1] на рэцэнзію перакладу *Іліяды* Станіслава Сташыца (1755–1826):

> Czytam i odczytuję z uwagą i pojęć nie mogłem dlaczego WPan, z taką zaciętością oburzasz się na śmieszności tej *Iljady*. Dopiero po długiem zastanowieniu doszedłem, iż mniemałeś że ta *Iljada* jest tłumaczeniem, a nie trawestowaniem czyli jak Francuzi zowią parodją, o czem i ja i wszyscy moi znajomi byli przekonani. Chodzę od jednego do drugiego Uczonego. Czytam im recenzją WPana, wszyscy razem zemną, dziwią się iż Redaktor „Tygodnika Warszawskiego", nie zrozumiał, że Staszyca *Iljada* jest prostą parodją. Postanowiłem zatem i WPana samego i Prenumerujących „Tygodnik" jego przekonać iż *Iljada* wyżej wzmiankowana jest istotnie parodją [K. 1819: 285].

К. сцвярджае, што пародыя – гэта „ wydanie poważnej rzeczy śmiesznie". І задаецца пытаннем: ці ж выкарыстанне самых дзікіх выразаў[2] з усіх славянскіх моў („najdziksze słowa ze wszystkich słowiańskich języków") не перамяняе самага паважнага твора ў смешны? А далей даводзіць, што ў пародыі „znajdujemy wyrazy najgminniejsze, któreby nigdy nie mogły mieć miejsca w poecie żartobliwym, a dopieroż w bohatyrskim" [K. 1819: 292]. ]. І ў якасці прыкладу называе пародыю А. Блумаўэра ды цытуе з яе ў перакладзе[3] трыццаць дзве страфы:

Gdy w zamku pieczeń na rożnie,
Kuchcik już kręcić zaczyna,
Wenus myśli jak ostrożnie
Ująć Dydonę dla syna.
Spuszczać się w tém na Eneja,
Zdawała jej się daremna nadzieja.

Kupidynka zatém woła,
„Pójdź syneczku ulubiony!
Przychodzi mi myśl wesoła!
Poleć prędko do Dydony!
Juliś brat twój jest niezgrabny,
I parafijankom nie byłby powabny.

[1] Крыптанімам К. [гл.: Jankowski 1995, II: 241] карыстаўся ў той час Казімір Контрым (1772?–1836), адзін з заснавальнікаў таварыства шубраўцаў, бібліятэкар Віленскага ўніверсітэта, выдавец і рэдактар „Dziennika Wileńskiego" і „Wiadomości Brukowych".

[2] Дзікія выразы патрэбны перакладніку, сцвярджае К., каб паказаўшы іх смешнасць, адстрашыць ад падобнага ўжывання іншых паэтаў ды навучыць добраму густу [гл.: K. 1819: 295].

[3] Аўтара перакладу К. не называе і не зазначае нават, што фрагменты паэмы друкуюцца ў перакладзе.

W suknie Julka się ustroisz,
Dary podając Dydonie,
Pieszczotami ją napoisz.
A usiadłszy na jej łonie,
Uściskami ją okryjesz,
I potém zręcznie tą strzałką przebijesz.

Lecz by tej całej przemiany
Juliś jako niezmiarkował,
Dasz mu opjum cztery grany,
W cukrze będzie mu smakował.
O ten komis sambyś prosił,
Pierwszy raz w życiu będziesz boty nosił”.

Słodki rozkaz dla Amorka!
Serca ma chwytać w sidełka.
Więc przylepia swoje piórka,
Bierze strzałkę i skrzydełka,
Buciki i Majtki Jula,
l do Kartagi leci jakby kula.

Wbiega do Sali gdzie wkoło
Wszyscy do Stołu już siedli,
I bawili się wesoło;
Ale nadewszystko jedli.
Ah jak jedli! ah jak pili,
Jak gdyby posty dopiero skończyli.

O godne zazdrości losy!
W prędko wróconych sztafetach
Przybyły z Paryża sosy,
A nawet, karły w pasztetach,
Z Ameryki ptastwa skrzynia,
Lody z Laponji, a mięso z Wołynia.

Leżał cały wół pieczony,
Z potraw Enejowi lubych
Były włoskie salcesony.
Szparagów jak ręka grubych,
Każdy ile chce to bierze,
l ostrzyg wielkich, wielkich jak talerze.

Ananasy w koszach stały,
Trufli nikt sobie nie skąpił,
Wreście był tort okazały,
Z którym sam kuchmistrz wystąpił,
Wystawia spalenie Troi,
Enej maślany w samej górze stoi.

A winko! jeszcze mi ślina
Idzie, gdy sobie przypomnę.
Tokajskiego nawet wina
Widziano butle ogromne.
A jedynie rzadsze pili;
Prostym francuzkim ręce tylko myli.

Daj go katu! już o mało
O winie nie zapomniałem,
Co się najtężej ściągało.
Szampana, z takim zapałem
Wszyscy spijali Szampana,
Że ledwie brodę wilżyła im piana.

W tym wszedł Julek. Gdy Królowa
Piękne dziecię zobaczyła,
Wdzięczne układając słowa,
Na kolana je wsadziła.
„Jakiś ładny: Życie moje
Oh jabym zjadła piękne oczki twoje”.

Dość chłopczyka nacałować,
Nie może się Kartaginka.
Lecz będzie tego żałować,
Co czyni dla Kupidynka.
Gdy raz pierwszy go całuje,
Nieboszczyk na krok z serca ustępuje.

Widzi w Eneju powaby,
Za drugim uściskiem dziecka,
Za trzecim przestać chciałaby.
Ale już miłość zdradziecka,
Za czwartym, piątym i dalej,
Serce jej czułe, żywym ogniem pali.

Nawet nie patrzy gdy luby
Chłopczyk znosił jej ofiary,
Starą robronę Hekuby,
I Heleny czypek stary,
Tak podarty i dziurawy
Jako chorągiew wzięta w polu sławy.

Gdy się najedli i spili,
Że już oddychali ledwie,
Puhar potężny po chwili,
Królowa w ręce obiedwie
Podniósłszy, wina naliwa,
I w te się słowa do gości odzywa:

„Zdrowie Króla Eneasza,
I Najjaśniejszej rodziny,
Oby mu kraina nasza,
Dała i zonę i syny!”
Trąby i kotły zagrzmiały,
A Dydo duszkiem spełnia puhar cały.

Wreście i uczta ustaje,
Jak wszystko na świecie bywa,
Każdy gębę obtarł, wstaje,
I ręce wodą umywa.
Eneasz w talją kart nową,
Poszedł Marjasza po groszu z Królową.

Wieczorem trajedją dano.
    Otello uwijał się żwawo,
A gdy kogo zabijano,
    Dworzanie sypali brawo.
Aktor powinność znający,
Wciąż się zabijał, chcący czy nie chcący.

Oświecono miasto gazem,
    I potem na wielkiej Sali,
Za monarchini rozkazem.
    Grzmiały skrzypki, i hasali,
Kadryle, walce, drabanty,
Wreście zmęczeni zaczęli grać w fanty.

Dido tylko smutna wzdycha,
    W Eneaszu widzi Bóstwo;
To do niego się uśmiecha,
    To zadaje pytań mnóstwo.
„O Achilu mów mi luby,
Jaki miał oszczep, czy długi, czy gruby”.

Nudzi się Enej, lecz gada
    Co mu rozkaże Królowa,
A wtem fant jego wypada,
    Usłyszał wkrótce te słowa:
„Czyj to fant Panowie moi!
Ten nam opowie pogorzelę Troi”.

Na krześle adamaszkowém,
    Rozparł się Enej i ziewał;
„Czy chcesz rozkazem takowym
    Infantko! bym łzy wylewał”.
Każdy swe uszy natęża,
Dido oczyma ledwo nie zje męża.

Cóż miał robić? głos kochanki
    Każe mu spędzać sen miły;
Zażył dwa razy hiszpanki,
    A kichnąwszy co miał siły,
Nos uciera, każdy słucha,
On gębę roztwarł od ucha do ucha.

[гл.: K. 1819: 286–291]

У тлумачэнні С. Сташыца К. бачыць тыя самыя прыёмы, якія выкарыстоўваў у сваёй травестацыі А. Блумаўэр:

> Naprzykład użyte w ostatniej strofie wyrażenie *uszy natęża* (po niemiecku *Spitzt das Ohr*) nie jestże równie gminne jak wyrażenie w parodji *Iljady* np. *słuch sturży*, *głowa mu wyłazi*, *wara*, i tym podobne, które WPan w *Recenzji* swojej poprzytaczałeś. Nad to tu przemienione są miejsca, charakter osób i okoliczności, tak jak i w parodji *Iljady*. Albowiem w *Iljadzie* P. Staszica widziemy Greckich Hetmanów, Wojewodów, i Hospodarów i Bojarów. Bohatyrowie jeżdżą w *kolasach*, ciągnionych przez *skakuny* i *rysaki*, i okrywają się

żydowskim *botuchem* (obacz 124 stronnicę „Tygodnika" z b. Kwartału). Grecy i Trojanie przezywają się po włosku, jako to *Menelao*, *Antylo*, i t. p. Jowisz przenosi z Olimpu siedlisko swoje na Tatry, jak to widziemy z wierszów na karcie 121 „Tygodnika" przytoczonych:

Kiedy tak na najwyższym Krępaku gór świata,
Miłością zniewolony spoczął wszego Twórca.

[K. 1819: 292]

На думку К., у пародыі *Іліяды* „słów obelżywych, jakiemi częstują się w niej bohaterowie Greccy", значна больш, чым у *Энеідзе* А. Блумаўэра. І, падаўшы шэраг словаўжыванняў з перакладу С. Сташыца, дзеля параўнання цытуе з неапублікаванага тлумачэння *Энеіды* А. Блумаўэра фінальную сцэну чацвёртае кнігі:

Ale miłość ma sto oczu,
Szpieg doniósł Pani że w statki
Dardańczyki na uboczu,
Już pakują swe manatki.
Domyśla się co to znaczy,
Więc rozczochrała swe włosy w rozpaczy.

I kiedy Enej cichaczem
Za kij i kapelusz bierze,
Z przeraźliwym wrzaskiem, płaczem
Wpada na niego w cholerze.
Sklnił się wzrok, zęby zgrzytały,
I jak grad jaki te słowa leciały:

„Sercu najczulszej z kochanek,
Śmiesz niewdzięczny rany zadać.
Na oko tkliwyś baranek,
Chcesz jako złodziej się skradać,
Chcesz mnie porzucić i zgubić,
Potem przed inną z mojej biedy chlubić.

Mnież spotyka hańba taka!
Mnie, com cię kochała czule!
I przyjąwszy jak żebraka,
Uszyłam tobie koszule!
Kochałeś mnie człeku dziki,
A dziś zostawiasz na ludzkie języki?

Strułeś życia mego chwile,
Reputacji mnieś pozbawił,
Lecz przynajmniej za zdrad tyle,
Bodajbyś był mi zostawił
Zniszczywszy mej wiosny różę,
Twój na pamiątkę obraz w miniaturze.

Ale zaledwie poznała,
Że daremnie płacze, krzyczy,
A on nie czuły jak skała,
Szybki tylko w oknach liczy.

Wpadła więc na niego z góry,
Takiej na drogę użyczając bury:

„Przybyszu z obcego kraju,
Zbrodniarzu, łotrze, wygnańcze!
Pięknyś mi rycerz! hułtaju,
Z szubienicy oberwańcze!
Przybliż się języku smoczy,
Przybliż, zaraz wydrapię ci oczy.

Tego mi żal żem łajdaka
Takiego w dom przyjmowała,
Tobie pewnie praczka jaka,
Nie Bogini, życie dała.
Przecz mi z oczu…" i t. d.
[K. 1819: 293–295]

Мы невыпадкова працытавалі ўсе вершаваныя радкі якія падаў К. у сваёй нататцы. На нашую думку, ужо ў той час існаваў пераклад паэмы аўстрыйскага літаратара. Паэтаў у Вільні не бракавала[1]. Ды і немагчыма ўявіць, што дзеля спрэчкі з рэцэнзентам (відаць, рэдактарам газеты Ф. Хатомскім) аўтар віленскае нататкі адмыслова пераклаў[2] адно заключныя партыі першае і чацвёртае кнігаў *Virgils Aeneis travestiert*.

Пераклад вызначаецца дасканаласцю. Паэт дзеля перадачы септымы А. Блумаўэра выкарыстоўвае секстыну з рыфмоўкаю ABABCC[3]. У першых пяці вершаваных радках ён ужывае васьміскладовік, а ў апошнім – адзіннаццаціскладовік. Аднак частае выкарыстанне цэзуры прыводзіць да збліжэння верша з сілаба-тонікай – чатырохстопным харэем. І гэта, магчыма, паказвае на знаёмства перакладніка з расейскаю паэзіяй. Дык, нельга выключаць, што перакладнік твора аўстрыйскага паэта мог быць адначасна і аўтарам беларускае *Энеіды*. Увогуле, чаму мы не ўключаем літаратурны Парнас Віленскага ўніверсітэта ў лік патэнцыйных колаў, дзе мог нарадзіцца беларускамоўны твор? Выяўлены пераклад фрагментаў *Virgils Aeneis travestiert* на польскую мову можа быць аргументам на карысць гіпотэзы пра віленскі радавод славутае паэмы.

Прысутнасць у віленскай літаратурнай прасторы польскамоўнае версіі паэмы А. Блумаўэра ў 1810-х гг. можа быць сведчаннем, што падобныя тэксты карысталіся папулярнасцю, што паралельна магла ўзнікнуць беларускамоўная травестацыя, заснаваная як на аўстрыйскім узоры, так і на ўкраінскім. А стымулам маглі быць два новыя выданні паэмы І. Катля-

[1] У віленскіх перыядычных выданнях друкаваліся ў той час як прызнаныя паэты і перакладнікі [напрыклад, Раймунд Корсак (1768–1817), Антоні Гарэцкі (1787–1861), Леан Рагальскі (1806–1878)], так і зусім невядомыя, імёны якіх адно зрэдчас з'яўляліся на старонках газет і часопісаў (Патрыцы Парэмбскі, Маўрыцы Бучынскі, Генрык Бесякерскі, Эдвард Махвіц і інш.).

[2] У даступных крыніцах мы не знайшлі інфармацыі, ці К. Контрым спрабаваў свае сілы ў паэзіі.

[3] Заўважым: секстына перакладніка – гэта першыя шэсць радкоў адычнае страфы.

рэўскага ў 1808 і 1809 гг. Згадаем, менавіта на сярэдзіне 1810-х гг. як часе напісання беларускае *Энеіды* настойваў Міхась Лазарук, аўтар надзвычай цікавае інтэрпрэтацыі паэмы [Лазарук 1969: 54–57].

Віленскі пераклад паэмы А. Блумаўэра свету, аднак, не ўбачыў. Але папулярнасць твора аўстрыйскае літаратуры няраз натхняла польскіх паэтаў даць магчымасць свайму чытачу пазнаёміцца з ім. Ёсць інфармацыя, што ў рукапісе колісь захоўвалася тлумачэнне *Энеіды* А. Блумаўэра, якое выканаў Ф. Хатомскі [Estreicher 1870: 206]. Нарэшце ў 1834 г. у аўстра-венгерскім Кракаве быў апублікаваны поўны пераклад паэмы, здзейснены S. B. (Крыптанім не расшыфраваны [гл.: Jankowski 1996, III: 96–98]). Тэкст перакладніка эквілінеарны, з захаваннем строфікі арыгінала, дакладны; часам толькі замест аўстрыйскіх з'яўляліся ў ім польскія рэаліі. Вось як, напрыклад, апісваюцца стравы на банкеце ў Дыдоны:

Staje z darami aż na środku sali.
    Gdzie siedział Enej z Królową
I jak wilki zajadali,
    Pieczeń huzarską, wołową. –
Tóżto był obiad!! od początku świata
U żadnego we Lwowie niebyło Prałata,
                    Takiéj wspaniałéj biesiady.

Jarzynę z Włochów przywiozły sztaffety,
    Z Paryża ciasta i sosy,
Tudzież z karłami pasztety;
    Z Polski z kapustą bigosy,
Sztufady były z Ukraińskich Wołów,
A lody w puszkach dawano do stołów,
                    Sprowadzone aż z Kamczatki,

Z Komarna były karpie i szczupaki,
    Tudzież pstrągi niezmierzone,
Od Szumana karmne raki,
    Wodza jadło ulubione.
Wół zdobił serwis – a jeśli nie kłamie
Szparagi grubsze ot, nad moje ramię,
                    A ostrygi jak półmiski.
                        [Blumauer 1834: 18]

Мы не ведаем, якою была чытацкая рэцэпцыя гэтага перакладу ў Польшчы – у Кракаве і Варшаве, а вось на беларускіх землях у 1830-я гг. яна была хіба негатыўнаю. Маем на ўвазе асноўны пасыл рэцэнзіі кракаўскага выдання *Энеіды*, якая з'явілася ў віленскім часопісе „Wizerunki i roztrząsania naukowe"[1]. Нехта з аўтараў[2] выдання, якое рэдагаваў Ігнацы

[1] Публікацыю выявіў Г. Кісялёў [Кісялёў 2005: 16].

[2] Сярод аўтараў „Wizerunków..." было ажно васямнаццаць даўніх прафесараў Віленскага ўніверсітэта, восем навукоўцаў, не звязаных з універсітэтам, а таксама дзевятнаццаць літаратараў, у асноўным – выпускнікоў універсітэта [Binkowska 2015: 89]. Выданне ставіла сваёю задачаю служыць ідэі маральнага ўдасканалення грамадства.

Шыдлоўскі (1793–1846), у шостым томіку за 1835 г. надзвычай крытычна ацаніў польскае тлумачэнне паэмы А. Блумаўэра. Спачатку аўтар рэцэнзіі катэгарычна адмаўляе травестацыі права на існаванне:

> Każda parodya czy też karykatura, w nadobnych sztukach jest tem, czem śmieszek i błazen w dobrem towarzystwie, czem pajaco w wystawieniach sztuk gimnastycznych; którzy, jeżeli z granic przystojności nie wychodzą, dla rozweselającego pustactwa bywają cierpiani: w przeciwnym zaś razie błazna wyłączają z towarzystwa ludzi rozsądnych, bacznych i zacnych, a pajaco bywa wygwizdany lub też przykładniej skarcony przez obrażoną publiczność [Anonim 1835b: 140].

І не раіць чытачам нават знаёміцца з такімі карыкатурамі, бо

> nie znajdujemy tu bowiem ucieszne jkarykatury *Eneidy*, któraby przestrajając sceny poważne wiersza bohatyrskiego, przypomnieniem ich rozweselała czytelnika, w sposób przystojny, a godny ukształconego, prawego i cnotliwego człowieka, lecz oburzające pasmo plugawych, wszetecznych i uwłaczających przystojności, wstydowi wraz z dobremi obyczajami opisów [Anonim 1835b: 140].

Ён лічыць, што S. B. выкарыстоўвае мову і стыль вёскі[1] і цытатамі з Гарацыя (*migrat in obscuras humuli sermone tabernas*[2] і *crepat immunda ignominiosaque dicta*[3]) даводзіць: у літаратурным творы рабіць гэта нельга! А пасля пацвярджае сваю думку, падаючы „z przeproszeniem czytelnika, najmniej obrażających kilka miejsc”. Пераклад для рэцэнзента – гэта бессаромны і бязвартасны тэкст „ z pięciu przeszło tysięcy wierszy”, на які аўтар адно марна траціў свой час і працу.

Але не толькі абаронцам добрага густу і правілаў мастацтва выступае тут рэцэнзент. Хіба ў першую чаргу яго непакояць інвектывы ў бок Ватыкану, ці то рымска-каталіцкага касцёла:

> dążeniem jego jest wydanie na szyderstwo i lekceważenie S. Stolicy Apostolskiej oraz Katolicyzmu Rzymskiego. Zasmucająca to rzecz dzisiaj, odnowienie tego, acz niedołężnego, targnienia się, na święte i światowe podwaliny społeczności ludzkiej, które w Austryi, za Józefa II ledwo niejedynym było nieograniczonej wolności druku, owocem! dzisiaj mówię, kiedy, przy tak rozszerzonych zabiegach o rzeczy doczesnego interesu i korzyści osobiste z obojętnością względem reszty; Religii! Religii! co najcelniejsze, zagrzewane cnotą geniusze wzywają; jej upatrują, na przestworze oschłego społeczności poziomu, jak znużony, wśrzód spiekłych pustyń piasczystych, wędrowiec ożywnego ponika. Prawda, że w podobnie arlekińską sukienkę, jak P. Blumauer tak i tłumacz jego, przystrojeni pisarze, nie ujmą bynajmniej czcigodnej powagi

[1] Цікава адзначыць, што шмат якія даследнікі лічаць І. Шыдлоўскага аўтарам артыкула *Obrzędy weselne ludu wiejskiego w guberni mińskiej, w powiecie borysowskim, w parafii hajeńskiej, obserwowane w latach 1800, 1-wszym i 2-gim, z niektórymi piosnkami i ich zwyczajną nutą*, апублікаваным у газеце „Tygodnik Wileński” (1819, t. 7, nr 130, s. 1–18; nr 132, s. 81–104).

[2] “Уцякае ў цёмныя хаты з іхнай моваю хамскай”.

[3] “Пырскае брыдкімі і непрыстойнымі словамі”.

> dostojnej Hierarchii Kościelnej, ani do steku plugastwa nie pociągną za sobą wielu miłośników; wszelakoż rzucane w oczy ludziom błoto choć z tak nikczemnego stanowiska oburza zawsze. Są to bluzgania błahego Tersyta[1] uwłaczającego wyborowi bohaterów, szkoda tylko, że nie masz, ktoby mu, jak niegdyś greckiemu garbusiowi pod Troją, kijem boki obłożył [Anonim 1835b: 144–145].

У сярэдзіне 1830-х гг. часопіс „Wizerunki i roztrząsania naukowe” быў адзіным і даволі ўплывовым выданнем на Літве-Беларусі. Дык ці не паўплывала грамадская думка, сфармаваная (трэба думаць!) гэтым друкаваным органам, на лёс беларускае *Энеіды*? Прынамсі, уздым цікавасці (як сведчыў Максімільян Маркс) да твора напачатку 1830-х гг. у Віцебску мог быць паважна стлумлены рэцэнзіяй перакладу паэмы А. Блумаўэра. А г. зн. каталіцкая частка грамадства магла страціць цікавасць да колісь папулярнае, але цяпер “немаральнае”, што “пырскае” “брыдкімі і непрыстойнымі словамі” паэмы.

Можа, з гэтае прычыны беларуская *Энеіда* апынулася ў сферы прыцягнення адно Смаленска, Масквы і Пецярбурга?

---

[1] Персанаж старажытнагрэцкае міфалогіі, удзельнік Траянскай вайны, брыдкаслоў; за абразу забіты пад Трояю Ахілам.

# Беларуская і іншыя травестацыі *Энеіды*

Ужо першыя перапісвальнікі беларускае *Энеіды* звярнулі ўвагу на ейнае падабенства да расейскае і ўкраінскае травестацый славутага твора Вергілія. В. Бадзянскі[1] падкрэсліў гэта тым, што назваў фрагмент паэмы, перапісаны ім ад аднаго з братоў Мыслоўскіх (ці з папераў братоў Мыслоўскіх), на ўзор тытулу *Энейды* М. Осіпава – *Отривокъ изъ 1ой пѣсни ЭНЕИДЫ вывороченной на изнанку на Бѣлорусскій языкъ, Гномъ Мысловскимъ*. Крыху пазней, ствараючы копію паэмы для П. Шафарыка, ён паставіў беларускую *Энеіду* ў "залежнасць" як ад расейскае[2], так і ўкраінскае – *Отрывокъ изъ 1ой пѣсни ЭНЕИДЫ, вывороченной наизнанку на Бѣлорусскій языкъ, по образцу Малороссійской Котляревскаго, Гмъ Мысловскимъ*.

Следам за расейскім славістам тое самае паўтарыў і славацкі: "nejmenowaný pokusil se o přeodéní Wirgiliowy *Aeneidy*, na wzor maloruskié (w rukopisu)" [Šafařík 1842: 33]. У Р. Падбярэскага, хоць нібыта і няма гаворкі пра залежнасць паэмы ад іншых травестацый, але беларуская *Энеіда* спачатку "атрымала" тытул на ўзор расейскае, а пасля пастаўленая ў храналагічны шэраг, які пачынаўся аўстрыйскаю:

> W swojéj *Enejdzie na iznanku*[3], parodji w takim rodzaju jak trawestowana na niemiecki p. Blumauer'a, na małorossyjski p. Kotlarowskiego, na polski w części p. Chomętowskiego[4], – pod postaciami bohaterów rzeczywistéj *Eneidy*, maluje byt bogatych chłopów białoruskich; odjąwszy brak miejscowości, jest to czysto-narodowe białoruskie poema, z ducha i formy [Podbereski 1844: XI].

А вось Л. Кавелін, пэўна, абапіраючыся на падказкі К. Мыслоўскага ды ўласны нацыянальны светапогляд, у тытуле, прынамсі, не акцэнтуе ўвагі на ўкраінскім складніку травестацыі беларускага твора – *Отрывокъ изъ ЭНЕИДЫ НА ИЗНАНКУ на Бѣлорусскомъ крестьянскомъ нарѣчіи*.

Зусім інакш на справу наследавання-запазычвання глядзеў(лі) складальнік(і) манускрыпта[5], які пэўны час захоўваўся ў доме Равінскіх. Ён, пэўна, называўся *ЕНЕИДА, съ Малороссійскаго на Смоленскій крестьянскій*

---

[1] Мы лічым, што першы вядомы рукапіс беларускае *Энеіды* пісаны – вельмі верагодна – рукою В. Бадзянскага. Гл. ніжэй.

[2] У тым сэнсе, што і ўкраінская нарадзілася «по образцу» расейскае.

[3] Р. Падбярэскі ў гэтым жа самым артыкуле дасць яшчэ і іншы варыянт назвы беларускае пародыі – *Enejda na wywrót (nicowana)*.

[4] Фердынанда Хатомскага.

[5] Манускрыптам мы называем рукапіс, на падставе якога паўсталі дзве публікацыі твора (П. Шастакова ў 1853 г. і К. Равінскага ў 1890 г.), а таксама два даступныя сёння рукапісы (Б. Залескага ў 1851 г. і І. Сразнеўскага ў 1850-я гг.).

*языкъ переложенная*. Прынамсі, усе чатыры копіі[1] гэтага манускрыпта будуць мець прыкладна аднолькавы тытул, у якім ці не цалкам ігнараваўся расейскі складнік травестацыі, але моцна падкрэсліваўся ўкраінскі[2]. Праўда, уласнаўкраінскае “перелиціованне” (як і беларускае “пераліцаванне” ці “пераніцаванне”[3]), што пазначалася ў выданнях М. Парпуры, тут заменена на расейскае «переложеніе» паводле хіба трэцяе, аўтарскае публікацыі твора І. Катлярэўскага.

Пра наследаванне сюжэта і зместу («построена по ея образцу») у першую чаргу «малорусской *Енеиды* Котляревскаго» гаворыць заснавальнік беларускага мовазнаўства, хоць і зазначае, што беларуская «примѣрно въ такомъ же отношеніи къ *Енеидѣ* Котляревскаго, какъ эта послѣдняя къ шутливой *Енеидѣ* Осипова» [Карскій 1808: 12]. Тым самым выбудоўваючы іерархію ўсходнеславянскага старшынства – расеец, маларус, беларус. Пэўна, з гэтай прычыны Я. Карскі, даючы назву паэме *Бѣлорусская Энеида на изнанку*, арыентаваўся на расейскі ўзор[4], а не ўкраінскі, забываючыся, што і больш «исправный списокъ», і твор увогуле мае якраз больш «сходства» з *Виргиліевой Энеидой на малороссійскій языкъ преложенной И. Котляревскимъ*, чым з *Виргиліевой Энейдой, вывороченной на изнанку Н. О.* А гэта вырашыла пытанне беларускамоўнага тытула паэмы ў XX ст.[5].

Я. Карскі быў хіба адзіны, хто паспрабаваў параўнаць змест украінскае і беларускае паэмаў, каб выявіць агульнае і ступень самастойнасці беларускае *Энеіды*[6]. Ён супаставіў асобныя «примѣры болѣе сходныхъ выраженій»:

---

[1] Я. Карскі ведаў два з іх: рукапіс Б. Залескага ды публікацыю К. Равінскага і адносіў іх да г. зв. «смоленской редакціи».

[2] Пра залежнасць беларускае *Энеіды* ад ўкраінскае, відавочную “нават ў загалоўках ранніх спісаў”, казаў Павел Ахрыменка [Ахрыменка 1973: 52].

[3] «ПЕРЕЛИЦОВА́ННЕ, *-я*, с. ср. Переворачиваніе на другую сторону, говорится объ одежѣ. *Перелицованне шапки, каптура*»; «ПЕРЕНИЦОВА́ННЕ, *-я*, с. ср. Переворачиваніе на изнанку. *Переницованне свитки*» [гл.: Насовіч 1983: 405; 406].

[4] Вядома, паўплывалі і рукапісы з архіву В. Бадзянскага, а таксама публікацыя паэмы ў часопісе «Маякъ» пад тытулам *Отрывокъ изъ ЭНЕИДЫ НА ИЗНАНКУ на Бѣлорусскомъ крестьянскомъ нарѣчіи*.

[5] Беларускія адраджэнцы пачатку XX ст., выкарыстоўваючы другую частку папулярнае расейскае фраземы «шиворот-навыворот» і зрэдчас ужыванае беларусамі “выварат” («ВЫ́ВОРОТЪ, -у, с. м. <…> 2) Изнанка. *Надзѣвъ шубу на выворотъ*» [гл.: Насовіч 1983: 79]) літаральна пераклалі Я. Карскага: *Biełaruskaj Eneida nawywarat* (В. Ластоўскі ў часопісе “Krywičanin” [Ananim 1918, № 1: 24–27], Янка Купала ў газеце “Вольны сьцяг” [Ананім 1921, № 4 і 5]). Аднак у хуткім часе паэма стала проста *Энэідаю навыварат* [Ананім 1926a: 10–13; Ананім 1926b: 637–40], а пасля і *Энеідаю навыварат* [Ананім 1940: 6–12]. І толькі аднойчы М. Гарэцкі ўжыў найменне *Беларуская Энэіда* [Равінскі 1922: 75–78].

[6] На тэму ступені самастойнасці *Энеіды* І. Катлярэўскага ў канцы XIX – пачатку XX ст. вялася ажыўленая дыскусія паміж расейскімі і ўкраінскімі навукоўцамі і публіцыстамі. Гл.: Стешенко 1898, LXVII (июль – августъ): 83–151; (сентябрь): 267–316; (октябрь): 1–32; Стешенко 1898, LXVII (июль – ав-

| Котляревскій | Ровинскій |
| --- | --- |
| Винъ, взявши торбу, тягу давъ… | Кашель ёнъ згребши науцёкъ… |
| Винъ, швидко поробывши човны,<br>На сыне море попускавъ,<br>Троянцивъ насадывши повны… | И швыдко зробивши чавнокъ,<br>Траянцами яго набивъ<br>И въ моря зъ ими ёнъ паплывъ… |
| Борей лежитъ недужъ съ похмилья,<br>А Нотъ поихавъ на весилья,<br>Зехвиръ же, давній негодяй,<br>Зъ дивчатами заженихався,<br>А Евръ у винныки нанявся:<br>Якъ хочешъ, такъ соби смякай… | Барей съ пахмелля, якъ вяперь,<br>Ляжиць въ святлицы на казёнки,<br>А Нотъ учора зьѣхавъ къ жонки,<br>Зяхвиръ зъ дзявухнами загрався,<br>А Евръ у батраки нанявся:<br>Якъ хочешь, ты сабѣ смекай… |
| Пришла Венера искрывившись,<br>Заслинившись и завискрывшись,<br>И стала хлипать передъ нимъ:<br>«Чымъ предъ тобою, милый тату,<br>Сынъ заслуживъ таку мій плату?»… | Пришла Вянера и завыла,<br>Саплями змазала всё рыла<br>И такъ зазюкала яна:<br>«А чимъ пяредъ табою, бацька,<br>Мой абмишулився дзицяцька?»… і інш. |

[Карскій 1908: 13]

Варта, аднак, звярнуць увагу, што «сходныя выраженія» ў першую чаргу трэба шукаць не з украінскаю, а аўстрыйскаю *Энеідаю*. І сапраўды: “Кашель ёнъ згребши науцёкъ” магло паўстаць не толькі на аснове “Винъ, взявши торбу, тягу давъ”, але і на “Und reiste fort mit Sack und Pack” (“І паехаў з сумкай і багажом”) [Blumauer 1784: 3].

Тое самае заўважаем і пры апісанні візіту Венеры да Юпітара. А. Блумаўэр піша так:

Frau Venus kam und machte da
Dem Donnerer Visite;
Denn da versagte der Papa
Ihr niemals eine Bitte. –
“Ach, Herr Papa!” so fing sie an,
“Was hat mein Sohn euch denn gethan,
Daß ihr so sehr ihn hudelt?”[1]
[Blumauer 1784: 17]

Для нас адвочна: усходнеславянскія травестатары ці то “творча” паўтаралі А. Блумаўэра, ці то нехта з іх запазычыў у іншага. Вось толькі – хто ў каго? Беларускі аўтар у І. Катлярэўскага? Амаль усе літаратуразнаўцы XX ст. сцвярджальна адказвалі на гэтае пытанне, калі яно зрэдчас з’яўлялася.

густъ): 1–82; Дашкевичъ 1899, LXVII (сентябрь): 145–188; Житецкій 1899–1900, LXVII (октябрь): 1–30; (ноябрь): 127–166; (декабрь): 312–336; LXVIII (январь): 16–45; (февраль): 163–191; (мартъ): 312–336.

[1] Падрадковы пераклад: “Прыйшла пані Венера / З візітам да Грамавержца; / Бо тата ніколі не адмаўляў, / Калі яго прасіла. / “О, пане тата!” – пачала яна, – / “Што мой сын табе зрабіў, / Што ты так яго караеш?”

Даўно заўважана, што І. Катлярэўскі, імкнучыся данесці да чытача пэўную ідэю, не трымаўся сюжэтнае лініі А. Блумаўэра, але часта выкарыстоўваў ягоныя матывы і вобразы. Але тое самае можна сказаць і пра беларускага аўтара: ён таксама меў сваю ідэю (акрэсліць яе даволі складана, бо захаваўся адно пачатак твора)[1] і таксама часам даволі значна "адступаўся" ад "узору". Дзеля прыкладу возьмем дыялог Дзідоны і траянцаў, у якім паэт выкарыстоўвае адметны мастацкі вобраз: траянцы ўпэўненыя, што карфагенскія "глазеты" ўжо паведамілі Дзідоне пра разбурэнне грэкамі Троі.

Перш-наперш уважліва глянем на радкі, дзе пра гэта ідзе гаворка. Знаменальна, што і ў першапублікацыі (1845), і ў рукапісе Залескага (1851) яны падаюцца амаль аднолькава:

| **«Маякъ» (1845)** | **Рукапіс Залескага (1851)** |
|---|---|
| Мы уси Траянскаго прихода; | Мы вси съ Траяскаго приходу, |
| Дворцовы, передъ тѣмъ были, | Сударски пиридъ тымъ были; |
| А у восень, прошлаго года, | Но въ восинь прошлаго мы году |
| Оттеля въ морѣ уцякли: | Отъ Грековъ въ море уцякли. |
| Яней, конторщикомъ у насъ; | Яней канторщикомъ у насъ, |
| Рашпорты-жъ дзержитсь Апанасъ, | Рашпорты држиць Апанасъ |
| Глазеты, барыня, ты маешъ, | Глазеты жъ, барыня, ты маишъ, |
| Спрягли, якъ Трою, про то знаешъ, | Спрягли якъ Трою, про те знаишь, |
| Такъ и не чаго-жъ табѣ казатсь! | То нечего цибѣ казаць. |

Цікава і тое, што ў рукапісе Залескага гэтыя радкі з'яўляюцца часткаю 25 страфы, у якую было ўключана перапісвальнікам ажно 13 радкоў. У зводнай рэдакцыі Я. Карскага, без падзелу на строфы, яны пазначаны ад 234-га да 242-га. М. Маркс утрымаў у памяці толькі чатыры з іх:

My vsie trajańskaha prychoda (parafji)
Dwarcowy piered ciem byli,
I v osień proszłaha hoda
Adtuda v mora uciekli.
[ZNiO, 14741/III: 53]

Колісь мы лічылі, што дадзены фрагмент Энеіды – гэта амаль поўная адычная страфа, у якой адно адсутнічае сёмы радок:

Мы ўсе з Траянскага прыходу,
Сударскі перад тым былі;
Но ў восень прошлага мы году
Ад грэкаў ў мора уцяклі.
Эней канторшчыкам у нас,
Рашпорты дзержыць Апанас,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Глазеты ж, барыня, ты маеш,
Спраглі як Трою, пра то знаеш,
То нечага табе казаць.
[Невядомы аўтар 2012: 12]

[1] Пятро Шаўцоў, імкнучыся давесці, што беларускую *Энеіду* напісаў Аўхім Крупенька, звязаў паўстанне паэмы з сялянскімі хваляваннямі ў Трыпуцінскім старостве Мсціслаўскага павета [Шаўцоў 1973: 200–237].

Сёння, аднак, звярнуўшы ўвагу на тое, што 5-ы і 6-ы радкі страфы завяршаюцца мужчынскімі клаўзуламі ды і змест іхні яўна не пасуе аповеду пра разбурэнне Троі, мусім прызнаць, што яны паходзяць з пазнейшых фрагментаў "просьбы-споведзі" траянцаў перад Дзідонаю. Такім чынам, у адычнай страфе "застаецца" толькі сем радкоў: A–b–A–b–?–?–?–e–e–d.

Літаратуразнаўцы лічылі, што "глазеты", якія чытае Дзідона, – гэта выдатная мастацкая знаходка беларускага аўтара, бо ані ў расейскай, ані ўкраінскай *Энеідзе* гэтае дэталі няма:

Царица! всѣ они кричали;
Не прикажи насъ уморить.
Ты зришь, мы наги босы стали;
Вели скорѣй насъ накормить.
Мы много горя претерпѣли,
И сутки трои ужъ не ѣли
Шатаясь вѣтромъ по морямъ.
Насъ по рознь бурей всѣхъ разбило,
И къ берегу сюда прибило.
Не дай теперь погибнуть намъ.

Изъ Трои шли мы всѣ съ Енеемъ;
Нашъ флотъ былъ въ многихъ корабляхъ.
Но естьлибъ знали, тобъ съ злодѣемъ
Мы тѣмъ не сѣли на судахъ.
Какъ время бурное настало,
Суда всѣ наши разметало;
То онъ насъ бросилъ и ушелъ.
Теперь не знаемъ гдѣ дѣвался,
Куда отъ бури онъ попался,
Иль можетъ быть гдѣ на мѣль сѣлъ.
[Н. О. 1800: 37]

Мы всѣ, якъ бачъ, народъ хрещеный,
Волочимся безъ талану;
Мы въ Трои, знаешъ, порожденны,
Еней пустивъ на насъ ману;
Дали намъ Греки прочухана,
И самаго Энея-пана
Въ три вирвы выгнали видтиль;
Звелѣвъ покинути намъ Трою,
Пидмовивъ плавати зъ собою.
Теперь ты знаешъ, мы видкиль.

Помилуй, Пані благородна!
Не дай загинуть головамъ,
Будь милостива, будь незлобна,
Эней спасыби скаже самъ.
Чи бачишы, якъ мы обдрались!
Убрання, постолы порвались,
Охляли, нибы въ дощь щеня!
Кожухи, свиты погубили,
И зъ голоду въ кулакъ трубили.
Така намъ лучилась пеня.
[Котляревскій 1809, I: 14–15]

А што ў травестацыі А. Блумаўэра? Адпаведнае месца ў нямецкага паэта гучыць падобна:

"O Königinn!" so schrie'n sie hier
Aus einem Mund zusammen:
"Vergieb uns Fremdlingen, daß wir
An dein Gestade schwammen,
Und siehest du nicht gern uns hier,
So nimm den Sturmwind her dafür,
Der uns hieher verschlagen".

"Als unsre Schiffe mit dem Steiß
Auf einer Sandbank sassen,
Hat uns Aeneas – Gott verzeih's
Dem Schlingel! – figen lassen.
Wir bitten dich, erhöre uns!
Befichl uns, was du willst, wir thun's,
Nur laß uns nicht verhungern!"[1]
[Blumauer 1784: 32–33]

[1] Падрадковы пераклад: „– О каралева! – так тут крычалі // Ўсе ў адзін голас: // – Даруй нам, чужынцам, што мы // Прыплылі да твайго берага, // І табе не

Адзначым, што перастварэнне М. Осіпава больш блізкае да нямецкага арыгінала, у якім, аднак, таксама не згадваюцца газеты, адкуль Дзідона даведалася пра спаленне грэкамі Троі і пра няшчасце, якое спаткала траянцаў на моры. Але ў А. Блумаўэра маецца матыў, які толькі-толькі пазначаны ў славянскіх травестацыях: Эней асобна ад траянцаў высаджваецца на бераг Дзідоны, сустракае Венеру ў вобліку старое цыганкі, якая радзіць звярнуцца да ўдавы-ўладаркі Карфагену; пасля чаго Эней трапляе ў горад:

Doch ein Kaffeehaus in der Näh'
Ließ unsern Mann nicht weiter:
Er gieng hinein, trank Milchkaffee,
Und las den Reichspostreiter.
Aeneens Flucht aus Trojens Glut,
Sein Sturm, sein Schiffbruch und sein Muth,
Stand alles schon darinnen[1].
[Blumauer 1784: 30–31]

Папулярная ў часы А. Блумаўэра франкфурцкая “Reichspostreiter” ў беларускага аўтара становіцца “глазетамі”. Думаецца, што гэтая мастацкая дэталь невыпадкова з’явілася беларускім тэксце, што не сам паэт прыдумаў яе, а запазычыў з *Virgils Aeneis travestirt*, г. зн. добра ведаў нямецкі твор. Дык сёння ёсць падставы сцвярджаць, што беларуская травестацыя *Энеіды* грунтуецца не толькі на выкарыстанні расейскае ды ўкраінскае. Зрэшты, пра сувязь беларускае *Энеіды* з *Виргиліевой Энейдой, вывороченной наизнанку* М. Осіпава пісаў адно Я. Карскі, які ўсё ж не адважваўся «отвѣтить вполнѣ утвердительно на поставленный вопросъ» [Карскій 1908: 16], хоць і падаў шэраг «мѣстъ, находящихъ для себя соотвѣтствіе у Осипова, тогда какъ у Котляревскаго другое» [Карскій 1908: 16]. Аднак ці сапраўды можна цвёрда сказаць, што беларускі аўтар запазычвае ў М. Осіпава асобныя мастацкія развязанні? Параўнаем асобныя, пададзеныя ім, прыклады:

---

падабаецца бачыць нас тут, // Але віноўны ў гэтым штармавы вецер, // Што нас сюды прыгнаў.
Калі нашыя караблі селі // Сракамі на пясчаныя мелі, // Нас кінуў Эней – даруй, Божа, // Нягодніку! – і ўцёк. // Мы просім цябе – выслухай нас! // Што заўгодна загадвай, мы зробім, // Толькі не дай нам памерці з голаду!”

[1] Падрадковы пераклад: “Але побач была кавярня, // Якая затрымала нашага чалавека: // Ён зайшоў, выпіў кавы з малаком // І прачытаў “Reichspostreiter”. // Пра ўцёкі Энея з пякельнае Троі, // Пра перажыты шторм, // Пра іхняе караблекрушэнне і ягоную мужнасць – // Усё гэта было там”.
У вершаваным перакладзе Лявона Баршчэўскага:
Была ж кавярня за рагом –
Герой наш затрымаўся:
Зайшоў і кавай з малаком
У ёй пачаставаўся.
З газеты “Reichspostreiter” ён
Даведаўся пра Трою:
Якіх прыгод узычыў Кон
Тады й пасля герою.

| | |
|---|---|
| Заскрёбся, барадой затрёсъ,<br>Усы разгладзивъ… | И бороду свою погладя… |
| Кали хто видзивъ якъ Бахциха<br>Нямецка пива задаець;<br>Яке яно падымець лиха,<br>Запѣнитца и розна прець:<br>Отъ такъ и моря заревѣла,<br>Бублила, пѣнилась, шипѣла. | Горшокъ у бабы какъ со щами<br>Бурлить въ растопленой печи,<br>Такъ точно сильными волнами<br>Кипѣло море въ той ночи. |
| И, словно въ цёткѣ <…> ёнъ завывъ. | Еней какъ будто въ лихорадкѣ,<br>Зубами хлопая, дрожал. |
| Вянера тутъ яму присѣла,<br>Хранцузъ якъ барышню учивъ… | Какъ немка, передъ нимъ присѣла… |

[Карскій 1908: 16–17]

Што датычыць першага прыкладу, то ў нямецкай травестацыі, сапраўды, цалкам адсутнічае “партрэтная характарыстыка” Эола. Тое самае ва ўкраінскай, дзе бог вятроў адно “насупіўся”, а ў расейскай

Съ улыбкой изъ подлобья глядя
Какъ мышь изъ крупъ смотрѣлъ Еолъ;
И бороду свою погладя,
Рыкнулъ ей такъ какъ доброй волъ…
[Н. О. 1800: 17]

У беларускай жа *Энеідзе* аўтар стварае разгорнутую характарыстыку Эола. Спачатку ён у камічным святле паказвае, як бог вятроў вітае Юнону:

Яолъ сядѣвъ тагды на печки,
Мязгу скабливъ на перяпечки,
И лапти сабѣ подплетавъ,
И ось оборы подобравъ,
Заткнувъ за поясъ кацатыгъ,
Скацився съ печки въ адзинъ мигъ.

Пасля ён частуе жонку Юпітара-Зеўса, а пасля эмацыйна рэагуе на ейныя просьбу і прапанову:

Яолъ разшупивъ теу дзѣло,
Съ яго ажъ слюнка пацѣкла,
Любивъ іонъ цѣшиць грѣшна цѣла,
Дявухна па нутру была,
Заскрёбся, барадой затрёсъ,
Усы разгладзивъ, пацёръ носъ,
Хапивъ напойку табаку,
Лупивши зубы бармотавъ,
……… рѣчъ Юнонѣ і͡онъ таку
Съ паклономъ вишь ты отказавъ…

Ці маглі быць для беларускага аўтара крыніцаю натхнення тыя Осіпаўскія чатыры радкі, што трансфармаваліся ў нашай *Энеідзе* ў дзве страфы? Адказ: так, але толькі тады, калі мы знойдзем шэраг іншых

пацвярджэнняў выкарыстання расейскамоўнага тэксту. Інакш дадзеная гіпотэза не мае права на існаванне, бо выяўленне аднаго-другога аргумента на ейную карысць трэба прызнаць выпадковым супадзеннем.

Другі прыклад Я. Карскага мае свой кароткі адпаведнік ў тэксце А. Блумаўэра:

Wie siedend Wasser sprudelte
Das Meer in seinem Kessel…[1]
[Blumauer 1784: 9]

Вобраз бурлівага мора і ў расейскім, і ў беларускім перастварэннях непасрэдна залежыць ад вобраза, створанага аўстрыйскім паэтам. Няма падстаў казаць пра расейскі ўплыў. Заўважым, што і сцэна буры, створаная І. Катлярэўскім, таксама не «сходна» з малюнкам беларускага паэта:

Все море заразъ спузырило,
Водою мовъ въ ключи забило…
[Котляревскій 1809, I: 10]

Тое самае і ў трэцім прыкладзе Я. Карскага: і расейскі, і беларускі аўтары перадавалі страх Энея ў адпаведнасці з сваім разуменнем сітуацыі, у якую трапіў герой на аснове кароткага пасажа А. Блумаўэра:

Aeneas schrie und zitterte
An Händen und an Füssen…[2]
[Blumauer 1784: 11]

У кожнага з іх атрымаўся свой адметны мастацкі малюнак. Трэба ўлічваць таксама тое, што “беларускі малюнак” зляканага Энея мае два варыянты:

| У рукапісе Мыслоўскага | У рукапісе Залескага |
| --- | --- |
| Janiéj tut tak pirapuhaŭsia | Яней упудився, всхадився, |
| Szto u sztanach matuz parwaŭsia, – | Мутузъ ашъ у штановъ свалився, |
| Sa strachu slinku papuściů | Съ страстей и нюни распусцивъ, |
| I słowim woŭkom jon zawyŭ. | И словно въ тёткѣ і͡онъ завывъ. |

Які з іх аўтарскі? І ці не з лёгкай рукі перапісвальніка, які ведаў твор М. Осіпава, з’явілася ў тэксце «тётка-лихорадка»?

Яшчэ адзін прыклад «сходства», што прапануе Я. Карскі, таксама не вытрымлівае крытыкі, бо ў А. Блумаўэра і М. Осіпава Венера ўшаноўвае Юпітара-Зеўса на самым пачатку іхнае сустрэчы. Але ў нямецкім арыгінале няма гаворкі пра г. зв. кніксан:

| | |
| --- | --- |
| Frau Venus kam`, und machte da | Какъ нѣмка передъ нимъ присѣла, |
| Dem Donnerer Visite…[3] | И жалобно ему запѣла. |
| [Blumauer 1784: 17] | [Н. О. 1800: 25] |

[1] Падрадковы пераклад: “Як кіпень, бурліла // Мора ў сваім катле…”.
[2] Падрадковы пераклад: “Эней крычаў, дрыжалі // Рукі ды ногі…”.
[3] Падрадковы пераклад: “Прыйшла пані Венера // З візітам да Грамавержца”.

Беларускі аўтар, магчыма, звярнуў увагу на французскае слова “visite”, а таму ў яго Венера робіць відавочна рэверанс у адпаведнасці з французскаю модаю сярэдзіны XVIII ст. Цікавае тое, што кніксан прыйшоў на змену рэверансу, г. зн. французскі знак ушанавання напрыканцы XVIII ст. паўсюль замяняўся нямецкім. Ці можа гэта мець якое дачыненне да часу напісання твораў? А можа, мы маем права меркаваць, што беларуская *Энеіда* ўзнікла раней за расейскую?

З даўніх часоў літаратуразнаўцы традыцыйна даводзяць, што першаю сярод славянскіх травестацый *Энеіды* была напісана расейская (1791 г.); крыху пазней, шмат у чым наследуючы і выкарыстоўваючы працу М. Осіпава, І. Катлярэўскі стварыў украінскую (1794 г.). І толькі ў 1820-я гг. магла паўстаць беларуская.

А што калі беларуская *Энеіда* папярэднічала расейскай і ўкраінскай? Вышэй мы звярнулі ўвагу на непасрэдную залежнасць нашае травестацыі ад твора А. Блумаўэра (“глазеты, барыня, ты маешъ”), а таксама на той факт, што французскі “рэверанс” папярэднічаў нямецкаму “кніксану”. Вядома, аргументы небясспрэчныя. Але, нагадаем, упершыню, яшчэ ў 1844 г., пра ранняе з’яўленне беларускае *Энеіды* згадаў Р. Падбярэскі: „napisana przed 50 laty i nigdy nie drukowana” [Podbereski 1844: XII]. Свае словы аўтар першага нарыса пра новую беларускую літаратуру аніяк не аргументуе. Нам невядома, на падставе чаго ўзнікла такое сцверджанне. Але ці варта ігнараваць атрыбуцыю Р. Падбярэскага? Усё ж такі гэта быў вельмі абазнаны чалавек у справах літаратурнага працэсу на беларускіх землях у першай палове XIX ст. Да таго ж ён адмыслова падарожнічаў па краю, збіраў звесткі пра літаратараў і іх творы. Менавіта ягоная атрыбуцыя была прынятая Л. Кавеліным (і, відаць, К. Мыслоўскім!) пры публікацыі паэмы ў часопісе «Маякъ».

Аднак атрыбуцыя (час, месца і аўтар) Р. Падбярэскага была адкінутая Я. Карскім, а пасля і беларускім літаратуразнаўствам XX ст.[1]. Можам, прыгадаць толькі адзін выпадак, калі прагучала паважнае меркаванне пра ранняе паходжанне беларускага твора. У 1926 г. украінскі даследнік Міхайла Маркоўскі (1869–1847) на падставе параўнання тэкстаў *Энеіды навыварат* з рукапісамі і першымі публікацыямі твора І. Катлярэўскага прыйшоў да высновы, што беларуская паэма магла аказаць уплыў на ўкраінскую, а г. зн. магла быць напісаная ў 1790-я гг.:

> Нарешті треба ще зазначити один дуже цікавий варіант, що знаходимо його в П[арпури]. Еол, розказуючи Юноні, куди порозліталися його вітри, кінець-кінцем каже:
>
> Якъ хочешъ, такъ собѣ смякай.
>
> Це відповідає тому, що ми бачимо в білоруському тексті *Енеїди*: “Якъ хочешь, ты сябѣ смекай (в инших варіянтах рахуй). Напевне можна

[1] Фактычна, хіба толькі Адам Мальдзіс у 1960–1970-х гг. спрабаваў давесці, што І. Манькоўскі “мог быць аўтарам *Энеіды навыварат*”, і адначасна задаваў пытанне: ці “быў В. Равінскі адзіным аўтарам беларускае *Энеіды*?” [Мальдзіс 1969а: 20–22; Мальдзіс 1970: 228–229].

> сказати, що це слово потрапило до *Енеїди* Котляревського з білоруської *Енеїди*. А все-таки виникає питання, як-же воно опинилося в одній із ранніх редакцій (Парпури) української поеми. <...> Проте в різних списках білоруської *Енеїди* ми помічаємо різні запозичення з *Енеїди* Котляревського: то більші, то менші. <...> В списку Б. Заліського, як і в *Енеїді* Котляревського за рукописом Болховітінова і Житецького, ми знаходимо Нотъ (у П[арпуры] – Нодъ), тимчасом як у списках Бодянського, Мисловського і «Маяка» цей вітер називається Норд, як і у виданню Котляревського 1809 р. Виходить, різні списки білоруської *Енеїди* складалися підо впливом різних текстів *Енеїди* Котляревського, і може справді треба повірити Підберезькому, який каже в статті, надрукованій р. 1844, що білоруська *Енеїда* була „napisana przed 50 laty i nigdy nie drukowana". Місце про Кутузова і Бонапарта могло потрапити до білоруської *Енеїди* й згодом, а основний її текст слідом за *Енеїдою* Котляревського міг витворитися багато раніше, може справді в 90–95 рр. XVIII в., як думає Підберезький. Такий ранній текст білоруської *Енеїди* міг ходити по Чернігівщині, міг бути відомий і Парпурі, що був родом з Чернігівщини (Конотіпського повіту), міг навіть попасти до рук і самого Котляревського, що в пізнішій редакції і міг вставити це білоруське „смякай", бо в найстарішому списку *Енеїди* Котляревського (1794) тут стоїть размишляй (в виданню К 1809 р. и помишляй, у Ж[итецького] було раніше „и помишляй" або „размишляй" – важко напевне розібрати), тільки-ж витерто і потім, написано, як і в Парпури, смякай (в рук. 1839 р. и помишляй) [Марковський 1927: 13–14].

Ускосна ранняе паўстанне беларускае *Энеіды* пацвярджаў Іван Ралько (1929–1979), які даводзіў, што беларуская сілаба-тоніка пачала сваё развіццё не ад пачатку XIX ст., а з канца XVIII ст.

> 4-стопны ямб беларускага верша *Ці чулі вы, панове, зроду* па чыста метрычных характарыстыках не мае істотных адрозненняў ад рускага ямба XVIII ст. (*Энеіда* М. Осіпава), а таксама ад ямба ўкраінскага (*Энеіда* Катляроўскага, канец XVIII – пачатак XIX ст.) і, нарэшце, ад ямба *Энеіда навыварат* [Ралько 1986:149].

Наш аналіз дазваляе прапанаваць наступную гіпотэзу: напісаная (Ігнатам Манькоўскім?)[1] у 1790-я гг. беларуская *Энеіда*, дзякуючы невядомаму суаўтару, атрымала другое жыццё спачатку на Віцебшчыне ў 1830-я гг., а пасля, дзякуючы В. Равінскаму, у 1850-я гг. на Смаленшчыне.

[1] І. Манькоўскага (1765–1832) лічыў аўтарам *Энеіды* даволі вядомы ў тагачасных літаратурных колах рэдактар і выдавец Антоні Марціноўскі (1781–1855). Ён згадаў пра аўтара беларускае паэмы, як сцвярджаў Рамуальд Зямкевіч, у сваіх неапублікаваных успамінах [гл.: Карскій 1922: 14].

# Адычная страфа беларускае *Энеіды*

У 1960-я гг., пераадолеўшы збольшага вульгарызатарскую тэндэнцыйнасць, беларускае літаратуразнаўства стала актыўна вывучаць гісторыю і паэтыку літаратуры XIX ст., якая, уласна, пачыналася з *Энеіды навыварат*[1]. Міхась Лазарук (1926–2000), даследуючы беларускую паэму, мімаходзь звярнуў увагу на памер (чатырохстопны ямб) і строфіку (часткова дэцыма, але пераважна розныя варыянты чатырохрадковае страфы і двухрадковая страфа) славутага твора. Больш за тое, ён, відаць, адмыслова займаўся гэтым пытаннем, калі здолеў вылучыць у тэксце ажно чатыры[2] адычныя страфы [гл.: Лазарук 1968: 39, 59].

Грунтоўна вывучаў у той час шляхі развіцця беларускага верша І. Ралько, аднак, захапіўшыся асобнымі вершаванымі формамі ў славянскіх літаратурах, увядзеннем Васілём Традзьякоўскім (1702–1769) і Міхайлам Ламаносавым (1711–1765) сілаба-танічнае сістэмы [гл.: Ралько 1969], даследнік нібыта цалкам праігнараваў беларускую *Энеіду*, хоць яна і была якраз ля вытокаў беларускае сілаба-тонікі. Праўда, крыху пазней ён, дэталёва прааналізаваўшы г. зв. "рытмічную інерцыю" ў расейскай і беларускай паэзіі, прыйшоў да высновы, што "пераразмеркаванне рытмічнай інерцыі, характэрнае для рускага 4-стопнага ямба, праявілася і ў беларускай паэзіі. Так, размеркаванне метрычных націскаў у 4-стопным ямбе беларускай *Энеіды навыварат* (таб. 9) сведчыць, што ў вершы гэтай паэмы прадоўжана рытмічная інерцыя, характэрная для рускага ямба XVIII ст., г. зн. ламаносаўская традыцыя. Даныя таб. 9 паказваюць, што размеркаванне рытмічных націскаў у 4-стопным ямбе другой ананімнай паэмы – *Тарас на Парнасе* крыху іншае: першая стапа – 83,5%, другая – 91,6%[3]. Больш высокі працэнт метрычных націскаў на другой стапе вершарада сведчыць, што 4-стопны ямб *Тараса на Парнасе* працягвае тую рытмічную інерцыю, якая характэрна для пушкінскага 4-стопнага ямба" [Ралько 1986: 174].

Характэрна, што ніякіх высноваў адносна часу напісання *Энеіды* на падставе сваіх даследаванняў І. Ралько не рабіў. Прынамсі, у друку, бо

---

[1] Гл. напр.: [Ананім 1950: 5–13].

[2] Застаецца незразумелым, пра якія гэта чатыры строфы гаворыць навуковец (яны не называюцца) і якімі крыніцамі ён карыстаўся. У зводнай рэдакцыі Я. Карскага магчыма вылучыць толькі тры адычныя страфы. З тае прычыны, што Я. Карскі не пазначыў, што радок "Кали, сватъ, зробишь тую честь..." адсутнічае ў «рукописи Мысловскаго», «копіи Бодянскаго для Шафарика 1837 г.» і «Маякѣ 1845 г.», узнавіць чацвёртую было немажліва.

[3] У беларускай *Энеідзе*: першая стапа – 95,0%, другая стапа – 87,5%. У творах М. Ламаносава: першая стапа – 97,8%, другая стапа – 76,7%.

ў беларускім літаратуразнаўстве ў 1970-я гг. аксіёмай стала думка пра залежнасць паўстання беларускага твора ад расейскага і ўкраінскага, апрача таго, В. Равінскі не мог напісаць твор раней 1816 г.[1]. Аднак, відавочна, І. Ралько абмяркоўваў праблему з калегамі па Інстытуце літаратуры. У першую чаргу, з Г. Кісялёвым (1931–2008), у публікацыях якога выяўляецца след тых дыскусій. Праўда, гісторык літаратуры чамусьці сцвярджае, што гаворка ішла пра сувязь *Энеіды навыварат* з “традыцыямі дзяржавінскага ямба”, дзяржавінскае адычнае страфы [гл.: Кісялёў 2005: 157]. Менавіта дзяржавінскае, а не ламаносаўскае. Г. зн. браліся пад увагу не 1740-я гг.,

Уже врата отверзло лето,
Натура ставит общий пир,
Земля и сердце в нас нагрето,
Колеблет ветьви тих зефир,
Объемлет мягкий луг крилами,
Крутится чистый ток полями,
Брега питает тучный ил,
Древа и цвет покрылись медом,
Ведет своим довольство следом
Поспешно ясный вождь светил.

(*Ода на день тезоименитства его императорского Высочества государя Великого князя Петра Феодоровича 1743 года*).

а 1780-я:

Богоподобная царевна
Киргиз-Кайсацкия орды!
Которой мудрость несравненна
Открыла верные следы
Царевичу младому Хлору
Взойти на ту высоку гору,
Где роза без шипов растет,
Где добродетель обитает,—
Она мой дух и ум пленяет,
Подай найти ее совет.

(*Фелица* 1782).

Але ж менавіта паэтыку М. Ламаносава (*Письмо о правилах российского стихотворства* і *Краткое руководство к красноречию*) вывучалі ў расейскіх школах, менавіта ягоныя ямбы лічыліся ўзорнымі. Невыпадкова ўсе ўсходнеславянскія травестацыі славутае паэмы Вергілія напісаныя чатырохстопным ямбам і адычнаю страфою.

У Новай беларускай літаратуры даследчыкам быў вядомы толькі

---

[1] Нават М. Лазарук, які дапускаў, што “*Энеіда навыварат* <…> узнікла неўзабаве пасля рускай *Энеіды* М. Осіпава (1791) або ўкраінскай І. Катлярэўскага, напісанай ў 1794 і надрукаванай, маюцца на ўвазе першыя яе часткі, у 1798 годзе” [Лазарук 1968: 53–54], усё ж у выніку сцвердзіў, што беларускі твор паўстаў у сувязі з чуткамі, якія пашыраліся пасля 1818 г., пра адмену прыгоннага ладу.

адзін твор, напісаны адычнаю страфою, – *Чалом, чалом, оцец, татулька* (*Імяніннае віншаванне*), пададзены ў друк Іосіфам Цытовічам у 1843 г.

Чаломъ, чаломъ, оцѣцъ, татулька!
Не сердзись, што къ табѣ прийшовъ.
Ни подзиви и ты, матулька;
Нявцейкомъ я сюды зайшовъ:
Я бывъ сягодня тутъ на мѣсци,
Съ Сапронымъ своимъ сабромъ вмѣсци,
Ни такъ-то съ пильною нуждой.
Идземъ аттуль и мижъ сабою
Зюку, зюку, а тутъ за мною
Якъ бы то кажиць хто: постой!
[цыт.: Цытович 1843: 34].

Беларуская *Энеіда*, як вядома, друкавалася без падзелу на строфы. Праўда, Я. Карскі, які працаваў на пачатку XX ст. са "спісам Залескага", згадваў, што

> *Энеида* писана русскими буквами въ формѣ куплетовъ, большей частью по 10 строкъ каждый. Всего 30 куплетовъ. <…> Сходство бѣлорусской *Энеиды* съ малорусской и великорусской сказывается еще и во внѣшней формѣ: всѣ онѣ писаны однимъ и тѣ же размѣромъ – 4-хстопнымъ ямбомъ [Карскій 1908: 6, 16].

Усё гэта скіравала нас на пачатку XXI ст. на пошукі адычнае страфы ў беларускай паэме [гл.: Хаўстовіч 2004: 28–48]. І, сапраўды, у *Энеідзе* без цяжкасцяў удалося вылучыць тры дасканалыя адычныя страфы. Першая знаходзілася ў сярэдзіне твора (151–160 радкі):

Зявесъ тагды сидзѣвъ у клѣци,
Гарѣлку зъ мёдомъ тамъ сьцибавъ,
Безъ сораму, якъ малы дзѣци,
Съ паддоньня пальцомъ калупавъ.
Пришла Вянера и завыла,
Саплями змазала всё рыла
И такъ зазюкала яна:
"А чимъ передъ табою, бацька,
Мой обмишулився дзицяцька?
Зюкни, яка яго вина".
[гл.: Карскій 1908: 26–27].

Дзве наступныя – у фінальнай трэці захаванага фрагмента паэмы (радкі 193–202 і 279–288):

Яней ачухався, паскрёбся,
На ноги лапци падвязавъ,
Съ палацей да кута дагрёбся
И плыць япрейтару казавъ.
Плывъ, плывъ, ажъ въ вокахъ ззелянѣлась,
И моря горши талакна прiѣлась:
Ёнъ вѣдзьмуй на яго глядзѣвъ,
А тамъ началъ уже здзикатца,

И такъ ни къ чому ставъ ругатца,
Што я й писаць тутъ не пасмѣвъ.
[гл.: Карскій 1908: 28].

Взошли въ святлицу – пеpяксцились,
Яней и "Вотча" прачитавъ,
За столъ вси рядушкомъ садзились,
Малинокъ на сталѣ стаявъ.
Дзидона варива вливала,
Шматками мяса ў миски клала
И забиляла малакомъ;
Трупацила яна крупеню,
Яѣшню, рудникъ, журъ, смаженю,
Камы, печеню съ часнакомъ.
[гл.: Карскій 1908: 31–32].

Усе яны рыфмаваліся па схеме AbAbCCdEEd (вялікімі літарамі пазначаюцца жаночыя клаўзулы, а малымі – мужчынскія). Гэта класічная схема расейскае адычнае страфы, якая выкарыстоўвалася з часоў Міхайлы Ламаносава да пачатку XIX ст., калі ледзь не цалкам выйшла з ужытку, застаючыся адно ў нізкай паэзіі (імітацыі і пародыі на класічныя оды і інш.). Травестацыі М. Осіпава і І. Катлярэўскага, вядома, таксама належаць да іх ліку.

Можа, адычная страфа з'явілася ў беларускім тэксце выпадкова? Можа, тут толькі адно ўплыў украінскае, якую "перастварыў" беларускі аўтар?

Так, сапраўды, першая і другая, выяўленыя намі беларускія адычныя страфы даволі блізкія зместам да 15-й і 19-й строфаў[1] паэмы І. Катлярэўскага. А вось змест трэцяе часткова перадаецца ў апошнім чатырохрадкоўі 26-е і 27-й строфах.

Але ж пра сляпое наследаванне І. Катлярэўскаму, пра механічны перанос адычнае страфы можна было б гаварыць толькі ў тым выпадку, каб беларускі аўтар выкарыстаў, напрыклад, рыфмы ўкраінскага. Падобнага, аднак мы не назіраем. Для параўнання пададзім адну страфу І. Катлярэўскага:

Зевесъ тогди лыгавъ вишнивку,
Маковныками заѣдавъ;
И пьятую еще кондійку,
Отъ Гебы зъ ліоху дожидавъ.
Пришла Венеря изкрививишись,
Заслинившись и завизгрившись,
И стала хлыпать передъ нимъ:
"Чимъ предъ тобою, милый тату,
Сынъ заслуживъ таку мій плату?

[1] У выданні ўкраінскае *Энеіды* 1809 г. адычныя строфы падаваліся парамі. Магчыма, гэта было зроблена з тэхнічных прычынаў ці як адметная страфічная будова, не падобная на строфіку першых двух выданняў Максіма Парпуры (1763–1828).

И іонъ, мовъ въ свинки граютъ имъ".
[Котляревскій 1798: 8].

Мы лічым, што беларускі аўтар свядома абраў паэтыку адычнае страфы дзеля свае працы. Адычныя строфы выпадкова не атрымліваюцца.

Як пісаў Максім Багдановіч:

У творчасці яго раптоўнага няма,
Аснова для яе – спакойная дума.

Нашую гіпотэзу пра адычны характар *Энеіды навыварат* мы пацвярджалі таксама выяўленымі намі фрагментамі адычнае страфы. Так, першае яе чатырохрадкоўе (рыфмоўка AbAb) сустракаецца ў паэме (зводны спіс Я. Карскага) 25 разоў, апошняе (рыфмоўка dEEd) – 3 разы. Наяўнасць якраз апошняга чатырохрадкоўя адычнае страфы – важкі аргумент на карысць таго, што твор пісаўся менавіта гэтаю страфою. І гэта нягледзячы на тое, што такіх чатырохрадкоўяў захавалася няшмат. Гэта сведчанне "сапсаванасці" аўтарскага тэксту. Вуснае бытаванне твора[1] трансфармавала строфіку паэмы – замест складанае кальцавое рыфмоўкі dEEd узнікла больш простая – сумежная aabbcc. На трыццаць строфаў паэмы, напісанай адычнымі строфамі, павінна прыпадаць толькі 60 радкоў з рыфмоўкай CC. Але ж у *Энеідзе навыварат* такіх радкоў 160. Праўда, лагічна было б выключыць з гэтай колькасці яшчэ 60 радкоў, памятаючы, што апошняе чатырохрадкоўе адычнае страфы (dEEd) мае два радкі з сумежнай рыфмай (EE).

Зыходзячы з пераканання, што беларуская паэма напісана адычнаю страфою, мы паспрабавалі рэканструяваць ейную структуру. Як мы ўжо адзначалі, захаваліся тры "правільныя" страфы. Апрача таго, 19 (!) строф магчыма трансфармаваць у адычныя, зрабіўшы перастаноўку радкоў або "прызнаўшы" (радкамі кропак), што ў страфе адсутнічае адзін ці два радкі. Астатнія 8 строф захаваліся кепска: ад 5 засталіся толькі фрагменты, а тры страфы, хоць і дастатковыя па аб'ёму, але іх "трывалая" сумежная рыфмоўка не дазваляе правесці перакамбінацыю радкоў.

Апублікаваная "рэканструкцыя" не была прынятая даследнікамі[2]. З аднаго боку, навукоўцы прызнаюць, што нават самы лепшы спіс, які дайшоў да нас, з'яўляецца сапсаваным, што арыгінала мы не маем, а з другога – гучаць сцвярджэнні пра дасканалы верш аўтара (В. Равінскага):

> Асобнай размовы заслугоўвае версіфікатарская тэхніка паэта. Равінскі выдатна валодаў вершам – чатырохстопным ямбам дзяржавінскай, дапушкінскай школы. Верш нашага паэта надзвычай лёгкі, нязмушаны. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў – Осіпава і Катлярэўскага – Равінскі

---

[1] Магчыма, сааўтары беларускага паэта XVIII ст. (у тым ліку і В. Равінскі), узнаўляючы і шмат у чым перапісваючы беларускую *Энеіду*, не зразумелі, што яна стваралася адычнаю страфою.

[2] "Спробу ўзнавіць нібыта страчаную (разрадка нашая – *М. Х.*) першапачатковую строфіку паэмы гл.: Хаўстовіч М. *Энеіда навыварат: Спроба рэканструкцыі* // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2004. Вып. 5" [Кісялёў 2007: 149].

не прытрымліваўся строгай строфікі. Рыфмоўка настолькі багатая і разнастайная, што ў творы не заўважаеш нават асобных незарыфмаваных радкоў. Яны не "правісаюць", не выпадаюць з агульнай структуры твора. Такое мог дазволіць сабе толькі майстар [Кісялёў 2007: 149].

Аднак, відаць, майстрам сябе В. Равінскі не лічыў, бо і не спрабаваў нават апублікаваць *Энеіду навыварат*. Усё ж, лічачы сябе паэтам ды майстрам, маючы шэраг уплывовых прыяцеляў, ён мог ці то пад сваім прозвішчам, ці то ананімна за блізу трыццаць гадоў (1820–1850) надрукаваць паэму. Тым больш, што падобныя тэксты патрэбныя былі тагачасным ідэолагам дзеля падмацавання афіцыйнае канцэпцыі пра адзінства «бѣлорусскаго нарѣчія» з расейскаю моваю.

Аднак у доме В. Равінскага захоўваўся не арыгінал, не чарнавікі паэмы, а ўзноўлены, магчыма, самім гаспадаром, паводле вусных аповедаў тэкст.

Вядома, тры адычныя страфы гэта вельмі мала, каб паверыць, што ўвесь тэкст быў напісаны папулярным у той час вершам. Але варта ўвагі тое, што вылучаныя намі адычныя строфы дасканалыя ва ўсіх адносінах: тут няма збою рытму, тут дакладная рыфма, тут няма чужых і лішніх слоў. А такое ў паэме сустракаецца не заўсёды. Трэба прызнаць, што "неадычным" строфам пашанцавала менш.

Цяпер прыгледзімся да спісаў беларускае *Энеіды*, здабытым В. Марцысюком з небыцця. Яны вельмі каштоўныя і з пункту гледжання строфікі паэмы. Бо нашыя высновы дваццацігадовае даўнасці пра адычную "прыроду" славутага беларускага твора былі зробленыя на падставе зводнага спісу Я. Карскага і публікацыі ў часопісе «Маякъ». І хоць навуковец адмыслова звяртаў увагу на амаль усе розначытанні ў спісах, але цэласны малюнак асобных спісаў (Мыслоўскага, Бадзянскага і Кавеліна) паводле ягоных заўвагаў не складваўся.

Праўда, не скажаш, што выявіць у "рукапісе Мыслоўскага" яшчэ адну, чацвёртую, правільную адычную страфу было поўнай нечаканасцю:

Niawiedaisz majho ty hora,
Janiéj s Trajancami pływieć,
Spichni jaho skaréj ty-ŭ mora
Nichaj niaczyścik wody pjeć. –
Ty wiedaisź Janiéj wić zrodnik,
Złаdziej, waruha, kanawodnik,
Pryjawu zrobić na światu. –
Za to dziawuchnu ukrasiwu,
Sałodkuju ik z miodam śliwu,
Tabie ja zaǔtry prywiadu.

Бо ў зводным спісе Я. Карскага мелася чатырнаццаць радкоў, "аб'яднаных" агульнаю тэмаю, і можна было меркаваць, што сярод іх ёсць таксама радкі, дададзеныя "сааўтарам/сааўтарамі". Нам падалося, што чатыры з іх не адпавядаюць – назавём так – аўтарскаму кодэксу прыстойнасці (вылучаныя курсівам):

“Чи вѣдаешь маё ты горя?
“Яней съ траянцами плывець:
“Спихни яго ты, сватъ, у моря,
“Нихай нячисцикъ воду пьець.
“Мяркую, чувъ, Яней ёнъ зводникъ,
“Варюга, злодзій, канаводникъ;
*“Траянцы также вси латрыги,*
*“Вси курвичи и вси ярыги,*
“Праяву зробяць на святу:
*“И ихъ всихъ нада съ свѣту знесць.*
*“Кали, сватъ, зробишь тую чесць,*
“То я дзявухну украсиву,
“Салодкую, якъ зъ мёдамъ сливу,
“Цябѣ за тэе привяду”.

Пасля невялікіх кан’юктураў у нас атрымалася страфа, якая пазней “знойдзецца” ў спісе Мыслоўскага”[1]:

Ці ведаеш маё ты гора?
Эней з траянцамі плыве:
Спіхні яго ты, сватъ, у мора,
Няхай нячысцік воду п’е!
Мяркую, чуў: Эней ёнъ зводникъ,
Юрыга, злодзей, канаводнік;
Праяву зробіць на святу:
Зато дзявухну украсіву,
Салодкую, як з мёдам сліву,
Табе я заўтра прывяду.
[Невядомы аўтар 2012: 5].

На нашую думку, аўтарскай задумаю было выкарыстанне адычнае страфы. Сцвярджаем гэта на падставе аналізу строфікі асноўных спісаў паэмы.

| | “Рукапіс Мыслоўскага” | “Публікацыя Кавеліна” | “Рукапіс Залескага” | “Рукапіс Сразнеўскага” |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць радкоў | 103 | 242/236 | 303 | 301 |
| Колькасць адычных строфаў | 1 | 3 | 3 | 3 |
| Колькасць першых катрэнаў адычнае страфы | 6 | 19 | 25 | 25 |
| Колькасць апошніх катрэнаў адычнае страфы | 1 | 3 | 2 | 2 |
| Рыфмовыя пары з жаночай клаўзулай | 19 | 34 | 47 | 47 |
| Рыфмовыя пары з мужчынскай клаўзулай | 13 | 25 | 32 | 32 |
| Радкі без рыфмовае пары | 1 | 6 | 7 | 5 |

[1] Яе няма ў публікацыі часопіса «Маякъ»: тры радкі страфы замененыя кропкамі.

Ва ўсіх іх, на нашую думку, значная колькасць радкоў (38 з 103 у “рукапісе Мыслоўскага”, 118 з 242 у “публікацыі Кавеліна”, 138 з 303 у “рукапісе Залескага”, 138 з 301 у “рукапісе Сразнеўскага”) у амаль нязмененым выглядзе паходзіць менавіта з аўтарскага тэксту. Сведчаннем гэтаму – іхная прыналежнасць да адычнае арганізацыі верша; сведчаннем гэтаму – дасканалая рытмічная арганізацыя радкоў, якія належаць адычнай страфе; сведчаннем гэтаму – дасканалая стылістыка і слоўніцтва “адычнае” часткі тэксту.

Што датычыць 52–63% тэксту паэмы, аб’яднанага ў рыфмовыя пары, дык трэба прызнаць, што створаны ён (на аснове, вядома, аўтарскага) “суаўтарам/суаўтарамі” падчас вуснага бытавання твора шляхам перакамбінавання фрагментаў адычнае страфы, а таксама дадавання (не заўсёды часам удала) замест страчаных элементаў новае мастацкае тканіны.

# Шляхамі беларускае *Энеіды*

Мы не ведаем, калі, дзе і хто напісаў беларускую травестацыю *Энеіды* Вергілія. Нягледзячы на тытанічную працу айчынных гісторыкаў літаратуры (прынамсі, Генядзя Кісялёва), гісторыя ўзнікнення твора шмат у чым застаецца нявысветленаю.

Што мы, уласна, ведаем?

1. Да снежня 1837 г. Восіп Бадзянскі (1808–1877) атрымаў ці то ў Пецярбурзе, ці то ў Віцебску ад аднаго з братоў Мыслоўскіх пачатковы фрагмент твора (103 радкі), каб неўзабаве перадаць яго, транслітараваўшы на грамадзянскае пісьмо, Паўлу Шафарыку (1795–1861), які ў 1842 г. згадае пра беларускую *Энеіду* ў друку.

2. У верасні 1844 г. Рамуальд Падбярэскі (1812–1856) сцвердзіў, што беларуская *Энеіда* паўстала ў сярэдзіне 1790-х гг. і напісаў яе віцебскі віцэ-губернатар Ігнат Манькоўскі (блізу 1765–1831).

3. У 1845 г. у часопісе «Маякъ» Леў Кавелін (1822–1891) апублікаваў атрыманы ад Каятана Мыслоўскага (1817/1818–1886) фрагмент паэмы (блізу 240 вершаваных радкоў).

4. У жніўні 1851 г. Барыс Залескі перадаў фрагмент беларускае *Энеіды* (303 радкі) В. Бадзянскаму (з пазнакаю, што твор перакладзены з украінскае мовы Вікенціем Равінскім).

5. 12 снежня 1853 г. у газеце «Смоленскія губернскія вѣдомости» (№ 50) Пётр Шастакоў (†1889) апублікаваў артыкул *Духовщинское подрѣчіе*, дзе змясціў два невялікія ўрыўкі з беларускае *Энеіды* і таксама пазначыў, што гэта пераклад («переложеніе») здзейснены В.П. Р–скимъ.

6. У студзені 1890 г. Канстанцін Равінскі (1862–1942) у газеце «Смоленскій вѣстникъ» змясціў артыкул *Забытое произведеніе* (№ 10–11), у дадатку да якога апублікаваў беларускую паэму як твор свайго дзеда Вікенція Равінскага.

7. На пачатку ХХ ст. Яўхім Карскі (1861–1931), падсумаваўшы даступныя матэрыялы, падрыхтаваў зводную рэдакцыю беларускае *Энеіды*, а ейным аўтарам сцвердзіў смаленскага ўраджэнца Вікенція Равінскага.

8. Беларускія літаратуразнаўцы ХХ ст. лічылі *Энеіду* ананімным творам [Ананім 1926b: 637–640; Ананім 1950: 5–13; Ананім 1962: 88–93; Ананім 1971: 7–13 і інш.], і толькі з 1988 г. яна звычайна друкуецца як твор В. Равінскага [Равінскі 1988: 65–68; Равінскі 2000: 31–38; Равінскі 2001: 49–57; Равінскі 2011: 265–272; Равінскі 2013: 55–63 і інш.].

Аднак трэба прызнаць, што і сто гадоў таму, і сёння матэрыялаў яўна недастаткова, і каб правесці дакладную атрыбуцыю, і каб апублікаваць дасканалы тэкст беларускае *Энеіды*.

Трэба прызнаць, што занатаваныя ў 1830-я і 1850-я гг. аматарамі твора даволі вялікія фрагменты паэмы былі ўзноўленыя па памяці. Хутчэй за ўсё ні віцебская студэнцкая моладзь, ні смаленскае атачэнне Равінскіх не мелі ні аўтографа, ні нават добрае копіі паэмы. Яны запісалі тое, што захавалася ў калектыўнай памяці адукаванага класа тагачаснага грамадства. І, відаць, зроблена гэта было пасля працяглага вуснага бытавання *Энеіды*, якая – паводле сведчанняў сучаснікаў – у першай палове XIX ст. карысталася вялікаю папулярнасцю:

> Napisana przed 50 laty i nigdy nie drukowana jego[1] *Enejda na wywrót* (*nicowana*), stała się bardzo popularną pomiędzy junacką szlachtą zaściankową; na wielkich jarmarkach w Czasznikach, Białyniczach; Chasłowiczach, Szkłowie, Homlu[2], w Połocku na Kraśniku, i teraz usłyszysz przy wesołéj ochocie urywki z niéj, chociaż często tak przeinaczone, że ledwie typ oryginalny rospoznasz [Podbereski 1844: XII].

Звесткі Р. Падбярэскага аўтарытэтна пацвярджае Максімільян Маркс (1816–1893), які ажыўленне цікавасці да беларушчыны на Віцебшчыне звязваў з фальклярыстычнаю і паэтычнаю дзейнасцю Эміліі Плятар (1806–1831)[3]. На яго думку, з ініцыятывы будучае арганізатаркі паўстання на Літве „zjawili się w Witebsku dość liczni badacze języka i zbieracze pieśni i opowiadań ludu białoruskiego” [цыт. па: Bruchnalski 1922, XXI: 147]. Далей аўтар ўспамінаў пералічае тых даследнікаў, якія працягвалі справу Э. Плятар:

> Do najstarszych, co pamiętam, należy zaliczyć Ćwiecińskiego, zmarłego w Moskwie, i Aleksandra Zbrożka, którego poezyjki były drukowane w rozmaitych czasopismach zagranicznych; następnie Tadeusza Łada Zabłockiego, zmarłego na Kaukazie w 1847 r., i Romualda Zieńkiewicza, tłumacza i wydawcę pieśni ludu pińskiego; wreszcie Stanisława Miarkianowicza[4] i cały zastęp młodzieży, do którego zaliczam i siebie [цыт. па: Bruchnalski 1922, XXI: 147].

---

[1] Р. Падбярэскі мае на ўвазе І. Манькоўскага, якога лічыць аўтарам твора.

[2] Маецца на ўвазе мястэчка Полацкага пав. на гандлёвым тракце Лепель–Полацак.

[3] „Pierwsza ona – bodaj iż się nie mylę, – z zapałem, właściwym czułym i szlachetnym sercom, oddała się duszą ludowi białoruskiemu, badała jego biedę i współczuła jej, starając się – według możności ulżyć ją; zbierała i śpiewała jego piosnki, płaciła hojnie za ich dostarczenie i próbowała pióra w ich naśladowaniu. Na fortepianie umiała najdobitniej oddać i skoczność i tęsknotę motywów ludowych i nawet timbry sopranu-żulejki i basu-dudy” [цыт. па: Bruchnalski 1906, XII: 184].

[4] У архіве Ізмаіла Сразнеўскага захавалася «студенческая работа» *Заметка о произношении в Мстиславском уезде Могилевской губ.*:, якую напісаў нехта «Маркианович». Дата, а таксама імя аўтара ў каталозе не пададзеныя [гл.: СПбФ АРАН, 216–3–1167]. Пра збіральніцкую дзейнасць Цвяцінскага, школьнага сябра аўтара, звестак не захавалася. Аляксандар Зброжак (1808 –?) – удзельнік паўстання 1830–1831 гг., эмігрант, стрыечны брат Аляксандра Рыпінскага [гл.: Гарбачова 2006: 150; Хмяльніцкая 2019: 71, 74, 78, 83, 91].

А пачатак “беларускаму руху” ў Віцебску, сцвярджае М. Маркс, паклала беларускамоўная паэма[1]: „Nasamprzód zjawiła się u nas trawestacja pierwszej księgi *Eneidy*” [цыт. па: Bruchnalski 1922, XXI: 147]. Трэба думаць, здарылася гэта напрыканцы 1820-х – пачатку 1830-х гг., у той час, калі М. Маркс вучыўся ў Віцебскай, спачатку базыльянскай, а пасля губернскай гімназіі (1829–1834). Цікава тое, што Аляксандар Рыпінскі (1809–1886), які пакінуў базыльянскую гімназію ў 1828 г. і быў залічаны ў Рэвельскі пяхотны полк, а пасля ў Дынабургскую школу юнкераў (падхарунжых), беларускае *Энеіды* не ведаў: апавядаючы ў кнізе *Białoruś* пра паэму *Bunt chłopów przeciw Ekonomowi* згадвае адно твор Івана Катлярэўскага:

> Jest to zupełnie cóś nakształt owej, znajomej wszystkim ze swego zabawnego przekładu, *Eneidy Kozackiej*: „Enej buw parobok motorny, i chłopiec: choć kudy kozak!” etc. ważniejsze zaś, bo narodowe! [Rypiński 1840: 206].

А вось тыя, хто яшчэ заставаўся ў Віцебску, павінны былі ведаць беларускую травестацыю *Энеіды*: напрыклад, Геранім Марцінкевіч (1816–1864), які ў 1829/1830 навучальным годзе вучыўся ў III класе гімназіі; Станіслаў Маркіяновіч, аднакласнік М. Маркса; Тамаш Гайко, вучань V класа; Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811–1847) і Зянон Харошча, што займаліся ў шостым класе базыльянскае гімназіі[2]. Апошні ў 1872 г. (г. зн. праз сорак гадоў) “надыктаваў” А. Рыпінскаму даволі вялі фрагмент *Энеіды* (блізу 120 радкоў[3]), а аўтарам назваў Мыслоўскага, якога павінен быў ведаць [гл.: Піятуховіч 1990: 230]. Праўда, браты Мыслоўскія навучаліся, здаецца, у губернскай гімназіі. Прынамсі, гэта вынікае з запіскі дырэктара вучылішчаў Віцебскае губерні Гаратоўскага апекуну Беларускае навучальнае акругі Рыгор Карташэўскаму (1777–1840): у 1828 г. Іван Мыслоўскі стаў вучнем III класа менавіта губернскае гімназіі [Кісялёў 2005:85]. Калі 1 мая 1832 г. улады зачынілі базыльянскую гімназію, ейныя выхаванцы мусілі за-

---

[1] Перад *Энеідаю*, паведамляе таксама М. Маркс, нейкі свавольнік стравеставаў ружанец, з якога ён памятаў літаральна некалькі радкоў:

Pionty smutek – hałowka balić.
A hdzież taja chlaszyczka, szto z wodkyj staić? –
U kleci, pad żernami;
A prydzieć że, haspadyńka, dy napjecca z nami.
Antyfona
Chlasza harełki, kialiszyk zielony,
A chto napjecca, tot budzić czerwo-o-ony!
[цыт. па: Bruchnalski 1922, XXI: 149].

[2] У архівах захаваліся спісы вучняў гімназіі за розныя гады. *Lista uczniów znajdujących się w Witebskiem Bazylijaskiem Gymnazyum* на 1829/1830 н. г. маецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі [гл.: НГАБ, 2617–1–26: 2–3 адв.].

[3] Тэкст *Энеіды*, надыктаваны З. Харошчам, заканчваўся наступнымі радкамі:

Tut dosyć wietrym wot ździkacca,
Z Niaptunam znali jakij żart?!
Damouki stali ubiracca
Jak at Kutuzowa Lipatr.
[гл.: Піятуховіч 1990: 229]

пісваца ў губернскую. Тут М. Маркс пасябраваў[1] з І. Мыслоўскім: у 1833/1834 навучальным годзе яны займаюцца ў адным класе, а пасля накіроўваюцца ў Маскоўскі ўніверсітэт, дзе адзін запішацца на славеснае аддзяленне (І. Мыслоўскі), а другі на медыцынскае (М. Маркс). У сваіх успамінах (*Pamiętnik: I. Ze wspomnień dzieciństwa. II. Coś o gwarze białoruskiej*; *Записки старика*; *Каетан Андреевич Коссович*; *Михаил Шумский*) М. Маркс не згадваў І. Мыслоўскага. Не закранаў ён таксама і пытанне пра аўтарства беларускае *Энеіды*. Праўда, варта звярнуць увагу і на наступны фрагмент мемуараў:

> Później przez lat pięć, zrobiona była druga edycja: „izdanje vtoroje umnożeno v troje", lecz bardzo niezgrabna: bo, chociaż rzeczywiście powiększona wstawieniem w różnych miejscach dodatków, lecz błędna mnóstwem nieużywanych ludem białoruskim wyrazów, tokiem opowiadania niewłaściwym gwarze, i nakoniec zupełną nieznajomością zatajonych w sercu uczuć i myśli ludu [цыт. па: Bruchnalski 1922, XXI: 148].

Каментуючы які ў спасылцы[2], ён усё ж ускосна яго закранае:

> Pr. Pypin mylnie sądzi, iż p. Mańkowski ztrawestował *Eneidę*, gdyż tylko to izdanje vtoroje rzeczywiście mu się należy. Oto jego początek:
>
> Janej dziaciuk widź byv cukawyj
> Parniuk z niaho byv ukrasiv.
>
> Parniuk – nazwa wówczas nieznana na Rusi białej i używana tylko za Smoleńskiem. Filologowie rosyjscy twierdzą, iż tam właśnie panuje język białoruski najczystszy. Ma się tu rozumieć najbardziej zbliżony do moskiewskiego, jedynego ideału doskonałości, nie tylko dla jakich-tam gwar, lecz nawet i wszystkich języków słowiańskiej pochodzistości. Odkrycie to zrobili czechi-nastawniki [ZNiO, 14741/III: 54].

Тут М. Маркс пярэчыць Аляксандру Пыпіну (1833–1904) (фактычна – Р. Падбярэскаму), што першым беларускім травестатарам *Энеіды* з'яўляецца І. Манькоўскі: яму, маўляў, належыць толькі „izdanje vtoroje umnożeno v troje". Мемуарыст ведае гэтае "выданне" і нават падае два першыя ягоныя радкі. Самы час назваць яму сапраўднага травестатара! Але замест гэтага М. Маркс разважае пра неўласцівую беларускай мове лексіку "другога выдання", якая, на яго думку, ужываецца „tylko za Smoleńskiem", ды іранізуе з расейскіх філолагаў і іхніх чэшскіх настаўнікаў. Відавочна, ён ведае пра рупнасць В. Бадзянскага, які, выконваючы просьбу П. Шафарыка, шукаў беларускія тэксты. Вось толькі калі і дзе гэта адбывалася: у Маскве ў 1834 г. ці ў Віцебску ў 1837 г.? Бясспрэчна адно: у абодвух выпадках М. Маркс быў непасрэдным сведкам, а то і ўдзельнікам тых падзей.

Дадзенае пытанне мы закранём крыху ніжэй, а цяпер нас першнаперш цікавяць рукапісы (?) *Энеіды*, якія з'явіліся ў Віцебску ў час

---

[1] Раней М. Маркс сябраваў з Каятанам Касовічам (1814–1883), які закончыўшы ў 1831 г. базыльянскую гімназію і здаўшы экстэрнам увосень гэтага ж года экзамены за курс губернскае гімназіі, у 1832 г. быў залічаны ў Маскоўскі ўніверсітэт.

[2] В. Брухнальскі апусціў гэтую спасылку ў сваёй публікацыі ўспамінаў М. Маркса.

гімназічнага навучання М. Маркса і ягоных сяброў. Г. зн. першае і другое „edycje-выданні” паэмы.

Вядома, „edycja” – гэта не друкаванае выданне твора. Магчыма, – рукапіс. Але – які? Аўтарскі? Копія аўтарскага? Ці, можа, „edycje” – гэта вусныя ўзнаўленні паэмы (першае песні паэмы)? Якім чынам тэкст твора трапіў да моладзі? Прынамсі, мы ведаем чатырох віцебскіх гімназістаў (браты Мыслоўскія, З. Харошча, М. Маркс), якія захавалі ў памяці, а пасля ўзнавілі (нагадаем: А. Рыпінскі “запісаў пад дыктоўку” [гл.: Піятуховіч 1990: 229]) вялікія фрагменты беларускае *Энеіды*. Паведамленне З. Харошчы пра “Мыслоўскага” як аўтара паэмы даводзіць, што, відаць, старэйшы з іх, дзевятнаццацігадовы Ян (Іван) Мыслоўскі (1815–1834) быў тою асобаю, дзякуючы якой у Віцебску, у асяроддзі гімназістаў, „zjawiła się” травеставаная *Энеіда*.

Г. Кісялёў лічыў, што беларускую *Энеіду* Я. Мыслоўскі “прывёз” у Віцебск з Асінавае Калоды, бацькоўскага фальварка, які знаходзіўся ў Веліжскім павеце. Маўляў, здарылася гэта, бо Мыслоўскія жылі ад маёнтку Равінскіх Елісеевічы Духаўшчынскага павета ўсяго за нейкіх пяцьдзясят вёрстаў [Кісялёў 2005: 222–223]. Так, сапраўды, таварыскае жыццё тагачаснае шляхты дазваляла падобныя кантакты. Аднак гіпотэза пра шлях паэмы ад Равінскіх да Мыслоўскіх павінна грунтавацца на ўстаноўленым факце, што беларуская *Энеіда* знаходзілася ў Елісеевічах у 1820-я гг. Насамрэч, мы не маем аніякіх дакументальных пацверджанняў гэтага[1]. Усё якраз наадварот: гэта Мыслоўскія мелі паэму ў 1820-я – 1830-я гг. Што датычыць Равінскіх, дык упершыню пра іх датычнасць да беларускага твора ёсць падставы казаць, пачынаючы толькі ад 1851 г., калі Б. Залескі перадаў рукапіс паэмы В. Бадзянскаму.

Такім чынам, з аднаго боку, звесткі пра беларускую *Энеіду* паходзяць з Віцебска і датуюцца канцом 1820-х – сярэдзінаю 1830-х гг., а з другога боку, паэма “заяўляе” пра сябе на пачатку 1850-х гг. з Елісеевічаў Равінскіх.

Віцебская лакалізацыя твора пацвярджаецца пяццю пісьмовымі крыніцамі. Па-першае, рукапісам 1830-х гг., выкананым «Г<u>номъ</u> Мысловскимъ»; па-другое, рукапісам 1837 г., які В. Бадзянскі ахвяраваў у Празе П. Шафарыку; па-трэцяе, публікацыяй Л. Кавеліна ў часопісе «Маякъ» (1845); пачацвёртае, надыктаваным у 1872 г. З. Харошчаю тэкстам для А. Рыпінскага; па-пятае, фрагментам (82 радкі) паэмы, які ў 1885 г. ўзнавіў у сваіх успамінах М. Маркс.

Не менш пацвярджэнняў мае і Духаўшчынская лакалізацыя *Энеіды*. Па-першае, рукапісам, датаваным жніўнем 1851 г., Б. Залескага; па-другое, артыкулам П. Шастакова *Духовщинское подрѣчіе* ў газеце «Смоленскія губернскія вѣдомости»; па-трэцяе, публікацыяй К. Равінскага ў газеце «Смоленскій вѣстникъ» (1890) і інш.

Як бачна, дастаткова шмат пісьмовых крыніцаў – друкаваных і рукапісных. Але ці дастаткова добра мы ведаем гэтыя крыніцы? Увогуле, дзе яны, тыя крыніцы?

---

[1] Вядома, калі не быць упэўненым, што В. Равінскі з’яўляецца аўтарам паэмы.

Як вядома, Я. Карскі на пачатку XX ст. працаваў з трыма рукапіснымі копіямі беларускае *Энеіды*, а таксама з дзвюма ейнымі публікацыямі. Рукапісы ён называў «древнѣйшими списками»: два з іх у той час захоўваліся ў бібліятэцы «Московскаго Общества Исторіи и Древностей россійскихъ» (пад нумарамі 147 і 164) сярод папераў В. Бадзянскага, а трэці – у «Пражскомъ Музеѣ» сярод папераў П. Шафарыка.

Першы, недатаваны рукапіс ім ахарактарызаваны наступным чынам:

> Первая запись, сдѣланная латиницей, имѣетъ следующее заглавіе (русскими буквами): *Отривокъ изъ 1-ой пѣсни Енеиды, вывороченной на изнанку на Бѣлорусскій языкъ, по образцу Малороссійской Котляревскаго, г-мъ Мысловскимъ (въ губ. Витебскѣ)*[1] [Карскій 1908: 5].

Нейкіх іншых дэталяў пра гэты дакумент Я. Карскі не падаваў, але з апублікаванае ім зводнае рэдакцыі *Энеіды* можна было зразумець, што складаўся ён з больш чым са ста радкоў. Навуковец некалькі дзясяткаў разоў выкарыстаў тэкст рукапісу ў спасылках да зводнае рэдакцыі, прычым цытаваў арыгінал як лацінкаю, так і ў «транскрипціи» (правільна: транслітарацыі). Аднак у ягоным цытаванні не зусім зразумелым было адлюстраванне на пісьме гуку [ў] літараю ***û*** (***ў***): *byû, zahulaûsia, пирапугаўся, парваўся, woûkot, paznaû, zakryczaû*. Заставалася здагадвацца, ці то гэтак было ў арыгінале, ці то сам Я. Карскі, згодна са сваімі прынцыпамі запісу, мадэрнізаваў тэкст. Усё ж такі да нядаўняга часу лічылася, што першым (праўда, у друку) пачаў абазначаць гук [ў] адмысловым знакам А. Рыпінскі ў 1840 г. [гл.: Хаўстовіч 2006: 94; Packajeu 2017, online; Packajeu 2021, online]:

> Dla dokładnego napisania tych piosnek, a zwłaszcza: chcąc napisać tak jak się wymawiać powinno, alfabet nasz polski wystarczyć nie może. Chciałem więc tu wprowadzić nowe ***u*** s półkołem na wiérzchu, czyli łacińskim znakiem *brevis* używanym przy skandowaniu wiérszy; ale w niedostatku tego w drukarni naszéj: musiałem na to miejsce przyjąć daszek [Rypiński 1840: 35–36].

Беларускім гісторыкам літаратуры XX ст. дадзены рукапіс *Энеіды* быў недаступны: “Дзе ён цяпер – невядома” [Кісялёў 2003: 357].

На нашую думку, дадзены рукапіс – мы будзем яго называць *Рукапісам Мыслоўскага* – вельмі важны дзеля разумення шляху беларускае *Энеіды* да сучаснага чытача. 103 радкі твора, занатаваныя ў сярэдзіне 1830-х гг. для В. Бадзянскага (ці самім В. Бадзянскім), пэўна, з’яўляліся копіяй з нейкага іншага рукапісу. У тым, што рукапіс-пратограф існаваў – сумнявацца не даводзіцца, бо менавіта на ягонай падставе Л. Кавелін падрыхтаваў публікацыю паэмы ў часопісе «Маякъ»; ён мог быць крыніцаю тэксту, які захавалі ў памяці З. Харошча і М. Маркс.

Другі рукапіс беларускае травестацыі, які меў Я. Карскі, датаваны 1837 г. Навуковец даводзіць, што ўзнік ён на падставе папярэдняга:

---

[1] Я. Карскі недакладны: рукапіс Мыслоўскага меў крышку іншы тытул (гл. ніжэй). Навуковец тут занатаваў тытул рукапісу, які В. Бадзянскі прэзентаваў П. Шафарыку, запазычваючы адтуль таксама і геаграфічную лакалізацыю «(въ губ. Витебскѣ)», якую “ажыццявіў” алоўкам П. Шафарык.

> Этотъ отрывокъ собственноручно переписанъ Бодянскимъ, за исключеніемъ послѣднихъ 23 строкъ, русскими буквами[1] для извѣстнаго слависта П.І. Шафарика въ 1837 г. [Карскій 1908: 5].

Сам Я. Карскі не наведваў, здаецца, Прагу, але ў спасылцы ён паведамляе, што «списокъ намъ любезно сообщенъ проф. В.А. Францевымъ» [Карскій 1908: 5], які з'яўляўся замежным сябрам Чэшскае Акадэміі навук і мастацтваў і, трэба думаць, меў доступ да матэрыялаў П. Шафарыка (яшчэ ў 1902 г. ён абараніў магістарскую працу па гісторыі чэшскага адраджэння).

Беларускія навукоўцы пазнаёміліся з гэтым рукапісам толькі ў 1980-я гг., калі чэхаславацкі літаратуразнаўца Міхал Мольнар (1930–2006) прыслаў ў Мінск фалькларысту Канстанціну Кабашнікаву (1927–2012) фотакопію дакумента.

Трэці вядомы Я. Карскаму рукапіс славутае беларускае паэмы

> носитъ заглавіе: *ЕНЕИДА съ Малороссійскаго на Смоленскій крестьянскій языкъ, переложенная Викентіемъ Ровинскимъ (помѣщикомъ Духовщинскаго уѣзда).* На оборотѣ заглавнаго листа: «Отъ кандидата Бориса Залѣскаго. 1851 г., августа 11 дня. Москва». *Энеида* писана русскими буквами въ формѣ куплетовъ, большей частью по 10 строкъ каждый. Всего 30 куплетовъ. Въ концѣ приписка: «продолженіе впредь». Въ выноскахъ даются поясненія нѣкоторыхъ малопонятныхъ словъ. Это самый большой отрывокъ бѣлорусской *Энеиды* въ 303 строки (въ «Маякѣ» около 250, а въ спискѣ Мысловскаго для Бодянскаго еще меньше на 23 строки[2]) [Карскій 1908: 6].

Менавіта гэты рукапіс твора стаўся асноваю для зводнае рэдакцыі Я. Карскага, а г. зн. і ўсіх наступных публікацый твора.

Заўважым яшчэ, што як і першы рукапіс з папераў В. Бадзянскага, дадзены «списокъ» Б. Залескага быў недаступны беларускім даследнікам.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля Я. Карскага быў выяўлены чацвёрты рукапіс беларускае *Энеіды*; ён знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургскім філіяле Архіва Расейскае акадэміі навук (Санкт-Петербургский филиал Федерального государственного бюджетного учреждения науки Архива Российской академии наук; СПбФ АРАН) у фондзе Ізмаіла Сразнеўскага

---

[1] В. Бадзянскі, маючы пачатак беларускае *Энеіды* лацінкаю, транслітаруе яе на «гражданку», бо расейскі навуковец перакананы: беларуская гаворка, як складковая частка расейскае мовы, павінна карыстацца тым жа, як і яна, алфавітам. П. Шафарык, які з сучаснай беларускай пісьменнасці ведаў толькі тэксты лацінкаю [напр., у кнізе Лукаша Галамбёўскага *Lud polski*… (1830), катэхізісе *Krótkie zebranie nauki chrześciańskiej*… (1835) ды *Białorusi*… (1840) А. Рыпінскага], відаць, не бачыў нічога дзіўнага ў выкарыстанні «гражданки» для беларускага пісьма, бо быў знаёмы з даўнімі беларускімі кірылічнымі публікацыямі.

[2] Калі літаральна прачытаць дадзенае сцвярджэнне, то атрымліваецца, што самы даўні спісак *Энеіды* мае прыкладна 225 радкоў. Насамрэч, рукапіс Мыслоўскага налічвае толькі 103 радкі.

(1812–1880). Калі і якім чынам ён туды трапіў, – звестак не захавалася[1]. Сённяшні архіўны адрас: СПбФ АРАН, фонд 216 [*Срезневский Измаил Иванович, (1812-1880), филолог, славяновед, академик АН*], вопіс 3 [*Собрание автографов разных лиц*], справа 376 [*Ров… В.П. «ЭНЕИДА с малорусск. на Смоленский крестьянский яз. переложенная». Автограф. F°. 8 листов*]. Нашую ўвагу ў назве справы прыцягвае слова *«Автограф»*. Але, думаецца, гэта супрацоўнікі архіва, не маючы дадатковых звестак, успрынялі дакумент сярэдзіны XIX ст. невядомага ім ***Ров… В.П.*** як аўтарскі.

Рукапіс выявіў у 1950-я гг. (?) Лукаш Бэндэ (1903–1961). Ён перапісаў тэкст *Энеіды*, плануючы, пэўна, апублікаваць ці выкарыстаць у сваёй навуковай працы, але хіба не выкарыстаў: ягоных згадак пра паэму ў друку мы не сустракалі. Паводле пазнакаў Л. Бэндэ, тэкст *Энеіды* знаходзіцца на аркушах 1v – 7.

У 1980-я гг. (?) гэты рукапіс у ленінградскім акадэмічным архіве паўторна выявіў Іван Цішчанка (1930–2001). Здаецца, у друку пра сваю знаходку вядомы навуковец-фалькларыст таксама не паведамляў, але з копіяй спісу пазнаёміў Г. Кісялёва, які наступным чынам ахарактарызаваў дакумент:

> Спіс азагалоўлены: *ЭНЕИДА, с малорусского на Смоленский крестьянский язык переложенная В.П. Ров*… Аўтар пазнаецца адразу, хоць у ранейшых вядомых спісах крыптанім выглядаў крыху інакш. Вось так і бытаваў гарэзлівы твор – калі з поўным імем аўтара, а часам са свядомымі скарачэннямі: В.П. Ров…, В.П. Р-ский. Разумны, маўляў здагадаецца, а іншым і ведаць без патрэбы. Дарэчы, хто пускаў у свет гэтыя празрыстыя скарачэнні-крыптанімы? Напэўна, сам аўтар. Іншае цяжка сабе ўявіць. <…> Але прадоўжым знаёмства з пецярбургскім спісам, “спісам Цішчанкі”, як у думках я яго называю.
>
> Жил-был Яней дятюк хупавый… –
>
> з першых жа радкоў пераконваешся, што прывезены Цішчанкам з неўскіх берагоў тэкст блізкі да аўтарскага, хоць гэта, як паказала арганізаваная І. Цішчанкам і Я. Янушкевічам прафесійная экспертыза, і не аўтограф. Учытваюся ў акуратна перапісаныя строфы, каторы раз паддаюся чароўнасці старасвецкага жартоўнага верша… [Кісялёў 2005: 274][2].

Такім чынам, у беларускіх савецкіх даследнікаў была магчымасць ажыццявіць навуковую публікацыю двух спісаў *Энеіды навыварат*[3] павод-

[1] У паперах І. Сразнеўскага захоўваюцца лісты Восіпа Бадзянскага (ад 30.08.1853 г.) і мастацтвазнаўца Дзмітрыя Аляксандравіча Равінскага (з 1869), пляменніка Вікенція Равінскага. Магчыма нехта з іх і даслаў на просьбу акадэміка копію беларускае *Энеіды*. Больш праўдападобна (мяркуючы па асаблівасцях пісоўні твора), што зрабіў гэта Дз. Равінскі.

[2] Пра знаходку І. Цішчанкі Г. Кісялёў коратка згадаў на пачатку 1990-х гг. у даследаванні *Ад Чачота да Багушэвіча* [Кісялёў 1993: 277].

[3] Навуковае выданне *Энеіды навыварат* паводле першапублікацыі ў часопісе «Маякъ» здзейснена Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР у 1962 г. Тэкст рыхтаваў Пётр Вярхоў (1921–1975) [гл.: Ананім 1962: 88–93].

ле г. зв. “даўніх” рукапісаў. Але, відаць, пасля зводнае рэдакцыі Я. Карскага, а таксама амаль двух дзясяткаў выданняў (асобных і ў хрэстаматыях ці зборніках) паэмы ў Беларусі цягам 1918–1988 гг. навукоўцы не бачылі ў гэтым патрэбы.

Стагоддзе пасля Я. Карскага даследнікі ў асноўным імкнуліся пацвердзіць атрыбуцыю твора, якую здзейсніў на пачатку XX ст. “заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства”. Вядома, дзякуючы працам Ізраіля Баса (1913 – ?) і Генадзя Кісялёва значна пашырылася аргументацыйная база. Сёння аўтарства В. Равінскага прынятае пераважнай большасцю беларускіх літаратуразнаўцаў. Прапаноўвалася нават канчаткова вырашыць справу “практычным навуковым рашэннем” (Алесь Яскевіч), на што Г. Кісялёў дазволіў сабе паіранізаваць:

> Праўда, як гэта можа выглядаць? Пастанова Вучонага савета Інстытута літаратуры? Рашэнне рэспубліканскай канферэнцыі літаратуразнаўцаў? Судовая пастанова? [Кісялёў 2005: 273].

Але адначасна ён ўхваліў рашэнне Алега Лойкі і Вячаслава Рагойшы “перавесці” паэму з раздзела ананімных твораў у раздзел аўтарскіх: калі да 1988 г. твор друкаваўся як ананімны, дык у хрэстаматыі “для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў” сцвярджаецца: “Сучасны ўзровень беларускага літаратуразнаўства аўтарам ананімнай паэмы *Энеіда навыварат* дазваляе лічыць В. Равінскага” [Лойка, Рагойша 1988: 454].

Больш за тое: у доктарскай дысертацыі Г. Кісялёва прагучала думка, што праблема атрыбуцыі *Энеіды навыварат* канчаткова вырашаная:

> Ад погляду на паэму *Энеіда навыварат* як на ананімны твор час ужо адмовіцца. Як мы бачылі, аўтарскі твор стаў на нейкі час “ананімным” толькі з-за перарывістасці культурных традыцый, а таксама недастатковай увагі, інертнага стаўлення да гэтага пытання нашага літаратуразнаўства [Кісялёў 1993: 354].

І заклікаў працягваць шукаць новыя крыніцы па праблеме аўтарства *Энеіды навыварат*: магчыма яны некалі ўвянчаюцца знаходкай аўтографа паэмы, іншых рукапісаў яе аўтара Вікенція Равінскага [Кісялёў 1993: 354].

Але, відаць, з часам знаны навуковец зразумеў, што нягледзячы на аграмадную колькасць сабраных аргументаў на карысць аўтарства В. Равінскага, усе яны маюць адно ўскосны характар. Дык сваю апошнюю публікацыю, дзе ішла гаворка пра твор і ягонага аўтара, назваў не *Вікенцій Равінскі*, а *Энеіда навыварат* [Кісялёў 2007: 134–151].

У апошні час даследнікі выявілі шэраг надзвычай цікавых дакументаў, якія хоць і не вырашаюць праблему аўтарства, але дазваляюць казаць пра пачатак новага этапу вывучэння паэмы *Энеіда навыварат*.

Антон Францішак Брыль натрапіў у Расейскай дзяржаўнай бібліятэцы (Российская государственная библиотека) на рукапісны *Сборник историко-литературный о войне 1812–1814 гг.*, у склад якога ўваходзілі літара-

турныя творы, якія калісь называў і прыпісваў В. Равінскаму ягоны ўнук К. Равінскі [Брыль 2020: 164–166].

Зборнік знаходзіцца ў 218 фондзе рукапіснага аддзела бібліятэкі. У 894 справе фонда 42 дакументы на 306 старонках. Чатыры з іх, на думку А.Ф. Брыля, належаць В. Равінскаму, а сам зборнік складзены нейкім з Равінскіх, найбольш вераемна – паручнікам Апалонам Равінскім, стрыечным братам Вікенція [Брыль 2020: 166].

Пададзім апісанне дакументаў, якія належаць пяру В. Равінскага, паводле каталогу рукапісаў бібліятэкі:

> 26. «Великий муж субординации 1810 года. Бельск» – сатира, за подписью «Wincent Kow…». Нач.: «Педанты всегда смешны, а, между прочим, мы обязаны им благодарностью за многие открытия…». В конце приписано: «Посвящено автором <… *неразб.*> Ор[ж]анскому».
> Стр. 143–149
> 27. «Ращот капитана с казначеем, в г. Браунау. 1805 г.». («Капитан: Здарова, казначей!..») – в форме диалога. За подписью: «W. K.».
> Стр. 150–152
> 28. «Эпиграмма» («Куда любезный так пустился?...».
> Стр. 153
> 29. «Разговор суеверных соседей: кума с кумою» («Кум: Что в Плотках новаго, какой слух в Шабанах?..» – в форме диалога.
> Стр. 153–156
> [РГБ 218–1: 56].

Яшчэ два дакументы справы – з пэўнасцю можна казаць – належаць Апалону Равінскаму: 30. «Сарминский пансион», нарыс, падпісаны "Ап. Ро…ій", а таксама апошні: «Приказ по 18-й пехотной дивизии с изъявлением дружеских чувств к ней перемещенного на другую должность ее командующего генерал-лейтенанта кн. Щербатова. В конце указано: "Подписал: генерал-майор Гейденрейх. Сверил исправляющий должность старшего дивизионного адъютанта порутчик Ровинский"».

А.Ф. Брыль апублікаваў усе тэксты[1] гэтае справы, якія могуць належаць Вікенцію Равінскаму (гл. вышэй). Адзін з іх (*Великий муж субординации*) напісаны прозаю, іншыя – вершам. Творы В. Равінскага ўзніклі ў прамежку ад 1805 г. да 1818 г., г. зн. якраз у той час, калі – паводле адной з гіпотэз – была створаная *Энеіда навыварат*. Ці знойдзем мы, скажам, пункты судакранання паміж беларускамоўным і расейскамоўнымі тэкстамі ў галіне стылю, тэхнікі верша і інш.? На нашую думку, выразнага падабенства не назіраецца: з аднаго боку, – дасканалы чатырохстопны ямб *Энеіды*, а з другога, – пераважна цяжкі шасцістопны ямб[2] (з шэрагам збояў рытму) В. Равінскага. Складваецца нават уражанне, што аўтар

---

[1] Лічым, што А.Ф. Брыль зусім непатрэбна ў навуковай публікацыі мадэрнізаваў тэксты пачатку XIX ст. Няўжо даўняя расейская пісоўня, наяўнасць "ѣ" і "ъ" могуць перашкодзіць правільна прачытаць і зразумець твор?

[2] Чатырохстопным ямбам напісаная адна эпіграма: усяго чатыры са ста трыццаці васьмі радкоў.

*Энеіды* значна лепш валодае беларускаю моваю, чым В. Равінскі – расейскаю. Так, вядома, мы памятаем, што, як пісаў Канстанцін Равінскі, жыхары Смаленшчыны нават у другой палове XIX ст. не зусім добра размаўлялі парасейску:

> Должен сказать, что в мое время (когда я учился, а затем служил) в Смоленской губернии даже образованные люди из местных уроженцев говорили по-русски неважно, делая часто неправильные ударения, а иногда употребляя и полонизмы. Когда я приехал в Петербург, то мои товарищи по университету и родные, случалось, поправляли мою речь, так неправильно я делал в некоторых словах ударения [Ровинский 2005: 264].

Аднак, пакінуўшы родны кут у чатырнаццаць гадоў (1800), В. Равінскі да сакавіка 1816 г. меў час удасканаліць сваю мову, служачы ў расейскім войску. Зрэшты, і *Ращот капитана с казначеем*, і эпіграмы, і *Разговор суеверных соседей: кума с кумою* напісаны якраз у час "удасканальвання" расейшчыны. Можа, таму ў дадзеных тэкстах В. Равінскага мы адчуваем дух кніжнасці, стыль не самых лепшых паэтаў канца XVIII – пачатку XIX ст.

Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, паэт мог звярнуцца ў сваёй творчасці да тэматыкі і праблематыкі мясцовага жыцця. Відавочна, *Разговор суеверных соседей*… напісаны ўжо ў час побыту на Смаленшчыне[1]. Пра гэта сведчыць і вобраз «нового соседа», якому прысвечана ажно 20 радкоў сатыры:

> Недалеко сказать: вон наш сосед читает,
> Спросишь, когда посеять что, того совсем не знает.
> Какой же будет путь, а матушка учила.
> Пропали денежки; когда б поранее женила[2],
> Так бы хозяйством он получше занимался,
> Теперь же толку нет, над книгой сбаловался.
> [Аноним 2020c: 173].

Такім чынам, В. Равінскі, акунуўшыся ў стыхію вясковага жыцця, у знаёмую з дзяцінства моўную стыхію, мог, набыўшы адно з трох (1798, 1808 і 1809 гг.) друкаваных выданняў *Энеіды* Івана Катлярэўскага, стварыць беларускі адпаведнік славутае паэмы.

Знаёмства з расейскамоўнымі творамі паэта дазваляе падаць два новыя аргументы (на жаль, адно ўскосныя) на карысць аўтарства В. Равінскага.

Па-першае, у сатыры *Разговор суеверных соседей*… згадваецца «отсечка огника»:

---

[1] Звернем увагу: дзве эпіграмы і *Разговор суеверных соседей*…, што датычылі, відавочна, канкрэтных асобаў, не падпісаныя нават крыптанімамі. Пэўна, В. Равінскі не лічыў патрэбным выяўляць сваё аўтарства.

[2] В. Равінскі ажаніўся прыкладна ў 1819 г. Словы «когда б поранее женила» не дазваляюць адназначна сказаць: «новый сосед» нежанаты ці нядаўна ўзяў шлюб.

Меж нас будь сказано, умишко в нем недальный:
Не верит колдунам, смеется над Страдальной.
Отсечку огника, на хлебы наговор,
Алёну даже ведь считает он за вздор.
[Аноним 2020с: 172].

“Вогнік” сустракаецца ва ўсіх захаваных тэкстах *Энеіды*.

А Саука зелье усяка знаетсь,
Дзяцёмъ ёнъ вогникъ атсѣкаетсь…
[Анонимъ 1845: 39].

А Савка зелля вся знаець,
Дзяцёмъ іонъ вогникъ отликаиць…
[РГАДА, 188-1-1394: 106v].

А Савка зелле всяка знаеть,
Дятёмъ ёнъ вогникъ отсѣкаеть…
[БДАМЛіМ, 66-1-564: 9].

Так, “вогнік” вядомы не толькі на Смаленшчыне, не толькі смаленскім крывічам, але і на Віцебшчыне ды Магілёўшчыне[1]. Але ж сімптаматычна: тое, што ў адным тэксце «новый сосед» лічыць «за вздор», у іншым становіцца вартасцю, годнай увагі паганскае царыцы Дыдоны. Цалкам упісваецца ў светапогляд аднаго аўтара.

Па-другое, два тэксты са *Сборника историко-литературного о войне 1812–1814 гг*. падпісаны крыптанімамі ***W. R***. і ***Wincent Row***…[2]. Падобныя крыптанімы мы сустракаем: а). у адным са спісаў беларускага твора (*Энеида Съ малорускаго на Смоленский крестьянский языкъ переложенная* ***В.П. Ров…***) [БДАМЛіМ, 66–1–564: 2]; б). у артыкуле *Духовщинское подречьѣ* Пятра Шастакова ў 50 нумары газеты «Смоленскія губерскія вѣдомости» за 1853 г. (*Энеида, на Смоленское крестьянское наречіѣ переложенная* ***В.П. Р–скимъ***).

Такім чынам, В. Равінскі ў розны час “карыстаўся” рознымі псеўданімамі (крыптанімамі): ***W. R***. (1805), ***Wincent Row***… (1810), ***В.П. Ров…*** і ***В.П. Р–скій*** (1850-я гг.). Праўда, застаюцца сумненні, што менавіта ён сам “стварыў” пададзеныя вышэй крыптанімы. Усё ж расейскамоўныя творы паэта захаваліся, відаць, у копіях: пра гэта могуць сведчыць памылкі, якія паходзяць не ад аўтара, а ад перапісвальніка (Апалона Равінскага?). Яшчэ больш відавочна, што П. Шастакоў, і невядомы перапісвальнік для І. Сразнеўскага спасылаліся не на аўтограф (лепш: рукапіс з дому Равінскіх), а на копію, якую атрымалі ад Равінскіх (як варыянт: самастойна перапісалі з аўтографа [рукапісу з дому Равінскіх]). Цікава: Б. Залескі ў 1851 г. занатоўвае імя і прозвішча аўтара цалкам («переложенная Викентіемъ Ровинскимъ»), а вось перапісвальнік для І. Сразнеўскага з нейкіх прычынаў

[1] “ВО́ГНИКЪ, -*а*, с. м. Струпъ на рукѣ или на лицѣ. Огневица. *Вогникъ прикинувся*” [гл.: Насовіч 1983: 63].

[2] Супрацоўнікі Расейскае дзяржаўнае бібліятэкі расчыталі крыптанімы як ***W. K***. і ***Wincent Kow***…

пакідае толькі пазнавальны крыптанім («переложенная В.П. Ров...»). Пры гэтым копія і аднаго, і другога прызначаліся для чужых людзей (В. Бадзянскага, І. Сразнеўскага). Гэтак жа, як і публікацыя П. Шастаковым крыптаніма ***В.П. Р–скій*** у мясцовым друку. Чаму толькі ў 1850-я гг., праз шэсць гадоў пасля публікацыі пад прозвішчам І. Манькоўскага, у *Энеіды навыварат* з'яўляецца новы аўтар, які да таго ж не заўсёды падаецца пад поўным прозвішчам? Вядома, нарыс Р. Падбярэскага ў польскамоўнай кніжцы Я. Баршчэўскага на Смаленшчыне маглі і не чытаць. Але вось з XXIII томам часопіса «Маякъ» нехта з вялікага роду Равінскіх павінен быў пазнаёміцца.

Не можам мы не звярнуць увагі і на тое, што крыптанімы В. Равінскага 1805 і 1810 гг. занатаваныя лацінкаю. Пэўную цікавасць выклікае форма другога з іх: ***Wincent Row***... – гэта і не па-польску (правільна: ***Wincenty Row***...), і не па-французску (правільна: ***Vincent Rov***...). Можна меркаваць, што гэтак, па-беларуску, называлі паэта дома. Вікенціем Паўлавічам ён стаў значна пазней[1]. Дык, відаць, ужо час, пішучы пра найбольш верагоднага аўтара паэмы *Энеіда навыварат*, варта правільна падаваць ягонае імя – ***Вінцэнт Равінскі***.

Пры ўсёй значнасці выяўленых А.Ф. Брылём літаратурных твораў В. Равінскага, яны не могуць быць дастатковым аргументам, каб мы цалкам адмовіліся ад погляду на беларускую *Энеіду* як на ананімны твор. Яшчэ больш сумневаў у аўтарстве В. Равінскага ўзнікае пасля першага знаёмства з "даўнімі спісамі" твора, якія выявіў зусім нядаўна Вячаслаў Мартысюк у Расейскім дзяржаўным архіве даўніх актаў (Масква) і з дапамогай Міколы Раманоўскага атрымаў копіі з м/ф.

Трэба сказаць, што беларускія гісторыкі літаратуры доўгі час марна імкнуліся знайсці рукапісы *Энеіды навыварат*, якія Я. Карскі называў «древнѣйшими списками». Адзінае, што ўдалося высветліць І. Басу, дык гэта тое, што "спісы" Мыслоўскага і Б. Залескага знаходзіліся да 1933 г. сярод папераў В. Бадзянскага, а потым былі згубленыя [Бас 1969: 6]. Г. Кісялёў пра свае пошукі «древнѣйшихъ списковъ», здаецца, не паведамляў.

Бібліятэка Московскаго Общества Исторіи и Древностей россійскихъ, дзе пасля смерці В. Бадзянскага захоўваліся (у 1877–1879 гг.) паперы навукоўца, была апісаная Ягорам Сакаловым [Соколовъ 1905]. Тут у раздзеле *Труды Бодянскаго по собиранію матеріаловъ по языкознанію и по собиранію памятниковъ народнаго творчества* пазначаныя 22 пазіцыі з пераважна беларускімі матэрыяламі [Соколовъ 1905: 627–629]. Сярод іх – два рукапісы *Энеіды*. Менавіта імі карыстаўся Я. Карскі, калі рыхтаваў сваю публікацыю пра беларускую паэму.

Пасля ліквідацыі ў 1929 г. Общества Исторіи и Древностей россійскихъ ягоная бібліятэка была падзеленая і перададзена ў розныя ўстановы. У пасляваенны час рукапісы бібліятэкі трапілі ў Расейскі дзяржаўны архіў старасвецкіх актаў (тады: Цэнтральны дзяржаўны архіў старасвецкіх

---

[1] У расейскіх афіцыйных паперах XVIII – пачатку XIX ст., мяркуючы па даследаваннях Г. Кісялёва, паэт ніколі, здаецца, не быў запісаны Вінцэнтам.

актаў) і сталіся 188 фондам. У 1980 г. быў зроблены вопіс гэтага фонду, а г. зн. ужо тады можна было выявіць «древнѣйшіе списки» беларускае *Энеіды* [гл.: РГАДА, 188–1–1394]. Але чакаць давялося амаль сорак гадоў. У 2018 г. В. Мартысюк,

> гартаючы чацвёрты том даведніка *Российский государственный архив древних актов. Путеводитель* <…> натрапіў на гэткую пазіцыю: *Бодянский О.М., профессор Московского университета: Материалы по языкознанию, записи белорусского фольклора XIX в.* [*Российский государственный архив древних актов*… 1999, 119]. Зварот да вопісаў РДАДА дазволіў удакладніць інфармацыю: *Записи белорусского фольклора и материалы по языкознанию профессора Московского университета О.М. Бодянского. <Разрозненные тетради. См. Соколов, бумаги О.М. Бодянского, NoNo 144–165.> Российский государственный архив древних актов (РГАДА), Москва. – Ф. 188. Рукописное собрание Центрального государственного архива древних актов (коллекция). – Оп. 1. – Д. 1394. <с. ф.>*. Неўзабаве ўдалося атрымаць і фотакопіі архіўных матэрыялаў, зробленыя з мікрафільмаў [Мартысюк 2023: 255].

Усяго ў справе 114 аркушаў. Дэталёвае апісанне ўсіх дакументаў справы 1394 апублікаваў В. Мартысюк [Мартысюк 2023: 256–258].

Ніжэй мы апублікуем усе даступныя нам сёння рукапісы беларускае *Энеіды*. Таксама лічым патрэбным передрукаваць тэкст, падрыхтаваны Л. Кавеліным паводле рукапісу К. Мыслоўскага («Маякъ», 1845). У той жа час не будзем паўтараць публікацыю К. Равінскага, бо яна ўзыходзіць да таго самага пратографа, што і рукапісы Б. Залескага і І. Сразнеўскага.

Вывучэнне «древнѣйшихъ списковъ» беларускае *Энеіды*, на нашую думку, толькі пачынаецца. Маем надзею, што яно дасць магчымасць пановаму асэнсаваць як праблему аўтарства, так і мастацкія асаблівасці славутага беларускага твора.

## Рукапіс Мыслоўскага

Датуецца рукапіс Мыслоўскага так: не пазней 1837 г. Бо дакладна вядома, што ўжо ў снежні г. г. В. Бадзянскі часткова (80 радкоў са 103) транслітараваў яго з лацінкі на гражданку і падараваў П. Шафарыку. А вось на пытанне: калі В. Бадзянскі атрымаў рукапіс Мыслоўскага? – адказаць даволі складана.

Грунтоўна даследуючы гэтае пытанне, Г. Кісялёў высветліў, што Мыслоўскіх, вераемна звязаных з маскоўскім і пецярбурскім "асяродкамі" зацікаўлення беларускаю *Энеідаю*, было двое[1]: браты Ян (Іван) і Каятан. Г. зн., больш праўдападобна, што старэйшы Ян падчас вучобы ў Маскоўскім універсітэце перадаў рукапіс В. Бадзянскаму:

> Ад гэтага часу мы ж упэўненыя, што гэта ён скапіраваў спіс *Энеіды* для Бадзянскага, прычым загаловак склаў так "далікатна", што яго, перапісчыка, пры жаданні можна было лічыць і аўтарам беларускай паэмы. Каго ў залатую пару юнацтва не вабілі паэтычныя лаўры? [Кісялёў 2005: 87–88].

Студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта Я. Мыслоўскі быў нядоўга – менш за тры месяцы: 23 лістапада 1834 г. ён памёр ва ўніверсітэцкім шпіталі. Нягледзячы на гэта, Г. Кісялёў лічыў, што менавіта ён перадаў В. Бадзянскаму (ці нейкаму іншаму?) рукапіс паэмы:

> Восенню 1834 года – часам знаходжання Івана Мыслоўскага ў Маскве – хутчэй за ўсё і трэба датаваць віцебскі спіс *Энеіды*, што трапіў да Бадзянскага [Кісялёў 2005: 89].

Сапраўды, Я. Мыслоўскі мог прывезці ў Маскву *Энеіду*. І рукапіс застаўся ў сяброў, напрыклад, у М. Маркса, з якім яны ў адзін дзень прыехалі з Віцебска ў Маскву і запісаліся ва ўніверсітэт [Кісялёў 2005: 86–87]. Калі ж у 1836 г. П. Шафарык звярнуўся да Міхаіла Пагодзіна (1800–1875) даць звесткі пра ўкраінскую і беларускую мовы і літаратуры, дык знаны расейскі гісторык папрасіў свайго былога студэнта В. Бадзянскага зрабіць гэта. Апошні хутка выканаў просьбу адносна ўкраінскае мовы і літаратуры, а вось што датычыць беларускае, то ён, хоць і меў 2500 народных песняў, але

> положил себе правилом: не произносить своего суда о том, чего сам не имел случая видеть, слышать, проверить на туземье: ведь страны-то эти не за горами? Авось, рано-поздно, приведет Бог побывать там, прислушаться, наглядеться, сверить, переверить вычитанное и перенятое от других и, тогда уже, подвесть конечный итог… [цыт. па: Кісялёў 2005: 35].

---

[1] Я. Карскі лічыў: «К.Ф. Мысловскій», што даслаў Л. Кавеліну фрагмент паэмы для публікацыі ў часопісе «Маякъ», – гэта той самы чалавек, які «доставилъ» спіс твора В. Бадзянскаму [Карскій 1908: 5].

Ці не азначае гэта, што В. Бадзянскі, атрымаўшы адказнае даручэнне П. Шафарыка, толькі з красавіка 1836 г. стаў актыўна цікавіцца “беларускім пытаннем” і наладзіў дачыненні са студэнтамі Маскоўскага ўніверсітэта, што паходзілі з Віцебшчыны? А можа, ён з’ездзіў на Беларусь? У першым выпадку ад некага са знаёмых Я. Мыслоўскага ён атрымаў два аркушы з тэкстам *Энеіды*[1]; у другім – В. Бадзянскі сустракаўся з К. Мыслоўскім у Віцебску[2] ці якім іншым месцы. Першы варыянт, на думку Г. Кісялёва, больш рэальны. Мы ж сёння, маючы копію рукапісу Мыслоўскага, маем магчымасць высветліць гэтае пытанне: варта параўнаць характар пісьма (почырк) перапісвальніка *Энеіды* і прашэнне аб прыняцці ў студэнты Маскоўскага ўніверсітэта, якое захавалася ў Цэнтральным дзяржаўным архіве г. Масквы (Центральный государственный архив г. Москвы)[3] ў фондзе 418 [Канцелярия Московского университета], вопіс 104, справа 166[4]. На жаль, мы пакуль не змаглі атрымаць электронную копію дакумента.

На нашую думку, вельмі важна ведаць, хто быў перапісвальнікам першага вядомага сёння рукапісу беларускае *Энеіды*. Калі зрабіў гэта Я. Мыслоўскі, то ўпэўнена можна будзе датаваць дакумент першаю паловаю 1830-х гг.

У 1834 г. В. Бадзянскі, закончыўшы ўніверсітэт са ступенню кандыдата славесных навук, пачаў працаваць у 2-й Маскоўскай гімназіі, г. зн. у верасні–лістападзе г. г. ён не мог сустракацца з Я. Мыслоўскім. Больш за тое, у гэты час В. Бадзянскі актыўна займаецца ўкраінскаю тэматыкаю: выдае два зборнікі на аснове ўкраінскага фальклору *Малороссийские вирши* (пад псеўданімам Бода-Варвынец) і зборнік народных казак *Наськы украинськы казкы* (пад псеўданімам Запорозьця Иська Матырынки) ва ўласнай паэтычнай апрацоўцы і рыхтуе да абароны навуковую працу *О народной поэзіи славянскихъ племенъ*: *разсужденіе на степень магистра Философского факультета перваго отделенія* (1837). Тут, дарэчы, навуковец абмежаваўся

> разсмотрѣніемъ естественной, безыскусственной народной Поэзіи Славянскихъ племенъ, нимало не касаясь той народной Поэзии ихъ, которая должна была развиваться изъ нея, какъ своего корня [Бодянскій 1837: 16].

---

[1] Паводле кніжачкі *Отчетъ Императорскаго Московскаго университета съ 1го Января 1835го по 1е Января 1836го* года студэнтамі ўніверсітэта былі наступныя ўраджэнцы Віцебшчыны: Каятан Касовіч (3 курс, славеснае аддзяленне), Уладзіслаў Шпак (3 курс, славеснае аддзяленне), Васіль Вайцахоўскі (1 курс, славеснае аддзяленне), Альберт Радзевіч (1 курс, славеснае аддзяленне), Геранім Марцінкевіч (1 курс, аддзяленне маральных і палітычных навук), Максіміліян Маркс (1 курс, медыцынскае аддзяленне) [гл.: Анонимъ 1836, online].

[2] Трэба, аднак, мець на ўвазе, што ў маі 1836 г. К. Мыслоўскі ўжо служыў у Пецярбурзе ў губернскай ўправе [гл.: Кісялёў 1972: 55].

[3] Раней: Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў г. Масквы.

[4] Студэнцкую справу Я. Мыслоўскага выявіў Г. Кісялёў.

Г. зн. літаратурныя тэксты яго не цікавілі. Увогуле, разважаючы пра паэзію славянскіх плямёнаў, В. Бадзянскі асноўную ўвагу звяртае на песні чэхаў, мараваў, славакаў, палякаў, сербаў, «сѣверныхъ руссовъ (велико-руссовъ)» і “южныхъ руссовъ (украинцевъ, малороссіянъ)». Перашкодаю для аналізу вуснай народнай творчасці іншых славянскіх плямёнаў было «отсуствіе собранія народныхъ поэтическихъ произведеній Бѣло-Руссовъ, Болгаръ, Словенцевъ…» [Бодянскій 1837: 140]. Ён мае на ўвазе, вядома, адсутнасць друкаваных зборнікаў. Прынамсі, беларускія народныя песні ён мае ў рукапісе:

> Исключая пѣсень Бѣло-Русскихъ, коихъ только несколько напечатано въ «В[ѣстникѣ]Е[вропы]» и «Молвѣ». У насъ имѣется около *двухъ тысячь*, 2.000, пѣсень Бѣло-Русскихъ, но всѣ онѣ преимущественно *свадебные и обрядные* [Бодянскій 1837: 141].

«Около двухъ тысячь» – гэта, відаць, са збораў Зарыяна Далэнгі-Ходакоўскага. Ці кантактаваў у 1835–1836 гг. В. Бадзянскі ў гэтай справе са студэнтамі з Віцебшчыны? Калі так, дык мог атрымаць ад сяброў нябожчыка Я. Мыслоўскага і *Энеіду*. І гэта менавіта яны (ці нехта з іх) прыпісалі яму аўтарства. Бо ведалі беларускі літаратурны твор менавіта ад Я. Мыслоўскага.

Звернем увагу: рукапіс Мыслоўскага – двухмоўны: тытул запісаны па-расейску, тэкст паэмы – лацінкаю па-беларуску, спасылка-тлумачэнне на палях («Бахциха содержательница пивного погреба въ Бѣшенковичахъ Витебской Губерніи») – зноў па-расейску; напрыканцы маецца таксама пазнака («и проч.»), якая сігналізуе, што перапісвальнік ведае (ці мае), але з нейкіх прычынаў не занатоўвае працяг паэмы. Наколькі можна меркаваць паводле фотакопіі рукапісу, і тытул, і тэкст паэмы, і інш. запісаныя рукою аднаго чалавека і адным атрамантам[1]. Тытул, дадзены ім беларускай *Энеідзе* (*Отривокъ изъ 1ой пъсни Энеиды вывороченной на изнанку на Бълорусскій языкъ, Гномъ Мысловскимъ*), відаць, “запазычаны”, ці лепш сказаць: створаны на ўзор тытулу расейскае *Енеиды* М. Осіпава. Відаць, перапісвальнік быў знаёмы не з першым (*Виргиліева Энейда, на изнанку*, 1791), а другім ці трэцім выданнем (*Виргиліева Энейда, вывороченная на изнанку*. Н. О., 1800; 1801). Цікава і тое, што перапісвальнік не выкарыстоўвае тытулы выданняў украінскае паэмы: першае называлася *Малороссійская Енеида въ трехъ частяхъ: Енеида на малороссійскій языкъ перелицованная И. Котляревскимъ* (1798). Падобны тытул мела і другое, зноў “пірацкае”, выданне: *Енеида на малороссійскій языкъ перелицованная И. Котляревскимъ* (1808). І толькі трэцяе выданне будзе мець аўтарскі тытул: *Виргиліева Енеида на малороссійскій языкъ переложенная И. Котляревскимъ* (1809).

---

[1] Перапісвальнікам быў, магчыма, сам В. Бадзянскі. Да такое думкі мы прыйшлі параўноўваючы “Рукапіс Мыслоўскага” з вядомымі ўзорамі почырку даследніка-славіста. На жаль, невысокая якасць копій не дазваляе сцвердзіць гэта адназначна.

Перапісвальнік валодаў у пэўнай ступені польскаю моваю, хоць часам і памыляўся. Зрэшты, памылак няшмат; ён хіба старанна капіраваў “рукапіс-пратограф”.

Тут варта заўважыць, што пратограф быў напісаны дастаткова абазнаным чалавекам, які, скажам так, адчуваў фанетыку беларускае мовы, да якое здолеў дастасаваць польскую графіку. Прынамсі, гук [ў] быў для яго адметным, бо нават дастасаваў з чэшскага (?) алфавіта дзеля яго адмысловыя графемы ***ŭ*** і ***ů***[1]. Фактычна, ён не меў узораў запісу беларускае мовы, бо іх было зусім мала. Так, Марыя Чарноўская (к. XVIII – п. п. XIX ст.) ў артыкуле *Zabytki mitologii słowianskiey w zwyczajach wieyskiego ludu na Białej Rusi dochowywane* па-рознаму адлюстроўвала на пісьме гэты гук: „Kab moy lon by**ł** tak wieliki jak hetaja farasina”, „Hdzie Kupała naczawała? // <…> Szto **u** Iwana **u**żywała” [Czarnowska 1817: 398]. Тое самае назіраем у Л. Галамбёўскага (1773–1849), які ведаў публікацыю М. Чарноўскае: „światy Pokro**w**! Pokro**w**! // Pokry**w** ziamlu i wadu” [Gołębiowski 1884: I, 65 ], „Kab da**w** Boh dażdać” [Gołębiowski 1884: I, 66], „Pra**w**da! **w**czora na torhu ja bywa**w**” [Gołębiowski 1884: I, 71], „Da nia da**w** mnie Boh, nia sudzi**w** mnie Boh” [Gołębiowski 1884: I, 80]. А таксама Міхала Баброўскага (1784–1848): „Chto ż nas Satwary**u**?” [Anonim 1835a: 52], „Czy ż my byli b u piekle” [Anonim 1835a: 53], „I **w**sio wieru ja dla Ciabie” [Anonim 1835a: 56], „Sława **w** Troycy Jedynomu” [Anonim 1835a: 57].

Сваім мовазнаўчым досведам аўтар рукапісу Мыслоўскага выгодна адрозніваецца ад усіх іншых – вядомых і невядомых – аматараў беларускае пісьменнасці, дзякуючы якім да нас дайшла *Энеіда*. Мы дапускаем, што ён карыстаўся пэўным спісам паэмы, дзе гук [ў] таксама перадаваўся графемаю ***ŭ*** (***ů***). Але, магчыма, гэта ён, Я. Мыслоўскі, студэнт Маскоўскага ўніверсітэта ў адпаведнасці з набытымі філалагічнымі ведамі ў Віцебскай гімназіі здолеў стварыць адмысловую графіку для беларускае паэмы.

Увогуле, цікава, ці хтосьці з выкладчыкаў тагачасных універсітэтаў мог рэкамендаваць фанетычны запіс славянскіх «нарѣчій»? Напрыклад, «Теорію краснорѣчія и критическій разборъ отечественныхъ писателей» выкладаў у 1834–1845 гг. Давыдаў, які тлумачыў на падставе працаў Антуана Кур дэ Жэбелена (1719? – 1784) агульную «Аналитику слова», паказваў «отличительные свойства отечественнаго языка съ историческими указаніями». Ад’юнкт Гаўрылаў выкладаў «Упражненія въ россійской словесности», ад’юнкт Шавыроў – «Исторю словесности» і «Правила русскаго слога». Апрача таго, лінгвістычныя навыкі студэнты атрымлівалі на занятках лацінскае, грэцкае, а таксама ўсходніх моваў [гл.: Анонимъ 1836, online].

Хіба самым дасведчаным мовазнаўцам сярод ураджэнцаў Віцебшчыны быў у той час у Маскоўскім універсітэце Каятан Касовіч (1814–1883), які якраз у 1836 г. заканчваў навучанне на славесным аддзяленні. Але,

---

[1] Магчыма, усё ж літара ***ů*** “атрымалася” ў перапісвальніка як варыянт ***ŭ***. Альбо так было ў пратографе і перапісвальнік дакладна скапіраваў свайго папярэдніка.

апублікаваная ім у «Молвѣ» (1835, № 21) за подпісам «Бѣлоруссъ К. К.» «бѣлорусская пѣсня» *Скажи, клёнъ, чи ты не деревце?* дазваляе станоўча запярэчыць пра датычнасць будучага славутага навукоўца-ўсходазнаца да рукапісу Мыслоўскага. Дастаткова далучыць колькі радкоў песні, запісанай са слоў селяніна ў Полацкім павеце:

– Скажи, клёнъ, чи ты не деревце?
А мой братецъ чи не молодецъ?
Гдѣ мой братецъ, гдѣ мой молодецъ? –
Пошла жъ она да къ сосѣдушкамъ:
– Вы сосѣдки и сосѣдушки
Чи не видѣли мойго брата?
Чи не чули объ моемъ родномъ? –
Одинъ кажить: я не видѣлъ;
Другой кажить: я не слышалъ;
Третій кажить: я тамъ бывалъ
И твойго брата видалъ.
Забитъ онъ, забитъ при дорожечкѣ,
Забитъ при широкой,
Буйный головой у ширый боръ,
Скорыми ножками къ дорожкѣ.
[цыт. па: Прыгодзіч 2008: 41].

К. Касовіч ледзь не цалкам адмовіўся ад захавання асаблівасцяў беларускае мовы: акання і якання, дзекання і цекання. Апрача таго, перадаючы гук [ў] дыграфам ***лъ***, ён збліжаў беларускую мову з расейскаю, паўтараючы меркаванне асобных расейскіх навукоўцаў, што беларускай мове

> только польское произношение и привившиеся польские обороты мешают сделаться таким языком, каким говорят подмосковные простолюдины. Сие мнение, принадлежащее господину профессору Каченовскому, подтверждается этим туземным документом [цыт. па: Прыгодзіч 2008: 42].

У духу расейскіх гісторыкаў і мовазнаўцаў вытрымана і астатняя частка ўступнае нататкі К. Касовіча. Складваецца ўражанне, што малады філолаг імкнецца давесці, што беларуская мова – гэта не польская і не літоўская, але і не руская. Яна адно «бѣлорусское нарѣчіѣ», блізкае да расейскае мовы:

> *Руський* по белорусскому произношению значит *русский*; это слово употребляется только в Белоруссии, и то в просторечии, и указывает на близкое родство Белоруссии с Великоруссиею, хотя белорус и не скажет про москвича, что он говорит *по-руськи*, но *по-московски* [цыт. па: Прыгодзіч 2008: 42].

Прыклад К. Касовіча даводзіць, што рукапіс Мыслоўскага не мог узнікнуць пад уплывам мовазнаўчае навукі прафесараў Маскоўскага ўніверсітэта. Відаць, Я. Мыслоўскі занатаваў беларускую *Энеіду* яшчэ да паступлення ва ўніверсітэт. Пацвярджаецца гэта яшчэ і тым, што К. Мыслоўскі меў вельмі блізкі спіс твора і , да таго ж, таксама настойваў

на адметнай перадачы на пісьме гуку [ў]: Леў Кавелін, аднак, праігнараваў ягоную параду: літары ***ў*** у гражданцы ў той час не з'явілася.

Усяго 69 разоў у "Рукапісе Мыслоўскага" для абазначэнні гуку [ў] выкарыстоўваецца адмысловая графема ***ŭ*** (***ů***). Практычна літара ***ў*** пасля галосных расстаўлена бездакорна. Хіба толькі дзеля рытму [ў] некалькі разоў становіцца [у] ("Parniuk niaŭwoszta ukrasiů", "Ina usieŭwszy pakaciłaś"). З гэтаю ж мэтаю колькі разоў замест [у] з'яўляецца [ў] ("Jak – ŭ wir ŭsich torczma haławoj"). Двойчы гэты гук абазначаецца літараю ***w***: "Skaciŭsia s pieczki w adziń mih"; "Wprahi paŭlina…".

Перапісвальнік "Рукапісу Мыслоўскага" валодаў таксама ведамі ў галіне вершазнаўства. Гэта хіба ягонаю рукою (можам меркаваць толькі па атраманту) на першай старонцы злева ўгары пададзены рытмічны малюнак верша *Энеіды*:

˘ – ˘ – ˘ – ˘ – ˘

˘ – ˘ – ˘ – ˘ –

Узнікла гэтая схема, відаць, пасля спісання тэксту паэмы. Так перапісвальнік вызначыў вершаваны памер паэмы – чатырохстопны ямб. Магчыма, звярнуў увагу, што колькі разоў заўважаецца збой рытму: "A Jawuł u batraki naniaŭsia", "Zabileła sia i rawieła". Што датычыць строфікі, дык у рукапісе падзел на строфы адсутнічае. Але ўлічваючы тое, што і расейская, і ўкраінская паэмы пісаліся адычнаю страфою, мы шукалі адычную страфу і ў беларускім творы. На 103 радкі "спісу Мыслоўскага" такая аказала толькі адна ("Niawiedaisz majho ty hora…")[1]. Яшчэ маецца тут шэсць першых чатырохрадкоўяў адычнае страфы і адно – апошняе чатырохрадкоўе.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што тэкст даволі "чысты", выпраўленні фактычна адсутнічаюць. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што перапісвальнік карыстаўся "пратографам". Але часам ён памыляўся, прапускаў радкі. Напрыклад, радок "O Car Carewicz Grap Niaptun" застаўся без рыфмаванае пары. У «МаякЂ»: "О, царь царевичъ Грабъ Няптунъ! // Ты нашъ отецъ, нашъ апякунъ"; у "спісе Б. Залескага": "«О Царь, царевичъ, Тятъ Няптунъ! // Ня буду предъ тобой бряхунъ"; у "спісе І. Сразнеўскага": "О Царь царевичь, грапъ Няптунъ! // Ня буду предъ тобой бряхунъ".

Двойчы перапісвальнік памыліўся, пішучы не тую літару: "zmiału" замест "zmialu", "biały" замест "biary". Двойчы ў тэксце рукапісу сустракаюцца паланізмы: "*Iż* more burknić puzyrami" (тут, відаць, трэба *Aż* ці *Szto*) і "I *sroha* k wietram zakryczaŭ".

Можна адзначыць таксама асобныя дыялектныя асаблівасці, якія адлюстраваныя ў тэксце паэмы:

[1] Яна, дарэчы, адпавядае шостай страфе прапанаванай намі рэканструкцыі *Энеіды* [гл.: Хаўстовіч 2004: 34–35; Невядомы аўтар 2012: 5]. Такім чынам, да трох адычных строфаў (нерэканструяваных!), якія мы выявілі ў зводнай рэдакцыі Я. Карскага, дадаецца чацвёртая.

- характэрнае для паўночна-ўсходняга дыялекту дысімілятыўнае аканне / яканне: nichaj, ik pani, ina, ik raz, pirapieczki, kawirzieńki, padplitaŭ, pryjawu, pacikła, ni budu, zabileła sia, ścibaŭ, siadzieŭ, niaczyścik, niaŭwoszta, wiapier, ciabie, zmiatu, miakotnaho, śpiaczy і інш.

- цвёрдае ***р***. Але: padariŭ, priszła, prikazaŭ.

- уніфікаваны канчатак з мяккім ***-ць*** дзеясловаў трэцяе асобы адзіночнага ліку: pahubić, pasadzić, pływieć, pjeć, zadajeć, preć, budzić.

- ужыванне (пад уплывам расейскае мовы) літары ***о*** на месца ***а***: miakotnaho, dzieło, cieło, po-nutru, moja, niwodnaho, woŭkom.

І яшчэ на адну фанетычную асаблівасць варта звярнуць увагу – на г. зв. цоканне, якое характэрнае для паўночна-ўсходняга дыялекту беларускае мовы, што адзначыў у свой час Я. Карскі:

> смѣшеніе ***ц*** и ***ч*** въ бѣлорусскомъ нарѣчіи изрѣдка встрѣчается вообще въ сѣвернобѣлорусскихъ говорахъ, но особенно распространено въ части Себежскаго уѣзда, въ Велижскомъ, Бѣльскомъ Смол. г., Духовщинскомъ, Порѣчскомъ (вылучэнне нашае. – *М. Х.*) и Ржевскомъ [Карскій 1903: I, 498].

Характэрна, што цоканне «особенно распространено» «въ Велижскомъ» павеце, адкуль паходзілі Мыслоўскія[1], і ў «Духовщинскомъ» павеце, дзе нарадзіўся і доўгі час жыў найбольш верагодны аўтар беларускае *Энеіды* В. Равінскі. Аднак – як ні дзіўна! – гэта з’ява амаль не знайшла свайго адлюстравання ў «запис[и] Бориса Залѣскаго 1851 г. <…> сам[ой] исправн[ой] и полн[ой]» [Карскій 1908: 18]. Праўда, Я. Карскі адзначыў адзін выпадак цокання:

> *Кацатыгъ* во всѣхъ редакціяхъ. У Носовіча нѣтъ, у Даля «кочедыкъ» лапотное шило. Интересно смоленское смѣщеніе ***ч*** и ***ц*** (ср. *Бѣлоруссы*, I, 223) [Карскій 1908: 9].

Адсутнічае цоканне (за выключэннем слова *kacatyh*) і ў “Рукапісе Мыслоўскага”, а вось у версіі К. Мыслоўскага, апублікаванай у часопісе «Маякъ», цоканне адлюстравана (*на пецкѣ*, *на перепецкѣ*, *кацатыхъ*, *съ пецки*, *драцона*, *вѣцно*, *цы смоль вы у Щутца*, *за цѣмъ*), хоць літара ***ч*** ужываецца значна часцей – больш за сорак разоў.

Чаму аўтар *Энеіды*, які нібыта паходзіў з рэгіёна, дзе «особенно распространено» цоканне, “адмовіўся” адлюстроўваць яго ў сваім творы, і толькі адзін з перапісвальнікаў часткова яго выкарыстаў?

На нашую думку, “Рукапіс Мыслоўскага” паўстаў на аснове копіі, якая паходзіла з дому Мыслоўскіх. Гэтую копію, магчыма, паводле вуснага аповеду, запісала асоба, якая добра ведала беларускую мову і даволі добра адлюстравала на пісьме асаблівасці мовы, ці не ўпершыню ў гісторыі айчыннага пісьменства ўводзячы ва ўжытак графему ***й*** дзеля перадачы гуку [ў].

[1] Вёска Асінавая Калода (гміна Будніца) блізу Веліжа належалі Мыслоўскім цягам ці не ўсяго XIX ст. Зрэшты, мы не ведаем дакладна, ці жылі яны тут стала.

Іншы погляд, прынамсі, у 1880-я гг., на праблему перадачы на пісьме гуку [ў] меў М. Маркс. У зносцы[1] да сваіх успамінаў ён адмыслова зазначыў:

> ***V*** używam dla oddania dzwięku *u krótkiego*, jak w łacińskich dwugłoskowych ***au*** i ***eu***, we francuzkiem ***oi*** i angielskich ***wa***, ***wo***, ***wi***. Syrokomla pisał *Ułas* w dwie syllaby, gdy rzeczywiście jest to jedna tylko. *Vłas* po rosyjsku *Włas*, po polsku *Błażej* [ZNiO, 14741/III: 49].

Менавіта так ён запісвае фрагменты беларускае *Энеіды* ў сваім *Pamiętniku*, другі раздзел якога назваў *Cóś o gwarze białoruskiej*. У сувязі з тым, што В. Брухнальскі мадэрнізаваў тэкст твора, пададзім яго цалкам паводле рукапісу:

Oto jak Eol spotyka Junonę:

„Zdorov, chwigurnaja (hoża, strojna)[2] Junona,
Davno ciabie ja nie widav"
I try jej zdziełavszy pakłona,
Miakotnaha (ciasta, piróg) na stoł padav.
Ina miakotnaha padjeła,
Uciorłaś chustkyj, tak zapieła:
„Nie znaisz majaho ty hora,
Janiej z trajancami pływieć.
Spichni szwydczej (prędzej) jaho ty v mora.
Nichaj nieczyścik wadu pjeć!
Ty znaisz: baham jon zrodnik[3] (pokrewny),
Złaḍziej, waruha, kanawodnik,
Pryjawu zrobić (nabroi) na świetu.
Za to dziawuchnu ukrasiwu,
Sałodkuju jak z miodym śliwu,
Tabie ja zavtry prywiedu".
Jawoł (Eol) rasczupav (zrozumiał, zbadał) heta dzieła,
Z niaho aż slinka paciekła;
Lubiv cieszyć jon hrjeszna cieła –
Dziewuchna pa nutru paszła (skusiła);
Łupiv jon zuby, barmatav,
I tak Junonie adkazav:
„A woch ci mnie, maja Junona,
Szto budu dziełać ja ciapier (teraz)
Nietuć ni adnaho wietra doma:
Barej, upiwszyś jak wiapier (wiepsz)
Leżyć, opiorszyś na baczonkie,
A Nord pajechav k swojéj żonkie,
Zafir z dzievkami zahulavsia,

[1] У публікацыі В. Брухнальскага адсутнічае.

[2] У В. Брухнальскага адсутнічаюць, узятыя М. Марксам у дужкі, пераклады-тлумачэнні асобных беларускіх слоў.

[3] У В. Брухнальскага: *zvodnik*.

A Jawier (Eures) w batraki (najmity) naniavsia.
Jak choczysz sabie, tak rachuj.
Dy jedź da domu, nie turbuj,
Nie budu tabie lichadziejem,
Nieboś – upravłuś ja z Janiejem!”
I woś Jawoł haleń (miotłę) schwacivszy
Na pańszczynu hukać (zzywać) jon stav,
I woś jon, wietry razpusciwszy
Burlić im mora prykazav.

Eneasz modli się do Neptuna:

“O Car, carewicz, hrap Nieptun,
Zmiłujsia mora uśmiry!
Ja krepkyj tabie ciartuchy (tobaki)
Kabackyj (karczemnej), moszcznyj ja siwuchi (wódki)
A hroszy sam z maszni (kiesy) biery”.
Nieptun da hroszy miev achotu,
Harełku dobra jon ścibav (łykał)
Poczuv, szto budzić za rabotu,
Jak raz na wietry zakryczav:
„Procz, wy nieczyściki, lakruciny,
Z jakij chwantazji wy tut?
Nie to! – skasztujecia dubiny,
I pa nazdram rażnom daduć!”

Uczta po burzy:

Wzialiś trajancy za jadzienje,
Jak z pola pańskie charty.
Była tam z zatovkoj krupienja
Kułahu pchali w żywoty,
Była i huszcza, i draczona,
I parasiacina smażona;
A na zajedku pad kaniec
Z alejem smacznyj sialadziec.

Trojanie stają przed Dydoną:

„My vsie trajańskaha prychoda (parafji)
Dwarcowy piered ciem byli,
I v osień proszłaha hoda
Adtuda v mora uciekli.
My vsiaka dzieła dziełać znaim:
V broware sidzieć zmikajem (umiemy)
Pilip nam lepić harłaczy[1],

[1] У В. Брухнальскага: *hartaczy*.

A Waśka k stupam[1] tavkaczy,
A Savka ziela vsiaka znaić,
Dzieciam jon wohnik (sypkę) adsikaić,
Cukav (sprytny) jon także warażyć,
Czemiery (czary) vsiaki adwadzić.
O wiencekornaja Dzidona,
Ty nas u krepoś (poddaństwo) zapiszy,
V niedzielu (tydzień) rob sabie dwa zhona,
Służyć my budzim ad duszy.
Kaliż[2] nam łaska twaja budzić –
Wieli nam bańku (łaźnię) pratapić;
Adzieżu nużna (trzeba) nam poprudzić (oprażyć),
A to ina tak kiszyć (pełna robactwa),
Szto i na świecie niemożna żyć!”
[ZNiO, 14741/III: 52–54].

Варыянт *Энеіды*, узноўлены М. Марксам, на нашую думку, блізкі да рукапісу Мыслоўскага і версіі, надрукаванай Л. Кавеліным ў часопісе «Маякъ» (Я. Карскі акрэсліў іх як «витебская редакція» паэмы). Але няма падстаў казаць, што ён з'яўляецца копіяй аднаго з іх. Мемуарыст відавочна не меў, а можа і не ведаў пра публікацыю твора Л. Кавеліным і К. Мыслоўскім, бо і да часопіса ставіўся негатыўна[3], і падае радкі, якія былі апушчаны рэдактарам.

Характэрна, што ва ўсіх трох варыянтах «витебской редакціи» *Энеіды* перапісвальнікі імкнуцца як можна дакладней перадаць беларускую пісоўню, адлюстраваць асаблівасці беларускае мовы і нават выкарыстаць новую літару дзеля абазначэння адметнага гуку ў гаворцы беларусаў.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: РГАДА (Российский государственный архив древних актов, Москва), ф. 188 [*Рукописное собрание Центрального государственного архива древних актов (коллекция)*], оп. 1, д. 1394 [*Записи белорусского фольклора и материалы по языкознанию профессора Московского университета О.М. Бодянского. Разрозненные тетради*], л. 43–44v.

---

[1] У В. Брухнальскага:*słupam*
[2] У В. Брухнальскага:*Koliż*.
[3] Ва ўспамінах ў спасылцы падае эпіграму на выдаўцоў часопіса:

Żurnal „Majak”
Izdajot durak
Korsak
A jemu pomagajet
Wsiakoj diczju naczyniajet
Duraczok
Buraczok!
[ZNiO, 14741/III: 58].

## |43г| ***Отривокъ изъ 1ой пѣсни Энеиды вывороченной на изнанку на Бѣлорусскій языкъ, Гномъ Мысловскимъ.***

~ ~ ~ ~ ~ ~ ~ ~ ~ ~ ~

Janiéj[1] dziaciuk wić byŭ[2] ciukawyɉ[3],
Parniuk niaŭwoszta ukrasiů[4] –
I pan udaŭsia niłukawy,
Dastupin – wiesił – nispiasiů. –
No Hreki wujmu[5] narabili,
Ik lada Troju tak spalili –
Kaszel schwaciŭszy[6] na uciok;
I tak zrabiŭszy jon czaŭnok
Trajancami jaho nabiŭ,
I ŭ more sinije puściŭ. –
A jak Junona była złaja,
Ik pani nasza tak lichaja,
Jaho chacieła pahubić,
Ŭ-kacioł u piekle pasadzić –
Za to wot wisz-ty nialubiła ?[7]
Wianiera szto jaho radziła,
A dziaćka zrobiŭ ukazieju;
Junona chwastała swajeju[8],
A jon wianierinu chwaliŭ,

---

[1] Тут і далей перапісвальнік ужывае літару ***é*** (г. зв. ***e*** *ścieśnione*), якая выкарыстоўвалася ў польскай графіцы да канца XIX ст. У мазурскіх дыялектах яна абазначала галосную, сярэднюю паміж ***e*** ды ***i*** (пасля мяккіх зычных) ці ***y*** (пасля цвёрдых зычных), што ўзнікла з доўгага галоснага гуку ***ē***.

[2] У гэтым слове літара ***b***, відаць, папраўленая з ***б***.

[3] Літара ***j*** скрэсленая. На нашую думку, перапісвальнік памылкова прачытаў слова „chupawy" як „ciukawy". Дадзеную гіпотэзу можам пацвердзіць тым, што ў спісе К. Мыслоўскага ўжывалася слова «хупавый».

[4] Тут і ў асобных выпадках ніжэй перапісвальнік гук [ŭ] перадаў як ***ů***.

[5] Уладзімір Даль тлумачыў гэтае слова так: «ВУЙМА *ж. смол.* (уйма?) диво, чудо, небывалый, дивный случай. *Сталася вуйма*» [Даль, online]. Тут і далей даем тлумачэнні толькі тых слоў, якія раней, на нашую думку, тлумачыліся памылкова.

[6] Літара ***ŭ*** папраўленая на месцы нейкае (нейкіх?) іншае.

[7] Магчыма, гэта не пытальнік, а нейкі іншы знак.

[8] Я. Карскі патлумачыў гэтае месца наступным чынам: «Имѣя въ виду бѣлорусскую простоту и откровенность, легко добавить существительное» [Карскій 1908: 20].

I dulku wisz – jéj padariŭ. –
Junona wobłak atpichnuła
Da z nieba na mora ŭ-zhłanuła
Aż woś na czaŭnaki Janiéj –
„Ach ty prachwościna, zładziéj,
Woś ja ciabie zmiału[1] ŭ-tabaku
Rażnom u more ik sabaku –
Skaréj nasoŭku daj mnie Heba
Da-ŭ torbu ty pałoż mnie chleba
Wprahi paŭlina – ŭ taradziejku
Spiaczy jajeszniu da Jndziejku” –
|43v| Ina usieŭwszy pakaciłaś
Ik raz w Jawola aczuciłaś. –
Jawol tahdy siadzieŭ na pieczki,
Miazgu[2] skabliŭ na pirapieczki,
I kawirzieńki padplitaŭ –
A woś abory padabraŭ,
Zatknuŭ za pois kacatyh,
Skaciŭsia s pieczki w adziń mih. –
„Zdaroŭ – chwigurnaja Junona,
Daŭno ciabie ja nie widaŭ”, –
I try jéj zdziełaŭszy pakłona
Miakotnaho[3] na stoł padaŭ. –
Ina miakotnaho pajeła,
Uciorłaś chustkaj – tak zapieła:
„Niawiedaisz majho ty hora,
Janiéj s Trajancami pływieć,
Spichni jaho skaréj ty-ŭ mora
Nichaj niaczyścik wody pjeć. –
Ty wiedaisź Janiéj[4] wić zrodnik,
Zładziej, waruha, kanawodnik,
Pryjawu[5] zrobić na światu. –
Za to dziawuchnu ukrasiwu,

---

[1] Трэба, відаць: *zmialu*. Я. Карскі прачытаў гэтае слова як *zmiatu*, хоць у рукапісе выразна чытаецца літара ***ł***.

[2] Тут: «Заболонь, внутренняя слизистая оболочка дерева (особенно сосны), молодая исподняя кора, еще не затвердевшая; въ *смл.* мязга, сосновая, сушится, толчется и подмешивается къ мукѣ, особенно въ голодные годы, отчего смолянъ называютъ мезѓовниками» [Даль, online].

[3] Паводле студэнта 3-га курса, ураджэнца Смаленшчыны Феадосія Майхроўскага, які адмыслова для В. Бадзянскага падрыхтаваў тлумачэнне дыялектнае лексікі, якая ўжываецца ў беларускай *Энеідзе*: «Мякóтное, Мякóтникъ – небольшая булочка изъ ржаной муки, а иногда и ситной, сверху посоленная передъ тѣмъ какъ надобно садить въ печь» [РГАДА, 188-1-1394: 98].

[4] Літара ***J*** папраўленая на месцы ***n*** ці ***w***.

[5] Літара ***u*** папраўленая на месцы нейкае іншае (***y***?).

Sałodkuju[1] ik z miodam śliwu,
Tabie ja zaûtry prywiadu. –
Jawol raz-szczupaŭ toja dzieło,
Z jaho aż slinka pacikła,
Lubiů jon cieszyć hrjeszna cieło,
Dziawuchna po-nutru priszła.
Łupiŭ jon zuby – barmataŭ,
I tak Junonie atkazaŭ:
|44r| „Awochcimnie![2] moja Junona!
Niwodnaho niet wietra doma,
Szto budu robić ja ciapier –
Barej s pachmiella ik wiapier
Lażyć – ŭ – światlicy na baczonkie
A Nord zajechaŭ – ŭ –czora k żonkie,
Zefir[3] z dzieŭkami zahułaŭsia
A Jawuł[4] u batraki naniaŭsia,
Ik choczysz tak sabie rachuj!
Da jedź damoŭki – ni turbuj –
Tabie ni-budu lichadziejem,
Nioboś upraŭłuś ja z Janiejem,
Papru jaho ja z dziaciukami,
Iż[5] more burknić puzyrami
Jak – ŭ wir ŭsich torczma haławoj
Czarty pacianuć za saboj. –
I woś Jawol haleń schwaciŭszy,
Na pańszczynu hukać jon staŭ –
I woś jon wietry razpuściůszy,
Burlić im mora prikazaŭ. –
Kali chto widziŭ ik Bachcicha*[1]
Niamiecka piwa zadajeć –
Padymicca jano ik licha
Zapienicca i rozna preć –
Aż tak i mora zakipieła
Zabileła sia i rawieła. –
Janiéj tut tak pirapuhaŭsia
Szto u sztanach matuz parwaŭsia, –

---

[1] Першая літара ***и*** папраўленая на месцы ***у***.
[2] «АВО́ХЦИ-МНѢ, межд. Горе мнѣ!» [Насовіч 1983: 2].
[3] Ва ўсіх трох спісах “віцебскае рэдакцыі” неўласцівы беларускай мове гук [ф] перадаецца літараю ***ф***.
[4] Толькі ў спісах “віцебскае рэдакцыі” (Я. Карскі) выкарыстоўваецца гэтае імя бога ветру. У іншых спісах, як і ў М. Осіпава ды І. Катлярэўскага, – Євръ (Евръ). Паходжанне невядомае. Утворанае, магчыма, паводле сугучнасці (ці памылкова) з галоўным богам вятроў, які ў гэтым спісе называецца *Jawol*.
[5] *Iż* (польск.) – што.

Sa strachu slinku papuściŭ
I słowim woŭkom jon zawyŭ. –
|44v| Trajancy – ŭsi kazły zadrali[1]
Saŭ-sich staron jany hukali
Ik u bałoci lisawiéj –
Acznuŭsia zakryczaŭ Janiéj –
O Car Carewicz Grap Niaptun,
Zmiłujsia mora uśmiry –
Ja batasznyj[2] pryszlu ciartuchi,
Kabacznyj smacznyja siwuchi
A hroszy sam z maszny biały[3]. –
Niaptun da hroszy maŭ achwotu,
Harełku dobry jon ścibaŭ –
Paznaŭ szto budzić za rabotu
I sroha[4] k wietram zakryczaŭ. <u>и проч.</u>

*Ad marginem*: *[1] Бахциха содержательница пивного погреба въ Бѣшенковичахъ Витебской Губерніи. –

*Арыгінал. У гары першае старонкі злева пазнака*: № 147. *Крыху ніжэй*: 898. *Апрача таго лічбаю 4 пазначаўся нумар дакумета ў справе, якую архівісты назвалі* Труды Бодянскаго по собиранію матеріаловъ по языкознанію и по собиранію памятниковъ народнаго творчества. *Злева на палях першае старонкі рытмічны малюнак верша* Энеіды:

˘ – ˘ – ˘ – ˘ – ˘

˘ – ˘ – ˘ – ˘ –

---

[1] Тут: «Ссора, нелады. *У нихъ козлы вышли*» [Даль, online].

[2] Відаць, вельмі добрай (магчыма, так называлася тытунёвая фабрыка ці купец, які гандляваў якасным тытунём). У іншых спісах: *чудесной* («Маякъ»), *картузной* (“спіс Залескага” і “спіс Сразнеўскага”).

[3] Трэба, відаць: *biary*.

[4] Ад польск. *srogo* – сурова, грозна; вельмі моцна.

# Рукапіс Бадзянскага

В. Бадзянскі, накіраваны Маскоўскім універсітэтам у навуковае падарожжа па славянскіх краінах, 1/13 снежня 1837 г. прыехаў у Прагу [гл.: Кісялёў 2005: 35–36]. Да гэтага часу ён ужо меў падрыхтаваныя матэрыялы пра беларускую мову і літаратуру, меў з сабою і “рукапіс Мыслоўскага”. П. Шафарыку патрэбны былі “ўзоры” кожнае славянскае мовы. Беларускія тэксты ён, відаць, прасіў у В. Бадзянскага, які колісь (паўтара года таму) пісаў пра сабраныя блізу 2000 песняў. Г. зн. П. Шафарык павінен быў атрымаць нейкую колькасць беларускіх “узораў”. Аднак дзеля кнігі *Slovanský národopis* (1842) ён выкарыстае тры беларускія народныя песні з *Białorusi* (1840) А. Рыпінскага[1], а ў архіве славацкага славіста захаваецца, здаецца, адно фрагмент *Энеіды навыварат*, які В. Бадзянскі ахвяруе свайму старэйшаму калегу 9/21 снежня г. г. Якраз там, у Празе расейскі навуковец транслітаруе беларускую паэму з лацінкі на гражданку, бо «Бѣлорусское нарѣчіѣ», на яго думку і думку П. Шафарыка, разам з «Великорусскимъ» і «Малорусскимъ» належаць да «Русской рѣчи» [Шафарикъ 1843: 5], г. зн. павінны карыстацца адным алфавітам.

П. Шафарык дзеля напісання невялічкага раздзела *Nářečí běloruské* [Šafařík 1842: 29–33] выкарыстаў матэрыялы В. Бадзянскага, які, добра ведаючы ўкраінскую мову, мусіў, аднак, звяртацца да маскоўскіх студэнтаў з Віцебшчыны па дапамогу. “Настаўнік” быў хіба не самы лепшы. Пра гэта сведчаць пададзеныя ім асаблівасці беларускае мовы, пра якія гаворыцца ў кнізе *Slovanský národopis*:

> Признаки. 1. ***А*** вмѣсто ***о*** безъ ударенія: табѣ, каго, багатый, асличокъ, старана, маладый, баюся, пабяжымъ.
>
> 2. ***А*** весьма часто вмѣсто ***ѣ***: граховъ.
>
> 3. ***Я*** часто вмѣсто простаго ***е***: нягодный, цяпѣръ, сястрыца, вяликый, принясли, бярезина.
>
> 4. Смягченіе согласныхъ передъ ***е***: цѣбѣ, нѣ, пѣрына.
>
> 5. ***И*** и ***ы*** смѣшаны, какъ въ Новогородскомъ и Малорускомъ: затымъ, нѣзорыся, сястрыца, пѣрына, мужыкъ, очы, прышый.
>
> 6. ***И*** и ***ы*** вмѣсто ***е***: хочыць, хахочыцъ, будзишъ, чырвоный.
>
> 7. ***У*** вм. ***в***: у колѣцъ[2], у лесѣ, и наоборотъ.

---

[1] У дадатку, дзе змешчаны “ўзоры”, П. Шафарык назаве А. Рыпінскага Рыбінскім і не зверне ўвагу на графему ***û***, якой аўтар *Białorusi* перадаваў гук [ў] [гл.: Šafařík 1842: 158–159]. Цікава, калі П. Шафарык амаль без памылак перадае беларускія народныя песні, надрукаваныя А. Рыпінскім, дык В. Бадзянскі, думаецца, свядома збліжае беларускі тэкст з расейскаю моваю. Напр.: „Lichuju Swiakroû czujesz” [Rypiński 1840: 99], „Lichuju svjakróu čuješ” [Šafařík 1842: 159], «Лыхую свякровь чуѣшъ» [Шафарикъ 1843: 150].

[2] У П. Шафарыка „u koniec”.

8. ***В*** вм. ***у***: въ мѣнѣ.

9. ***В*** часто вмѣсто ***л*** (***ł***), какъ въ Малорускомъ: мавчу, бувъ, завалывся[1], довгый, вавчокъ, ухапивъ.

10. ***Г*** вм. ***г*** (***h*** – ***g***): голубь, агародъ, торгъ, лугъ, гусакъ.

11. ***Ц***, ***с***, ***з*** вм. коренныхъ ***к***, ***х***, ***г*** передъ ***ѣ***: на руцѣ, къ сасѣдцѣ, на нитачцѣ, па дарозѣ, у лузѣ; а въ повел. ***ж*** и ***ч*** вмѣсто ***г*** (***h***) и ***к***: бѣрежы, пѣчы; но въ имен. мн. ч. передъ ***и*** не измѣняются: дзѣцюкы, Пиньчукы.

12. ***Ц*** и ***дзь*** вмѣсто мягкихъ ***ть*** и ***дь***: цихо, цѣнь, госци, спаци, дзень, будзе, дзѣвка, дзиво, выйдзи, хадзи.

13. ***Г*** въ смыслѣ придыханія (***h***): гето (это).

14. Прибавочное ***в*** передъ ***у*** и ***о***: вузкый, вутка, Восипъ, вулица.

15. Третье лице наст. изъяв. въ обоихъ числахъ на -***ць***: вѣзець, плачець, хочыць, висиць, водзиць, ъдуць , крешуць, стояць, спѣваюць, кажуць; однако ***ц*** иногда послѣ ***е*** опускается: погладае, нарекае, промавлае[2] [Шафарикъ 1843: 28–29].

Менавіта гэтымі «признаками» кіраваўся В. Бадзянскі, транслітаруючы *Энеіду навыварат*. Выпакутаванае перапісвальнікам (аўтарам?) для беларускае мовы ***ў*** паўсюль перададзена як ***въ*** (***в*** – у сярэдзіне слова): *бывъ*, *наввошта*, *удався*, *зрабившы*, *чавнокъ*, *въ кацёлъ* і інш.

Яшчэ адзін прыклад няўдалае транслітарацыі звязаны з адносна неглыбокім веданнем В. Бадзянскім польскае мовы, але няведаннем беларускае. Ён не змог здагадацца, што перапісвальнік літараю ***ł*** перадаваў беларускі гук [л], а літараю ***l*** – [л’]. Прачытанне беларускага тэксту ў адпаведнасці з вымаўленнем польскае літары ***l*** прывяло да шэрагу памылак. Так, *lada* – гэта не *лада*, а *ляда*; kaszel – гэта не кашелъ, а кашэль; *Jawol* – гэта не *Яволъ*, а *Яволь*; *lażyć* – гэта не *лажыць*, а *ляжыць*.

У той жа час В. Бадзянскі не передае літару ***ł*** у адпаведнасці з польскім маўленнем як [w]. Толькі як ***л***. Нават калі перапісвальнік памыляўся і замест ***l*** пісаў ***ł***, усё роўна ***л*** заставалася ў яго цвёрдаю: *ŭ-zhłanuła – взгланула*; *zahułaŭsia – загулався*; *upraŭłuś – управлусь*.

Нягледзячы на асобныя памылкі і недакладнасці, “спіс Бадзянскага” выкананы даволі прафесійна і стаіць на парадак вышэй іншых спісаў, якія падрыхтавалі людзі, што не ведалі беларускае мовы і не валодалі навыкамі транслітарацыі (запісу) зыходнага тэксту.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле фотакопіі М. Мольнара для К. Кабашнікава. Арыгінал захоўваецца ў архіве П. Шафарыка ў Празе.

---

[1] У П. Шафарыка „zavaliv sja”.

[2] У П. Шафарыка „pohladaje <…>, promavlaje”.

|[1r]| ***Отрывокъ изъ 1ой пѣсни* Энеиды*, вывороченной наизнанку на Бѣлорусскій языкъ, по образцу Малороссійской Котляревскаго, Гмъ Мысловскимъ*.** *[1]

Янѣй[1] дзяцюкь виць*[2] бывъ[2] цюкавый*[3],
Парнюкъ няввошта*[4] украсивъ –
И панъ удався нилукавый,
Даступивъ*[5], вѣсилъ, ниспясивъ*[6];
Но Греки вуйму*[7] нарабили,
Икъ лада*[8] Трою такъ спалили,
Кашелъ схвацившы науцёкъ,
И такъ зрабившы іонъ чавнокъ
Траянцами яго набивъ,
И въ море синіе пусьцивъ;
А якъ Юнона была злая,
Икъ пани наша такъ лихая,
Яго хацѣла пагубиць,
Въ кацёлъ у пѣклѣ пасадзиць,
Зато, вотъ, вишъ*[9] ты, ня любила,
Вянѣра што яго радзила,
А дзяцька зробивъ указѣю*[10],
Юнона хвастала сваею,
А іонъ Вянѣрину хваливъ,
И дулку*[11], вишъ, ей падаривъ.
Юнона въ облакъ атпихнула,
|[1v]| Да зъ нѣба на мора взглянула,
Ажъ вось на чавнаки Янѣй!
«Ахъ ты прахвосьцина*[12], зладзѣй!
Вось я цябѣ змялу втабаку,
Ражномъ у море икъ сабаку!
Скарей насовку*[13] дай мнѣ, Геба,
Да въ торбу ты паложъ мнѣ хлеба,
Впраги павлина въ тарадзѣйку*[14],
Спячи яешню*[15] да индзѣйку…»
Ина, усѣвшы, пакацилась*[16],
Икъ разъ въ Явола ачуцилась.

---

[1] Тут і далей у арыгінале алоўкам падкрэсленыя (вераемна, П. Шафарыкам) літары і спалучэнні літар, якія перадаюць адметныя рысы беларускае мовы; прынамсі тое, што адрозніваe яе ад расейскае: аканне/яканне, дзеканне/цеканне, прыстаўныя гукі.

[2] У гэтым слове літара ***ы*** папраўленая з ***у***.

Яволъ тагды садзѣвъ на пѣчки,
Мязгу*[17] скабливъ на пирапѣчки,
И кавирзѣньки (?)[1] падплитавъ,
А вось аборы падабравъ,
Заткнувъ за поисъ кацатыгъ (?)[2],
Скацився съ пѣчки въ адзинъ мигъ.
«Здаровъ, хвигурная Юнона,
Давно цябѣ я нѣ видавъ!»
И три ей здзѣлавшы паклона,
Мякотнаго на столъ падавъ.
Ина мякотнаго паѣла,
Уцёрлась хусткай, такъ запѣла:
|[2r]| «Ня вѣдаишь маиго ты гора:
Янѣй съ траянцами плывѣць;
Спихни яго скарей ты въ мора,
Нихай нячисьцикъ воды пѣць.
Ты вѣдаишъ, Янѣй, виць, зродникъ*[18],
Зладзѣй, варуга, канаводникъ*[19],
Прыяву*[20] зробиць на сьвяту;
Зато дзявухну украсиву,
Салодкую икъ зъ мёдамъ сьливу,
Табѣ я завтры прывяду».
Яволъ разщупавъ тоя дзѣло,
Зъ яго ажъ слинка*[21] пацикла;
Любивъ іонъ цѣшыць грешна цѣло,
Дзявухна понутру пришла.
Лупивъ іонъ зубы, барматавъ*[22],
И такъ Юнонѣ атказавъ:
«А вохъ ци мнѣ, моя Юнона!
Ниваднаго нѣтъ вѣтра дома;
Што буду робиць я цяпѣръ?
Барей съ пахмѣля икъ вапѣръ[3]*[23],
Лажыць въ святлицы на бачонкѣ*[24],
А Нордъ заѣхавъ вчора къ жонкѣ,
|[2v]| Зефиръ зъ дзѣвками загулався,
А Явулъ въ батраки нанявся,
Икъ хочышъ, такъ сабѣ рахуй!
Да ѣдзь дамовки, нитурбуй,
Табѣ ни буду лихадзѣемъ,
Ня бось, управлусь[4] я зъ Янѣемь,
Папру яго я зъ дзяцюками,

[1] Пытальнік, здаецца, В. Бадзянскага.
[2] Пытальнік, здаецца, В. Бадзянскага.
[3] Літара ***а***, здаецца, папраўленая на ***я***.
[4] Літара ***у*** папраўленая з нейкае іншае.

Ижъ море буркниць пузырами,
Якъ въ виръ всихъ торчма галавой
Чарты пацянуць за сабой…».
И, вось, Яволъ галенъ*[25] схвацившы,
На паньщыну гукаць іонъ ставъ,
И вось, іонъ вѣтры разпусьцившы,
Бурлиць имъ мора приказавъ.

П.І. Шафарику –
І. Бодянскій
Декабря 9/21 дня,
1837. Прага.

*Ad marginem*: *[1] Gub. Witepsk.; *[2] вѣдь; *[3] удалой; *[4] на всё; *[5] negordyj; *[6] nepyšny; *[7] acervus fimi[1]; *[8] лишь, только[2]; *[9] widiš; *[10] occasio?[3]; *[11] ficus[4]; *[12] pohodny, ras[5]; *[13] <нечыт.>; *[14] dookolica[6]; *[15] Eierschmalz[7]; *[16] bystro pustilas; *[17] tešto; *[18] zrádce[8]; *[19] fur.; *[20] bjda, ufortunium, calamites[9]; *[21] slina; *[22] murmuro[10]; *[23] упиръ; vampirus; *[24] rod sopida, bočka ma[la]; *[25] kija, palice.

*Арыгінал. Аркушы ненумараваныя. У гары першае старонкі пячатка:* LIT. POZUSTALOST ŠAFARIKOVA (*Літ. спадчына Шафарыка*). *На доле старонак 1v і 2v пячатка*: Národní muzeum v Praze (*Нацыянальны музей у Празе*). *На апошнім аркушы сінім атрамэнтам*: Památník národního písemnictví, Pryha (*Музей нацыянальнага пісьменства, Прага*).

[1] Куча гною (*лац.*). У І. Катлярэўскага – «скирта гною».
[2] Слова *lada* прачытана П. Шафарыкам як паланізм у беларускім тэксце і адпаведна патлумачана.
[3] Аказія, здарэнне (*лац.*).
[4] Фіга, інжыр (*лац.*).
[5] Гіцаль, скуралуп, свавольнік (*слав.*).
[6] Усё вакол (*слав.*).
[7] Яечня на сале (*ням.*).
[8] Здраднік (*слав.*).
[9] Бяда (*слав.*), няшчасці, бедствы (*лац.*).
[10] Бурчанне (*слав.*).

## Публікацыя Льва Кавеліна

Непасрэдным штуршком да публікацыі *Энеиды на изнанку* ў часопісе «Маякъ» стаўся, відаць, нарыс Р. Падбярэскага *Białoruś i Jan Barszczewski* ў першым томіку *Szlachcica Zawalni* (1844). Згадка пра [Ігнацы] Манькоўскага як першага „narodowego białoruskiego pisarza", аўтара папулярнай паэмы на беларускай мове, вельмі імпанавала Льву Кавеліну (1822–1891), аматару славянскае мінуўшчыны. Пэўна, ён не быў асабіста знаёмы з Р. Падбярэскім, хоць цалкам выключаць гэта нельга. (Усё ж такі яны абодва былі блізкія да маскоўскіх і пецярбурскіх колаў славянафільства). Аднак кніжку, у тытуле якое было слова Białoruś, ён набыў і выкарыстаў дзеля двух публікацыі ў часопісе «Маякъ». Апрача таго, кніжку Я. Баршчэўскага *Szlachcic Zawalnia* мог перадаць паручніку лейб-гвардыі Валынскага палка К. Мыслоўскі[1], павятовы страпчы (ніжэйшы пракурорскі чын) у Араніенбауме, які, відаць, падтрымліваў дачыненні з беларускім зямляцтвам у сталіцы імперыі і наведваў касцёл св. Станіслава ў Каломне.

Сведчаннем у пэўнай ступені супрацы "беларускага гуртка ў Пецярбурзе" (Р. Зямкевіч) з Л. Кавеліным могуць быць і публікацыі апошняга ў часопісе «Маякъ», заснаваныя на матэрыялах польскіх выданняў: *Взглядъ на древнюю Польшу съ замѣчаніями о Литвѣ и России* (переводъ изъ сочиненія Мацѣевскаго, съ предисловіемъ и примѣчаніями, 1844, т. XV, стр. 33–41), *Душа въ чахоткѣ* (повѣсть, перев. съ польскаго, 1844, т. XVII, стр. 10–37 и 101–152)[2] і інш. Істотна і тое, Што К. Мыслоўскі значыцца сярод тых, хто падпісаўся на другі томік „Niezabudki" Я. Баршчэўскага.

Характэрна, што К. Мыслоўскі перадаў спіс *Энеіды* не таму, хто яго прасіў (Р. Падбярэскі), не суайчынніку з польскамоўнага выдання, а супрацоўніку расейскамоўнага часопіса, што ўжо ў той час лічыўся «органом воинствующего мракобесия» [Дементьев 1955: 756].

Трэба заўважыць, што ў расейскіх інтэлігенцкіх колах, дзе пашыралася ідэалогія расейскага нацыяналізму, які часта нічым не адрозніваўся ад шавінізму, і афіцыйнай народнасці, настойліва прапагандавалася думка пра неабходнасць выразнага адасаблення маларускага і беларускага «нарѣчій» ад

---

[1] К. Мыслоўскі напрыканцы жыцця (1884 г.) выдаў у Пецярбурзе складзеную ім кніжачку *Описание Дома призрения престарелых и увечных, основанного в г. Петергофе в память императора Николая I-го 14 июня 1859 года*.

[2] Маецца на ўвазе аповесць *Dusza w suchotach: Wyciąg z papierów doktora* Людвіка Штырмера (1809–1886), добрага прыяцеля Я. Баршчэўскага. Твор упершыню быў апублікаваны ў часопісе „Athenaeum" (1843, t. IV, s. 84–182).

польскага ўплыву, з тым, каб паступова перамяніць (не толькі на словах, але і выкасоўваючы тое, што было адрозным ад расейскага ці падобным на польскае) іх у дыялекты вялікарасейскае мовы дзеля поўнага зліцця з «болѣе употребительнымъ нарѣчіемъ».

Праўда, такая моўная палітыка дазваляла асобным аматарам беларускай пісьменнасці выказвацца не зусім згодна з асноўнай ідэяй зліцця дыялектаў. Так, Іосіф Цытовіч (1811–1870) ці не першы заявіў пра патрэбнасць развіцця ўласна беларускамоўнае літаратуры:

> Не сыщется ль перо ловкое, перо трудолюбивое, которое посвятитъ себя на пользу милліоновъ этихъ, такъ сказать меньшихъ братій великой семьи нашей, не проложитъ ли имъ путь къ дальнѣйшему образованію средствами самыми близкими, сообразными ихъ силамъ, вкусу и обычаю? [Цытовичъ 1843: 37–38].

Выдавец і рэдактар «Маяка» Сцяпан Бурачок (1800–1877) заявіў пра «полную готовность <…> помещать подобные вѣщи, умные, прекрасные необходимые», а першаю ластаўкаю сталася публікацыя паэмы *Энеида на изнанку*.

Пра рукапіс, атрыманы ад К. Мыслоўскага, Л. Кавелін фактычна нічога не паведамляе. А сапраўды, якім шрыфтам ён быў напісаны – лацінкаю ці гражданкаю? Араніенбаўмскі павятовы страпчы, што ўжо гадоў сем–восем быў на дзяржаўнай службе і расейскаю моваю валодаў добра, мог транслітараваць даўні спіс паэмы[1], што захоўваўся колісь у фальварку Асінавая Калода пад Веліжам. Але мог таксама і перадаць прыяцелю свой уласны рукапіс, а Л. Кавелін з ягонаю дапамогаю рыхтаваў тэкст да публікацыі.

Як можна меркаваць па ўступнай нататцы Л. Кавеліна, найбольшаю цяжкасцю ў трансліттарацыі і рэдагаванні *Энеіды навыварат* была перадача гуку [ў] графічнымі сродкамі гражданкі. Мы не ведаем, ці выкарыстоўвалася ў рукапісе, які падаў Л. Кавеліну К. Мыслоўскі, графема ***й***. Аднак менавіта адносна гэтага гуку публікатар палічыў патрэбным зазначыць: «Слогъ ***въ***, по совѣту г. Мысловскаго, я замѣнилъ вездѣ ***у***». Тым самым ён паставіў знак роўнасці паміж гукамі [у] і [ў]. Напрыклад, гук [у] у словах “*погубитсь*”, “*дульку*”, “*атпихнула*” і інш. у адпаведнасці з напісаннем аніяк не павінен быў адрозніваца ў вымаўленні ад гука [ў] у словах “быу”, “*няувошта*”, “*схопіуши*” і інш.

Параўнанне “рукапісу Мыслоўскага” і “публікацыі Л. Кавеліна” дазваляе зрабіць выснову, што паўсталі яны на аснове аднаго і таго ж, назавём так, пратографа. Маючы на ўвазе, што “пратограф” – гэта не абавязкова нейкі там рукапіс, а – хутчэй – адзін і той апавядальнік. З гэтай прычыны ў “спісах” з’яўляюцца рознагучанні: *schwaciŭszy – схопіуши*, *prachwościna – лякруцина*, *skaréj – швыдчей*, *spiaczy – спряги*, *baczonkie – казенкѣ*, *staron – чарёу*, *batasznyj – чудесной*[2], *i sroha – якъ разъ.* Яны тлумачацца тым, што “адлег-

[1] Лічым, што як і “рукапіс Мыслоўскага”, што трапіў да В. Бадзянскага, рукапіс, на падставе якога ўзнікла “публікацыя Л. Кавеліна”, быў пісаны лацінкаю.

[2] У асобных выпадках ёсць падставы казаць, што рэдактар Л. Кавелін правіў тэкст паводле сваіх упадабанняў.

ласць” паміж “спісамі” не меншая за восем гадоў: “рукапіс Мыслоўскага” ўзнік найпазней у 1837 г., а “публікацыя Л. Кавеліна” – у 1845 г. З гэтай жа прычыны ў “рукапісе Мыслоўскага” адзін дадатковы радок, а ў “спісе Кавеліна” – ажно шэсць.

Усе іншыя адрозненні паўсталі з прычыны адметных моўных і версіфікацыйных кампетэнцый перапісвальнікаў. На нашую думку, перапісвальнік “рукапісу Мыслоўскага” меў крыху вышэйшыя літаратуразнаўчыя і мовазнаўчыя здольнасці, чым перапісвальнік рукапісу для Л. Кавеліна. Магчыма, гэта звязанае з тым, што першы спіс рыхтаваў І. Мыслоўскі, што прагнуў атрымаць вышэйшую філалагічную адукацыю, а другі – К. Мыслоўскі, які – як вядома – нават Віцебскую гімназію не скончыў.

Мы ўжо бачылі, што Л. Кавелін прыслухаўся да парады прыяцеля адносна перадачы гуку [ў] гражданскім шрыфтам, а вось шэраг іншых асаблівасцяў беларускае мовы адлюстроўваліся на пісьме не заўсёды:

- аканне/яканне: *кашель*, *пасадзить*, *атпихнула*, *пакатсилась*, *Яней*, *Вянера*, *Якъ Паня*, *ина*, але: *зробiйушы*, *хотсѣла*, *погубить*, *своею*, *собаку*, *подабрау* і інш.
- дзеканне: *дзяцюкь*, *зладзѣй*, *дзяцька*, *дзѣцюками*, *сѣлядзецъ*, але: *чудесной*, *вздѣла*, *уздѣла*.
- цеканне: *хотсѣла*, *погубить*, *пакатсилась*, *тсяртухи*, *клѣтси* і інш. Прычым яно перадаецца як пры дапамозе літараў ***тсь***, так і **ць**: *на уцёкъ*, *пусцiу*, *распусцiуши*, *протапиць* і інш.
- цоканне (часткова): на пецкѣ, на перепецкѣ, кацатыхъ, драцона, вѣцно.
- цвёрдае ***р*** амаль не выступае: моря, падарiу, три, горя, варюга, прiяву.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле першапублікацыі:

I. *Отрывокъ изъ Энеиды на изнанку на Бѣлорусскомъ крестьянскомъ нарѣчiи*, «Маякъ» 1845, т. XXIII, кн. XLV, с. 33–39.

II. А. Кавелинъ, *Памятники Бѣлорусской письменности*, «Маякъ» 1845, т. XXIII, кн. XLV, с. 30–32.

## Отрывокъ изъ
### *Энеиды на изнанку*
## на Бѣлорусскомъ крестьянскомъ нарѣчіи

По разрушеніи Греками Трои, Эней съ товарищами своими на кораблѣ удаляется въ открытое море; – кораблекрушеніе претерпѣнное имъ по гнѣву Юноны; – покровительство Венеры и прибытіе Энея въ Карфагенъ.

Яней дзяцюкь вишь быу[1] хупавый,
Парнюкъ няувошта украсіу
И пакъ[2] удауся нелукавый:
Даступенъ, веселъ, не спясіу.
А Греки вайну[3] нарабили,
Якъ ляда Трою такъ спалили.
Кашель схопіуши на уцёкъ
И такъ зробійушы ёнъ чаунокъ, –
Траянцами яго набіу
И у моря синяе пусціу.
А якъ Юнона была злая
Якъ Паня наша, такъ лихая,
Яго, хотсѣла погубитсь;
Въ кацёлъ у пеклѣ пасадзитсь:
За то, вотъ вишь ты, ня любила
Вянера, што яго радзила,
А дзяцька зробіу оказѣю;
Юнона, хвастала своею,
А ёнъ Вянеряну хваліу
И дульку вишь ей падаріу.
Юнона, воблакъ атпихнула,
Да зъ нёба на морѣ взглянула,
А жъ вось на чаунакѣ Яней;
«Ахъ! ты лякруцина, зладзѣй

[1] Слогъ ***въ***, по совѣту г. Мысловскаго, я замѣнилъ вездѣ ***у***, на томъ основаніи, что въ выговорѣ слога ***въ*** въ Бѣлорусскомъ нарѣчіи существуетъ такая же разница отъ нашего, какъ во Французскомъ языкѣ между ***e*** muet и ***e*** ouvert. Бѣлорусцы произносятъ его протяжно, открывая весь ротъ (*заўвага Л. Кавеліна*). ***E*** muet – ***e*** нямое, ***e*** ouvert – ***e*** адкрытае.

[2] Відаць, памылка друку. Трэба: *панъ*.

[3] Невядома, на якім этапе падрыхтоўкі тэксту да друку *шијти* перамянілася ў *вайну*.

«Вось я табѣ змялю въ табаку;
«Ражномъ у моря, якъ собаку!...
Швыдчей, насоуку[1] дай мнѣ Геба!
«Да у то́рбу, положь мнѣ хлѣба,
«Впряги паулина въ торадзѣйку,
«Спряги яичню, да индзѣйку!»
Ина, усѣуши, пакатсилась,
Якъ разъ, въ Яола ачутсилась:
Яолъ, тагды сядзѣу на пецкѣ,
Мязгу скабліу на перепецкѣ
И кавярзеньки[2] падплетау, –
И вось аборы подабрау,
Заткну у[3] за поясъ кацатыхъ[4]
Скацiуся съ пецки въ адзинъ михъ.
«Здароу! хвигурная Юнона,
«Давно-жъ табѣ я не видау!»
Яолъ, Юнонѣ, такъ сказау,
И три ей сдзѣлауши паклона,
Мякотнаго на столъ падау.
Ина, мякотнаго паѣла,
Хусткой уцёрлась, встала,
Дзякую! яму сказала,
Сѣла, и такъ яму запѣла[5]:
«Нявѣдаешь майго ты горя:
«Яней съ Траянцами плыветсь;
Спихни яго ты швыдчей въ морѣ,
Нехай, нячисцихъ воду пьетсь!
Ты вѣдаешь? Яней Вянерѣ зродникъ;
Зладзѣй, варюга, кановодникъ!
Прiяву[6] зробъ ты, на святу, –
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . [7]
Яолъ, разщупау тое дзѣла,

[1] Насовка – балахонъ (*заўвага Л. Кавеліна*).

[2] Лапти (*заўвага Л. Кавеліна*). Цікава, што ў “віцебскай рэдакцыі” (Я. Карскі) – кавярзенькі, хоць слова гэтае нібыта смаленскае, а ў “смаленскай рэдакцыі” – лапці.

[3] Так у арыгінале.

[4] Кацатыхъ – свайка, которой плетутъ лапти (*заўвага Л. Кавеліна*).

[5] Я. Карскі звярнуў увагу, што дадатковыя тры радкі ў часопісе «Маякъ» «испорченные, но необходимые для дополненія строфы до 10 строкъ» [Карскій 1908: 21]. Аднак у публікацыі Л. Кавеліна няма падзелу на строфы.

[6] Примѣръ (*заўвага Л. Кавеліна*).

[7] Апошнія тры радкі дэцымы выкасаваны ці то Л. Кавеліным, ці то галоўным рэдактарам Сцяпанам Бурачком, ці то цэнзарам як непрыстойныя.

Зъ яго ажъ слюня патсѣкла,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[1]
Лупку[2] ёнъ зубья, борматау
И такъ Юнонѣ атказау:
«А вохци мнѣ, моя Юнона!
«Ни воднаго-жъ ни мамъ[3] я вѣтра дома;
Что буду робитсь я цаперь:
«Барей, съ похмѣлья, якъ ваперъ,
«Ляжитсь у святлицѣ на казенкѣ[4]
А Нардъ заѣхау учора къ жёнкѣ;
«Зафиръ зъ дзѣуками загуляуся;
«А Явулъ у батраки наняуся;
«Якъ хочешъ, такъ собѣ рахуй!
«Да, ѣздь дамоуки, не турбуй[5]
«Ня бойсь, упраулюсь я съ Янеемь;
«Папру яго я зъ дзѣцюками,
«Ажъ морѣ буркнець пузырями,
«Якъ у виръ всѣхъ торчма головой
«Чарты пацянутсь за собой»!
И вось Яолъ галенъ схвациуши,
На паньщину гукаць ёнъ стау;
И вось ёнъ вѣтры распусціуши,
Бурлиць имъ морѣ приказау.
Кали хто видзѣу, якъ *Бахциха*[6]
Нямѣцко пиво задаетсь?
Подыметса яно, якъ лихо,
Запѣнитса, чаны ажъ розно претсь
Ажъ такъ и морѣ закипѣла;
Якъ у пасеки мядзвѣдзь рѣвеу;
Чутсь лодка на мяли не сѣла
Яолъ я нея[7] вотъ такъ паддзѣу
Яней тутъ такъ перепугауся,
Мотузъ ажъ у парткахъ парвауся;
Со страху слюню распусціу,
И словно воукомъ ёнъ завыу.
Траянцы уси казлы задрали;

[1] Два радкі выкасаваныя, але яны захаваліся ў рукапісах паэмы.
[2] Відаць, памылка друку. Трэба: *лупиу*.
[3] Ад польск. *nie mam*.
[4] Казенка – коникъ, лавка (*заўвага Л. Кавеліна*).
[5] Не турбуй – не хлопочи, не заботься (*заўвага Л. Кавеліна*).
[6] *Бахтиха*. Былъ извѣстный пивоваръ въ Смоленскѣ (*заўвага Л. Кавеліна*).
[7] Трэба: *Янея*.

Со всѣхъ чарёу[1] ёни гукали;
Якъ у болоцѣ лисавой
Очнувся закричау Яней:
«О, царь царевичъ Грабъ Няптунъ!
«Ты нашъ отецъ, нашъ апякунъ.
«Змилуйся, морѣ узмири:
«Я чудесной пришлю тсяртухи[2]
«Кабашной, смашныя сивухи,
«А гроши самъ зъ машны бяри».
Няптунь да грошей мау ахоту,
Гарѣлку добрѣ ёнъ сцибау;
Пачуу, что будзѣсь за работу,
Якъ разъ на вѣтроу закричау:
«Вонъ, нячистики; лякруцины!
«Зъ якѣй хвантазіи вы тутъ?
«Ня то, скаштуецѣ дубины
«И по ноздрямъ ражномъ утрутсь!»
Вось досыць вѣтрамъ тутъ здзѣкаться:
Зъ Няптуномъ знали якій жартъ;
Домоуки стали убиратся,
Якъ отъ Кургузаго Липартъ.
А – вось! и солнушко взглянуло,
Траянцамъ, якъ цяпло вспыхнуло:
Яней, утсёкши такихъ бѣдъ,
Состряпаць, заказау абѣдъ.
Узялись Траянцы за эдзѣнье,
Якъ съ поля панскіе харты[3]
Была тамъ съ затолкой крупеня,
Кулагу пхали у животы;
Была тамъ гуща и драцона,
И паросяцина смажона[4];
И въ заѣдку-жъ дали, подъ конецъ,
Съ алѣемъ смачный сѣлядзецъ.
Талокою[5] насцибались,
И на палаци спатсь поклались.
Вянера зъ ярмарки вярнулась,
Въ *Кушесци*[6] вишь ёна была,

[1] Со всей мочи (*заўвага Л. Кавеліна*).
[2] Тертый табакъ (*заўвага Л. Кавеліна*).
[3] Борзые собаки (*заўвага Л. Кавеліна*).
[4] Жаренная (*заўвага Л. Кавеліна*).
[5] Гурьбою (*заўвага Л. Кавеліна*).
[6] *Кушесци*, – Вознесенская ярмарка въ Смоленскѣ, извѣстная въ простонародьѣ, подъ названіемъ *Кушесци*, вѣроятно потому, что бываетъ черезъ шесть недѣль послѣ Свѣтлаго Христова Воскресенья (*заўвага Л. Кавеліна*).

И объ Янеюшкѣ дочулась,
Юнона якъ яго спрягла:
Каботъ съ насоукой напрянула,
Съ наплётомъ вздѣла кавярзни,
Анучи рябые обула,
Якъ точно у Войта склязни[1],
А морду щёлокомъ обмыла,
Кульный[2] уздѣла балахонъ,
Попряникъ въ хустку положила
И шмыгъ кь Зявесу на поклонъ.
Зявесъ тагды сядзѣу у клѣтси:
Горѣлку зъ мёдомъ тамъ сцибау;
Безъ разуму, якъ малы дзѣтси,
Съ поддонья пальцемъ колыпау.
Вянера пришла й завыла:
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[3]
И такъ зазюкала[4] ёна:
«О, чимъ не радъ[5] тобою батсько;
«Яней, змишурійся дзяцинка,
«Зюкни его, якая тутъ вина;
«Виць только, что Юнона зла;
«И я[6] увидзюць Рима яго воки,
«Кали Юноны ня уймѣшь;
«Звядуць на ростаньяхъ сороки,
«Сотрѣтсь ёна яго въ кулешъ».
Зявесъ, горѣлочку допивши,
Рожкомъ въ халяву постучау,
И тсяртухи мощныя зажыуши,
Такъ у гутарку сказау:
«О дочухнушка радзима!
«Допрець Янеюшка до Рима,
«И тама будзѣць ёнъ Царемъ;
«Палепши *Чижовских*ъ хоромъ[7]
«Поставитсь каменны палаты;
«Паны ня будутсь гамъ[8] богаты:

[1] Памылка друку. Трэба: *силязни.*
[2] Відаць, памылка друку. Трэба: *кужельный*.
[3] Радок выкасаваны, але ён захаваўся ў рукапісах.
[4] *Зюкатъ* – говоритъ; перезюкатъ, – переговаритъ (*заўвага Л. Кавеліна*).
[5] Памылка друку. Трэба: *перадъ*.
[6] Памылка друку. Трэба: *Ня*.
[7] *Чижово*, Село Смоленской губ. Духовскаго уѣзда, принадлежитъ Василью Васильевичу Энгельгардту; въ немъ выстроенъ огромный барской домъ, едва-ли не княземъ Потемкинымъ-Таврическимъ, удивляющій посѣтителей множествомъ комнатъ (*заўвага Л. Кавеліна*).
[8] Трэба: *тамъ*.

«Свои чаны ёнъ завязеь
«И усё на водку[1] побяретсь;
«Домовки ѣздь и не турбуйся,
«Да на саромъ ты ня исуйся[2],
«Глядзи, соромна не бранисъ!
Вянера тутъ яму присѣла, –
Хранцузъ якъ барышню учиу; –
Пашла, свадзёбную запѣла,
Зявесь ей дужо догадзиу.
   Яней, очхнувся и поскрёбса,
   На ноги паршни подвязау,
   Съ палаць до кута ёнъ доскрёбся
   И плыць япрейтору казау.
Плыу, плыу, въ ачу зазеленѣлось,
И морѣ яму горше талакна прiѣлось;
Енъ вѣцно на яго глядзѣу;
А тамъ ужё стау сварицся,
Да й такъ соромна стау бранитса,
Что я писатсь тутъ не посмѣу.
Казау, что лепшебъ на пагосцѣ,
Папы слажили маи косци;
Дарма, у морѣ покруциуся,
И волачится я пусциуся.
Енъ зъ горя пипку закуриу
И голову въ балонку[3] опусциу;
Анъ глядзь у моря и скасиуся,
Запѣу: «Избранную», заксциуся[4],
«Глядзицѣ, братцы; вонъ сяло!»
Тутъ, за животы усихъ взяло.
Яны къ берегу привалиуши,
За плотъ чаунокъ свой прикруциуши;
По шклянкѣ выпили сивухи,
Поѣли на щи[5] солодухи,
И пошли у городъ погулятсь;
Кабъ поглядзѣць, тамъ пазѣватсь.
Бягутсь, якъ батраки съ пригона,
А тутъ въ воротахъ, тыць, Дзидона!
«Глядзи, яки то ободранцы!
«Цы смолъ вы у *Щутца* везитсё,
«Ай Духовскiе вы Цыгане,

[1] Відаць, памылка друку. Трэба: *на откупъ*.
[2] Трэба, відаць: *ня псуйся*.
[3] Окошечко въ баркахъ (*заўвага Л. Кавеліна*).
[4] Перахрысціўся. *Kściny* ад польск. *chrzciny* [гл.: Rieger 2014: 141].
[5] Памылка друку. Трэба: *наща*.

«Курей, съ подъ клѣци крадзитсё,
«За цѣмъ, сюда васъ прикруцила,
«Я, и такъ дзисяцкаго прибила,
«Что ёнъ разсыльщиковъ не знаетсь,
«У сихъ безъ рашпортовъ пускаитсь»?...
Якъ черваки закопашились,
Плащёмъ Траянцы повалились;
Марковникъ зъ хусткою подали,
Такую, гуторку зачали:
«Мы уси Траянскаго прихода;
Дворцовы, передъ тѣмъ были,
А у восень, прошлаго года,
Оттеля въ морѣ уцякли:
Яней, конторщикомъ у насъ;
Рашпорты-жъ дзержитсь Апанасъ,
Глазеты, барыня, ты маешъ,
Спрягли, якъ Трою, про то знаешъ,
Такъ и не чаго-жъ табѣ казатсь!
О Винцыкорная Дзидона!
Ты насъ у крѣпосць запиши;
У нядзѣлю робъ себѣ два сгона,
Служитсь мы будзѣмъ да души:
Усякое мы дзѣло знаимъ,
У бровара сядзѣдь змикаимъ;
Загнѣтки, сундуки рубитсь;
Пилипъ нашъ лѣпитсь гарлачи;
Прокопъ же, къ ступѣ талкачи;
А Саука зелье усяка знаетсь,
Дзяцёмъ ёнъ вогникъ атсѣкаетсь,
Чукау, ёнъ также воражитсь,
Усякій чемиръ отхадзиць;
Кали къ намъ ласка твоя будзетсь,
Вяли намъ лазню протапиць,
Адзёжу нада намъ попрудзиць –
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[1]

[1] Два радкі выкасаваныя, але яны захаваліся ў рукапісах.

## Памятники Бѣлорусской письменности

(посвящается И.П. Боричевскому.)

I.

### *Энеида на изнаку*

Всѣ просвѣщенные Русскіе давно уже поняли необходимость изученія Бѣлорусской старины и грамотности. Но до сихъ поръ она оставалась краемъ непочатымъ, тогда какъ и она не менѣе другихъ богата. Что же удерживало, просвѣщенныхъ Кривичей? ложный стыдъ за свою родину: «куда-де ей соваться за другими!» Дай Богъ, чтобъ съ легкой руки г. Цытовича, эта статья послужила добрымъ починомъ будущихъ успѣховъ поэзіи, исторіи и письменности Бѣлой Руси, безъ которой поэзія, исторія и письменность всея Руси есть и будетъ одностороння и не полна.

Издатель «Маяка». (1843, т. 9, кн. XVII, *Смѣсь*, стр. 37).

Не должно пренебрегать и тѣмъ, чѣмъ многіе пренебрегаютъ, ибо многіе могутъ и ошибаться, или не съ той стороны смотрѣть на предметъ. Примѣръ. Бѣлорусское повѣрье далеко отстало въ произношеніи отъ Московскаго, то оно будто ужъ вовсе ни куда негодное, безграмотное. Ничего не бывало; въ немъ, какъ и во всякомъ другомъ нарѣчіи, есть свои особенности, которыя, по своимъ правильнымъ отличіямъ, весьма будутъ пригодны языку Русскому при его обработкѣ, усовершенствованіи. Тоже самое должно отнести и ко всякому нарѣчію языка Русскаго, областнаго, и ни въ какомъ случаѣ не пренебрегать тѣмъ, а стараться очищать отъ провинціялизма – и чистое, правильное примѣнять къ болѣе употребительному нарѣчію.

*В.А. Васильевъ.* (См. *Маякъ* 1845. *Томъ* 20. *Смѣсь* стр. 96 и 97).

Вѣроятно многіе изъ читателей Маяка знаютъ, хотя по слуху, о пародіяхъ на *Энеиду* въ литературѣ нѣмецкой – *Блюмауера* и Малороссійской, – *Котляревскаго*. Но смѣло можно сказать, что весьма не многіе изъ нихъ знакомы съ переложеніемъ *Энеиды на изнанку*, на языкѣ Бѣлорусскомъ, которое кромѣ общихъ литературныхъ достоинствъ, въ особенности заслуживаетъ вниманіе, какъ любопытный памятникъ языка, отъ котораго почти ни осталось никакихъ письменныхъ слѣдовъ.

Эта пародія написана лѣтъ 50 тому назадъ *г. Маньковскимъ*, служившимъ сперва Совѣтникомъ въ Могилевѣ, а потомъ Вице-Губернаторомъ въ Витебскѣ, – подъ видомъ героевъ настоящей *Энеиды*. Онъ обрисовалъ бытъ богатыхъ поселянъ Бѣлорусскихъ; оставляя въ сторонѣ отсутсвіе мѣстности, *Энеида на изнанку г. Маньковскаго* есть *чисто-народная* Бѣлорусская поэма, по духу и формѣ, а сочинитель ея единственный человѣкъ, который вполнѣ заслужилъ званіе *народнаго Бѣлорусскаго писателя*.

Коротко знакомый съ бытомъ мѣщанъ и поселянъ, г. Маньковскій въ своемъ сочиненіи оставилъ намъ превосходный памятникъ духа, силы

и самыхъ чистыхъ формъ нарѣчія Бѣлорусскаго, которое, какъ извѣстно, составляетъ средину между грамотностей Мало и Велико-русскихъ. Поэтому-то его Энеида на изнанку будетъ вѣчно жить въ памяти народа. Написанная лѣтъ 50 тому назадъ и нигдѣ не напечатанная, она сдѣлалась вполнѣ народною, особенно между молодёжью областной шляхты, на большихъ ярмаркахъ въ Чашникахъ, Бѣлыничахъ, Хасловичахъ, Шкловѣ, Гомелѣ, въ Полоцкѣ на *Красникѣ*[1], и теперь услышите, подъ веселый часъ, отрывки изъ *Энеиды на изнанку*, хотя часто онѣ бываютъ до того переиначены, что едва можно различить подлинный типъ. Съ удовольствіемъ повторяютъ Бѣлорусцы тѣ сцены, въ которыхъ подъ складъ греческихъ именъ рѣзко проглядываетъ ихъ народность.

Г. Маньковскій былъ истый представитель юмористическаго духа (остроумія) бѣднѣшей шляхты Могилевской, какъ его современникъ Рысинской[2], образованнѣйшей Витебской, двухъ губерній, составляющихъ собственную Бѣлоруссію. Одинъ былъ болѣе *простонародный*, другой болѣе *народный*. Но во всякомъ случаѣ заслуги Маньковскаго безспорно выше нежели Рысинскаго: *Энеида на изнанку* есть совершеннѣйшій образецъ веселаго остроумія Бѣлорусскаго простонародія, которое въ г. Рысинскомъ проявилось въ формахъ языка образованнаго класса, болѣе или менѣе (какъ и вездѣ) утратившаго свою коренную народность. Притомъ Рысинскій писалъ чаще на Польскомъ языкѣ; слѣдовательно не могъ возбудить въ простомъ народѣ того сочувствія, какимъ пользовалось произведеніе Маньковскаго. Странно, что ни о Маньковскомъ, ни о Рысинскомъ, людяхъ, пользующихся заслуженною извѣстностью между своими соплеменниками, до сихъ поръ никто не сказалъ ни слова. Первый обратилъ на нихъ вниманіе читающего міра, Ромуальдъ Подберезскій, въ своемъ *Критическомъ взглядѣ на Бѣлорусскую литературу* (*Krytyeznet rzute oka na Literature Białoruska*). Вотъ что говоритъ онъ, между прочимь, въ этой статьѣ по поводу творенія Маньковскаго:

«Полной рукописи *Энеиды на изнанку* я достатъ не могъ (во время четырехъ мѣсячной поѣздки по Бѣлоруссіи!!!). По словамъ родныхъ, подлинникъ находился въ рукахъ помѣщицы г. Дышлевской. Сообщеніе этой рукописи къ напечатанію, (которымъ мы сами занялись бы охотно), безъ сомнѣнія, заслужило бы общую благодарность. Кромѣ интересса *правоописательнаго*, а за тѣмъ *историческаго*, присоединяется сюда еще несравненно важнѣйшій интересъ, со стороны *филологической*, какъ

---

[1] Называется такъ отъ *красныхъ носовъ* торговцевъ, ибо ярмарка эта отправляется во время сильныхъ морозовъ, передъ самымъ Рождествомъ (*заўвага Л. Кавеліна*).

[2] Сочинитель множества легкихъ, веселыхъ забавныхъ – летучихъ стихотвореній, въ которыхъ часто поражаетъ васъ, какъ-бы невзначай брошенная философская мысль, почерпнутая въ глубокомъ знаніи свѣта, и невольно заставляетъ васъ остановить на ней свое вниманіе, призадуматься; это служитъ лучшимъ доказательствомъ рѣдкаго таланта и ума, обогащеннаго наукой и размышленіемъ. (*Критическій взглядъ на Бѣлорусскую литературу* г. Подберезскаго) (*заўвага Л. Кавеліна*).

памятника языка, отъ котораго не осталось почти никакихъ письменныхъ слѣдовъ».

Я хотя и не имѣлъ, подобно г. Подберезскому случая провести четыре мѣсяца въ Бѣлоруссіи, но занимаясь Славянскими языками, по мѣрѣ возможности, старался ознакомиться и съ нарѣчіемъ Бѣлорусскимъ, которымъ долго еще будетъ говорить значительная часть народа Русскаго, и въ которомъ, какъ справедливо замѣтилъ г. Цитовичъ, «сохранилась первобытная простота языка *Русскаго*».

Давно слышалъ я о существованіи на Бѣлорусскомъ языкѣ *Энеиды на изнанку*; слышалъ также, что она не уступаетъ въ достоинствѣ извѣстной *Малороссійской Энеидѣ* – Котляревскаго; слыхалъ нѣсколько разъ и небольшіе отрывки, по которымъ трудно было судить о цѣломъ. – Года два тому назадъ благопріятный случай доставилъ мнѣ знакомство съ однимъ Бѣлорусскимъ уроженцемъ К.Ѳ. Мысловскимъ[1], любителемъ и знатокомъ своего роднаго языка. Отъ него-то получилъ я довольно большой отрывокъ этаго рѣдкаго сочиненія, который и представляю на судъ любителей Славянской письменности.

А. Кавелинъ[2]

[1] Памылка друку. Трэба: К.О. Мысловскимъ.
[2] Памылка друку. Трэба: Л. Кавелинъ.

*Пераклад*

# Помнікі беларускага пісьменства

(прысвячаецца І.П. Барычэўскаму[1])

## I

### *Энеіда навыварат*

Усе адукаваныя расейцы даўно ўжо зразумелі неабходнасць вывучэння беларускае даўніны і пісьменнасці. Але да гэтага часу яна заставалася непарушаным краем, хоць і яна не менш за іншых багатая. Што ж стрымлівала адукаваных крывічоў? Ілжывы сорам за сваю радзіму: маўляў, куды ёй сунуцца за іншымі! Дай Божа, каб з лёгкае рукі п. Цытовіча, гэты артыкул паслужыў добрым пачаткам будучых поспехаў паэзіі, гісторыі і пісьменства Белае Русі, без якое паэзія, гісторыя і пісьменнасць усяе Русі ёсць і будзе аднабаковая і не поўная.

Издатель «Маяка». (1843, т. 9, кн. XVII, *Смѣсь*, стр. 37)[2].

Не трэба грэбаваць і тым, чым многія грэбуюць, бо многія могуць і памыляцца, ці не з таго боку глядзець на прадмет. Прыклад. Беларуская гаворка далёка адстала ў развіцці ад маскоўскае, дык яна нібыта ўжо зусім нікуды непрыдатная, непісьменная. Нічога падобнага; у ёй, як і ва ўсякай іншай гаворцы, ёсць свае асаблівасці, якія, па сваіх правільных адрозненнях, будуць вельмі прыдатныя расейскай мове пры яе апрацоўцы, удасканаленні. Тое самае павінна датычыць і ўсялякіх іншых дыялектаў расейскае мовы, абласных, і ні ў якім разе не грэбаваць імі, а імкнуцца чысціць іх ад правінцыялізмаў – і чыстыя, правільныя ўжываць у больш пашыранай гаворцы.

В.А. Васильевъ. (См. «Маякъ» 1845, томъ 20. *Смѣсь*, стр. 96 и 97).

Вераемна шмат хто з чытачоў «Маяка» ведае, хоць па чутках, пра пародыі на *Энеіду* ў літаратуры нямецкай – Блумаўэра і маларасейскай – Катлярэўскага. Але смела можна сказаць, што мала хто з іх знаёмы з перастварэннем *Энеіды навыварат* на беларускую мову, якое апрача агульных літаратурных вартасцяў, асабліва заслугоўвае на ўвагу як цікавы помнік мовы, ад якое амаль не засталося пісьмовых слядоў[3].

Гэтая пародыя, напісаная гадоў 50 таму п. Манькоўскім, які служыў спачатку радцам у Магілёве, а потым віцэ-губернатарам у Віцебску, – на героўў сапраўднае *Энеіды*. Ён абмаляваў побыт багатых беларускіх

[1] Маецца на ўвазе Іван Барычэўскі (Тарнава-Барычэўскі; 1810–1887), расейскі археолаг, гісторык і этнограф беларускага паходжання.

[2] У якасці эпіграфа Л. Кавелін выкарыстоўвае заўвагу С. Бурачка да артыкула І. Цытовіча *Слова два о языкѣ и грамотности Бѣлой Руси* («Маякъ»,т. IX, кн. XVII. Смѣсь).

[3] Нататка Л. Кавеліна – гэта вольны пераклад-перапрацоўка фрагмента артыкула Р. Падбярэскага *Białoruś i Jan Barszczewski*.

сялянаў; калі не звяртаць увагу на нястачу мясцовых рэалій, *Энеіда навыварат* п. Манькоўскага – чыста народная беларуская паэма па духу і форме, а паэт – адзіны чалавек, які цалкам заслужыў найменне беларускага народнага пісьменніка.

Добра знаёмы з побытам мяшчанаў і сялянаў, п. Манькоўскі ў сваім творы пакінуў нам цудоўны помнік духу, сілы і самых чыстых формаў беларускае мовы, якая, як вядома, знаходзіцца між пісьменствам мала- і вялікарасейскімі. Таму яго *Энеіда навыварат* будзе вечна жыць у памяці народа. Напісаная гадоў 50 таму і нідзе не надрукаваная, яна зрабілася цалкам народнаю, асабліва сярод маладое засцянковае шляхты, на вялікіх кірмашах у Чашніках, Бялынічах, Хасловічах, Шклове, Гомелі, у Полацку на Красніку[1], і цяпер пачуеце ў вясёлую хвіліну ўрыўкі з *Энеіды навыварат*, хоць часта яны бываюць так перайначаныя, што ледзьве можна пазнаць арыгінал. З задавальненнем паўтараюць беларусцы тыя сцэны, у якіх пад грэцкімі імёнамі выразна выступае іхняя народнасць.

П. Манькоўскі быў сапраўдным прадстаўніком гумарыстычнага духу (дасціпнасці) беднае магілёўскае шляхты, як яго сучаснік Рысінскі[2] адукаванае віцебскае, дзвюх губерняў, якія складаюць сапраўдную Беларусь. Адзін быў больш простанародны, іншы – больш народны[3]. Але ва ўсякім разе заслугі Манькоўскага бясспрэчна вышэй, чым Рысінскага: *Энеіда навыварат* – гэта дасканалы ўзор вясёлага досціпу беларускага простага люду, які ў п. Рысінскага выявіўся ў формах мовы адукаванага класа, што больш ці менш (як і паўсюль) страціў сваю нацыянальнасць. Прытым Рысінскі пісаў часцей па-польску; і такім чынам не мог выклікаць у простым людзе тае любові, якою карыстаўся твор Манькоўскага. Дзіўна, што ні пра Манькоўскага, ні пра Рысінскага, людзей, якія карыстаюцца заслужанай вядомасцю паміж сваімі суайчыннікамі, да гэтага часу ніхто не сказаў ні слова. Першы звярнуў на іх увагу чытачоў Рамуальд Падбярэскі ў сваім *Крытычным поглядзе на беларускую літаратуру* (*Krytycznyt rzucie oka na Literaturę Białoruską*). Вось што кажа ён, між іншым, у гэтым артыкуле з нагоды твора Манькоўскага:

"Поўнага рукапісу *Энеіды навыварат* я атрымаць не мог (падчас чатырохмесячнае вандроўкі па Беларусі!!!)[4]. Па словах сваякоў, арыгінал

---

[1] "Завецца ён так ад чырвоных насоў гандляроў, бо кірмаш гэты адбываецца падчас моцных маразоў, перад самымі Калядамі" (*заўвага Л. Кавеліна*).

[2] "Аўтар мноства лёгкіх, вясёлых, пацешных – лёткіх вершаў, у якіх часта дзівіць вас, як бы няўзнак кінутая філасофская думка, узятая з глыбокага ведання свету, і мімаволі прымушае вас спыніць на ёй сваю ўвагу, задумацца; гэта служыць лепшым доказам рэдкага таленту і розуму, узбагачанага навукай і разважаннем" (*Крытычны погляд на беларускую літаратуру п. Падбярэскага*) (*заўвага Л. Кавеліна*).

[3] У Р. Падбярэскага: „Jeden był więcéj popularnym, drugi więcéj narodowym" [Podbereski 1844: XIII]. Л. Кавелін паставіць І. Манькоўскага вышэй за Ф. Рысінскага, бо… апошні належаў да класа, які страціў сваю сваю нацыянальнасць і пісаў пераважна па-польску.

[4] Словы, узятыя ў дужкі – іранічнае выказванне самога Л. Кавеліна.

знаходзіўся на руках памешчыцы п. Дышлеўскае. Перадача гэтага рукапісу ў друк, (якім мы самі ахвотна б заняліся), без сумневу, заслужыла б агульную ўдзячнасць. Апрача цікавасці арфаграфічнае, а таксама гістарычнае, далучаецца сюды яшчэ непараўнальна найважнейшая цікавасць, з боку філалагічнага, як помніка мовы, ад якое не засталося амаль аніякіх пісьмовых слядоў".

Я хоць і не меў, падобна п. Падбярэскаму, нагоды правесці чатыры месяцы ў Беларусі, але займаючыся славянскімі мовамі, па меры магчымасці, стараўся пазнаёміцца і з беларускаю моваю, на якой яшчэ доўга будзе гаварыць значная частка рускага народа, і ў якой, як справядліва заўважыў п. Цытовіч "захавалася першабытная прастата *рускае* мовы".

Даўно чуў я[1] пра існаванне на беларускай мове *Энеіды навыварат*; чуў таксама, што яна не саступае мастацкімі вартасцямі вядомай маларасейскай *Энеідзе* Катлярэўскага; чуў некалькі разоў і невялікія ўрыўкі, па якіх цяжка было меркаваць пра цэлае. Гады два таму спрыяльны выпадак пазнаёміў мяне з адным беларускім ураджэнцам К.О. Мыслоўскім, аматарам і знаўцам свае роднае мовы. Ад яго ж атрымаў я даволі вялікі ўрывак гэтага рэдкага твора, які і падаю на суд аматараў славянскага пісьменства.

Л. Кавелін

---

[1] Вераемна, Л. Кавелін пра беларускую *Энеіду* даведаўся з кнігі П. Шафарыка ў арыгінале (*Slovanský národopis*, Praha 1842) ці перакладзе (*Славянское народописание*, Москва 1843) альбо ўступнага артыкула Р. Падбярэскага да кнігі Яна Баршчэўскага *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях* (Пецярбург 1844).

# Рукапіс Залескага

У 1851 г., пасля заканчэння навучання ў Маскоўскім універсітэце, Барыс Залескі (1827–1889) ахвяраваў прафесару В. Бадзянскаму рукапіс беларускае *Энеіды*[1]. Хто ён такі, Барыс Залескі? У Я. Карскага не было аніякіх звестак пра яго, а вось беларускія даследнікі (І. Бас, Г. Кісялёў) высветлілі, што Б. Залескі ў 1847 г. закончыў са срэбраным медалём Смаленскую гімназію (г. зн. – мясцовы ўраджэнец) і, відаць, вучыўся на аддзяленні славеснасці ўніверсітэта, бо ведаў пра цікавасць В. Бадзянскага да *Энеіды* [Кісялёў 2005: 178–179]. Магчыма, нават, што прафесар знаёміў сваіх студэнтаў з тым фрагментам паэмы, які ён меў, нейкі час лічачы аўтарам твора Мыслоўскага[2]. Трэба памятаць, аднак, што В. Бадзянскага за спробу публікацыі ў «Чтеніяхъ въ Императорскомъ Обществѣ Исторіи и Древностей Россійскихъ при Московскомъ Университетѣ», рэдактарам якіх ён быў, працы Джайлса Флетчара (1546–1611) *О государствѣ русскомъ* улады пазбавілі ў 1848 г. кафедры «исторіи и литературы славянскихъ нарѣчій» і высылалі ў Казанскі ўніверсітэт. Праўда, навуковец палічыў за лепшае застацца ў Маскве і рыхтаваць доктарскую дысертацыю *О врѣмени происхожденія славянскихъ письмёнъ*. Праз год яго ўзнавілі на кафедры, а г. зн. ён зноў мог выкладаць літаратуры «славянскихъ нарѣчій», зноў знаёміць студэнтаў з беларускай *Энеідаю*.

Б. Залескі вучыўся ў Смаленскай гімназіі разам з сынам В. Равінскага Канстанцінам, але пра *Энеіду* ў доме Равінскіх ён даведаўся хіба толькі на пачатку 1850-х гг. Дарэчы, прыкладна ў гэты час (восень 1853 г.) Равінскія знаёмяць з беларускаю паэмаю і Пятра Шастакова[3], настаўніка расейскае славеснасці Смаленскае гімназіі, таксама колішняга вучня В. Бадзянскага. П. Шастакоў апублікаваў у газеце «Смоленскія губернскія вѣдомости» два артыкулы пра асаблівасці «западнорусскаго языка» – *Смоленскій говоръ* і *Духовщинское подрѣчье* (1853, № 45–46 і № 50), у другім з якіх шырока выкарыстаў тэкст беларускае *Энеіды*. Апрача таго, тут упершыню ў друку В. Равінскі падаецца як аўтар твора (пад даволі пазнавальным крыптанімам): *ЕНЕИДА, на Смоленское*

---

[1] Здарылася гэта да 11 жніўня 1851 г. Цікава, што ў дзённіку В. Бадзянскага гэтая падзея аніяк не адлюстраваная [гл.: Павловскій 1889: 123–141].

[2] Цікава, што Уладзімір Назімаў (1803–1874), апякун Маскоўскае навучальнае акругі, падчас наведвання Універсітэта патрабаваў, каб лекцыі чыталі на ўсіх славянскіх «наречияхъ», на што В. Бадзянскі яму адказаў: «но наречій 10–12!» [гл.: Павловскій 1889, № 9: 414].

[3] Магчыма, Уладзімір Равінскі, які працаваў разам з П. Шастаковым у Смаленскай гімназіі.

*крестьянское нарѣчіе переложенная В.П. Р-скимъ* [Кісялёў 2005: 179–183]. Магчыма, якраз у гэты час копія *Энеіды* са збораў Равінскіх трапіла і да І. Сразнеўскага.

Узнікае пытанне: чаму Равінскія толькі на пачатку 1850-х гг. актыўна пачалі пашыраць твор, які быў напісаны блізу дваццаці пяці – трыццаці гадоў таму?[1] Адказу мы не ведаем, але гіпатэтычна можам прапанаваць наступнае: даўні рукапіс *Энеіды* (магчыма, і рукапісы іншых твораў) бацькі толькі цяпер трапіў на вочы прадстаўнікам маладзейшага пакалення Равінскіх. Яны (прынамсі, Уладзімір) прыкладаюць пэўныя намаганні, каб зацікавіць навуковую грамадскасць і, пэўна, апублікаваць літаратурную спадчыну Вікенція Паўлавіча. Ці ўзгаднялі маладыя Равінскія свой "праект" з бацькам? Магчыма. Але калі, напрыклад, яны жылі ў розных мясцовасцях (Уладзімір у Смаленску, а Вікенці Паўлавіч у адным са сваіх фальваркаў – за 60–80 вёрст адзін ад аднаго), дык ці не дастаткова было для сына тое, што *Енеида* знаходзілася сярод папераў бацькі і занатаваная ягонаю рукою?

Сапраўды, "рукапіс Залескага", "рукапіс Сразнеўскага", фрагменты паэмы ў артыкуле П. Шастакова і публікацыя ў газеце «Смоленскій вѣстникъ» (1890) паўсталі на аснове аднаго рукапісу і гэта адлюстравана ў іх тытулах:

1851 – *Енеида съ Малароссійскаго на Смоленскій крестьянскій языкъ переложенная Викентіемъ Ровинскимъ (помѣщикомъ Духовщинскаго уѣзда)*.

1853 – *Енеида, на Смоленское крестьянское нарѣчіе переложенная В.П. Р-скимъ*.

[1850-я] – *Энеида съ малорускового на Смоленский крестьянский язык переложенная В.П. Ров*...

1890 – *Енеида, съ Малороссійскаго на Смоленскій крестьянскій языкъ переложенная*[2].

Найбольш дакладны з іх той, які падаў пры публікацыі К. Равінскі. Іншыя перапісвальнікі проста палічылі патрэбным дадаць прозвішча або крыптанім паэта, які – на думку ўладальніка рукапісу ў 1850-я гг. – здзейсніў «переложеніе».

Кожны перапісвальнік самастойна вырашаў, як яму перадаваць на пісьме тэкст даўняга рукапісу. Тут ён кіраваўся сваім вопытам і сваімі філалагічнымі здольнасцямі.

З трох копій ("рукапіс Залескага", "рукапіс Сразнеўскага" і публікацыя ў газеце «Смоленскій вѣстникъ») найбольш цікаваю нам падаецца першая, выкананая філолагам-славістам і смалянінам Б. Залескім. Перапісаў ён "манускрыпт" Равінскіх, на нашую думку, паводле ўзору запісаў беларускамоўных

---

[1] Г. Кісялёў сцвярджае, што В. Равінскі мог напісаць паэму "ў 1816–1826 гг., калі ён жыў у адстаўцы на радзіме, або ў 1827–1828 гг., калі быў звольнены з пасады інспектара піцейных збораў Арэнбургскай губерні і стажыраваўся ў Смаленскай удзельнай канторы" [Кісялёў 1993: 353].

[2] У тэксце ўступнае нататкі (аўтарства Канстанціна Равінскага) ідзе гаворка пра *Энеіду* на «смоленскомъ нарѣчіи" і Энеіду на «бѣлорусскомъ нарѣчіи».

тэкстаў В. Бадзянскага. І што цікавае: запіс Б. Залескага нагадвае транслітарацыю, якую выканаў В. Бадзянскі для П. Шафарыка. Мы нават схільны думаць, што “манускрыпт” Равінскіх быў лацінкаю. Пакінутыя В. Равінскім лацінскія крыптанімы пад расейскамоўнымі тэкстамі дазваляюць меркаваць, што літаратар мог ведаць польскую мову[1] (нейкі час служыў на Украіне і Заходняй Беларусі) і мог карыстацца дзеля запісвання ці перапісвання беларускамоўных твораў польскаю графікаю.

Якія аргументы мы можам падаць у карысць таго, што “рукапіс Залескага” – гэта транслітарацыя “манускрыпту” Равінскіх?

Па-першае, Б. Залескі не змог расчытаць шэраг даволі простых “цёмных” мясцінаў “манускрыпту”. Напрыклад, у 48 радку слова “*няцысцикъ*”. Відаць сыну праваслаўнага святара польская лацінка давалася цяжка, асабліва калі ў слове фіксавалася невядомае Б. Залескаму “цоканне”. У 76 радку ён не змог прачытаць слова “Tam”, відаць, па той прычыне, што ў польскай графіцы літара “T” пісалася па-рознаму, часам з г. зв. выкрунтасам. 222 радок перададзены ім даволі “прыблізна”: “Чистоль вы ошутча визицё”.

Па-другое, як і В. Бадзянскі, Б. Залескі падобным чынам перадаваў беларускі гук [ў]: *живъ, бывъ, вдався, набивъ, всхадився* і інш. Калі ж гук [у] утвараў склад, неабходны для рытму, ён перадаваўся літараю ***у***: *ни вошто украсивъ, на уцёкъ, въ кацёлъ упекло* і інш. Прыназоўнік ***ў*** звычайна Б. Залескі запісваў як ***въ***: *въ табаку, въ адзинъ, словно въ войта силязни, папряникъ въ хусточку влажила* і інш. Але двойчы ў ягоным спісе (апошнія радкі паэмы) з’явілася літара… ***ў***: *Шматками мяса ў миски клала, Зиканья ў волюшку было*. Мы тлумачым гэта тым, што стомлены перапісвальнік механічна транслітараваў ***ŭ*** у новую для грамадзянкі літару ***ў***. Тым самым стаўшы вынаходнікам новае літары ў грамадзянцы.

Па-трэцяе, як і В. Бадзянскі, Б. Залескі няправільна транслітараваў літару ***l***: *лада* (замест – ляда), *кашёлъ*, *Эола*. Але: *дульку, любивъ*.

Па-чацвёртае, Б. Залескі меў праблему з перадачаю гуку [іо]. Асабліва гэта датычыла займенніка ***ён*** (па-польску – ***on***), які лацінкаю мог быць запісаны як ***jon***. З ***jo*** маглі быць таксама словы *panjowu* і *kaljoй*. Думаецца, менавіта дзеля перадачы гэтага гуку перапісвальнік выкарыстаў фанетычны запіс: літары ***io*** ён палучыў “дашкам” (kareta) **^** (у нашай публікацыі – ͡ ): *І͡онъ* (шмат разоў), *пані͡ову*, *калі͡овъ*. Характэрна, што ў іншых выпадках гук [іо] Б. Залескі перадае літараю ***ё***: *маё, мёдомъ, нёба, свадёбную, паскрёбся, крадицё, плащёмъ, дзяцёмъ, адёжу* і інш.

[1] Равінскія, пасля захопу Смаленшчыны Масковіяй у XVII ст., перайшлі на расейскую службу і, відаць, памянялі веравызнанне, але як і амаль уся смаленская шляхта доўгі час захоўвалі шэраг адметных рысаў, “звязаных з гісторыяй гэтага краю і працяглым знаходжаннем ў складзе беларуска-літоўскай і польскай дзяржавы” [Кісялёў 2005: 198]. Вераемна, польская мова ў сям’і Равінскіх таксама была той каштоўнасцю, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне.

Па-пятае, лацінкаю “зыходніка” мы можам патлумачыць выкарыстанне Б. Залескім графемы ўкраінскае азбукі ***Є*** (некалькі разоў). Магчыма, таксама, што яна ўзнікла пад уплывам практыкі запісу ўкраінскіх тэкстаў пад час заняткаў ва ўніверсітэце.

Па-шостае, звяртае на сябе ўвагу слова *вѣдьмуй* у 196 радку. Гэта памылка, ці сапсаваны беларускі варыянт польскага слова *wiedźmą*?

Увогуле, нельга сказаць, што “рукапіс Залескага” выкананы гэтак жа старанна, як і “рукапіс Бадзянскага”. Так, перапісвальнік імкнуўся захоўваць асаблівасці беларускае мовы (аканне, дзеканне, цеканне, цвёрдае ***р***, прыстаўныя ***г*** і ***в***), але ўдавалася яму гэта зрабіць не заўсёды.

Агульнай загадкаю для “смаленскае рэдакцыі” *Энеіды* з’яўляецца адсутнасць у спісах “цокання”, адметнай асаблівасці беларускае мовы гэтага рэгіёна. Пра тое, што дадзеная асаблівасць была характэрная для родных мясцінаў В. Равінскага нават у другой палове XIX ст., паведамляе і ўнук літаратара, Канстанцін Равінскі:

> Белорусский язык у крестьян названных трех уездов стал окончательно вытесняться великорусским, на котором говорили образованные классы и который господствовал в школе, в суду, а администрации. Но в наиболее глухих местах, особенно в Порецком уезде, еще долгое время крестьяне и особенно крестьянки «цоколи» и нередко в разговоре употребляли белорусские слова и окончания слов выговаривали как белорусы [Цыт. па: Кісялёў 2005: 264].

Дык В. Равінскі, творачы паэму на мове сялянаў свае ваколіцы, павінен быў перадаць гэтае “цоканне”. Прыкладна так, як зрабіў у сваіх *Гецыках*ъ Пётр Кушын:

> Андруха Пархи́ровицъ! кали́ мо́й Ва́ська вы́расциць, а вы́ бу́дици учи́цилямъ у Вице́пскамъ учи́лишцу, навцыци яго́ такъ гавари́ць, я́къ вы́ гаво́рици... и я́ даки́ кай што́ шу́плю, да ницо́хъ ни дакуми́въ, што́ вы́ гавари́ли... бо́ у ва́съ ву́мъ за ро́зумъ заишо́въ атъ Хвилазо́хвіи; а не́, я вы́пишу Ре́хтару, што́ Ва́ська калѣка, яго склю́цуць, ниха́й валѣ́й бу́дить дзякъ, цымъ разу́мный и дакува́нный дура́къ, мы́ Хвилазохвіи ня вцы́лись; а ге́та вѣ́къ мадзѣ́имъ и хлѣ́пъ идзи́мъ [Кушинъ 1843: 403].

Чаму ж гэтая рыса не адлюстроўваецца ў *Энеідзе*? Чаму на амаль 60-разовае выкарыстанне ў “рукапісе Залескага” словаў з літараю ***ч*** маецца адзін толькі *кацатыг*ъ з “цоканнем”?

Так, мы памятаем, што “рукапіс Залескага” – гэта не аўтограф. Больш за тое, узнік гэты рукапіс, як і публікацыя К. Равінскага ў «Смоленскомъ вѣстникѣ», на падставе не аўтографа, а “не вельмі спраўнага спісу” [Кісялёў 2005: 189]. У такім разе прыхільнікі аўтарства В. Равінскага павінны прызнаць, што паэт аўтограф страціў (аддаў цікаўным суседзям-чытачам, выслаў у рэдакцыю літаратурнага часопіса і інш.), але ўзамен атрымаў (магчыма, праз шмат гадоў) іншую моўную рэдакцыю твора (без “цокання”!), даволі сапсаваную і перайначаную. І, вядома, не мог ужо ўзнавіць арыгінал, адно захоўваў яе як памятку.

Такім чынам, гіпатэтычна можна меркаваць, што напісаная («переложенная») В. Равінскім у 1816–1828 гг. беларуская *Энеіда* неўзабаве трапіла на Віцебшчыну і Магілёўшчыну, набыла новыя моўныя шаты (без “цокання”), а пасля, занатаваная на сваёй “другой радзіме” нейкім аматарам, вярнулася пад страху Равінскіх, адкуль зноў павандравала, але ўжо ў свет навукі (архіўных сховішчаў) і мясцовых краязнаўчых публікацый. Апошні раз гэты спіс быў выкарыстаны К. Равінскім, унукам паэта, у 1890 г.

Аднак гіпатэтычна мы можа прапанаваць і іншы варыянт паходжання рукапісу, які доўгі час быў уласнасцю Равінскіх. Аўтар беларускае паэмы быў ураджэнец Магілёўшчыны ці Віцебшчыны, які ў сталым веку жыў і працаваў на Смаленшчыне, дзе з пад ягонага пяра выйшла, па ўзору І. Катлярэўскага, «переложенная» *Энеіда*. Адсюль у паэме шэраг смаленскіх геаграфічных рэалій, а таксама асобныя дыялектызмы, зрэшты, нешматлікія. Праз вуснае (а можа, часткова і пісьмовае) пашырэнне ў арэоле гаворак з “цоканнем” (Веліжскі павет) твор набыў асобныя рысы гэтага дыялекту і трапіў, дзякуючы К. Мыслоўскаму, у друк. В. Равінскаму ўдалося атрымаць спіс паэмы ў часе першага доўгага побыту ў родных мясцінах у 1816–1826 гг. Вядома, быў гэта не аўтарскі арыгінал, але перапісвальнік, хоць і занатоўваў *Энеіду* па памяці, але меў ўяўленне пра ейную строфіку і па магчымасці стараўся ўзнавіць яе.

І на яшчэ адну адметнасць “рукапісу Залескага” варта звярнуць увагу. Завяршаецца ён папярэджаннем пра магчымы працяг твора. Згадаў пра гэта Я. Карскі: «Въ концѣ приписка: “продолженіе впередь”» [Карскій 1908: 6]. Знаны славіст, аднак, пакінуў без увагі яшчэ адну фразу, узятую ў круглыя дужкі, канцавое «приписки»: «А можетъ быть и нѣтъ!». Вераемна, улічваючы гуллівы характар “паслання чытачу”, належаць гэтыя канцавыя пазнакі калі не аўтару, дык перапісвальніку-папярэдніку Б. Залескага.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: РГАДА (Российский государственный архив древних актов, Москва), ф. 188 [*Рукописное собрание Центрального государственного архива древних актов (коллекция)*], оп. 1, д. 1394 [*Записи белорусского фольклора и материалы по языкознанию профессора Московского университета О.М. Бодянского. Разрозненные тетради*], л. 101–107v.

|101r|

# **Енеида**
## **Съ Малароссійскаго на Смоленскій крестьянскій языкъ переложенная Викентіемъ Ровинскимъ (помѣщикомъ Духовщинскаго уѣзда)**

|101v| Отъ кандидата Бориса Залѣскаго,
1851 года, Августа 11 дня. Москва.

|102r|

1.

Живъ бывъ Эней[1], дзяцюкъ хупавый,
Парнюкъ ни вошто украсивъ,
Хоть панъ, а вдався не лукавый,
Доступинъ, вецель, не спѣсивъ!
Но греки вуйму нарабили
Якъ лада Трою всю вспалили.
Кашёлъ іонъ сгребши на уцёкъ,
И швыдко зробивши челнокъ,
Троянцами яго[2] набивъ,
И въ море съ ними іонъ поплывъ.

*х*

Якасъ Юнона была злая,
Отродзя Паньскаго лихая,
Шукала все яго[3] сгубидзь,
Въ кацёлъ упекло посадидзь;
За то отъ вишъ, ты не взлюбила,
Яго Вянера што радзила,
А дзядка зробивъ указею:
Юнона хвасталась собою,
А іонъ Вянеру все хваливъ,
Вянерѣ й дульку подаривъ.

---

[1] Магчыма, літара ***Э*** у гэтым слове папраўленая з ***Я***.
[2] Літара ***я*** папраўленая з ***е***.
[3] Літара ***я*** папраўленая з ***е***.

*x*

Юнона въ облакъ[1] отпихнула
Ды зъ нёба на море взглянула,
Плывець на челнокѣ Єней[2].
“Ахъ ты някруцина злодзѣй,
Ось я цябѣ скручу въ табаку,
Ражномъ у море якъ сабаку!”
Пані͡ову[3] швыдко нахапила,
Кашёлъ сошнямі наложила,
Въ колесы сѣла покатилась,
Якъ разъ въ Эола[4] очутилась,

|102v| Взошла въ свѣтлицу да й на кутъ.
“Здорова вси! Яолъ чи тутъ?”
Яолъ сядѣвъ тагды на печки,
Мязгу скабливъ на перяпечки,
И лапти сабѣ подплетавъ,
И ось оборы подобравъ,
Заткнувъ за поясъ кацатыгъ,
Скацився съ печки въ адзинъ мигъ.
“Здоровъ, хвигурная Юнона,
Цябе[5] давно я не видавъ”.

*x*

И три ей зробивши паклона,
Мякотнаго на столъ падавъ.
Яна мякотнаго паѣла,
Уцёршись, такъ яму запѣла:
«Чи вѣдаешь маё ты горя,
Яней съ Траянцами плывець;
Спихни яго ты, сватъ, у моря,
Нехай ……………..[6] воду пьець!

*x*

Мяркую, чувъ, Яней і͡онъ зводникъ,
Варюга, злодзій, кановодникъ;
Траянцы также вси латрыги,
Вси курвичи и вси ярыги.
Праяву зробиць на святу,

---

[1] Спачатку было напісана *воблакъ*, а пасля папраўлена на *въ облакъ*.
[2] Літара ***Є*** папраўленая з ***Я***.
[3] Тут і далей перапісвальнік выкарыстоўваў над літарамі ***іо*** знак ˆ.
[4] Літара ***Э*** папраўленая з ***Я***.
[5] Немагчыма дакладна сказаць якая апошняя літара ў слове: ***е*** ці ***я***.
[6] Тут перапісвальнік пакінуў пустое месца ў радку.

И ихъ всихъ нада съ свѣту звесць.
Кали, сватъ, зробишь тую чесць,
То я дзявухну украсиву,
Салодкую, якъ зъ мёдомъ сливу,
Цябѣ за теє[1] привяду”.

*х*

Яолъ разшупивъ теу[2] дзѣло,
Съ яго ажъ слюнка пацѣкла,
|103г| Любивъ іонъ цѣшиць грѣшна цѣла,
Дявухна па нутру была,
Заскрёбся, барадой затрёсъ,
Усы разгладзивъ, пацёръ носъ,
Хапивъ напойку табаку,
Лупивши зубы бармотавъ,
…….[3] рѣчъ Юнонѣ і͡онъ таку
Съ паклономъ вишь ты отказавъ:

*х*

“А вохъ ци мнѣ, мая Юнона,
Ни воднаго жъ нѣтъ вѣтру дома;
Што буду робиць я цяперь:
Барей съ пахмѣлля, якъ ваперь,
Ляжиць въ святлицы на казёнки,
А Нотъ учора зъѣхавъ къ жонки,
Зяхвиръ съ дзявухна загрався,
А Євръ у батраки нанявся.
Якъ хочешъ ты сябѣ смѣкай,
Да єцъ[4] дзявухну даставай!”

*х*

А я все зроблю Грамадзѣю,
Со всихъ глуздовъ ихъ сцибану,
Съ Траянцовъ выдавлю алѣю,
На дно у моря заганю;
Твойго жъ найбольше лиходзѣя,
Някрута, выблидка, Янея,
Оттакъ попру и съ дзюциками,
Ажъ булкаць будиць пузырыми,

---

[1] Апошняя літара ў слове, відаць, паходзіць з украінскага алфавіта. Є – абазначае два гукі – [йе].
[2] Літара ***у*** ў гэтым слове, відаць, з’явілася праз памылку.
[3] У радку перапісвальнік пакінуў пустое месца.
[4] Я. Карскі патлумачыў гэтае слова лацінскім *Futuere* – займацца сэксам. Але тут *єцъ* трэба чытаць як *едзь*.

Якъ въ виръ всихъ торчмя галавой,
Наместникъ*[1] сцягниць за сабой!"

|103v| *x*

И вось Яолъ галень*[2] схопивши,
На панщину гукаць почавъ,
И вось і͡онъ вѣтры распусцивши
Бурлиць имъ моря наказавъ.
Кали хто видзивъ якъ Бахциха*[3]
Нямецка пива задаець,
Яке яно падымець лиха,
Запѣнитца и розна прець:
Оттакъ и моря заревѣла,
Бублила, пѣнилась, шипѣла.

*x*

Яней упудився, всхадився,
Мутузъ ашъ у штановъ свалився,
Съ страстей и нюни распусцивъ,
И словно въ тёткѣ*[4] і͡онъ завывъ;
Траянцы вси казлы задрали,
Со всихъ чарёвъ яны гукали,
Въ балоцѣ будта лисавей*[5].
Ачнувся, закричавъ Яней:
"О Царь, царевичъ, Тятъ Няптунъ!
Ня буду предъ тобой бряхунъ,

*x*

Змилуйся, моря усмири!
Картузной я пришлю цяртухи*[6],
Сударскій мацнои сивухи,
А гроши самъ зъ машны бяри".
Няптунъ до денегъ мавъ ахоту,
Гарелку добре і͡онъ сцибавъ,
Почувъ, што будзиць за работу,
Якъ разъ на вѣтровъ загукавъ:
|104r| "А вонъ, нячысты някруцины,
"Зъ якей хвантазіи вы тутъ?

*x*

"Глядзи, скаштуице дубины,
"И ноздри вамъ ражномъ утруць".
Ось досыць вѣтромъ тутъ сзикатца
Зъ Няптунамъ знали якей жартъ,
Дамовки стали убиратца,
Якъ атъ Кургузова Липартъ*[7].
И вось и нёба залупилась,

Вскочила солнышко, заснилась.
Яней, уцёкши такъ атъ бѣдъ,
Састряпацъ заказавъ обѣдъ.

*x*

Траянцы взялись за ядзеня,
Якъ съ поля панскіи харты:
Была въ ихъ зъ затолкой*[8] крупѣня*[9],
Кулагу*[10] пхали въ животы,
Была въ ихъ гуща и драчона
И парасяцина смажона,
Пили гарелку не кавшомъ,
Цягнули въ волю вси набгомъ;
Усячины панасцибались
И на палацяхъ спаць паклались.

*x*

Вянера зъ кирмашу*[11] вярнулась,
У шестви*[12], видишь ты, была,
И объ Янеюшки дачулась,
Юнона якъ яго спрягла.
Андракъ*[13] съ насовкой апрянула,
Съ подплётомъ*[14] вздѣла каверзни*[15]
|104v| Анучки рябыи абула,
Якъ словно въ войта силязни;
А храпу*[16] съ щолокомъ обмыла,
Кужельной вздѣла балахонъ,
Папрляникъ*[17] въ хусточку влажила,
Пошла къ Зевесу на паклонъ.

*x*

Зевесъ тагды сидзѣвъ у клѣци,
Гарелку зъ мёдомъ тамъ сцибавъ,
Безъ сорому якъ малы дзѣци,
Съ паддоння пальцомъ калупавъ.
Пришла Вянера и завыла,
Саплями змазала всё рыла,
И такъ зазюкала яна:
“А чимъ передъ тобою, Бацка,
“Мой обмишулився дзицяцка?
“Зюкни, яка яго вина:

*x*

“Ня взвидюць[1] и́му яго воки,
“Кали Юноны не уймешъ,

[1] Літара ***ц*** папраўленая з ***т***.

Зядуць на ростынахъ*[18] сароки,
Сатрець яна яго въ кулешъ*[19]”.
Зевесъ гарелочку допивши,
Ражкомъ въ халеву пастучавъ,
Цяртухи моцныи заживши,
Таку говорку атказавъ:

*x*

“О дочухна мая радзима!
Дапрець Янеюшка да Рима,
|105r| И будзець тамо і͡онъ царемъ;
Палепшы Чиживскихъ*[20] харомь
Паставиць каменны палаты.
Паны жъ ня будуць тамъ багаты,
Свои чапы*[21] і͡онъ заведець
И всё на откупъ побярець.

19

“Теперь заверниць къ Карпагени,
Въ Дзидоны, видишь, талака,
Папрець у волю і͡онъ смажени,
Отѣсся съ добрага быка,
Попарицца і͡онъ тамъ у бани,
Падпустиць хвигля самой пани,
Закруциць моцно галаву,
На любжу приведець вдаву.

20

“Иди, дачухна, не турбуйся,
Да скоромоли глядзи ня псуйся,
Ни съ кимъ саромна не бранись
И въ Сташковъ*[22] Нилѣ пакланись”.
Вянера тутъ яму присѣла,
Хранцузъ якъ барышню учивъ,
Пашла, свадёбную запѣла,
Зевесъ єй дужа дагадзивъ.

21

Яней ачухався, паскрёбся,
На ноги лапти падвязавъ,
|105v| Съ палацей да кута догрёбся
И плыць япрейтару казавъ.
Плывъ, 2[1], ажъ въ вокахъ сзеленѣлась,
И моря горшъ талакна пріѣлась.
Ї͡онъ вѣдьмуй на яго глядзѣвъ,

[1] Лічба 2, відаць, азначала паўтарэнне папярэдняга слова.

А тамъ пачавъ уже сзикацьца[1],
И такъ ни къ чому ставъ ругацьца,
Што я и писаць тутъ не посмѣвъ.

22

Казавъ, штобъ лепши на пагосци
Схавтурили бъ маи тамъ косци.
Дарма, чимъ съ трои пакруцився
И валачобничаць[2] пустився.
Г͡онъ съ горя пипку запаливъ,
Въ балону*[23] голову спусцивъ,
Ажъ глядзь у моря, исказився,
Запѣвъ избранную, заксцився*[3].
“Глядзите, братцы, вонъ сяло!”.
Тутъ всихъ за животы взяло.

23

Якъ разъ на берегъ привалили,
За плотъ чавнокъ свой прикруцили,
Па шклянки выпили сивухи,
Паѣли наща саладухи[4],
Калі͡овъ*[24] паѣли и глазухи*[25],
Пашли у городъ пагуляць.
Бягуць, якъ батраки съ пригона,
А имъ въ варотахъ тыкъ Дзидона,
И стала такъ на ихъ брехаць

24

“Гляди, якишъ то абадраны,
|106г| Чистоль вы ошутча визицё[5],
Ай Духанскіи*[26] вы цыгани
Курей съ подклетца крадицё?[6]
Чаго сюды васъ прикруцила;
Я й такъ дзесяцкаго прибила,
Што і͡онъ расправщины ни знаиць,
И безъ рашпору всихъ пускаиць”.

25

Якъ Валасни закапашились,
Плащёмъ Траянцы павалились,

---

[1] Апошняя літара ***а*** папраўленая з ***я***.
[2] Літара ***ц*** папраўленая з ***т***.
[3] Перапісвальнік паставіў дзве зорачкі над гэтым словам, але хіба не змог патлумачыць яго.
[4] Радок дапісаны пазней у міжрадкоўі.
[5] Літара ***ё*** папраўленая з нейкае іншае.
[6] Літара ***ё*** папраўленая з нейкае іншае.

Сачень*[27] Дзидони паднесли,
Таку говорку затягли:
Мы вси съ Траяскаго приходу,
Сударски пиридъ тымъ были;
Но въ восинь прошлаго мы году
Отъ Грековъ въ море уцякли.
Яней канторщикомъ у насъ,
Рашпорты держиць. А па насъ
Глазеты*[28] жъ, барыня, ты маишъ,
Спрягли якъ Трою, про те знаишь,
То нечего цибѣ казаць.

26

О вартикульная Дзидона!
Ты насъ у крѣпасць запиши,
Въ недѣлю робь себѣ два згона,
Мы робиць будимъ да души,
И всяку панщину смѣкаемъ:
|106v| У бровора сядзѣць якъ, знаимъ,
Загнетки, сундуки рабиць,
На бочки вабручи набиць,
Пилипъ нашъ лепитъ гарлачи*[29],
Пракопъ же ступы, талкачи.

27

“А Савка зелля вся знаець,
Дзяцёмъ ї͡онъ вогникъ*[30] отликаиць,
Хупавъ бабами варажиць,
И шкурапѣю*[31] атхадзиць.
Глядзи, якъ мы парашарпались,
Ажъ сорамъ свѣтицца[1] насквозь,
Вси лапци розна растаптались,
Рубахи чорныи якъ восъ[2].
Кали вже ласка твоя будиць,
Вяли намъ баньку пратапиць,
Адёжу треба намъ папрудиць,
Оттакъ кишаць, няможно жить”.

28

Дзидона рюмзала и выла,
Цякло, якъ зъ ливара, зъ вачей,
Манисты дзёргала, круцила,
А сердця тыхъ, тыхъ, тыхъ у ей!
Яна вже чула про Янея,

---

[1] Першапачаткова было напісана *свѣтицьця*.
[2] Над літараю ***с*** гэтага слова перапісвальнік надпісаў літару (***з***).

Што съ гулькою въ яго и шѣя,
Што волосъ въ галавѣ скруцився,
|107r| Што носъ казюлькай раздваився,
То шупила якей тутъ смакъ.
И вось клевшила*[32] яна якъ:
“Кали бъ Яней вашъ схамянувся,
Да самъ ка мнѣ бы падвернувся,
Усячыны бъ тагды бъ даставъ”.
Г͡онъ шмыкъ, якъ словно съ неба спавъ.

29

Взошли въ святлицу – пярякстились,
Яней и вотча прачитавъ,
За столъ вси рядушкомъ садились,
Малинокъ*[33] на столѣ стаявъ.
Дзидона варива вливала,
Шматками мяса ў[1] миски клала
И забиляла малакомъ;
Трупацыла яна крупеню,
Яѣшьню, рудникъ*[34], журъ[2], смаженю,
Камы, печеню съ честнакомъ.
Были й салотки потешки,
Попряжникъ Вяземскій, аршки (?).

30

Мязги и мезюли*[35] рѣшето.
Дуда верлюемъ*[36] тутъ ревѣла,
Сапелка гусиней шепела,
Скрипѣла скрипка, якъ каткі.
Дзявухны галасу гукали,
|107v| Вясну малодушки скликали,
И шутки разны рабили:
Казу святошную вадили,
Загнетки (?) лося забивали,
Дугу у шубу продивали,
Зиканья*[37] ў волюшку было
Расхарапужився Яней,
Ажъ искры сыплюцъ атъ лаптей.

Продолженіе впредь.
(А можетъ быть и нѣтъ!)

---

[1] Толькі двойчы ў тэксце перапісвальнік ужыў літару ***ў***. Ці не азначае гэта, што ў зыходным тэксце яны таксама былі, асабліва ўлічваючы тое, што ён быў пісаны лацінкаю.

[2] Над гэтым словам перапісвальнік паставіў пытальнік (?).

*Ad marginem*: *[1] Дьяволъ; *[2] Голикъ; *[3] Бахтѣева; *[4] Лихорадкѣ; *[5] Лѣсовой; *[6] Табаку; *[7] Кутузова Бонапартъ; *[8] Съ саломъ; *[9] Изъ ячныхъ крупъ; *[10] Кашу; *[11] Ярмарка; *[12] Въ Вознес. монастырѣ въ Смоленскѣ, во время ярмарки, по случаю храма Смолен. Бож. матери, на вратахъ церкви отъ Москвы; *[13] Женск. свитку; *[14] Покромками; *[15] Лапти; *[16] Морду; *[17] Пряникъ; *[18] Перекрестокъ; *[19] Гороховый кисель; *[20] Чижево село въ Духовщин. уѣздѣ съ барским домомъ; *[21] Мѣра винная; *[22] Осташковъ; *[23] Внизъ; *[24] Сушен. лукъ; *[25] Глазопялка, родъ кушанья, туря; *[26] Духовщинскіе; *[27] Пирогъ; *[28] Газеты; *[29] Крынки; *[30] Болѣзнь; *[31] Родъ коросты; *[32] Прогукала; *[33] Пирогъ; *[34] Жидкій кисель; *[35] Изюму; *[36] Медвѣдемъ; *[37] Баловства.

*Арыгінал. У гары першае старонкі злева:* № ~~164~~. 886. *На доле старонкі пячатка:* Библіотеки Императорскаго Общества Истори и древностей Російскихъ, *якая паўтараецца на кожнай няцотнай старонцы. Радкі паэмы пранумараваныя (1–5–10–15...), магчыма, перапісвальнікам (Б. Залескім) ці В. Бадзянскім. Радок 178 пазначаны як 175, а далей нумарацыя памылковая*.

# Рукапіс Сразнеўскага

Рукапіс, які знаходзіцца СПбФ АРАН (ф. 216, воп. 3, спр. 376, арк. 1v – 7), выявіў І. Цішчанка. На жаль, нам пакуль не ўдалося атрымаць якасную копію дадзенага дакумента, дык дзеля аналізу і публікацыі выкарыстоўваем ягоную рукапісную копію, якую выканаў у 1940–1950-я гг. Л. Бэндэ. Параўноўваючы апублікаваную ў кнізе Г. Кісялёва *Жылі-былі класікі*… першую старонку даўняга рукапісу з копіяй Л. Бэндэ, мы прыйшлі да высновы, што апошняя, нягледзячы на шэраг "памылак", абумоўленых міжвольным асучасненнем старога дасавецкага правапісу, дастаткова добрая і вартая таго, каб быць уведзенай ва ўжытак.

Перш-наперш, пра г. зв. "памылкі" Л. Бэндэ.

| Рукапіс СПбФ АРАН, ф. 216, оп. 3, д. 376 | Рукапіс БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 564 |
|---|---|
| Съ малорусскаго | Съ малорусского |
| на Смоленскій | на Смоленский |
| крестьянскій языкъ | крестьянский язык |
| Парнюкъ | Парнюк |
| панъ | пан |
| Греки | греки |
| набилъ | набил |
| паньскаго | паньского |
| В котелъ | В котёлъ |

Яны будуць сустракацца і на наступных старонках, хоць, здаецца, іх будзе значна менш.

Як мы ўжо сцвярджалі, дадзены рукапіс паўстаў на падставе таго самага "манускрыпту", што і "рукапіс Залескага". Вядома, мы бачым шэраг адрозненняў паміж тэкстамі. Пералічым асобныя з іх.

"Рукапіс Сразнеўскага" на два радкі карацейшы. Адсутнічаюць 266 (*Паѣли наща саладухи*)[1] і 301 (*Зиканья ў волюшку было*) радкі. Шэраг выразаў у спісах занатаваныя па-рознаму:

| "Рукапіс Залескага" | "Рукапіс Сразнеўскага" |
|---|---|
| хвасталась собою | хвасталась своею |
| Вянеру все хваливъ | Вянерыну хвалилъ |
| Яолъ чи тутъ? | Яол ты тут? |
| пацёръ носъ | подтёръ носъ |
| Ни воднаго жъ нѣтъ | Ни водного нѣтъ |
| булкаць будиць | буркать будеть |

[1] Які ў "рукапісе Залескага" дапісаны пазней.

| | |
|---|---|
| На панщину гукаць почавъ | Гукать на паньщину началъ |
| Коли хто видзивъ | Колибъ ты видѣлъ |
| Мутузъ ашъ у штановъ | Мутусъ ажъ у портокъ |
| Тятъ Няптунъ | грапъ Няптунъ |
| атъ Кургузова | отъ Кутузова |
| такъ атъ бѣдъ | такихъ бедъ |
| У шестви | У шатви |
| тагды сидзѣвъ | сиделъ тогды |
| Чистоль вы ошутча визицё | Ти смоль вы съ Щуття вязитё |
| Дзявухны галасу гукали | Дзявухны полосу гукали |

Як бачым, усе гэтыя адрозненні – ні што іншае, як памылкі прачытання, памылкі запісу і асаблівасці рэдагавання перапісвальнікаў. Так, перапісвальнікі дазвалялі сабе рэдагаваць тэкст паэмы. Нават Б. Залескі, які ўсё ж у асноўным прытрымліваўся філалагічных парадаў В. Бадзянскага.

Што датычыць нязнанага перапісвальніка І. Сразнеўскага, дык ён, пэўна, ведаючы смаленскі дыялект беларускае мовы, пастараўся максімальна зрусіфікаваць *Энеіду навыварат*. Ягонае рэдагаванне нязначна закранула лексічны склад паэмы, але цалкам змяняла ейны граматычны лад. Беларуская мова "траціла" пад ягоным пяром амаль усе свае адметныя рысы і пераўвасаблялася ў дыялект расейскае.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 66 [Бэндэ Лукаш Апанасавіч], воп. 1, спр. 564 [*Энеіда. Запіс паэмы з спіска І.І. Сразнеўскага*. (*Бібліятэка Акадэміі навук БССР*). *Сшытак*], арк. 2 – 10v.

|2r| **Энеида**

**съ малорусского на Смоленский крестьянский язык переложенная В.П. Ров...**

Жилъ былъ Яней, дятю́к хупа́вый,
Парнюк нивошто украси́въ,
Хоть пан а вдался не лукавый,
Доступенъ, ветелъ, не спесивъ.
Но греки вуйму наробили,
Як лядо Трою всю спалили,
Кошель ёнъ сгрёбши на утёкъ,
И швыдко зробивши челнокъ,
Троянцами яго набилъ
И въ море съ ними ёнъ поплылъ.

x x
x

Якась Юнона была злая,
Отродя паньского лихая,
Шукала всё яго сгубить,
|2v| В котелъ у пекло посадить.
За то отъ вишь ты не взлюбила,
Яго Вянера што родила;
А дядька зробилъ указею,
Юнона хвасталась своею,
А ён Вянерыну хвалилъ,
Вянерѣ й дульку подарилъ.

#

Юнона воблакъ отпихнула,
Да зъ нёба на море взглянула:
Плыветь на чолнокѣ Яней.
“Ахъ ты някрутина злодѣй!
“Ось я тябе скручу въ табаку,
“Рожномъ у море якъ собаку!”
Паневу швыдко нахопила,
Кашель сошнями наложила,
Въ колёсы сѣла, покатилась,
Якъ разъ въ Яола очутилась,

#

|3r| Взошла въ святлицу дай на кутъ.
“Здорово вси, Яол ты тут?”
Яолъ сиделъ тогды на печки,
Мязгу скоблилъ на перепечки,
И лапти себѣ подплеталъ,
И вось оборы подобралъ,
Заткнулъ за поясъ коцатыкъ,
Скатился съ печки въ одинъ мигъ.

#

“Здоровъ хвигурная Юнона,
Тябе давно я не видалъ”.
И три ей зробивши поклона,
Мякотнаго на столъ подалъ.
Яна мякотнае поѣла,
Утёршись такъ ему запела:
“Ти вѣдаешь моё ты горе –
“Яней съ Троянцами плыветь;
“Спихни яго ты, сватъ, у море,
“Нехай няцыстикъ воду пьеть.

|3v|

#

“Мяркую, чулъ, Яней ёнъ зводникъ,
“Ворюга, злодѣй, коноводникъ;
“Троянцы также вси латрыги,
“Вси курвичи и вси ярыги;
“Прояву зробить на святу,
“И ихъ всехъ надо съ свѣту звесть.
“Коли, сватъ, зробишь тую честь,
“То я дявухну украсиву,
“Солодкую якъ зъ мёдомъ сливу,
“Тебѣ за тэе приведу”.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[1]

#

Яолъ разшупилъ тэе дѣло,
Зъ яго ожъ слюнька потекла;
Любилъ ёнъ тѣшить грѣшно тѣло,
Дявухна по нутру была.
Заскрёбся, бородой затрёсъ,
Усы разгладилъ, подтёръ носъ,
Хопилъ напойку табаку,
Лупивши зубы бормоталъ,
|4r| Тамъ рѣчь Юнонѣ ёнъ таку
Съ поклономъ вишь ты отказалъ:

[1] Невядома, што мае значыць радок кропак.

#

“А вохти мнѣ моя Юнона!
“Ни водного нѣтъ вѣтру дома.
“Што буду робить я тяперь?
“Борей съ похмелья якъ вяперь
“Лежить въ святлицѣ на казенкѣ,
“А Нотъ учора зъѣхалъ къ жонкѣ,
“Зяхвиръ зъ дявухнами заигрался
“А Евръ у батраки нанялся.
“Якъ хочешь ты сябѣ змѣкай,
“Да ѣдъ дявухну доставай.

#

“А я всю зроблю грамадѣю,
“Со всихъ глуздовъ ихъ стибану,
“Съ троянцевъ выдавлю алею,
“На дно у море загоню.
“Твойго жъ найбольше лиходѣя,
|4v| “Някрута, выблюдка, Янея
“Отъ такъ папру и съ дятюками,
“Ажъ буркать будеть пузырями,
“Якъ въ виръ всихъ торчмя головой
“Намѣстникъ стягнеть за собой”.

#

И вось Яолъ, голень схопивши,
Гукать на паньщину почалъ,
И вось ёнъ вѣтры распустивши
Бурлить имъ море наказалъ.
Колибъ ты видѣлъ якъ Бахтиха
Нямецко пиво задаеть[1],
Якое яно подымѣть лихо,
Запѣнится и розно преть;
Отъ такъ и море заревѣло,
Бублило, пѣнилось, шипѣло.

#

Яней упудился, всходился,
Мутусъ ажъ у портокъ свалился,
|5r| Съ страстей и нюни распустилъ,
И словно въ тёткѣ ёнъ завылъ.
Троянцы вси козлы задрали,
Со всихъ чаревъ яны гукали
Въ болотѣ будто лѣсавѣй.
Очнулся, закричалъ Яней:

[1] Магчыма, *задаець*.

“О Царь царевичь, Грапъ Няптунъ!
“Ня буду предъ тобой бряхунъ.

#

“Змилуйся, море усмири.
“Картузной я пришлю тяртухи,
“Сударскей моцныя сивухи,
“А гроши самъ зъ мошны бяри”.
Няптунъ до денегъ [грошэй] малъ охоту,
Горѣлку добре ёнъ стибалъ,
Почулъ што будеть за работу,
Якъ разъ на вѣтровъ загукалъ:
“А вонъ няцысты някрутины,
“Зъ якей хванталіи вы тут?

|5v| #

“Гляди скоштуете дубины,
“И ноздри вамъ рожномъ утруть!”
Ось досить вѣтрамъ тутъ здикаться, –
Зъ Няптуномъ знали якей жартъ,
Дамовки стали убираться,
Якъ отъ Кутузова Липартъ.
И вось и нёбо залупилось,
Вскочило солнышко, зъяснилось.
Яней утёкши такихъ бедъ,
Состряпать заказал обѣдъ.

#

Троянцы взялись за ядення,
Якъ съ поля паньскія хорты.
Была въ нихъ зъ затолкай крупеня,
Кулагу пхали въ животы,
Была въ нихъ гуща и драчона
И поросятина смажона.
Горѣлку пили не ковшомъ,
|6r| Тягнули въ волю вси набгомъ.
Усяцыны понастибались
И на палатяхъ спать поклались.

#

Вянера съ кирмашу вярнулась, –
У шатви видишь ты была, –
И объ Янеюшке дочулась,
Юнона якъ яго спрягла.
Андракъ съ носовкой опрягнула,
Съ подплётомъ вздѣла ковярзни,
Онучки рябыя абула
Якъ словно въ войта селезни;

А храпу щелокомъ обмыла,
Кужельный вздзѣла балахонъ,
Попряникъ въ хусточку вложила,
Пошла къ Зевесу на поклонъ.

#

Зѣвесъ сидѣлъ тогды у клѣти,
Горѣлку зъ мёдомъ ёнъ стибалъ,
|6v| Безъ сорому якъ малы дѣти,
Съ подоння пальцемъ колупалъ.
Пришла Вянера и завыла,
Соплями змазала всё рыло,
И такъ зазюкала яна:
“А чимъ передъ тобою, батька,
“Мой обмишулился дитятька?
“Зюкни, яка яго вина?

#

“Ня взвидють Риму яго воки,
“Коли Юноны не уймешь,
“Зъядуть на ростынях сороки,
“Сотреть яна яго въ кулешъ”.
Зявесъ горѣлочку допивши,
Рожкомъ въ халяву постучалъ,
Тяртухи моцныя заживши,
Таку говорку отказалъ:

#

“О дочухна моя родима!
|7r| “Допреть Янеюшка до Рима,
“И будеть тамо ен Царемъ;
“Палѣпше Чижевскихъ хоромь
“Построить каменны палаты;
“Паны жъ ня будуть тамъ богаты:
“Свои чапы енъ заведеть
“И всю на откупъ побереть.

#

“Тяперь завернеть къ Карпагенѣ,
“Въ Дидоны видишь толока,
“Попреть у волю ёнъ смажени,
“Отъѣстся съ доброго быка,
“Попарится ёнъ тамъ у бани,
“Подпустить хвигля самой пани,
“Закрутить моцно голову,
“На любжу привядеть вдову.

#

“Иди дочухна не турбуйся,
“Да скóромомъ гляди ня псуйся,
|7v| “Ни съ кѣмъ соромно не бранись
“И въ Сташковъ Нилѣ поклонись”.
Вянера тутъ яму присѣла,
Хранцузъ якъ барышню училъ,
Пошла свадёбную запѣла –
Зявесъ ей дужо догодилъ.

#

Яней очухался, поскрёбся,
На ноги лапти подвязалъ,
Съ палатей до кута догрёбся,
И плыть япрейтару казалъ.
Плылъ, плылъ ажъ въ вокохъ сзелянѣлось
И море горше толокна прiѣлось.
Ѣнъ вѣдьмой на него глядѣлъ,
А тамъ почалъ уже здикаться
~~Што я й~~ **И такъ** ни къ чому сталъ ругаться
Што я й писать тут не посмѣлъ.

#

Казалъ, што лепшебъ на погостѣ
|8r| Схавтурили бъ мои тамъ кости,
Дармо чимъ съ Трои покрутился
И волочобничать пустился.
Ёнъ съ горя пипку запалилъ,
Въ болону голову спустилъ, –
Ажъ глядь у моря, исказился
Запѣлъ избранную, закстился.
“Глядите братцы вонъ сяло”.
Тутъ всихъ за животы взяло.

#

Якъ разъ на берегъ привалили,
За плотъ челнокъ свой прикрутили.
По шклянкѣ выпили сивухи,
Комовъ поѣли и глазухи,
Пошли у город погулять.
Бягуть якъ батраки съ пригона,
А имъ въ воротахъ – тыкъ Дидона
И стала такъ на нихъ брехать:

|8v| #

“Гляди, якижъ-то ободраны;
“Ти смоль вы съ Щуття вязитё,
“Ай духовскiе вы цыганы

“Курей съ подклѣття крадитё?
“Чаго сюды васъ прикрутило?
“Я й такъ десятского прибила
“Што ёнъ росправщины не знаеть
“И безъ рашпору всихъ пускаеть”.

#

Якъ волосни закопошились,
Пластёмъ Троянцы повалились
Сочень Дидонѣ поднесли,
Такую говорку затягли:
“Мы вси Троянского приходу,
“Сударски передъ тымъ были,
“Но въ восень прошлого мы году
“Отъ Грековъ въ море утякли.
“Яней конторщикомъ у насъ,
“Рашпорты держить Апанасъ;
|9r| “Глазеты жъ барыня ты маешь,
“Спрягли якъ Трою про тэ знаешь,
“То нечего тябѣ й казать.

#

“О вартикульная Дидона,
“Ты насъ у крѣпость запиши,
“Въ недѣлю робь себѣ два сгона,
“Мы робить будемъ до души.
“Мы всяку паньщину смѣкаемъ:
“У броворѣ сядѣть якъ знаемъ,
“Загнетки, сундуки робить,
“На бочки вобручи набить,
“Пилипъ нашъ лѣпить горлачи,
“Прокопъ же ступы, толкачи.

#

“А Савка зелля всяка знаеть,
“Дятёмъ ёнъ вогникъ отсѣкаеть,
“Хупавъ бобами воражить
“И шкурапею отходить.
|9v| “Гляди якъ мы поразшарпались,
“Ажъ соромъ свѣтится насквозь,
“Вси лапти розно растоптались,
“Рубахи чорныя якъ вось.
“Коли вже ласка твоя будить,
“Вели намъ баньку протопить,
“Одёжу треба нам попрудить,
“Отъ такъ кишать няможно жить”.

#
Дидона рюмзала и выла,
Тякло якъ зъ ливера зъ вочей,
Монисты дёргала крупила,
А сердце тыхъ, тыхъ, тыхъ у ней.
Яна всё чула про Янея,
Што съ гулькою въ яго и шея,
Што волосъ въ головѣ скрутился,
Што носъ козюлькой раздвоился,
То шупила якей тутъ смакъ.
И вось клявшила яна якъ:
|10r| “Коли бъ Яней вашъ всхомянулся,
“Да самъ ко мнѣ бы подвернулся,
“Усячины бъ тогды досталъ”.
Ёнъ шмыкъ, якъ словно зъ нёба спалъ.

#
Взошли въ святлицу, перекстились,
Яней и вотче прочиталъ,
За столъ вси рядушкомъ садились,
Малёникъ на столѣ стоялъ.
Дидона вариво вливала,
Шматками мясо въ миски клала
И забѣляла молокомъ.
Трупоцыла яна крупеню,
Яетьню, рудникъ, журъ, смаженю,
Комы печеню съ чеснокомъ.

#
Были и со́лодки потѣшки:
Попряникъ вяземский, орѣшки,
Мезги, мязюли рѣшето.
|10v| Дуда вярлюемъ тутъ ревѣла,
Сопѣлка гусыней шипела,
Скрипела скрипка якъ катки.
Дявухны полосу гукали,
Весну молодушки скликали,
И шутки разныя робили,
Козу святошную водили,
Въ загнетки лося забивали,
Дугу у шубу продѣвали.
Расхоропужился Яней,
Ажъ искры сыплють отъ лаптей.

*Арыгінал. Радкі паэмы пранумараваныя (5–10–15...) перапісвальнікам. На доле апошняе старонкі*: Архив Академии наук СССР. Фонд 216. Материалы Срезневского. Опись 3. № 376. Листы 1об. – 7.

# Ці быў Вінцэнт Мяніцкі аўтарам беларускамоўных казанняў?

У навуковай і навукова-папулярнай літаратуры даволі часта можна сустрэць сцвярджэнні, што ў XVIII–XIX стст. уніяцкія святары ў сваіх казаннях звярталіся да простага люду па-беларуску. Напрыклад, Максім Гарэцкі пісаў так:

> Палажэньне ў школе беларускай мовы было добрае толькі ў школах уніяцкіх. У праваслаўных-жа брацкіх школах вучыліся ёй мала-дзе, а часам дык забаранялі вучням гаварыць на лекцыях "папросту", а вымагалі славянскай размовы. Уніяты, наадварот, мелі яе ў школах за грунтоўную. Віленская уніяцкая кангрэгацыя 1636 г. на сваёй 15-й сэсіі загадала, каб манахі мелі казаньні пабеларуску, – вось жа трэ' было ім вучыцца гэтай мовы ў школах [Гарэцкі 1924: 45].

Крыху ніжэй ён тое ж самае паўтарыў і адносна пачатку XIX ст.:

> Загнанае ў мужыцкую хату беларускае слова магло падымацца ў 18 сталецьці трошачку вышэй толькі ў уніяцтве. Амаль ня ўсё беларускае ніжэйшае, вясковае духавенства к канцу века было уніяцкае, ня было такога сяла, дзе ня было-б уніяцкай царквы (як аб гэтым пісаў з беларускай падарожжы маскоўскі вучоны В. Севергін у 1803–1804 г.г.). Уніяцкія-ж духаўнікі хоць і дужа падпадалі пад уплыў польскай мовы, цьвёрда дзяржаліся мовы сваее паствы, казаньні казалі і навуку ў школах выкладалі пабеларуску [Гарэцкі 1924: 55].

Падобныя выказванні можна сустрэць у працах шэрагу іншых беларускіх даследнікаў XX ст.:

> У 1742 г. Папеж Бенэдыкт XIV буляй *Etsi Minime* загадаў духавенству зьвярнуць асаблівую ўвагу на навучаньне народу праўдаў сьвятой веры. У зьвязку з гэтым загадам віленскі біскуп Зянковіч склікаў дыяцэзіяльны Сынод, які адбыўся ў віленскай катэдры 10 лютага і 12 лютага. Сынод між іншым пастанавіў гаварыць да народу навукі паводле старога звычаю ў народнай мове. З другой паловы XVIII в. дайшлі да нас такжа беларускія рэлігійныя паасобныя песьні, як *О, мой Божа, веру табе*, а такжа зборнік такіх песьняў пад загалоўкам *Kantyczka, abo Nabożne pieśni w narzeczu połockim* (Полацак, у друкарні Soc. Jezu, 1774), уложаная, як відаць з выданьня, полацкімі езуітамі. З канца XVIII спатыкаем яшчэ катэхізмоўку, выданую ўніятамі ў беларускай мове, друкаваную лацінскімі літарамі. Цікавая і цэнная гэта катэхізмоўка перахоўваецца ў Беларускім музэі ў Вільні. Гэтая катэхізмоўка сьведчыць, што Ўніяцкі Кась-

цёл у канцы XVIII ст. яшчэ не пакідаў цалкам роднай мовы народу ў жыцьці рэлігійным [Станкевіч 2008: 405].

Аднак, здаецца, гэтыя выказванн,і ніколі не пацвярджаліся канкрэтнымі тэкстамі казанняў. Відаць, лічылася, што, па-першае, беларускамоўныя казанні ўніяцкіх святароў прызначаліся для неадукаваных сялянаў, а таму, вядома, не вызначаліся вартым ўвагі прамоўніцкім майстэрствам, высокім тэалагічным ці мастацкім узроўнем; па-другое, калі яны і існавалі ў занатаваным выглядзе, дык проста не захаваліся альбо былі адмыслова знішчаныя пасля скасавання Уніі[1].

Выяўленыя намі ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы два беларускамоўныя казанні з 1839 г. – гэта, здаецца, першыя тэксты падобнага кшталту, якія дайшлі да нашага часу [гл.: LVIA 599–1–97: 168r–176v].

Апісанне архіўнае справы сведчыць, што паперы, якія ўваходзяць у яе склад, належалі Вінцэнту, сыну Міхала, Мяніцкаму (пам. 4.08.1867) і ягонаму пляменніку Вінцэнту, сыну Пятра, Мяніцкаму (1850–1916). Пра апошняга мы ведаем даволі шмат [гл.: Bahdanowicz 1998: 21–27; Багдановіч 1998: 237–241; Багдановіч 1999; Багдановіч 2001: 52–57; Баўтовіч 2013: 18–21 і інш.]. Паходзіў ён з Лепельшчыны, амаль усё жыццё правёў у маёнтку Селігоры[2], які дастаўся яму ў спадчыну ад дзеда, ротмістра Полацкага ваяводства Міхала Мяніцкага (нар. 1763) і бацькі Пятра Мяніцкага. Паводле *Алфавитнаго поуѣзднаго списка землевладѣльцамъ Витебской губерніи* В. Мяніцкаму належалі наступныя маёнткі і фальваркі: Ракусіна[3] (74 дзес.), Селігоры і Катушэнкі (183 дзес.), а таксама Каралёва (30 дзес.) [*Памятная книжка Витебской губерніи*… 1878: 308][4].

Пасля заканчэння гімназіі (даследнікі мяркуюць – віцебскае[5]) ён мусіў вярнуцца дадому і заняцца гаспадаркаю, а ў вольны час – навуковай дзейнасцю ды збіраннем памятак даўніны і фальклору. Асобныя ягоныя запісы не маюць, здаецца, аналагаў. Напрыклад, *Pieśń o narodzeniu Pańskiem*:

---

[1] У аддзеле рукапісаў бібліятэкі ЦНБ АН Беларусі (ф. 23, воп. 1, спр. 14) захоўваюцца беларускамоўныя казанні (напрыклад, *Na uroczystość Bożego Ciała*), якія прамаўляў у 1860–1870-я гг. каталіцкі святар (магчыма, Юры Мотуз ці Францішак Балтуновіч) у касцёлах Люцынскага павета (Посін, Ландскарона) і Лепельскага павета (Ула). Словы ўдзячнасці Зміцеру Крымоўскаму, які нагадаў пра каштоўны помнік айчыннае пісьменнасці.

[2] У склад маёнтка Селігоры В. Мяніцкага ўваходзілі два фальваркі Селігоры (адзін – на поўнач ад возера Селігоры, другі – на паўночны-захад ад возера Расна), а таксама іншыя фальваркі і вёскі.

[3] На мапах XX ст. – Ракуціна.

[4] Усяго ў спісе землеўладальнікаў Віцебскае губерні ажно 14 Мяніцкіх. Самым заможным з іх быў Фелікс Мяніцкі, якому належаў маёнтак “Близнецы” (1250 дзес.) [*Памятная книжка Витебской губерніи*… 1878: 308].

[5] Аднак у спісах выпускнікоў Віцебскае гімназіі, пададзеных у даследаванні Аляксея Сапунова *Историческая записка 75-летія Витебской гимназіи (1808–1883)* (Витебскъ 1884, с. 127–137), яго няма [гл.: *Окончившие курс Витебской гимназии: 1808–1883*, online].

A u Batlejem dziciatko lażyć
A za pastuszkani czereda biażyć
Jano, Jano!
Sauka buć dobryj paprau nam dudu
Jazusu małomu i ja padudżu
Dudu, dudu!
A jak papilisia naszy chałapy
Jak jany nia wyhnali Jazusa z szapy
Dudu, dudu!
A Jazep staryj jon im tak skazau
I kijem dźwiery jon im ukazau
„Tudy, tudy!
Choć wy pijcie dy nie szumicie
Pomalenieczku, pa cichonieczku won wychadzicie
Tudy, tudy!”
[LVIA 599–1–3: 402][1].

В. Мяніцкі зрэдчас дасылаў свае нататкі ў тагачасныя польскія газеты і часопісы „Kraj”, „Kwartalnik Historyczny”, „Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne”[2]; таксама супрацоўнічаў з рэдакцыяй *Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Праўда, артыкулаў, падпісаных прозвішчам ці пазнавальным крыптанімам В. Мяніцкага, (W. M. z S.[3]) у *Słowniku…*, здаецца, няшмат[4]. Аднак звернем увагу, што сярод архіўных матэрыялаў захоўваюцца апісанні вёсак і фальваркаў Лепельшчыны і Ушаччыны [Anonim 1883, online; Anonim 1902b, online]. Напрыклад, родавага гнязда Мяніцкіх:

> **Sielihory**, 4 folw. i 1 wś obok siebie położone w pow. Lepelskim, 3 zarz. polic., 4 ucząst. sąd., par. kat. Sieliskiej, prawosł. Woroneckiej, odległe od Lepla o 45, od Połocka 27, od st. poczt. w Woroneczu 8, od rzeki spławnej Uszaczki o tyle w. Folwarki i wś S. stanowiły niegdyś łącznie z folw. Wysoki-Kołodzieś i wsią Momonowo (ob.) dobra w jednym obszarze położone w województwie Połockim. Do początku XVI w. dobra S. należały do Bućków od których w r. 15…[5] nabyli Mieniccy za ……, we władaniu których w całości zostawały do

[1] Запіс пашпартызаваны так: „W r. 1883 przed Bożem Narodzeniem za tydzień we wsi Bankowie należącej dawniej do Mienicy (w pow. Lepelsk., gm. Woroneckiej) baby śpiewali; zanotował Winc. Malkiewicz, od niego przepisałem 28 kwiet. 84 r.”.

[2] Гл. напрыклад: *Wykopalisko w Mosarzu w koncu XVIII stulecia*. „Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne” 1892, nr 1 i 2: 285–289; *Wspomnienie pośmiertne o A. Siemiętowskim*. „Kraj” 1893, nr 9: 13; *Krótka wiadomość o najdawniejszej rewizyi województwa Połockiego*. „Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne” 1894, nr 1 i 2: 152–155; *Kamienie dźwińskie czyli księcia Borysa*. „Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne 1896, nr 1: 20–25.

[3] [Гл. напрыклад: W. M. z S. 1883: 554].

[4] Але ўжо ў другім томе выдання ёсць ягонае прозвішча ў спісе асобаў, якія супрацоўнічаюць з рэдакцыяй [Anonim 1881, t. II: XI].

[5] Тут і далей В. Мяніцкі, відаць, маючы намер удакладніць звесткі, пакідае ў рукапісе пустое месца. Паводле Аляксандра Уладарскага, Васіль Мяніцкі купіў маёнтак Селігоры ў Яцка Будзькі ў 1557 г. [Włodarski 1928: 1].

końca XVIII w. W r. 17… kś. Eustrat Mienicki, dominikan, część swoją S. sprzedał Zmieczorowskim za ……, ci w r. 17… Wedmontom za ……., od których nabyli w r. 1…… dwaj bracia Izmajłowiczowi za …… Pozostała od tej sprzedaży część S. przechowała się do teraźniejszych czasów we władaniu Mienickich. W obecnym stanie S. należą do kilku właścicieli, mianowicie: 1. folw. włas. Wincentego Mienickiego fundum dawnych dóbr S., znajduje się przy trakcie handlowym Kublicko-Połockim. Dawniej w obrębie tego folw. znajdowała się wieś S. W r. 1853. Piotr Mienicki grunta wsi S. wcielił do folw. tego a włościan w niej mieszkających osiedlił w folw. Momonowie. Podług mapy 1812 r. znajdowało się w folw. S. łącznie z wsią t. n. i folw. Momonowo ogólnej przestrzeni 11 wł., 17 mr., 198 pręt. Po uwłaszczeniu włościan wsi Momonowa pozostało w nim przeszło 9 wł. Miejscowość ma piękną, górzystą co musiało być powodem do nazwy (wyraz białoruski *sieli* oznacza *siedli*, *hory* – *góry*). Grunt przeważnie gliniasty, kruchy, ciężki do podjęcia lecz urodzajny. Łąk ~~stosunkowie do obszaru innej ziemi~~ dużo, ~~pozostają one obficie wybornemi gatunkami traw~~. Lasu niewiele, przeważnie brzozowy. Przed 40 laty istniały tu karczma i mała gorzelnia. Miejscowości ma znaczniejsze: Słapiszcze (las), Krewniki (wielka łąka) i Krzywa-niwa. We wschodniej części tego folw., około granicy z folw. Krupnicą zaczyna się droga Witoldowa nazywana przez lud „Witowa doroha" albo „Witouka". Droga ta przechodzi dalej we wschodnim kierunku przez mech należący do folw. Krupnicy i Rasna i kończy się przy gruncie należącym do dóbr Woronecz. Mech ten jest porośnięty krzakami: olchowemi i łozowemi, tylko to miejsce gdzie ta droga przechodzi nie porasta, co, dając pozór rzeczywistej drogi, dowodzi, iż las użyty na jej wymoszczenie jeszcze zupełnie nie spróchniał. O drodze tej jako o punkcie granicznym wspomina się w kilku dokumentach z XVI. w.; początek jej jest także oznaczony we wspomnionej mapie S. Do tego folw. należy wsie: Momonowo, Rakusino i Sobolewo; obecnie należą folwarki: Katuszonki i S.-Rakusino. Ma wstąp do jezior: S., Bliznicy, Huściacina, Karaśna, Łapionka, Hrojonka Małego i Wielkiego, Ostrowna i Rasna. 2. Folw. łącznie z zaściankiem Bochańkowo (na map. woj. top. XII-7 mylnie „Bokańkowo") włas. Zenona Delawall, który go otrzymał w sukcessyi po wuju swoim Wincentym Izmajłowiczu w 1853 r. Podług mapy 181… r. ma obszaru 81 dz. …… s. Prócz tego nabyto w 1864 r. od Józefa Izmajłowicza i wcielono do tego folw. 1 dz. Znajduje się przy trakcie Kublicko-Połockim[1]. 3. Folw. przy tymże trakcie, włas. Anny Ihnatowiczowej. Nabyty od Józefa Izmajłowicza w 1864. r. za 300 r. Ma obszaru 12 dz. Dawniej miał ten folw. 27 dz., z tych wcielono do folw. Wysoki-Kołodzieś 14 dz. i do folw. S. należącego do Delawall 1 dz.[2]. 4. Folw. włas. Winc. Mienickiego. Urzędową podwojną ma nazwę S.-Rakusino chociaż w dawnych dokumentach wspomina się

---

[1] Паводле *Алфавитнаго поуѣзднаго списка землевладѣльцамъ*… да фальварка Селігоры Зянона Дэлівайло (!) належала 69 дзесяцін [*Памятная книжка Витебской губерніи*… 1878: 303].

[2] Паводле *Алфавитнаго поуѣзднаго списка землевладѣльцамъ*… да фальварка Селігоры Ганны Ігнатовіч належала 12 дзесяцін [*Памятная книжка Витебской губерніи*… 1878: 303]. Апрача таго, 25 дзесяцін належала Іосіфу Ізмайловічу.

pod jedną nazwą S. Położony przy trakcie Uszacko-Wietrzyńskim nad jez. S. Podług mapy 1868 r. ma przestrzeni 61 dz. 942 s., w tem pod ogr. warz. i zabud. 2 d. 480 s., gr. orn. 14 d. 370 s., łąk 7 d., 1340 s., lasu przeważnie sosnowego 35 d. 1238 s., krzaków 1032 s., mchu 2016 s. i pod drog. 1660 s. S. Wś., nad jez. Rasno. Gmina Woronecz, okr. gm. w Suszynie. Dn. 1, ludn. …… męzcz., …… kob., razem ob. płc: ……, z tych 1 katol., reszta prawosł., wszyscy analf. Ma przestrzeni …… d. …… s., w tem pod ogr. warzywn. i zabud. …… dz. …… s., gr. orn. i łąk …… d. …… s., nieużytk. …… d. …… s. Wykupowej sumy …… r. 6. Jezioro, wstępne, w pow. Lepelskim w gm. Woroneckiej położone blisko drogi Uszacko-Wietrzyńskiej sród grunt. należ. do folw. Sielihory-Rakusino, Pankratowa i wsi Rakusino. Ma przestrzeni: około 20 dz. w tem 14 dz. 816 s. znajduje się śród gruntów należących do folw. Sielihory-Rakusino i wsi Rakusino. Poławiają się w niem: szczupaki, leszcze, okonie, liny, miętuzy, płotki bujne i drobne po białorusku nazyw. „harkuchą" i od niedawna (1874. r.) okleja. Z jez. S. bierze początek rzeczka t. n., która przepływając przez inne jeziora od nich zmienia swą nazwę, aż nakoniec przed ujściem do rz. Uszyczki stale nazywa się Kaziaką (ob.) [LVIA 599–1–3: 350–351][1].

Існавала іншая рэдакцыя дадзенага артыкула [гл.: LVIA 599–1–97: 97r–97v]. Менавіта яе магла выкарыстаць рэдакцыя *Słownika*… дзеля кароткае і непадпісанае нататкі ў апошнім томе выдання [Anonim 1902a: XV, 2: 576].

Аднак найбольш істотна тое, што В. Мяніцкі не толькі сам выкарыстоўваў матэрыялы свайго архіва, але і дзяліўся імі з тагачаснымі навукоўцамі. Напрыклад, Браніславам Эпімахам-Шыпілам, які, укладаючы *Biełarusskuju Chrestomatiju*, пад першым ейным тэкстам (*O, mój Boże! wieru Tabie*) пазначыў: „Spisano w czerwcu miesiącu 1889 r. w Sielihorach u p. W. Mienickiego z kartki drukowanej" [БДАМЛіМ, 66–1–1256: 3], пад другім (*Hutarka staroha dzieda*) – „Spisano w końcu Czerwca miesięca 1889 r. w Sielihorach u p. Wincentego Mienickiego z drukowanego w Paryżu 1862 r. Lutego 27 (15) dnia egzemplażyku" [БДАМЛіМ, 66–1–1256: 9].

Пра Вінцэнта, сына Міхала, Мяніцкага[2] мы ведаем толькі тое, што ён быў святаром, пробашчам Ушацкае парафіі [*Памятная книжка*… 1865: 112; *Памятная книжка*… 1866: 115], а таксама лепельскім дэканам [Włodarski 1928: 4]. Вінцэнт, сын Пятра, Мяніцкі згадаў пра свайго дзядзьку ў рукапісным артыкуле *Z zaboru rosyjskiego: Tolerancja moskiewska* літаральна некалькімі словамі:

> Dominikanie, posiadając kościół, klasztor i szkolę[3] nie posiadali własnego probostwa, utworzenie którego jawna okazywała się potrzeba. <…> Officyal-

---

[1] У апошнім томе *Słownika Geograficznego*… маецца адно кароткая нататка: „Selihory, fol., pow. lepelski. W r. 1616 Kizików, od których przeszły do Mienickich. Dziś rozdrobnione. Mają tu: Zenon Deliwajło 69 dz., Anna Ihnatowicz 12 dz., Józef Junajłowicz (!) 25 dz. i Wincenty Mienicki 188 dz." [Anonim 1902a. T. XV, cz. 2: 576].

[2] Ён нарадзіўся, відаць, на самым пачатку XIX ст.: ягоныя старэйшыя браты прыйшлі на свет у 1789 г. (Антоні) і 1798 г. (Пётр).

[3] Ушацкі касцёл св. Гераніма пры кляштары дамініканаў, пабудаваны ў 1716 г.

ny początek parafii uszackiej przypada aż na rok 1793, 25 marzec. <…> We 3 lata potem stanął w miejscu starego zapewne spróchniałego drewnianego kościoła ufundowanego, jakieśmy o tem nadmienili r. 1716, wspaniały murowany kościół, poświęcony dopiero r. 1857 przez Arcybiskupa-metropolitę Mohylewskiego x. Wacława Żylińskiego. OO. Dominikanie mogli się teraz pochlubić świątynię nie ustępującą w niczem kościołem sąsiednich probostw. R. 1821, 5 sierpnia witali po raz ostatni swego wizytatora, gdyż r. 1833 zapisał się smutnie w ich życiu i pracy: na mocy carskiego ukazu z nad Newy musieli opuścić na zawsze cele uszackiego klasztoru, szkolę, gdzie przez tyle lat wychowywali miejscową młodzież szlachecką i kościół. Oddano go wraz z probostwem w ręce księży świeckich. Pierwszy proboszczem uszackim i moglibyśmy powiedzieć ostatnim (zważywszy krótkotrwałe i smutne rzędy następcy jego x. Borowskiego) był x. Wincenty Mienicki[1], pochodzący z jednej z miejscowych szlacheckich rodzin. Był to gorliwy kapłan, dbały pasterz <…> powszechnie kochany i szanowany, a pamięć o nim do dziś dnia żyje najlepsza jak wśród obywatelstwa okolicznego, tak mieszczan uszackich, żydów i ludu, zmarł 4 sierpnia 1867 r. [LVIA 599–1–4: 3–3v].

Сярод прадстаўнікоў роду Мяніцкіх былі законнікі-дамінікане. Вядома таксама тое, што ў 1691 г. Дымітр Мяніцкі прадаў родавае гняздо – маёнтак Мяніца ў Лепельскім павеце ксяндзу Станіславу Умястоўскаму і полацкаму канвенту дамініканаў [A. K. Ł. 1885, VI: 351]. А вось Вінцэнт, сын Міхала, Мяніцкі хіба не належаў да ордэну прапаведнікаў. Быў свецкім святаром і, відаць, дзеля велікодных святаў 1839 г. падрыхтаваў беларускамоўныя казанні.

Аднак ёсць падставы сумнявацца, што дадзеныя казанні напісаныя В. Мяніцкім. Па-першае, каталіцкія святары хіба толькі ў другой палове XIX ст. пачалі ў сваіх казаннях звяртацца да люду па-беларуску [Трацяк 2012: 84]. Па-другое, ва Ушачах з 1668 г. існаваў базыльянскі кляштар з уніяцкаю царквою[2] [гл.: A. K. Ł. 1892. XII: 852], месцазнаходжанне якіх пазначана на мапе Ушачаў 1792 г. У пісьмовых крыніцах чытаем таксама, што ў 1791 г. “[мястэчка Ушачы] мае два кляштары: адзін кс. базыльянаў, драўляны з такою ж царквою, другі – кс. дамініканаў Літоўскае правінцыі з мураваным, але яшчэ незакончаным касцёлам” [*Z Dziennika szkoły uszackiej* 1888, I: 11]. Па-трэцяе, выклікае здзіўленне, што каталіцкі ксёндз замест “Езус Хрыстус” часта піша “Isus Chrystos”, а таксама зрэдчас ўжывае лексіку, больш уласцівую уніяцкаму святару. Па-чацвёртае, графічныя і лексічныя асаблівасці помніка дазваляюць сцвердзіць, што напісаны ён двума рознымі асобамі з адметнымі моўнымі кампетэнцыямі. І гэта пры

рупнасцю падваяводы полацкага Гераніма Жабы [Віталёва 2003, II: 19–20], знаходзіўся (паводле мапы Ушачаў 1792 г.) на правым беразе ракі Ушача блізу моста на сутыку сённяшніх вуліцаў Ленінская і Петруся Броўкі. Цяпер на гэтым месцы Музей народнае славы.

[1] Відаць, В. Мяніцкі стаў ушацкім пробашчам у 1833 г.

[2] Царква і кляштар знаходзіліся (паводле мапы Ушачаў 1792 г.) на левым беразе ракі Ушача блізу моста на сутыку сённяшніх вуліцаў Ленінская (раней: Глыбоцкая) і Піянерская. Фундатарам быў Д. Францкевіч-Радзімінскі.

тым, што гэтыя беларускамоўныя казанні занатаваныя характэрным почыркам, які ў зборы Мяніцкіх сустракаецца яшчэ толькі адзін раз[1].

Гіпатэтычна можна прапанаваць, што беларускамоўныя казанні трапілі да Мяніцкіх з ушацкае ўніяцкае царквы[2]. В. Мяніцкі, магчыма, атрымаў архіў (цалкам альбо часткова) ушацкага уніяцкага святара, якога напрыканцы 1830-х гг. маглі выслаць за непадпарадкаванне ў аддалены праваслаўны манастыр. Цікава, што базыльянскі кляштар ва Ушачах быў ліквідаваны царызмам у 1833 г. На момант ліквідацыі ў кляштары было 5 манахаў, за ім лічылася 13 прыгонных і 5200 руб. фундушу [Radwan 2000: 217]. Магчыма, вясною 1839 г. уніяцкая царква ва Ушачах яшчэ існавала, дык нягледзячы на тое, што Полацкі сабор, на якім 24 уніяцкія святары прынялі Акт аб уз'яднанні, адбыўся 12 лютага 1839 г., а Вялікдзень святкаваўся 31 сакавіка, царскія ўлады аб'явілі пра аб'яднанне толькі ў сярэдзіне красавіка, а г. зн. ушацкі ўніяцкі святар мог падрыхтаваць свае казанні, нічога не ведаючы, што́ ў супрацоўніцтве з расейскім царызмам падрыхтавала вышэйшае кіраўніцтва Уніяцкае царквы.

У пытанні атрыбуцыі беларускамоўных казанняў са збораў Мяніцкіх трэба, аднак, улічваць і той факт, што ў сувязі з падрыхтоўкай царызму да скасавання Уніі назіраўся масавы пераход уніятаў у каталіцызм. Згадаем таксама, што ў 1835 годзе з дазволу свецкіх уладаў і з апрабацыяй Віленскага рымска-каталіцкага біскупа Энджэя Бенядыкта Клангевіча ў Вільні выходзіць катэхізіс *Krotkie zebranie nauki chrzescianskiej dla wiesniakow mowiacych jezykiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego* (Wilno, w drukarni dyecezalnej, 1835). Менавіта для новакатолікаў з уніятаў і прызначаецца гэты катэхізіс (прынамсі, пра гэта сведчыць пададзены аўтарам шырокавядомы ўніяцкі гімн *О, мой Божа, веру Табе*).

Магчыма, напрыканцы 1830-х гг. ва Ушачах сяляне-ўніяты з тае прычыны, што ўніяцкая царква "перамянілася" ў праваслаўную, сталі вернікамі касцёла св. Гераніма і менавіта дзеля іх святар В. Мяніцкі падрыхтаваў казанне па-беларуску.

Помнік (*Prosta Nauka mówiona na Rezurekcyi w Uszacz*) уяўляе сабою дзесяць аркушаў паперы, спісаных з абодвух бакоў "польскаю" лацінкаю

---

[1] Маем на ўвазе польскамоўны рукапіс, які мае тытул *Kazanie w Uroczystość Matki Boskiej Maryi Panny, Pretoktorki Bractwa Rożańca Świętego, w 1839 r. w Uszaczu mówione* [гл.: LVIA 599–1–97: 157–167].

[2] У зборах Мяніцкіх знаходзіўся архіў Вароніцкае ўніяцкае, а з 1839 г. праваслаўнае царквы, на падставе якога В. Мяніцкі падрыхтаваў біяграфічную нататку пра тамтэйшага святара Тамаша Акаловіча (1796–1883). Нягледзячы на тое, што Т. Акаловіч падпісаў акт уз'яднання уніі з праваслаўем, у душы ён застаўся прыхільнікам старое веры. На карысць дадзенае думкі В. Мяніцкі падае „anegdotę", які пачуў ад ксяндза Юзафа Стацкевіча: „Pewni włościanie przywożą dziecko do chrztu. Nie znalazłszy księdza w plebanii jadą do dworu. Ks. Okołowicz w tej chwili zajęty był grą kartową prosi więc ażeby przyprowadzono kumów do niego, których następnymi słowami odprawuje: *Widzicie dzieciatki szto ja zaniat; jedźcie wy da księdza Baczkouskaho, u Zaskorki, niechaj jon rabionka achryścić a ja abaczu może jon i katolikom budzieć*" [гл.: LVIA 599–1–3: 273v].

з адмысловымі дыякрытычнымі знакамі. Датаваны ён Вялікаднем 1839 г. Варта адзначыць, што ў склад помніка ўваходзяць тры тэксты: 1. Невялікая “прадмова” (а. 168v), 2. *Nauka* (аа. 169r–173v), 3. *Nauka (w Białoruskim Języku) na Rezurekcyią* (аа. 174r–176v). Усе яны занатаваныя адною рукою і адным атрамантам. Аднак моўныя і графічныя асаблівасці тэкстаў дазваляюць выказаць меркаванне, што перапісвальнік дакладна (?) перадаў адметнасці стылю і графікі двух (!) аўтараў.

Першаму, магчыма, належаць “прадмоўка” і *Nauka*, годныя заняць высокае месца ў гісторыі беларускае пісьменнасці з прычыны ўжывання аўтарам і перапісвальнікам графемы ***ŭ*** дзеля абазначэння беларускага гуку [ў]. На нашую думку, гэта другі вядомы выпадак[1], калі выкарыстоўваецца гэтая графема. Прычым выкарыстоўваецца амаль паслядоўна, пераважна ў сярэдзіне і ў канцы слова: *prastakoй, pastanawiй, gaйronić, dziйla sia, samoй, daй, natrapiй, sposobaй* і інш.[2]. А вось напачатку слова – толькі аднойчы: *ŭsie*. І зусім не выкарыстаўваецца дзеля абазначэння гуку [ў] у прыназоўніках. Другому аўтару, відаць, належыць апошні тэкст (*Nauka* [*w Białoruskim Języku*] *na Rezurekcyią*). Тут графема ***ŭ*** сустракаецца літаральна некалькі разоў (*hētaй, saйsim*) і, відаць, выпадкова: перпісвальнік памылкова перадаў знак кароткасці. Але затое гэты тэкст вылучаецца іншаю асаблівасцю: у шматскладовых (пераважна) словах кароткаю рыскаю зверху пазначаныя націскныя галосныя: *zaprētca, słōwy, nāszaho, satwarȳuszy, używāć, dōbraho* і інш. Відаць, дзеля правільнага вымаўлення беларускіх словаў асобаю, якая кепска ці зусім не валодае беларускаю моваю. Істотна, думаецца, тое, што першыя два тэксты ўтрымліваюць мінімальную колькасць паланізмаў: *gaйronić, zaś, daczesnyia, niżli, patampienie, adnakoż, pabieżna* і нешматлікія іншыя[3]. А вось у трэцім тэксце паланізмаў значна больш. Гэты тэкст, відавочна, пісаў чалавек, які кепска ведаў беларускую мову[4]. Не пакінем без увагі і той факт, што адзін святар у 1839 г. хіба не патрабаваў двух тэкстаў “*na Rezurekcję*”. Што яшчэ раз пацвярджае: у зборах Мяніцкіх захаваліся два казанні двух розных аўтараў.

Цяпер колькі слоў пра адметныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці казанняў.

1. Амаль паслядоўна адлюстроўваецца дзеканне: *prychadzić, ludzi, dziērawa, dzierawam, na dziērewie, żadzin*.

2. Амаль паслядоўна адлюстроўваецца цеканне: *Spasīiciel, Satwaryciel*. Але: *Spasitela*.

---

[1] Першы – спіс *Энеіды навыварат*, падрыхтаваны адным з братоў Мыслоўскіх гл. раздзел *Беларуская Энеіда* ў дадзеным томе.

[2] Усяго сорак разоў.

[3] Звернем увагу на наяўнасць у першым і другім тэкстах пэўнай колькасці русізмаў: *Rabiata, ponimać, wazwieliczać, namiereniй, nayłuczsze, wieszczami, usiehda, udawolstwia, abieszczaй, kasatelnaho, ispałniaić, nikahda, abstajatalstwa* і інш.

[4] Першыя два тэксты нагадваюць чарнавікі, у іх шмат правак і скрэсленага, а вось у трэцім адно дададзена літаральна некалькі, магчыма, прапушчаных перапісвальнікам слоў.

3. Паслядоўна пададзены зацвярдзелы ***р***: *Waskresenïa*, *prahawaryć*, *rabiata*.

4. Паслядоўна пададзеныя зацвярдзелыя шыпячыя: *pa bolszay*, *pryhażościju*, *czaławiek*, *achryszczon*, *czaćwiortaja recz*.

5. Паслядоўна выкарыстоўваецца прыстаўное ***г***: *heta*, *hetkaja*, *hetat*.

6. Паслядоўна выкарыстоўваецца прыстаўное ***в***: *woczyma*, *woczy*.

7. Не адлюстравана падваенне зычных на месцы былога спалучэння з [j]: *życio*, *bezładzia*, *żełanie*, *Spasenie*, *paratowanie*, *Woskresenie*.

8. Для паўночна-ўсходняга дыялекту характэрна дысімілятыўнае аканне / яканне, аднак для асобных мясцовасцяў Ушацкага павета – моцнае недысімілятыўнае аканне / яканне: *zwiarey*, *niaśmiertełnuiu*, *niaprystoynych*, *niaadpakutuić*, *niapryiaciēlskim*. Але: *nimała*, *nikatoryie*, *nipāmitnyia*.

Асобныя марфалагічныя асаблівасці тэкстаў:

а). Канчаткі дзеясловаў, характэрныя для паўночна-ўсходняга дыялекту:

- ненаціскны канчатак 3-ай асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння ***-ić***/***-yć***: *niabudzić*, *niaumieraić*, *karaić*, *ispałniaić*, *hatuić*, *napatkaić*, *skażyć*, *zamiraić*, *żełaić*, *możyć*, *każyć*, *woźmić*;
- ненаціскны канчатак 3-ай асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння ***-iuć***/***-uć***: *nachodziuc*, *widziuć*, *prychodziuć*, *pirachōdziuć*, *muczuć*;
- націскны канчатак 3-ай асобы адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння ***-ieć***: *żywieć*, *daieć*, *pierawiadziec*, *kładzieć*;

б). Амаль паслядоўнае выкарыстанне постфікса ***-sia***: *starajuczysia*, *naradziŭsia*, *czuŭsia*, *niadapuściusia*, *pryznajuczysia*. Але: *sabrałosię*.

в). Назоўнікі, прыметнікі і займеннікі ў родным склоне маюць канчатак ***-aho***: *cnatlīwaho*, *Bośkaho*, *hetaho*, *niczaho*. Але: *hetaha*, *naszaha*.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: LVIA, f. 599 [*Меницкие*], b. 1, l. 97 [*Материалы, относящиеся к Викентию Михайловичу и Викентию Петровичу Меницким: 1. Заметки географического, статистического характера, генеалогические заметки по народном творчестве (белорусский фольклор), проповеди (по-белорусски и по-польски) и пр. (преимущественно по Лепельскому уезду); корреспонденция Викентия Михайловича и Викентия Петровича Меницких*], a. 168r – 176v.

|168r|

# Prosta Nauka
# mówiona
# na Rezurekcyi
# w Uszacz

|168v| Pan Jezus pachwalony! Na wieki wiekou – Amin –

Rabiata Chryściańskoy Wiery! Uważaia, szto z Was pa bolszay cząści prastakoŭ tut sabrałosię, katoryia wierna szto mała mahuć **poni**mać jazyk polski – a pa tamu pastanawiŭ ia da u sich siahodnia prahawaryć po prostu – Sabrała się wiżu niemała da hetaho Kaścioła; no baday tolki czy nie z samoy[1] ciekawości niekatoryia tut paprychadzili! sztoby tolki **gaŭronić nie|panimajuczy niczoho** stralać **tolki** woczyma to na tu, to na siu storonu! nie|nadziŭla sia nad świetłam, katoraje widziuć pa całym Kaściele – nad pryhażościju Hroba szto tam to zialona, to czerwona, to innyia ~~kalory~~ **cwiaty** paścirahajuć – Nie Rabiata!·nie|dla taho treba tut prychadzić, no dla taho tolki, sztoby adadać Bohu cześć i Chwału! Sztoby wazwieliczać Spasitela naszaho Isusa[2] Chrysta, katoraho Waskresenia iz Miertwych pamiatku abchadzić naczynaiem – A sztoby nastajaszcza z hataho wisialicca, treba znać dastataczna Chryścijańskuju Wieru – Szto kasaïcca hetay wiery? Jakija nowyia iość dołżności **do** xxspałnienia? xxxxxxxxxxxxxxxxxx[3] **i a tom dalej budu hawaryć na Chwału Bożuju i na zbawienny pażytek duszy naszej!** słuchajcie tolki uważna i paniatna –

---

[1] Папраўлена з *samoй*.
[2] Літара ***u*** папраўленая з ***y*** (кірылічнага ***y***?).
[3] Старанна выкраслена паўтара радка.

|169r|

# Nauka

„Każdego, który używa Imie moie, na chwałę moią stworzyłem Go" – ~~historia Izajasza Proroka~~ hetyia sława zapisany u Jzaj Pr[1]

Prawowiernyia Chryścianie! uważaju szto wy tut sabrali się nia u innym namiereniu, jak tolko, sztoby nawiedać hrob Isusa Xsta i sztoby Waskresenïa sieho Spasitela Naszeho pamiatku, z radostïu i chwałoiu obchadzili – Za szto was pachwalaju; a razem predprynimaju da Was ciepierycza prahawaryć a kańcu czaławieka, na jaki ion satworen i a Wiery, katoraia iaho nayłuczsze o tem pauczaiet – Prasiecież tolko Hospoda Boha, sztoby wam daŭ wsio to paznac i pamietawac, szto budu **ia** siahodnia hawaryc – **a o czom uże proszłaho hoda a hetkaj że pore i z hetaha mieysca ja hawaryu – Słuchaycie tolki z uwahay – bo heta czasta treba namyśł prywadzić**

Meży usimi wieszczami, katoryia czaławiek znać dołżen, heta iość naypierszaja ~~pa~~znać kaniec, na katoryy ion satworen na hetat świet – sztoby ion heta znajuczy, natrapiŭ na swajo szczaście – Nie|trapić zaś, kali nia|budzić wiedać sposobaŭ da taho – A czaławiek katoryy nie|paznaieć sway**io**ho ~~preznaczenia~~ **celu**, nï|rażnicca at nierazumnych xxxxxx **twarenij** bo hetki ahliadaicca tolki na daczesnyia |169v| cialesnyia i zmysłowyie reczy; nie|zaś na duszeunyia **i wiecznyia** – takiy czaławiek daloka chudziey uważaicca xxxxxxxxx[2] **niżli bestyi** – Bo kali ~~Zwiary~~ **bestyi** nachodziuc swaio szczaście u hetych materyałnych wieszczach; hetkaja ich sudźba **i tut ich usio kończycca** – no czaławiek buduczy satworen na abraz i podobie Bożyia – maiuczy duszu niaśmiertełnuiu – maiuczy razum, pamiac, i wolu – majuczy siardecznoie żełanie, szto|by bydź usiehda szczaśliwym, i dałhawiecznym; nie|znachodzić na hetym świecie swayho udawolstwia, no tolka nispakoy i nieszczaście xxxxxxxxxx[3] **to tym samym dawiedziecca szto:** nie na zemli, no hdzieindziey szukac dołżen swayho wiecznaho spasenia –

Z hetay niawiadomości swayho paczatku i kańca, na katoryy Boh nas satwaryŭ, ludzi prychodziuć do usiakaho nieparadku i bezładzia; da usiakaho złoha pastuplenia – bo jany swaio sierce bliżey prywiazywaiuć do Ziemskich **i daczesnych** niżli da dóbr wiecznych – nie|padnāszawajuć swaiéy duszy i myśli da Nieba katoroïe nam Boh dać abieszczaŭ za naszo dobroie życio, a tolka żywuć,

---

[1] Недакладная цытата з *Кнігі прарока Ісаі*: "Wszystkich, którzy są nazwani moim imieniem i których ku swojej chwale stworzyłem, których ukształtowałem i uczyniłem" (44: 7).

[2] Старанна выкрасленыя два словы.

[3] Старанна выкрасленае слова.

jakby dla samoy Ziemli – |**170r**| Prauda, szto czaławiek słożen z cieła i duszy – cieła słabawitaho i hresznaho – cieła śmiartełłnaho, katoroie podobna tak, jak i zwiarey za życia kormicca, i poicca; no pa śmierci zhnijec – Dusza zaś czaławieka, nikoli nia|umieraić, no na wieki żywieć – Spasenie czy patampienie duszy, od naszeho życia, czyli pastupkou po bolszéy czaści zawisła – Da czaho treba znac dobra swaju **<нечыт.>** Wieru, katoraïa nas usiaho dobraho **: i kasatelnaho duszy na spasenia** nauczaiec –

I tak xxxxxx[1] **napiarot** treba Nam wiedac **i nikoli z pamiaci nia|spuszczać hetaho:** Szto ~~jość~~ Boh~~?~~ Jość Satwaryciel Nieba i Ziemli i nas u sich hresznych – Boh iość adzin, a try asoby Bośkia: Boh Aciec, Boh Syn, Boh Duch Sty – hetyia try asoby iość adnym Boham a szto nazywaitca Troycay Światoy – bo chacia xxxxxxx[2] Aciec jość Boham, syn jość Boham – duch S. jość Boham; adnako|ż nia troch jość Bohaŭ, xxxx[3] **no** adzin: bo hetya try asoby bośkia: Aciec – syn i duch S. majuc adnu naturu – adnu istotu, i bożestwo – Boh Aciec nas satwaryu – Syn Boski nas z niawoli szatańskiéy oswabadziŭ – a Duch S. nas wieraiu oświaciŭ – Satwaryu nas Boh na|to: |**170v**| szto|by my iaho znali – lubili – chwalili – iamu służyli, a paśle z Nim u Niebie byli – Boh iość xxxxxx[4] **usiudach**: na Niebie – na Ziemli i na usiakim mieyscu – na Niebie, dobrym ludziam wiecznuju chwału daieć – na Ziemli, żywić nas i błahasławić – a u Piekle złych ludziey ahniom wiecznym karaić –

Ciapier treba nam wiedać szto jość Xnin[5]?

Chryścianin iość toy, katoryy **iość** achryszczon z wady i ducha S: katoryy wyznaieć wieru i ispałniaić ustawy Chrysta – Wsiakiy Chryścianin dołżen pad utratoiu zbawienia wiedać i wieryć hetya 4 reczy: <u>Pierwaja</u>: Szto Boh iość adzïn u troch asobach; albo szto try asoby Bożya, Aciec, Syn, i duch S. iość adnym ~~Bożestwom~~ **Boham** – <u>druhaja</u>: Szto toy|ża Boh iość sprawiedliwy: za dobrya uczynki ludziom Niebam płacić a za złyia piekłam karaić – <u>trecija</u>: Szto syn Boży Jezus Chrystos, za sprawoiu ducha S. jak czaławiek z czystoy dziawicy Maryi naradziŭsia na hetat świet, i u życiu swaim niawinnym, byŭ znienawidzien **i umuczan** czerez Żydou xxxxxxxxxxx[6]; i **u kańcu** umior na Kryżu dla spasenia naszaho – <u>Czaćwiortaja recz</u>: Szto du|**171r**|sza czaławieka nikahda nia|umïraić; ~~to~~ jość nieśmiertełnaja, i szto bez łaski Bośkay iaie zbawić niamożem – Prytom wiedać treba: szto biaz[7] xxxxx[8] Chreszczenia biaz Wiery – biaz dobrych uczynkaŭ i bez pakuty S. nia|możym bydź zbawiony~~ia~~ – toy tolka Hospoda Boha lubić, chto iaho Prykazania wierna ispałniaić: praciuna zaś pastupaiuszczyy czartu swaju duszu **i piekłu** hatuić –

ach! pieczalnaja biada! iość i mnoha z naszych Katalikow katoryia użе Pacieraŭ: **naprymier:** *Ojcze nasz*, ~~*Baharodzica*~~ ***Zdrowaś Maryia*** – *Wierzę w Boga Oyca*

---

[1] Старанна выкрасленае слова.
[2] Старанна выкрасленыя тры словы.
[3] Старанна выкрасленае слова.
[4] Старанна выкрасленае слова.
[5] Над словам стаіць цітла. Трэба чытаць: *Chryścianin*.
[6] Старанна выкрасленае слова.
[7] Тут і далей *bez* папраўленае на *biaz*.
[8] Старанна выкрасленае слова.

i procz nia|umiejuć dobra – także i z *Katachizmu*: *Dziesiać Bożych Prykazań – Piać przykazań Kaścielnych – Siem Carkounych Sakramentów* i tam daley tože nia|umieiuć – nia|wiedaiuć

Jak hatawacca do Spowiedzi? ~~Szto~~ naypierwa treba pamalicca Hospodu Bohu, prasia ducha S: sztoby aświaciu Um czaławieka, sztoby dastateczna moh paznać xxxx[1] i prypomnić swaje hrachi – a sierce szto|by żalem sakruszyu za hetyia|ż hrachi Pautorna: treba prywiaści sabie na pamiać mieysca – czas i innya abstajatalstwa: hdzie? czem? i |171v| skolka razy abraziu H: Boha? to iest: jak znachadziusia buduczy u Kaściele xxxx[2] czyli u ~~Chramie Bożem~~ Cerkwi Stoy – buduczy u siebie doma – buduczy pa ludziach – czy czuŭsia pilna: szto~~by~~ Bohu, to Bohu – szto Caru, to Caru – szto Panom, to panom – szto~~by~~ usiem innym ludziam to oddawać, to aświadczać, szto kamu winawat? – czy zachawau *10. Bożych Prykazań – 5 Kaśc: Prykazań* – czy nia|dapuściusia z 7mi hrachoŭ śmiartelnych? – i tak daley – Potreciaje: przypomniusza tak hrachi, treba z szczeraho sierca żaleć za swaje hrachi, nie|tak dla taho: szto Nieba tracić, albo szto na piekła zasłuhawaić; no ~~iadynstwienno~~ dla taho tolki, szto samaho H: Boha abrażaŭ xx[3] – Paczacwierta: Brydzicca usimi swaimi hrachami bolsz nad usio zło – i ćwiarda pastanawić sztoby nie|pawaraczwać do swaich złych nałohoŭ no sztoby u życiu paprawicca – sztoby luczsze umiorci, niżli sahraszyć – Papiataja: payści do Świaszczennika i wyspawiadacca s prypamnianych hrachoŭ panawlaja żal i postanaŭlenia bolsz nie|hraszyć – Paszostaja: |172r| Pakutu czyli Paciery iakia buduć naznaczyny z uwahay i pabeżna odprawić – Naastatek: hatawacca do Pryczaścia czyli Kamuny Stoŭ, i prynimać iaie z Wieroju i czystym siercam –

Ispowiedź Stuju pastanawiŭ na paratowanie dusz hresznych ludziey od Piekła wiecznaho sam nasz Spasitel Isus Hstos –

Szto iość Ispowedź? Ispowedź ~~zaś~~ iość wiernoie saznanije i patajemnoie u sich swaich hrachoŭ pierad Kapłanam żadnaho ni|tajuczy, ani z bajaźni, ani sa ustydu – a ieśli|by chto znajuczy, i wiedajuczy zataiŭ jakïy hrech śmiartelny, nieważnaja hetkaja ispowiedź i świętokradkaja – takomu[4] treba nanawa xxxxx[5] ŭsie swaie ispawiedzi pierapraulać – pryznajuczysia, szto tolki i tolki razy hrech zataiu –

Po Ispowiedzi, kali prynimaiem ~~Pryczaście~~ Kamuniju S. prynimaim tam praudziwoie cieła, i kroŭ Spasitela naszeho I: Chrysta pod xxxxxxxx[6] chwigurami chleba i wina – Tady|to naipacze dołżen czaławiek zdabywacca na wieru – nadzieju i miłość – Xxxxxxxxx[7] Choć karotka Malasia tak: „Wieruiu Boże moy! u sio to |172v| szto tolko ty Boże nam abjawiu, i Cerkwa S. uczyć, i u toy Wiery chaczu żyć i umierać – Maiu Nadzieju u miłasierdziu twaim Boże, szto mnie adpuścisz moi sahraszenie, i dasi łasku u dobrym wytrwania –

---

[1] Старанна выкрасленае слова.
[2] Старанна выкрасленае слова.
[3] Старанна выкрасленыя літары.
[4] Літара ***u*** папраўленая з ***y*** (кірылічнага ***y***?).
[5] Старанна выкрасленае слова.
[6] Старанна выкрасленае слова.
[7] Старанна выкрасленае слова.

Lubliu ciabie Boże nad usio naylepszaie dobro – Żal mnie taho s całaho sierdca, szto ia ciebie abraziŭ, i abieszczajuś bolsz nikoli ni|hraszyc” – wot hetak treba malicca.

Prynimaja Nayśw: Sakrament z hetkay wieroju – nadziejoiu i miłościu treba nimała **mieć** uwahi **i na to** sztoby (: wa uremia kali Xiądz daieć Kamuniju :) dastateczna raziŭlac hubu xxxxxxxxxxxxx[1] wystaulaia trocha iazyk, na katoryy|by łatwa Xiądz moh uzłażyć Kammunikant **(: czaho nikatoryie nie|uważajuć :)** sztoby pryniaŭszy Kamunikant haławu i woczy na|doł spuscić **mysl o Bohu tolko majuczy:** payści na swaïo mieysce, starajuczysia sztoby taho czasu pałknuć – czeraz 4<*нечыт.*> hadziny naymniey, nia|pluwać **xxxxx**[2] – nia ieść, ani pić[3] ~~pasle~~ **pośle** dziakawać Bohu za pryniatoiu Kammuniu, i prasić iaho a łasku wytrwania u dobrym aż do kanca **no pośle xxxxx**[4] **a pacze** dnia hetaho, wyscierahacca wsiakoy swawoli – pijaństwa – ~~skakania~~ **tańcoŭ** – pahulanek i innych reczy niaprystoynych |173r| sztoby Boh, katory da sierdca naszaha ustupiu wieczna żyŭ z namï, i błahasławiŭ u dalszym życiu naszym – Da taho mieymy heta czasta na pamiacï: szto da czasu tolko żywiom na hetym świecie: piaroydzić nasz wiek – piaroyduć naszyïa lety, a nastupić peunaja śmierć, kato**raja** razłuczyć duszu ad cieła – pierawiadziec nas z daczesności na wieczność – Szto sud straszny Boży nastupić: dobrych ludziey nadharoda, a złych kara **wiecznaja** napatkaić – to|jest: Boh dobrym ludziam daść Niebo, hdzie znachodzicca wiecznaja radość i wiasiołość – wiecznaja chwała i bahactwa – wiecznyje uciechy i raskoszy – Złych zaś ludziey skażyć do Piekła; hdzie ahoń, smała, czerci praklatyja, katoryia muczuć bezpierestanna patańpionych – Pomnić nam toże treba i heta: szto i cieła naszeje~~a~~ do czasu tolka zamiraić – Zmartwychwstanie **iano** na strasznym Sudzie Bożym, i razem z duszoju złuczyćca, albo na żywot |173v| wieczny błahasławiony – albo patańpieny – xxxxxxxxxxxx[5] **odpawiedna** dobry~~ch~~m albo chudy~~ch~~m uczynkam życia czaławieka **(: Prytom heta treba dobra wiedać: bez pakuty S. to|iest ni|ciarpieuszy – ni|harawaŭszy – nie|pracawauszy – i usiakia prykraści nie|panasiŭszy na hetym świecie, niemożem bydź zbawiny* :)**. *[6] A kali na hetom świecie czaławiek sprawiedliwy i pobeżny za swaie hrachi choć pauszednia nia|adpakutuić, hdzie|ż **iamu** po śmierci prydziecca pakutować? U Czyscu, hdzie duszeczki Zmarłyia wypłaczywajuca da ostatka za swaje hrahi H: Bohu – My hetyia duszeczki Czyscowyia możem ratawać Naszymi uże Malitwami – uże Pastami – uże Jałmużnami, i usiakami innymi dobrymi uczynkami; a nad|usio: Słuchajuczy i afiaruiuczy Bohu Mszu S. i prynimajuczy do sierc naszych cieła

---

[1] Старанна выкрасленыя два словы.

[2] Старанна выкрасленае слова.

[3] У сённяшнім Кодэксе кананічнага права няма ніякай інфармацыі, што трэба пасціцца пасля прыняцця Камуніі. Наўрад ці такое было раней. Гэта, або праваслаўны ўплыў, або ўплыў ерасі янсенізму, якая рабіла акцэнт на грэшнасць чалавечай прыроды, што прыводзіла да практыкавання страшэнна суворых пастоў і вельмі рэдкага прымання св. Камуніі. Янсенізм быў вельмі распаўсюджаны ў Еўропе ў XIX ст. (*Заўвага Мар’юша Каліцінскага*).

[4] Старанна выкрасленае слова.

[5] Старанна выкрасленыя два словы.

[6] Наступныя радкі абзаца дапісаныя пазней пасля асноўнага тэксту казання.

i krou Spasitiela Naszaho Isusa Chrysta u prenaysw: Sakramencie – Nakaniec: Czy nia dadać: Skolki|ż bydź możeć Uczynkau Miłasiernych? Ucz: mil: jość $7^{m}$ Cialesnych, a $7^{m}$ duszeunych – Cialesnyia jość hetyia: Hałodnaho nakarmić – Prahnuszczaho napaić (: no ni harełkoy jak czort sam pa bolszay czaści ludziey uwodzić i hubić, ale samoy czystay wadoy[1] tady, kali chto np: czy u pracy, czy u darozie buduczy naipacze letniay piakotay żełaić achałody :) – Nahaho **albo u łachmanach, boxxxxxx**[2] pryadzieć – Niawolnika wykupić – Chworaho atwiedać – Padarożnaho u dom pryniać – Umarłaho pahrebci – Duszeunyia zaś uczynki hetyia: Hresznaho ot hrechu otwieść – Niaumiełaho nauczyć – Wantpliwamu dobruju radu dać – Za Żywych i Umierszych malicca – Smutnych paciesząć – Kryudu ot druhich ciarpliwie znosić – Urazy swaie druhomu darawać – <*нечыт.*>

Otoż Chryscianie zausehda ahledaymysia na kaniec, na katory nas Boh satwaryŭ – usiehda staraymy się padabacca **H:** Bohu u myślach – sławach i uczynkach – sztoby wiasioła nam prawadzić I siahonisznieia Woskresenie Spasitela naszaho Isusa Xsta i wyśpïewywac radosnoie Allelluja! – czaho sabie i Wam sierdeczna żełaju –

~~Amin~~[3]

---

[1] Папраўлена з *wadoй*.

[2] Старанна выкрасленае слова.

[3] Слова, якім завяршаўся тэкст, было выкраслена, бо трапіла пад пазнейшы “дадатак”.

|174r| 1839 r.
Uszacz

## Nauka (: w Białoruskim Języku :) na Rezurekcyię[1]

„Jeśli chto choczyć iści za mnoy, niechay siabie samaho zaprētca! i woźmić Kryż swóy! i niechay mianie naślādywaieć"[2] –
Hetyia słōwy samaho Spasīciela nāszaho Jazūsa Chrytūsa –

Pan Boh satwarӯuszy (: piērwszaho :) Człаwiēka Adāma, asadziū byu iaho u Raskōsznym Raju – pazwōliu iamu usiāczyna używāć, szto tolki u im mohło być – adnahō tolki dziērawa (: nazywānaho dzierawam złoha i dōbraho wiēdomości :) zakazāu datӯkatca – Ali kali czaławiek nie|dadziērżyu hētaho prykazānia Bośkaho, to Pan Boh wӯhnau jaho z Raju na ziamlū hōłuju – i pustuju – hdzie skazāu jaho na prācu patlīwuju – ciāżkuji – i krwāwuju – na u siākija niawӯhady i nieuczāsy – na u siakija chwarōby i balēźni – na u siakia : prypādki : zgryzōty i nieszczāścia – skazāu iaho u kańcē na śmiērć i wiēcznoje patempiēnie – a tak z nim i nas u sich jako (: u jaho złoy woli :) Prastūpnikou skazāu Boh na padōbnyia kary i klęski – Ali ad wiēkau pryabiēcz̶anyy Messijāsz Jēzus Chrӯstus Syn Boski, ulitowāuszysia nad tak straszēnnym nāszym nieszczāściem, syszōu z Nieba i pryniāu na siabie ludźkūju pōstać – I tak żywuczӯ na hētaŭ[3] ziamlī pakazāu nam prāwuju darōhu do pazyskānia wiecznay pierwastrāczanay szczaślīwości – t: i: darōhu u siākich trudāu – ciarpiēń – i niapryiātnaściey sa staranӯ hētaha świēta |174v| daświēdczywannych – katoryia kaniēczna treba piranasić, chaciā atpakūtawać za nazsyja hrachī – I a hetam ciapiēr būdu mieć Nawūku, słuchāycie tolki pilna Chryściānie! –

Czaławiēk pierwszy nasz Baćka Adam, jaka Boski prastupnik būduczy wӯhnan z Raju raskōszy na hetat hōrkiy Świet, a za im i usiakiy z nas astausia z Skłānnościami ciahnūczami, bolsz da złōha, nieżeli da dōbraho – astāusia na świecie, na katōrym usiākija pirachōdziuć niszczaślīwości, hdzie musić kaniēczna pazbywātca Spakōynaści, jakaja tolki u praudzīway Szczaślīwaści znachōdzitca – Dla tahoż Boh dāuszy Człаwiēku duszū niaśmiertēlnuju duszu razūm-

[1] Урачыстае набажэнства з працэсіяй.
[2] „Jeśli kto chce pójść za Mną, niech się zaprze samego siebie, niech weźmie krzyż swój i niech Mnie naśladuje. Bo kto chce zachować swoje życie, straci je; a kto straci swe życie z mego powodu, znajdzie je" (Mk 8, 34–37).
[3] Трэба, відаць, – *hētay*.

nuju – pāmitnuju – i wōlnuju, dau jamu prytēm i swajē prāwa (: podłuch katōrych Życio swajo wiaści dōłżen :) – to dla spasēnia hetay|że duszȳ mūsić usiākiy Czaławiēk kaniēczna apirātca złym swajm chūciam – ahȳdzić usiakija swaje pastupki, praciūnyia hetym|żo ustāwam; i tak pirałōmywajuczy siabie z darōhi nieprāwości na darōhu sāmoho Boha, musić niemała paniēści ucīskau u swajm siērcu – I heta ūłaśnie piērwszaja i nieadbicie patrebnaja cnota ciarplīwości – pierez katoruju tolki możeć zbawić swaju Duszu – Bajaźlīwajo sierce czaławieka a zbawiēnie swaiey duszy, achwōtnom pośle stānitca da pełniēnia Bośkaho prāwa, kali namīętnaści pabożnościju paskrōmlinyja buduć – Ale padchlebować sabie i damahātca ad Boha hetaho żadzin nia|mōżyć aby pośle żadnoy niepryiēmnościoy życio iaho niebyło |175r| narūszannoje – bo wyraźnie ubłohasławienie dla tych tolki ot Chrysta Pana skāzano, katoryia daświēdczajuczy u siakich prȳkraściey u hētym życiū, znōsiuć onyia u spakōynay ciārpliwożci – asałażājuczysia Chrystowoy Wieray, y niamȳlnay Jaho abiētnicay, katoryy każyć: „Błahosławiōnyia! katoryia tut płaczuć, bo jany buduć rādawatca” – Pan Boh cnatlīwaho Czaławieka u Raskōszach ni|hadūjeć, ale daświētczywaieć rāznymi spōsabami jaho cnōty i wiērności u znaszēniu ciarplīwom nieszczāścia i prȳkraściey – a pośle kładzieć takowoha u līczbie swojch Wybrānych – Boh! słābomu czaławieku abiēcujeć być pomōcay u pakanāniu u siakich nieryiēmnościey, jak haworyć u Izajasza Proroka hētymi sławāmi: „Kali budzisz pirachadzīć czēraz wadū, z tabōy būbu: a nawāłnaści ni akrȳïuć ciabiē kali pōydzież praz Ahoń, niespāliszsia: a płamiēńńja nia|būduć piaczȳ ciabiē”[1] – Hetat hołas Bośki nauczājeć nas, jak powīnny my mieć achwōtnaïe, i adważnoje sierce u znaszāniu usiāczyna taho, szto tolki Naywyższy Boh dla prōby czaławīeka prȳkrem być praznāczyu – Moc Bośkaja taho pasilājeć, katoryy saūsim spuszczāsia na wolu jaho Światūju, zarōuna z ruk Jaho prynimājeć Zło – i dobro – piērwszoje z hetȳch, uważājuczy jak skutek prawiniēn naszych, i proznāczennaho na hētay ziamlī życiā – druhoja, jak prȳmiot naybolszaho miłasērdzia i ni acēnioney mīłaści Bośkiey k swaymu Satwarēniu – Na mnōhich miēyscach Stōy |175v| Ewanhelij upeuniāimsia, szto biaz woli Bośkay, nia|tolki miży ludziāmi, ale nawet miży nirazūmnymi Zwierāmi niczaho dziēłatca nia|mōżyć – Hetay tady praudy dzierżāsia, czyż możyć czaławiek praciw Boha narakać biaz hrēchu, szto Boh cnoty iaho prabūjeć? czyż ōwszem ni pawīnien dziākawać za jaho hetkaje (: choć uciażlīwaje i ciażkaje do znaszēnia :) przeznaczēnie? Czyż Bohu jak Satwarȳcielu naszemu i xxxx[2] pauszēchnomu Baćku nāszemu niawōlna z nami, jak chacia i jak z dziećmi pastupić? I dla tahoż Styy Ludwik Blaziusz, uważājuczy mūdraść preznaczenia Pańskaho hawāryu: „Szto żadnaho niet piāunieyszaho znāku wybrānia Bōśkaho, jak ieżeli chto pakōrna i ciarplīwa znāszawaieć udręczēnia i praciūności od Boha pryznāczynnaja” – bo czaławiēku niet niczōha pożyteczniēyszaho, jak bydź trāpinym – czrez ciarpiēnie daświadczywaietca, i akāzwaietca praudzīwaja wiērnōść czaławiēka u dapełnieniu Bośkich prykāzań, a tym samym i miłość czaławieka k swaymū Bohu Satwarȳcielu – Jak Żauniērskaja

[1] „Gdy pójdziesz przez wody, Ja będę z tobą, i gdy przez rzeki, nie zatopią ciebie. Gdy pójdziesz przez ogień, nie spalisz się, i nie strawi cię płomień” (43: 2).

[2] Старанна выкраслены пачатак слова.

wiērnaść – mūztwa – i miłaść da swayhō Cāra i Ayczȳzny naylēpiey akazātca mōżeć na Waynią, hdzie mieni wāżuczy swaje nabȳtki – bahāctwa – asieraciāłość dziaciēy i Krēunych; achwōtna dla dabrā pawszēchnaho, paświęcāje na szkadlīwoje nibiaźpiaczēństwo pracīunikou swajo Życiō – a buduczy ~~ataczonym~~ abstūplennym niapryiaciēlskim wōyskam, śmieła bjetca ni dla pazyskania życia, ale sztob hubiuczy niapryiāznoje siērco, znaszōu achałōdu i adpaczniēnie |175ar| i dla siabie – dla swayho lubīmaho Cāra – dla swaiey rādziny i blīżnich u spakōynay swaiēy Ayczȳźnie – Tak też i Chryściānina praudzīwaja miłość k Satwarycielu swaymū i Bōhu naylēpiey daświētczywaietca i akāzywaietca padczas trudōu – utrāpień i niaszczāścia, kali jon hētyia u sie utrapiēnia i ucīski dla samoy tolki mīłości Boha z mūztwam i ciarplīwościey znōsić – Mocny Boże! chto|ż hetaha ni|znajeć szto życio naszajo jak na wyhnāniu prahaniājm; tak za naszyia pirastūpstwa, ciarpieć kaniēczna i paniawolnie nawet każdy z nas mūsić bo prastūpnik Bośki i Wyhnāniec mōżet|ża uchylātca ad cierpiēnia jakōy kary? a szto zważājuczy, czyż niasłuszna ciarpieć z preznaczenia Pańskaho, i schylīć swaju wōlu pad wōlu Bośkuju? – I dla tahoż sam Chrystos Pan i Boh nasz – Spasiciel nasz – wīdzieu czy hrēsznaho – prastūpnaho, i nieszczaślīwaho Czaławieka – i nia achwōtnoje cierpieć iaho siērco, sam swaim własnym przykłādam u wasōbie Czaławieka żywuczȳ niekaliś na hetay ziamlī, zachęcāu i paciāhawau, do kaniēczna patrebnaho ciarpiēnia – Jon būduczy Świątym nad Świątymi buduczy Synam Bożym, u niczom niawīnnym, litūjuczysia tolki nad nami, i dosyć czȳniuczy za nāszyia hrahī Sprawiadlīwości Bożey, uciarpieū u siāczyna od Żydou, swajch uściēkłych niapryiācioł – usiakia szydērstwa – błuźniērstwa – i chwałszȳwaje udānie pierod Starszyznay – usiakia gwałtōunyia bīcia i kalēctwa – u siakia straszēnnyja |175av| mūki na swajm świątym ciēle – pralīu da astatka kropli Krow swaju naydrōższuju a u kańcū zawiēszanyy na dziērewie Kryża umiōr dla spasēnia dusz nāszych – O strasznaja adrōdnaści u ciapiērasznich Chryścian! od wzoru, jakīy nam zastaulinyy u nāszym Mistru i Bohu Isusie Chrystu – Nipāmitnyia, szto majuć cieła śmiartēlnaie i skazytēłnoje, a Duszu niaśmiertełnuju, nikoli niaumierājuszczuju dla zbauwiēnia katōroy życio cnatliwoje (: choć prykroje :) wiaścī dałżny – bo Preznaczēnie nasze, u totczas budzić nam szczaślīwoje, jeżeli życio nasze trudami uwiēńczannoje zblīżytca da naśledowānia życia Spasiciela naszaho Jazūsa Chrystā – katory u Ewanhelij swaiey haworyć: „Nia|jość Słuhā bōlszym nad Pāna swayho" – a jakże|ż u hetym samym Kraju – na hetym świecie, można bydź addālinym ad usich trudōu i ucīskou, u katorym Boh i Pan nasz nia|mieu adpaczniēnia aż da skanānia ad ciahłaho udręczēnia i piraślēdowania? bo z usich daroh, katoryia wiaduć do Żywota wiecznaho i szczaśliwaho, nayprostszaja jość daroha Kryżā tak i Paweł S: nauczājeć kali tak haworyć: „Szto praz mnoha ucīskau u wayścī nam patreba, da Karalēustwa Niabiēskaho" – Hetay bowiem darohay pastupāli Świątyie u Starym i Nowym Zakonie, i hatat[1] adzin byu znak preznaczēnia Szczaśliwaho – Katorych tolki mūdryy i sprawiadlīwyy Boh chaciēu podwyższyć u Chwale Niabiēskay, naybōlszymi ich |176r| na hetym świecie nabaulāu niapryiātnościemi – My z słābay swajēy natury Chryścianie! pa bolszay czaści

[1] Відавочна, *hetat*.

piered Boham hraszȳm, niżli dobra rōbim! katoryż z nas niezatrwōżytca prypominājuczy dni prōszłaho swayho życia, uważājuczy mnohaść swajch pirastupkau, a małaść piered Boham zasłūh? czyż heto samoje niapawīnno pabuždać nas iści darōhay ciarplīwości – trudāu i ucīskau? Tak jość! niainaczey – A ieżeliż heta naszo lanīwajo cieło budzić uchylātca z pad trudōu dla zbawiēnia naszaho patrebnych, to na tot czas hlāńmy na Styy Kryż! hlāńmy na Abraz Zbawiciela nāszaho Jazūsa Chrystā – pryhlādzimsia otczȳninam Jaho rānam, z katorych Krou swaju prenayświętszuju aż da astātniey kropēlki za nas praliŭ[1]; a tahdȳ pieuna szto buduć hetyie usie ciarpiēnia – prȳkraści – i trudȳ dla spasienia naszaho paniīēsïnnyïa[2] dla nas sałōtkami – Z Zasłūhami Mūki i Krōwi Jaho prenaydroższey łūczmyż Chryściānie nāszyie usie dobryia uczȳnki, i nāszyia u Boha zasłūhi – nāszuju pracu – hōra i utrapiēnia u pakucie za swaje hrachī achwiarūymy Bohu, sztoby Jon nam ōnyia adpuściŭ[3], i spas nāszyia dūszyxxx niaśmiartēłnyia – Ali czahoż aciāhawaimsia z naszay pakūtay? paczamuż trwōżymsia ciarpliwa znāszawać naszu niadōlu, kali czas da pakuty karōtkiy – kali nāszoje zdarōuje i życiō niapiēunaje? czyż my sami szto dzień niawidaim jak czasta czērstwość zdarōuja zawōdzić? czy adzin |176v| paszou zdarōwy da łożka, a jamu łożka u hrob zamianīło się – czy adzin piered hadzīnay byu wiasiōł, bāwiusia z radniōy – susiēdami, rouna z nimi czāraczku pa czāracce pahaniāu, ali uże iaho nietu, bo nahłay śmiērciay skanaŭ[4] – czy adzin zdarōwyy wȳiechau u darōhu, a iaho mïarćwiacām prywiazlī da domu – Ach! i duża błūdziuć tyia, katōryia ad czasu da czasu adkładājuć swaju pakutu i paprāwu życia – Pasłūchaymy S: Augustyna, katoryy tak każyć: „Pakińcie! szto iość niapiēunaha, a biarȳciasia da taho, szto jość piēunaho – zāutryszniy dzień niapiēunyy, a siohōniszniy dzień da paprāwy życia naypiauniēyszy" – Łutsza tady siahōdnia pakūtawać, bo chto znaić, szto zautra būdzić – każyć sam Spasiciel: „Niawiēdaicie ani dnia, ani hadzīny, kali Syn czaławiēczy pryydzieć na Sud" – ani tady paścirażōmsia, jak śmierć nas zaskōczyć, a pa śmierci wiēcznoje potępiēnie – „Bo kali pakutawać niabudziecie, usie zarōuna zhīniecie" – tak pieraścierahāie sam Chrystos. Wotaż Chryścianie! starāymy sia ucześnie pakūtawać pakul żywiōm na hetay ziamli, bo pōśle pa czāsie būdzić – Usie naszyia prȳkraści – zmartwienia i nieszczāścia ciarpliwie znōśmy, achwiarūiuczy heta siardēczna Bohu za hrachī nāszyia i na spasēnie dusz nāszych – A sztoby wiasiōła prawadzić pāmitku Waskresiēnia Spasīciela naszaho Jazūsa Xsta siahōdnia raspaczynājuszczujusia; treba bydź ad hrachōu wōlnym i spakōynym na Sumnieniu, aczyszczājasia czērez Spowiedź i pakūtu Śju – a tady radōsna śpiewāymy Allilluja –

Amin

[1] Так у арыгінале.

[2] Цяжка сказаць, чаму перапісвальнік ужывае ў гэтым слове (а таксама яшчэ ў адным выпадку) літару ***ї***.

[3] Праўдападобна, што тут перапісвальнік ужывае літару ***й***, а не абазначае націскны склад.

[4] Як вышэй.

*Транслітарацыя, адаптацыя*

# Prosta Nauka mówiona na Rezurekcyi w Uszacz[1]

Пан Езус пахвалёны! На векі векоу! Амін!

Рабята Хрысьцяньской веры! Уважая, што з Вас па большай часьці прастакоў тут сабралосе, каторыя верна што мала магуць понімаць язык польскі, – а патаму пастанавіў я да усіх сягодня прагаварыць по-просту. Сабраласе[н], віжу, немала да гэтаго Касьцёла; но, бадай, толькі чы не з самой цекавосьці некаторыя тут папрыхадзілі! Што бы толькі гаўроніць[2], не панімаючы нічого, страляць толькі вочыма то на ту, то на сю сторону, дзіўляся над сьветлам, каторае відзюць па цэлым Касьцеле – над прыгажосьцію Гроба, што там то зялёна, то чэрвона, то інныя цвяты пасьцірагаюць. Не, Рабята!·не для таго трэба тут прыхадзіць, но для таго толькі, што бы ададаць Богу чэсьць і хвалу! Што бы вазвелічаць Спасітэля нашаго Ісуса Хрыста, катораго Васкрэсэня із Мертвых памятку абхадзіць начынаем. А што бы настаяшча з гэтаго вісяліцца, трэба знаць дастатачна хрысьціяньскую веру, што касаіцца гэтай веры, якія новыя ёсьць должносьці до спалненя? І а том далей буду гаварыць на хвалу Божую і на збавенны пажытэк душы нашэй! Слухайце толькі уважна і панятна.

---

[1] Простая навука, прамоўленая на ўрачыстае велікоднае набажэнства ва Ушачах.
[2] Ад польск. *gawronić się* – бессэнсоўна разглядацца навокал; страляць варон.

# Наука

„Każdego, który używa Imie moie,
na chwałę moią stworzyłem Go”[1].
Гэтыя слава запісаны у Ісая Пр.

Правоверныя Хрысьціяне! Уважаю, што вы тут сабралісен ня у інным намерэнію, як только, што бы наведаць гроб Ісуса Хрыста і што бы Васкрэсэнія сего Спасітэля Нашэго памятку з радостію і хвалою обхадзілі. За што вас пахваляю; а разэм прэдпрынімаю да Вас цеперыча прагаварыць а каньцу чалавека, на які ён сатворэн, і а веры, каторая яго найлучшэ о тэм паучает. Прасеце ж только Господа Бога, што бы вам даў всё то пазнаць і паметаваць, што буду я сягодня гаварыць, а о чом ужэ прошлаго года а гэткай жэ порэ і з гэтага мейсца я гаварыў[2]. Слухайце толькі з увагай, бо гэта часта трэба на мысьль прывадзіць.

Мэжы усімі вешчамі, каторыя чалавек знаць должэн, гэта ёсьць найпершая – знаць канец, на каторый ён сатворэн на гэтат сьвет; што бы ён гэта знаючы, натрапіў на сваё шчасьце. Не трапіць зась[3], калі ня будзіць ведаць способаў да таго. А чалавек, каторый не пазнаець свайёго цэлю, ні ражніцца ат неразумных тварэній, бо гэткі аглядаіцца толькі на дачэсныя, цялесныя і змысловые рэчы; не зась на душэуныя і вечныя. Такій чалавек далёка худзей уважаіцца, ніжлі[4] бэстыі. Бо калі бэстыі находзюць сваё шчасьце у гэтых матэрыалных вешчах; гэткая іх судзьба, і тут іх усё коньчыцца, но чалавек, будучы сатворэн на абраз і подобіе Божыя, маючы душу нясьмертэлную, маючы разум, памяць і волю, маючы сярдэчное жэлане, што бы быць усегда шчасьлівым і далгавечным; не знаходзіць на гэтым сьвеце свайго удавольствія, но толька ніспакой і нешчасьце, то тым самым даведзецца, што не на землі, но гдзе-індзей[5] шукаць должэн свайго вечнаго спасэня.

З гэтай нявядомосці свайго пачатку і каньца, на каторый Бог нас сатварыў, людзі прыходзюць до усякаго непарадку і бэзладзя; да усякаго злога паступленя, бо яны сваё серцэ бліжэй прывязываюць до земскіх і дачэсных, ніжлі да дубр[6] вечных; не паднашаваюць[7] сваей душы і мысьлі

[1] “Кожнага, хто ўжывае маё Імя, Я стварыў дзеля славы мае”.
[2] Відавочна, святар ужо другі год служыць ва Ушацкім храме.
[3] Злучнік *zaś* у польскай мове ўжываецца дзеля ўзмацнення экспрэсіўнага гучання ўсяго сказа.
[4] Ад даўняга польск. *niżli* – чым.
[5] Ад польск. *gdzie indziej* – у іншым месцы.
[6] Ад польск. *dobro* – тут: вартасці.
[7] Ад даўняга польск. *podnaszać* – узнімаць.

да Неба, каторое нам Бог даць абешчаў за нашо доброе жыцё, а толька жывуць, як бы для самой землі. Праўда, што чалавек сложэн з цела і душы: цела слабавітаго і грэшнаго, цела сьмяртэлнаго, каторое подобна так, як і звярэй за жыця, корміцца і поіцца, но па сьмерці згніець. Душа зась чалавека, ніколі ня умераіць, но на векі жывець. Спасэне чы патампене[1] душы од нашэго жыця, чылі[2] паступкоу, по большэй часьці завісла[3]. Да чаго трэба знаць добра сваю веру, каторая нас усяго добраго і касатэльнаго душы на спасэня научаец.

І так напярот трэба Нам ведаць і ніколі з памяці ня спушчаць гэтаго: Што Бог ёсьць Сатварыцель Неба і Землі і нас усіх грэшных. Бог ёсьць адзін, а тры асобы Боськія: Бог Ацец, Бог Сын, Бог Дух Святы – гэтыя тры асобы ёсьць адным Богам, а што называітца Тройцай Сьвятой, бо хаця Ацец ёсьць Богам, сын ёсьць Богам, Дух Святы ёсьць Богам, аднако ж ня трох ёсьць Богаў, но адзін: бо гэтыя тры асобы боськія: Ацец, Сын і Дух Святы маюць адну натуру, адну істоту і божэство: Бог Ацец нас сатварыу, Сын Боскі нас з няволі шатаньскей асвабадзіў, а Дух Святы нас вераю осьвяціў. Сатварыу нас Бог нато, што бы мы яго зналі, любілі, хвалілі, яму служылі, а пасьле з Нім у Небе былі. Бог ёсьць усюдах: на Небе, на Землі і на усякім мейсцу; на Небе, добрым людзям вечную хвалу даець, на Землі жывіць нас і благаславіць, а у Пекле злых людзей агнём вечным караіць.

Цяпер трэба нам ведаць, што ёсьць Хрысьціанін?

Хрысц'янін ёсьць той, каторый ёсьць ахрышчон з вады і духа Святога, каторый вызнаець веру і іспалняіць уставы Хрыста. Всякій Хрысьціанін должэн пад утратою збавеня ведаць і верыць гэтыя 4 рэчы: Первая: Што Бог ёсьць адзін у трох асобах; альбо што тры асобы Божыя, Ацец, Сын і Дух Сьвяты ёсьць адным Богам; другая: Што той жа Бог ёсьць справедлівы: за добрыя учынкі людзём Небам плаціць, а за злыя пеклам караіць; трэція: Што Сын Божы Езус Хрыстос за справою духа Сьвятога, як чалавек з чыстой дзявіцы Марыі нарадзіўся на гэтат сьвет і у жыцю сваім нявінным быў зненавідзе[н] і умучан чэрэз жыдоу і у каньцу умёр на Крыжу для спасэня нашаго; чацьвёртая рэч: Што душа чалавека нікагда ня уміраіць; ёсць несьмертэлная, і што бэз ласкі Боськай яе збавіць ня можэм. Пры том ведаць трэба: што бяз хрэшчэня, бяз веры, бяз добрых учынкаў і бэз пакуты святой ня можым быць збавёныя. Той толька Госпада Бога любіць, хто яго прыказаня верна іспалняіць: праціуна зась паступаюшчый, чарту сваю душу і пеклу гатуіць.

Ах! печальная бяда! ёсьць і многа з нашых Каталіков, каторыя ужэ пацераў (напрымер: *Ойчэ наш*, *Zdrowaś Maryia, Wierzę w Boga Oyca* і проч ня умеюць добра, такжэ і з Катахізму *Дзесяць Божых Прыказань*, *Пяць прыказань касьцельных*, *Сем царкоуных сакрамэнтов* і там далей тожэ ня умеюць, ня ведаюць.

Як гатавацца до споведзі? Найперва трэба памаліцца Господу Богу, прася Духа С[ьвятога], што бы асьвяціу ум чалавека, што бы дастатэчна

---

[1] Ад польск. *potępienie* – вечныя пакуты.
[2] Ад польск. *czyli* – ці, альбо.
[3] Ад польск. *zawisły* – залежны.

мог пазнаць і прыпомніць свае грахі, а серцэ што бы жалем сакрушыу за гэтыя ж грахі. Пауторна: трэба прывясьці сабе на памяць мейсца, час і інныя абстаятальства: гдзе? чэм? і сколька разы абразіу Г[оспада] Бога, то ест: як знахадзіуся, будучы у Касьцеле, чылі у Цэркві С[ьвя]той, будучы у себе дома, будучы па людзях; чы чуўся пільна: што Богу, то Богу, што Цару, то Цару, што Паном, то паном, што усем інным людзям, то оддаваць, то асьвядчаць, што каму вінават? Чы захаваў *10. Божых прыказань*, *5 Кась-ц[ельных] прыказань*, чы ня дапусьцеся з *7мі грахоў сьмяртэльных*? і так далей. По-трэцяе: пшыпомніуша так грахі, трэба з шчэраго серца жалець за свае грахі, не так для таго, што Неба трацідь, альбо што на пекла заслугаваіць; но для таго толькі, што самаго Г[оспада] Бога абражаў. Пачцверта: Брыдзіцца усімі сваімі грахамі больш над усё зло і цьвярда пастанавіць, штобы не паварачваць до сваіх злых налогоў[1], но штобы у жыцю паправіцца; штобы лучшэ умёрці, ніжлі саграшыць. Па-пятая: пайсьці до сьвяшчэнніка і выспавядацца с прыпамняных грахоў, панавляя жаль і постанаўленя больш не грашыць. Па-шостая: Пакуту, чылі пацеры, якія будуць назначыны з увагай і пабежна[2] одправіць. На астатэк: гатавацца до прычасьця, чылі Камуны Святой, і прынімаць яе з верою і чыстым серцам. Ісповедзь Святую пастанавіў на паратоване душ грэшных людзей од Пекла вечнаго сам наш Спасітэль Ісус Хрыстос.

Што ёсьць Ісповэдзь? Ісповэдзь ёсьць верное сазнаніе і патаемное усіх сваіх грахоў перад Капланам, жаднаго ні таючы, ані з баязьні, ані са устыду. А есьлі бы хто знаючы і ведаючы затаіў які́й грэх сьмяртэльны, неважная гэткая ісповедзь і сьвентокрадкая[3]. Такому трэба нанава ўсе свае іспаведзі перапрауляць, прызнаючыся, што толькі і толькі разы грэх затаіў.

По Ісповедзі, калі прынімаем камунію Сьвятую, прынімаім там праудзівое цела і кроў Спасітэля нашэго Ісуса Хрыста под хвігурамі хлеба і віна. Тады то наіпачэ должэн чалавек здабывацца на веру, надзею і мілосьць. Хоць каротка, маляся так: „Верую Божэ мой! усё то, што только Ты, Божэ, нам аб'явіу, і Цэрква Святая учыць, і у той веры хачу жыць і умераць. Маю надзею у міласердзю Тваім, Божэ, што мне адпусьціш мої саграшэне і дасі ласку у добрым вытрваня. Люблю цябе, Божэ, над усё найлепшае добро. Жаль мне таго с цэлаго сердца, што я цебе абразіў, і абешчаюсь больш ніколі ні грашыць". Вот гэтак трэба маліцца.

Прынімая Найсьв[яцейшы] Сакрамэнт з гэткай верою, надзеёю і мілосьцю, трэба німала мець увагі і на то, штобы (ва урэмя, калі ксёндз даець камунію) дастатэчна разіўляць губу, выстауляя троха язык, на каторый бы латва ксёндз мог узлажыць каммунікант (чаго нікаторые не уважаюць), штобы прыняўшы камунікант, галаву і вочы надол спусціць, мысль о Богу только маючы, пайсьці на сваё мейсцэ, стараючыся, штобы таго часу палкнуць, чэраз 4 гадзіны наймней, ня плюваць, ня есьць, ані піць, посьля дзякаваць Богу за прынятою каммуню і прасіць яго а ласку вытрваня

[1] Ад польск. *nałóg* – кепская звычка.
[2] Ад польск. *pobieżnie* – павярхоўна; бегла. Тут: хутка.
[3] Ад польск. *świętokradztwo* – святатацтва.

у добрым аж до канца, но посьле, а пачэ дня гэтаго, высцерагацца всякой сваволі: піяньства, таньцоў, пагулянэк і інных рэчы няпрыстойных, штобы Бог, каторы да сердца нашага уступіу, вечна жыў з намі і благаславіў у дальшым жыцю нашым. Да таго меймы гэта часта на памяці, што да часу только жывём на гэтым сьвеце: пяройдзіць наш век, пяройдуць нашыя леты, а наступіць пэуная сьмерць, каторая разлучыць душу ад цела, перавядзець нас з дачэсносьці на вечносьць. Што суд страшны Божы наступіць: добрых людзей надгарода, а злых кара вечная напаткаіць, то ест: Бог добрым людзям дасьць Небо, гдзе знаходзіцца вечная радосьць і вясёлосьць, вечная хвала і багацтва, вечные уцехы і раскошы; злых засьлюдзей скажыць до Пекла, гдзе агонь, смала, чэрці праклятыя, каторыя мучуць бэзперэстанна патаньпёных. Помніць нам тожэ трэба і гэта, што і цела нашэе до часу толька заміраіць: змартвыхвстане яно на Страшным Судзе Божым і разэм з душою злучыцьца альбо на жывот вечны благаславёны, альбо патаньпены, одпаведна добрым альбо худым учынкам жыця чалавека. Прытом гэта трэба добра ведаць: бэз пакуты Святой, то ест, ні цярпеушы, ні гараваўшы, не працаваушы і усякія прыкрасьці не панасіўшы на гэтым сьвеце, не можэм быдзь збавіны. А калі на гэтом сьвеце чалавек справедлівы і побежны за свае грахі хоць паушэдня ня адпакутуіць, гдзе ж яму по сьмерці прыдзецца пакутоваць? У Чысцу, гдзе душэчкі змарлыя выплачываюца да остатка за свае грагі Г[оспаду] Богу. Мы гэтыя душэчкі чысцовыя можэм ратаваць нашымі ужэ малітвамі, ужэ пастамі, ужэ ялмужнамі[1] і усякамі іннымі добрымі учынкамі; а над усё – слухаючы і афяруючы Богу Мшу Святую і прынімаючы до серц нашых цела і кроу Спасітеля Нашаго Ісуса Хрыста у прэнайсв[ятым] Сакрамэнце. Наканец: Чы ня дададць: Сколькі ж быць можэць Учынкау Міласерных? Уч[ынкаў] міл[асэрных] ёсьць 7м цялесных, а 7м душэуных. Цялесныя ёсьць гэтыя: Галоднаго накарміць; Прагнушчаго напаіць (но ні гарэлкой, як чорт сам па большай часьці людзей уводзіць і губіць, але самой чыстай вадой тады, калі хто, нап[рыклад], чы у працы, чы у дарозе будучы, наіпачэ летняй пякотай жэлаіць ахалоды); Нагаго альбо у лахманах прыадзець; Нявольніка выкупіць; Хвораго атведаць; Падарожнаго у дом прыняць; Умарлаго пагрэбці. Душэуныя засьучынкі гэтыя: Грэшнаго от грэху отвесьць; Няумелаго научыць; Вантплівам[2] добрую раду даць; За жывых і умершых маліцца; Смутных пацешаць; Крыуду от другіх цярпліве зносіць; Уразы[3] свае другому даравацьаць <*нечыт.*>.

Ото ж, Хрысцяне, заусэгда агледаймыся на канец, на каторы нас Бог сатварыў, усегда стараймы се падабацца Г[оспаду] Богу у мысьлях, славах і учынках, што бы вясёла нам правадзіць і сягонішнея Воскрэсэне Спасітэля нашаго Ісуса Хрыста і высьпевываць радосное *Аллелюя*! Чаго сабе і Вам сердэчна жэлаю.

Амін.

---

[1] Ад польск. *jałmużna* – ахвяраванне.
[2] Ад польск. *wątpliwy* – няпэўны, сумнеўны.
[3] Ад польск. *uraza* – крыўда, знявага.

1839 р.
Ушач

# Nauka (: w Białoruskim Języku :) na Rezurekcyię[1]

„Есьлі хто хочыць ісьці за мной,
нехай сябе самаго запрэтца[2]!
і возьміць Крыж свой! і нехай
мяне насьлядываець” –
Гэтыя словы самаго Спасіцеля
нашаго Язуса Хрытуса

Пан Бог сатварыушы першага Чалавека Адама, асадзіу быу яго у Раскошным Раю, пазволіу яму усячына ужываць, што толькі у ім могло быць, аднаго толькі дзерава (называнаго дзеравам злога і добраго ведомосьці) заказау датыкатца. Алі калі чалавек не дадзіержыу гетаго прыказаня Боськаго, то Пан Бог выгнау яго з Раю на зямлу голую і пустую, гдзе сказау яго на працу патлівую, цяжкую і крвавую, на усякія нявыгады і неучасы[3], на усякія хваробы і балезьні, на усякія прыпадкі, згрызоты і нешчасьця, сказау яго у каньцэ на сьмерць і вечное патэмпене; а так з нім і нас усіх, яко (у яго злой волі) праступнікоу сказау Бог на падобныя кары і кленскі[4]. Алі ад векау прыабецаный Мэссіяш Езус Хрыстус, Сын Боські, улітоваушыся над так страшэнным нашым нешчасьцем, сышоу з Неба і прыняу на сябе людзькую постаць. І так жывучы на гетай зямлі, паказау нам правую дарогу до пазысканя вечнай перваспрачанай шчасьлівосьці, т. е. дарогу усякіх трудау, цярпень і няпрыятнасьцей са стараны гэтага сьвета дасьведчыванных, каторыя канечна трэба піранасіць, хаця атпакутаваць за нашыя грахі. І а гэтам цяпер буду мець навуку, слухайце толькі пільна, Хрысьц'яне!

Чалавек першы наш Бацька Адам, яка Боські праступнік будучы выгнан з Раю раскошы на гэтат горкій Сьвет, а за ім і усякій з нас, астауся з склонносьцямі цягнучамі больш да злога, нежэлі да добраго, астауся на сьвеце, на каторым усякія піраходзюць нішчасьлівосьці, гдзе мусіць канечна пазбыватца спакойнасьці, якая толькі у праудзівай шчасьлівасьці знаходзітца. Для таго ж Бог, даушы чалавеку душу нясьмертэльную, душу

---

[1] Навука (па-беларуску) на ўрачыстае велікоднае набажэнства.
[2] Ад польск. *zaprzeć się* (przestać koncentrować się na sobie) – менш думаць пра сябе, перастаць засяроджвацца на сабе.
[3] Ад польск. *niewczasy* – адсутнасць выгодаў, немагчымасць адпачыць; пакуты.
[4] Ад польск. *klęska* – параза, вялікае няшчасце.

разумную, па́мітную і вольную, дау яму пры тэм і свае права (подлуг каторых жыцё сваё вясьці должэн), то для спасеня гэтай жэ душы мусіць усякій чалавек канечна апіратца злым сваім хуцям[1]: агыдзіць усякія свае паступкі, праціуныя гэтым жо уставам; і так піраломываючы сябе з дарогі неправосьці на дарогу самого Бога, мусіць немала панесьці уціскау у сваім серцу. І гэта уласьне першая і неадбіце[2] патрэбная цнота цярплівосьці, перэз каторую толькі можэць збавіць сваю Душу. Баязьліваё серцэ чалавека а збавене сваей душы ахвотном посьле станітца да пэлненя Боськаго права, калі наміентнасьці[3] пабожносьцію паскромліныя будуць. Але падхлебоваць[4] сабе і дамагатца ад Бога гэтаго жадзін ня можыць, абы посьле жадной непрыемносьцёй жыцё яго не было нарушанное, бо выразьне ублогаславене для тых толькі от Хрыста Пана сказано, каторыя дасьведчаючы усякіх прыкрасьцей у гэтым жыцю, зносюць оныя у спакойнай цярплівосьці, асалажаючыся Хрыстовой верай і нямыльнай Яго абетніцай, каторый кажыць: „Благославёныя, каторыя тут плачуць, бо яны будуць радаватца". Пан Бог цнатліваго чалавека у раскошах ні гадуець, але дасьветчываець разнымі спосабамі яго цноты і верносьці у знашеню цярплівом нешчасьця і прыкрасьцей, а посьле кладзець таковога у лічбе своіх выбраных. Бог слабому чалавеку абецуець быць помоцай у пакананю усякіх непрыемносьцей, як гаворыць у Ісая Пророка гэтымі славамі: „Калі будзіш пірахадзіць череаз ваду, з табой буду: а навалнасьці[5] ні акрыюць цябе, калі пойдзеш праз агонь, не спалішся: а пламеньня ня будуць пячы цябе". Гэтат голас Боські научаець нас, як повінны мы мець ахвотнае і адважное серцэ у знашаню усячына таго, што толькі Найвыжшы Бог для пробы чалавека прыкрэм быць празначыу. Моц Боськая таго пасіляець, каторый саўсім спушчася на волю яго Сьвятую, зароуна з рук Яго прынімаець зло і добро, першое з гэтых, уважаючы як скутэк[6] правінен нашых, і прозначэннаго на гэтай зямлі жыця, другоя, як прымёт[7] найбольшаго міласердзя і ні ацэнёнэй міласьці Боськей к свайму сатварэню. На многіх мейсцах Сьвятой Эвангэліі упэуняімся, што бяз волі Боськай, ня толькі міжы людзямі, але навэт міжы ніразумнымі зверамі нічаго дзелатца ня можыць. Гэтай тады прауды дзержася, чыж можыць чалавек праців Бога наракаць бяз грэху, што Бог цноты яго прабуець? чыж овшэм ні павінен дзякаваць за яго гэткае (хоць уцяжлівае і цяжкае до знашэня) пшэзначэне? Чыж Богу як Сатварыцелю нашэму і паушэхному Бацьку нашэму нявольна з намі, як хаця і як з дзецьмі пастуіць? І для таго ж Сьвятый Людвік Блазіуш[8],

---

[1] Ад польск. *chuć* – пажаданне, похаць; схільнасць, хцівасць.
[2] Ад польск. *nieodbicie* – бясспрэчна, канечне.
[3] Ад польск. *namiętność* – запал, цяга; гарачае пачуццё.
[4] Ад даўняга польск. *podchlebować* – ліслівіць, цешыць сябе.
[5] Ад даўняга польск. *nawałność* – тут: высокія хвалі.
[6] Ад польск. *skutek* – вынік, наступства.
[7] Ад польск. *prymiot* – рыса, прыкмета, уласцівасць.
[8] Гаворка пра Людвіка Блозія Шаноўнага (1506–1566), бенедыктынскага абата, рэфарматара рэлігійнага жыцця, пісьменніка-аскета і містыка.

уважаючы мудрасьць прэзначэня Паньскаго гаварыу: „Што жаднаго нет пяунейшаго знаку выбраня Боськаго, як ежэлі хто пакорна і цярпліва знашаваець удрэнченя[1] і праціуносьці од Бога прызначынная", бо чалавеку нет нічога пожытэчнейшаго[2], як быдзь трапіным[3]: чрэз цярпене дасьвядчываетца і аказваетца праудзівая верносьць чалавека у дапэлненю Боськіх прыказань, а тым самым і мілосьць чалавека к свайму Богу Сатварыцелю. Як жаунерская вернасьць, музтва[4] і міласьць да свайго цара і Айчызны найлепей аказатца можэць на вайне, гдзе мені важучы свае набыткі, багацтва, асерацялосьць дзяцей і крэуных ахвотна для дабра павшэхнаго пасьвенцае на шкадлівое нібязьпячэньство праціунікоу сваё жыцё, а будучы абступленным няпрыяцельскім войскам, сьмела б'етца ні для пазысканя жыцfolk, але штоб губючы няпрыязное серцо, знашоу ахалоду і адпачнене і для сябе, для свайго любімаго цара, для сваей радзіны і бліжніх у спакойнай сваей Айчызьне. Так тэж і Хрысьц'яніна праудзівая мілосьць к Сатварыцелю свайму і Богу найлепей дасьветчываетца і аказываетца падчас трудоу, утрапень[5] і няшчасьця, калі ён гэтыя усе утрапеня і уціскі для самой толькі мілосьці Бога з музтвам і цярплівосьцей зносіць. Моцны Божэ, хто ж гэтага ні знаець, што жыцё нашаё як на выгнаню праганяім; так за нашыя піраступства цярпець канечна і панявольне навэт кажды з нас мусіць, бо праступнік Боські і выгнанец можэт жа ухылятца ад церпеня якой кары? А што зважаючы, чыж няслушна цярпець з прэзначэня Паньскаго і схыліць сваю волю пад волю Боськую? І для таго ж сам Хрыстос Пан і Бог наш, Спасіцель наш відзеу чы грэшнаго, праступнаго і нешчасьліваго чалавека і ня ахвотное церпець яго серцо, сам сваім власным пшыкладам у васобе чалавека жывучы некаліcь на гэтай зямлі, захэнцау і пацягавау[6] до канечна патрэбнаго цярпеня. Ён будучы Сьвятым над Сьвятымі, будучы Сынам Божым, у нічом нявінным, літуючыся толькі над намі і досыць чынючы за нашыя грахі Справядлівосьці Божэй, уцярпеу усячына од жыдоу, сваіх усьцеклых[7] няпрыяцёл, усякя шыдерства[8], блузьнерства і хвалшывае удане перод старшызнай, усякя гвалтоуныя біця і калецтва, усякя страшэнныя мукі на сваім сьвятым целе – праліу да астатка кроплі Кров сваю найдрожшую, а у каньцу завешаный на дзерэве Крыжа уміор для спасэня душ нашых. О страшная адроднасьці[9] у цяперашніх хрысьц'ян од взору, які нам застауліный у нашым Містру і Богу Ісусе Хрысту. Ніпамітныя, што маюць цела сьмяртэльнае і сказытэлное[10], а душу нясьмертэлную, ніколі няумераюшчую, для збауveня каторой жыцё

[1] Ад польск. *udręczenia* – пакуты.
[2] Ад польск. *pożyteczny* – карысны, прыдатны.
[3] Ад польск. *trapić* – перасследаваць.
[4] Ад польск. *męstwo* – адвага, мужнасць.
[5] Ад польск. *utrapienie* – прыкрасць, мучэнне.
[6] Ад польск. *pociągać* – заахвочваў, даваў прыклад.
[7] Ад польск. *wściekły* – люты, раз'юшаны, злосны.
[8] Ад польск. *szyderstwa* – здзек, глум.
[9] Ад даўняга польск. *odrodny* – звыродлівы.
[10] Ад польск. *skazitelny* – недасканалы, недаўгавечны.

цнатлівое (хоць прыкрое) вясьці далжны, бо прэзначене нашэ, у тот час будзіць нам шчасьлівое, ежэлі жыцё нашэ трудамі увеньчанное збліжытца да насьледованя жыцconfiguration Спасіцеля нашага Язуса Хрыста, каторы у Эвангэлій сваей гаворыць: „Ня ёсьць слуга большым над Пана свайго". А як жэ ж у гэтым самым Краю, на гэтым сьвеце можна быдзь аддаліным ад усіх трудоу і уціскоу, у каторым Бог і Пан наш ня меу адпачненя аж да сканаcomment ад цяглаго[1] удрэнчэня і пірасьледованя? Бо з усіх дарог, каторыя вядуць до жывота вечнаго і шчасьліваго, найпростшая ёсьць дарога Крыжа, так і Павэл Сьвяты научаець, калі так гаворыць: „Што праз многа уціскау увайсьці нам патрэба да Каралеуства Нябескаго". Гэтай бовем[2] дарогай паступалі Сьвятые у Старым і Новым Законе, і гэтат адзін быу знак прэзначеня шчасьліваго, каторых толькі мудрый і справядлівый Бог хацеу подвыжшыць у хвале нябескай, найбольшымі іх на гэтым сьвеце набауляу няпрыятносьцемі. Мы з слабай сваей натуры, Хрысьцяне, па большай часьці перэд Богам грашым, ніжлі добра робім! Каторы ж з нас незатрвожытца, прыпомінаючы дні прошлаго свайго жыця, уважаючы многасьць свайх піраступкау, а маласьць перэд Богам заслуг? Чы ж гэто самое ня павінно пабуждаць нас ісьці дарогай цярплівосьці, трудау і уціскау? Так ёсьць, няіначэй. А ежэлі ж гэта нашо лянiваё цело будзіць ухылятца з пад трудоу для збавеня нашаго патрэбных, то на тот час гляньмы на Св. Крыж, гляньмы на Абраз Збавіцеля нашаго Язуса Хрыста. Прыглядзімся отчынінам Яго ранам, з каторых Кроу сваю прэнайсьвіентшую аж да астатней кропэлькі за нас праліу; а тагды, пеуна, што будуць гэтые усе цярпеня, прыкрасьці і труды для спасеня нашаго панесінныя для нас салоткамі. З Заслугамі Мукі і Крові Яго прэнайдрожшэй лучмы ж, Хрысьцяне, нашые усе добрыя учынкі і нашыя у Бога заслугі, нашую працу, гора і утрапеня у пакуце за свае грахі ахвяруймы Богу, што бы Ён нам оныя адпусьціў, і спас нашыя душы нясьмяртэлныя. Алі чаго ж ацягаваімся з нашай пакутай? Пачаму ж трвожымся цярпліва зношаваць нашу нядолю, калі час да пакуты кароткій? Калі нашое здароуе і жыцё няпеунае? Чы ж мы самі штодзень ня відаім, як часта чэрствосьць здароуя заводзіць? Чы адзін пашоу здаровы да ложка, а яму ложка у гроб замяніло сен? Чы адзін перэд гадзінай быу вясёл, бавіуся з раднёй, суседамі, роуна з німі чарачку па чараццэ паганяу, алі ужэ яго нету, бо наглай сьмерцяй сканаў? Чы адзін здаровый выехау у дарогу, а яго мярцьвяцам прывязлі да дому? Ах! і дужа блудзюць тыя, каторыя ад часу да часу адкладаюць сваю пакуту і паправу жыця. Паслухаймы Св. Ауґустына, каторый так кажыць: „Пакіньце, што ёсьць няпеунага, а бярыцяся да таго, што ёсьць пеунаго. Заутрышній дзень няпеуный, а сёгонішній дзень да паправы жыця найпяунейшы". Лутша тады сягодня пакутаваць, бо хто знаіць, што заутра будзіць? Кажыць сам Спасіцель: „Няведаіце ані дня, ані гадзіны, калі Сын чалавечы прыйдзець на Суд". Ані тады пасьціражомся, як сьмерць нас заскочыць, а па сьмерці вечное потэмпене. „Бо калі пакутаваць ня будзеце, усе зароуна згінеце" – так

[1] Ад польск. *ciągły* – безупынны, сталы.
[2] Ад польск. *bowiem* – бо.

перасьцерагае сам Хрыстос. Вота ж, Хрысьцяне, стараймы ся учэсьне пакутаваць, пакуль жывём на гэтай зямлі, бо посьле па часе будзіць. Усе нашыя прыкрасьці, змартвеня і нешчасьця цярпліве зносьмы, ахвяруючы гэта сярдэчна Богу за грахі нашыя і на спасэне душ нашых. А што бы вясёла правадзіць памітку Васкрэсеня Спасіцеля нашаго Язуса Х[ры]ста, сягодня распачынаюшчуюся, трэба быдзь ад грахоу вольным і спакойным на сумненю, ачышчаяся чэрэз Споведзь і пакуту Сь[вяту]ю. А тады радосна сьпеваймы *Алліллюя*!

Амін.

*Падрыхтавала Марыля Хаўстовіч*

## Ад “вясковых” да “ўласных вясковых” песняў

Як беларускамоўны паэт Ян Чачот (1796–1847) быў вядомы ў коле філаматаў і філарэтаў, аднак у адрозненне ад Тамаша Зана (1796–1851) і Адама Міцкевіча (1798–1855) свае творы ў друк не падаваў[1]. Пэўна, літаратурнае славы ён не шукаў ні ў маладыя гады, ні нават пазней, калі вярнуўся з высылкі і выдаваў *Piosnki wieśniacze*…: лічыў, відаць, за лепшае заставацца невядомым. Праўда, таямніцу датрымаць яму не ўдалося: ужо ў кароткай бібліяграфічнай згадцы пра першы томік (*Nowiny literackie z Wilna*), датаванай 4 маем (н. ст.) 1838 г., імя выдаўца было расшыфраванае[2]:

> *Piosnki wieśniacze z nad Niemna*. We dwóch częściach przez bezimiennego (Czeczota), wydane u Zawadzkiego, 1838 r.[3]. Jest to przekład pieśni gminnych śpiewany przez lud litewski w biało-ruskiem narzeczu, po mistrzowsku dokonany. Wydawca w przemowie swojej przyrzeka ten zbiór pomnożyć i wespół z oryginałem czytającej publiczności ukazać. Oby jak najrychlej zbawienny ten zamiar do skutku przyprowadził! [Anonim 1838a, nr 32: 178].

28 мая 1838 г. інфармацыю з „Tygodnika Petersburskiego” перадрукаваў пазнанскі „Tygodnik Literacki” [Anonim 1838c, nr 9: 72], але не пазначаючы, што зборнік выйшаў ананімна.

У чэрвені 1838 г. нехта з пецярбурскіх беларусаў-ліцвінаў[4], пазнаёміўшыся з выданнем Я. Чачота, напісаў і апублікаваў у „Tygodniku Petersburskim” вялікую

---

[1] Яны былі апублікаваныя толькі ў ХХ ст. А вось прозвішча паэта на друкаванай картцы ці не ўпершыню з’явілася ў прысвячэнні да зборніка Адама Міцкевіча *Ballady i romanse* (1822): „Janowi Czeczotowi, Tomaszowi Zanowi, Józefowi Jeżowskiemu i Franciszkowi Malewskiemu przyjaciołom moim na pamiątkę szczęśliwych chwil młodości którą z nimi przeżyłem”.

[2] Прозвішча паэта толькі аднойчы з’явіцца на старонках *Piosnek wieśniaczych*…: „Jan Czeczot” – гэтак будзе падпісаная прадмова да шостага (1846) томіка.

[3] На тытульным аркушы зборніка пазначаны 1837 г. Але, улічваючы тое, што ў бібліяграфічным аглядзе выданне датуецца 1838 г., трэба прызнаць, што томік з’явіўся ў кнігарні Юзафа Завадскага ці то ў снежні 1837 г., ці то ў студзені 1838 г. Зрэшты, чарговая бібліяграфічная нататка ў „Tygodniku Petersburskim” так і называлася: *Xiążki polskie, wydane w Wilnie, w Grudniu 1837 i w Styczniu 1838 roku* [Anonim 1838b, nr 33: 185]. Тут тытул выдання Я. Чачота пададзены з памылкаю: *Piosnki wieśniackie z nad Niemna. We dwóch częściach, u Zawadzkiego, 1837. VIII i III str. osiemce*.

[4] Пра гэта сведчыць пазнака „Udzielono”. У ліпені 1838 г. гэтая рэцэнзія была перадрукаваная (з невялікімі зменамі) у „Tygodniku Literackim” [гл.: Anonim 1838f, nr 14: 108–109; Anonim 1838g, nr 15: 117–119; Anonim 1838h, nr 16: 125–127]. Тут яна была падпісаная літарамі „T. P.”, якія трэба чытаць: „Tygodnik Petersburski”, а не ўспрымаць як крыптанім невядомага аўтара.

рэцэнзію [гл.: Anonim 1838d, nr 41: 235–236; Anonim 1838e, nr 44: 252–254], высока ацэньваючы як майстэрства перакладніка, так і вартасці народных песняў, ставячы іх вышэй "штучнае паэзіі" (напрыклад, Стэфана Вітвіцкага і Эльжбеты Дружбацкае). Для рэцэнзента кожная са ста песняў – жывая сцэна „bytu wieśniaczego", а ўсе разам яны даюць малюнак драмы чалавека-выгнанца з раю. "Штучную паэзію" ён называе *sielskiej*, г. зн. ідылічнаю, і супрацьпастаўляе яе *wieśniaczej*:

> Porównajmy słowo w słowo, wiersz w wiersz, zwrotkę ze zwrotką pieśni *sielskiej* i *wieśniaczej* i postawmy je obok siebie; a jeśli się zakochamy, to tam w poecie, potrosze rysowniku, muzyku, tancerzu, filozofie, romantyku razem, a tu w szczerej prawdzie i piękności samego przedmiotu pieśni [Anonim 1838e, nr 44: 254].

Рэцэнзія засталася незавершанай. Пэўна, рэдактар Юзаф Працлаўскі (1799–1879) не пажадаў весці гаворку пра ніжэйшы клас грамадства і ягоную творчасць. Невыпадкова на старонках „Tygodnika Petersburskiego" не было больш рэцэнзій *Piosnek wieśniaczych*… Хіба толькі мімаходзь згадалі пра іх Міхал Грабоўскі (1804–1863) ды Юзаф Ігнацы Крашэўскі (1812–1887), дыскутуючы пра праблемы выкарыстання народнае паэзіі ў вялікай літаратуры. Прычым, М. Грабоўскі нават не ведае, хто выдае *Piosnki wieśniacze*…:

> To samo co PP. Siemieński i Bielowski zrobili z dumą historyczną, uczynił pan C h o d ź k o (разрадка нашая – *M. X.*) z pieśnią sielską gminną. Jego *Piosnki wieśnieczę z nad Niemna*, są także wierném tylko i troskliwém tłumaczeniem pierworodnych utworów gminnej sztuki, bez żadnej samowolności, bez żadnych dodatków a z oczyszczeniem tylko od skaz i śniedzi, których nabrały chodząc długo po prostych ustach i po grubém ręku wieśniactwa [M. Gr. 1840, nr 14: 71].

Вядомы крытык пагаджаўся на „takowe *obrobienie* gminnych utworów" і нават на тое, каб краёвыя музыкі „dobrali" да іх адпаведныя мелодыі, хоць найвышэйшая задача літаратуры – „odtworzyć poezyą narodową z poezyi gminnej" [M. Gr. 1840, nr 14: 72]. Падобныя думкі выказваў і Ю.І. Крашэўскі:

> Tego zaś nie nazywam *obrabiaczem*, kto jest, jak Autor *Piosnek z nad Niemna i Dźwiny*, tylko pełnym czucia tłumaczeni fantazij gminu, kto ich nie kaleczy, ale odsłania, nie wykręca, ale objaśnia, kto je wyprowadzając na jaw, nie farbuje ich tym co z niego samego wypełzło; al religijnie, święcie, spiewa z chłopkiem po chłopsku, wierzy z nim w diabły i upiory i płacze nad czém on płakał i czci też same przedmioty, które on czcił od wieków [Kraszewski 1840, nr 29: 147].

Краёвыя літаратары і крытыкі не падтрымалі і нават не звярнулі ўвагі на выказанае яшчэ ў 1834 г. жаданне Я. Чачота друкаваць не толькі свае пераклады, але і беларускамоўныя тэксты: "Na inny czas, i gdy się zbiorek pieśni pomnoży, zachowuję sobie wydanie ich z textem oryginału" [Czeczot 1837: VIII]. Мабыць, з гэтае прычыны з'яўленне народных песняў у іх першаснай форме адкладвалася, хоць Я. Чачот напрыканцы 1830-х гг. меў, дзякуючы „grzecznym i zacnym panienkom", аграмадны збор беларускага меласу. Яшчэ ў 1960-я гг. Леаніла Малаш (1927–2012) высветліла, што паэт-фальклярыст склаў два рукапісныя

зборнікі песняў – наднёманскіх і наддзвінскіх, пра якія ніколі не згадвалася ў навуковай літаратуры. Ёй пашанцавала адшукаць у Інстытуце літоўскае мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскае ССР сярод рукапісаў, прызначаных да знішчэння, другую частку зборніка наддзвінскіх песняў. Усяго наддзвінскіх песняў у Я. Чачота было 557, а наднёманскіх – блізу 400 [Малаш 1989: 117–120].

У пяці томіках *Piosnek wieśniaczych*… (1837, 1839, 1840, 1844, 1845) было апублікавана 181 наднёманская і 210 наддзвінскіх песняў у перакладзе на польскую мову.

Беларускія народныя песні ў арыгінале з'явіліся ў выданні Я. Чачота ў чацвёртым томіку (1844), дзякуючы, пэўна, водгуку[1] вядомага літаратара, юрыста і рэдактара „Biblioteki Warszawskiej"Антоні Юзафа Шабранскага (1801–1882):

> Godne są uwagi pieśni ludu wydane pod napisem: *Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny*. – Wilno 1840. Jest to trzecia książeczka jako dalszy ciąg dwóch tomów z r. 1837 i 1839 *Piosnek wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny*. Tak w tym tomie jak i poprzednich zebrał wydawca pieśni ludu tamtych okolic, lecz niepozostawił im formy i wyrażeń gminnych; przetłumaczył i przęrobił je po swojemu. Zebrał od ludu myśli, zwroty, obrazy piękne. Przedstawił je wprawdzie w formie tchnącéj prostotą; lecz w stylu ogładzonym, z przyzwoitością najpilniej strzeżoną. <…> Pieśni w téj szacie zawsze dają poznać stopień umysłowego usposobienia, i uczucie ludu, w tém najużyteczniejsze, bo przystępne dla ogółu czytelników. Jak w pieśniach p. J. K. tak i w tych napotykamy wiele wyobrażeń, które z wszelką pewnością można odnieść do czasów pogańskich. Owa chmurka, w któréj matki duch przemieszkuje; przemiana żony w wierzbę, a brata i siostry w kwiaty bratki; przepiórka co dziatek swych szuka; miłość kukułki z sokołem; słowika z zuzulą (kukułką); owe senne marzenia o gołębiach, łabędziach, o pochyleniu się na grobie jaworu i brzozy i t. d.; te piosnki kupalne gdzie nawet pojedyncze zwroty językowo podobne do starożytnych pieśni czeskich; wszystko to są szczątki, przez które jak przez drobną szczelinę przyglądamy się starożytnemu życiu Słowian. A ż e b y  t e n  z b i ó r  o d p o w i e d z i a ł  z u p e ł n i e  c e l o w i  s w e m u ,  w y p a d a ł o b y  j e s z c z e  w y d a ć  t e x t  o r y g i n a l n y c h  p i o s n e k [разрадка нашая – *М. Х.*] [A. J. S. 1841, t. I: 163–164].

Усяго Я. Чачотам было апублікавана „w mowie słowiano-krewickiej" 20 песняў (10 наднёманскіх і 10 наддняпроўскіх) у чацвёртым (1844) томіку *Piosnek wieśniaczych*… і 99 (50 наднёманскіх і 49 наддняпроўскіх) у шостым (1846) з пазначэннем, у якім томіку знаходзіцца пераклад кожнае песні.

Відаць, заўвага варшаўскага рэдактара асмеліла Я. Чачота на яшчэ адзін крок у кірунку рэальнае двухмоўнасці *Piosnek wieśniaczych*…: пасля раздзелаў *Piosnki pierwotworne z nad Niemna* і *Piosnki pierwotworne z nad Dźwiny* ўкла-

[1] „Otrzymały te piosnki w niektórych pismach czasowych pochwałę; żądano nawet, aby były wydrukowane piosnki oryginalne, dla miłośników Sławiańszczyzny. Jak dla nich s prośbą, aby nie byli w miłości swojéj samolubni, tak bardzéj dla prawdziwych przyjaciół ludzkości i dobroczyńców swych włościan, umieściłem w niniejszéj xiążeczce po dziesiątku piosnek oryginalnych z nad Niemny i Dźwiny, i obok nich, swoich własnych po włościańsku śpiewanych pieśni dwadzieścia kilka s tłumaczeniem" [Czeczot 1844: XI].

дальнік змясціў *Własne piosnki wieśniacze* і *Tłómaczenie własnych piosnek wieśniaczych*. 28 тэкстаў у дзвюх моўных версіях: „język wieśniaków” і „nasz piśmienny” [Czeczot 1837: VII] становяцца ў паэта раўнапраўнымі, люстраным адбіткам адзін аднаго.

Варта звярнуць увагу, што Я. Чачот ніколі не карыстаўся паняццем “беларуская мова”. Напачатку ягонае фальклярыстычна-перакладніцкае працы ён казаў пра „język wieśniaków” (1837), пра „piosnki wiejskie” (1840) і толькі пазней, можа, дзякуючы грунтоўнаму знаёмству са зборамі шчорсаўскае бібліятэкі Храптовічаў, з’яўяцца ў ягоных прадмовах акрэсленні „dialekt Krewicki” (1844) і „mowa Sławiano-krewicka” (1846). Але назва ўсяго цыклу зборнікаў прынятая была на самым пачатку “праекту” – *Piosnki wieśniacze…* Складальнік-перакладнік не ўжывае ў дачыненні да беларускіх народных песняў прынятага ў той час тэрміну „poezja gminna”, бо гэта не адпавядала ягонаму погляду як на генезіс, так і на вартасць агульнанароднага меласу. Не мог ён назваць сабраны ім скарб „włościańskim”, „chłopskim”, бо лічыў, што паўстаў ён у тую далёкую эпоху, калі грамадства не ведала падзелаў на класы. Пазней гэта будзе ім акрэслена так:

> Poezia zwana dziś gminną, była przed wieki wszystkim przodkóm naszym spólna: pańska, xiążęca, słowem, narodowa; godniejszą tedy względu stawaćby się powinna u tych nawet, którzyby nic dobrego upatrywać nie chcieli w tém, co tylko jest gminném, włościańskiém [Czeczot 1844: VII].

На думку паэта-мысляра, дзеля „piosnek” найбольш адпавядала азначэнне „wieśniacze”. Але не таму, што яны “сялянскія”, не таму, што належаць выключна селяніну, мужыку, „chłopu-rolnikowi”, а з тае прычыны, што нарадзіліся ў вёсцы, „wsi”:

> Nie sądźmy, że każde tylko miasto, lub prowincya ma swego uczonego śpiéwaka; ujrzymy, że każda prawie wieś miała i mieć może swojego nieuczonego, ale z duszy i z serca śpiéwaka [Czeczot 1837: V].

Як „uczony śpiewak Karpiński” належыць правінцыі, усёй Літве, так „nieuczony” – адной асобна ўзятай вёсцы. Гэты погляд, погляд “ранняга” Чачота-фальклярыста, у хуткім часе, дзякуючы знаёмству з народнаю песняю розных рэгіёнаў Літвы-Беларусі, будзе ім зменены:

> Jak piérwéj uważałem, że w niewielkiej odległości odmienne są piosnki wieśniacze po wsiach; tak w dalszém ich zbieraniu przeświadczyłem się, że w zupełnie nawet odległościach są jedne drugim zupełnie podobne, albo z małemi w słowach tylko odmianami, też same [Czeczot 1840: VII].

Тым не менш, *„piosnki”* ў яго, як і раней – *„wieśniacze”*. Няхай сабе і з іншым, прынятым хіба ў другой палове XVIII ст., значэннем. “Wieśniaczy” як просты, немудрагелісты, парафіяльны, без свецкіх манераў, але і без фальшу. “Wieśniaczy” – гэта той, які належыць нібы іншай цывілізацыі, іншаму свету, даўняму, без праяваў новых уплываў; таму свету, які пануе на вёсцы. Wieśniaczość-вясковасць як апазіцыя да культуры вышэйшага класа, як тое, што цяпер пагарджаецца, але, на думку Я. Чачота, мае вялікую каштоўнасць. Таму ў складаль-

ніка песні – *„wieśniacze”*, а не *„chłopskie”*. Хоць *„chłopskie”* якраз у першую чаргу і адзначаецца „wieśniaczością”:

> Wszakże nie tylko myślą i ogładą różnią się przysłowia, lecz i stosunkiem swym do zatrudnień jednemu i drugiemu stanowi właściwych. Tak więc chłopskie wieśniaczością, szlacheckie dworstwem i rycerskiém powołaniem odznaczają się [Maciejowski 1851, t. I: 142].

“Вясковае”, у разуменні Я. Чачота, – гэта больш шырокае паняцце, чым “сялянскае”. “Вясковае” – гэта і памяць пра колішняе агульнанароднае, пра тыя „pieśni, jakie odległa praprababka nie jednego z nas, przy kądzieli w tejże samej może wsi nóciła ze swymi krewnymi, których potomstwo przez brak zasług w kraju pozostało w stanie poddaństwa” [Czeczot 1844: VII]. “Вясковае” – гэта і належнае сённяшняму насельніцтву вёскі – шляхце і аднадворцам, пазбаўленым расейскаю ўладаю ранейшых прывілеяў.

На нашую думку, тытулы Чачотаўскіх зборнікаў па-беларуску ўзнаўляюцца хіба не заўсёды дакладна. Варыянт, прапанаваны М. Гарэцкім – *Сялянскія песенькі з-пад Нёмна і Дзвіны* [Гарэцкі 1926: 116] – не зусім удалы, але большасць гісторыкаў літаратуры[1] менавіта так і сёння называе выданні Я. Чачота. Хоць, мяркуем, Я. Чачот складаў зборнікі *Вясковых песняў*…

Стасоўна да агульнага тытулу выдання паэт назваў свае вершаваныя тэксты *Własne piosnki wieśniacze*, г. зн. *Уласныя вясковыя песні*, хоць у прадмове падкрэслівае, што яны не зусім “вясковыя”, хутчэй “сялянскія”, прызначаныя „miłym mużyczkam”: „umieściłem w niniejszéj xiążeczce <…> swoich własnych po włościańsku śpiewanych pieśni dwadzieścia kilka s tłumaczeniem” [Czeczot 1844: XI].

Надрукаваныя ў 1844 г., *Własne piosnki wieśniacze* даўно ўвайшлі ў корпус беларускае літаратуры XIX ст. У транслітараваным і адаптаваным выглядзе яны шмат разоў перадрукоўваліся паводле першавыдання. Захаваўся і цэнзурны рукапіс чацвёртага томіка *Piosnek wieśniaczych…*, які мае пэўныя моўныя адрозненні. Выдаецца, цікавым той факт, што дзеля беларускага гуку [ў] Я. Чачот выкарыстоўваў у рукапісе асобную літару – ***v***. Праўда, у друкаваным варыянце замест яе з’явілася іншая – ***ú***. Невядома, хто і на якім этапе спрычыніўся замене ***v*** на ***ú***. Але гэтую замену хіба прыняў Я. Чачот, бо ў прадмове да шостага томіка напісаў: „wymawiają Krewiczanie zamiast ***ł*** głoskę ***ú***, łącząc ją z następną, lub poprzedzającą samogłoską; skąd się tworzą niezaprzeczone dwugłoski: ***aú***, ***eú***, ***oú***, ***iú***, ***uú***, np. ***daú***, ***jeú***, ***paszoú***, ***lubiú***, ***blisnuú***” [Czeczot 1846: VII].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: LMAVB (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka), F 9, b. 577 [*Piosnki Wieśniacze znad Niemna i Dźwiny z dołączeniem pierwotnych w mowie sławiano-krewickiej*], l. 37v – 60r.

---

[1] Зрэшты, часам сустракаецца і іншы варыянт: *Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны* [Лойка 1989, I: 21, 89; Малаш 1989: 120–124].

## Własne piosnki wieśniacze.

### LXVII.

Jak to dobre, kali mużyk
Trezwy, haspadarny!
Dla takoho v całom roku
Żadyn czas nie marny!

Śniehi tajuć, jon harodzić
Kolmi, szto zimoju
I nawaziv i naczesav
Dobroju paroju.

Jość u nieho i łuczywa
I drov mnoho kletek;
Budzie czym waryci kaszu
Vsio leto dla dzietak.

Wiesna bliśnie, jon hnoj wozić,
I are i sieje;
Kosić łuhie, sienażaci,
Nim żyto daśpieje.

Chleba maje i nie chodzić
Wiesnoju na mierki;
Bo zimoju jon nie łykav
U karczmie s kwaterki.

Letkom żonka i dzievczata
Żnuć żyto, jarynu;
A jon zwozić, a jon znosić
Vsio u charaminu.

Papar are i małocić,
Znov sieje u poli;
I pracuje rad i wiesioł
Z mużyckoi doli.

Nikoli jon nie szukaje
U karczmie wiesiela,
I nie leżyć tak jak chwory,
Wieś dzień dla pachmiela.

Jon u światoj u cerkovcy,
Na torhu bywaje;

## Tłómaczenie własnych piosnek wieśniaczych.

### LXVII.

Jak to dobrze, kiedy chłopeĸ
Trzézwy, gospodarny!
W calusieńkim jemu roku
Żaden czas nie marny!

Śniégi tają, a on grodzi
Temi płot kołami,
Co nawoził i ociosał
Zimowemi dniami.

Ma on dosyć łuczywa,
Suchych drew dostatek;
Będzie przy czém warzyć kaszę
Cały rok dla dziatek.

S przyjściem wiosny nawoz wozi,
Zaorywa, sieje;
Kosi ługi[1], sianożęci,
Żyto nim dojrzeje.

Mając chleba, nie brnie wiosną
Żebrać w dwórze miarki[2],
Bo nie łykał zimą wódki
Kwartą u szynkarki.

Latem żona żnie s corkami
Żyto i jarzyny;
A on zwozi, a on znosi
W brogi i odryny.

Ugor orze, w ranki młóci,
Znów zasiewa pole;
I pracuje rad i wesół
S swéj włościańskiéj dole.

Nigdy w karczmie niechce szukać
Gwaru i wesela,
Ni przeleży, jako chory,
Cały dzień s pochmiela.

W dzień świąteczny do kościoła,
Lub na targ wybieży;

[1] *Lugi* znaczy lęgi, łąki błotniste. Daleko jednak powszechniéj zrozumiany wyraz: ługi (*заўвага Я. Чачота*).

[2] *Miarkami* nazywa się zboże wydawane garcami po dworach na przekarmienie włościan wiosną (*заўвага Я. Чачота*).

Boha, pana, swaju chatu
 I rabotu znaje.

A zachoczeć pahulaci
 U dom sprosić hości;
Tahdy sabie czarku wodki
 Wypje da waszmości.

## LXVIII.

„Oj, czyje to ludzie piją i hulają?
Pana Chreptowicza, bo pieniądzy mają.
Pana Chreptowicza lipowy ulice,
A cełу poletek pszenicoju ćwicie”[1].
Pana Chreptowicza mużyczki charoszy,
Wiesioły, adziety, da i nie bez hroszy.
U nas Oleszkiewicz, Moniczy, Gulary[2],
Majuć i czyrwoncy, rubli i talary.
My panom szczaśliwy! da Boha zakliczem:
Daj wiek dovhi życi z naszym Chreptowiczem!

## LXIX.

Chto tut pijak, to takovski
Czużepaniec, nie Szczorsovski!
Sorom dla nas i dla pana,
Kalib była wołość pjana.

Szczorsy sływuć mużykami
I łaskawymi panami,
Szto i czytać nas uczyli,
I lubili, nie hłumili.

Trebaż sławu udzierżaci,
I u karczmie nie hulaci;
Na furmankach, na wicinie,
Twaja cześć, Szczorsawianinie!

Napili sie bratcy trochi,
Pajdziom da chaty, da sochi;
Mużyk pry sasie, to krasa!
Karczma zrobić świnapasa.

---

[1] Jestto piosnka gminna przez Szczorsowian spiewana (*заўвага Я. Чачота*).
[2] Nazwiska dostatnich gospodarzy Szczorsowskich (*заўвага Я. Чачота*).

Boga, pana, gospodarstwo
    Zna jak się należy.

A jeżeli chce pohulać,
    Do dom sprosi gości;
Wtenczas sobie czarkę wódki
    Spełni do waszmości.

### LXVIII.

Oj czyi to ludzie piją i hulają?
Pana Chreptowicza, bo pieniądze maja.
Pana Ghreptowicza lipowe ulice,
A na żyżnych łanach kwitnące pszenice.
Pana Chreptowicza cala włość szczęśliwa,
Wesoła, odziana, i nie bez grosiwa.
U nas Oleszkiewicz, Monicz i Gulary,
Mają i dukaty, ruble i talary.
My panem szczęsliwi! daj Boże, co życzem:
Niech sto lat przeżyjem z naszym Chreptowiczem!

### LXIX.

Kto tu pijak, taki z wioski
Cudzopańskiéj, nie Szczorsowski!
Wstydby dla nas i dla pana,
Gdyby była wlość pijana.

Szczorse słyną i włościany
I dobremi swemi pany,
Co i czytać nas uczyli,
I lubili, nie głumili.

Trzebaż sławę nam zachować
I po karczmach nie harcować;
Na podwodach, na wicinie
Twoja cześć, Szczorsowianinie![1]

Już napiliśmy się trochę,
Nuż do chaty, nuż za sochę!
Chłopek s sochą, to to krasa!
Karczma zrobi skotopasa!

---

[1] Włościanie Szczorsowscy słyną z wierności i uczciwości w spławie na Niemnie i na licznych podwodach do transportów, których tysiącami dostarczają (*заўвага Я. Чачота*).

## LXX.

Oj u kuście, u chruście
  Siedzić sabie zajec,
Da na hetuju zimu
  Nieszto sabie bajeć.

Oj jevby ciepier awios,
  Nie hetu sałomku! –
Oj pad kustom i mużyk
  Klav swaju karczomku.

Jevby ciepier czysty chleb,
  A nie puchawinku;
Kab ja czasto nie siedziev
  U pahanym szynku.

A badaj ty nowaja
  Karczomka zhareła,
Jak maja pierez ciebie
  Chatańka zhaleła!

Dzieteczki i żoneczka
  Biez chleba u tuzie;
Woliki i koniki
  Topiacca u łuzie.

Żyto, awios i sieno
  Na harełku mieniav,
Sztob zimoju ćwiordo spav,
  Na wiesnu prapav.

## LXXI.

Oj haspadynia czorna jak komin,
Da na nioj saży da so dźwie aśmin
    Oj waźmuże ja dubinu,
    Oj strasu sażu v aśminu;
      Oj haspadynia!

Da u nas reczka pad aknom ciecze,
Nikoli chustav jena myć nie jdzie;
    I biedny haspadar czoron
    Jak warona, albo woron;
      Oj haspadynia!

Naszy dzieciata jak waraniata,
Oj nieszczasnaja da maja chata!

## LXX.

Oj w krzaku, w chrośniaku
Siedzi sobie zając,
Na śnieżystą zimę
Coś tam narzekając.

Jadłbym dzisia owies,
Nie słomkę nie zdrową! –
Pod krzakiem i chłopek
Klął karczemkę nową.

Jadłbym dziś chleb czysty
Jém nie podsiewany,
Żem często odwiedzał
Szyneczek pogany.

O bodaj ty nowa
Karczemko zgorzała,
Jak moja przez ciebie
Chateńka zholała!

Dziateczki, żoneczka
Bez chleba w kłopocie;
Woliki, koniki
Topią się gdzieś w błocie.

Żytom, owies, siano
Mieniał na wódeczkę,
Bym twardo spał zimą,
Przepadł na wiosneczkę!

## LXXI.

Oj czarna gospoś gdyby kominy,
Ach na niéj sadzy ze dwie ośminy!
Oj wezmęże ja dębinę,
Oj strząsnę sadzę w ośminę;
Oj gospodyni!

A u nas rzeczka pod okienkami,
Nie idzie nigdy ona s chustami.
Gospodarz biédny s tą żoną
Wygląda gdyby kruk z wroną;
Oj gospodyni!

Dziecięta nasze jako wronięta,
Nieszczęściem cała chata dotknięta!

I na stale i pad stałom
Treski, śmiecie i s papiałom;
Oj haspadynia!

A jena sabie na pieczy leżyć,
Umurzavszy sia, ni czom nie tużyć.
Tolki dla niej i kłapotu,
Prynieści chleba da rotu;
Oj haspadynia!

Oj nie ścierpievże, uziav dubinu,
Da strosże ja sażu v aśminu;
Oj da hraza u les niejdzie,
Haspadynia na reczku jdzie,
Chusty niesie!

## LXXII.

U lesie takujeć ciecieruk,
U karczmie takujeć nasz Bavtruk;
Ciecieruka stralec zabiv,
Bavtruka alendar zhubiv,
Oj Bavtruk, da ciecieruk!

A chata jeho da bez strechi,
U wolikov baki jak miechi;
I koniki sakoliki,
Tak chudyje jak woliki;
Oj Bavtruk, da ciecieruk!

Kolkoż u nas hetych Bavtrukov?
Tolko Bavtrukov, szto mużykov;
Oj da heto Boska kara;
Hiniem vsie u Alendara
Bavtruki, ciecieruki!

## LXXIII.

Kab u karczmie nie siedziev,
Toby czyścieńki chleb jev;
A to zrabiła karczma,
Szto kuska chleba nima.

Kab u karczmie nie siedziev,
Tob siermiażku cełu miev;
A to zrabiła karczma,
Szto v łatach siermiażka vsia.

I na stole i pod stołem
Drzazgi i śmiecie s popiołem;
Oj gospodyni!

A ona sobie leży na piecy
I o nic nie dba smoląc swe plecy.
Ledwie zejdzie z legowiska
Gdy zapachnie strawy miska;
Oj gospodyni!

Oj nie ścierpiałem, wziąłem dębinę,
Oj strząsłemże ja sadzę w ośminę;
Groza do lasa nie idzie,
Gosposia na rzekę idzie,
I chusty niesie!

**LXXII.**

W lesie cietrzew gdzieś tokuje,
W karczmie Bartek baraszkuje;
Strzelec cietrzewia zabija,
Szynkarz gubi Bartłomija;
Oj Bartosz, oj cietrzew!

A chata jego bez strzechy,
U wołów boki jak miechy;
I koniki sokoliki
Takie chude jak woliki;
Oj Bartosz, oj cietrzew!

Wieluż mamy tych cietrzewi?
Ilu chłopków, któż to nie wie?
Ach prawdziwie Bóg nas karze,
Giniem wszyscy przez szynkarze,
Bartosze, cietrzewie!

**LXXIII.**

By się w karczmie nie siedziało,
Czystyby się chléb jadało;
Ano sprawka to karczmiska,
Że mi dobrze głód dociska.

By się w karczmie nie siedziało,
Całąby się odzież miało;
Ano sprawka to karczmiska,
Że mię szpecą łachmaniska.

Kab u karczmie nie siedziev,
Tob wały, karovki miev;
A to zrabiła karczma,
Szto i wolika niéma.

Oj nie buduż v nioj siedzieci,
Budu chleb, siermiaszku mieci;
Wałov, karov so dźwie par,
Da-j znov budu haspadar!

## LXXIV.

Byv ja koliś kawalom,
Ciepier zawuć pijakom;
Jakże heto to jeno
Na mienie z lichom pryszło?
    O to hetak, o to tak,
    Kawal zrabiv sie pijak.

Prynios chto astryć naroh,
Ja try hroszy vziaćby moh;
Nie try hroszy mnie dajuć,
A harełku mnie niesuć.
    O to hetak, o to tak,
    Kawal zrabiv sia pijak.

Niesie naklepać kasu,
Ja da karczmy z nim idu;
Jon harełki czarku dav,
Ja kasu darmo klepav.
    O to hetak, o to tak,
    Kawal zrabiv sia pijak.

Prywiov kania padkawać,
Jak bez wodki hroszy brać?
Za żalezo vziav hraszok,
Za rabotu baryszok.
    O to hetak, o to tak,
    Kawal zrabiv sia pijak.

Nim vsie koni padkawav
I vsie kosy paklepav;
Ot ja sabie cełу rok
U harełcy mok da mok.
    O to hetak, o to tak,
    Kawal zrabiv sia pijak.

Oj nie rabi synku tak,
Lepsz za vsio biery trajak;

By się w karczmie nie siedziało,
Woły, krówkiby się miało;
Ano sprawka to karczmiska,
Że już nié ma i woliska.

Oj nie będęż w karczmie gościć,
By mieć odzież i nie pościć;
Wołów, krówek mieć po parze,
Żyć jak dobrzy gospodarze.

### LXXIV.

Byłem niegdyś kowal,
    Dzisia zwą, pijaczek;
Jakże taki ze mnie
    Stał się nieboraczek?
Rzecz to taka i owaka,
Że s kowala masz pijaka.

Niosą ostrzyć naróg,
    Wziąłbym pięciórerczę;
Nie chcą dać pięciórki,
    Proszą na wódeczkę.
Rzecz to taka i owaka,
Że s kowala masz pijaka.

Dadzą klepać kosę,
    Wiodą do karczmiska;
Darmom klepał kosę,
    Czarkęm miał wódczyska.
Rzecz to taka i owaka,
Że s kowala masz pijaka.

Wiodą podkuć konia,
    Będziesz tu boryszek;
Płacą za podkowę.
    Brzęczy i kieliszek.
Rzecz to taka i owaka,
Że s kowala masz pijaka.

Nimem podkuł konie;
    Kosy im naprawił,
Otom w gorzałeczce
    Rok się cały pławił.
Rzecz to taka i owaka,
Że s kowala masz pijaka.

Nie rób tak mój synku,
    Lepiej weź trojaczka;

Lepsz za dziakuj mołot zbij,
A baryszov ty nie pij.
O to hetak, o to tak,
Budziesz kawal nie pijak.

## LXXV.

Maładyje maładzicy,
Oj nie pijcie harilicy;
Niszto hidczej kołom świeta,
Jak pijanaja kabieta.

Pahledzicie jaki woczy,
Jaki u niej jazyk smoczy;
Niszto hidczej kołom świeta,
Jak pijanaja kabieta.

Kali czorta znać choczecie,
To na jeje pahledziecie;
Ni szto hidczej kołom świeta,
Jak pijanaja kabieta.

Boha u duszy nie maje,
I soromu zabywaje;
Ni szto hidczej kołom świeta,
Jak pijanaja kabieta.

## LXXVI.

Kiepsko robim żoneczki,
Kiepsko robim dzieweczki,
    Szto vsio leto pjom,
    Jak u poli żniom.

Dobre, pamocz susiedu
Żać i sieści k abiedu;
    Da zły abyczaj,
    Wodki daj, da daj.

Za to vziavszy dziesiatku,
Nie patrapim u chatku,
    I v poli paśniom,
    Hdzie pjanyja żniom.

Lepsz uzialib dwatcatku,
Szli ćwierozy u chatku
    Na paścielcy spać,
    Boha niehniewać.

Zrób im za dziękuję,
    Nie wyjdź na pijaczka.
O to życiem tém i takiem,
Kowal będzie nie pijakiem.

## LXXV.

Oj wy młode mężateczki;
Ej nie pijcie gorzałeczki;
Nic brzydszego niewidano, niesłychano,
    Nad kobiétę pijaną.

A zobaczcie jakie oczy,
Jaki u niéj język smoczy;
Nic brzydszego nie widano, nie słychano,
    Na kobiétę pijaną.

Kiedy czarta poznać chcecie,
To ujrzycie w téj kobiecie;
Nic brzydszego nie widano, nie słychano,
    Nad kobiétę pijaną.

Boga w duszy, ani wstyda,
Nié ma w sobie ta ohyda;
Nic brzydszego nie widano, nie słychano,
    Nad kobiétę pijaną.

## LXXVI.

Zle robimy żoneczki,
Zle robimy dziéweczki,
    Cały czas pijemy,
    Kiedy w polu żniemy.

Dobrze, pomódz sąsiadu
Żąć i zasieść k obiadu;
    Lecz złą mamy modę,
    Wódkę lej jak wodę.

Za to s troszką zapłaty
Błądzim idąc do chaty,
    I w polu pośniemy,
    Gdzie pijane żniemy.

Lepiéj więcéj brać płaty
I trzeźwym iść do chaty
    S pracy wypoczywać,
    Boga me rozgniewać.

## LXXVII.

Szczebieczecie jak saroki
Podpierszy sie sabie v boki;
Sztob nie tolko lepietali,
Toby pevna bolsz nażali.

Jazyk siłu adnimaje,
Pocic ce, chto dovho baje;
Sztob u ruki siły boléj,
Kab jazykom nie małoli.

Oj pakińmy szczebietaci
I susiedki abmavlaci;
Barżdzej budziem żyto żali,
I piesieńku lepsz śpiewali.

## LXXVIII.

Płakała bieroza, da hawaryła:
Ciż u was na heto ja zasłużyła,
  Sztob wy mienie parubali
  I krov maju wysysali?

Ja wam pry darozie jak dzievcza staju,
Bieleńko prybrana na wiosku hledzu,
  I chto zimoju zabłudzić,
  To darożku pakażu.

Ja wam pry darozie jak dzievcza staju,
Wiesnoju wam kosy maje raspletu;
  I ptuszeczki tut spiewajuć,
  I ludzi miły cień majuć.

Za sztoż wy sieczecie mienie bez winy?
Sztob troszka napicce sałodzieńkoj krwi;
  Ja bez czasu usychaju,
  Szto krov maju wypuskaju.

Jena pa darozie ruczajom ciecze,
Nichto ni z harszoczkom brać jeje nie jdzie;
  Parubali s swajawoli,
  Cmoknuli-j niepjecie boléj.

Chłopcy, ej pakińcie hetu swawolu,
Da nie zadawajcie bierozce bolu;
  Bo ja usochnu, uwianu,
  Albo paskarżu sie panu.

## LXXVII.

Szczebioczecie jako sroki,
Sierpem się podparłszy w boki;
By językiem tak nie mleły,
Toby więcéj pewno zżęły.

Język się odejmuje,
Poci się, kto peroruje;
Szłoby do rąk więcej siły,
By się usta uciszyły.

Ej porzućmy szczebiotanie,
I sąsiadek obmawianie;
Raźniéj żyto żąć będziemy,
Piosnkę lepiéj zapiejemy.

## LXXVIII.

Płakała brzozka i tak mówiła:
Czyż u was na to jam zasłużyła,
Aby wy mnie podrąbali
I krew moję wysysali?

Ja wam przy drodze jak dziewczę stoję,
Patrząc na wioskę biało się stroję,
Gdy zimą wieja szturmuje,
Zbłąkanym drogę wskazuję.

Ja wam przy drodze jak dziéwczę stoję,
Wiosną warkocze rosplatam moje;
I ptaszek tu może śpiewać,
I człek cienia się spodziéwać.

Za cóż bez winy wy mnie zranili,
Żeby się trochę krwi méj napili?
Ja bez pory się ususzę,
Bo krew tracąc, więdnąć muszę.

Po drodze ona ruczajem ciecze,
Nikt się z garnuszkiem brać jej nie wlecze;
Rąbią s swawoli dziecięcéj,
Cmoknęli, nie piją więcéj.

Chłopcy, przestańcie takiéj swawoli,
Nie rańcie brzozki, bo to ją boli;
Ach ja zwiędę, uschnę wcalę,
Albo [się] panu ~~się~~ pożalę.

## LXXIX.

Kali v ziemlu zierno kiniesz,
Niesie tabie zioron sta;
Jak zaryjesz v ziemlu hroszy,
Hroszy tabie paješć rža.

Czamuż bahacz harszczok hroszy
V syru ziemlu zakapav?
Sztob pajeła rža czyrwoncy,
Harszczok hroszej sztob prapav.

Chto wiedaje, szto śmierć niesie,
Ci haraczka, ci pierun?
Jak nie skażesz, to nie najdzie
Hroszej twaich syn piestun.

Lepszby kupić soli, myła,
Narohov, sierpov i kos;
I sztob synok dla pradaży
Vsiudy pa siełach pawios.

Mievby i ty zarabotok,
Vsiob doma było u nas;
Nie żdalib my kwarty soli,
Nim projdzie żydom szabas.

Nie rżawieliby czyrwoncy,
Czort nie bravby ich v ziemli;
Nie byvby ty biedny z hroszmi,
Ni biedny bez hroszej my.

## LXXX.

Wywiedźcie żoneczki
S karczmy mużykov;
Waźmicie za rukav,
Skażycie: damov[1]!

Dzieteczki biez chleba
Płaczuć i kryczać;
Woliki rukajuć,
Awieczki myczać.

Konik pad karczmoju
Vvieś dzień staić;

[1] *Damov*, sposób mówienia naddźwiński; nad Niemnem tak nie powiedzą, lecz mówią: *da domu*, *da dom* (*заўвага Я. Чачота*).

## LXXIX.

Kiedy w ziemię ziarno rzucisz,
    Niesie tobie ziaren sta;
Jak zakopiesz w ziemię pieiądz,
    Pieniądz tobie przeje rdza.

Czemuż bogacz garnek złota
    Do surowej ziemi skrył?
Aby zjadła rdza dukaty,
    Aby skarb zatracon był.

Kto przeniknie, śmierć co zada:
    Piorun, czy gorączki znój?
Jak nie powiész, to nie najdzie
    Garnka z złotem synal twój.

Lepiéj kupić soli, mydła,
    Narogów, sierpów i kos;
Onby wożąc je po siołach
    Przywiózł tobie pełny trzos.

Miałbyś ty sam zarobotek,
    My domowy mając zbyt,
Nie czekali kwarty soli,
    Nim przeszabasuje żyd.

Nie rdzawiałyby dukaty,
    Ni panował im duch zły;
Tybyś nie był biedny z złotem,
    I bez złota biédni my.

## LXXX.

Żony wyprowadźcie
    S karczem swe mężule;
Weźcie ich za rękaw
    I powiedźcie czule:

Do dom, ach bez chleba
    Płaczą tam dziateczki;
I woliki ryczą,
    Beczę i owieczki.

Konik wedle karczmy
    Cały dzionek stoi;

вяртаючыся з поля ў вёску, сумна, тужліва спявалі жнейкі, і песня тады так жаласна гучала ў нашых душах, што з болем расстання, у страху перад невядомасцю будучыні мы слухалі яе, нібы пахавальную, і не маглі стрымаць гарачых, буйных слёз.

Адзінаццаць гадоў мінула з таго часу, і адзінаццаць разоў адна і тая ж кранальная мелодыя, далёкаму ад сваіх, гучала мне смуткам і жалобай, заўсёды абуджаючы ў сэрцы ўспамін пра той развітальны вечар! Ты быў шчаслівейшы, ты некалькі разоў за гэты час наведаў родныя мясціны, дык не можаш уявіць сабе гэтага смутку, гэтае тугі, як яе называе Лібельт[1], у якой дух напружвае ўсе свае сілы, каб трапіць у дарагі край, да любімых людзей, і, не ў стане несці за сабой цела, пачынае з ім жорсткую барацьбу, пакутлівую і марную для абодвух бакоў.

Гэтаму я навучыўся, набудаваў паветраных замкаў, пакутаваў, так часта аплакваючы іх пагібель... Гэта ты ведаеш і з маіх лістоў да цябе; і з маіх публікацый, у якіх Літва амаль заўсёды на першым месцы, і туга па ёй – натхненне, а скарга на туляцтва – самая частая фраза. Шмат хто, магчыма, няраз усміхаўся на гэтае дзіцячае галашэнне, шмат хто нудзіўся ці абураўся гэтым сталым лямантам, гэтым *плачам Ераміі*; бо калі цвяроза разважаць пра гэта, дык ці было пра што наракаць і плакаць? Ці правільна называць *чужынаю* брацкую правінцыю? Ці правільна было назваць сябе *тулягам*, *выгнаннікам*, пасяліўшыся, што праўда, не па жаданні, але добраахвотна, у прыгожым, багатым краі ўсяго за сто вёрст ад родных мясцін... Шчырая праўда: мае нараканні былі смешныя і грэшныя. Але прыгадай сабе, што наш селянін называе суседнюю вёску *чужынаю*, а дзіця гатовае заплакаць, адышоўшы некалькі сотняў крокаў ад свае страхі... ну вось, быў я прастачком, быў я дзіцём, мой мілы.

Я быў дзіцём, і голас маіх састарэлых бацькоў увесь час клікаў мяне, іхныя сэрцы, таксама як і маё, а можа, і больш, знуджаныя, чакалі ад мяне радасці і пацехі, якія я ім быў павінен, чакалі з бласлаўленнем, якое так патрэбна было маёй душы. Дык як было не тужыць? Шмат хто з сучасных падарожнікаў, якім дастаткова толькі захацець, абы як таму доктару *Фернамбукасу*, аб'ехаць свет уздоўж і ўпоперак, спыталіся б у мяне, чаму я не паклаў канец гэтаму смутку? Сто міль – гэта не край свету. Праўда, бо калі чарадзейная доля, адным на патрабаванне, як у казцы, *дае сямімільныя боты-скараходы* і *дываны-самалёты*, іншым, таксама, як у казцы, кіне на дарозе шчотку – і вырасце з яе непралазны гушчар, пакладзе грабянец – і ўздымуцца непраходныя горы, плюне – і шуміць мора без берагоў – ты выдатна ведаеш, мой добры брат, да якіх з шчаслiўцаў я належаў.

Але нарэшце моцная воля ўсё перамагла, і на пачатку ліпеня мінулага[2] года я выправіўся ў дарогу ў сваю любімую Літву... Што скажаш? Дзіўнае чалавечае сэрца, а можа, толькі адно маё выключна – ці стомленае доўгай барацьбой з нягодамі, ці няпэўнае, што чакае яго дома, адкуль даўно не

---

[1] Гаворка пра Карла Лібельта (1807–1875), прадстаўніка філасофіі месіянства, аўтара працы *O miłości ojczyzny* (1844).

[2] Відавочна, дадзены фрагмент тэксту напісаны ў 1857 г.

было вестак, ці яшчэ не верачы ў сваё шчасце, ці працятае смуткам развітання з сябрамі – дастаткова таго, што яно не адчула так сваю радасць, як гэтага хацела.

Я ехаў сумны, дакладней, як бы абыякавы, сам не разумеючы, што са мной дзеецца. Я выбраў дарогу на Астрог, Роўна, Пінск і Нясвіж, маючы намер вяртацца ўжо праз усход краю, праз Мазыр, Оўруч, Жытомір і Бярдычаў.

Да павятовага мястэчка Літына[1], што суседнічае з Валынню, я ехаў, як кажуць, як на заўтра трэба: спыняючыся па дарозе ў сваіх добрых сяброў па сардэчнае *памагай, Божа*.

У *Брагілаве*[2], яшчэ мястэчку Вінніцкага павета, дзе некалі быў прыгожы кляштар і касцёл кс. трынітарыяў, з цудатворнаю статуяй Пана Езуса, якую з дзясятак гадоў таму перанеслі ў невялічкую драўляную капліцу, куды кожны год на Тройцу сыходзяцца тлумы людзей з самых далёкіх краёў на адпуст, я шчыра памаліўся, просячы Збаўцу свету апекавацца маім падарожжам, і толькі ў Літыне сеў на *перакладных*[3] ды развітаўся з маім апошнім знаёмым з Падолля – маім фурманам.

Мне стала яшчэ больш сумна, яшчэ больш холадна... Такое пачуццё павінен быў зведаць, а верагодна, яго і да гэтага часу зазнае бедны пан Твардоўскі[4], знаходзячыся дзесьці паміж небам і зямлёй... Я б шмат аддаў, каб меў спадарожніка, які ці то не даваў бы мне думаць, ці то дазволіў бы мне цалкам займацца гэтым, узяўшы на сябе ўвесь цяжар разлікаў на станцыях, перакладання коней і рэчаў. З гэтым, праўда, было няшмат мітрэнгі, і вандроўка пачалася пад шчасліваю зоркаю, бо нават без *падарожнае*[5], якая служыць мне магла толькі ад Латычава[6], я меў коней на першую просьбу, аднак мяне ўсю дарогу непакоіла мая паклажа, якую трэба было сцерагчы, каб не стала нікому спакусай.

Калі я выехаў з Дзякаўкі, першае станцыі за Літынам, і мінаў прыдарожны гай, які прыцягнуў мой позірк сваёю свежаю зелянінаю і кветкамі, убачыў раптам, як з яго гушчару выйшаў старац. Ён, трымаючы ў адной руцэ распяцце, другой тройчы перажагнаў мяне, нібы блаславяючы маё падарожжа. Я зразумеў, што гэта жабрак, а гэты асаблівы спосаб прасіць міласціну захапіў мяне невымоўна. Я затрымаў коней, палез у гаманец, а дзядок, згорблены, сівы, як голуб, захапляючы дабрынёй і лагоднасцю, са спакойным, хоць і маршчыністым тварам, з удзячнаю ўсмешкаю на бледных вуснах і светла-блакітных вачах, прыняўшы пададзеную яму ахвяру, перажагнаўся і замест звычайнае жабрацкае малітвы *за памерлыя*

---

1 Павятовае мястэчка Падольскае губерні. Сёння: пасёлак Вінніцкае вобласці Украіны.

2 Сёння: пасёлак Браіліў Вінніцкае вобласці Украіны.

3 У Расейскай імперыі падарожнічалі “поштаю”, “на перакладных конях”, якіх трэба было мяняць (перакладваць) на паштовых станцыях.

4 Герой польскага фальклору і літаратуры; чараўнік, які прадаў сваю душу д’яблу.

5 Падарожнай называлі дакумент, які дазваляў карыстацца паштовымі коньмі.

6 Павятовае мястэчка Падольскае губерні. Сёння: пасёлак Лэтычыў Хмяльніцкае вобласці Украіны.

*душы, за бацьку, за маці*, пачаў *псалом пра апеку Божую*. Сэрца маё затрымцела, на вачах з'явіліся слёзы замілавання, бо ці магла ж быць больш узнёслая і больш адпаведная малітва за мяне, чым гэтыя ўрачыстыя словы.

Aniołom swoim każe cię pilnować,
Gdziekolwiek stąpisz oni cię piastować
Na ręku będą abyś idąc drogą
Na ostry kamień nie ugodził nogą[1].

Я з радасным пачуццём выслухаў усю песню, паўтараючы яе словы ў душы, паўтарыў ахвяраванне, а калі б мог, азалаціў бы добрага старца, і з лёгкім, хоць і расчуленым сэрцам рушыў у дарогу, дзякуючы Богу за гэты ясны доказ Ягонае апекі, за гэтае як бы з нябёсаў цудоўнае абяцанне, што Ён *будзе маім абаронцам і загадае сваім анёлам апекавацца мною.*

Латычаў, Мендзыбор[2], Заслаўе[3] і Астрог[4], такія цікавыя для мяне, толькі праляцелі перад маімі вачыма, вабячы і пацвяляючы выглядам сваіх касцёлаў і замкаў, велічных руінаў, але я з пакорай цярпеў гэтую прыкрасць і чыста асабістую страту, якая была толькі неспатоленым жаданнем *аглядаць*, бо ўрэшце сам ні табе, ні публіцы нічога новага не сказаў бы: Крашэўскі і Пшаздзецкі ў сваіх *Podróżach*[5], Балінскі і Ліпінскі ў *Starożytnej Polsce*[6] даўно апісалі тое, што вартае ўвагі ў гэтых гарадах.

У Мендзыборы, ператвораным сёння ў *вайсковы пасёлак*, я бачыў толькі шмат сіметрыі і чысціні ў мураваных сялянскіх пабудовах, выцягнутых пад шнур. Кожная з садам, з вазонамі на вокнах, з зялёнымі аканіцамі, і ўсе яны так падобныя адна на адну, што лёгка можна было б памыліцца, і замест свайго зайсці, заблудзіўшыся, у чужы дом. Тут я меў прыклад таго, як мястэчка дэмаралізуе нашага селяніна. Выпала мне наймаць коней. Бо ад Мендзыбора да Старакантанцінава[7] паштовым шляхам у два разы даражэй, чым прыватным, і звычайна падарожнікі пакідаюць тут дзяржаўную пошту і звяртаюцца да жыдоў-*балаголаў*, якія адмыслова ўтрымліваюць гэтак званую *земскую пошту*. Я трапіў у кепскую пару, бо, як зразумеў, усіх балаголаўскіх коней ужо пабралі, а мяне пакінулі на літасць нейкага каваля, які, мусіць, быў надзвычай спрытны, бо за сорак вёрст на трох коніках ён прасіў з мяне пяць рублёў срэбрам. Ледзь-ледзь давёз ён мяне ў суседнюю вёску вёрст за дванаццаць і цвёрда заявіў, што далей ягоныя коні не змогуць і што трэба знайсці замену. Дык, пакінуўшы мяне

---

1 Страфа з 91 псалму з *Psałterzu Dawidowego* (1579), паэтычнае парафразы Яна Каханоўскага біблейскага *Псалтыра*.

2 Сёння: Мэджыбіж – пасёлак у Лэтычыўскім раёне Хмяльніцкае вобласці Украіны.

3 Сёння: горад Ізяслаў Хмяльніцкае вобласці Украіны.

4 Павятовы горад Валынскае губерні. Сёння: раённы цэнтар Ровенскае вобласці Украіны.

5 Гаворка пра творы вядомага літаратара Юзафа Ігнацы Крашэўскага (1812–1887) і гісторыка ды літаратара Аляксандра Пшаздзецкага (1814–1871).

6 Гаворка пра працы гісторыкаў Міхала Балінскага (1794–1864) і Тыматэўша Ліпінскага (1797–1856).

7 Сёння: горад Хмяльніцкае вобласці Украіны.

з фурманкай на вуліцы, хадзіў ён ад хаціны да хаціны, шукаючы добраахвотніка. Цяжка яму давялося, бо была ўжо ноч, і кожны лічыў за лепшае застацца дома. Нарэшце знайшоўся нейкі пачцівы чалавек, які пасля доўгіх цырымоній забраў мяне з маімі рэчамі і павёз далей чатырма выдатнымі муламі, і, як я даведаўся, узяў толькі 8 злотых[1] за 28 вёрст, калі кавалю засталося 25 за 12 вёрст. Небарака, даведаўшыся пра гэта ад мяне, пачухаў патыліцу і, уздыхаючы, сказаў: "Каб ведаў, узяў бы хоць паўтара рубля!" Большага і жадаць не мог.

За Астрогам, у Гульчы[2], праслаўленай камедыяй Кажанёўскага[3], я меў найгоршы начлег, бо не было паштовых коней, якіх, апрача мяне, чакала некалькі падарожных. З жудасным галаўным болем, цешачыся асобнаму пакою, ледзь паспеў прылегчы на цвёрдай канапе, як затуркатала *перакладная*, заенчыў прарэзлівы звон. «*Лошадей*» – прагрымелі два гучныя галасы, і паштовы пісар спакойна адчыніў прыезджым дзверы майго пакою, абвясціў, што ёсць самавар і ўтульны пакой, а коні будуць заўтра. Забразгалі шаблі ды шпоры і два ваякі ўскочылі ў памяшканне, спрабуючы яшчэ патрабаваць і пагражаць, але калі нават паперы не дапамаглі, яны пагадзіліся на начлег, а неўзабаве магутны храп дапоўніў асалоду майго побыту ў Гульчы. Дык падхапіўшыся на досвітку пасля бяссоннае ночы, я пакінуў свой багаж пад вартаю *рыцарскага гонару* і пайшоў паглядзець на прыгожую капліцу ў скалістым гроце ля крыніцы, што б'е з ягонае сцяны і якой мясцовыя людзі прыпісваюць цудадзейныя ўласцівасці. Верачы, як просты люд, я крыху памаліўся і набраў цудадзейнае вады, і мне здалося, што я сапраўды асвяжыўся і ўмацаваўся не толькі целам, але і духам... Бо чаму б і не так? Як у сажалцы Віфсаіды[4], так, магчыма, і ў тых славутых мінеральных крыніцах, а не адной нашай, анёлы Божыя, кранаючы воды, надзяляюць іх гаючымі сіламі; а мы, забыўшыся пра першапрычыну, аналізуем іх хімічны склад і знаходзім толькі серу, жалеза і г. д., а зазнаўшы цудоўныя вынікі, не хочам прызнаваць цуд. Пазней я даведаўся, што ў гаі над гэтым гротам ёсць выдатны скіт, сцены якога, абабітыя галінамі і карой старых дрэваў, паказваюць фантастычныя постаці дзікіх жывёл, казуль, аленяў і г. д. Шкада, што я не пабачыў яго, хоць бы толькі дзеля незлічоных надпісаў, пакінутых там цікаўнымі падарожнікамі.

Не дачакаўшыся паштовых коней, я, прынамсі, цешыўся, што атрымаў хоць пару канякаў і ўбогую брычку, у якой, не баючыся людскіх насмешак, губляючы па дарозе паклажу і нават колы, давалокся да Роўна, а адтуль – жыдоўскаю поштаю ў Шпанава[5].

---

[1] Аўтар падае кошт у злотых, хоць яны ўжо не выкарыстоўваліся, лічачы па 15 капеек за 1 злоты.

[2] Шляхецкая вёска з драўляным палацам у Валынскай губерні. Сёння: Гільча Пэрша – вёска Ровенскае вобласці Украіны.

[3] Гаворка пра Юзафа Кажанёўскага (1797–1863), вядомага пісьменніка і драматурга.

[4] Месца, дзе Езус цудоўным чынам насыціў люд пяццю хлябамі і дзвюма рыбамі.

[5] Вёска ў Ровенскім павеце Валынскае губерні. Сёння: в. Шпаніў Ровенскага раёна Ровенскае вобласці Украіны.

[2]

Шпанаў Радзівілаўскі апісаны таксама ў Пшаздзецкага, але сёння ў Шпанаве няма таго, што ёсць у апісанні; бо ад цудоўнага, прыгожага палаца, які згарэў некалькі гадоў таму, засталіся толькі сумныя руіны; сумныя і тым сумнейшыя, што яны свежыя, што на іх не відаць доўгае працы часу, таго паэта-архітэктара, які так велічна ўзнёс помнікі з руінаў царквы ў Астрогу, замка і касцёлаў Заслаўскіх. Тут муры ўзвышаюцца не як руіны, а як нейкі гмах, спустошаны яшчэ да завяршэння будовы, на якім да таго як паставілі дах, вырасла пустазелле і дзікі хмызняк, а бусел звіў гняздо. Апрача таго, нібы для ўзмацнення эфекту, вакол усё квітнее жыццём і красою, па жалезных арачных галерэях віюцца прыгожыя бружмель і кірказон, дзядзінец, упрыгожаны кветкавымі клубамі, поўны шуму і руху. Сама княская сям'я сёння месціцца ў афіцыне, маленькай у параўнанні з палацам, але падобнай на сапраўдны палац, дзе ўсё, звонку і ўнутры, ужо поўнае не бляску, а ладу і зграбнасці. Тут я ўпершыню ўбачыў карціны Сухадольскага[1], а таксама акварэлі Косака, Кастшэўскага і Міхалоўскага[2], якія мне вельмі спадабаліся, асабліва чацвёрка коней апошняга.

Палац аточаны вялізным ангельскім садам, дзе некаторыя дрэвы сапраўды разрасліся, як волаты, і нават ядлоўцы на пню дасягнулі памераў шматгадовых лістоўніц. Гэты сад палучаецца з велізарным лугам, роўным і чыстым, як найпрыгажэйшы газон; іх перацінае рака, дадаючы ім зграбнасці і жыцця.

Варты тут таксама ўвагі і парк, ці то звярынец, альбо проста – гай за некалькі вёрст ад Шпанава, які раскінуўся на невялікіх пагорках, круглых і прыгожых, нібы насыпаных знарок для эфекту, краем якіх пракладзена дарога з такім майстэрствам і густам, што альбо ў самым лесе ў больш прыгожыя мясціны заводзіць, альбо кожны раз адкрывае новы від на маляўнічыя наваколлі. Пасярод гэтага гаю стаіць прыгожы швейцарскі дом, з галерэі якога яшчэ шырэйшы адкрываецца краявід, прыгожа аздоблены Роўнам, Шпанавам і навакольнымі фальваркамі.

А гэтыя фальваркі – сапраўдныя цацкі, такія зграбныя, чыстыя, упарадкаваныя, кожны размешчаны пасярод сваіх ніваў, якія ў той час красавалі розным збожжам і кармавымі раслінамі, пра якія я не толькі не меў ані найменшага ўяўлення, але нават не ведаў іх назваў. Бо трэба ведаць, што ў маёнтку Шпанава яшчэ бацька сённяшняга гаспадара, князь Міхал Радзівіл, увёў севазварот, уладкаванне якога даручыў знаным прускім аграномам Тэеру і Д'эспанэ, ды не шкадуючы невымерных выдаткаў і шматгадовае працы, прывёў яго ў цудоўны стан. Але пасля яго смерці ўсё гэта неяк развалілася, дык сыну прыйшлося пачынаць нанова, і некалькі гадоў напружанае працы толькі сёння пачынаюць прыносіць плён. Апрача севазвароту, варта згадаць аўчарні: тут адны з самых знаных у краі; яны даюць воўну самае высокае якасці.

---

[1] Гаворка пра мастака Януары Сухадольскага (1797–1875), які паходзіў з Гродна.

[2] Гаворка пра вядомых тагачасных мастакоў Юліюша Косака (1824–1899), Францішка Касташэўскага (1826–1911) і Пётра Міхалоўскага (1800–1855).

Кіруючыся ад Шпанава на Клевань[1], я рушыў у бок Палесся на Пінск, выехаў на пяскі між маіх любімых хвояў, якія ўпершыню ў вандроўцы спаткаў паміж Заслаўем і Астрогам, вітаючы з тужлівай і невыказнай радасцю іх сур'ёзны, сумны гоман, які мне так чароўна нагадваў пра родную старонку і шчаслівыя гады дзяцінства. Але там яны яшчэ змешваліся з алешнікам, рабінай і іншымі лісцянымі дрэвамі і, знікшы ў Астрогу, толькі тут зноў з'явіліся і суцэльнай чарадой ішлі абапал мае дарогі, суправаджаючы мяне амаль бесперапынна аж да Нясвіжа, бо няраз цягам некалькіх міляў адкрытага месца было столькі, колькі займала паштовая станцыя, а рэшта – скрозь пушча і пушча, хіба балота ці пясчаная выдма дадавалі разнастайнасці: ні лугу, ні поля, дзікая, сумная і, нарэшце, нават нудная.

Нудная... не ў такой ступені, аднак, як некаторыя перабольшана кажуць нам пра гэта. Для нелянівага розуму тут знойдуцца прыемныя і займальныя забавы. Я, прынамсі, меў незвычайную, назіраючы, як адзін край паступова пераходзіць у іншы. Праехаўшы Падолле, Валынь, Палессе і Літву, хоць толькі ў адным кірунку, і пабачыўшы столькі, колькі можна ахапіць вокам з паштовае дарогі, я меў надзвычай цікавыя назіранні ў гэтым плане, і я вельмі шкадую, што не натаваў тое, што ва ўсім можна было заўважыць: у тыпах грунту, у фізіяноміі, у строях і мове люду, у іхніх хацінах, у спосабе гаспадарання, у працы, ежы, забавах ды песнях, і, нарэшце, у паступовым знікненні адных і з'яўленні іншых гатункаў дрэваў, хмызоў і ўсялякіх раслін.

Найбольш заўважная знешняя прыкмета пераходу ад Валыні да Палесся – спосаб забудовы і ўтрымання вёсак, якія становяцца ўсё больш сумныя, усё больш змрочныя, усё менш садоў, усё больш чорных хацін, усё больш *пераплотаў і асецяў*, а разам з гэтым і людзі становяцца ўсё больш бедныя, закопчаныя ў курных халупах, у лапцях на нагах і з каўтунамі на галовах. Але дарэмна я хацеў бы даць табе нейкае ўяўленне, нават у самым доўгім лісце, пра тое, на што патрэбна цэлая кніга. Увогуле, скажу табе толькі, што самы зграбны выгляд мае не Падолле, як ты б падумаў, але прылеглая да яго частка Валыні. Трохі менш маляўнічая ў плане прыроды, не такая фантастычная, не такая разнастайная, – лепшая за Падолле ў плане ладу і гаспадарлівасці. І тракт, і паштовыя станцыі, і вёскі, і маёнткі, і мястэчкі, і нават прыдарожныя корчмы выглядаюць тут неяк больш прыстойна, бо на Падоллі ўсё гэта пераважна занядбанае, спустошанае, нібы яшчэ не ачунялае пасля татарскіх набегаў і гайдамаччыны.

Паміж Роўнам і Пінскам знаходзіцца паштовая станцыя Аконск[2], дзе маецца знакамітая *безодня*[3], жывая крыніца, пра якую ты, напэўна, чытаў у Крашэўскага, а можа, і цікавы артыкул Пшыбыльскага[4] ў „Gazecie War-

---

[1] Мястэчка ў Ровенскім павеце Валынскае губерні. Сёння: пасёлак Клевань Ровенскага раёна Ровенскае вобласці Украіны.

[2] Сёння: вёска ў Валынскай вобласці Украіны.

[3] Прорва.

[4] Гаворка пра літаратара, карэспандэнта „Kuriera Wileńskiego", удзельніка вызваленчага руху Вацлава Пшыбыльскага (1828–1872).

szawskiej", ці нядаўна – Канапацкага ў „Codziennej". Падобная яна на невялікую сажалку (можа, трыста крокаў у акружнасці), якая ляжыць непадалёк ад тракту і аточаная густым частаколам і невялікім насыпам, з вадой чыстай, як крышталь, з бачным пясчаным дном, звужаная, як лейка, да цэнтра, дакладней, крыху да аднаго з берагоў, дзе нават той, хто не ведае пра гэта, інстынктам угадвае бяздонную прорву па тым страшным, цёмным, таямнічым блакіце, які ззяе нейкаю трывогаю ды пагрозаю. Выток гэтае крыніцы, вузкі і неглыбокі, без запруды, плынь спадае на колы млына, услед за якім стаяць пяць наступных і ўсе прыводзяцца ў рух той самай вадой, якая ў галоўным вадаёме ніколі не спускаецца ні на адну цалю, толькі часам бурліць і кіпіць, як у пякельным катле.

Просталюдзіны сцвярджаюць, што так бывае тады, калі ёй штонебудзь *не спадабаецца*: аднойчы пакрыўдзілася за ўкінутыя ў яе косці свянцонага парасяці і навяла немалы страх і клопат на дзедзіча, які ледзьледзь утрымаў яе на месцы – як толькі не ўцякла. А баяцца сапраўды было чаго, бо, як кажуць у народзе, аднойчы пасваволіла ў волю. Раней яна ляжала за некалькі вёрст адсюль, але – калі пастух паіў у ёй статак, пакрыўджаная такой знявагай, праглынула дзве ці тры каровы і праз кароткі час знікла да кроплі – сышла пад зямлёй туды, дзе знаходзіцца сёння. І вельмі магчыма, што жывёла, патануўшы, сваім цяжарам перакрыла вусце вадаёма, і вымусіла ваду зрабіць яго ў іншым месцы. Не буду табе паўтараць гісторыю пра таго шчупака, якога выпусцілі тут з срэбраным кольцам і які трапіў на кручок ці ў сетку недзе за дзвесце ці болей міляў, праплыўшы падземным ходам з гэтае *безодні*, дзе нават маточак утрымацца не можа. Скажу толькі, што такая крыніца ў бязводнай ваколіцы была б сапраўдным скарбам, бо дастаткова падняць яе ваду толькі на некалькі локцяў вышэй, каб мець да паслуг бязмерную і няспынную сілу, але тут гэтага дабра больш, чым дастаткова.

За некалькі вёрст ад Пінска я крыху збочыў з дарогі, каб абняць добрага знаёмага, таварыша мае колішняе тугі з Падолля да Літвы. Гасціну ў яго занатоўваю тут як, па-першае, адно з самых прыемных уражанняў майго падарожжа, а па-другое, як тое, што дадае маім успамінам сапраўднае адметнасці. Уяві сабе, гэты пачцівы ліцвін, а нават паляшук душой і целам, заўзяты паляўнічы, некалькі гадоў свайго знаходжання на Падоллі толькі і марыў ды гаварыў пра неабсяжныя ліцвінскія пушчы, пра поўныя дзічыны нетры, пра вечны агонь на прыпечку і пра падобныя цікавосткі; а самае запаветнае ягонае жаданне – пажыць хоць некалькі гадоў у такой ваколіцы, якая магла б даць ліцвінскай душы гэтыя ўцехі. І трэба ж яму такога шчасця, што нарэшце асеў у такім кутку, дзе засталася толькі на насенне некалькі хвояў з даўнейшых цудоўных бароў, якія, дзякуючы лёгкай воднай камунікацыі, паплылі некуды на край свету; і ён знайшоў такі куток на Піншчыне. Але, здаецца, такое вынішчэнне будаўнічага дрэва пры суднаходных рэках не дзіва. Чаго не купляць, таго не шкадаваць: а што, калі нам за гэта добра заплацяць? Усё адно, што ў старасці не будзе чым сагрэць застыглага цела, што, можа, не стане дошкі на труну для бацькі, а сын не знойдзе нават дубца на кіёк, з якім бы пайшоў у свет; за

брусы, дзёгаць, паташ, клёпкі добра плацяць, гэта праўда, але ж варта і пра сябе памятаць ды, бадай, адно дрэва на хатнія патрэбы зберагчы, хоць на *клёпку*[1]… Але хопіць... Едзем у Пінск.

Сумленна табе прызнаюся, што ў мяне было зусім іншае ўяўленне пра гэтае мястэчка, пра гэту сталіцу царства ўюноў і пінчукоў ды пра яго наваколле. Дык я быў прыемна здзіўлены, пазнаўшы край урадлівы, шчыры і ўсмешлівы, а сам горад, хоць і драўляны ды чорны, аднак прыстойны, поўны руху і гоману, ажыўлены знаным портам, дзе адначасова знаходзіцца некалькі сотняў берлінак[2], якія за соль і збожжа бяруць тут смалу, рыбу, пяньку і г. д. Гэты гандлёвы пункт надзвычай важны, бо мае камунікацыю з двума морамі, з поўначчу і поўднем нашага краю, якія славяцца адрознымі пладамі. Не маючы магчымасці падчас майго кароткага знаходжання ў Пінску сабраць дакладныя звесткі аб яго гандлі, я заахвочваў мясцовых абывацеляў заняцца гэтай тэмай і з дапамогай газет пазнаёміць шырокую грамадскасць. Лепш за ўсё гэта мог бы зрабіць шаноўны ксёндз Машынскі, які мае нават старанна сабраныя матэрыялы па гісторыі гэтага горада. Імя ксяндза Машынскага, калісь рэктара семінарыі піяраў у Любяшове[3], напэўна табе даўно вядома як перакладчыка лацінскіх класікаў, аўтара прыгожых прамоў і казанняў, супрацоўніка „Wizerunków naukowych” і „Athenaeum”, нарэшце, рэдактара (калі не памыляюся), дзіцячых калядак і г. д.[4]. Лічу сваё знаёмства з ім вельмі пачэсным і прыемным, а ўспамін пра некалькі гадзінаў размоваў, праведзеных у ягонай хаце, – адным з жомчугаў свае вандроўнае скарбонкі[5].

Я пабачыў цудоўныя чорна-белыя пейзажы Губеля[6], знанага мастака, сілезца, 1722 года нараджэння, на якога, нібыта, па дарозе ў Пецярбург, у ваколіцах Зэльвы напалі разбойнікі, дык ён, шчасліва вызваліўшся з іх рук, прысягнуў Богу, што ў першым кляштары, які ў сваім падарожжы напаткае, прыме манаскі пострыг. Ён апынуўся ў гэтак званай рэзідэнцыі піяраў у Зэльве, дзе стаў манахам (1748), і быў накіраваны ў Любяшоўскі навіцыят, дзе заставаўся да самае смерці, увекавечыўшы сваё імя прыгожымі фрэскамі, якімі аздобіў мясцовы касцёл. Ксёндз Машынскі апублікаваў у „Wizerunkach naukowych” ягоную цікавую біяграфію, да якое, калі цікава, адсылаю цябе па падрабязнасці; зрэшты, усё гэта напэўна знойдзеш

---

[1] Маецца на ўвазе фразеалагізм *клёпкі ў галаве не стае*.

[2] Крытае рачное судна.

[3] Любяшоў – цэнтр воласці Пінскага павета Мінскае губерні. Сёння: Любэшы́ў – адміністрацыйны цэнтр Любэшыўскага раёна Валынскае вобласці Украіны.

[4] Антоні Машынскі (1800–1893) перакладаў творы Гарацыя, выдаў *Kolędę dla dzieci* (1836–1841) у чатырох тамах і інш.

[5] “Ксёндз Антоні Машынскі, экс-піяр, сёння мінскі кафедральны канонік і пінскі пробашч, два тыдні ў ліпені г. г. гасціў у Варшаве і адведваў Чэнстахову. Мае выдатную і каштоўную бібліятэку, асабліва багатую польскімі кнігамі”. *J. B.* (*Заўвага Юльяна Барташэвіча, рэдактара газеты „Kronika wiadomości krajowych i zagranicznych”*).

[6] Гаворка пра мастака Караля Губеля (1722–1793).

у слоўніку польскіх мастакоў Раставецкага[1]. Цікавай інфармацыяй пра *лабураў* я таксама абавязаны ксяндзу Машынскаму. Я ўпэўнены, што ты ніколі не чуў гэтага слова і не ведаеш, што яно азначае?

І дарэмна я спрабаваў бы даць табе яго этымалогію; можа, гэта сапсаванае лацінскае *labor*? Дастаткова сказаць, што гэта шляхта з мястэчка Янава[2] на Піншчыне, якая ўся займаецца квестаю для касцёлаў, якія маюць у гэтым патрэбу; а дзейнічае яна так: адразу плацяць мясцоваму пробашчу 40 срэбных рублёў за квестарскую кнігу з умоваю, што тое, што яны збяруць, стане іхнаю ўласнасцю, а выйграюць яны ці страцяць – не мае значэння. Звычайна такія кнігі выдаюцца толькі на адзін год з той умоваю, што можна іх ужываць толькі ў мясцовай дыяцэзіі, і пры выкананні гэтых правілаў *лабуры* былі б вялікай дапамогай для бедных парафій, але часцей за ўсё бывае інакш. З пабожных квестараў яны перамяніліся ў вычварных спекулянтаў, едуць у самыя аддаленыя правінцыі і часта вандруюць некалькі гадоў з адною кнігаю, злоўжываючы вераю пабожных і пачэсным імем парафіяльнага святара. Нядаўна гэтае злоўжыванне было выяўлена, і ўрад загадаў шукаць і затрымліваць гэтых іхмосцяў. Варта было б ведаць пачатак гэтае цікавае справы.

Але вяртаюся ў горад. Які б гэта не быў цэнтр гандлёвых шляхоў, якія б тут аграмадныя капіталы не былі ў абароце, відаць, няшмат з яго застаецца тут, бо пінскія купцы зусім не вылучаюцца вялікаю раскошаю. А можа, гэта вынік звычайнага ў Літве кансерватызму, захоўвання традыцый у звычаях і звычках; дастаткова сказаць, што калі на Падоллі ў кожным мястэчку, кожны купчык перамяняецца ў *пурыца*[3], не толькі здымаючы пантофлі і ярмолку, але нават падстрыгаючы пэйсы і бароды, а багацейшыя ў атласы і аксаміты, і одэрскія чапцы, і капелюшы строяць свае Соркі і Рахелі, узбіўшыся на магнацкую раскошу; у Пінску я бачыў аднаго першакласнага, ды яшчэ і маладога купца, які не скінуў з сябе ні ярмолкі, ні каптана і вельмі прыгожа выглядаў з чорнаю сваёю барадою і кучаравымі пэйсамі. А калі б ты чуў, як хораша, як разумна ён гаварыў пра сваю рэлігію, як не было ў тым ані фанатызму, ані вальнадумства, дык, напэўна, хутчэй бы яго ўшанаваў у ягоным свойскім *лапсярдаку*, чым тых цывілізаваных негацыянтаў, што ад свайго адмовіліся, а да чужога не прысталі, і не ведаюць іншага Бога, апрача свайго залатога цяляці.

У Пінску я пазнаёміўся таксама з некалькімі мясцовымі жыхарамі, вельмі прыемнымі людзьмі, пачцівымі, якія добра ведаюць патрэбы часу і свае абавязкі. Бачыў у іх свежыя, толькі з пошты, амаль усе краёвыя штотыднёвікі і колькі новых кніг; клопатамі аднаго з тых паноў, а дакладней – пры яго падтрымцы ўзнікла кнігарня і чытальня з абанементам. І гэта яшчэ не ўсё: тут у карчме я нават заўважыў „Kronikę Warszawską”. Ці ж гэта

---

[1] Гаворка пра калекцыянера і мецэната Эдварда Раставецкага (1804–1874) і ягоны *Słownik malarzy polskich tudzież obcych w Polsce osiadłych lub czasowo w niej przebywających* (t. 1–3, 1850–1857).

[2] Да 1940 г. – Янаў. Сёння – Іванава, горад Брэсцкае вобласці.

[3] Жыдоўскі багатыр.

не дзіва? Ці ж шмат ёсць такіх павятовых мястэчак, у якіх карчмары выпісваюць для сваіх гасцей газеты? Прынамсі, у нас ані ў Магілёве, ані ў Ямполі гэтага няма; а нават і ў Камянцы[1] не пытай.

Але прыйшоў час пакінуць Пінск; ад'язджаючы, скажу табе толькі, што не ўся Піншчына выглядае так, як падмястовыя ваколіцы. Ёсць частка, якая завецца Зарэчча, дзе, як кажуць, свет дошкамі забіты, глухая, занядбаная, змрочная, пра якую слова ў слова можна паўтарыць за Полем[2]:

> Ziemia dżdżysta i uboga.
> W oczeretach oko ginie,
> A kraj nudny niby słota,
> Ani ruchu ani duchu,
> Woda stoi wiatr nie wieje...

Там то тыя грэблі, што плывуць, і тыя знакамітыя масткі; там то чаўнакі і шугалеі[3] замест вазоў; там, нарэшце, агмень даўніх звычаяў і звычак.

Прыклад такое мясцовасці быў у мяне некалькі міляў за Пінскам, і не магу апісаць табе, як балюча мне было на гэта глядзець. Не буду апавядаць пра аднастайнасць мясцовасці, дарую пясчаную дарогу і багну наўкола, ці нават чорныя, прапахлыя горкім дымам хаціны, але люд… як жа страшна выглядае люд: кабеты ў выпацканых сажаю кашулях і намётках, мужчыны з каўтунамі на галаве, перавязанай закопчанаю плахтаю, нібы хворыя, і ўсе такія няшчасныя, такія прыгнечаныя ды такія бедныя... Праўда, гэта і не дзіва: някепскага ўраджаю, якім цяпер былі аздобленыя палеткі, не бачылі на іх гадоў сем запар.

Пад Клецкам зноў край змяняецца, і так прываблівае і ўсміхацца, што аж душа радуецца, аж у памяці ўсплываюць прыгожыя наваколлі Валыні. З'яўляюцца невялікія ўзгоркі, хвоі радзеюць, і іх месца займаюць ліставыя дрэвы ўперамешку з ялінамі. Далягляд шырыцца, на ім паўстае ўсё больш вёсак і двароў, усё больш дадаецца жыцця і руху, асабліва каля *Сіняўкі*, прыгожай станцыі на *шашы*, што тут перасякае звычайны паштовы шлях.

Але досыць гэтых апісанняў. Упэўнены, нам з табой карціць трапіць у *Нясвіж*, праз які столькі разоў мы праязджалі ў студэнцкіх мундзірах са Слуцка і ў Слуцак. Здалёку заўважыўшы той касцёл *Свята-Міхайлаўскі*, ад якога пайшла славутая прыказка (адсунуўся, як святы Міхал ад Нясвіжа), я павітаў яго з такою сардэчнаю радасцю, як тыя шчаслівыя часы маленства, акунуўся ў мроі, забыўся пра ўвесь свет, і мне здалося, што я – хлапчук, еду са школы дадому на вакацыі. Я быў так зачараваны гэтым сапраўды родным паветрам, якім тут нарэшце пачаў дыхаць... Бо, сапраўды, спяшаўся на вакацыі пасля адзінаццацігадовага курсу ў школе жыцця... Шкада толькі, што я не вёз з сабою з гэтае школы аніводнае ўзнагароды, а нават аніякага пасведчання.

---

[1] Павятовыя гарадкі Падольскае губерні.
[2] Гаворка пра Вінцэнта Поля (1807–1872) і ягоную паэму *Pieśń o ziemi naszej* (1835).
[3] Вялікая лодка, зробленая з аднаго кавалка дрэва.

[III]

Праз Слуцкую браму, на якой, як і на Віленскай Вострай Браме, маецца каплічка з алтаром Найсвяцейшае Багародзіцы, я ўехаў у горад з дзіўна ўзрушаным і расчуленым сэрцам, з малітваю ў душы, у якой мімаволі азваліся словы Сыракомлі:

Boga rodzico ku litości łatwa,
Ty co źrenicą czuwasz nie zmrużoną,
W bramie na warcie aby twoja dziatwa,
Bezpiecznie spała pod twoją obroną!
O! strzeż tych świątyń w których syn twój słodki
Odbiera od nas ofiary codzienne,
I strzeż te domy te baszty kamienne,
Te rozwaliny – dawny gród Sierotki[1].

Нічога не змянілася з таго часу, калі мы тут праязджалі апошні раз. Усё па-даўняму.

Małe i liche miasto stoi w rozwalinie,
Tu i owdzie wśród gruzów nowy mur się błyszczy,
Tu i owdzie wieżyce, klasztory, świątynie,
Póki czas ich nie pozrze, burza nie poniszczy...[2]

Ці трэба табе казаць, з якім пяшчотным пачуццём вітаў я гэтыя муры, як мае заплаканыя вочы бліскавіцаю лёталі ад вежы да вежы, ад крыжа да крыжа? Ад Радзівілаўскага замка да фарнага касцёла, ад бернардзінскага кляштара да бенедыктынак і дамініканцаў, з трывожным клопатам, ці не знішчыў іх час, ці не зруйнавала іх бура? Ты лёгка зразумееш гэта, бо і табе дарагая гэтая мясціна – гэтая святая сталіца нашага роднага краю, гэтае апусцелае гняздо таго роду, з якім звязана столькі слаўных айчынных успамінаў. Яна табе дарагая і таму, што адыгрывае такую вялікую ролю ў жыцці нашага любімага Сыракомлі. Бо менавіта тут, у дамініканскіх школах, ён атрымаў першую адукацыю, правёў тут некалькі гадоў, знайшоў сабе спадарожніцу жыцця, а памяць аб сваім знаходжанні тут пакінуў у гісторыі гэтага горада і ў нясвіжскіх санетах, у якіх гаворыць пра гэта так:

Gdzie po dwuwiecznym gwarze, cisza uroczysta
Zaległa Radziwiłłowskich złotych sal obszary,
W murach co pamiętają byt świetny, byt stary,
Ja wlokłem dni powszednie biedny biuralista.
W starym blaszanym hełmie chowałem cygary,
A otrząsłszy zbutwiałe malowidła z pyłów,
Kiedy wiatr bił do okna zastawiałem szpary
Obrazami Ostrogskich, Sapiehów, Radziwiłłów!
W grobach, w gruzach, w gawędach i na starym płótnie.

[1] Апошні незавершаны санет У. Сыракомлі *Do Bogarodzicy w Słuckiej Bramie* з цыклу *Wspomnienie Nieświeża* (1844).

[2] Пачатковы катрэн санета У. Сыракомлі *Miasto* з цыклу *Wspomnienie Nieświeża* (1844).

Tylko przeszłość przelotem swój cień zostawiła,
Czytałem po tych cieniach bolejąc okrutnie,
Bom widział że ta przeszłość choć zmarła, nadgniła,
Jeszcze przy naszym wieku wyglądała butnie,
Jak wśród wioski nędzarzów rycerska mogiła[1].

З такімі мроямі і ўспамінамі я спыніўся на паштовай станцыі, дзе на мяне адразу зваліліся дзве крайнасці – нэндза і раскоша, незлічоны натоўп жабракоў у самым жахлівым стане, рознага веку і веравызнання, і зграя гандляроў з прадметамі раскошы, з цукрам і печывам, такім белым, якое рэдка сустрэнеш і на пшанічным Падоллі. Калі нехта наўмысна хацеў паказаць мне найвялікшы кантраст бяды і раскошы, ён не мог прыдумаць нічога лепшага, чым гэты чыста выпадковы збег: вось цудоўнае адзенне і бразготкі, там лахманы, якія разлазяцца на худых плячах, тут цудоўныя далікатэсы, там схуднелыя і дрыготкія рукі, выцягнутыя з плачам і енкам хоць бы па акраец чорнага сухара. Нідзе пасля гэтага я не сустракаў такога натоўпу жабракоў; раней толькі ў Пінску было ў мяне нешта падобнае, бо калі я, стоячы на ганку карчмы, дастаў гаманец, каб дапамагчы ўбогаму, які працягнуў да мяне руку, – у імгненне вока ўвесь дзядзінец напоўніўся жабракамі, нібы іх нейкім заклёнам выклікалі з-пад зямлі.

З Нясвіжа дарогу ў бок Мінска я выбраў праз Свержань; за ім пераехаў праз Нёман, праз любімы Нёман, які за некалькі міляў адгэтуль атачае наш наймілейшы астравок з Жукавым Барком[2]! Што б я даў, калі б мог хоць бы на хвілінку зазірнуць туды, памаліцца ў капліцы, дзе гучалі мае найчысцейшыя малітвы, знайсці мілых таварышаў дзіцячых забаваў і свавольстваў, пагутарыць з імі пра старыя добрыя часы; увайсці ў тую благаславёную хаціну, пад дахам якое прайшоў ціхамірны, чароўны досвітак нашага жыцця, і з пашанай ды любоўю пацалаваць яе парог, як невычэрпную скарбніцу ўспамінаў, і, нарэшце, напіцца тае жаданае нёманскае вады, пра якую так доўга марыла зсумаванае сэрца, нібы аб казачнай вадзе вечнага жыцця і волатавых сіл. Што б я даў за тое, каб адсюль памчаць яшчэ і ў Залучча, дзе мы калісь з Сыракомлем так часта размаўлялі ў доме яго годных бацькоў! Усё! Усё, апрача часу, бо пасля адзінаццаці гадоў расстання, спяшаючыся да сям'і, грэх было б змарнаваць хоць некалькі гадзін, а тут, можа, некалькімі днямі трэба было б ахвяраваць! Так я паехаў у стане летуценным і сумным, доўга азіраючыся туды, уніз, на Нёман, на Жукавы Барок, з дзіцячай надзеяй, што змагу яго ўбачыць. Дарэмна, на жаль; толькі слязою ўшанаваў яго памяць, здалёку паражагнаў і хвалям Нёмана аддаў для яго сардэчнае блаславенне. Хто жыве там сёння, няхай яму будзе столькі шчасця наяве, колькі я адчуваю яго ў памяці пра мінулыя там дні.

І прыгадалася мне мая гутарка пра Жукаў Барок, якою я адказваў Сыракомлю на прыпісаную нам гутарку пра ягоны стары дамок, і ўспомніўся ягоны адказ на яе, якога ты не ведаеш, бо ён не друкаваўся:

---

[1] Першы санет У. Сыракомлі *Wspomnienie* з цыклу *Wspomnienie Nieświeża* (1844).
[2] Сядзіба Пяткевічаў. Сёння: вёска ў Стаўбцоўскім раёне Мінскае вобласці.

Ha bracie, my dziwaki ronić jęk żałośny, sosny,
Do piaszczystych odsypów, do borowej
Na kwitnącem Podolu widząc łany żyzne,
Wspominać z biciem serca Niemnową dziczyznę;
Przekładać nad bogate złociste salony,
Domek mchem zaropiały i gliną lepiony!
Te myśli – to dzieciństwo, te chatki – szałasze,
Ale tam ziemia nasza tara powietrze nasze,
Tam skarb i serce nasze!.. Nadaremnie jęczym,
Wyziębły już uczucia nam w sercu młodzienczem,
Bajki to mój Adamie! Komu palą głowę,
Komu grają na duszy wspomnienia domowe.
Kto im łzę rozczulenia posyła z daleka,
Ten jeszcze nie obumarł, jeszcze się doczeka;
Jak przezeń kraj rodzinny zasłynie rozgłośnie,
I korzyści otrzyma i w chwałę urośnie.
Tyś wspomniał, jam zapłakał łzami gorącemi,
Ródź Bóg takie wspomnienia w nad niemeńskiej ziemi!
Niech się w nas czas od czasu pamiątka ożywi,
Gdyśmy byli młodzieńcy marzący, szczęśliwi,
Niech nam czasem przypomną pamiątki kochane
Marzenia nie ziszczone, a szczęście rozwiane.
Przykro wspomnieć to prawda, lecz pamiątka młoda
Serce nam rozpłomienia i dzielności doda.

І яшчэ далей:

Choć dzisiaj tych okolic ludzie nie ciekawi,
Lecz jeżeli to prawda co nam muza prawi,
Odżyją te piaszczyska, te bory, ta rzeka,
Ta wioska nadniemnowa i ten skromny dworek,
I ciekawy przychodzeń zjawi się zdaleka,
By zobaczyć Załucze i Żukowy-Borek.

Дзевяць гадоў прайшло з тых дзіцячых напаўгуллівых мараў. У той час Сыракомля быў вядомы адно як перакладнік Яніцкага[1] і аўтар некалькіх вершаў, надрукаваных у „Roczniku Literackim” і ў „Athenaeum”[2], дзевяць гадоў – гэта наўрад ці так шмат, а падлічым жа плён яго таленту, вымераем жа шлях ад першых гутарак да *Dęboroga*, *Margiera*, *Chatki w lesie* і *Starych wrót*[3]. Ці не па-прароцку ён сказаў пра сябе:

Że przezeń kraj rodzinny zasłynie rozgłośnie,
I korzyści otrzyma i w chwałę urośnie,
Że odżyją te piaski, te bory, ta rzeka,
I ciekawy przechodzeń zjawi się zdaleka,
By obaczyć Załucze?

---

[1] Гаворка пра пераклады У. Сыракомлі твораў Клеменса Яніцкага (1516–1543) *Poemata Klemensa Janickiego* (Wilno 1848).

[2] Маецца на ўвазе альманах Р. Падбярэскага „Rocznik Literacki” і часопіс Ю.І. Крашэўскага „Athenaeum”, дзе друкаваліся першыя вершы У. Сыракомлі.

[3] Творы У. Сыракомлі, напісаныя ў першай палове 1850-х гг.

На жаль, убачыць яго не ўдалося, бо так пільна трэба было ехаць у Завішын[1], дзе ўжо два месяцы чакалі мяне бацькі… За адзін дзень з Сіняўкі я даволі рана прыехаў у Мінск і далей бы пакіраваўся, каб мяне не затрымала поўная адсутнасць коней на пошце. Хацеў я ці не хацеў, а давялося начаваць, бо ў пятнічны вечар нельга было наняць фурманку ў жыдоў.

Назаўтра, устаўшы на досвітку і ўжо не думаючы пра тое, каб паглядзець на прыгожы горад і пашукаць вядомых мне мясцовых літаратараў, выпрасіўшы коней у сонных *ямшчыкоў*, я выправіўся ў Радашковічы, якія на маёй карце і тракце былі самай блізкай да Завішына паштовай станцыяй. З дапамогай паштовага пісара, вельмі пачцівага чалавека, хутка знайшоў фурмана, але нялёгка было дапытацца дарогі да мэты майго падарожжа. Дарэмна я са сваёй вельмі падрабязнай карты пералічваў акалічныя мястэчкі і двары: пра іх ніхто ніколі не чуў, хоць, мяркуючы па маштабе, да іх было не больш за некалькі дзясяткаў вёрст – такая тут асаблівая схільнасць да жыцця пры сваёй хаце. Нарэшце з'явіўся нейкі бывалы чалавек, які даў майму фурману інфармацыю, як трапіць да прамежкавага пункта паміж Завішыным і Радашковічамі. Шчаслівы і нецярплівы, я рушыў далей малою дарожкаю, а пясок, камяні, каляіны, грэблі і масткі, якія па чарзе з'яўляліся на ёй, былі самымі мудрагелістымі катаваннямі для майго нецярпення. Нарэшце дацягнуўся я да таго мястэчка, пытаю пра Завішын, да якога, як меркаваў, было ўжо не болей за дваццаць вёрст – і тут ніхто не ведае. Давялося сабраць мне ўвесь кагал, каб дапытацца дарогі. Такая тут адсутнасць унутранае камунікацыі. Аказалася, што наперадзе ў мяне яшчэ вёрст трыццаць: дзесяць борам, па хваёвых каранях, пяць па грэблі і блізу пятнаццаці па пяску. Пачуўшы такое, мой фурман заявіў, што не мае намеру ехаць далей, і мне давялося выкарыстаць нямала срэбнае змазкі, каб змяніць ягонае рашэнне.

[IV]

Я пішу ўсё гэта, каб даць табе хоць нейкае ўяўленне пра моташнасць, праз якую я прайшоў, ведаючы, што пры іншых абставінах хапіла б дзвюх гадзін, каб дабрацца туды, куды я валокся цэлы дзень, не ўпэўнены, ці давалакуся, ці ўвогуле даеду? Але і гэта не ўсё: мяне чакала яшчэ адно выпрабаванне

Перад Нястанавічамі, якія былі ўсяго ў трох вёрстах ад Завішына, начное неба зацягнулася такімі хмарамі, настала такая страшная цемра, што я літаральна не бачыў коней з брычкі і мусіў, каб не скруціць сабе карак, ісці пеша перад імі і клікаць за сабою фурмана, і ўсё ж не ведаю, як бы я выкруціўся з гэтае бяды, калі б нарэшце маланкі не прыйшлі мне на дапамогу. Нарэшце бухнуў лівень, ад якога, схаваўшыся ў нейкай карчме, марна чакаючы, пакуль ён пройдзе, я ні пагрозамі, ні просьбамі, ні самымі

[1] Маецца на ўвазе фальварак Завішын Плешчаніцкае воласці Барысаўскага павета. Сёння: вёска ў Лагойскім раёне.

лепшымі абяцаннямі, аніякім чынам не змог прымусіць свайго фурмана працягваць падарожжа па незнаёмай дарозе, праз самую страшную цемру, у самую лютую навальніцу. І давялося начаваць усяго за тры вярсты ад хаты бацькоў, якіх я не бачыў адзінаццаць гадоў. Лёгка ты зразумееш, як прайшла тая ноч: з пакорай схіліў галаву перад гэтай неабходнасцю, думаючы, што гэта апошняя пакута патрэбная мне, што яна прызначана як адкупленне, як ачышчэнне для душы, каб яна сталася хоць крыху годнаю спадзяванае невыказнай радасці...

Не спаўшы, ужо на золку я быў у дарозе і праз паўгадзіны апынуўся ля ног нашых бацькоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мясцовасць, у якой яны жывуць, – гэта самая сумная частка Барысаўскага павета, які ўвогуле (пасля пінскага Зарэчча) – самы сумны з усіх паветаў Мінскае губерні. Паверхня плоская, месцамі пясчаная, месцамі балоцістая, парослая хвояй ці алешнікам, дзе пясок, там камяні, нібы мяшкамі хто навазіў, дзе яго няма, там (на няўдобіцах) дзёран такі густы і цвёрды, што яго з цяжкасцю падрывае саха; непрыдатны ён на луг, бо не расце тут высокая трава, а пакрывае ўсё гэтак званы *казляк*, круглыя сцёблы якога пругкія і вострыя, як іголкі, ды настолькі праніклівыя, што ўсюды, дзе яны змешваюцца з сенам, падаючы з драбін на авечак, праз іх поўсць праходзяць і ўпіваюцца ў цела. Верас таксама адыгрывае тут выдатную ролю: часта цэлыя абшары, пакрытыя ім, здалёк выглядаюць нібы засланыя фіялетавым сукном. Апрацоўваецца глеба цяжка, заўсёды з высілкам, без гною няма чаго і думаць пра ўраджай, а гледзячы на загоны, у галаву прыходзіць вось гэтая мудрая песня:

Камень на каменю,
А на тым каменю,
Камень на каменю.

Цяжка, як на іх можа нешта расці, як тут саха, а асабліва барана ходзіць. Тут таксама зусім не ведаюць жалезнае бараны, а карыстаюцца гэтак званымі *смыкамі*. Гэта бароны, складзеныя з маладых елак, галіны якіх (даўжынёй амаль у локаць), з'яўляюцца натуральнымі спружыністымі зубамі. Больш за ўсё тут сеюць льну і бульбы. Першы столькі ж тут значаць, колькі пшаніца на Падоллі, другая перапрацоўваецца на гарэлку, ёй жа замяняюць хлеб, якога так часта не хапае; яны з'яўляюцца самым спраўным сродкам для паляпшэння грунту, бо пасля іх усё будзе добра расці, а родзяць яны так шчодра, што не параўнаць з Падоллем. Азімая пшаніца рэдка дзе сустракаецца, кукуруза – толькі на агародах, а вось проса, гароху і сачавіцы багата, хоць часта б'юць іх заўчасныя маразы. Уборка тут звычайна значна пазней пачынаецца, чым на Падоллі. Напрыклад, калі я выязджаў з Джурына[1] ў пачатку ліпеня, дык там ужо пачыналі жаць, а калі пакідаў Завішын у сярэдзіне верасня, яшчэ не ўсюды яравое было

[1] Тут у 1846–1856 гг. А. Пяткевіч працаваў настаўнікам. Сёння: вёска ў Шаргарадскім раёне Вінніцкае вобласці Украіны.

сабрана з палеткаў. А з тае прычыны, што хутка пачынаецца восеньская слота, то *пераплоты і асеці*, каб сушыць збожжа дзеля малацьбы, непазбежныя.

Мне цяжка ўспомніць усе дэталі, і я шкадую, што не хапала часу, каб уважліва да іх прыгледзецца і занатаваць, бо гэта была б цікавая рэч. Прыехаўшы з настолькі іншай ва ўсіх адносінах правінцыі, я нават пры першым беглым поглядзе ўбачыў шмат прадметаў, вартых агульнае ўвагі, але незаўважных для тубыльцаў, звыклых да іх, як да самых звычайных і натуральных рэчаў.

Толькі там я зразумеў, як складана быць правінцыйным карэспандэнтам, што ведае толькі ўласны свой кут. Прызвычаены да ўсяго, што яго атачае, ён і ўявіць сабе не можа, наколькі цікава гэта можа быць для іншае ваколіцы, і не мае ў душы смеласці напісаць пра такія банальнасці, якія кожны сусед ведае як свае пяць пальцаў; дык каб прачытаў такое ў штотыднёвіку, то не лічыў бы гэтага *газетчыка*, што пра іх піша, за Божае стварэнне.

Узровень быту тутэйшых сялян пераўзышоў усе мае чаканні. Нягледзячы на такую бедную глебу і такія частыя неўраджаі, жывецца ім ненайгорш. Звычайна жывуць яны вельмі вялікімі сем'ямі, няраз некалькі мужчынскіх душ у адной хаце, а гэта – адзін *дым*, у якім дзве і тры сям'і бываюць, а з тае прычыны, што паншчыну тут адрабляюць з дыму, дык яна лёгкая для такое вялікае сям'і і дастаткова ёй часу дзеля асабістага заробку. Што датычыць адукаванасці, дык тутэйшы люд непараўнальна вышэй за падольскі, бо тут не толькі шмат сялян, якія ўмеюць чытаць і пісаць, але нават знешні выгляд у іх больш ахайны, і ўвогуле яны здаюцца больш разважлівымі.

Пра іх маральнасць цяжка мне меркаваць, бо недастаткова яе даследаваў, але мне нескладана было заўважыць, што цяга да гарэлкі тут большая, чым на Падоллі, прынамсі, часцей сустракаюцца п'яныя. Але і рэлігійнасці тут больш, а прынамсі, пабожнасці і яе знешніх прыкмет. Нідзе, як тут, не бачыў я столькі каплічак, крыжоў пры дарогах, якія часта па некалькі і нават па дзясятку, нібы на могілках, у адным месцы стаяць, яны рознай велічыні і формы, адзінарныя, падвойныя, нават патройныя, ды яшчэ так зробленыя, што кожнае плячо – асобны крыж; а гэты – з дашкам, а той – з жалезным крыжыкам зверху, а іншы – абвешаны фартушкамі ці вяночкамі. Касцёлаў таксама шмат, бо большая частка насельніцтва – каталікі, але найчасцей у вёсках і мястэчках яны маленькія, бедныя, драўляныя, пакрытыя сівым мохам, нібы спрадвечныя, бо тут увогуле ўсе будынкі, платы, парканы і г. д., ці то з прычыны вялікае вільготнасці, ці то з прычыны ўласцівасцяў хваёвага дрэва, якое звычайна для іх будовы ўжываецца, характарызуюцца асаблівай амшэласцю, якое не сустракаецца ў іншым месцы.

У самім Завішыне ёсць філіяльны касцёл, у якім служыць вікарый, які жыве тут; ён мае абавязак дапамагаць пробашчу ў парафіі толькі ў маладзіковыя нядзелі і ўрачыстыя святы, а ва ўсе астатнія і нават штодзённую святую імшу ён правіць тут, і заўсёды мае з кім і за каго маліцца, а на

св. Антонія тут збіраецца столькі пабожных людзей, што нават каплічка не можа іх змясціць. Бо ў вялікім алтары знаходзіцца абраз гэтага святога, перад якім вернікі атрымліваюць цудоўную ласку Божую.

Ёсць такое паданне пра гэты касцёл. Калісь даўно-даўно тут, сярод лесу, быў кляштар з касцёлам ксяндзоў-бернардзінцаў, але ці то прыродная беднасць гэтае зямлі, ці то ейнае спусташэнне з прычыны ваенных рабункаў змусіла нарэшце бедных манахаў, якія жылі толькі з квесты, пакінуць свой прытулак, каб не памерці ў ім з голаду.

Неўзабаве касцёл і кляштар зруйнаваліся, а людзі зусім забыліся пра іх, бо нават дарогі і сцежкі, якія вялі туды, зараслі пустазеллем і дрэвамі.

Аж аднаго разу нейкі магнат прыехаў на ловы ў гэтую ваколіцу, ды ў пагоні за зверам адбіўся ад свае паляўнічае дружыны, напароўся на мядзведзя, стрэліў у яго, спудлаваў і, гнаны раз'юшаным *марухам*, трапіў у нейкія руіны і, не маючы магчымасці ўцякаць далей, ускочыў на крыху вышэйшае месца і, выпусціўшы ў жаху з рук стрэльбу, ужо даручыў сваю душу Богу, будучы пэўным, што хутка страціць яе ў кіпцюрах мядзведзя. Але як жа ён быў здзіўлены, калі звер, дабегшы таго вышэйшага месца, не кінуўся на яго, а раптам упаў на зямлю, як паслухмяны выжал, панура зароў, закрываючы лапамі вочы, і папоўз назад у гушчар. Здзіўлены паляўнічы, з трывожным яшчэ біццём сэрца, азірнуўся і заўважыў, што знаходзіцца на руінах касцёла, дзе сярод гнілых сцен, бэлек і даху быў толькі адзін некрануты алтар, на які ён, уцякаючы, уласна, ускочыў, а на ім у коле цудоўных промняў стаіць абраз святога Антонія, які нянчыць дзіцятка Божае... Ён зразумеў тады, каму абавязаны сваім выратаваннем і перад кім дзікі звер у сполаху лёг. Ён саскочыў з алтара, укленчыў, напоўнены найглыбейшай пашанай і ўдзячнасцю, і тут жа паабяцаў Богу адбудаваць Ягоную святыню з руінаў. Як толькі ён склікаў свой лавецкі аршак, адразу сам з імі заклаў першыя падваліны, і неўзабаве слава Божая загучала ў новай каплічцы. Напэўна, гэта было даўно, бо ўжо няма і следу тых бясконцых бароў, сярод якіх быў узведзены кляштар; і само паданне вельмі няпэўнае, у некалькіх варыянтах, але дагэтуль захавалася памяць пра цудоўны выпадак у тым самым касцёле, дзе амбон трымае на хрыбце мядзведзь, высечаны з дрэва. Аднак, нягледзячы на цудатворны абраз, да нядаўняга часу гэтая капліца была надзвычай занядбаная і недагледжаная, і толькі са з'яўленнем сённяшняга годнага вікарыя кс. Кунцэвіча пачала крыху аднаўляцца. Бо гэты шаноўны святар – сапраўдны ўзор вясковага плябана, настаўніка, апекуна, лекара цела і душы; апрача прастаты звычаяў і характару, ён поўны энергіі і бязмернай руплівасці. Дай яму, Божа, дапамогу і нябеснае благаславенне ў яго сумленнай працы.

Колькі ж разоў у гэтай сціплай капліцы з расчуленым сэрцам я з радасцю глядзеў на сялянаў, якія маліліся са сваіх кніжачак, і ўторыў душою за іхным простым хорам, у якім гучала імша Фялінскага. Там таксама, як і перад цудоўным Панам Езусам у Брагілаве па благаслаўленне на маё падарожжа, перад цудоўным св. Антоніем прасіў у Бога благаслаўлення для дома маіх дарагіх бацькоў, якіх я павінен быў пакінуць у той дзень, і ласкі, каб мог

хоць раз у жыцці яшчэ ўбачыць іх і схіліцца разам з імі перад гэтым алтаром у падзячных малітвах.

Суседзяў тут вельмі шмат, праз кожныя некалькі, самае большае праз некалькі дзясяткаў вёрст, наўкола стаяць сціплыя шляхецкія двары, і дачыненні паміж імі сардэчныя і частыя, нягледзячы на кепскія дарогі. Ох, гэтыя дарогі, гэтыя дарогі, хоць і ў любімай Літве, але мушу аддаць ім належнае, відаць, такіх нідзе не знайсці больш. Мінаеш пясок, у якім колы тонуць па восі, альбо скачуць і рыпяць на частых камянях; потым трапляеш у глыбокія каляіны, у якія, раз ускочыўшы, і не думай вылазіць, пакуль не скончацца самі, бо паломіш колы. Выедзеш з каляіны – спаткаеш грэблю, гэта значыць, укладзеныя на балоце папярок дарогі круглякі, на якіх калі табе брычка душу не вытрасе, то слава Богу. За грэбляй масток вузкі, выгнуты ў высокую дугу, на крывых, хісткіх палях, без парэнчаў. За мастком хваёвы бор, а ў ім – карані, вартыя грэблі, а пасля *da capo al fine*[1].

Але для пачцівых ліцвінаў усё гэта не страшна, хоць з каламажкай у аглоблях, хоць пешшу сусед да суседа з радасцю спяшаецца на бяседу, па раду, каб горам ці радасцю падзяліцца! А калі нечакана збярэцца дзясятак асобаў, і сярод іх трохі моладзі, і ў хаце ёсць фартэпіяна, дык ужо і танец, дык ужо і песня. Памкнецца адна пара, за ёй – другая, трэцяя і чацвёртая, і кружыць мазурка, і кракавяк звініць падкоўкамі. Азавецца адзін голас, загучыць сардэчная мелодыя, неўзабаве хтосьці далучыцца – і хор збярэцца. І ўсё гэта неяк без прымусу, без выставы, сціпла, проста і ад душы, і ахвотна, і шчыра. Ніхто не выхваляецца строямі, брычкамі, ліўрэямі з галунамі, ніхто не саромеецца сваёй беднасці, малою хатаю не апраўдваецца, што не можа прыняць гасцей, і суседскіх коней не адсылае ў карчму; госць у дом, Бог у дом. І слова ў слова можна тут падаць гэты прыгожы верш Поля:

Ledwie człekby czasem wierzył,
Dom niewielki w tem gość wchodzi
Ot i domek się rozszerzył,
I wnet miejsce gdzieś się rodzi.
Przybył drugi i dziesiąty,
I nie ciasno jest nikomu,
Wyprzątnięto wszystkie kąty,
Co raz szerzéj w małym domu,
Zda się że pan domu sobie
Ścian i miejsca gdzieś przysporzył,
A on tylko w domu tobie
Drzwi i serce swe otworzył.

І міжволі прамовіць тут трэба разам з гэтым жа паэтам:

Wole ja wolę żyć w małem kole,
Gdzie wszystko własne, choć niby ciasne,
Ten temu brat, ten temu swat,
A już dobremu to każdy rad.
Co w świecie ziębło, co orzeźwieje,

[1] Паўтарыць ад пачатку да канца (*італ.*)

Tu się odświeży, tu się rozgrzeje,
Bo ten mi brat a ów mi swat,
Życie jak młodość, serce jak świat.

Пабыўшы дома ўсяго некалькі тыдняў, нават не нацешыўшыся сваім шчасцем, я мусіў раней, чым хацеў, ехаць у Вільню, бо з ліста ад Сыракомлі даведаўся, што ён хутка пакіруецца ў Варшаву, а я абавязкова хацеў яго пабачыць, дык атрымаўшы ягоны ліст, адразу ж рушыў у дарогу.

У Даўгінаве, бліжэйшым ад Завішына мястэчку на тракце Барысаў – Вільня, дзе павінен быў забраць пошту, я склаў даніну павагі кс. Львовічу[1], годнае імя якога ты напэўна ведаеш даўно, і пра ягоны побыт тут я даведаўся ад кс. Машынскага ў Пінску. Я ўбачыў яго, калі ён быў з работнікамі ў толькі што пабудаваным касцёле. Ён ужо вельмі стары чалавек, высокі, з прыгожымі, высакароднымі і глыбакадумнымі рысамі, з высокім адкрытым ілбом, белымі валасамі на галаве, але энергічны, з агнём у вачах, аценёных вялізнымі чорнымі брывамі. Я правёў некалькі гадзін у вельмі прыемнай размове, бо святар ён выдатны і шмат чаго пабачыў у сваім жыцці. Ён ведаў шмат людзей, імёны якіх сёння з'яўляюцца нацыянальным гонарам – памінуўшы іншых, згадаю толькі Адама.

Не дачакаўшыся ўдзень паштовых коней, я мусіў заначаваць у мястэчку; і, пакуль не сцямнела, шпацыруючы па вузкіх брудных вуліцах, прыглядаўся да тутэйшых жыдоў, што вельмі зацікавілі мяне сваім традыцыйным строем, які рэдка ўжо на Падоллі можна сустрэць, і то хіба толькі на старэйшых людзях. Але няраз з'яўляюцца лісіныя шапкі ў мужчынаў, пурпуровыя цюрбаны, пышныя падшыўкі і жупанікі з адным рукавом у жанчынаў. У Даўгінаве гэта яшчэ не так часта, але ў мястэчках, аддаленых ад вялікае дарогі, сучаснае адзенне можна залічыць да выключэнняў. Аднак, нягледзячы на гэтую прывязанасць да старых звычаяў альбо нягледзячы на гэтую ўпартасць, у іншых адносінах тут ідзе значная рэформа, якое амаль не відаць на Падоллі.

Я памятаю, як ты здзівіўся і цешыўся, калі сустрэў там аднаго жыдаземляроба; што б ты сказаў, каб убачыў тут цэлыя паселішчы ізраільцян, якія працуюць на зямлі? Я не ведаю, ці гэтая ралля з'ўляецца толькі *роляй*, якая прыкрывае іншыя, менш высакародныя заняткі, але калоніі, якіх на сваім шляху сустрэў больш за дзясятак, пераважна выглядаюць вельмі прыстойна, цалкам нагадваючы звычайныя сёлы, з толькі той розніцаю, што хаты большыя, чым у сялян, з комінамі і з большымі вокнамі.

Але вернемся да справы. Давялося заначаваць у нейкай новай карчме. Я доўга чытаў кніжку, а некалькі разоў зазірнуўшы ў пакой гаспадара, здзівіўся, што, нягледзячы на позні час, ён і не думаў спаць, бо сядзеў за

[1] "Памёр у гэтым годзе, пра што мы даведаліся з «Kurjera Wileńskiego». Гл. „Kronikę" № 123". (*Заўвага Адама Плуга*). Гаворка пра піяра, філарэта і настаўніка Юзафа Каласанты Львовіча (1794–1857), прыяцеля Адама Міцкевіча. Апошнія гады жыцця ён служыў у мястэчку Даўгінава.

сталом і чытаў Біблію пры шабасоўцы. На пытанне, чаму не кладзецца спаць, ён адказаў мне, што звычайна не спіць усю ноч.

– Чаму?

– Так сабе, бо я спаць не магу.

На наступны дзень я даведаўся, што бедны габрэй некалькі тыдняў таму ледзь уратаваўся з полымя, якое ягоную карчму паглынула, ды зразумеў, што ён не спіць, бо сцеражэ з малітваю свой дом ад агню. І я адчуў у сэрцы смутак і жаль да таго небаракі, бо які ж гэта боль, які жах павінен быў спазнаць у тым начным пажары, калі з таго часу ён страціў жаданне спаць назаўсёды? Дагэтуль стаіць перад маімі вачыма гэты няшчасны чалавек: адзін у вялізным цёмным пакоі, пры цьмяным святле лоевай свечкі, абапёршыся локцямі на стол, а галаву падпіраючы далонямі, ён глядзіць у кнігу, нерухомы, як статуя, нібы зачараваны, пакуль які крык на вуліцы ці шолах у вазоўні не пратне яго халодным жахам... Гаспадыня, апавядаючы мне гісторыю гэтага пажару, сваёю дабрынёю і паважнасцю схіліла мяне да сябе, бо ў яе словах было столькі пакорлівасці, такое вялікае прызнанне волі Божае, што нават не кожны хрысціянін змог бы выказаць падобныя пачуцці. Калі я спачуваў яе няшчасцю, яна адказала мне: "Не, пане, гэта не было няшчасце, гэта было сапраўднае шчасце, бо мы самі выбраліся жывыя і трохі вынеслі з агню, а маглі б і жыццё, і ўсё страціць. Я таксама ўвесь час дзякую Богу за гэта, а як мне не дзякаваць, калі Ён адною рукою ўзяў, а другою даў мне? Бо Ён сам пабудаваў для мяне гэты новы дом. Калі мы з дзецьмі, не маючы дзе галаву прыхіліць, плакалі на папялішчы, калі мой муж ад гора валасы на сабе рваў, я казала: супакойся, спадзявайся на Бога, і Ён нас выратуе. Так і сталася: Бог нас выратаваў. Без граша мы неўзабаве паставілі новую хату. Пачцівы тутэйшы пробашч, асэсар і ўсе акалічныя паны, самі, няпрошаныя, прыйшлі нам на дапамогу, і хата нібы з-пад зямлі вырасла. Ну, я вам праўду кажу: не было няшчасця, а сапраўднае шчасце. Так,васпане, хто на Пана Бога спадзяецца, таму Бог не дасць загінуць. Магчыма, пан, недзе чытаў у кнізе гісторыю пра жыда, пра якога я хачу расказаць".

[V]

"Жыў сабе бедны габрэй, арандатар малое карчмы ў багатага пана. Такі бедны, што не толькі ніколі не меў за што справіць шабат, але нават на пэйсах заўсёды быў вымушаны выпрошваць дапамогу ў дзедзіча. А быў ён вельмі пабожны і ўвесь час чытаў Біблію. Аднойчы ён прачытаў нешта такое, што яму прыйшло ў галаў ні ў каго нічога не прасіць, а чакаць толькі Божае дапамогі. Калі настаў пэйсах, у яго, як і даўней, не было ані зярнятка ў спіжарні, ані капейкі ў кішэні, але ён не пайшоў да гаспадара і сказаў сваёй заклапочанай жонцы: «Пан Бог сам нам дасць». Дзедзіч, які прывык кожны год даваць яму, сам паслаў яму пшаніцу на *мацу*, але жыд аднёс яе назад і падзякаваў, кажучы, што яму нічога не трэба, што сам Бог яму дасць. Гаспадар раззлаваўся, аблаяў, высмеяў габрэя і выгнаў яго, а калі праз некалькі дзён здохла яго любімая малпа, загадаў аднесці яе ў карчму, каб жыд яе на пэйсах сабе згатаваў, калі не хацеў пшаніцы. Прыбег слуга

і ўкінуў малпу ў хату сказаўшы: «Вось табе, лапсердак, ты не захацеў мацы, то харчуйся здыхляцінай». І пайшоў. Глядзіць мой жыд, аж з рота малпы выпадаюць дукаты. Ён патрос яе, а іх – усё больш. Ён уяў нож, разразае здабычу: у вантробах – пяцьдзясят чырвоных злотых. Было яму з чаго рабіць пэйсах, была і маца, бялейшая за снег, і віно, лепшае, чым у пана. Паводле звычаю, ён пайшоў з усім гэтым у двор. Здзіўлены пан спытаў: «Адкуль гэта ў цябе, жыд?». «Ад Пана Бога». І ён расказаў пра малпу. Падумаў пан, потым ляпнуў сабе па лбе: «Я лічыў дукаты, а хтосьці паклікаў мяне, дык пакінуўшы несхаванымі грошы, замкнуў пакой на ключ, а ў ім яшчэ і малпу. Напэўна, яна бачыла, як я хукаў на пацямнелыя ад зялёнага налёту дукаты, каб лягчэй іх адцерці, думала, што я іх ем, паспрабавала тое самае і памерла ад нястраўнасці. Тваё шчасце і твая праўда: хто спадзяецца на Бога, таму Бог не дасць прапасці»".

З Даўгінава праз Вілейку я кіраваўся ў Вільню, але вырашыў спачатку заехаць у Дзевятні, каб пакланіцца найдастойнейшаму аўтару *Obrazów Litewskich*[1], скласці яму сардэчнае ўшанаванне ад сябе і ўсіх маіх знаёмых з Падолля, расказаць яму, якую вялікую пашану і любоў адчуваюць да яго ўсе, хто ведае яго толькі па цудоўных творах, падзякаваць яму нарэшце і за прыемнае суцяшэнне, якое я чэрпаў з яго твораў у сваёй тузе па Літве, і за гонар, які здабыла наша бацькаўшчына, дзякуючы яго непараўнальным *Obrazom*, і за тую радасць і шчасце, якімі ён адорваў мяне, незнаёмага, сваімі дарагімі лістамі.

Адрасуючы яму маю карэспандэнцыю праз Вілейку, я ведаў, што ад яе, мусіць, недалёка да Дзевятні.

На пошце мне лёгка было даведацца, як да яе трапіць, і не прайшло і трох гадзін, як я апынуўся там.

Ты лёгка зразумееш, з якой радасцю вітаў я гэты блаславёны куток нашае любае Літвы, з якой цікаўнасцю, з якім невымоўным захапленнем прыглядаўся я наваколлю і ўсім ягоным дарогам і сцежкам, і ўсім дрэвам ды кустам. Бо самая малая дробязь тут была дарагая майму сэрцу, яна была часткай сустрэчы з гэтым чалавекам, чыё імя – нацыянальны гонар. А што было са мною, калі нарэшце ўбачыў я гэты чароўны ліцвінскі двор, гэты прытулены да старасвецкага саду белы дом, які глядзеў вокнамі на дзядзінец, аточаны гаспадарчымі пабудовамі, кожная з якіх сведчыць пра свой род і пра пражытыя гады, хоць усе яны моцныя і трывалыя?

З трапятаннем сэрца я ўвайшоў у гасцёўню, дзе, нікога не заставўшы і чакаючы, пакуль гаспадару аб'явяць аб прыездзе госця, уважліва прыглядаўся ўсяму, што атачала мяне.

Там было чыста і хораша, без надзвычайнасці і раскошы. Апрача фартэпіяна, усё астатняе – з пэўнага гатунку бярозы, званага чачотка – адразу сведчыць і пра яго ліцвінскасць, і пра яго несучаснае паходжанне. Каля сцяны насупраць уваходных дзвярэй – канапа і стол, над імі некалькі

---

[1] Гаворка пра вядомага літаратара XIX ст. Ігнацы Ходзьку (1794–1861), які жыў у фальварку Дзевятні. Сёння не існуе. Знаходзіўся ля вёскі Навасады Нарачанскага сельсавету Вілейскага раёна Мінскае вобласці.

дагератыпаў, справа – фартэпіяна, над ім люстэрка, а ўнізе – бронзавы гальванапластычны медальён Хрыста з надпісам у абводцы, што ён дасланы ў знак пашаны аўтару *Obrazów Litewskich* доктарам Пятрышчам з Белае Царквы. Злева – дзверы ў іншы пакой, праз якія відаць шафу з кнігамі. Насупраць канапы абапал уваходных дзвярэй – алейныя партрэты маладога мужчыны і кабеты, з якіх у першым, што вісеў над сталом, закладзенага газетамі, я адразу ўгадаў гаспадара дома, бо ён трохі нагадваў літаграфію, змешчаную ў ягоных творах. Гэта выдатны малюнак (Рустэма[1]): жывы твар, свабода ўсяе постаці адразу сведчаць пра дакладнасць партрэта і не дазваляюць адвесці вачэй ад гэтага чола – высокага, шырокага, выпуклага, адцененага крыху кучаравымі валасамі, што праменіцца розумам і натхненнем, ад гэтых вачэй, поўных сардэчнасці і пранікнівасці, ад гэтых вуснаў, з якіх, здаецца, гучыць вольны і нявінны досціп, тая дабрадушная жартаўлівасць і тая шчырая пачцівасць, якія мы так добра ведаем з *Litewskich obrazów*... Я доўга б глядзеў на ягоны партрэт, каб маю ўвагу не прыцягнулі чыесьці крокі.

Увайшоў мужчына сярэдняга росту, пажылы, але яшчэ бадзёры і жвавы, які быў бы вельмі падобны на бачаны мною партрэт, калі б з гэтых рысаў не знікла маладая свежасць, калі б іней не ўпаў на парадзелыя валасы... Я адрэкамендаваўся па прозвішчы, шляхетны гаспадар падаў мне руку для вітання, ласкава, гасцінна, але майму сэрцу патрэбна было нечага большага, і, трымаючы яго высакародную руку, я прыгадаў, што мы даўно знаёмыя па лістах... Нешта падобнае да здзіўлення, нібы недавер адбіўся на твары. "Я – Адам Плуг", – сказаў я, чырванеючы, як пансіянерка, і, дрыжучы ад страху, каб мой каментар, які я так саманадзейна выкарыстаў, не зашкодзіў мне... Але ў гэты ж момант я апынуўся ў сардэчных абдымках аўтара *Obrazów*, і з пашанай ды любоўю цалаваў з глыбокім пачуццём ягоную руку...

– А каб цябе! Чаму ж ты адразу так не назваўся? Тут Пяткевічаў навокал без ліку; ці ж мог я здагадацца, што цябе бачу, калі яшчэ нядаўна чытаў у „Kronice" твае допісы з Падолля? Сядай і скажы мне, *quomodo, quando, quibus auxiliis*[2]? Але спачатку я загадаю для цябе прыгатаваць ежу, бо ты пэўна галодны, а мы ўжо паелі, і коні – у стайню, бо я спадзяюся, што ты ў мяне трохі пагосціш.

– Гэтым разам я меў намер застацца тут толькі на некалькі гадзін, бо спяшаюся ў Вільню, каб заспець Сыракомлю перад ягоным ад'ездам у Варшаву, і толькі па дарозе назад лічыў на больш доўгую прыемнасць. Але мне, апынуўшыся аднойчы ў гэтай хаце, было б цяжка так хутка яе пакінуць. Паразмаўляю з фурманам, якога наняў да Смаргоні, можа, ён згодзіцца пераначаваць...

---

[1] Гаворка пра вядомага мастака, прафесара Віленскага ўніверсітэта Яна Рустэма (1762–1835).

[2] Як, калі, з дапамогай якіх сродкаў (*лац.*).

– Пачакай, я сам з ім паразмаўляю. – І ён паспешліва выйшаў, а праз некаторы час вярнуўся, заявіўшы, што ўпартага габрэя адправіў, а мяне сваімі коньмі завязе ў Смаргонь.

І столькі было ва ўсім гэтым сардэчнасці, столькі ні з чым не параўнальнае шчырае дабрыні, што мне здалося, нібы я другі раз перажываю той райскі момант, які меў, калі я вітаўся з бацькамі.

Ці апісваць табе ўсе падрабязнасці майго побыту ў Дзевятні? Я б з радасцю, бо ўсе яны бязмерна дарагія мне, і зацікавілі б цябе, несумненна, але гэта немагчыма, бо іх у маёй памяці столькі, што хапіла б на цэлы томік, а мяне чакае яшчэ доўгі шлях. Такім чынам, я павінен задаволіцца ўспамінам толькі пра найважныя моманты.

Неўзабаве прыйшла пані падкаморыха, ейная сястра і двое ўнукаў ад ягонае адзінае дачкі, пані Свянтэцкае, якая гасцявала ў дзеда. Размова стала агульнай і такой вольнай, такой шчырай, нібы мы былі знаёмыя спрадвеку[1].

Пасля абеду мы пайшлі ў сад, дзе сярод пладовых дрэваў цяністым шэрагам стаяць ліпы і вабіць на адпачынак альтанка. Да гэтае прыгожае альтанкі (такой я нідзе не бачыў) з *завоблачных* ліпаў, у поўным сэнсе гэтага слова, пасаджаных тут яшчэ прабабуляй Ігнацы Ходзькі, прывязана шмат дарагіх сэрцу ўспамінаў не толькі самога гаспадара, але і ўсіх нас. Гэта тут адбываюцца цікавыя *Konwersacje*, якія сёлета з’явіліся ў друку[2], у ёй адбываўся знакаміты літаратурны дыспут паміж аўтарам *Obrazów*, Эдвардам Адынцом і Юльянам Корсакам, у ёй калісь адпачываў Адам Міцкевіч.

У тым самым садзе ёсць вялікі амшэлы, што ўжо значна асеў у зямлю валун, пад якім калісь гэтыя прыяцелі закапалі ў бутэльцы на вечную памятку сардэчнага саюзу картку пергаменту са сваімі імёнамі. Вартыя ўвагі і тры высокія бярозы, што стаяць побач, ля якіх раней была і чацвёртая, і ўсе разам стваралі ў паветры прыгожую арку, якую гаспадар-паэт назваў Геліконам. На гэтым Геліконе пясняр Феліцыты[3] аднойчы пачуў з вуснаў свае каханае чароўнае “так” і ўвекавечыў памяць пра гэта мілай імправізацыяй, якую я табе працытую, хоць ты, магчыма, ведаеш яе з *Konwersacji*, але я не магу выдаліць яе са сваіх успамінаў, бо яна чароўна асвяжае той шчаслівы момант, калі я пачуў яе з вуснаў самога Ходзькі ля бяроз:

Chodźbym się wdarł gdzie najwyższy
Szczyt Monblanu w chmurach tonie,
Nie czułbym się Nieba bliższy
Jako na twym Helikonie.

---

[1] “Пані Свянтэцкая сёлета памерла. У газеце мы друкавалі напісаную з гэтае прычыны элегію самога Ходзькі” (*заўвага Ю. Б[арташэвіча]*). Дачка І. Ходзькі называлася Станіслава.

[2] Маецца на ўвазе аповесць І. Ходзькі *Dwie konwersacye z przeszłości*, якая была надрукаваня ў Вільні ў 1857 г.

[3] Маецца на ўвазе драма Антона Эдварда Адынца *Felicyta czyli męczennicy kartagińscy* (Вільня 1849).

Nie szczędź pracy, mój Ignacy
Wieszczą lutnię ujmij w dłonie,
A uwieńczą cię rodacy,
Laurem na twym Helikonie.
Obym kiedy świat zwiedziwszy,
Mógł tu spocząć w muz twych gronie,
Nigdzie nie byłbym szczęśliwszy,
Jako na twoim Helikonie.

З саду Ходзька завёў мяне ў свой летні працоўны кабінет. Гэта проста лямус, альбо ліцвінская скарбніца, што стаіць непадалёку ад дома; будынак, уласцівы толькі Літве, двухпавярховы, з дахам, абапертым на слупах, якія атачаюць зруб, а таксама падтрымліваюць галерэю вакол другога паверха. Звычайна такія лямусы выкарыстоўваюцца як гаспадарчыя склады, а менавіта, ніжні прызначаны толькі для гэтага, а наверсе на працягу ўсяго лета размяшчаецца працоўны кабінет аўтара *Obrazów Litewskich*. І калі б я ўбачыў сцены, абліцаваныя мармурам, альбо аздобленыя найпрыгажэйшымі карцінамі і скульптурамі, калі б я быў у цэнтры найвялікшага харства – я не адчуў бы ў сэрцы такой асалоды, такога захаплення, як апынуўшыся ў тым простым будынку, дзе стаяць скрыні і ложкі, засланыя кілімамі, уздоўж аднае сцяны – хваёвыя паліцы, на другой – на калках вісіць збруя, а побач вялікі стол, завалены кнігамі і паперамі, і яшчэ адзін столік з прыладамі да пісьма і рукапісамі *Jesieni w klasztorze i Pustelnika w Proniunach.* Над апошнім у той час працаваў Ходзька і пазнаёміў мяне тут з ягоным прыгожым уступам, дзе цудоўна схоплена думка пра крыж, які дае жыццё і пашырае славу Божую, калі яго паставіць.

Памяць пра сад і гэты лямус захавалася ў прысвячэнні маіх *Pamiątek domowych* Ходзьку[1], дзе я ад душы сказаў:

Nie sybaryckie jakieś gabinety,
Strojne w zamorskie świecidełka złote
Lamus pracownią dla mędrca-poety,
Co wsławił zacną litewską prostotę.
Szare tu ściany z tarciczną podłogą,
Ze skromniutkiemi sprzęty do około.
Choć Bogu dzięki w domu nieubogo;
Lecz żadne w świecie bogactwo nie zdoła
Wyrównać skarbom co się tutaj mieszczą
Dobrze nazwany, tak, skarbiec to szczery,
Bo nad klejnoty droższe te papiery,
Na któreś przelał swoją duszę wieszczą!

---

[1] Вершаваны зборнік А. Плуга *Pamiątki domowe* выйшаў з друку ў 1858 г. у Варшаве. У ім змешаны верш *Do W. Marcinkiewicza, autora pism w białoruskim narzeczu* (s. 169).

[VI]

Знаходзіцца гэты лямус у вельмі прыгожай мясціне: адна сцяна прымыкае да саду, другая – да хмызнякоў, якія цягнуцца ўздоўж рэчачкі, на якой млын сваім несупынням шумам і грукатам дадае жыцця і прывабнасці гэтай прыгожай сядзібе. Яшчэ адна характэрная дэталь гэтага кабінета – наша чыста ліцвінская забаўка: *колка*, падвешанае на вяровачцы на бэльцы, якім гуляюць, кідаючы яго на крук, убіты ў сцяну. Мы абодва спрабавалі свае здольнасці, і я з прыемнасцю згадваў свае дзіцячыя гады, і для мяне было радасна бачыць гэтага шаноўнага мужа, пакрытага славаю, як ён з дзіцячай радасцю і свабодаю бавіўся гэтым колкам са мною за першынства. Я занатоўваю тут гэтую дробязь як прыгожую рысу характару гэтае чыстае і простае душы.

Я згадваў табе пра медальён Хрыста, які Ходзьку прыслаў з Белае Царквы ліцвін доктар Пятрышча з лістом, поўным сардэчнай пашаны і ўдзячнасці за *Obrazy Litewskie*, і Ходзька ў сваю чаргу падзякаваў яму за гэты падарунак прыгожым вершам, які ты, пэўна, будзеш рады прачытаць і які, напісаны рукой самога аўтара, я вывез з тае скарбніцы як сапраўдную каштоўнасць, як жывы вобраз ягонае ўзнёслае душы.

Dzięki ci dzięki o zacny ziomku,
Za dar życzliwej twej chęci,
On skromne ściany mojego domku
Pobłogosławi, poświęci.
I w każdym życia mego zamiarze
Korną doń wznosząc powiekę,
Pomyślę, oto przyjaźń mi w darze
Dała nadzieję opiekę;
I przed nim wnuczków mych gronko małe,
Jakby aniołków co w Niebie,
Zmówią paciorek Bogu na chwałę
Za swego dziadka i ciebie.

Człowieku, coś mię pojął głęboko,
Coś się mą duszą podzielił,
I co łzą tkliwą zabiegłe oko
W najskrytsze tajnie jej wcielił.
Ty wiesz czytając myśli me prawe,
Co się z niej szczerze wylało,
Co z niej na papier wyszło na jawę,
A co w jej głębi zostało.
I tam nadziei obce czy groźbie,
Zostanie w lepszej połowie,
Niźli to kiedyś w skardze czy w prośbie,
Przed Bogiem autor odpowie.

Pomiędzy braćmi krzewić cnót wzory
Poczciwych naszych naddziadów,
Wskazywać mądre życia ich tory
Obrazem żywych przykładów;

Serca poruszać tkliwem wspomnieniem,
Miłością ludzi je poić,
I tej miłości łagodnem tchnieniem
Gorycze życia ukoić:
Ku temu słabe me pióro wiodę.
To godło myśli mych stałe,
I od mych ziomków chcę za nagrodę,
Wyjednać miłość nie chwałę.
I o bodajby na moim grobie,
Gdy w zimnej legnę pościeli;
Ziomkowie kiedyś podobni tobie
Z miłością w duszy westchnęli.

Мала хто ведае Ходзьку як таленавітага паэта, бо даўно ўжо шырокая публіка не сустракала нічога з ягоных паэтычных твораў у друку, але аўтар *Obrazów Litewskich* і ў партфелі, і ў памяці мае шмат цудоўных прынагодных вершаў, якія адзначаюцца асабліва мілым досціпам, асаблівай лёгкасцю і вытанчанай прастатой. Адзін з іх – *Toast na dzień installacji na plebana JX. Puzyny w Wojstomiu*, які таксама дасылаю табе.

Z Twoim kościołem świętemi ślubami
Złączonyś dzisiaj duchownem przymierzem,
O żyj nam długo! długo zostań z nami!
Bądź nam pasterzem!
W modłach do Boga jak pasterz przy owcach,
Bądź pośrednikiem naszym i puklerzem.
I w drodze życia na błędnych manowcach,
Bądź nam pasterzem!
I jako ojciec twojego rodzeństwa,
Cokolwiek w życiu naszem przedsiębierzem,
Ty dodaj rady i błogosławieństwa,
Bądź nam pasterzem!
Za Twemi cnoty postępując godnie,
Omylnych ścieszek umkniem i ustrzeżem:
Ty trzymaj wiary przed nami pochodnię,
Bądź nam pasterzem!
I w domu Pańskim u stopni ołtarza,
Czyli skroń w wieńce czy w cyprys ubierzem,
Czy do kobierca wiodąc czy smentarza,
Bądź nam pasterzem!
Lecz precz z tą myślą, z tym smutnym obrazem,
Gdy nas dziś raczysz gościnnym talerzem,
Z kielichem w ręku zawołajmy razem,
Bądź nam pasterzem!
A w tym życzliwym dla ciebie zamiarze.
Chociaż i miarkę dziś trochę przebierzem,
Zacny Adamie nawet przy kielichu,
Bądź nam pasterzem!

Назаўтра, суцішаючы душэўны жаль надзеяй на хуткае вяртанне і на больш працяглае гасцяванне, я пакінуў Дзевятні, кіруючыся ў Вільню праз

Смаргонь, вядомую некалі мядзведжаю школаю, а сёння смачнымі абаранкамі, і праз Ашмяны, дзе, паводле прыказкі, шляхта абувае адну нагу ў лапаць, а другую – у бот.

За некалькі вёрст ад апошняе перад Вільняю паштовае станцыі ляжыць Барэйкаўшчына[1], тое салаўінае гняздо, з якога столькі песень разляцелася па нашым краі; бачна яе з тракту, невялікі шэры драўляны двор у купе зялёных дрэваў, дзе над ім, вышэй даху ўзняліся пірамідальныя таполі. Я прыехаў туды на змярканні.

Увайшоўшы ў сенцы і пачуўшы праз сцяну нейкі шум, не ведаючы, куды падацца, я адчыніў дзверы і, стоячы на парозе спытаўся: "Ці пан Людвік дома?" Праўда, без патрэбы, бо ягоны голас, той самы, як адзінаццаць гадоў таму, які я адразу вылучыў у агульным гомане, паведамляў мне пра гэта яшчэ за дзвярыма. І ў гэты момант наш добры сябар з радасным крыкам: "Антоне, Антоне!" кінуўся ў мае абдымкі... І ў яго сэрцы за адзінаццаць гадоў не заціхла рэха майго голасу, і па ім ён пазнаў мяне. Падбегла і жонка, абое схапілі мяне за рукі, нават не даўшы зняць буркі, і пацягнулі за сабою на сярэдзіну хаты.

Я прыехаў, каб павялічыць іхную сямейную радасць, бо за некалькі гадзін да мяне прыехаў да іх швагер Сыракомлі, і я з'явіўся якраз у той момант, калі гаспадар сказаў: "Для поўнага шчасця не стае мне толькі Плуга!".

Ты лёгка здагадаешся, што мы не хутка пайшлі спаць, калі ўспомніш тую даўнюю блізкасць і сардэчныя дачыненні, якія ядналі нашыя сем'і. Пачцівыя! З якой жа цікавасцю і спагадлівасцю распытвалі яны пра нашых бацькоў, пра нашых братоў і нават пра нашую неацэнную няньку, не кажучы ўжо пра мяне самога... І цяжка было ўнікнуць літаратурнае гаворкі. Тым больш, што я заспеў Сыракомлю над карэктурай *piątej serji gawęd* і *Starych Wrót*[2], над ледзь высахлым чарнавіком *Filipa z Konopi*, які я атрымаў на памятку. Немагчыма было ўтрымацца, каб не прачытаць дватры ўрыўкі, а раз пакаштаваўшы, было ўжо аніяк не адарвацца ад гэтых прысмакаў. Дык мы не клаліся ўсю ноч. На наступны дзень... але ты, відаць, хочаш ведаць, як выглядае Сыракомля сёння? Як усё вакол яго выглядае? Наш *лірнік* у душы заўсёды той жа пачцівы Уладзіслаў, якога мы ведалі і любілі ў Залуччы, заўсёды такі ж сардэчны, такі ж то вясёлы, як дзіця, то раптам сумны, таксама смяецца звонкім і шчырым смехам, таксама ў задуменнасці ці збянтэжанасці трэ лоб, але на ягоным чале вакол тых светлаблакітных вачэй ёсць ужо шматлікія маршчынкі, нягледзячы на трыццаць тры гады (на той час), але з яго твару знікла былая белізна і свежасць, і ўся ягоная дробная постаць нібы сагнулася пад нейкім грузам... Нездарма,

[1] Маецца на ўвазе фальварак, які з 1853 г. арандаваў У. Сыракомля. Сёння: Бара́йкішкес – вёска ў Вільнюскім павеце Літвы.

[2] „Poemat" *Stare wrota*, прысвечаны І. Ходзьку, выйшаў з друку ў 1857 г. з цэнзурным дазволам ад 16 мая 1856 г.

нездарма, усё ж такі ён – паэт усёю душою, а памятаеш, што кажа Балінскі[1] пра сапраўднага паэта?

Ile wlał życia do swego płodu,
Tyle wziął życia ż swego istnienia,
Ile on pieśni dla nas utworzył,
O tyle kroków grób swój przysporzył.

І гэта яшчэ не ўсё, Сыракомля – паэт не толькі ў песні, але і ў жыцці, дык павінна гэтае чулае сэрца, гэты вялікі розум пагібельна ўплываць на цела. Я заўважыў, што ён моцна пакутуе, але, здавалася, не звяртае ўвагі на свае пакуты і нават не адчувае іх зусім, сцвярджаючы, што цяпер у яго ўсё вельмі добра ў параўнанні з тым, як было даўней.

Жыве ён, як я табе ўжо казаў, у маленькім, але вельмі мілым двары; пакоі невялічкія і няшмат іх у доме, але выглядаюць густоўна і прыгожа, асабліва гасцёўня і кабінет Сыракомлі. У гасцёўні мяне вельмі зацікавілі карціны Дмахоўскага[2], пра талент якога я шмат разоў чытаў у газетах, а тут упершыню спаткаўся з ягонымі працамі, а таксама копіяй цудоўнай кампазіцыі Гарэцкага *Pielgrzymów modlących się u drzwi Watykanu*[3]. Я таксама з радасцю сустрэў выяву Губіна[4] Крашэўскага, зробленую ім самім вадзянымі фарбамі, і алейны партрэт Сыракомлі, самы дакладны з усіх, што я бачыў дагэтуль, напісаны некалькі гадоў таму ў Мінску Адамам Шэмешам[5], вучнем Рустэма, і падараваны паэту прыхільнікамі ягонага таленту на памятку пра побыт у гэтым горадзе.

У кабінеце, застаўленым бібліятэчнымі шафамі, з вялікім сталом, упрыгожаным статуэткамі Астроўскага[6] і засыпаным мноствам нататак і лістоў з усіх куткоў нашага краю ад усіх знакамітых літаратараў, сцены ўпрыгожаныя шматлікімі медалямі, дагератыпамі і фотаздымкамі айчынных пісьменнікаў і мастакоў, пераважна падараваныя на памятку. Тут знайшоў я, закінутыя дзесьці ў куток, аматарскія малюнкі Сыракомлі; я, схапіўшы малюнак з відам Барэйкаўшчыны, цвёрда заявіў, што не выпушчу яго з рук, на што гаспадар ахвотна згадзіўся. А ты ведай, што ёсць у мяне і Залучча, дзе побач з новаю хатаю стаіць і тая старая, немінучы крах якое аплакваў Уладзіслаў у сваёй тужлівай гутарцы[7].

---

[1] Гаворка пра паэта Караля Балінскага (1817–1864) і ягоны твор *Farys-Wieszcz*, апублікаваны ў „Bibliotece Warszawskiej" (1844).

[2] Гаворка пра мастака Вінцэнта Дмахоўскага (1807–1862), вучня Я. Рустэма.

[3] Гаворка пра мастака Тадэвуша Гарэцкага (1825–1868), вучня В. Дмахоўскага і зяця А. Міцкевіча.

[4] Маецца на ўвазе маёнтак Губін у Луцкім павеце на Валыні, дзе ў 1848–1853 гг. жыў Ю.І. Крашэўскі.

[5] Гаворка пра мастака Адама Шэмеша (1808–1864), які пасля высылкі з 1846 г. жыў у Мінску.

[6] Гаворка пра скульптара Яна Астроўскага (1811–1872), які быў звязаны з віленскім культурным асяроддзем.

[7] Маецца на ўвазе гутарка У. Сыракомлі *O moim starym domku* (1847).

[VII]

На наступны дзень я пазнаёміўся тут з панам Вінцэнтам Каратынскім, пра вершы якога пад тытулам *Czem chata bogata tem rada* я раней чытаў пахвальны водгук з далучанымі сапраўды прыгожымі ўрыўкамі[1]. Дык я шчыра ўзрадаваўся гэтаму знаёмству і з найвялікшым пачуццём пац餐нуў руку гэтаму маладому чалавеку, талент якога, падмацаваны гарачай любоўю да працы і сапраўднай сціпласцю, можа падняцца вельмі высока. Асабліва многа ад яго можна чакаць у народнай паэзіі, бо люд ён ведае не з кніжкі, не праз вакно, не толькі павярхоўна, але з сэрца, не аднабакова, а з усёй праўдай. У сваёй адукацыі, кіраваны Сыракомлем, часцей за ўсё перапісваючы яму ягоныя рукапісы, захапляючыся ягонымі творамі, ён не мог не пераняць міжвольна іхны дух і форму, што добра бачна ў некаторых яго вершах, але ў народных песнях ён цалкам незалежны і на той шлях, напэўна, скіруе свой рух.

Пакінуўшы мяне бавіцца з панам Вінцэнтам, Сыракомля рушыў у Вільню, дзе меў шмат спраў перад ад’ездам у Варшаву, а я толькі і чакаў, калі збяруцца кабеты, з якімі неўзабаве павінен быў паехаць за ім, але моцная залева сапсавала наш план, дык я паехаў адзін. Як жа я магу апісаць табе тое ўражанне, якое зрабіў на мяне адзін толькі выгляд гэтага знакамітага горада, які шыкоўна раскінуўся ў вялізнай даліне, перасечанай Віліяй і Вілейкай, аточаны вянком маляўнічых пагоркаў; выгляд тых старадаўніх будынкаў і святыняў, з якімі так шмат важных успамінаў звязана, выгляд, нарэшце, тых пясчаных пагоркаў, тых маўзалеяў, узведзеных Божаю рукою ў памяць пра знакамітых людзей і падзеяў? Вільня! Вільня! Ці ёсць для ліцвінскае душы якое іншае імя такое ж чароўнае? Ці ёсць іншае месца такое ж святое? Вільня! Дастаткова вымавіць гэтае слова, каб, нібы па магічным закляцці, амаль шэсць стагоддзяў паўсталі з магілы і год за годам прайшлі славутай працэсіяй перад вачыма твае душы, узносячы да неба і жахлівыя Пяруны, і крыж Езуса, грымучым голасам паганскіх капланаў і слуг Хрыстовых, і дзікаю песняю вайдэлотаў, і лютняю натхнёных вешчуноў, і хрыплым рэхам трубы Гедыміна, апранаючыся то ў *рысіныя шапкі і мядзведжыя шкуры*, то ў сталёвыя даспехі, то ў паважныя святарскія шаты.

Вільня! Гэта невычэрпная скарбніца найдаражэйшых рэліквій, гэта той *каўчэг запавету*, у якім больш за дзесяць пакаленняў складалі зброю сваіх рыцараў, *пражу сваіх перажыванняў і кветкі пачуццяў*... Колькі ж знакамітых дат, колькі ж славутых імёнаў звязана з гэтым местам! І ўсё тут надзейна захоўваецца не на старонках збуцвелых кніг, а ў жывым паданні, ад самых даўніх да навейшых, і як чалавечае сэрца, так мёртвыя муры і камяні, і кожная пядзя зямлі гучыць імі, алтары, на якіх ладзілі святую

[1] Гаворка пра Вінцэся Каратынскага (1831–1891) і артыкул У. Сыракомлі ў „Gazecie Warszawskiej” (1856, nr 149, 30.05/11.06) пра паэзію свайго сакратара ды падрыхтаваны да друку зборнік *Czem chata bogata tem rada*. Магчыма, А. Плуг ведаў таксама публікацыю ў ліпені 1856 г. у „Gazecie Warszawskiej” артыкула *Poezye Wincentego Korotyńskiego* з далучэннем дзевяці вершаў паэта (nr 205–208).

ахвяру Нарушэвіч, Сарбеўскі, амбоны, з якіх гучаў натхнёны голас Скаргі, палацы былых магнатаў, палац Барбары, каралеўскі замак, месца, дзе быў першы касцёл францысканцаў, знак іхнае пакуты (гара Трох крыжоў), магілы Вітаўта і Гедыміна, нязгасны агонь Зніча, вежа Крэва-Крывейты і, нарэшце, даліна Свентарога – вось струны тае цудоўнае эолавае арфы памяці, вось прыступкі чарадзейскіх сходаў, па якіх сыходзіць наш дух у таямнічыя глыбіні мінуўшчыны, якія зіхацяць адно вечным святым агнём і гучаць адно маркотнымі прароцтвамі паганскіх капланаў.

Але дарэмна б я стараўся даць табе хоць самы сціслы малюнак гісторыі гэтага горада, якому прысвяцілі цэлыя тамы Крашэўскі, Балінскі, Ярашэвіч, Нарбут, Гамаліцкі[1], з якіх калі б давялося мне выпісаць толькі імёны выбітных людзей, што бралі ўдзел у ёй, то і гэта трэба было спісаць некалькі старонак. Таму за лепшае лічу адаслаць цябе да *Przechadzek po Wilnie* Адама Кіркора[2], за якія ўсе неабыякавыя да айчынных памятак, а асабліва ліцвіны, сардэчную ўдзячнасць маюць. Гэта кніга, якую я раіў бы мець у руках кожнаму госцю Вільні, бо аніякі жывы праваднік не патрапіць яе замяніць, бо нават чалавеку, які грунтоўна абазнаны ў тэме, утрымаць у памяці, а прынамсі, згадаць у патрэбны момант столькі дэталяў, столькі цікавых і нават дарагіх дробязяў, якія знаходзяцца ў *Гедымінавым горадзе*, а тут дакладна занатаваныя.

Аўтар з катэдральнага пляцу (калісь даліны Свентарога), паказаўшы нам тры гары – Замкавую, Трох Крыжоў і Бекешавую – ды расказаўшы іхную гісторыю, вядзе нас у катэдру і, дэталёва пазнаёміўшы з ёю, крочыць з намі па самых важных вуліцах горада, апавядае гісторыю ўсіх касцёлаў і найбольш вядомых гмахаў, вядзе на прадмесце, паказвае кожную дэталь, годную ўвагі, і, пазнаёміўшы нас з жывым горадам, спускаецца ў *горад мёртвых*, стаіць з намі сярод могілак, і перад магіламі вялікіх людзей, крэсліць іхныя біяграфіі. Вярнуўшыся нарэшце ў горад, каб прыемна адпачыць пасля цікавых праходак, ён знаёміць нас з археалагічным музеем, з гэтай сапраўднай святыняю ліцвінскае памяці, і даўшы гісторыю яго ўзнікнення, называе яго скарбы ды тлумачыць іх.

*Археалагічны музей* размешчаны ў будынку былога ўніверсітэта, у зале публічных пасяджэнняў (Auli); ён быў заснаваны клопатамі графа Яўстаха Тышкевіча[3], чыя ўласная археалагічная калекцыя стала асноўным ядром гэтае ўстановы, якая менш чым за тры гады пасля яго зацвярджэння Найвышэйшаю ўладаю ўжо дасягнула такога развіцця, што вартыя захаплення і пашаны тая *добрая воля*, тыя высакародныя намаганні, якія так хутка і такі прыгожы далі плён. У жніўні 1857 г. археалагічная камісія

---

[1] Гаворка пра гісторыкаў і літаратараў, якія пісалі пра даўняе мінулае Літвы і Вільні – Юзафа Ярашэвіча (1793–1860), Тэадора Нарбута (1784–1864), Міхала Гамаліцкага (1791–1861).

[2] Гаворка пра Адама Кіркора (1819–1886) і ягоную кнігу *Przechadzki po Wilnie i jego okolicach*, выдадзеную ў 1856 г.

[3] Гаворка пра Яўстаха Тышкевіча (1814–1873), заснавальніка Віленскае археалагічнае камісіі (1855–1865) і Віленскага музея старажытнасцяў (1855–1915).

музея налічвала ўжо 97 сяброў, сярод іх: Балінскага, Ігнацы і Дамініка Ходзькаў, Ганку, Гэльцыя, кс. Гербурта, Гамаліцкага, Ярашэвіча, Ёхера, Кіркора, Крашэўскага, Кулакоўскага, Ляпкоўскага, Мацяёўскага, Сыракомлю, Шафарыка і многіх іншых вучоных мужоў, хоць і менш вядомых шырокай публіцы[1].

Археалагічная калекцыя музея налічвае больш за тры тысячы прадметаў, 114 партрэтаў польскіх каралёў і знакамітых дзеячаў, 1100 гравюраў на метале, на медных лістах і дрэварытаў, альбо выкананых знаёмымі мастакоў, альбо тых, што адносяцца да мясцовай гісторыі, больш за 3000 нумізматычных прадметаў, пераважна польскіх і ліцвінскіх, бібліятэку на 14 000 тамоў, цікавы аддзел памятных рэчаў. Апрача таго, у музеі ёсць арніталагічны кабінет, ахвяраваны Райнольдам Тызенгаўзам[2], а сабраны яго памерлым бацькам, у якім – 1093 птушкі.

Пасяджэнні камісіі адбываюцца 11 дня кожнага месяца. Выданнем археалагічных прац займаецца створаны для гэтай мэты асобны камітэт, які складаецца з пп. Балінскага, Гусева (дырэктара астранамічнае абсерваторыі)[3], Кіркора і Сыракомлі. Археалагічныя працы рэдагуюць кс. прэлат Гербурт і Маўрыцы Круповіч[4].

Забыўшыся на паслядоўнасць падзей, я міжволі пачаў гаварыць найперш пра Віленскі музей, бо, насамрэч, яму справядліва аддаецца прыярытэт перад усім астатнім. Было б смешна, калі б у мяне ўзнікла спакуса зрабіць новыя адкрыцці, адважыцца на новыя даследаванні гісторыі гэтага горада, таксама, каб я хацеў пераказваць працы навукоўцаў, якія гэтым займаліся, тым больш, што, занатоўваючы для цябе ўражанні з мае вандроўкі, я і не думаў пра гістарычныя даследаванні, маючы перш-наперш на мэце не мінулае, а сённяшні дзень, не мёртвыя рэчы, а галоўным чынам – людзей і высакародныя праявы іхнага жыцця. Дык слушна, што на першым плане маіх віленскіх успамінаў быў музей, бо ён таксама з’яўляецца найлепшай прыкметай і найслаўнейшым доказам таго, што тут яшчэ не забытыя высокія мэты чалавечага існавання, што забава ці спекуляцыя – гэта не адзінае натхненне сэрцаў. Яго заснаванне павінна ўславіць імя Яўстаха Тышкевіча, бо дзякуючы ягоным намаганням і ахвярам, не толькі ўтварыўся новы асяродак дзеля высвятлення айчыннае гісторыі, не толькі з’явіліся новыя дапаможныя сродкі дзеля развіцця навукі, не толькі з’явіў-

---

[1] А. Плуг называе прозвішчы вядомых айчынных і замежных літаратараў ды навукоўцаў: Дамініка Ходзькі (1796–1863), Вацлава Ганкі (1791–1861), кс. Мамерта Гербурта (1788–1873), Адама Ёхера (1791–1860), Ігнацы Кулакоўскага (1800–1870), Юзафа Лапкоўскага (1826–1894), Вацлава Аляксандра Мацяёўскага (1792–1883).

[2] Гаворка пра Райнольда Тызенгаўза (1830–1880), сына вядомага арнітолага Канстанціна Тызенгаўза (1786–1853).

[3] Гаворка пра астранома Мацвея Гусева (1826–1866), які з 1852 г. працаваў у Вільні.

[4] Гаворка пра гісторыка Маўрыцы Круповіча (1823–1891), які выдаў *Zbiór dyplomatów rządowych i aktów prywatnych, posługujących do rozjaśnienia dziejów Litwy i złączonych z nią krajów od 1387 do 1710 r.* (Wilna 1858) і інш.

ся новы стымул дзеля інтэлектуальнага руху, але, перш за ўсё, старая сталіца Літвы, гэтая паважная святыня шасцівяковых рэліквій нібыта атрымала шыкоўны купал, дзякуючы гэтай цудоўнай установе, якая, прыцягваючы да сябе і апякуючыся раней рассыпанымі па ўсім краі, няраз змарнаваныя помнікі даўніны, разам з імі ахоўвае і гмах, дзе яна знаходзіцца, і які з'яўляецца адным з самых дарагіх нацыянальных помнікаў.

Трэба спадзявацца (а кожны пачцівы чалавек павінен жадаць гэтага ўсёю душою), што з цягам часу археалагічны музей разрасцецца да вялікіх памераў і стане агменем усіх прамянёў разумовага жыцця тутэйшых правінцый[1]. Гэта можна прадказваць па ўсім, а найбольш па тым шчырым, сардэчным энтузіязме, з якім шырокая грамадскасць прымае ўдзел у гэтай справе. Прынамсі, падчас майго побыту ў Вільні ў кожнай паважнай размове музей, можна сказаць, быў галоўнай тэмай, амаль у кожным доме знаходзіліся сведчанні руплівае працы і замілавання гэтаю справаю, і я не сумняваюся, што так ёсць і па сённяшні дзень, што так будзе заўсёды.

[VIII]

Але хопіць ужо пра гэта, вернемся ў горад. Я ўжо казаў, што не збіраюся даваць табе ні гістарычнага, ні тапаграфічнага, ні статыстычнага агляду горада, не буду нават апісваць яго касцёлы і палацы, бо ўсё гэта ты знойдзеш у кнігах і без мяне. Адзначу толькі коратка, што з пункту гледжання маляўнічасці месцазнаходжання я ніколі не бачыў нічога такога прыгожага! Вада, лес, пагоркі – што яшчэ трэба дзеля пагляднасці малюнка? І ўсё на сваім месцы, нібы знарок расстаўленае. У горадзе зліваюцца дзве ракі, акружае яго ланцуг пагоркаў, сыходзіцца хваёвы бор з яго садамі – дзівосны горад кладзе галаву на ўлонне чароўнае вёскі. Я не цярплю горад, напэўна, у якасці пакарання мне давялося б жыць у ім, але Вільню я ахвотна б прыняў – столькі ў ёй вясковай прывабнасці.

З віленскіх касцёлаў мяне найбольш зацікавілі: 1) Цудоўны кафедральны сабор, з яго чысцінёй і паважнасцю будовы і велічнасцю інтэр'еру, дзе знаходзіцца дзівосная капліца св. Казіміра. 2) Касцёл св. Ганны, маленькі, нібы мадэль для большае святыні, але сапраўдны цуд, шэдэўр гатычнае архітэктуры, увесь з цёмна-чырвонае цэглы, адмыслова зробленае ў адпаведнасці з планам дзеля тых пінакляў, карнізаў, лукаў, арабесак, разетак, з якіх гэтая чарадзейная будова створана, такая лёгкая, такая зграбная і гарманічная: цяжка паверыць, што яна была складзеная чалавечымі рукамі, цаглінка за цаглінкай, каб – урэшце складзеная – такая празрыстая і гнуткая, прастаяла столькі стагоддзяў, калі думаеш, што любая мацнейшая бура павінна была зрынуць і рассеяць яе. Нездарма Напалеон, убачыўшы гэты касцёл, усклікнуў у захапленні: "Я на сваёй бы далоні перанёс яго ў Парыж…". О! А я... я, каб трэба было, паклаў сваю галаву пад яго падмурак, абы ён стаяў дзеля славы Божае і дзеля аздобы нашае дарагое зямлі на векі вякоў.

[1] Урачыстае адкрыццё Віленскага музея старажытнасцяў адбылося 17/29 красавіка 1856 г.

3). Касцёл святых Пятра і Паўла на Антокалі. Чым касцёл св. Ганны звонку, тым для мяне гэтая святыня ўнутры, і нават болей, бо тут больш выразная, зразумелая мова творчага духу. Уяві сабе дзве тысячы гіпсавых фігураў: ці то статуй, ці то барэльефаў, якія ад долу да стропаў упрыгожваюць усе капліцы і нефы касцёла, размешчаныя ў віртуозна праўдзівыя выявы з асобных гісторый Бога і апосталаў. У экстазе летуценнае душы чалавек думае, што ўсё грона святых і хоры анёлаў дыхаюць сапраўдным жыццём, што яны заўважна рухаюцца, што з іхных вуснаў гучыць цудоўны гімн, і чалавек бачыць сябе ў раі наяве, і глядзіць як тая блаславёная Ленартовіча[1] на цуды нябеснае славы.

Фундатарам гэтага касцёла, узведзенага паводле легенды на месцы капішча багіні Мілды, быў вялікі гетман літоўскі Міхал Пац (1668 г.), успамін пра што захаваўся да нашых дзён у надпісе-каламбуры на фасадзе гэтага касцёла: REGINA PACIS, FUNDA NOS IN PACE[2], праект выканаў архітэктар Ян Каор, гіпсавыя фігуры – Пётр Перэці з Мілана і Ян Халі з Рыму. На вонкавай сцяне гэтае святыні маецца нядбалая ў выкананні, але фантастычная сваёй ідэяй і вартая аздобіць *Uwagi o śmierci niechybnej* кс. Бакі[3], выява пошасці ў Вільні ў 1710 годзе, дзе страшная смерць, стоячы сярод натоўпу людзей, косіць яго, як траву, не пытаючыся ні ўзросту, ні полу, ні стану.

Памінаючы астатнія касцёлы, хоць кожны з іх варты ўвагі ці то праз гістарычныя памяткі, да яго прывязаныя, ці то праз абразы знаных нацыянальных майстроў (усё гэта ты знойдзеш у Кіркора), я толькі спынюся з урачыстым, самым глыбокім і пяшчотным паклонам перад цудоўнай капліцай Маці Божае Вастрабрамскае. Праз гэту браму дарога вяла мяне ў Вільню, праз яе я ўвайшоў у горад з голай галавою, з малітваю на вуснах, з урачыстаю думкаю, са шчасным пачуццём у сэрцы і ўкленчыў на бруку вуліцы, і вочы, залітыя слязьмі, узняў да *Суцяшальніцы засмучаных*, абраз якое залатымі промнямі кароны ззяў праз шкляныя дзверы капліцы, і, страціўшы думку, веды і працяг малітвы, урачыста і з вялікай душэўнай трывогай пакланіўся і падзякаваў Маці Божай.

Узнёслы і кранальны малюнак тае пашаны, якая тут стала складаецца спакон вякоў, бо няма аніводнае гадзіны, не бывае, можна сказаць, хвіліны ў дзень, каб хтосьці з мінакоў не ўкленчыў ці, прынамсі, не апусціў галавы на гэтай вуліцы, якая падчас святое імшы перад Маці Божай у надбрамнай капліцы ўся запоўненая ўкленчаным пабожным людам і становіцца падобная да сапраўднага касцёла.

Але вярнуся да ўспамінаў. Увайшоўшы праз Вострую Браму і памаліўшыся хвіліну, я ледзь сеў зноў у брычку і яшчэ не адказаў *ямшчыку* на

---

[1] Маецца на ўвазе франтыспіс да паэмаў Тэафіля Ленартовіча (1822–1893) *Zachwycenie* і *Błogosławiona* (1854).

[2] Каралева міру, умацуй нас у міры.

[3] Гаворка пра Юзафа Баку (1706–1780) і ягоную паэму *Uwagi o śmierci niechybnej wszystkim pospolitej wierszem wyrażone*, апублікаваную ананімна ў Вільні ў 1766 г.

пытанне, куды ён мусіць мяне вязці, як каляска загрукатала па бруку, а ў ёй я ўбачыў Сыракомлю, які, забраўшы мяне з сабою, адразу ж павёз мяне ў самае сэрца горада, ад вуліцы да вуліцы, паказваючы найбольш знакамітыя пляцы, святыні ды гмахі і апавядаючы іхныя гісторыі. Нарэшце мы спыніліся перад кватэрай аднаго з ягоных сяброў, пана Казіміра Пашкоўскага[1], дзе і пасяліліся, размясціўшыся як у сваім доме. Мне прыемна ўспамінаць сардэчную гасціннасць, якую я адчуваў у яго на працягу ўсяго тыдня майго побыту ў Вільні, і неацэнную прыязнасць, з якой ён прысвячаў мне свой час, суправаджаючы мяне ў вандроўках па горадзе і дапамагаючы наладжваць дачыненні з тымі, з кім я хацеў пазнаёміцца.

Адно з першых маіх знаёмстваў было з былым выдаўцом „Wizerunków naukowych", а сёння „Teki Wileńskiej", сябрам археалагічнае камісіі, панам Адамам Кіркорам (Янам са Слівіна). Я мала ведаю людзей, якія б з такім запалам, з такім энтузіязмам аддаваліся сваёй справе, як ён адданы археалогіі. Кабінет яго поўны археалагічных знаходак і розных помнікаў даўніны, манет і медаляў, статуэтак, урнаў, начыння для слёз, мячоў, стрэлаў, сякер, фрагментаў даспехаў і ваеннага рыштунку, жаночых строяў і г. д. За некалькі дзён да майго прыезду Кіркор вярнуўся з археалагічнае экспедыцыі і прывёз з раскапаных курганоў мноства цікавых прадметаў, якімі ён цешыўся і ганарыўся, нібы найвялікшым *характэрам*[2]. Апрача таго, у пана Кіркора ёсць вельмі добрая калекцыя партрэтаў і аўтографаў знаных людзей, якую я таксама з вялікім задавальненнем агледзеў, шкадуючы толькі, што не паспеў разгледзець яе лепш, бо гэтая калекцыя налічвае цяпер не дзясяткі ці сотні, але ўжо тысячы рэчаў.

У доме пана Кіркора, дзе я правёў некалькі гадзін (якія я з удзячнасцю доўга ўспамінаў) за займальнай, непараўнальнай, поўнай сардэчнае шчырасці гасціннасці высакароднага гаспадара, сярод багацця прадметаў, якія давалі невычэрпны змест для самай прыемнай размовы, там сустрэў і знакамітага гісторыка Літвы Тэадора Нарбута. Я сустрэўся з ім раней у кнігарні, і не ведаю, што шапнула мне: гэты паважны стары з прыгожым, разумным тварам, узнёслым шырокім чолам і вялікімі светлымі вачыма не хто іншы, як Нарбут. Калі ён выйшаў, кнігар пацвердзіў маю здагадку. Я спытаўся ў яго, ці ведае, дзе той кватаруе, калі прыязджае ў Вільню, але, на вялікі мой жаль, ён не мог мне дапамагчы. Дык вось, уяві сабе, як я цешыўся, калі атрымаў ад пана Кіркора запрашэнне на абед з тым дадаткам, што пазнаёмлюся на ім з Нарбутам. І сапраўды, дзякуючы пану Кіркору, я займеў такое прыемнае для мяне знаёмства.

Нарбуту ўжо больш за семдзесят гадоў, і здаровае, румянае аблічча на больш не паказвае, але белыя, як снег, валасы і павольныя рухі надаюць яму выгляд непараўнальна старэйшы. Ён гаворыць вельмі прыемна, у голасе, у позірку, ва ўсмешцы шмат непараўнальнае слодычы, але гледзячы на яго, нейкая дзіўная пяшчота напаўняе душу, бо трэба табе ведаць, што

---

[1] Гаворка пра намесніка старшыні Віленскае палаты цывільнага суда Казіміра Пашкоўскага (1822–1878), аднаго з супрацоўнікаў А. Кіркора.

[2] Літара, лічба, кабалістычны ці чарадзейскі знак.

гэты шляхетны стары чалавек цалкам пазбаўлены слыху. З ім можна размаўляць толькі пісьмова, і хоць гэта адбываецца вельмі хутка, бо некалькіх слоў дастаткова для думкі, некалькіх літар дастаткова для слова, каб адгадаць астатняе, настолькі востры яго розум, але ніколі гэта не заменіць вуснае гутаркі. У той час ён меў пры сабе свой дагератып, толькі што зняты на просьбу Фаянса дзеля „Wizerunków Polskich”[1], але мы ўсе прасілі яго не адсылаць, бо ён быў вельмі няўдалы, зроблены ў *en face*, зусім размываў прыгожыя і далікатныя рысы профілю і найбольш змяняў поўную характэрнасці і статнасці форму злёгку арлінага носа.

Нягледзячы на пажылы век і сумнае калецтва, гэты навуковец нястомна займаецца гістарычнымі даследаваннямі і актыўна ўдзельнічае ў працы археалагічнае камісіі, дзе яго важкае меркаванне мае вялікае значэнне. Сумна думаць, як у нас нават самыя вялікія заслугі не абараняюць ад публічнае знявагі, ад з’едлівых прыдзірак. Я не пярэчу, што *Historja Litwy* пана Нарбута можа мець шмат памылак, але ці ёсць такая, якую можна прыняць за Евангелле? І калі нават у гісторыі найноўшага часу, якая абапіраецца на шматлікія дакументы, на шматлікія працы папярэднікаў, цяжка пазбегнуць памылак, дык што казаць пра тыя часы, дзе толькі руіны, курганы, вольная этымалогія – адзіныя крыніцы для гістарыёграфа, які спрабуе ісці па цаліку, пра які старыя летапісы падаюць больш казак, чым праўды? Так што слушна пазнейшым працаўнікам гэтае нівы выпраўляць і тлумачыць памылкі сваіх папярэднікаў, але як зразумець, чым апраўдаць той з’едлівы тон, тую дзіўную заўзятасць, з якою ў апошні час асуджаюць Нарбута? І калі б гэта зыходзіла ад людзей, якія не ведаюць важнасці і цяжкасцяў гістарычных даследаванняў, асабліва такое чароўнае мінуўшчыны, як літоўская, але не, тыя, што з такім гарачым гневам пазбаўляюць усялякае вартасці яго пошукі, самі выдатна ведаюць, якая цярністая і зманлівая дарога, па якой яны ідуць з высакародным запалам і, безумоўна, не асмеляцца прысягнуць, што ўжо стаяць ля крыніцы праўды і што іх наступнікі не пойдуць іншым, лепшым шляхам.

[IX]

Адначасна з панам Нарбутам у доме Кіркора я пазнаёміўся і з панам Гусевым, дырэктарам астранамічнае абсерваторыі, пра навуковыя працы якога ты мусіў раней чытаць артыкул Вацлава П.[2] у „Gazecie Warszawskiej”, што тады быў заняты важным даследаваннем пра старажытны ліцвінскі каляндар, сёння ўжо апублікаваным у „Pamiętniku kommissji archeologicznej”[3]. Гэта малады чалавек, поўны энтузіязму і замілавання да свае навуковае справы.

[1] Гаворка пра фатографа і літографа Максімільяна Фаянса (1825–1890) і выдаваныя ім у 1851–1863 гг. *Wizerunki polskie* (14 сшыткаў).

[2] Відаць, Вацлава Пшыбыльскага.

[3] Маецца на ўвазе двухмоўнае выданне “Записки Виленской археологической коммиссии – Pamiętniki Kommissji Archeologicznej Wileńskiej” (1856–1858).

З Вільчынскім[1] я пазнаёміўся ў яго ўласным доме, у сапраўднай скарбніцы цудоўных карцін, гравюр і літаграфій. Гэта чалавек вялікае энергіі духу і стойкасці ў прыгожай прафесіі, якой ён горача аддае сябе, не шкадуючы ані сіл, ані бязмерных коштаў, можна сказаць, шалёных, на фундушы, зробленых уласнай працай. Цудоўны ягоны альбом, у якім змяшчаецца: больш за дзясятак выдатных партрэтаў (сярод якіх Крашэўскі і Манюшка вылучаюцца трапнасцю ў падабенстве), шмат вельмі прыгожых краявідаў, асабліва з ваколіцаў Вільні, шмат гістарычных карцінаў, цудоўныя сцэны з *Pamiętników* Паска і *Kwestarza* (майстэрская кампазіцыя Залескага) і мноства мілых выяваў святых, скапіяваныя з абразоў, якія знаходзяцца ці то ў віленскіх, ці то ў іншых нашых айчынных святынях, якія шануюцца альбо як творы нацыянальных мастакоў, альбо як рэчы асаблівага гонару ў нашым краі; гэты цудоўны альбом, кажу, пастаянна павялічваецца, узбагачаючыся раз-пораз новымі помнікамі, ні ў чым не саступаючы даўнейшым, і слушна можна сказаць, што з'яўляецца нашаю айчыннаю хвалою, за якую ўсе мы абавязаны пану Вільчынскаму. Хацелася б толькі, каб такая паважаная рэч распаўсюджвалася па ўсім краі, каб, прынамсі тыя, хто ахвотна купляюць кожную замежную ілюстрацыю, не шкадавалі грошай на *Album Wileńskie*, які, вядома, не сорамна будзе параўнаць з найпрыгажэйшымі замежнымі выданнямі падобнага роду.

Да гэтага часу найбольш разышлося выяваў святых, і можна спадзявацца, што яны з часам канчаткова выцісн уць са шляхецкіх двароў і малітоўнікаў тую мазню, якая з'яўляецца толькі прафанацыяй мастацтва і святасці.

Пан Вільчынскі паказваў мне таксама прыгожае распяцце, зробленае з дрэва долатам майстра, сказаўшы, што ён паслаў яшчэ больш прыгожае ў Парыж, каб зрабілі з яго бронзавую адліўку, якую ён хоча распаўсюдзіць па ўсім краі. Не ведаю, ці гэта ўжо здзейснілася, але шчыра павітаў гэтую добрую і такую пажаданую навіну, бо ўсе ведаюць, як цяжка ў нас знайсці прыгожае распяцце, і якія жахлівыя фігуры мы звычайна сустракаем нават у самых значных касцёлах. Пасля мы перайшлі да размовы пра прыдарожныя крыжы, на якіх выява Хрыста звычайна настолькі жахлівая, што выклікае не хвалу, а абурэнне, хоць пабожныя не шкадуюць грошай на гэтыя шчырыя *vota*, бо самая лепшая драўляная фігура каштуе не менш, чым некалькі рублёў, а што ўжо казаць пра распісаныя і пазалочаныя? Бадай, не больш трэба было б заплаціць за адліўку з цынку. Як бы гэта было слаўна, якую ўдзячнасць здабыў бы той ад усяго народа, хто першы ўвёў бы ў нашае жыццё такія адлівы. Было б і хараша, і трывала, не сустракалі б мы больш пры дарогах тых абразоў, на якіх часам цяжка пазнаць не толькі што-небудзь боскае, а нават самае звычайнае чалавечае аблічча, асабліва калі дрэва яшчэ згніе ці рассохнецца, патрэскаецца, паадвальваюцца рукі, адколецца нос і вушы і г. д. Пробашчы маглі б мець у сябе склад цынкавых адлівак і рэкамендаваць сваім прыхаджанам, каб тыя, хто

[1] Гаворка пра Яна Казіміра Вільчынскага (1806–1885) і выдаваны ім ў 1845–1875 гг. *Album Wileńskie*.

жадае паставіць крыж для памнажэння славы Хрыстовае, карысталіся такімі, а не іншымі фігурамі.

І не спрабую апісваць табе незлічонае багацце мастацкіх збораў пана Вільчынскага, згадаю толькі яшчэ пра цудоўныя, толькі што прысланыя яму з Парыжа хромалітаграфіі *польскіх гербаў*, прызначаныя для планаванага новага гербоўніка. Тут не месца, каб разважаць пра тое, ці актуальная сёння такая публікацыя? І з якога пункту гледжання магла б мець вартасць? І як гэта трэба выканаць? Бо пра гэта фельетоны трэба пісаць, калі ж мы згадалі пра гербоўнік, дык няхай дазволена будзе нам, хоць коратка, заўважыць, што як само паўтарэнне якога-небудзь з даўнейшых, так і з дадаткам гісторыі шляхецкіх родаў да сённяшняга дня, не вартае было б такое шыкоўнае аздобы, якую рыхтуе пан Вільчынскі для яго ў сваіх табліцах. Бо, як і ў даўніх ёсць шмат імёнаў, якія, нягледзячы на велічнасць тытулаў, не ззяюць належным бляскам велічных чынаў, дык і ў працягу ўсё было б неадпаведна пачатку.

Для нашае сучаснае эпохі патрэбны іншы гербоўнік, бо іншыя ў ёй заслугі і слава... Дык, уважаючы гербоўнік толькі за нацыянальную і сямейную памятку, а не як збор генеалагічных ці гістарычных матэрыялаў, было б лепш зрабіць яго такім чынам, як гэта выдатна падаў Крашэўскі, калі пісаў пра паэтычны характар геральдычных паданняў, альбо надаць яму паэтычную форму і размясціць рапсоды ў храналагічным парадку ў вялікі эпас...

Францішак Кавальскі[1] паспрабаваў зрабіць гэта і некаторыя легенды, вядомыя мне ў рукапісе, атрымаліся ў яго добра[2]. Праца такога кшталту, аздобленая хромалітаграфіямі пана Вільчынскага, несумненна, знайшла б шмат прыхільнікаў і хутчэй бы стала больш папулярнаю, чым гербоўнік *па serjo*, вялікі аб'ём і дарагія гравюры якога мусілі б значна павялічыць кошт і зрабіць яго недаступным для грамадскасці.

Я не сумняваюся, што ты хочаш, каб я расказаў што-небудзь і пра Манюшку, пра таго *музыку*-чараўніка, які *грае на нашых сэрцах*, чыя чароўная песня ці то ў кшталце велічнага гімна Богу, ці то цудоўнае кантаты, ці то сумнае альбо вясёлае, але заўсёды бадзёрае мазуркі, ці то кракавяка, ці то простае народнае песні – заўсёды поўная сілы, самабытнасці, заўсёды зразумелая душы слухача. Я пазнаёміўся з ім, хоць гэта не было проста, бо колькі разоў вяртаўся ад ягоных дзвярэй сумны, не застаючы яго дома, дзе ён толькі нядоўга адпачывае пасля стамляльных заняткаў з вучнямі. Нядоўга я таксама мог цешыцца ягоным таварыствам і з сардэчным жалем незадаволенай гэтым душы пакінуў Вільню; але ўдача ўзнагародзіла мяне, бо ў Мінску я зноў спаткаўся з дарагім майстрам і правёў у яго таварыстве некалькі дзён. Ён з тых рэдкіх людзей, каго завочна палюбіўшы за ягоныя творы, пацвярджаеш гэтае пачуццё пасля асабістага знаёмства. Гэта прыгожая рыса, бо ў ёй бачны доказ таго, што Творца ўклаў усю сваю душу

[1] Гаворка пра паэта і перакладніка Францішка Кавальскага (1799–1862); у 1850-я гг. ён жыў у Тульчыне Вінніцкае губерні.

[2] "Колькі з тых легендаў «Kronika» надрукавала ў 1857 годзе". (*Прыпіс рэд. „Kron.*").

ў свае творы, і прыгожую душу, калі сябе любіць змушае. Як чалавек таварыскі, Манюшка надзвычай прыемны, у яго манерах спакой і годнасць разам са шчырай прастатой; у размове тое самае, нічога вымушанага, зусім нічога, чаго б у душы не было, ані кроплі фальшывае напышлівасці, ані следу смешнае фанабэрыі, паказное велічы і самалюбавання сваёй веліччу, толькі свабода, натуральнасць ды нязмушаны і прыемны досціп.

Як грамадскаму дзеячу яму належаць невымерныя заслугі ў развіцці краёвае музыкі. Ягоныя песні, праўда, да гэтага часу толькі ў Літве маюць сапраўдных знаўцаў і аматараў (а ў іх годных інтэрпрэтатараў); кантаты, якія патрабуюць для выканання добрага аркестра і хору, амаль невядомыя шырокай публіцы, і няраз горкая думка нараджаецца ў душы: шкада такога таленту для нашага немузычнага краю, але тым большая яму слава, што ў такіх неспрыяльных абставінах ён вырас у такога волата, тым большая надзея на будучыню. Дай Бог, каб наша публіка з часам спазнала ўсё значэнне твораў Манюшкі. Сёння пра гэта яшчэ цяжка і марыць; асабліва ягоныя кантаты і касцельная музыка – сапраўдныя заклятыя скарбы для нас, бо нават у сядзібе самога майстра – у Вільні, пры ягоным замілаванні мастацтвам, пры ягоных настойлівых намаганнях – усё гэтаму супрацьстаіць, бо для годнае пастаноўкі свае *Miłdy* ён мусіў шукаць Пецярбурга, а для *Halki* – Варшавы. Заўсёды, аднак, што ў Вільні ёсць музычнага, то ўсё гэта плён цяжкае працы Манюшкі, плён гэтае сапраўды жалезнае ў сваёй прафесіі настойлівасці, ад якое ён ніколі і ў нічым не адмаўляецца.

Прыемна мне таксама згадаць і пра сваё знаёмства з Вацлавам Пшыбыльскім, адным з найбольш актыўных супрацоўнікаў „Gazety Warszawskiej", які ў сваіх карэспандэнцыях праўдзіва адлюстроўвае разумовы рух у Вільні і таварыскае жыццё ў ёй (наколькі гэта магчыма зрабіць ва ўмовах нашага грамадства). Гэта руплівы працаўнік і нястомны, пры цяжкай настаўніцкай працы ён можа толькі ў хвіліны адпачынку аддацца літаратурным заняткам, а ўсю сваю маладосць ён прысвячае паважнай і карыснай справе.

У ягоным доме я сустрэўся і пазнаёміўся з выдаўцом *Bajarza Polskiego* панам Глінскім[1]. Гэта душа, поўная дзіцячае прастаты, весялосці і наіўнасці; уяўленне бязмерна жывое і фантастычнае відаць у ягонай рухавай фізіяноміі і ў прамяністых вачах. Толькі такі чалавек мог узяцца і выконваць такую працу, як збор народных казак і паданняў. Яго абвінавацілі ў тым, што ён выдаў іх без крытычнага нарысу, што ён перайначыў іх сваёю апрацоўкаю; гэтая заўвага была б паважнаю, каб пан Глінскі меў намер збіраць матэрыялы для гістарычных даследаванняў паводле помнікаў даўніх прымхаў і забабонаў нашага люду, але ж думаў ён толькі пра простае паўтарэнне ў форме максімальна набліжанай да той, у якой звычайна бытуюць гэтыя казкі і паданні, што яго займала толькі паэтычная народная фантазія. Так выдадзены *Bajarz* мае сваё значэнне і вартасць, і,

[1] Гаворка пра сялянскага сына са Шчорсаў Антоні Юзафа Глінскага (1817–1866) і выдадзены ім у 1853 г. чатырохтомны зборнік казак і паданняў *Bajarz polski*.

забаўляючы дзяцей, нагадваючы старэйшым пра чароўныя гады дзяцінства, ён можа паслужыць паэту выдатным матэрыялам для нейкага новага шалёнага Арланда[1], раманісту – аздобаю да народнае аповесці. У сваім партфелі пан Глінскі мае яшчэ багаты збор падобнага, які пастаянна папаўняе, бо з натхненнем палюе за гэтымі казкамі і ловіць іх дзе толькі можа.

[X]

Адзін з маіх самых дарагіх успамінаў – знаёмства з панам Валяр'янам Тамашэвічам[2], якога ты, пэўна, ведаеш па добрым артыкуле пра польскі слоўнік, апублікаваным у газеце, і па іншых навуковых працах, ці то арыгінальных, ці то перакладных. Гэта чалавек выдатных здольнасцяў і грунтоўнае навукі, вельмі шкада, што сёння, абцяжараны супрацоўніцтвам з *Słownikiem Polskim*, які выдае Маўрыцы Аргельбранд, ён зусім не друкуецца на старонках газет[3].

Цяжка, каб Рамуальд Зянкевіч[4], з якім я пазнаёміўся ў гасцінным доме пана і пані Р., дзе мы з Сыракомлем і Пшыбыльскім правялі вельмі прыемны вечар, не абудзіў у самым халодным сэрцы самага чулага спачування. Ты павінен ведаць яго зборнік песень, а таксама апісанне нораваў, звычаяў, забабонаў пінчукоў, і я не сумняваюся, што ты ацаніў гэтыя працы, як яны таго заслугоўваюць, але яшчэ больш, напэўна, шанаваў бы іх, каб ведаў, што яны – плён працы чалавека цалкам сляпога, які толькі кіем шукае дарогу ў вечнай цемры, у якую Бог змясціў яго пачуццёвы свет... Адзіная яму пацеха – прамяністае святло краіны духу, дзе ён з задавальненнем жыве, а шмат хто з самым добрым зрокам не мае тых навуковых рэсурсаў і такога ведання сучаснага інтэлектуальнага руху, як ён са сваім datклівым калецтвам.

На завяршэнне маіх мілых віленскіх успамінаў я прыхаваў Адынца[5], гэтага высакароднага творцу *Felicyty* і *Barbary*. Я наведаў яго ў ягоным летнім доміку ў маляўнічым і, бадай, самым прыгожым прадмесці Паплавы. Я з пяшчотнай удзячнасцю ўспамінаю той сардэчны прыём, які меў у ягоным доме, той гонар, які ён засведчыў мне, чытаючы некалькі ўрыў-

---

[1] Гаворка пра героя паэмы *Неўтаймаваны Арланд* (*Orlando Furioso*, 1516) італьянскага паэта Людовіка Арыёста (1474–1533).

[2] Гаворка пра актыўнага ўдзельніка навуковага і літаратурнага руху ў Вільні ў 1850-я гг. Валяр'яна Тамашэвіча (1819–1861).

[3] "Цяпер, здаецца, ён нават не працуе ў рэдакцыі *Słownika*, бо страшнае няшчасце (страта зроку) не дазваляе яму займацца навуковаю працаю, а з гэтай прычыны наша пісьменства шмат траціць" (*Заўвага Ю. Барташэвіча*).

[4] Гаворка пра фалькларыста і настаўніка Рамуальда Зянкевіча (1811–1868) і выдадзены ім зборнік *Piosenki gminne ludu Pińskiego* (1851), а таксама артыкул *O uroczyskach i zwyczajach ludu pińskiego, oraz o charakterze jego pieśni* („Biblioteka Warszawska" 1852, t. IV; 1853, t. I).

[5] Гаворка пра паэта-філамата і выдаўца Антоні Эдварда Адынца (1804–1885) і апублікаваную ў 1858 г. ягоную драму *Barbara Radziwiłłówna czyli Początek panowania Zygmunta-Augusta : poema dramatyczne w sześciu aktach, z prologiem*.

каў са сваёй *Barbary*. Гэта драма непараўнальнае прыгажосці і, смела магу сказаць, адзіная ў нашай літаратуры. Я нічога не кажу пра класічную дасканаласць формы, праўдзівую паэтычнасць мовы, поўную прастаты, узнёсласці і змагарнае сілы, нічога не кажу таксама пра значных персанажаў: Тарноўскага, Мацяёўскага, Кміцінай (Ганны Гуркі), цудоўны тып польскае матроны, нічога не кажу пра вялікія сцэны бурных соймавых пасяджэнняў, нічога не кажу нават пра майстэрскае разуменне і перададанне духу тае слаўнае эпохі, але якое ж гэта хараство галоўнае ідэі драмы, якая ж душа ўкладзеная ў Барбару! Ейны характар тут падзелены на дзве эпохі: да самотнага адзіноцтва ў замку ў Дубінках, дзе малітва, роздум і добрыя справы прынеслі ёй Божую ласку і далі ўяўленне пра абавязак.

У другую эпоху яна ўжо не звычайная жанчына, не звычайная каханка, а ўвасоблены Божы голас, які звяртаецца да сумлення Аўгуста, не каханага мужа, а караля, які дзеля дабра Айчыны павінен забыцца пра ўсё астатняе, ахвяраваць усім. У выніку гэтае высакароднае ідэі, гэтага нябеснага промня, Барбара – вобраз, здавалася б, такі вычарпаны, выкарыстаны, пад пяром Адынца стаўся зусім свежым, новым, цудоўным. Вельмі падабаецца мне і заканчэнне гэтае драмы не смерцю, а трыумфам; у захапленні я ад апошняе сцэны, дзе малады Ян Каханоўскі, якога каралева заручыла з Досяй, бласлаўляе ў навуковае падарожжа ў Італію, жадаючы, каб пасля вяртання ён прынёс славу сваёй айчыне; калі ўвесь двор і каралева пайшлі, ён, застаўшыся адзін, ахоплены ейнаю дабрынёй і ласкаю, адчувае прарочым духам, што хвіліны Барбары ўжо палічаныя, пранікае зрокам праз стагоддзі, і са слязьмі, з болем у сэрцы, прамаўляе страшнае прароцтва, што ў ёй забітая апошняя надзея Ягелонаў.

Сёння Адынец павінен мець блізу пяцідзесяці гадоў, а выглядае яшчэ свежа, нават молада. Ён сярэдняга росту, мае хударлявую постаць, рухі жвавыя, твар смуглявы, чола ўзнёслае, напалову прыкрытае чорнымі валасамі, нос арліны, вочы чорныя, поўныя агню, у левым – нейкая нервовая дрыготка, дакладней, міргатанне, што надае твару асаблівую выразнасць. Ён гаворыць з запалам, з натхненнем, з высокім поглядам на мастацтва і грамадства, з тым сапраўды хрысціянскім духам, які пануе ў *Felicycie*, з самазабыццём, з поўным адмаўленнем сябе. Памяць мае выдатную, калі ён чытаў *Barbarę*, рукапіс ляжаў перад ім толькі дзеля віду, бо ўсё гэта ведае на памяць, хоць і не вучыў адмыслова. Калі ён працаваў над сваімі перакладамі, то як ішоў на шпацыр, найчасцей браў з сабою арыгінал, чытаючы які, у думках перакладаў з яго цэлыя песні, а калі вяртаўся дадому, то толькі перапісваў гатовыя. Як я ўжо казаў табе, Паплавы – адна з найпрыгажэйшых віленскіх ваколіц; непадалёку ад дома Адынца цягнецца пас пагоркаў, парослых хваёвым лесам, з якога адкрываецца прыгожы шырокі від на маляўнічыя берагі Вілейкі, на ўвесь цудоўны горад і далёкія зялёныя пагоркі.

Гэта звыклае месца для праходак і, можна сказаць, любімая майстэрня Адынца, бо менавіта тут ён часцей за ўсё творыць у думках свае вершы. Я быў там з ім разам і захапляўся прыгажосцю гэтага ціхага кутка, а яшчэ больш – чароўнаю гутаркаю з маім дарагім таварышам, падчас якое мы

незаўважна прайшлі некалькі вёрстаў, пакуль змрок не папярэдзіў нас, што пара вяртацца.

Вось і ўсе мае віленскія літаратурныя знаёмасці: графа Я. Тышкевіча і Маліноўскага[1] ў той час не было ў горадзе, Балінскі прыязджае ў Вільню толькі ў госці, а наведаць яго ў вёсцы ў мяне не было часу, з Адамовічам, Здановічам, Філіповічам, Богушам Шышкам[2], Ляскарысам, Фрычынскім[3] і іншымі, якіх я ведаю як пісьменнікаў, незалежныя ад мяне абставіны не дазволілі мне пазнаёміцца, пра што шчыра шкадую, бо надаю вялікае значэнне дачыненням такога кшталту, вынікам якіх з'яўляецца згода ў найважнейшым пытанні агульнага дабра. Нагадваю тут іхныя імёны, каб ты заўважыў, як шчаслівa адорана Вільня, якімі вялікімі духоўнымі багаццямі яна валодае, як шмат ёсць капланаў дзеля служэння святому Знічу мудрасці; ім належыць толькі памятаць пра святасць свайго паклікання і годна яму адпавядаць, а ўсё астатняе ў руках Усявышняга.

Я не мог пазнаёміцца з таварыскім жыццём, бо восем дзён для гэтага мала, дык было б смешна, каб я хацеў табе пра яго напісаць. Мушу скончыць справаздачу пра мой побыт у Вільні і, развітаўшыся з добрымі знаёмымі, памаліўшыся ў Вострай Браме пра яшчэ хоць бы адзін такі тыдзень у жыцці, які мне Бог даў тут, вяртаюся дадому!

Мы з Сыракомлем дамовіліся, што разам паедзем аж да Смаргоні, адтуль яму – у Мінск, а мне – у Завішынку; са Смаргоні мы зазірнем у Дзевятні, а адтуль, можа, і да маіх бацькоў. Але з тае прычыны, што мне выпала ў Вільні забавіцца на адзін дзень даўжэй, а па дарозе збочыць некалькі міль па важнай для мяне справе, дык Сыракомля павінен быў чакаць мяне ў Дзевятні. Абставіны затрымалі мой прыезд на цэлыя суткі звыш дамоўленасці. Прыехаўшы ноччу ў Смаргонь, упэўнены, што застану Сыракомлю ў Ходзькі, я папрасіў гаспадара карчмы, дзе я спыніўся, наняць мне фурмана ў Дзевятні.

– Да каго ж пан паедзе?

– Да пана падкаморыя.

– Тады не трэба шукаць фурмана, бо пана падкаморыя няма дома.

– Адкуль ты гэта ведаеш?

– А ведаю.

– Напэўна?

– А як жа. От я пану раскажу, – загадкава сказаў ён, зачыняючы дзверы. – Начаваў у мяне тут і толькі што адсюль выехаў пан, які робіць кнігі.

– Як жа яго завуць?

– Калі ж я забыўся.

– Часам не падобны да гэтага? – спытаў я, паказваючы толькі што зняты ў Вільні дагератып Сыракомлі.

---

[1] Гаворка пра гісторыка, рэдактара і выдаўца гістарычных крыніцаў Мікалая Маліноўскага (1799–1865).

[2] "Пан Богуш Шышка ад зімы бавіцца ў Варшаве" (*заўвага Ю. Б[арташэвіча]*).

[3] Аўтар згадвае тагачасных віленскіх літаратараў і публіцыстаў: гісторыка і настаўніка Аляксандра Здановіча (1805–1868), паэта Ежы Ляскарыс (1828–1888) і інш.

– Ай-вай, ён як жывы, – усклікнуў усцешаны габрэй. – Што гэта за пан, што гэта за пан, кажу... Я бачыў розных графаў і князёў, а такога яшчэ не бачыў. Калі ён з кім загаворыць, то адразу ж за сэрца бярэ, го! не інакш, як *duszko,* а *kochanieńki,* а *mileńki*, такі ён ветлівы і такі добры! А ён усё ходзіць, ходзіць, думае, думае, а потым піша.

– Дык кажаш, што ён толькі што выехаў?

– Можа, паўгадзіны прайшло.

– А куды ж?

– У Мінск.

– І ад яго ты чуў, што пана падкаморыя няма дома?

– Ад яго, бо ён сёння ездзіў у Дзевятні і нікога не застаў, і не чакаў, бо яны толькі паслязаўтра вернуцца.

Засмучаны гэтаю навіною, разгневаны на сябе і на ўвесь свет, правёўшы бяссонную ноч, назаўтра я вырашыў на ўдачу паехаць у Дзевятні.

Як жа я сябе віншаваў, што не спалохаўся словаў карчмара, што Ходзьку я дома не застану! Як жа я ўзрадаваўся, калі заехаўшы на дзядзінец, здалёк убачыў яго, калі ён, відаць, вяртаўся з гаспадарскае праходкі. Я выскачыў з брычкі і з радасным крыкам пабег да яго.

– Вось як неспадзявана! – крыкнулі мы абодва.

– Я думаў, – сказаў шаноўны гаспадар, – што цябе больш не ўбачу, як і Сыракомлю. Мне вельмі прыкра, што так сталася. Пазаўчора ў мае жонкі былі імяніны, якія мы адзначалі ў дачкі ў вялікай кампаніі сяброў. Ад'язджаючы, я пакінуў табе цыдулку, каб ведаў, дзе мы, і загадаў, каб на тваю просьбу прыслалі да мяне ганца. Я думаў, што ты разам з Сыракомлем прыедзеш, тымчасам ён без цябе з'явіўся, цыдулкі яму не аддалі, дык ён толькі зазірнуў у мой лямус, забраў маё пяро, а замест яго пакінуў зграбны вершык і ўцёк, як ад пагоні. Ну, добра, што прынамсі, хоць ты тут.

Я апавядаў пра нашыя дамоўленасці і пра прычыны іх зрыву, размаўляючы, мы ўвайшлі ў лямус. Тут Ходзька паказаў мне вершык Сыракомлі, пра які ён казаў і ў якім было вельмі трапнае параўнанне пяра Ходзькі з лютняй Бакварка[1], пра якую спяваў Каханоўскі, што пасля непараўнальнага музыканта цяжка было знайсці для яе наступніка. Калі я прачытаў, ён сказаў: "Каб ён хоць узяў, прынамсі, нейкае прыстойнае пяро, а то нейкі спісаны квачык".

– Яго цікавіла толькі пяро Ходзькі, – адказаў я, – ён схапіў першае, што было пад рукой, бо добра ведаў пра тое, што кожнае з *чыстага золата з дыяментавым наканечнікам*. Я шчаслівейшы за яго: неацэнная дабрыня пана вызваліла мяне ад граху, бо – шчыра прызнаюся – каб пан не падараваў мне сваё пяро, дык я яго ўкраў бы, з такім намерам я праз панскія вароты ехаў.

– Няхай служыць табе шчасліва, і каб ты здабыў з ягонаю дапамогаю столькі сімпатыі да сябе, колькі я маю ад маіх дарагіх суайчыннікаў.

---

[1] Гаворка пра венгерскага кампазітара і лютніста Валентынуса Бакфарка (1506–1576).

– Дзякуй, – адказаў я, уздыхнуўшы, – але калі Сыракомля не адчувае сябе годным мець яго, дык што казаць пра мяне?

– Ну, пазней пагаворым, давай спачатку дамовімся. Ты абяцаў, дык павінен застацца ў мяне на некалькі дзён і здацца пад маё непасрэднае распараджэнне.

– З найвялікшым задавальненнем.

– Дык вось, сёння святая нядзеля; ты паедзеш з намі ў касцёл, а адтуль мы цябе адвязём у Вішнева, да панства Сулістроўскіх, дзе, не сумняваюся, што прыемна забавішся і, між іншым, пазнаёмішся з маёй дачкою і зяцем. Ты згодны?

– З вялікаю ахвотаю.

– Дык перапранайся, а я загадаю запрагаць коней.

Праз пару гадзін мы былі ўжо ў Войстамах[1], дзе выслухалі святую імшу, а пасля накіраваліся ў Вішнева.

## [XI]

Там мы засталі вельмі шматлікае і цудоўнае таварыства, у якім большая палова дня прайшла для нас, як адна шчаслівая хвіліна; столькі было там свабоды для гасцей пры сардэчнай гасціннасці гаспадароў: гэткая адсутнасць халоднага этыкету псеўда-панскіх салонаў, гэткая сапраўдная перавага сяброўскіх стасункаў, якая не глядзіць на тытул і багацце, а цэніць толькі розум і сэрца, гэткая чароўная прывабнасць зносінаў і лёгкасць забавы, без штучных сродкаў, без стамляльных падмацункаў. Туды б паслаць тых паноў-самазванцаў, якія баяцца, каб ім кепска прылеглая мітра з галавы не звалілася; што не ведаюць, на якую нагу стаць, і думаюць, што чым мацней яны надуюцца, чым больш будуць грубымі з тымі, каму пашанцавала не быць з іх касты, тым лепш яны давядуць сваю веліч, тым ясней, чым яны з'яўляюцца (і ў іх гэта атрымліваецца), туды б іх паслаць, хай паглядзяць, што ляжыць у аснове таго, чаго яны ніколі не знойдуць на сваёй фальшывай дарозе...

Але, як бачу, прапаведніцкі запал захапіў мяне не ў час... да справы, да справы!

Тут я пазнаёміўся з панам Банольдзі[2], чыё імя табе, напэўна, вядомае, бо гэты артыст мае вялікую вядомасць як выдатны выканаўца песень Манюшкі, італьянец па крыві, паляк душою, пачцівы энтузіяст, ён стаў вельмі дарагі майму сэрцу.

Пазнаёміўся я са Свянтэцкімі, дачкой і зяцем Ходзькі... Калі пішу гэта, сэрца шчыміць ад болю, вочы напаўняюцца слязьмі! Божа мой, Божа мой, ці ж я тады прадчуваў, гледзячы на гэтую шчаслівую пару, на гэтую прыгожую жанчыну ў росквіце веку і сілы, на гэты гонар і радасць бацькоўскае душы, ці ж прадбачыў я, кажу, бласлаўляючы яе чулыя думкі на

---

[1] Сёння вёска Войстам у Вішнеўскім сельсавеце Смаргонскага раёна.

[2] Гаворка пра Юзафа Ахілеса Банольдзі (1821–1871), італьянскага спевака, які ў 1840-я – 1860-я гг. жыў у Вільні.

доўгія шчаслівыя гады асвятліць прыгожае змярканне бацькі і маці, што праз некалькі месяцаў жахлівая вестка пра яе смерць абрынецца на мяне, як пярун, што замест абяцанага рукапісу маіх *Pamiątek domowych* я аддам ёй сардэчную пашану толькі ў слёзнай гарачай малітве да Бога пра супакой ейнае душы... у малітве да яе пра цуд пацехі для няшчасных, маіх любімых ейных бацькоў?..

Ледзьве на досвітку вярнуліся мы з прыемнае гасціны, размаўляючы пра яе па дарозе, пакуль стомленасць дазваляла нам атрымліваць асалоду ад гэтага.

На наступны дзень я меў неапісальнае задавальненне разам з Ходзькам пераглядаць ягоную літаратурную карэспандэнцыю з Адынцом, Корсакам, Габрэлай Гюнтэр (княгіняю Пузынінай)[1], Сыракомлем і інш. Частка гэтых дарагіх лістоў ужо пераплеценая ў кнігу, астатнія чакаюць на вольную хвілінку. Ходзька заахвочваў мяне зрабіць тое ж самае з маімі лістамі, і мы доўга размаўлялі пра будучае значэнне гэтых матэрыялаў для гісторыі сучаснага інтэлектуальнага руху, многія прыкметы якога ўтрымліваюцца не ў газетных публікацыях і кнігах, а ў канфідэнцыйным ліставанні пісьменнікаў. Мы вырашылі, што кожны з нас, хто мае крыху больш шырокія дачыненні такога кшталту, павінен мець кнігу, каб запісваць хоць бы асноўны змест сваіх лістоў і захоўваць пры ёй арыгіналы адказаў. Такія зборнікі паслужылі б нашым нашчадкам не толькі крыніцай дзеля гісторыі пісьменства сучаснае эпохі, але і дзеля біяграфій саміх аўтараў, асвятляючы шмат якія акалічнасці, якія павінны быць ахутаны таямніцай для шырокае публікі, а звычайна з'яўляюцца самаю важнаю часткаю справы.

У калекцыі лістоў да Ходзькі найбольш цікавыя лісты княгіні Пузыны, аздобленыя прыгожымі вершамі, малавядомымі шырокай публіцы, а таксама Адынца, напісаныя з-за мяжы.

Пра Сыракомлю няма чаго і казаць, ты добра ведаеш, які ён мілы карэспандэнт, асабліва калі ў яго добры настрой. Я, між іншым, чытаў ягонае запрашэнне Ходзьку да супрацоўніцтва ў *Barciach*, якое пан Аргельбранд меўся выдаваць у Вільні, а ў ім зграбненькі вершык, з якім табе напэўна прыемна будзе пазнаёміцца:

Kto jeno po Wilnie rusza,
Komuż ulica nieznana,
Co od stóp świętego Jana
Ciągnie się w strony ratusza.
W prawo wspaniałej struktury
Idą kardynalskie mury,
W lewo uliczka maleńka
A za nią sklepik przy sklepie
I Zimmermana i Wenka,
Goławski w zegary klepie.

[1] Гаворка пра літаратараў тагачаснае Літвы-Беларусі: паэта Юльяна Корсака (1806–1855), перакладніка *Боскае камедыі* Дантэ на польскую мову; паэтку і мемуарыстку Габрыэлю Альбіну Гюнтэр-Пузыню (1815–1869).

Parczewski z korków wystrzela
Angielski porter i piwo,
Na lewo zajdźmy do Kela,
Stuknijmy w czarkę życzliwą.
Tu się przed nami wymija,
Najemnych woźniców banda,
A oto jest *libreryja*,
Maurycego Orgelbranda.
Wiedzże przechodniu zdaleka,
Że to czarodziejska buda!
Tu wszelkie dostaniesz cuda,
Prócz może ptasiego mleka.
Patrzaj przychodniu daleki,
Co zgromadzono ci gwoli:
Ot, stoją wielkie człowieki,
Każdy na małej konsoli.
Wielki bohater pałasza,
Chodkiewicz co pobił Turka,
Łeb swój wysadza z przymurka,
I do xięgarni zaprasza.
Któż naszych mężów policzy?
To wszystko krajowa chluba,
Tu Kątski nastrzępia czuba,
Tu Kopernik gwiazdy liczy.
Zamoyski patrzy ukosem,
Krasicki zacisnął usta,
A Naruszewicz swym nosem,
Wietrzy pieczenie Augusta.
Dopieroż patrzaj ku górze
Co tutaj xiążek się chowa,
W psiej, oślej, baraniej skórze
Oprawna mądrość wiekowa.
Przepatrzaj tylko xiąg grzbiety,
Tytułów piękne odbicie.
Złoto aż kapie z poety,
Co chodził w łatanej świcie.
Wdzięczą się bez żadnej skazy
Xiążeczki nowe i dawne,
Paryzkiej nędzy obrazy,
W miękki axamit oprawne.
A rozmaitość tu jaka,
Na wszelkie a wszelkie gusty!
Tu Szyller, Wolter i Baka,
A przy nich Jan Złotousty
Francuzy, niemcy, anglicy,
Zbiegli się w jednej ustroni,
Tam traktat o rasach koni,
A tu pamiątki Soplicy.
Tam Syrokomli szpargały,
Tu Bartoszewicz się sroży,

Sposób pędzenia gorzały,
I ogień miłości Bożej.

Ходзька паказаў мне таксама альбом свае жонкі, дзе шмат вельмі прыгожых вершаў, але, несумненна, самая выдатная ягоная аздоба – асобная картка, дасланая Міцкевічам пані Ходзькавай, калі яна была яшчэ нявестай пана Ігнацы, картка з тым цудоўным вершам, усім добра вядомым, які пачынаецца словамі:

Nieznajomej, dalekiej, nieznany, daleki...

Не магу табе перадаць, з якім хваляваннем, з якім урачыстым пачуццём я глядзеў на пісьмо гэтага прарока з прарокаў, з якім чытаў ужо не словы, якія ведаў на памяць, а літары, напісаныя гэтаю рукою.

Слухаючы падобныя аповеды, якіх у памяці Ходзькі невычэрпныя скарбы, лёгка зразумееш, які я быў шчаслівы, як хутка праляцеў час у Дзевятні, як цяжка мне было думаць пра далейшую дарогу. І думаў бы пра яе нават цэлы год, каб не чакалі мяне дома мае няўцешныя бацькі, каб я сам не адчуваў іхную тугу ў сваім сэрцы.

Захоплены і зачараваны гутаркамі Ходзькі, я прасіў яго ад імя ўсіх маіх землякоў запісаць ягоныя каштоўныя ўспаміны. Сапраўды, гэта была б выдатная кніга, існая карона *Obrazów* і *Podań Litewskich*, з якіх, як і з *Konwersacji*, лёгка зразумець, што за чароўныя і прывабныя былі б гэтыя ўспаміны, якое хараство ўтрымлівалі б у сабе. Прадстаўнік роду, які некалькі пакаленняў жыў у адной мясцовасці, дзякуючы чаму стаўся захавальнікам ейных традыцый, дзякуючы свайму *дзеду* (*Domek*[1] якога каму ж невядомы?), так добра пасвечаны ў рэлікты звычаяў і звычак нашых продкаў, віленскі студэнт самага слаўнага часу гэтага ўніверсітэту, вучань Снядэцкіх, крэўны Яна, Аляксандра, Леанарда, Дамініка Ходзькаў, Адынца і Корсака, слаўны абывацель, што больш за дваццаць гадоў займае пачэсную пасаду ў гроне шляхты, муж знакаміты і грамадзянскімі цнотамі, і літаратурнымі заслугамі – якое вялікае ён мае поле дзеля ўспамінаў! Якое багацце тэмаў!

Не ведаю, ці пераканала Ходзьку мая просьба, але мне здаецца, што сам ён павінен лічыць гэта своеасаблівым абавязкам перад суайчыннікамі.

Не будучы гаспадаром свайго часу, я не мог наведаць ваколіц Дзевятні, якія былі мне гэтак добра знаёмыя з *Obrazów Litewskich*, а таму былі такімі жаданымі для агляду. Такая вось сіла сапраўднага таленту: да чаго б ён ні дакрануўся – усяму надае дзіўную павабнасць, нейкім чынам усё асвячае і надае значнасці. Усе гэтыя мястэчкі і двары Свянцянскага і акалічных паветаў нічым, па сутнасці, не адрозніваюцца ад іншых, раскіданых па нашай неабсяжнай зямлі, але кранутыя аднойчы аўтарскай думкай ужо сталіся знакамітымі, ужо праславіліся, нібы з імі былі звязаныя найвялікшыя справы ў гісторыі чалавецтва альбо імёны слаўных мужоў. Больш за ўсё мне было шкада Касцяневічаў, побач з якімі стаіць той *Domek* шаноўна-

[1] Маецца на ўвазе “малюнак” *Domek mojego dziadka*, якім пачынаўся першы том *Obrazów litewskich* (1840).

га *dziadka*, аўтара *Obrazów i podań Litewskich*, той блаславёны дом, які мы палюбілі, нібы пад яго дахам жылі нашыя ўласныя продкі.

Недалёка ад Дзевятні, у адной з імі парафіі, знаходзіцца тая *Мула*, якую ты пэўна ведаеш і з *Dyrektora Ambrożewicza*, і з верша Сыракомлі да яе аўтара Міхала Канткоўскага[1], дзедзіча гэтага маёнтка, вядомага ў літаратурным свеце як па той дасціпнай гутарцы, так і па выдатным творы *O rachunku podwójnym*. Пачуўшы пра яго самыя добрыя словы ад Ходзькі, а палюбіўшы яго яшчэ раней па ягонай вясёлай *Gawędzie z dyrektorem Ambrożewiczem*, я быў бы рады пабегчы ў гэтую ж хвіліну ў Мулу, каб пацiснуць высакародную руку салдату-паэту-землеўладальніку, але з сумам даведаўся, што яго ў той час не было дома: ён выехаў у Белую Царкву, выкліканы Браніцкімі па гаспадарчых справах. Але імя Канткоўскага табе павінна быць вядомае і ад Сыракомлі, бо ў адзін час яны абодва бавіліся ў Нясвіжы; у сваім вершы Сыракомля так гаворыць пра яго:

Znamy się już oddawna jak dwa łyse konie,
On mnie niegdyś nauczał, jak grać na bardonie.
Wszak będziemy w Nieświeżu, gdy pan Bóg da zdrowie?
Więc spytaj murów zamku, a cegła ci powie,
Jakiem tu grała echem? jak my w niebo lecim,
W ośmsetnym czterdziestym, pierwszym, drugim, trzecim.

Крыху далей, але ўсцяж у ваколіцах Дзевятні, знаходзіцца *Гарадзілаў*, рэзідэнцыя Габрыэлі з роду Гюнтэраў, княгіні Пузыні, аўтаркі *W imie Boże* і шэрагу іншых кніг, поўных свежасці, чароўнасці і сардэчнае пачцівае думкі. Усёю душою сімпатызуючы яе прыгожаму таленту і найвысакароднейшым прынцыпам, я з сумам і шкадаваннем павінен быў адмовіцца ад гонару і ні з чым не параўнальнаю асалодаю, якія мне Ходзька абяцаў, ласкава прапанаваўшы паехаць з ім у Гарадзілаў, каб скласці сардэчную пашану годнай грамадзянцы і паўсюль шанаванай аўтарцы.

[XII]

Суседам Дзевятні быў таксама і знакаміты перакладчык *Bozkiej komedji* Юльян Корсак, апавядаючы пра якога мне і чытаючы ягоны апошні ліст, напісаны незадоўга да смерці з яе прадчуваннем і прароцтвам, Ходзька ціхаю слязою блаславіў памяць калегі, суседа, крэўнага, сардэчнага сябра.

Нарэшце, суседзямі пана Ходзькі з'яўляюцца сужэнства капітана М., якое ты пэўна ведаеш з *Dwóch konwersacji* і памятаеш прыгожую гісторыю пана капітана, і чароўнае выкананне абавязкаў гаспадыні, пані капітаніхі, у доме пана Ігнацы... Мне пашчасціла пазнаёміцца з імі ў Дзевятні, і мне прыемна гэтым перад табою пахваліцца.

Але пара ўжо заканчваць пра Дзевятні, хоць мне і ва ўспамінах гэтак жа цяжка расставацца з ёю, як нялёгка было і ў рэчаіснасці. Са сціснутым

---

[1] Гаворка пра літаратара Міхала Канткоўскага (1805–1880) і ягоныя codes вершаваныя „gawędy" *Dyrektor Ambrożewicz* (Wilno 1852–1853, t. I–III).

сэрцам, са слязьмі на вачах, з душой, поўнай чуллівага блаславення, развітваўся я з гэтым чароўным ліцвінскім дваром, які сёння ўпрыгожвае мае самыя светлыя мары, а сардэчны гаспадар якога не да парогу дома, але аж да Вілейкі правёў мяне, дакладней, завёз у сваёй калясцы. Мы ехалі сумныя, маўклівыя... Тыя некалькі дзён, якія мы правялі разам, так зблізілі нас, так сасваячылі, так умацавалі ўва мне пашану і любоў да пана Ходзькі, якую ад дзіцячых, можна сказаць, гадоў я меў да аўтара *Obrazów Litewskich*, што мне ўжо здавалася, быццам я ўсе тыя святыя пачуцці, усе тыя мілыя апісанні, усе тыя чароўныя сваёй непараўнальнай прастатой апавяданні не з кніжкі, а з яго жывых вуснаў пазнаў, а ўвесь час ад першае серыі *Obrazów* да другое *Podań litewskich* пад адным дахам з ім жыў. Дык я развітваўся не толькі з паважаным абывацелем, не толькі са знаным пісьменнікам, але нібы з самым дарагім сваім майстрам, нібы з добрым бацькам, а таму не дзіва, што мне было так сумна, так слёзна на сэрцы.

Дык сумны і маўклівы, прыгадваючы ўражанні з побыту ў Дзевятні і творачы ў думках характар Ходзькі, я з душэўнаю асалодаю думаў пра тое, як у ім *звычайны* чалавек палучаецца з *аўтарам*, з якой дакладнасцю ён малюе сябе ў сваіх творах. Гэта вялікі дар, вялікае добраславенне Божае, бо хоць бясспрэчна, што ў хвіліны натхнення чалавечы дух вышэйшае волі і нібы гвалту паддаецца, што часам самая ўзнёслая і самая святая думка выходзіць з галавы спадлелаю, але таксама бясспрэчна і тое, што грамадства мае нейкі асаблівы інстынкт, якім яно разумее, ці прайшла думка толькі праз душу, ці выйшла з душы аўтара, і, адпаведна, для яе ці то сімпатыю, ці то абыякавасць выяўляе, а можа, мімаволі і без разумення дазваляе ёй альбо толькі *праходзіць* праз сваю душу, альбо назаўсёды *ўваходзіць* у яе. Дык вось, у Ходзькі тое, што нас так вабіць у яго творах, ёсць у душы, якая, як і ў яго творах, так і ў кожным кроку і ў кожным слове дакладна адлюстроўваецца.

Перадумаўшы, магчыма, гадзіну, мы нарэшце пераадолелі свой змрочны настрой і паволі-паволі зноў пачалі размаўляць. Тэма для гутаркі была гатовая: мясцовасць, па якой вяла нас дарога, для аўтара *Obrazów* была як старонка з чарадзейнае кнігі, напісаная жывымі літарамі, і ён чытаў мне з яе дзівосныя рэчы, кожны двор, кожная вёсачка, кожнае ўрочышча, якія мы міналі, нараджалі ў яго ўсё новыя і новыя ўспаміны, ці то асабістыя, ці то датычныя ўсяго краю... І заслухаўшыся, я і не заўважыў, як мы заехалі ў Вілейку.

Ейны выгляд зрабіў на мяне непрыемнае ўражанне, бо вярнуў мяне ў рэчаіснасць, бо нагадаў мне, што праз некалькі гадзінаў ужо трэба будзе расстацца з гэтым чалавекам, да якога так прыкіпела маё сэрца, што немагчыма было яго адарваць без болю... Вельмі хутка праляцелі гэтыя пару гадзін, з’явіліся коні... Са слязьмі на вачах я кінуўся ў абдымкі Ходзькі, з сыноўняю пашанаю пацалаваў ягоную руку, з пашанай схіліў галаву перад яго бацькоўскім блаславеннем... Мы развіталіся *да пабачэння*, бо без гэтага чарадзейскага слова, здаецца, немагчыма было б рушыць з месца.

На наступны дзень на досвітку я зноў быў у Завішынку, а праз тыдзень з шчыраю радасцю атрымаў бясцэнны ліст з Дзевятні, з якога цытую ўрывак, каб ты лепей зразумеў усю прыгажосць характару аўтара *Obrazów*:

"Мая скарбніца пустая, дарагі пане Антоні, а яшчэ больш пустой здаецца мне цяпер, калі пустое сэрца тужыць па прыемных хвілінах, праведзеных у тваім таварystве; дык я з яе пераехаў, бо, зрэшты, ужо і холадна; так што *колка* падвешана напалову, яно застанецца там да наступнага лета, калі ты, можа, прыедзеш і закінеш. Ты не паверыш, як прыемна старому чалавеку абапірацца на маладзейшых, але зычлівых людзей, якія маюць больш-менш такі ж жыццёвы шлях. Гэта як тое пачуццё, з якім бацька абапіраецца на мацнейшую правую руку свайго сына, які павінен працягваць ягоны род. З такім пачуццём у душы я развітаўся з табой і блаславіў цябе, бо той, хто пражыў больш за шэсцьдзесят, можа сказаць разам з Шатабрыянам[1]: *tous mes jours sont des adieux*![2] Але ў суцяшэнне, тлумачачы твае хвалебныя словы, я мог бы паўтарыць за Каханоўскім:

I upewnia mnie piękny syn Latony,
Że popiół kości moich nie będzie wzgardzony.

Ох! Гэта самая салодкая ўзнагарода за нашую працу і намаганні, і я ад усяго сэрца сказаў:

I o bodajby na moim grobie,
Gdy w zimnej legnę pościeli,
Ziomkowie kiedyś podobni tobie,
Z miłością w duszy westchnęli.

Звязаны гэтак званымі грамадзянскімі дачыненнямі, я не заўсёды магу асвяжыць сваю думку і скіраваць яе да глыбейшых схронаў майго сэрца, а яшчэ радзей сустракаю людзей, якія вывелі б мяне з тае слізкае і гладкае агульнапрынятае дарогі ў прыемную краіну пачуццяў і ўяўленняў, дзе так прыемна знаходзіцца. Што ж рабіць? *Sic fata tuleret*[3], дык тым больш мілая мне кожная неспадзяванка, якая поіць мяне, часта дарэмна, моцна жаданаю асалодаю. Дык дзякуй, шаноўны пане Антоні, за тое, што ты даў мне яе, сто разоў дзякуй.

Я заўважыў у нашай ваколіцы незвычайны рух. Некалькі тыдняў таму было вяселле ў адным з суседніх двароў, а як пачцівая шляхта прыахвоцілася, дык няспынна нешта блізка месяца з хаты ў хату пераходзіла забава, але без асаблівых намаганняў, без усялякае пыхі, ды так сардэчна, што аж міла.

Я, здаецца, вышэй пра тое згадваў табе, што ў гэтай ваколіцы амаль не знойдзеш такое пышнасці і раскошы (альбо нават прэтэнзіі на іх), якія на Падоллі амаль паўсюдныя. Жытло, мэбля, экіпажы, вопратка, прыслуга –

[1] Гаворка пра французскага літаратара, аднаго з пачынальнікаў французскага рамантызму Франсуа Рэнэ дэ Шатабрыяна (1768–1848). Цытата з кнігі *Mémoires d'outre-tombe* (*Успаміны з-за магілы*, 1849–1850).

[2] „Усе мае дні – развітанне!".

[3] Так склаўся лёс.

адным словам, усё тут менш раскошнае, нават вельмі сціплае, нічога больш за патрэбу нават у вельмі заможных людзей; *фальшывага панства* ані за паўгроша, хоць *сапраўднае* часам трапляецца на сваім месцы, хоць і не зусім так, як кажа Поль.

A gdy w Litwie pan się zdarzy,
To pan sobie jak Radziwiłł.

Бо такіх Радзівілаў сёння знайсці няпроста, усё ж такі да вельмі рэдкіх выключэнняў *сойкі ў паўлінавых пер'ях* належаць, а сапраўдны бляск, як ніхто нікому не забараняе і не зайздросціць, дык ніхто ім і не ганарыцца, не зазнаецца, адсюль тая еднасць, тая таварыская гармонія, што так цяжка ўбачыць у іншым месцы.

З прычыны гэтае памяркоўнасці ў патрэбах навакольныя мястэчкі вельмі бедныя прадметамі раскошы і элегантнасці, і тое, што знойдзеш на Падоллі ў любым мястэчку, у любой габрэйскай краме, тут ужо з'яўляецца вялікаю асаблівасцю, па якую трэба было б ехаць далёка. Адсюль нячастыя дачыненні з мястэчкамі, затое шмат вандроўных гандляроў, якія ў сваіх каробках на спінах цягаюць ад двара да двара ўсё, пра што можа толькі марыць небагаты пан: нярaз нават гарбата побач са свечкамі, мылам і тытунём; сургуч, папера і запалакі, атрамантавы арэх і купарвас, ды альяс з камфарай.

Альяс з камфарай – гэта выдатны прадукт, які годны параўнацца нават з знакамітым *леруа*[1] альбо несмяротнай *дрыяквіяй*[2]. Лекараў тут таксама менш, чым на Падоллі, і аж у павятовых гарадах іх трэба шукаць, дык дзе ж беднаму шляхціцу і думаць пра іх? Ды і навошта іх турбаваць, калі ўвесь свет ведае, што як *леруа*, так *камфара* радыкальна лечыць усе хваробы.

Але хопіць жартаў! Ва ўсіх адносінах яшчэ шмат тут прастаты ў звычаях і норавах, і дай то Божа, каб яна захавалася як мага даўжэй. Хацелася б яшчэ толькі аднаго: крыху болей інтэлектуальнага жыцця, бо яго замала, бо тут сустракаюцца і такія *абывацелі*, якія не толькі не адчуваюць патрэбы ў кнізе ці газеце, але нават не могуць зразумець такое патрэбы ў іншых".

Забавіўшыся яшчэ з месяц у мілым сямейным коле, я, амаль два тыдні з дня на дзень адкладваючы апошнюю дату ад'езду, нарэшце павінен быў цвёрда сказаць: сёння ад'язджаю! І ты сам найлепш ведаеш, колькі мне гэта каштавала болю, колькі мне для гэтага патрэбна было сілы.

Згодна з ранейшым планам я кіраваўся на Слуцак, і хоць Мінск быў ужо мне не па дарозе, але збочыў да яго наўмысна, бо сярод іншага мяне завабілі туды шляхецкія соймікі, якія адбываліся якраз у той час і якія мне

[1] Маецца на ўвазе фармацэўтычны сродак *Le reméde Le Roy*, які прапанаваў Луі Леруа (1766–1842) у 1795 г. Гэта адзін з г. зв. "цудоўных лекаў" ад усіх хваробаў.

[2] Дрыяквія (скабіёза, карасцянка, вераднік) – гэта кветкавая расліна сямейства бружмелевых. Відаць, тое, што і трыяк – універсальны супрацьатрутны сродак, панацэя ад усіх хваробаў.

былі надзвычай цікавыя, бо яны маглі даць мне магчымасць бліжэй пазнаёміцца з настроямі тамтэйшага грамадства, магчымасць спаткання з даўнімі і школьнымі таварышамі і, нарэшце, можа, пачуць якога-небудзь знанага артыста.

І сапраўды, на наступны дзень пасля майго прыезду, зайшоўшы ў элекцыйную залу, якую лічыў найлепшым месцам дзеля маіх назіранняў, я пераканаўся, што не памыліўся ў сваіх разліках. Прыбітыя да дзвярэй залы афішы паведамлялі мне пра канцэрты Апалінарыя Концкага і Германа[1], а ў шляхецкім гроне я сустрэў некалькі дзясяткаў ці то школьных калегаў са Слуцка, ці то вучняў з першых гадоў мае настаўніцкае дзейнасці, ці то іхных бацькоў, сваякоў альбо суседзяў. Уяві сабе, колькі прыемнага было ў гэтых сустрэчах праз больш чым дзесяць гадоў. Не ведаю, ці ва ўсіх гэта так, але ў мяне людзі, з якімі я меў некалі нейкія дачыненні, за доўгае расстанне не толькі не сціраюцца з памяці, але, наадварот, усё больш і больш у ёй замацоўваюцца, усё часцей успамінаюцца, усё большага набываюць права на сардэчную спагаду; і чым больш праходзіць гадоў, тым мацней прагне душа іх убачыць, тым крапчэй хочацца паціснуць іхныя зычлівыя далоні. А што ўжо казаць пра тых, з кім жылося ў духоўным сваяцтве. Гэта было свята для сэрца, каралеўскае свята... Раз за разам з'яўляўся нехта новы, і тады альбо я пазнаваў яго, і калі я з ім загаворваў, ён узіраўся хвіліну ў мой твар, бо мінулае з пары юнацтва дзесяцігоддзе пакінула на ім вялікія змены, а потым з крыкам радасці раскідваў рукі для сардэчных абдымкаў; альбо, нехта сам пазнаўшы мяне і загаварыўшы са мной, радасны крык вырываў у мяне з душы. Былі і такія, каго я ведаў толькі па імені і ніколі ў жыцці не бачыў; былі і такія, чыіх імёнаў я нават не ведаў, а тут адразу знайшоў у іх самых лепшых знаёмых, а то і сяброў.

Сярод іншых, я пазнаёміўся тут з панам *Бартэльсам*[2], імя якога запомніў яшчэ з Вільні, дзе Кіркор паказваў мне ягоныя цудоўныя эцюды алоўкам, на якіх адлюстраваныя некалькі сцэн і постацяў з *Jermoły* Крашэўскага[3], дадаючы пры тым, што пан Бартэльс не толькі таленавіты мастак, але яшчэ і вельмі таленавіты аўтар камедый.

[XII]

Праз некалькі дзён мяне запрасілі на вечар у паноў Л., дзе павінны былі чытаць некаторыя з тых камедый, але канцэрт Концкага, які зацягнуўся дапазна, стаў прычынай, што прыемнасць іх пачуць мяне абмінула, бо я прыйшоў, як усё ўжо закончылася, нават не застаў аўтара, а трапіў толькі на ажыўленую спрэчку слухачоў, якія былі яшчэ пад свежым уражаннем; а меркаванне большасці было вельмі станоўчым для аўтара. Я бачыў рукапісы і не разумею, чаму аніводная з тых камедый дагэтуль не

---

1 Гаворка пра кампазітара і скрыпача Апалінарыя Концкага (1824–1879) і віяланчэліста Адама Германа (Германоўскага ці Германовіча, 1835–1893).

2 Гаворка пра паэта і мастака Артура Бартэльса (1818–1885).

3 Маецца на ўвазе прысвечаная У. Сыракомлі "палеская" аповесць Ю.І. Крашэўскага *Jermoła: obrazki wiejskie*, надрукаваная ў Варшаве ў 1857 г.

надрукаваная? Гэта было б вельмі пажадана, улічваючы ўбоства нашае драматургічнае літаратуры, на што мы ўвесь час дарэмна скардзімся.

Пан Бартэльс – гэта яшчэ малады чалавек, у самым росквіце сіл, у поўным развіцці сваіх здольнасцяў, дык належыць чакаць плёну ягонага таленту, які Пан Бог даў яму не толькі дзеля ўласнага задавальнення. І сапраўды, цяпер мне пішуць з Вільні, што пан Вільчынскі мае выдаць ягоную *Historję Łapigrosza*[1], якую ён жа і ілюстраваў; ён і выказваецца пра яе вельмі пахвальна, як пра малюнкі, так і пра тэкст.

Але, мабыць, не вельмі ўдала я перайшоў на літаратурна-мастацкую тэму ў соймікавай зале (гэтак заўсёды натура ваўка ў лес цягне), і хоць мне цяжка перадаць табе як след хаос уражанняў, якія я меў у Мінску, бо іх цяжка сістэматызаваць, аднак, стаўшы аднойчы сярод соймікавае шляхты, відаць, самым адпаведным будзе расказаць пра соймікі.

Наколькі я мог меркаваць, найлепшы дух вітаў у шляхецкім гроне, пра аніякія непачцівыя ўчынкі амаль нічога не было чуваць, першачарговаю мэтаю было агульнае дабро, а сумленне вяло да яго. Апрача выбараў службоўцаў, тут вырашаліся пытанні, якія тычыліся ўсяе правінцыі, і некалькі вельмі важных і прыгожых праектаў было ўхвалена, сярод іншых – пра *таварыства абароны буйное рагатае жывёлы ад пошасці*. Шляхта з’ехалася амаль у поўным складзе, а што былі такія, каго суправаджалі жонкі і дочкі, дык паважная праца межавалася з самымі пышнымі балямі, большая частка якіх была палучаная з дабрачыннымі мэтамі. Са шчыраю пацехаю я і тое магу дадаць, што пры такой вялікай колькасці людзей абышлося без скандалаў, без оргій і вакханаліі, а нават і без вялікага шаленства. Затое кнігарні цешыліся добрым прыбыткам, затое канцэрты былі такія людныя, што Концкага асабліва трэба было прасіць, каб білетаў дадаў, бо іх за некалькі дзён да выступу расхапалі, хоць кошт ён прызначыў па 5 рублёў срэбрам.

І калі я ўжо пра канцэрты пачаў, то слухай жа пра іх. Іх было, калі мне не здраджвае памяць, хіба шэсць; выступалі: Апалінары Концкі, віяланчэліст Адам Герман, піяністы Трэстар і Грунар. Зразумела, што галоўным трыумфатарам быў тут Концкі, які, нягледзячы на патаемныя антыпатыі, рэзкую крытыку і самыя дзіўныя прэтэнзіі, выклікаў энтузіязм публікі, яго ледзь не засыпалі на канцэртах вянкамі і букетамі, а пасля канцэртаў ледзь не расшарпалі на часткі, запрашаючы навыперадкі на абеды і вечары.

Трэба самому быць пазбаўленаму іскры пачуцця, каб адмаўляць іх наяўнасці ў ігры Концкага, хоць, з іншага боку, і тое праўда, што ў тых канцэртах было больш пасажаў, разлічаных на эфект, чым на глыбокія эмоцыі. Гэта, аднак, нельга лічыць такой вялікай правінай майстра, які выступае не перад абранымі, а перад натоўпам, які адчувае сябе абавязаным усіх захапіць сваім талентам і які добра ведае, што толькі адзін з сотні ягоных слухачоў зразумее вышэйшую думку, глыбейшае пачуццё, а дзевя-

---

[1] Маецца на ўвазе альбом *Łapigrosz: Szkice obyczajowe. Skreślił i tekstem objaśnił A. Bartels*, выдадзены Я.К. Вільчынскім у 1858 г.

носта дзевяць гэтым знудзяцца і, можа, пачнуць пазяхаць. Уласна кажучы, я сам бачыў, як тыя паважныя, урачыста-ўзнёслыя месцы, дзе ва ўсёй сваёй велічы ззяла сапраўднае мастацтва, куды майстар уклаў усю сваю душу, і знаўцы, кранутыя да глыбіні душы, не адважваліся прафанаваць выступ апладысментамі, большасць прымала з абыякавасцю, холадна, бяздумна, а там, дзе смычок мігцеў, як маланка, дзе з пальцаў артыста амаль усе суставы ці не вырываліся, і гукі шалёныя, як вогненныя паходні запаўнялі ўсю залу, там шалёныя апладысменты няраз не давалі артысту закончыць граць, і захапленне даходзіла да вар'яцтва. Таксама Концкага вінавацілі ў тым, што ён іграў на адной струне, залічаючы гэта да хітрыкаў, бо многія па прастаце сэрца думалі, што *манакорд* – гэта тая самая скрыпка, якой толькі тры струны аднялі. Між тым, як ты гэта добра ведаеш, і памер скрыпкі, і гэтая ейная струна – незвычайныя, і ігра на іх мае свае асаблівасці, і выключнае прызначэнне, і чароўнасць асобную, вялікую, ні з чым непараўнальную, заснаваную галоўным чынам на той еднасці, на той роўнасці тону, на якую здольны толькі дасканалы голас чалавечых грудзей. Але няма патрэбы расказваць табе ўсё гэта, пра што ты, я ўпэўнены, няраз і чуў, і начытаўся ўволю. Дык я пакіну артыста ў спакоі, а лепш пагавару з табой пра чалавека. Як ён выглядае? Ты бачыў і ведаеш, што ні адзін са шматлікіх партрэтаў не перадае дакладна ягоную знешнасць. Больш важныя акалічнасці, датычныя ягонай прафесіі, ты ведаеш з біяграфіі. У голасе непрадузятых чуеш цудоўнае сведчанне высакароднасці, сумленнасці ягонага сэрца; ведаеш, як ахвотна ён прыходзіць са сваім талентам на дапамогу бедным, як прысвячае яго на хвалу Божую, як, нарэшце, шчыра дае свае парады маладым аматарам мастацтва. У зносінах ён часам непрыемна некаторых уражвае нейкаю горыччу, але ў больш блізкім гроне людзей грунтоўных, а не тых, што ствараюць адно від, захапляе шчырасцю і адкрытасцю свайго характару, а ў хвіліны натхнення прыцягвае вясёлым досціпам і здольнасцю схапіць камічнае, дзе яно з'яўляецца, пры такім настроі ўсе ягоныя аповеды надзвычай прыемныя, і яму ёсць што сказаць, бо ён бачыў свет і ведае людзей.

Не думай, што я мяркую пра ягоны характар толькі па некалькіх сустрэчах, па некалькіх дзясятках слоў, якімі мы з ім абмяняліся. Зусім не. Пазнаёміўшыся з ім у Мінску, я праз некалькі месяцаў меў прыемнасць правесці пару тыдняў у ягоным таварыстве ў Камянцы[1]; а было гэта так.

Гледзячы на тое, як вітала яго Літва, я ўявіў сабе, як падаляне прагнуць пачуць ягоную ігру, а, ведаючы, што праз некалькі дзён пасля выбараў у Мінску павінны пачацца выбары ў Камянцы, сказаў Концкаму, які ён там жаданы і як цёпла яго сустрэлі б. Я нават адважыўся прасіць яго ад імя ўсіх падалянаў, каб меў ласку выступіць перад імі, а памятаючы, з якой руплівасцю камянёўцы працуюць над аднаўленнем катэдры, як, вычарпаўшы ўсе свае магчымасці атрымаць на гэта сродкі, са слязьмі глядзяць у неба, чакаючы Божага цуду, я таксама сказаў, што ў Камянцы ён будзе мець

[1] Маецца на ўвазе горад Камянец-Падольскі, цэнтр Падольскае губерні. Сёння: горад у Хмяльніцкай вобласці Украіны.

мажлівасць пакінуць пасля сябе прыгожую памятку, іграючы на карысць святыні, якая адбудоўваецца. Ён адказаў мне, што з Мінска адразу паедзе ў Камянец і што пра катэдру будзе памятаць. І трэба табе ведаць, што ў Мінску ён таксама граў у катэдральным касцёле, і што сабрана на дабрачыннасць, здаецца, 700 рублёў, калі не больш. І сапраўды, ён пакіраваўся на Падолле, але ў Бабруйску яго дагнала эстафета, выклікаючы ў Пецярбург, і ён – рады не рады – мусіў быў адкласці на больш позні час выкананне дадзенага мне абяцання. Толькі ў наступным (1857) годзе ён паведаміў мне ў лісце, што, памятаючы пра сваё абяцанне, нягледзячы на вялікія цяжкасці, едзе да Камянца праз Кіеў, дзе пабыўшы на кантрактах[1], завітае да нас напачатку лютага.

І я таксама паспяшаўся туды на прызначаны час. Прыезджых спачатку было вельмі мала, бо карнавал з бяспечнаю дарогаю стаўся перашкодаю жаданням шмат якіх аматараў, і мала не хапала, каб Концкі, які звыкся выступаць найчасцей перад тысячнаю грамадою, не пакінуў Камянец без канцэрта. Але калі, памятаючы пра сваё абяцанне, ён заіграў на святой імшы ў катэдральным касцёле, а потым на шляхецкім зборы ў маршалка Яна Садоўскага, дзе вялікае грона захопленых слухачоў ахвяравала некалькі сотняў рублёў на залаты памятны медаль для яго, яму ўжо было немагчыма супрацьстаяць самым настойлівым патрабаванням, і яны, разаслаўшы ганцоў да сваякоў і сяброў, якія жылі на вёсцы, цвёрда заявілі яму, што не выпусцяць яго з горада без канцэрту; а калі ён растлумачыў, што звязаны словам і тэрмінам у Бярдычаве, яны адправілі эстафету, папярэдзіўшы сабраных там гасцей, што яны прымусілі Концкага даўжэй затрымацца ў Камянцы.

Два тыдні прайшлі ў такіх махінацыях, якія, можна сказаць, былі бесперапыннай радасцю для прыхільнікаў Концкага, бо дзень у дзень наладжваліся банкеты і сяброўскія сустрэчы ў яго гонар, і я думаю, што, хоць ужо і перанасычаны трыумфамі, ён з задавальненнем згадвае хвіліны, якія правёў у панства Касельскіх, Падвысоцкіх, Крэмераў, а можа, не забыўся і пра вечар, праведзены ў больш цесным коле, у шаноўнага каноніка Ш., дзе яго прымалі не шыкоўным пачастункам, а гарачым сэрцам, дзе гучалі словы з глыбіні душы, дзе паэзія была за бяседным сталом і дзе не трэба было прасіць яго ўзяць скрыпку, калі ён яе там бачыў, а, узяўшы (хоць і не была яна Паганіні), умеў сыграць на ёй такую мелодыю, пра якую Паганіні і не снілася, мелодыю, якая можа гучаць толькі пад смычком Концкага, у хвіліну натхнення ў мазурцы і паланэзе.

Нарэшце адбыўся канцэрт, на які сабралася столькі слухачоў, колькі магла змясціць зала, а які ён быў артыстычны – пра гэта і казаць не трэба. На наступны дзень, на развітальным сняданку ў губернскага маршалка Сулатыцкага, дзе ад імя грона акалічнае шляхты і самых знатных жыхароў горада годны гаспадар ахвяраваў Концкаму той памятны медаль; яшчэ раз загучала ягоная чароўная скрыпка, выклікаючы такое захапленне, якое

[1] Кантракты – штогадовыя з'езды шляхты і купцоў пэўнае правінцыі ці губерні, на якіх вырашаліся розныя гандлёвыя і гаспадарчыя справы.

цяжка перадаць табе. Крычалі, пляскалі ў ладкі, плакалі, артыста насілі на руках, абдымалі і цалавалі так горача, палымяна, што толькі цудам ён і яго скрыпка засталіся цэлымі.

Але я адхіліўся ад асноўнага сюжэту, хоць гэты эпізод мне спатрэбіўся па-першае, каб пераканацца, што я меў магчымасць крыху бліжэй пазнаць Концкага, а па-другое, што ў свой час газеты пра ягоны побыт у Камянцы нічога не пісалі, а гэты факт меў важнае значэнне ў нашым правінцыйным жыцці. Вяртаючыся зноў у Мінск, працягну расказваць пра канцэрты.

Вялікі і заслужаны поспех меў і Адам Герман з віяланчэллю. Ігра яго была чыстая, поўная элегантнасці і майстэрства, аднак падалася мне недастаткова натхнёнай; прынамсі, не зрабіла на мяне такога вялікага ўражання, якога я мог чакаць ад свае любімае віяланчэлі. Але, можа, гэта быў толькі вынік майго выключнага настрою, бо сёння ягоны, ужо шырокавядомы талент, ставіць яго ў першы шэраг знакамітых артыстаў.

Трэстар іграў на фартэпіяна з Концкім некалькі п'ес, іграў ён прыгожа, выдатна, было і майстэрства, і выразнасць, але ці таму, што мы занадта знаёмыя з добрай ігрой на фартэпіяна, ці таму, што пасля скрыпкі Концкага цяжка атрымаць такое ж уражанне, але не быў ён ацэнены па заслугах.

Грунара (піяніста) я не чуў, бо ён выступаў да майго прыезду ў Мінск. Манюшка, які амаль усе выбары правёў у Мінску, быў толькі слухачом канцэртаў, бо прыехаў сюды зусім не дзеля выступленняў, тым не менш, сярод артыстаў ды літаратараў, а таксама дылетантаў абодвух відаў ён быў аточаны самай сардэчнай пашанай.

Надзвычай урачыстымі апладысментамі спаткалі яго разам з Концкім у доме пана Вінцэнта Марцінкевіча, імя якога табе, пэўна, вядомае, бо ён займаецца і літаратурнай творчасцю, і ў свой час славіўся як здольны артыст, выступаючы на публічных канцэртах са сваімі тады яшчэ малымі сынам і дачкою, якія ўражвалі слухачоў сваім незвычайным для дзіцячых гадоў талентам. Сёння пан Марцінкевіч стала жыве ў Мінску, дзе ягоная дачка паненка Каміла – адна з самых таленавітых піяністак і найлепшых настаўніцаў. Сам ён рупліва працуе ў літаратуры і выдаў некалькі твораў на беларускім дыялекце (*Sielanka*, *Wieczornica*, *Hapon*, *Ciekawyś? – Przeczytaj*, *Dudarz*), пра якія ты мусіў чытаць хвалебную рэцэнзію Сыракомлі[1].

Некалькі гадоў таму пан Скібіцкі ў „Gazecie Warszawskiej"[2] папракаў аўтара, а таксама і рэцэнзента за прапаганду гаворкі, самае няўдзячнае ў вялікай сям'і славянскіх моваў; гаворкі, якая не мае аніякіх нават прыкметаў магчымасці ўзняцца да ўзроўню самастойнае кніжнае мовы, а выглядае толькі як мешаніна перакручанае польскае і рускай моваў. Гэтая заўвага лінгвістычна слушная, але маральна няправільная. Бо шаноўны апанент забыўся, што якой бы няўдзячнай ні была б гаворка, на якой піша пан

[1] У. Сыракомля рэцэнзаваў выданні В. Дуніна-Марцінкевіча ў „Gazecie Warszawskiej" (1855, nr 184; 1857, nr 16), а таксама, ужо пасля публікацыі А. Плуга, у газеце „Kuryer Wileński" (1861, nr 19–20).

[2] Маецца на ўвазе артыкул *Pisma w narzeczach gminnych*, падпісаны крыптанімам ***Y*** і змешчаны ў 138 нумары „Gazety Warszawskiej" за 1856 г.

Марцінкевіч, ён жа перадае думкі многіх тысячаў людзей, значная частка якіх сёння ўмее чытаць, і хоць польская ці руская мова могуць служыць ім выдатна, цяжка, аднак, не прызнаць, што родная гаворка лягчэй трапіць і да сэрца, і да пераканняў простага чалавека. Дык кніжкі, напісаныя на гэтай гаворцы, належным чынам адпавядалі б сваёй мэце і маглі б зрабіць моцны ўплыў на мараль і асвету народа. Ці адпавядаюць творы пана Марцінкевіча свайму прызначэнню? Гэта ўжо іншае пытанне. Я маю шмат сімпатыі да аўтара, спачуваю ягоным высакародным намерам і таму не вагаюся выказаць сваё меркаванне пра яго. Я не сумняваюся, што ягоныя творы могуць падабацца сялянам, бо прамаўляюць іхнаю моваю, і ў пэўным сэнсе дасканала малююць іхны свет, але не скажу, што адсюль вынікае якая-небудзь сапраўдная маральная карысць, бо пакуль яшчэ пан Марцінкевіч не выявіў свайго погляду, не стварыў для сябе такога жанру, у якім бы, апрача разумнага занятку, знайшлі б простыя людзі і святую навуку.

У сваіх творах, якія выйшлі да гэтага часу, малюючы то гулянку ў карчме, то традыцыйныя ўрачыстасці, як купалле, дажынкі і г. д., аўтар, мне здаецца, больш думаў пра сваіх адукаваных чытачоў, чым пра простых людзей, і для іх, а не для люду ён люд паказваў. Мы не сумняваемся, што пан Марцінкевіч з часам знойдзе сапраўдны шлях, і што ягоныя кніжачкі, пашыраючыся ў ліцвінскіх валасцях, будуць мець вялікі ўплыў на паляпшэнне звычаяў народа; пацвярджэнне маіх спадзяванняў бачу я ў ягоным апошнім лісце да мяне, дзе ён паведамляе, што падрыхтаваў да друку *Bylicy i rozkazy Nauma Pryhoworki*, першая з якіх пад назвай *Złaja żonka* мае на мэце паказаць, якою бядою з’яўляецца кепская жонка нават для лепшага селяніна.

Пан Марцінкевіч добра зрабіў бы, каб пазнаёміўся з малюнкамі вясковага люду В. Велаглоўскага[1]; малюнкамі, якія ў нашай літаратуры найбольш адпавядаюць маральным патрэбам народа, з тою, аднак, агаворкаю, каб не адно зло маляваў, бо не заўсёды лёгка паказаць зло агідным і адштурхнуць люд ад яго; часцей замест агіды вымалёўваецца шлях да яго; наадварот, трэба часцей паказваць узоры лепшага, заахвочваючы да добрага і ім захапляючы. Яшчэ я параіў бы яму, каб ён пісаў свае малюнкі прозаю, а не вершам; люд ведае верш толькі ў песнях альбо зрэдчас у казках, а праўда ў прозе будзе яму больш зразумелая. Там жа, дзе аўтар мусіць гаварыць рыфмаванаю моваю, няхай большую ўвагу звяртае на яе рытмічнасць, няхай не грэбуе метрычнасцю, бо з гэтае прычыны знікае ўся прывабнасць; мова робіцца сухою і шурпатаю; ды ўвогуле няхай імкнецца да ейнае элегантнасці і дасканаласці, няхай пазбягае залішняе грубасці, якая вельмі лёгка пераходзіць у трывіяльнасць.

Вось у гэтага пана Марцінкевіча, вядомага пад псеўданімам Навум Прыгаворка, артыста, літаратара, вялікае грона артыстаў, літаратараў, а таксама грамада абодвух полаў стала сведкам, як шаноўны гаспадар, з’явіўшыся на чале трох дзяўчынаў, апранутых па-вясковаму, з вянкамі

---

[1] Гаворка пра выдаўца і літаратара Валеры Велаглоўскага (1805–1865), які пашыраў кнігі сярод люду па нізкім кошце.

і букетамі ў руках, прывітаў ад імя ўсіх жыхароў Мінска Манюшку і Концкага вершам, напісаным на беларускай гаворцы, які я лічу самым лепшым з ягоных твораў, што пачынаецца словамі, якія вельмі ўдала перадаюць дух народнае песні:

Zaświecili dwie zwiezdaczki, uporu nam szczaśliwu.
Zalacieli dwa sakoły dyj na naszu niwu,
Nie zwiezdaczki to niebiesny, szto jarka mihajuć,
Nie sakoły szto szyroka buszujuć u poli,
A prybyli dwa dudary, tak piajuć i hrajuć,
Szto anheły nadziwicca nie – usile zdawali. – i t. d.[1].

Пасля чаго дзяўчаты ўвянчалі нашых дарагіх майстроў і падаравалі ім букеты, а ўслед за гэтым пан Адам Пянькевіч[2] ушанаваў кожнага з іх уласным вершам па-польску.

Апрача Манюшкі, Концкага і Пянькевіча з роду Апалона знаходзіліся ў гэтай грамадзе Юльян Гарайн[3], Трэстар, Навіцкі (фартэпіяніст, таварыш артыстычнага падарожжа Концкага, ягоны акампаніятар і кіраўнік аркестра на канцэртах), Барташэвіч (малады скрыпач з незвычайным талентам, вучань Концкага), віяланчэліст Герман, Язьвінскі, знакаміты аўтар гістарычнага метаду, і Адам Шэмеш, мастак, вучань Рустэма.

Нашая сустрэча з жывою гутаркаю, музыкаю і спевамі зацягнулася далёка за поўнач. Мне было прыемна пачуць некалькі п’ес у выкананні панны Камілы Марцінкевіч, чыю поўную грацыёзнасці, лёгкасці і сапраўднага пачуцця ігру ўсе віталі апладысментамі. Таксама з невымоўным задавальненнем слухаў пана Навіцкага, які вылучаецца перш за ўсё глыбокай экспрэсіяй і яснасцю музычнае думкі. Не прымушаючы сябе настойліва прасіць, не марудзячы, ён іграў з прыемнай ахвотай, нават з непадробнай сімпатыяй, бо адчуваў, што мае разумных і сімпатычных слухачоў. Ён пазнаёміў нас з некалькімі ўласнымі творамі, з якіх дагэтуль гучаць

---

[1] Беларускія гісторыкі літаратуры даўно ўжо звярнулі ўвагу, што дадзены верш В. Дуніна-Марцінкевіча меў некалькі варыянтаў. Першы з іх з’явіўся ў друку ў 1857 г. (дазвол цэнзуры датаваны 31.01.1857 г.) у зборніку паэта *Dudarz białoruski, czyli wszystkiego potrosze* пад тытулам *Wiersz Nauma Pryhoworki: Na uczczenie przybycia do miasta Mińska Apolinarego Kątskiego, Władysława Syrokomli i Stanisława Moniuszki* (s. 115–117). У наступным годзе А. Плуг спачатку надрукаваў з невядомага арыгінала другі варыянт твора ў перакладзе на польскую мову ў сваім зборніку *Pamiątki domowe* (дазвол цэнзуры датаваны 30.11/12.12.1857 г.) пад тытулам *Wiersz Wincentego Marcinkiewicza do Apol. Kątskiego, Moniuszki i Hermana* (s. 179–181), а 25.09/7.10.1858 г. пачатковую страфу трэцяга варыянта (вітанне С. Манюшкі і А. Концкага) на мове арыгіналу ў „Kronice wiadomości krajowych i zagranicznych” (nr 26). Гэтую ж страфу ў перакладзе на польскую мову ён яшчэ раз надрукаваў у артыкуле *Moniuszko w Mińsku* [Pług 1896, nr 19: 374].

[2] Гаворка пра паэта і выдаўца Адама Пянькевіча (1811–1879).

[3] Гаворка пра літаратара і публіцыста Юльяна Гарайна (1821–1883).

у маёй памяці ягоны чароўны *абертас*[1], міленькая фантазія пад назвай *Słowik* і некалькі песень, а менавіта:

Kupie tobie domek nowy,
Domek nowy sad wiszniowy i t. d.

Іграў ён таксама некаторыя ўрыўкі са свае оперы, для якое пан Вацлаў Пшыбыльскі напісаў лібрэта паводле *Budnika* Крашэўскага[2]. Шмат там незвычайнае прыгажосці, і я не разумею, чаму пісьменнік і кампазітар адмовіліся ад сваёй задумы, якая была больш чым напалову выкананая. Пан Леанард Навіцкі – гэта яшчэ чалавек малады, поўны жыцця, сілаў і запалу; ён мае перад сабой вялікую будучыню, якая цалкам залежыць ад ягонае добрае волі, бо Бог даў яму сапраўдны талент.

Раніцай мы разышліся, маючы ў душы самыя прыемныя ўражанні, якія не мне, пэўна, аднаму доўга будуць памятацца.

Некаторых мастакоў і літаратараў, якія прысутнічалі са мною на гэтым вечары, я не ведаў: пра адных ужо раней табе расказаў, пра іншых мушу яшчэ сказаць колькі слоў.

Юльяна Гарайна, пэўна, ты ведаеш як карэспандэнта „Kroniki", а некалі сталага супрацоўніка „Dziennika"[3] і аўтара *Chwil straconych*. Гэта шляхціц з ваколіц Мінска, чалавек гадоў трыццаці, з выдатнай адукацыяй і талентам, але да літаратуры ён ставіцца хутчэй як да забавы, чым як да паважнага занятку па прызванні, пра што сведчыць сама назва яго твора. Як чалавек таварыскі, ён вызначаецца чароўнай лёгкасцю жыцця і надзвычай вясёлым, хоць часам вострым досціпам, але нікога ім не абражае, бо і сябе не шкадуе. Я правёў з ім шмат вельмі прыемных хвілінаў. У сябе дома ён чытаў мне з рукапісу сваю аповесць пад назвай *Foryś* (цяпер апублікаваная), якая, хоць Крашэўскі і закідае ёй банальнасць задумы, падалася мне вельмі ўдалай, напісанай зграбна, свабодна і жыццёва. Пэўны час пан Гарайн жыў у Варшаве, супрацоўнічаў з „Dziennikiem" і адтуль мае ў памяці шмат цікавага для дасціпных размоваў, а ў альбоме – шмат шаноўных аўтографаў. Аднак больш за ўсё мяне ўразіў наступны верш, які я, раз прачытаўшы, дагэтуль памятаю, і які сваім зухаватым стылем, шчырай польскай думкай і сакавітаю моваю надзвычай нагадвае Поля:

Jest przysłowie dawne
W całej Polsce sławne,
Człowiek bez sumienia,
Karczma bez podsienia,
Bez klinów koszula,
Bez kozery karta,
I naród bez króla,
Rzecz to djabła warta.

---

[1] Польскі народны парны танец.

[2] Маецца на ўвазе *Budnik* Ю.І. Крашэўскага з цыклу народных аповесцяў, надрукаваны ў 1848 г.

[3] Маецца на ўвазе штотыднёвік „Dziennik Warszawski", які выходзіў пад рэдакцыяй Генрыка Жавускага ў 1851–1856 гг.

Gdyby dziś ten ożył
Co przysłowie złożył,
Pewnoby dołożył
Niechaj djabeł bierze
Przyjaźń na papierze!

І адгадай, хто гэта напісаў? Не Поль[1], не які-небудзь з варшаўскіх літаратараў, нават не мужчына, а ліцвінская панна (сёння яна ўжо замужам), імя якое я не маю права назваць; я чытаў яшчэ некалькі адзначаных бясспрэчным талентам ейных вершаў.

Адам Шэмеш, чые працы партрэт Сыракомлі я апісаў табе ў Барэйкаўшчыне, – гэта чалавек, якому сёння можа быць каля пяцідзесяці гадоў; ён спакутаваны вялікімі няшчасцямі[2], з якіх, аднак, вынес сэрца чыстае, нязломнае, поўнае запалу і самых узнёслых пачуццяў, гатовае ў любы момант на найвялікшую ахвяру. Характар у яго ціхі, лагодны, самаахвярны, у яго поўная адсутнасць самалюбства, старраннае ўніканне найменшае паказухі, а ў кожным кроку, у кожным слове, у кожным поціску рукі, пададзенай выбраным, самая пяшчотная душа – усё гэта чыніць яго надзвычай сімпатычным, любіць і паважаць змушаючы.

[XIV]

Я не магу, не адважваюся знаёміць з ягоным жыццём, поўным пакутлівых расчараванняў, але некаторыя факты пра яго можна знайсці ва *Wspomnieniach i pamiętnikach* пані Эвы Фялінскае[3]. Ягоны мастакоўскі талент знаўцы ацэньваюць надзвычай высока, я ж паводле аднаго партрэта і некалькіх эцюдаў не магу меркаваць адназначна; але каб нават бачыў і больш ягоных работ, дык не адважыўся б яшчэ канчаткова меркаваць, бо цяжка пранікнуць туды, куды трапілі б гэтыя духоўныя сілы, большую частку якіх ён павінны быў скіраваць на сталае змаганне з нягодамі, каб мог іх усе прысвяціць свайму любімаму мастацтву. А што сілы гэтыя вялікія, што ён сапраўдны мастак-паэт, у гэтым няма сумневу, гэта відаць і па характары, і па пэндзлі. Ён адзін з тых тыпаў, якіх цяжка знайсці ў нашым сучасным матэрыялізаваным грамадстве і якія можа стварыць толькі прарок у момант сапраўднага натхнення.

Прынамсі, такім я памятаю яго ў сваім сэрцы, а трэба табе ведаць, што дзеля дапаўнення тае паэтычнае чароўнасці, у якой бачу яго, ён заўсёды ўяўляецца мне так, як я ўпершыню ўбачыў яго ў ягонай кватэры, у келлі старога бернардзінскага кляштара, па змрочных і пустых калідорах якога,

[1] Гэты тэкст друкаваўся ў альманаху „Nadwiślanin: Pamiętnik literaturze poświęcony" (1841, t. I, s. 100) пад прозвішчам В. Поля. Уключаны ён таксама ў сёмы том поўнага збору твораў В. Поля пад тытулам *Z Albumu Adama hr. Z.* [Pol 1877, t. VII: 385].

[2] А. Шэмеш з 1842 г. да 1846 г. адбываў высылку спачатку ў Херсон, а пасля Саратаў.

[3] Гаворка пра пісьменніцу і мемуарыстку Эву Фялінскую (1793–1859), якая з 1839 г. да 1844 г. была на высылцы ў Сібіры, а пасля ў Саратаве.

дзе паўтараліся панурым рэхам мае крокі, я доўга блукаў, пакуль не трапіў да ягоных дзвярэй. Сціплая мэбля, якая сведчыць пра суровае самотнае жыццё, кнігі, карціны, алоўкавыя эскізы, асветленыя няўпэўненым святлом, якое прабівалася праз закратаванае вакно, – усё было такім маляўнічым і такім натуральным атачэннем гэтае велічнае постаці са спакойным, але кранальным тварам, з вялікімі блакітнымі вачыма, з позіркам ясным і чыстым, сардэчным, але дзіўна меланхалічным, з шырокім ілбом, зацененым густымі, але прыцярушаным сівізною валасамі; яны так пасавалі яму, што я табе і перадаць не магу, якое шчасце я адчуваў у гэтай келлі з гэтым чалавекам.

Адам Пянькевіч, доктар медыцыны, навучэнец Крамянецкага ліцэя, а потым Віленскае акадэміі, аўтар *Pieśni naszych*, выдавец *Wyboru poezji pisarzy Polskich*, таксама сталы жыхар Мінска, дзе мазольная праца ў галіне медыцыны дае яму сродкі на сціплае жыццё і на выхаванне дзяцей, асірацелых пасля смерці маці.

Мне няма патрэбы расказваць табе пра гэтага чалавека, пра гэтага паэта, лекара, прачытай ягоныя *Pieśni nasze* і ты ўбачыш у іх яскравы вобраз гэтае ўзвышанае душы, поўнае гарачае веры, вялікае любові і сапраўднае хрысціянскае пакоры; ты адчуеш у іх усе ейныя крывавыя расчараванні і кожны прыглушаны енк, ахвяраваныя Богу ў малітве, поўнай пакорлівасці і паслухмянства. Прачытай уступ да гэтых песень, і ты даведаешся, якое высокае ўяўленне мае прарок пра місію паэзіі, як ён разумее яе значэнне; прачытай песню *Do Anioła stróża*, прачытай перш за ўсё *Pieśń lekarza* і ты пераканаешся, якою святою з'яўляецца для яго гэтая высакародная прафесія, які ён вольны нават ад найлягчэйшых путаў матэрыяльнага свету, як у ім усё ад Бога, у Богу і для Бога.

*Pieśni nasze* былі апублікаваны Глюксбергам у Вільні ў 1848 г.; у іхні склад уваходзяць: *prolog i początek pieśni Emmanuel, Batowy szlak, król, Królowa Jadwiga, Dwa Rapsody z pieśni Chocimskiej, Do Anioła stróża, Pieśń natchniona obrazem św. Marji Magdaleny do Moesa, Pieśń ziemska na niebieski strój i Pieśń lekarza.* Я не маю намеру ўзводзіць гэты зборнік паэзіі ў шэраг шэдэўраў, нават не залічваю яго да першакласных твораў нашае літаратуры, бо форма ў іх не заўсёды адпавядае ўзнёсласці ідэі, бо натхненне не заўсёды дае вольны палёт душы, абцяжаранай знешнім прыгнётам; але я не магу, аднак, не адзначыць узнёслага настрою духу ў гэтых песнях; я не магу не палюбіць паэта, які ўклаў у кожны верш і амаль у кожнае слова сваё гарачае сэрца, прасякнутае самымі пачцівымі прынцыпамі; і я, нарэшце, не магу не пашкадаваць, што ягонай натхнёнай песні не хапае больш свабоднага дыхання, каб перадала ўвесь голас Божы, што гучыць у ейных грудзях, і што гэтым прыглушаным гукам, якія азваліся ў *Pieśniach naszych*, у свой час не надавалася такое ўвагі, якой яны вартыя і якой мы сёння абдорваем не адзін твор, што не мае і паловы тае вартасці, што яны. Аднак я не звязваю гэта з абыякавасцю шырокае публікі, а толькі з эпохай, у якую з'явіліся вершы пана Пянькевіча, бо 1848 год быў найменш прыязны да літаратуры, розумы былі занятыя чымсьці іншым; у перыядычным друку нашых правінцый быў нейкі хаос, сутыкненне супярэчлівых элементаў,

з Варшавай не мелі мы аніякіх дачыненняў, а зрэшты, і яе публіцыстыка ў той час была далёкая ад тае вышыні і пашыранасці, у якіх яна знаходзіцца сёння. Пасля гэтага ў кожнага дня была свая задача, і немагчыма было павярнуць назад і заняцца тым, што было прамінута ўвагай. Але я быў бы вельмі вінаваты, каб успамінаючы сваё знаёмства з панам Пянькевічам, змаўчаў пра ягоныя *Pieśni* і не паспрабаваў звярнуць увагу сваіх таварышаў на гэтага годнага працаўніка, якому не хапае толькі волі і спакою, каб пры таленце, кіраваным самымі пачцівымі памкненнямі, ён заняў адно з найвыдатнейшых месцаў сярод нашых заслужаных пісьменнікаў. У сваім партфелі аўтар *Pieśni naszych*, на тытульнай старонцы якіх пазначана: першы том, мае багата матэрыялаў для другога, якія трэба толькі прывесці ў парадак і перапісаць, але на гэта праца на хлеб надзённы не пакідае яму часу, а клопат пра лёс дзяцей стрымлівае вольнаю думку[1].

Пра Язьвінскага, аўтара *Nowej metody historycznej*[2], толькі тое скажу, што бачыў яго на тым вечары ў пана Марцінкевіча, пра што даведаўся толькі пасля ягонага адыходу, не перакінуўшыся з ім ані словам. Ты лёгка зразумееш, як мне было прыкра, і як я папракаў шаноўнага гаспадара, што так сардэчна клапоцячыся пра задавальненне сваіх гасцей, ён не падумаў, колькі прыемнасці зрабіў бы мне, пазнаёміўшы мяне з гэтым заслужаным мужам. Пазней я спрабаваў сустрэцца з ім, але дарэмна, бо зусім страціў яго з поля зроку. Толькі вяртаючыся на Падолле, у Бабруйскім павеце я даведаўся пра яго ад ягоных знаёмых, што ён заўсёды рупліва працуе ў галіне гісторыі ды філалогіі і ахвотна выкладае сваю тэорыю тым, хто жадае пазнаёміцца з ёю.

Да прадстаўнікоў інтэлектуальнага руху ў Мінску належыць таксама сталы ягоны жыхар пан Ігнацы Пётр Легатовіч[3], магістар філасофіі, былы наглядчык школаў, пенсіянер, аўтар шэрагу твораў маральна-сатырычнага зместу, як напр.: *Epigrammata, Podarek dla młodzieży, Prawidło poczciwego życia, Apoftegmata, Nauka moralna dla dzieci i Myśli*. Як у эпіграмах шмат праўдзівага досціпу, так і ў творах маральнага зместу паўсюль здаровая думка, выказаная ясна і сцісла; гэтыя кніжачкі, аднак, маючы несумненную вартасць, не атрымалі дастаткова шырокага распаўсюджвання ці то таму, што гэты жанр сёння зусім выйшаў з моды, ці то таму, што аўтар друкаваў творы ўласным коштам.

Так ці інакш, усё гэта не надта цешыць, а хацелася б, каб творы пана Легатовіча больш купляліся ў кнігарнях. Апрача пералічаных тут твораў, аўтар мае ў рукапісах багатую калекцыю эратычных эпіграм, нямала якіх ходзіць сярод мужчынскай аўдыторыі, асабліва за чаркай, і хоць строгая сціпласць слушна захінае ад іх вушы, хоць недапушчальна хваліць іх за свавольныя думкі, нельга не прызнаць бязмернае дасціпнасці і арыгінальнасці. Працы пана Легатовіча тым больш цікавыя, што шаноўны пенсія-

---

[1] На дняхі я атрымаў ад яго радасную вестку, што ён ужо плануе выдаць *Nowe pieśni nasze* (*заўвага А. Плуга*).

[2] Гаворка пра філосафа Антоні Язьвінскага (1789–1870).

[3] Гаворка пра настаўніка і паэта Ігнацы Легатовіча (1796–1867)

нер, на жаль, інвалід, пазбаўлены зроку, самага дарагога пачуцця для кожнага чалавека, а тым больш для літаратара.

Таксама ў Мінску часцей за ўсё жыве пан Малышэвіч[1], артыкулы якога ты напэўна не раз сустракаў у „Kronice", вялікі аматар і знаўца літаратуры і мастацтва, уладальнік вельмі выдатнае бібліятэкі, дзе маецца некалькі кніг і рукапісаў, якія лічацца бібліяграфічнымі рэрытэтамі.

Мне таксама шмат расказвалі пра бібліятэчныя і археалагічныя зборы, пра цудоўныя карціны, якія належаць пану К., але я не меў прыемнасці іх бачыць.

[XV]

На завяршэнне маіх мілых уражанняў з побыту ў Мінску я мушу яшчэ згадаць табе пра сяброўскі вечар у панства П., дзе разам з Манюшкам, Пянькевічам, Шэмешам і Марцінкевічам я правёў некалькі вельмі прыемных гадзінаў як з прычыны кампаніі, так і цёплае гасціннасці шаноўных гаспадароў, а таксама пра тую сустрэчу ў паноў Л., пра якую я табе ўжо казаў з нагоды пана Бартэльса. Тут сярод іншых гасцей я сустрэў Концкага, Навіцкага і пана Канстанціна Тышкевіча, дзедзіча Лагойска, уладальніка знакамітае бібліятэкі і археалагічных збораў, сапраўднага аматара навукі, які ў той час займаўся гістарычным апісаннем ліцвінскіх замкаў[2]. Ты лёгка зразумееш, як цудоўна прайшоў час у такім таварыстве.

Нашыя гаспадары – тры браты; гэта маладыя людзі з сапраўды добрай адукацыяй, поўныя лепшых намераў і любові да мастацтва і айчыннае літаратуры (два малодшыя нават самі здольныя прынесці пэўную карысць пісьменству), як умелі сабраць сваіх гасцей, так і ведалі, як іх пачаставаць – і пры самай жывой, сардэчнай размове, музыцы і спевах мы працягвалі нашую бяседу далёка за поўнач. Тут я меў сапраўдную асалоду пачуць цудоўны голас пана С., з вуснаў якога песні Манюшкі – сапраўдны цуд.

Зачараваны і музыкай, і неапісальна чароўнымі размовамі, вярнуўшыся дахаты я кінуўся на ложак і ледзь пачаў драмаць, не могучы заснуць душою, у якой яшчэ гучала рэха песень і гутарак, як мяне раптам вырваў з прыемных сонных мрояў энергічны стук у дзверы і голас нашага пачцівага калегі са слуцкае школы, а сёння настаўніка ў ёй – Уладзіслава Г.[3], спаткаўшыся з якім у Мінску, я абяцаў, што паеду ў Слуцак на ягоным возе. Як абывацель Бабруйскага павета, ён прыехаў на выбары і ўжо два дні быў цалкам вольны і гатовы ў дарогу, толькі чакаў мяне і крыху трацію цярплівасць. Дык не было рады – даў я слова, і хоць мне шкада было

[1] Гаворка пра рэдактара газеты «Минскія губернскія вѣдомости» Паўла Малышэвіча (1821 – ?), аўтара аднае з першых публікацый пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча.

[2] Гаворка пра гісторыка і археолага Канстанціна Тышкевіча (1806–1868), брата Яўстаха.

[3] Магчыма, гаворка пра Уладзіслава Іжыцкага-Германа (1822–1871), пазнейшага інспектар Слуцкае гімназіі. Радавы маёнтак Іжыцкіх-Германаў знаходзіўся ў Слабадзе пад Бабруйскам.

пакідаць Мінск, дзе знайшоў столькі ўцехі, дзе сустрэў столькі зычлівых сэрцаў, не мог, аднак, адмовіцца ад сардэчнае радасці, якую давала мне падарожжа з Уладзіславам, і верны свайму слову, дазволіў яму забраць сябе, нібы ягоную ўласную рэч. І ён добра зрабіў, што нарэшце вывез мяне, бо і так я прасядзеў у Мінску, звыш намеру і спадзявання, амаль два тыдні.

У той жа дзень на захадзе сонца я ўбачыў мой любімы Слуцак. Ці мушу апісваць табе тое шчаслівае пяшчотнае пачуццё, якое выклікаў у маім сэрцы выгляд гэтага горада, які быў сведкам юначага развіцця маіх пачуццяў і думак, святыняю першых клятваў сяброўства, першых уздыханняў да мудрасці і славы, арэнаю першых спаборніцтваў у гонар Мінервы і Апалона, першага сутыкнення з рэчаіснасцю дзеля выпрабавання сілы духу на ўсё жыццё?! Хацелася б зрабіць гэта ад душы, бо ў маёй памяці гэтае ўражанне ззяе, як духмяная снежная лілея, на якой перламутрам блішчыць ранішняя раса... Але таму не адважваюся яго апісваць, бо гэта было б так, нібы я хацеў замяніць жывую кветку папяроваю альбо засушанаю. Дык скажу коратка: выгляд Слуцка напоўніў маё сэрца найпрыемнейшым пачуццём, у якім сканцэнтравалася памяць пра ўсе перажытыя шчаслівыя ўражанні, зазнаныя тут за 7 гадоў, памяць пра ўсе прыснёныя кранальныя мроі за 14 гадоў пасля таго, як выйшаў з-пад школьнага даху; і ў душы, як у ліхтары чарнакніжніка, пачалі перасоўвацца чароўныя цені. І вось у вясёлкавых промнях заззялі на першым плане касцёл і школа, адно каля другога, адно ў другім амаль, бо зместам навучання ў нашай школе былі тыя ўзнёслыя словы святога пісання, выбітыя на ейных мурах: *Страх Божы – пачатак мудрасці*. І я ўбачыў сябе маленькім жачкам[1] у школьным мундзіры ў натоўпе калегаў, у шэрагу, што з кніжкамі пад пахаю, пакідае муры гімназіі і спяшаецца праз бернардынскі мост да фары, гучныя званы якое абвяшчаюць пра святую імшу. А тыя муры здаваліся такімі вялізнымі, а мост той такім доўгім, а фара такою высокаю, а званы такімі гучнымі... І вось, здавалася мне, што ў бялюткай комжы[2], апусціўшы галаву да зямлі, я кленчу ля алтара, служачы святую імшу; а з сэрца мне ліецца малітва гарачая, як духмяны дым з кадзільніцы ў маёй руцэ; альбо на хоры з дзясяткам таварышаў пад кіраўніцтвам вусатага Шрэйта, мы згоднымі галасамі, у кранальным запале спяваем:

Пойдзем да Пана…

Мы выходзім з касцёла... На дзядзінцы кс. прэлат Шантыр[3] хваліць наш спеў, гладзіць нас па галоўках, шчыпае за румяныя шчокі, падае пацалаваць сваю руку... Кс. прэлат такі ж самы, як быў: сухі, маленькі, з жоўтым маршчыністым тварам, з гарбатым носам, з пранізлівым позіркам, з вечнаю ўсмешкаю на бяззубых вуснах, роўны, стройны, хоць мізэрны, паваж-

[1] Вучань ці студэнт.

[2] Белая кароткая апранаха, якую ўжываюць падчас літургіі святары, а таксама свецкія асобы, якія дапамагаюць духоўным.

[3] Гаворка пра асэсара Санкт-Пецярбургскае духоўнае калегіі Станіслава Аўгуста Урсына Шантыра (1764–1847), які з 1815 г. быў пробашчам Слуцкае парафіі.

ны, хоць усмешлівы... А побач з ім усплывае ў памяці *Towarzystwo dobroczynności*, якое ён заснаваў і так добра развіў, і ягоны *шпіталь для старцаў і інвалідаў*, які так старанна ўтрымлівалі; і ягонае на задушкі жалобнае набажэнства, прысвечанае памяці памерлых сяброў Таварыства, з тымі могілкамі пасярод касцёла, дзе на жоўтым пяску стаялі чорныя крыжы з іхнімі імёнамі, як на сапраўдных могілках; і з тою моваю *ex abrupto*[1], да якое бедны стары меў слабасць, памятаючы пра прапаведніцкі дар сваіх маладых гадоў, і якою часта смяшыў сваіх слухачоў. Ля яго таксама я бачу і тыя незлічоныя таблічкі, аб'явы і цэлыя кніжачкі, напісаныя ім друкаванымі літарамі, а талентам такім, нягледзячы на дрыготкую руку, ён так добра вызначыўся, як таксама мудрагелістым выцінаннем нажніцамі з паперы розных імёнаў, сентэнцый. Ля яго нарэшце бачу ягонага слугу-карузліка, з якога мы неаднойчы смяяліся, калі ён у нямоглым гневе праклінаў нас словамі і жэстамі, і за якога многія добра пацярпелі, калі, гледзячы на яго падчас імшы, не маглі стрымаць смеху.

Далей на чале жабракоў аднавокі, кульгавы, з крывою рукою просіць міласціну пан Ст...віч, пан, бо шляхціц з продкаў, з правам на карону, дык і стаўся каралём... старцаў! Кажуць, што праз пабожнасць, успрымаючы літаральна словы Хрыста *дабрашчасныя ўбогія, бо іх ёсць валадарства нябеснае*, і праз сваё калецтва, маючы бясспрэчнае права на жабрацкую торбу, аддаў ён свой маёнтак, які меў, сям'і і сеў пад касцёлам. Бачу яго, як ён у сваёй шэрай капоце, голасам і кіем пануе над шумным натоўпам жабракоў, як вырашае спрэчкі і старанна дзеліць паміж імі міласціну, дадзеную яму для ўсіх. У ягоным аршаку бачу я сляпога *Сака*, які нібыта чатыры вокі меў, з кіем сваім увесь горад абабег па мастах і кладках; і гневаўся, калі які з жакаў крычаў на яго: *Сак, Сак, дай табакі*; ён праклінаў, лаяўся і размахваў кіем, хоць і аддаліўся ад нападніка на некалькі сотняў крокаў, а няраз каго і невінаватага добра збіваў. Гэтым карысталася свавольная дзятва, бо, бывала, заўважыўшы, што ля Сака вось-вось пройдзе жыд ці жыдоўка, яны крычалі здалёк "Сак, Сак, дай табакі", а Сак, пачуўшы нечыя крокі побач, махаў кіем і біў таго, хто апынуўся побач.

Потым я бачу нашага школьнага блазна Кар…скага, які так спраўна ўмеў прыкінуцца вар'ятам і, не працуючы, есці вячэру. Бачу тую маленечкую постаць, сухую, васпаватую, з тоненькім галаском, у доўгай, аж да пят капоце, як ён звіваецца, скача, маршыруе, спявае, правіць казанні, прамовы і пацешныя баечкі, а дзеці кідаюць яму грошы і пернікі... Тут таксама стары *Хаім* са сваім корабам, пачцівы Хаім, улюбёнец усяе школы, захоплены сваім кухарскім рамяством і шкалярамі да такое ступені, што калі ў Нясвіжы, дзе ён раней гандляваў, зачынілі школы[2], і многія тамтэйшыя вучні пераехалі ў Слуцак, дык і ён за імі са сваім корабам пацягнуўся. Я бачу, як ён, закінуўшы галаву, сівою барадою, як парасонам, акрывае скрынку з булачкамі і пернікамі, якую нясе перад сабой на тасьме цераз плячо і, б'ючы

[1] Экспромтам, без падрыхтоўкі.

[2] Маецца на ўвазе ліквідацыя расейскаю ўладаю ў 1835 г. дамініканскае школы ў Нясвіжы.

па ёй кіем, крычыць на ўсё горла: “*Хоп, пірагі недарагія*”. Я бачу, як з тлумам жакаў бягу да яго, купляю печыва; і як я з ім б'юся ў пернікі, і як ён у нас пытаецца, калі будзе *маёўка*? Маёўка, маёўка – чарадзейнае слова, чарадзейныя абуджае ў душы вобразы.

Два тыдні да таго радаснага дня чалавек, бывала, толькі пра яго марыў і гаварыў, толькі і рыхтаваўся да яго, шыючы мячыкі і стругаючы паланты[1], ён нават мог бы забыцца, што ёсць на свеце кнігі, каб не страх што за кепскую адзнаку можа застацца дома на пакуце. А калі ўжо прыйдзе жаданая дата, дык яшчэ да світання ўсе дзеці на нагах, а пятай гадзіне ўсё ў школе ў зборы, прэфекта і прафесараў нецярпліва чакаюць, каб класамі ў належных калонах пад іх кіраўніцтвам рушыць у кірунку Мінска альбо Новага Двара.

Вось мы на школьным дзядзінцы, вось мы рыхтуемся, вось студэнты-музыкі настройваюць інструменты, гучыць цудоўны марш і з вясёлым крыкам плыве па горадзе... Прэч з дарогі, габрэі, каму жыццё дарагое, я раіў бы яшчэ і аканіцы ў дамах пазачыняць, бо адно што нябачна, як каторы гузака займее, альбо як шыбы ад камянёў зазвоняць.

За горадам мы даганяем цэлы табар фурманак, на якіх гаспадары вязуць розны правіянт для сваіх сталоўнікаў. Шэрагі змешваюцца, многія садзяцца на калёсы, іншыя, маючы гонар, трымацца да апошняга, насміхаюцца з інвалідаў і, аб'яднаўшыся ў дробныя сяброўскія гурткі, з песняю і гамонкаю ідуць аж да абранага месца. Вось мы прыходзім, вось мы сярод лесу на шырокай паляне. Шмат мітусні і руху, гучаць воклічы, музыка і песні, стукаюць сякеры, што валяць ахапкі галінаў на шалашы, спрачаюцца гандляркі, якія ўжо расселіся з кошыкамі булак і пернікаў, ржуць коні шляхты і *выбранцаў*, чакаючы ахвотнікаў, якіяноймуць іх на курс, каб зламаць сабе шыю. А дзеці ці то носяць ламачча для вогнішча, ці то ўвіваюцца вакол снядання, ці то не марнуючы часу пачынаюць забавы: гуляюць у паланта, у кеглі альбо ў мэту, альбо ў кашу, пакуль агульны палант пачнецца, у якім і прэфект, і прафесары прымуць актыўны ўдзел. Сярод незлічоных уцехаў дзень праляцеў, як адно імгненне. Вось ужо і вечар, ужо пара думаць пра вяртанне дадому, старэйшыя вучні, параіўшыся хвілінку, збіраюцца гуртам каля прафесараў, становяцца ў кола і спяваюць песню на віват кожнаму паасобку і кожны па чарзе з вясёлым крыкам падхоплены на рукі, павінен на імгненне ўзляцець угору; кожны, апрача пана Ягайлы, які заўсёды незаўважна ўцякае ад гэтага гонару, толькі аднойчы мы злавілі яго ў калясцы жонкі, а калі ён адмовіўся выйсці, дык мы цэлай грамадой напалі на воз, і з возам, і з жонкаю хацелі падкідаць яго – ледзьве адпрасіўся.

Пасля мы вяртаемся дадому, палова на фурманках, а зухі – пешкі з музыкай і песнямі, прагнучы да апошняе кропелькі выпіць тую слодыч, якую дорыць ім маёўка ў сваім кубку... Які ж потым смачны сон, якія ў ім шчаслівыя мроі...

---

[1] Кій дзеля аднайменнае гульні, удзельнікі якое, падзеленыя на дзве каманды, б'юць кіем па невялікім мячыку.

[XVI]

Але вось, нібы нейкі вялізны камар, звініць школьны званок: у клас, у клас, хутчэй наногі ўставай, кніжкі пад пахі і марш у школу. І вось я ў класе, у прасторных школьных сенцах бачу нашага шаноўнага прэфекта Леапольда Васіноўскага[1] і ўсё грона настаўнікаў: Багуслаўскага, Гесэ, Ягайлу, Клернера, Крыжаноўскага, Курнатоўскага, Ляўковіча, Пальчэўскага, кс. Плахоцкага, Рэчынскага і Феліцыяна Ваноўскага[2]. І ўсе іхнія парады і павучанні ўсплылі ў маёй памяці, усе мае дробныя, простыя заслугі, імі заўважаныя і ўзнагароджаныя, усе свавольствы і шкоды дараваныя і забытыя.

Дасюль памятаю і той абразок і цукеркі, якія пан Курнатоўскі даў мне ў першым класе, і тытулы тых кніжак, якія пазней даваў мне чытаць са свае бібліятэкі, як таксама і тыя, што меў ад Ягайлы і Багуслаўскага... З любоўю ўспамінаю пра тыя ўрокі грэцкае мовы, на якія ў часе адпачынку мы збіраліся ў Феліцыяна Ваноўскага, каб па прыкладзе перыпатэтыкаў[3] навучацца на шмацыры; я памятаю кожнае месца, дзе грона маладых філолагаў, сеўшы ў ценю дрэва на зялёнай траве вакол свайго любімага настаўніка, гутарыла з Гамерам і сямю мудрацамі[4] альбо паўтарала ўрачысты тэкст святога пісання.

Памятаю і тую залатую *кніжку*, у якой дарагі настаўнік чырвоным атрамантам запісаў свае *блаславёныя* дні, гэта значыць, тыя, у якіх ён быў задаволены нашымі поспехамі, а таксама імёны тых, хто *цешыў ягоную душу*, гэта значыць, хто добра вывучыў урок альбо старанна працаваў над практыкаваннем. Далей я зноў бачу сябе ў садзе Мацкевіча, на шматгадовых ліпах якога сядзеў, бывала, як птушка на галінцы, калышучыся ад ветру і вучыў урокі. Ці ў знакамітым садзе Малерскага, таго старога дзівака, які двум прыгожым будынкам даў спарахнець, адзіна дзеля таго, каб быць вольным ад гарадскіх падаткаў, і, як сава, седзячы ў руінах, сад той

---

[1] Гаворка, відавочна, пра святара евангелічна-рэфармацкае царквы Леапольда Ваноўскага (1798–1849), брата Феліцыяна.

[2] Гаворка пра выкладчыкаў Слуцкае гімназіі: Марціна Багуслаўскага, настаўніка нямецкае мовы, фізікі і хіміі; Яна Тамаша Гесэ (1807–1876), настаўніка рысавання (чарчэння), малявання і чыстапісання; Якуба Ягайлу (Ягелу) (1793–1863), настаўніка гісторыі, французскае і лацінскае мовы; Івана Клернера, настаўніка расейскае славеснасці, польскае і нямецкае мовы; Восіпа Крыжаноўскага, настаўніка матэматыкі і фізікі; Генрыха Курнатоўскага (1809–1889), настаўніка лацінскае мовы; Міхала Ляўковіча (1803?–1873), настаўніка малявання і чыстапісання; Восіпа Пальчэўскага, настаўніка натуральнае гісторыі, французскае мовы; Міхала Тамаша Плахоцкага, настаўніка багаслоўя; Марціна Рэчынскага (1802(6)–1879), настаўніка матэматыкі; Феліцыяна Ваноўскага (1801–1872), кальвінскага пастара, сына дырэктара Слуцкай гімназіі Міхала (1814–1825).

[3] Маецца на ўвазе вучні і прыхільнікі Арыстоцеля.

[4] Спіс сямі мудрацоў пададзены ў дыялогу Платона *Пратагорам* (IV ст. да н. э.): Фалес Мілецкі, Пітак Міціленскі, Біянт, Салон з Афінаў, Клеабул Ліндзійскі, Місон Хянейскі, Хілон са Спарты.

пільнаваў; а па 10 грошаў яблык аценіўшы, ён свавольным дзецям падобраму даваўся абдурыць, і за дзесяць грошаў няраз дзесяці вучням па дзясятку даваў сябе абчысціць.

Ці ў *Бажантарні* за *Трайчанамі*, у закінутым Радзівілаўскім парку на беразе Случы, куды нас вабіў прыгожы шпацыр, магчымасць паплаваць ды назбіраць арэхаў, і доўга памятнае месца дуэлі двух афіцэраў, адзін з якіх там і загінуў.

Усе гэтыя ўспаміны, якія праз чатырнаццаць гадоў станавіліся ўсё больш прыемныя і блізкія, напоўнілі маю душу, і якія я два гады таму на пісьме ўзнавіўшы[1], усім маім дарагім таварышам, усім паважаным настаўнікам невымоўную пацеху справіў; усе яны, калі я ўбачыў Слуцак, роем калібры заігралі ў маёй душы, і ў чароўным захапленні слёзы, шчырыя слёзы падзякі Богу за тое шчасце, якім за хвіліну меў цешыцца, паліліся з маіх вачэй, з малітвай у глыбіні душы я заехаў у гэты горад, які мае так шмат права на маю любоў.

Пачцівы Уладзіслаў прасіў мяне размясціцца ў яго доме. Як толькі мы вылезлі з брычкі, адразу ўсе нашыя даўнія калегі, а цяпер настаўнікі гімназіі, прыйшлі да Уладзіслава, каб павітаць яго з дарогі. Падумай, якое задавальненне я меў пазнаваць іх і быць пазнаваным. Ім было лягчэй, бо з лістоў яны ведалі пра тое, што я ў гэтым часе меўся быць у Слуцку, а Уладзіслаў, едучы ў Мінск, запэўніў іх, што прывязе мяне з сабою, але для мяне толькі душэўная памяць і ледзь не інстынкт былі адзінаю дапамогаю ў тым, каб здагадацца, каго трэба вітаць; і ўсё ж я ўсіх пазнаў, хоць можна было памыліцца пасля чатырнаццаці гадоў ростані, развітаўшыся, так бы мовіць, дзецьмі, а сёння вітаючыся сталымі людзьмі.

Доўга за поўнач працягвалася нашая займальная гаворка, цэлая паэма найпрыемнейшых успамінаў, а рэшта ночы прайшла амаль без сну, бо, разгуляўшыся, сэрца і ўяўленне не давалі мне заплюшчыць вачэй.

На наступную раніцу я выбег паглядзець на горад. Ён змяніўся да непазнавальнасці. Я не кажу, што стала горш ці лепш, што ён упрыгожыўся новымі будынкамі, бо апрача прыгожага пратэстанцкага касцёла, некалькіх складоў і дамоў пры гравійцы, нічога ў ім не з'явілася новага, але нешта нібы здрабнела, нібы ў зямлю ўвайшло. Тыя муры гімназіі, той мост цераз Случ, калісьці такія доўгія, цяпер скараціліся напалову; і Случ нават стала вузейшая так, што там, дзе калісьці я ледзьве мог перакінуць яе каменьчыкам, сёння, напэўна, трыма скачкамі адолеў бы і бернардынскі касцёл, і фара нібы сталі непараўнальна ніжэйшыя, і ўсе дамы дзіўна зменшыліся.

Так па-рознаму бачаць вочы ў дзяцінстве і ў сталым веку. Нягледзячы на гэта, кожную вуліцу, кожны завулак, кожны дамок я вітаў з найвялікшай пяшчотай, з самай светлай любоўю, бо ўсе яны былі скарбніцай самых прыемных успамінаў. Гэтым шляхам я сем гадоў хадзіў у школу, гэтым – у касцёл, гэтым – на праходку, на коўзанку ці на купанне, гэтым – да

---

[1] Маецца на ўвазе артыкул А. Плуга *Pogadanka wiejska: Wspomnienie szkolne, z powodu korespondencyi p. Alexandra Żelezniaka ze Słucka*, апублікаваны ў „Gazecie Codziennej" (1856, nr 100–101).

калегаў; у гэтым доме жыў я сам, у тым – найлепшыя сябры. Сёння хацеў бы я зноў прайсціся па ўсіх тых вуліцах і зазірнуць пад кожны дах, але вось б'юць званы, звястуюць святую імшу, голас добра знаёмы, той самы, што і чатырнаццаць гадоў таму, хоць нібы цішэйшы, нібы крыху прыглушаны... *Да Пана пойдзем* – загучаў у душы ўрачысты спеў... Да Пана пойдзем, да святыні Ягонае пойдзем, падзякуем Яму за тую радасць, якую сёння перажывае сэрца, папросім благаславення для гэтае дарагое мясціны, для гэтае любімае школы, каб дзеці, якія навучаюцца ў ёй, былі дзецьмі Божымі, раслі на карысць і гонар роднай зямлі, каб Бог пасылаў ейным настаўнікам збаўчае натхненне і адпаведную моц, каб справіцца са сваім святым абавязкам.

Сёння набажэнства адбываецца ў пабернардынскім касцёле, фара зачыненая, трымаецца яшчэ дасюль, выразна пярэчачы чуткам, нібы яе плануюць разбурыць і прадаць дрэва нейкаму фабрыканту інструментаў.

Традыцыя кажа, што яна была пабудаваная з лістоўніцы, а кс. Шантыр ейную метрыку пачынае, здаецца, з 1429 г. Апошнім часам адмаўляюць праўдападобнасці як падання, так і метрыкі, сцвярджаючы, што лістоўніца ў ваколіцах Слуцка не расла, а дату заснавання фары аспрэчваюць гістарычнымі звесткамі. Памятаю, аднак, што яшчэ падчас майго побыту ў школах па дарозе ў Новы Двор стаяла некалькі вялізных лістоўніц, якія паказвалі як рэшткі таго лесу, што даў будаўнічы матэрыял для фары, а што да года заснавання, дык пры аднаўленні касцёла кс. Шантыр пусціў у свет мноства таблічак, на якіх сваім *друкаваным пісьмом* падаў гісторыю і ўзвядзення, і рэстаўрацыі, дакладна паказваючы і крыніцы, з якіх ён чэрпаў свае звесткі.

Пэўна не скажу, бо тыя таблічкі я бачыў у дзяцінстве, ведаю, аднак, што яны былі з рэшткаў дрэва, здабытага са спарахнелых зрубаў Слуцкае фары, дык маглі служыць выразным довадам праўдзівасці падання пра лістоўніцу. Як бы там не было, нават калі адсунуць дату ўзвядзення гэтае святыні на цэлае стагоддзе, нават калі яна з хвоі толькі ці з піхты была, тры стагоддзі існавання, малітвы некалькіх пакаленняў, якія гучалі пад ейным дахам, я лічу, дастаткова асвяцілі яе, каб яна мела права на шанаванне нашчадкамі.

Дык няхай яна стаіць як найдаўжэй, няхай пры круцыфіксе, прыхіленым да яе знешніх сценаў, як найдаўжэй гараць тыя ахвярныя агні, у святле якіх амаль стала гучыць хвала Божая, а калі прыйдзе на яе час, дык няхай з ейных зломкаў паставяць маленькую каплічку, пад дахам якое стане гэты самы круцыфікс, у якім Збаўца свету столькі малітваў выслухаў, столькі благаслаўлення даў сваім слугам.

[XVII]

Вярнуўшыся са згаданае праходкі па горадзе і з касцёла, я пайшоў з сардэчнай пашанай да маіх дарагіх старых настаўнікаў. У Слуцку я застаў толькі шэсць з іх: Гесэ, Ягайлу, Курнатоўскага, Плахоцкага, Рэчынскага

і Феліцыяна Ваноўскага[1]. (Багуслаўскі ў той час выехаў у Варшаву), астатнія перабраліся альбо ў іншае месца, альбо ў вечнасць. Не застаў я ўжо і нашага найшаноўнейшага прэфекта Леапольда Ваноўскага: яго Бог забраў да сябе некалькі гадоў таму, але памяць пра яго ў асірацелай школе яшчэ жывая і сардэчная, і, пэўна, так будзе яшчэ доўга, бо гэтакі чалавек дабрадзейны, гэтакі заслужаны – варты памяці нашчадкаў. Казалі мне падчас майго побыту ў Слуцку пра планы адбіць ягоны партрэт і напісаць біяграфію. Не ведаю, ці гэта ўжо ажыццявілася, але было б вельмі пажадана. Матэрыялаў для біяграфіі не можа не хапаць: жыве ягоны годны брат, жывуць відавочцы ягоных высокіх цнотаў, а і ў пакінутых ім паперах знойдзецца шмат цікавых дэталяў; ён сам мне паказваў і чытаў свой дзённік, у якім запісваў усе свае чыннасці ад моманту абуджэння аж да новага адпачынку, робячы як бы рахунак сумлення перад сном; а гэта дастатковае сведчанне чысціні ягонае душы, бо колькі знойдзецца такіх, хто зможа смела запісаць усе штодзённыя справы свайго жыцця ў кнізе? Ёсць у ягоных паперах, рассыпаныя па розных сшытках, паэтычныя творы, ва ўсіх адносінах вартыя друку не толькі як памятка, але і з прычыны іх высокае мастацкае вартасці. Было б добра, каб усе яны знайшлі месца ў ягонай біяграфіі. Што да партрэта, дык дзеля яго ёсць выдатны ўзор, які незадоўга да смерці Ваноўскага падарылі яму вучні гімназіі на імяніны. Ты ведаеш пра тое, як наш с. п. прэфект старанна пазбягаў усялякіх авацый, як заўсёды напярэдадні ягоных імянінаў мы павінны былі ўсю ноч вартаваць ягоную кватэру, каб ён не ўцёк ад нашых віншаванняў; дык уяві сабе, якая гэта была для яго неспадзянка, калі яму падаравалі ягоную выяву, вельмі падобную да яго, як кропля на кроплю, хоць ён ніколі ў вочы не бачыў мастака. Гэта было зроблена панам Гесэ, чые пастэльныя работы можна назваць шэдэўрам у сваім родзе, і якому дастаткова ўбачыць якінебудзь твар некалькі разоў у жыцці, каб, бадай, праз колькі гадоў намаляваць яго самы дакладны партрэт. Гэта асаблівы талент, у аснове якога, апрача незвычайнае памяці, апрача шчаслівага дару адлюстраваць рысы фізіяноміі, – ейнае глыбокае веданне ўвогуле.

Бо мне траплялся намаляваныя ім партрэты людзей, якіх ён ніколі не бачыў; яму давалі толькі сілуэт альбо накід алоўкам, альбо мініяцюру з юначых гадоў і казалі, што гэтаму чалавеку цяпер вось столькі гадоў, такі вось мае характар, такі вось тэмперамент, што той ці іншы з ягоных дзяцей

[1] У другой палове 1850-х гг. (паводле *Памятныхъ книгъ Минской губерніи*) у Слуцкай гімназіі працавалі: Пётр Лубкін (дырэктар), Уладзіслаў Іжыцкі-Герман (інспектар, настаўнік фізікі і матэматыкі), Пётр Сулкоўскі (настаўнік праваслаўнае рэлігіі), Міхал Плахоцкі (настаўнік каталіцкае рэлігіі), Юльян Бергель (настаўнік пратэстанцкае рэлігіі), Павел Вагнер (настаўнік натуральнае гісторыі), Восіп Главацкі (настаўнік лацінскае мовы), Тамаш Міладоўскі (настаўнік матэматыкі), Леон Дамброўскі (настаўнік геаграфіі), Восіп Понсет дэ Сандон (настаўнік французскае мовы), Юліян Нерліх (настаўнік нямецкае мовы), Ян Гесэ (настаўнік малявання), Аляксандар Пальмэ (настаўнік падрыхтоўчага класа), Канстанцін Францкевіч (урач).

ці братоў, чымсьці нагадвае яго – і гэта ўсё. А малюнак быў такі дакладны, што не патрэбна і фатаграфія.

Але вяртаюся да справы. І вось я пайшоў да маіх старых настаўнікаў, кожны вітаў мяне з такою радасцю, з такою чуласцю, як добрага сына, і аніводнаму з іх мне не трэба было называць сваё прозвішча, бо кожны адразу мяне пазнаў; такая сардэчная памяць у гэтых людзей, для якіх настаўніцкая пасада не сродак для існавання, а святое пакліканне, вучні не нейкі навязаны, агідны цяжар, а дзеці любімыя на ўсё жыццё. Дык з сапраўднай бацькоўскай апекай кожны распытваў у мяне пра найдрабнейшыя дэталі майго жыцця, кожны цешыўся маімі радасцямі, засмучаўся маімі засмучэннямі, а добры Феліцыян Ваноўскі знайшоў сваю *залатую кніжачку* і паказаў мне ўсе тыя *радасныя дні*, якія справіў яму я і яшчэ раз паўтарыў уголас усе падзякі і добраславенні, якія напісаў там для мяне чырвоным атрамантам.

Вечарам мы ўсе сабраліся ў аднаго з маладых настаўнікаў, усе прафесары былыя, усе калегі – прафесары сённяшнія; а быў з намі і пачцівы Стафан Навіцкі, мой добры таварыш, якога я завабіў у Слуцак з вёскі, што ў некалькіх мілях, і мой колішні вучань – доктар Фр.[1], і мой калега, хоць і не з аднаго класа, але з аднае школы – Аляксандар Жалязняк, імя якога ты, напэўна, не раз сустракаў у „Gazecie Codziennej"[2]. Той вечар, які з музыкай, песнямі, гутаркаю, чытаннем і дэкламаваннем паэтычных твораў доўжыўся амаль да самае раніцы, буду памятаць усё жыццё, настолькі я быў шчаслівы.

Мы шмат гаварылі паміж сабой пра сённяшнюю школу, пра поспехі, пра жыццё вучняў, бо ўсё гэта мяне вельмі цікавіла. Я быў рады даведацца, ці квітнеюць тут, як раней, навукі і традыцыі, ці не змянілася на горшае тое, што за доўгія гады здабыло такую прыгожую славу і прафесарам, і вучням слуцкім.

Пасля ўважлівага вывучэння і пазнейшага агляду я з вялікаю радасцю пераканаўся, што ва ўсіх адносінах сёння не толькі не горш, але нават, можна сказаць, лепш, і прычынай гэтага добрага стану з'яўляецца ўдалы склад школьнага кіраўніцтва. Дырэктар гімназіі – чалавек вельмі паважны, здольны ацаніць працу і зразумець добрыя намеры настаўнікаў, прэфект – наш паважаны, добры, любімы Рэчынскі, а большасць прафесараў, апрача Гесэ, Курнатоўскага і Плахоцкага, якія засталіся ад ранейшага складу, і Цараўскага, які прыехаў у Слуцак у апошні год нашае навукі, складаецца з нашых калегаў, якіх мы ўсе любілі не толькі за іх незвычайныя здольнасці і стараннасць у навуках, але і за іх узорныя паводзіны і сумленнае сэрца. Дык калі іх са старэйшымі прафесарамі лучыць пачуццё павагі і ўдзячнасці, а паміж сабой іх звязвае двайное таварыства, калі школа, дзе яны працуюць, дарагая ім памяццю дзіцячых гадоў, праведзеных у ёй, не дзіўна, што яны выконваюць свае абавязкі з любоўю і сапраўднай адданас-

[1] Магчыма, гаворка пра Канстанціна Францкевіча (1829–1897).

[2] Гаворка пра публіцыста і літаратара Аляксандра Валіцкага (1826–1893), які карыстаўся псеўданімам *Alexander Żeleźniak*.

цю, што ва ўсім і заўсёды дзейнічаючы ў згодзе і падтрымліваючы адзін аднаго, яны дасягаюць найлепшага выніку ва ўсім. Агульных кватэраў для вучняў, апрача колішняга канвікту[1], тут няма і ніколі не было, яны, як і раней, харчуюцца ў гарадскіх гаспадароў, дзякуючы чаму нават самыя бедныя за дзясятак-другі рублёў на год могуць знайсці сабе стол ды жытло і карыстацца магчымасцю атрымаць адукацыю; кожны пансіён мае свайго гувернёра, які вельмі старанна вядзе дзённік усіх чыннасцяў вучняў, яму падпарадкаваных, і кожны знаходзіцца пад наглядам аднаго з прафесараў, які кантралюе гэты дзённік кожны тыдзень ці часцей. Больш за тое, прафесары, апрача сесій, якія ладзяць між сабою, таксама маюць пасяджэнні і з гувернёрамі.

Едучы ў Слуцак, я планаваў правесці там адзін дзень, але неяк незаўважна праляцелі ажно тры, пакуль я адправіўся ў далейшае падарожжа, так хораша было сярод гэтых любімых людзей. Нарэшце два нашыя даўнія таварышы адвезлі мяне да Стафана Навіцкага, які, пакінуўшы прафесію настаўніка малявання, якая яго завяла некуды аж у Пскоўскую губерню, вярнуўся на радзіму і асеў у вёсцы сеяць грэчку і біць цецерукоў.

Памятаеш, як у школах ён вылучаўся мастакоўскім талентам, як без аніякае дапамогі сам пракладваў сабе дарогу ў алейным жывапісе і, як Гесэ, умеў пісаць па памяці найдакладнейшыя партрэты. Пазней ён паспяхова вучыўся пад кіраўніцтвам знакамітага Дамеля[2], і калі б толькі не бракавала настойлівасці, калі б хоць нейкі стымул, які б падштурхоўваў яго да працы і не даваў астыць натхненню, мы мелі б дасканалага мастака. Ён і сёння мастак, пра што ў дастатковай меры сведчаць карціны, якія ўпрыгожваюць ягоную кватэру, але, на жаль, гэты талент страчаны для шырокае публікі, бо ён і думаць не хоча пра пэндзаль. Сярод іншых яго работ мяне асабліва зацікавілі прыгожыя краявіды і копія партрэта Дамеля, выкананая ім самім з арыгіналу; копія настолькі дасканалая, што самыя дасведчаныя знаўцы прымалі яе за арыгінал. Я гневаўся, наракаў на пачцівага Стафана, выдаў яму цэлае казанне пра абавязкі перад грамадствам на тэму закапанага таленту, але ўсё гэта было як гарохам аб сцяну. І ці ж адзін ён такі з нашых калегаў? Згадай Ізідора Барчэўскага, Канстанціна Марбурга, Мечыслава Станілевіча, чые вершы, напісаныя яшчэ ў школе, калі я чытаю сёння, дык не толькі бачу ў іх рысы высокага таленту, але нават не бачу недахопаў з пункту гледжання мастацтва. Ты ведаеш, што ўсе трое скончылі з адзнакай універсітэты, але ўсе трое змарнавалі свае таленты. А і пан Аляксандар Жалязняк, малады чалавек з такім быстрым, добра сфармаваным розумам, з такім жывым, хоць, можа, занадта вострым досціпам, з такім дасканалым і лёгкім стылем, што ён ужо публічна давёў, ледзь раз на год напіша ў якую-небудзь газету і не думае, што тыя здольнасці, дадзеныя яму Богам, не ягоныя, а агульная ўласнасць, і што ён вінаваты перад Богам і людзьмі, калі адмаўляецца ад свайго паклікання.

[1] Інтэрнат пры школе.
[2] Гаворка пра мастака Яна Дамеля (1780–1840).

Пасля дня ў гасцінах Навіцкі павёз мяне ў кірунку Бабруйска, зноў да нашага калегі. Мы ехалі некалькі міль па гравійцы, што як струна цягнулася праз балоты, пяскі і бары, аднастайнай, сумнай, амаль дзікай, бо дасюль яшчэ столькі тут жыцця, колькі яго знойдзеш яго на паштовай станцыі, у дыліжансе ці на перакладных, а абапал дарогі – чыстая пустыня, не толькі вёскі не напаткаеш, але нават ворная зямля ўцякла кудысьці далёка адсюль. Ехаць таксама цяжка, няспынны скрыгат у вушах ад жвіру пад коламі, у вачах увесь час мільгаюць шэрыя прыдарожныя слупы, і анічога, што дало б нейкую прыемнасць ці занятак для розуму. Я быў шчаслівы пабачыць *Завалошыцы*[1], маёнтак Стафана Б., які ўдзячна перапыніў гэтую невыносную аднастайнасць.

Забавіўшыся пару дзён у мілай гасціне ў пачцівага калегі, зноў жа, як на заўтра трэба, з ім разам, я паехаў у Рудабельку[2], маёнтак маршалка Лапы[3], які я добра памятаў, як першы клас у школе таварыскага жыцця, дзе шляхетныя гаспадары былі маімі настаўнікамі, а я вучыў іхных дзяцей. Мае выхаванцы былі ўжо маладымі людзьмі, якія з гонарам пачыналі выконваць абывацельскія абавязкі; я правёў з імі некалькі вельмі прыемных дзён. Тут я развітаўся з апошнімі сваімі знаёмымі ў Літве, адгэтуль мой апошні ўспамін пра родную старонку, вельмі прыемны ўспамін, бо вялізныя маёнткі пана Лапы – сапраўдны гонар і аздоба Бабруйскага павета, а нават і ўсяе Мінскае губерні; няшмат знойдзецца так добра ўпарадкаваных маёнткаў, асабліва ў такіх неспрыяльных умовах. Няхай туды едуць тыя, хто хоча мець доказ таго, што можа зрабіць моцная воля і добрыя намеры.

[XVIII]

Гадоў дваццаць таму Рудабелька знаходзілася сярод аграмадных балотаў, навакольныя вёскі з мізэрнымі закопчанымі хатамі, заселеныя цёмнымі і чорнымі людзьмі, якім часта патрабавалася некалькі дзён, каб праз багны і разлівы дабрацца да двара, а купцам, якія кіраваліся з Глуска ў Бабруйск, даводзілася перакідваць грузы з вазоў на чаўны і шмат міляў

---

[1] Маецца на ўвазе маёнтак Завалочыцы Яксаў-Быкоўскіх: „Zawołoczyce, dobra nad rz. Ptycz, pow. bobrujski, w 4 okr. pol. świsłockim, gm. Horodok, par. katol. Hłusk o 20 w. , o 3 w. od st. poczt. Symonowicze, na trakcie brzesko-bobrujskim, o 34 w, od Bobrujska. Do drugiej połowy b. stulecia dość dawna własność Jaksów-Bykowskich, przez wiano Antoniny Bykowskiej, żony generała Żylińskiego, głośnego z kanalizacyi Polesia, przeszły do Żylińskich. Obszar około 180 włók, lasy znaczne, grunta lekkie, lecz urodzajne z powodu obfitości łąk; rezydencya piękna, obszerne sady fruktowe, oranżerye, gorzelnia, młyny, rybołówstwo. Była tu kaplica katol parafii Hłusk” [A. Jel. 1895, XIV: 500].

[2] Сёння: Акцябрскі, гарадскі пасёлак у Гомельскай вобласці.

[3] Гаворка пра бабруйскага павятовага маршалка (1844–1859) і мінскага губернскага маршалка (1859–1863) Аляксандра Лапу (1802–1869), які першы ў рэгіёне пачаў весці меліярацыйныя работы. Ягоныя сыны, г. зн. вучні А. Плуга, – Дамінік (нар. 1831) і Міхал (нар. 1833).

кружляць, каб дабрацца да месца прызначэння. Сёння намаганнямі пана Лапы з дзясятак вёрстаў выкапанага канала асушылі непраходныя балоты, колькі вёрст грэблі, насыпанай вялікім коштам пасярод багны палегчылі зносіны; дрыгва ператварылася ў найурадлівейшую зямлю, сяляне перасяляліся з вільготных курных хатак у прасторныя, сухія, светлыя і чыстыя дамы, ахопленыя самаю шчыраю апекаю, атрымаўшы добры быт, яны пазбыліся сваёй бязвольнасці і здранцвення, весялей пачалі глядзець на свет, узяліся ахвотней працаваць, умацаваліся духам і целам так, што сёння ва ўсёй ваколіцы нават па вопратцы кожны пазнае, адкуль яны. Усё гэта прыйшло не без ахвярнасці: гэты шляхетны абывацель мусіў змагацца і з дзікаю прыродаю, і з неачэсаным людам, які спачатку праклінаў і помсціў нават за тое, што яму замест хлява будавалі прыстойную хаціну, але ягоная ўпартасць шчодра была ўзнагароджаная і ў маральным, і ў матэрыяльным плане, бо так уладкаваны маёнтак, бо сяляне ў такім добрым становішчам прыносяць не толькі славу, але і выдатныя прыбыткі.

Я праязджаў праз некалькі вёсак пана Лапы і не мог нацешыцца іхным прыемным выглядам. Пабудаваныя яны звычайна ў шэраг, з аднаго боку вуліцы – жылыя хаціны, з другога – гаспадарчыя пабудовы, усе прасторныя, акуратныя, дагледжаныя – прыемна паглядзець. Не хапае ім толькі садоў, але пра гэта пан Лапа даўно ўжо падумаў, бо не толькі загадвае свайму садоўніку пры кожнай хаціне садзіць усялякія пладовыя дрэвы, але яшчэ і ўзнагароджвае гаспадароў за іх утрыманне. Апісанне ўсіх добраўпарадкаванняў, што ўвеў пан Лапа ў сваіх маёнтках, заняло б занадта шмат месца, ды гэта і не мая справа; яно больш прыдатнае для сельскагаспадарчае газеты, чым для мімалётных уражанняў ад падарожжа, але і з гэтага ты лёгка атрымаеш уяўленне пра дзейнасць і розум гэтага чалавека, які і сёння, нягледзячы на ўжо стомленасць ад такое працы, з маладым запалам займаецца, як і раней, уласнай практыкай і кніжнай тэорыяй, якую ўважліва вывучае, знаходзячы ўсё новыя і новыя сродкі для паляпшэння стану гэтае зямлі і гэтага люду, якія Бог даручыў ягонай апецы.

Выехаўшы з Рудабелькі, я вярнуўся на апошняй станцыі пад Мазыром на паштовы тракт, які без адхіленняў павінен быў прывесці мяне ў Джурын. Ваколіцы Мазыра вельмі маляўнічыя, узгорыстыя, шмат чым нагадваюць ваколіцы Вільні, але тут толькі невялічкая прастора зямлі так аздобленая, далей зноў цягнецца дарога праз сухія пяскі, лясы і балоты, аж за Оўруч да Жытоміра, дзе патрошку хвоі знікаюць, грунт усё больш змяняецца, пераходзіць у гліну і чарназём, усё больш аздабляецца прыгожаю раслiннасцю, усё часцей сустракаюцца прыгожыя краявіды.

Жытомір быў адным з самых мілых прыпынкаў у маім падарожжы. Здагадваешся, пэўна, чаму?.. Там я павінен быў сустрэцца з Крашэўскім, думаю, гэта дастатковая падстава.

Я ведаў Крашэўскага па лістах больш за дзесяць гадоў, першымі дачыненнямі з ім я абавязаны часопісу „Athenaeum”, дасылаючы ў які зялёныя плады свайго натхнення, меў у ім такога добрага і ласкавага дарадніка і настаўніка, што ніколі не магу згадваць гэта без найвышэйшае ўдзячнасці. Гэта высакародная, але малавядомая шырокаму колу рыса ягонае

душы; тая неацэнная працавітасць, з якою нястомны працаўнік у вінаградніку Панскім апякуецца кожным, у кім заўважыць хоць маленечкую іскрынку таленту. Доўгая серыя лістоў, поўных спачування, поўных заахвочвання і сардэчных парадаў, якой я абавязаны яму, з'яўляюцца яскравым доказам гэтага, бо колькі добрае волі, колькі ахвярнасці трэба, каб маючы столькі важнае працы, пры такім шырокім ліставанні з самымі знакамітымі людзьмі на інтэлектуальнай ніве, не шкадаваць сваіх каштоўных хвілін не толькі на чытанне бездапаможнае пісаніны, але яшчэ і на перапіску з якім-небудзь крэмзалам, на перапіску, не каб абмежавацца якой-небудзь пахвалою, але каб асвяціць, выправіць, адукаваць і сардэчна заахвоціць. І я не адзіны, хто можа гэта пацвердзіць.

Пазней, у 1852 годзе, атрымаўшы ад яго паведамленне, што ён, вяртаючыся з Адэсы, будзе праязджаць праз Тульчын, я паляцеў туды яму насустрач і правёў з ім цэлы дзень. Мы развіталіся, сказаўшы *да пабачэння*, і, відаць, у тым было шмат шчырасці, бо хоць і праз чатыры гады, але ўдалося выканаць тое сардэчнае зычэнне.

На невялічкай Бердычоўскай вулачцы, у доме, які добра ведаюць усе жыхары горада, ад самых багатых і знатных да самых бедных і найменшых (бо хто ж з ім не меў дачыненняў, хто з той ці іншай прычыны не шукаў шаноўнага гаспадара?), у гэтым цудоўным музеі я застаў Крашэўскага ў яго працоўным кабінеце, калі ён разам нейкім маладым мастаком займаўся ўкладаннем вялізнага збору гравюр, звязаных з польскай іканаграфіяй, над якою працуе шмат гадоў. Але я памыляюся, кажучы, што застаў яго над адным гэтым; ягоны розум, як старукі Брыярэй[1], датыкаецца да сотні рэчаў адначасова: на стале ляжала больш за дзесяць лістоў у розныя часткі свету, была там *Boża Czeladka*, гатовая адправіцца ў Варшаву, была *Gertruda Komorowska*, да заканчэння якое не хапала ўсяго некалькіх старонак, былі цэлыя стосы кнігаў, штотыднёвікаў, гравюраў, карцінаў і малюнкаў, было шмат археалагічных артэфактаў, – усё гэта ён павінен быў прачытаць, праглядзець, ацаніць, адпісаць аўтарам, мастакам і калекцыянерам, а чытацкай публіцы пра ўсё даць справаздачу. А дадай яшчэ мноства кліентаў усялякага роду, якія шукаюць то падтрымкі, то пратэкцыі, то парады; дадай куратарства над школамі, дадай ягоную апеку над тэатрам, дадай сямейныя абавязкі і дадай заняткі музыкай і жывапісам, нарэшце, дадай уласнаручнае перапісванне сваіх твораў, – і ты пагодзішся са мною, што чалавек, які можа адолець усё гэта, не можа ў адначассі займацца толькі адною справаю. Пра Крашэўскага я быў бы рады пісаць як мага даўжэй, але што пра яго новага сказаць?

Наш народ настолькі шчыра займаецца гэтым сваім улюбёнцам, што амаль усе падрабязнасці пра яго шырока вядомыя; нехта з Жытоміра пісаў нават пра ягоны дом у „Gazetę Warszawską", Навасельскі[2] пісаў і Падаліца[3]

---

[1] Волат-пачвара з сотняю рук і 50 галовамі.

[2] Гаворка пра літаратара і крытыка Антоні Якса-Марціноўскага (1823–1880), які карыстаўся псеўданімамі „Antoni Nowosielski" альбо „Albert Gryf".

[3] Гаворка пра літаратара і публіцыста Зянона Фіша (1820–1870), які карыстаўся псеўданімамі „Tadeusz Padalica" ці „Benedykt Dołęga".

пісаў; дык ты і іншыя знаеш жыццё гэтага чалавека, нібы асабіста назіраеш за ім, а апісанне ягоных мастацкіх, кніжных і археалагічных збораў вымагала б асобнае публікацыі – такая іх вартасць і колькасць; таму я скончу толькі ўшанаваннем тае неацэннае прастаты ягонага характару, тае прыемнасці і лёгкасці ў дачыненнях з кожным, тае, так бы мовіць, даступнасці і нават сціпласці, якімі ён скарае ўсе сэрцы.

Калі б яго я не ведаў, калі б табе не сказалі, што гэта чалавек, якому шмат чым абавязаны народ, што гэта чалавек, які стаіць на вяршыні гонару і любові, дык з самай доўгай размовы з ім ты ніколі б не здагадаўся пра гэта, бо няма ў ім ганарлівасці, безапеляцыйнасці, затое ёсць свабода ў дыскусіі ды далікатны і лёгкі дар пераканання. Толькі доўга-доўга пагаварыўшы і падсумаваўшы думкі, абуджаныя гэтаю размоваю, ды заўважыўшы, на якую вышыню яна непрыкметна ўзняла цябе, ты адчуў бы, з кім маеш справу.

Нядоўга былі мы адны, бо калі прабіла гадзіна вольнага ўваходу для ўсіх у гэтыя шаноўныя парогі, адразу прыйшло некалькі чалавек, сярод іншых пазнаёміўся я з панам Я. Прусіноўскім[1], паэзія якога, як бы рэзка яе не ацэньваў пан Навасельскі, мае шмат сапраўды прыгожых урыўкаў, дае яму не апошняе месца ў шэрагах нашых паэтаў.

На знаёмства з шаноўным доктарам Качкоўскім і светлай памяці Камарніцкім, які таксама ў той час жыў у Жытоміры, ані хвіліны часу я не меў; прагаварыўшы з Крашэўскім аж да поўначы, я сеў на перакладных і ўжо і не азіраўся назад, пакуль не апынуўся ў Джурыне, а ўражаннямі, якія вынес з ягонага дома, нібы найцудоўнейшым дыяментам завяршаю гэты скарб маіх вандроўных успамінаў, які мне так прыемна разглядаць, які такі дарагі майму сэрцу, што сумняваюся, ці здабыў бы я больш каштоўны, каб абышоў увесь свет, апрача роднага краю і труны Хрыста Пана.

Адам Плуг

*пераклад Марылі Хаўстовіч і Міколы Хаўстовіча*

---

[1] Гаворка пра паэта і публіцыста Яна Прусіноўскага (1818–1892), прыяцеля і супрацоўніка Ю.І. Крашэўскага.

## З агітацыйнае паўстанцкае літаратуры

На пачатку 1860-х гг. на землях былое Рэчы Паспалітае ўзнікае адметны жанр вуснае народнае творчасці – агітацыйная паўстанцкая публіцыстыка. Найчасцей пераважна невядомыя аўтары выкарыстоўвалі краёвы варыянт польшчызны, якая ў той час была фактычна літаратурнаю моваю на тагачаснай Літве і Беларусі. Гэткія агітацыйныя лісткі распаўсюджваліся звыкла ў невялікай колькасці асобнікаў і, зразумела, не мелі значнага ўплыву на грамадскую думку нават асобна ўзятага рэгіёна.

Так, напрыклад, даволі цікавы, без аўтарскага тытула дакумент, які ў архіўнай анатацыі вядомы як *Пісьмо з пекла Мікалая I з наказам свайму сыну рускаму імператару Аляксандру II*, здаецца, не згадваецца ні ў следчых справах, ні ў навуковых працах, прысвечаных Паўстанню 1863 г. Захаваўся ён у архіве Лукаша Бэндэ. Дакладна невядома, як ён трапіў у рукі знанага вульгарызатара, але пазнака алоўкам на першай старонцы "оп. 11 № 6" сведчаць, што паходзіў ён са збораў Браніслава Эпімаха-Шыпілы, а пячатка "Комиссариат Просвещения Белорусск. Республики. Областной музей" паказвае на тое, што ён нейкі час знаходзіўся сярод матэрыялаў[1] першага беларускага савецкага ўраду, а менавіта міністэрства адукацыі – Комиссариату Просвещения Временного рабоче-крестьянского правительства БССР (студзень 1919 г.) ці Народного Комиссариату Просвещения Литовско-Белорусской ССР (красавік – чэрвень 1919 г.).

Дакумент становіць сабою аркуш паперы фармату А4 складзены папалам так, што атрымалася чатыры старонкі. Тэкст запісаны на першых трох старонках (на трэцяй – да паловы). Апрача таго, дакумент складаўся яшчэ раз папалам, што сведчыць пра тое, як ён захоўваўся ці, магчыма, перасылаўся альбо перадаваўся з рук у рукі.

У 1930–1950-я гг. (?), магчыма, па просьбе Л. Бэндэ невядомая асоба зрабіла пераклад дакумента на беларускую мову (паслярэформенны правапіс), які захаваўся на трох асобных картках.

Дакумент можна лічыць літаратурна-мастацкім творам, напісаным у форме ліста. Змест яго даволі просты, але цікавы. Расейскі імператар Мікалай I звяртаецца да праваслаўнага святара Іпаліта (Hipolita), які, відавочна, добра заслужыўся царскай уладзе, з падзякаю ад сябе асабіста, Люцыфера і д'яблаў ды просьбаю наведаць Вільню, каб перадаць падзяку генерал-губернатару Уладзіміру Назімаву, літоўскаму і віленскаму мітрапаліту Іосіфу Сямашку ды інш.,

[1] Каталагізаваны пад нумарам 5481.

бо без іхніх старанняў Пекла было б пустое, а таксама сказаць У. Назімаву, каб ён паехаў да Аляксандра II, падзякаваў яму і адначасна зрабіў вымову, што аніводнага (апрача здраднікаў) паляка не з’явілася ў Пекле падчас ягонага царавання. Мікалай I запэўнівае адрасата, што ў Пекле нецярпліва чакаюць усіх тых, хто прычыніўся дзеля праліцця польскае крыві (ліст датаваны 8 сакавіка 1863 г., г. зн. ужо амаль паўтара мясяца як пачалося Паўстанне на польскіх землях) і слёз; што для ўсіх гэтых маскалёў, у тым ліку і папа Іпаліта, падрыхтаваныя адмысловыя кадзі са смалою і польскаю крывёю.

Звяртае на сябе ўвагу мастацкі прыём, які выкарыстаў аўтар, а менавіта – пасланне з Пекла. Вядома, можна лічыць, што пісьменнік, ведаючы славутыя паэмы Дантэ Аліг’еры (*Боская камедыя*, 1321) і Джона Мілтана (*Страчаны рай*, 1667), адно змясціў ненавіснага ворага палякаў і ліцвінаў у хрысціянскім месцы пакутаў грэшнікаў ды “прымусіў” яго напісаць ліст жывым. Але ж якраз у гэтым заключаецца навізна тэксту: здаецца, у сусветным мастацтве такое раней не сустракалася. Вось толькі зрабіў гэта аўтар тэзісна і эскізна, відавочна, не маючы ні мэты, ні здольнасцяў напісаць вялікі мастацкі твор.

Зрэшты, пра ўплыў А. Дантэ можна казаць толькі ўмоўна, бо ў Пекле беларускага аўтара самы вялікі грэшнік (Мікалай I) ўсяго толькі кіпіць у смале і змушаны піць польскую кроў і слёзы. У той час, калі ў дантаўскім Пекле варацца ў смале хабарнікі, месца якім у восьмым коле, а найбольш цяжкія пакуты маюць здраднікі і інш., “насельнікі” дзявятага кола, якія ўмерзлі ў лёд па шыю.

Праўда, усё ж твор скіраваны супраць здраднікаў і калабарантаў, на чале якіх аўтар ставіць праваслаўнага святара Іпаліта, які надзвычай шчыраваў дзеля захопнікаў. Мяркуем, што пісьменнік меў на ўвазе канкрэтнага чалавека і чытач ці слухач без цяжкасцяў пазнаваў адрасата ліста Мікалая I. Што ж гэта за асоба, да якое звяртаецца расейскі імператар? Заўважым, што праваслаўных духоўных, якія мелі імя Іпаліт, на пачатку 1860-х гг. было ўсяго трое: 1. Святар саборнае Мікалаеўскае царквы ў Беластоку Іпаліт Пятровіч Мірановіч; 2. Святар саборнае Прачысцінскае царквы ў Кобрыне Іпаліт Карнатоўскі; і 3. Суражска-Задзвінскі благачынны, святар Усвяцкае царквы Перамянення Госпадняга Іпаліт Васільевіч Караткевіч.

Апошні, на нашую думку, і мог быць тою асобаю, якую меў на ўвазе аўтар. Сваю гіпотэзу мы падмацоўваем звесткамі пра актыўную дзейнасць айца Іпаліта ў Віцебску, а пасля ў мястэчку Усвяты, а таксама – найважнейшае! – тым фактам, што напачатку 1860-х гг. ён цяжка захварэў. І гэта якраз адлюстравана ў творы: “Ty[,] który będąc chorym[,] nie tylko że postępujesz równie ze zdrowem[i] Popami[,] ale wielu innych przewyszyłeś, bo nie tylko siebie i całą parafię nam już oddałeś[,] ale i wiele innych, tak że prawie wszyscy[,] nad ktoremi macie przełożenie[,] wszyscy są u nas razem z|wami zapisani”.

Пра Іпаліта Караткевіча шмат пісалі выданні Полацкай і Віцебскай епархій у XIX ст. Паводле інтэрнэт-рэсурса *Три герба Короткевичей* Генадзь Сініцкі склаў біяграфію святара [Аноним 2011–2019, online; Синицкий, online].

Ён нарадзіўся ў 1830 г. у сям'і ўніяцкага духоўнага сяла Вяжышча Лепельскага павета Віцебскае губерні. Вучыўся ў Полацкай духоўнай семінарыі,

якую скончыў у 1851 годзе. 19 сакавіка 1852 г. архібіскуп Полацкі і Віцебскі Васіль Лужынскі высвяціў яго ў святары Заручава-Уваскрасенскае царквы г. Віцебска[1], і тады ж прызначаны законанастаўнікам (выкладчыкам Закона Божага) у Віцебскім прытулку і ў школе для дзяўчат беднага стану. Крыху пазней, з 1853 г. выконваў абавязкі законанастаўніка Віцебскае губернскае гімназіі. У 1854 г. ён увайшоў у склад Полацкае духоўнае кансісторыі, а таксама прызначаны Віцебскім павятовым благачынным. За старанную і карысную для ўладаў службу няраз ўзнагароджваўся. У 1863 годзе праз хваробу перамешчаны пробашчам Усвяцкае Праабражэнскае царквы і прызначаны Суражскім і Задзвінскім благачынным. Неўзабаве пасля Паўстання 1863 г. узнагароджаны ордэнам св. Ганны III ступені (1868 г.), а яшчэ праз некалькі гадоў – ордэнам св. Ганны II ступені (1891 г.). Памёр Іпаліт Караткевіч у 1896 г. [Синицкий, online].

Можна меркаваць, што менавіта віцебскі перыяд (1852–1863) жыцця святара Іпаліта стаўся падставаю да "стварэння" ягонага вобраза ў палемічным тэксце, аўтарам якога трэба лічыць былога ці нават дзейнага вучня Віцебскае гімназіі. Пра вучнёўскі ўзровень аўтара *Ліста з Пекла* можа сведчыць і ягоная пісоўня*:* не зусім добрае валоданне ім як польскаю моваю, так і граматыкай і пунктуацыяй увогуле.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: БДАМЛіМ, ф. 66 [Бэндэ Лукаш Апанасавіч], воп. 1, спр. 1157 [*Пісьмо з пекла Мікалая I з наказам свайму сыну рускаму імператару Аляксандру II*. Сатырычны твор на польскай мове. Да дакумента прыкладзены тэкст перакладу на беларускую мову. Рукапіс].

---

[1] Маецца на ўвазе Свята-Васкрасенская (Заручаўская) царква – праваслаўны храм у Заручаўскай слабадзе г. Віцебску (сёння скрыжаванне вул. Калініна і газеты "Правда"). Зруйнаваны ў 1950-я гг.

# [List z Piekła]

|1r| Zapewno się zdziwisz że Ja któren trząsłem całym narodem którego nazywaliście Wielkim piszę do Ciebie aż z Piekła bo Wszyscy Djabli nawet sam Lucyper nasz przełożony rozkazał abym Tobie mój najukochańszy podziękowałem za Twoje usilne staranie około swoich Parafijan; nie|dziw się także że Tobie te podziękowanie. Ty który będąc chorym nie tylko że postępujesz równie ze zdrowem[i] Popami ale wielu innych przewyszyłeś, bo nie tylko siebie i całą parafię nam już oddałeś ale i wiele innych, tak że prawie wszyscy nad ktoremi macie przełożenie wszyscy są u nas razem z|wami zapisani. – Także wkładam na Ciebie obowiązek żebyś natychmiast po odebraniu tego pisma pojechał do Wilna i tam i tam[1] ustnie podziękował P. Nazimowi i Siemaszce[2] i wielu innym którzy najwięcej przyczynili się dla dobra naszeg[3], bo żeby nie wy toby Piekło nasze byłoby puste a teraz ciegle przybywają Gubernatorowie, Jenarałowie, Pułkownikowie, Policyanci, Szpiegowie, i wy Popi i wszystkim wam przygotowane są miejsce najpiękniejsze, tam znajdziecie ~~sp~~ stojące |1v| kadzie ze smołą gdzie nas wsadzają i was będą wsadzać tam stoją kadzie napełnione krwią Polską i łzami Matek, Siostr i Curek Polek, gdzie Djabli dają nam za napój, a Chłopi ktorzy za naszym staraniem tam weszli podkładją nam ogień i ~~podsma~~ smażą nas. – Także powiedź moim słowem żeby Pan Nazimów w moment pojechał do mego najukochańszego Syna terezniejszego Cara do Aleksandra II[4] i jemu od nas podziękował żebym to wiedział pierwiej bym się otruł bo on daleko ode|mnie stoi wyżej za|jego to staraniem przybywają co minuta wszyscy nasi osobliwie teraz lecz razem wymuwcie Jemu że żadnego Polaka nie widzieliśmy którem by do Nas wstąpił za Jego panowaniem; oprócz szpiegów zruszczałych Polaków, i tych których obwiesiłeś[5] Krzyżem. Naprzykład teraz w tem to czasie tyle to z twojej łaski przelało się krwi Polskiej i jeszcze leje się i to co rok więcej a żaden z nich do|nas nie wstąpił tylko co raz więcej krwi przybywa w kadziach i łez i srożej nas smażą Uwiadomcie moim synom Aleksandrowi

---

[1] Так у арыгінале.

[2] Гаворка пра тагачаснага віленскага генерал-губернатара Уладзіміра Назімава (1802–1874) і літоўскага і віленскага мітрапаліта Іосіфа Сямашку (1798–1868).

[3] Так у арыгінале.

[4] Аляксандар II (1818–1881) узышоў на трон Расейскае імперыі пасля смерці Мікалая I у 1855 г.

[5] Відавочна, крыжамі абвешваў “zruszczałych Polaków” не поп Іпаліт, а імператар Аляксандар II.

i Konstantemu[1], w Warszawie że już wszystko zrobili. Zatem |2r| wkrutce do nas przybędą i będą mieli mieszkanie w największych kadziach napełnionych smołą krwią łzami Polskiemi, razem i dla was wszystkich są te kadzie przygotowane którzy tylko przyczynili się do rozlewu krwi Polskiej czy orężem czy nauczaniem chłopów czy szpiegowstwem wszyscy u nas będziecie. Przybywaj zatem Hipolicie mój przędziej bo niespodzianie te łotry Polacy mają Ciebie powiesić[2] bo jakoby im Bóg pomaga a wam Djabeł czekamy Ciebie niecierpliwi. Wasz cesarz

Mikołaj

Także czeka Luceper i wszyscy Djabli

Z Piekła
1863 roku
Marca 8 dnia

*Пераклад*

## [Ліст з пекла]

|3| Ты напэўна здзівішся, што я, які патрасаў цэлым народам, якога вы называлі Вялікім, пішу да цябе ажно з пекла, бо ўсе д'яблы, нават сам Люцыпар – наш начальнік, прыказаў, каб табе, мой каханы, я падзякаваў за твае настойлівыя старанні каля сваіх парафіяў; не здзіўляйся таму, што гэтая хвала табе. Ты, каторы будучы хворым, не толькі дзейнічаеш нароўні са здаровымі папамі, але абагнаў шмат якіх, бо не толькі сябе і ўсю парафію нам ужо аддаў, але і шмат іншых, так што амаль усе, над якімі вы маеце ўладу, усе ў нас разам з вамі запісаныя. Таксама ўскладаю на цябе абавязак, каб адразу ж пасля атрымання гэтага ліста паехаў у Вільню і там вусна падзякаваў п. Назімаву і Сямашку і многім іншым, якія найбольш прычыніліся для дабра нашага, бо калі б не вы, то пекла наша было б пустое, а цяпер увесь час прыбываюць губернатары, генералы, палкоўнікі, паліцыянты, шпікі і вы – папы, і ўсім вам падрыхтавана найлепшае месца, там знойдзеце стаячыя кадзі (бочкі) са смалою, куды нас саджаюць і вас будуць саджаць, там стаяць кадзі, напоўненыя крывёй польскай і слязамі матак, сясцёр і дачок полек, якія д'яблы даюць нам за напітак, а мужыкі, якія |4| пры нашай дапамозе ўвайшлі сюды, падкладаюць пад нас агонь і смажаць нас. – Таксама скажы маім словам, каб пан Назімаў тут жа паехаў да майго найлюбімейшага сына, цяперашняга цара Аляксандра II і яму ад нас перадаў падзяку, каб тое ведаў раней я б атруціўся[3], бо ён далёка вышэй за мяне стаіць, з-за яго старанняў прыбываюць штомінуты ўсе нашы, асабліва

[1] Малодшы брат Аляксандра II Канстанцін Раманаў (1827–1892) з чэрвеня 1862 г. па кастрычнік 1863 г. быў царскім намеснікам у Царстве Польскім.

[2] Паўстанцы няраз каралі смерцю праваслаўных папоў (напрыклад, Данілу Канапасевіча, Рамана Рапацкага, Канстанціна Пракаповіча) за іх антыпаўстанцкую дзейнасць і ўплыў на сялян.

[3] Дадзены фрагмент трэба чытаць, відаць, так: "каб тое ведаў[,] раней я б атруціўся". Аўтар *Ліста*..., відавочна, ведаў чуткі пра самазабойства цара.

цяпер, але ж адначасова зрабіце яму вымову за тое, што мы не бачылі ні аднаго паляка, які б пры яго панаванні прыйшоў да нас, апрача шпікоў зрусіфікаваных палякаў і тых, якіх абвешаў ты крыжамі. Цяпер напрыклад столькі з твае ласкі пралілося крыві польскай і яшчэ льецца і то што раз болей, а ні адзін з іх да нас не прыйшоў, толькі штораз болей крыві і слёз прыбывае ў кадзях і стражэй нас смажаць. Паведаміце маім сынам Аляксандру і Канстанціну ў Варшаве, што ўжо ўсё зрабілі, а таму хутка да нас прыбудуць і будуць мець кватэру ў найбольшых кадзях, напоўненых смалой, крывёй, слязьмі польскімі, адначасова і для вас усіх гэтыя кадзі прыгатаваныя, якія |5| толькі прычыніліся да разліцця польскай крыві ці зброяй, ці навучаннем мужыкоў, ці шпіянажам усе ў нас будзеце. Прыбывай таму Іпаліце мой хутчэй, бо неспадзявана гэтыя нягоднікі палякі могуць цябе павесіць, бо здаецца ім бог памагае, а вам д'ябал.

Чакаем цябе з нецярплівасцю – ваш цар

Мікалай

Таксама чакае Люцыпар і ўсе д'яблы

З пекла
1863 года
Сакавіка 8 дня

## Гутарка пра русіфікацыю касцёла

У 2007 г. Віктар Шукеловіч, у той час – аспірант філалагічнага факультэта БДУ, апублікаваў выяўленую ім у БДАМЛіМ *Гутарку двух дзядоў* у восьмым выпуску штогодніка "Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта". У кароткай прадмове даследнік слушна зазначыў, што "беларускамоўная гутарка закранае пытанне ўжывання польскай мовы ў каталіцкім касцёле", што "твор, хутчэй за ўсё, узнік у асяроддзі беларускай каталіцкай шляхты, якая не хацела мірыцца з русіфікацыяй у касцёле і праз касцёл", што Лукаш і Тамаш (дзейныя асобы вершаванага апавядання) "свае прэтэнзіі скіроўваюць на канкрэтныя асобы святароў і прадстаўнікоў улады" [Шукеловіч 2007: 67–68].

На жаль, *Гутарка двух дзядоў* не стала аб'ектам увагі беларускага літаратуразнаўства, хоць і арыгінал захоўваецца ў Мінску, і тэкст твора даступны ў Сеціве [*Гутарка...* 2007, online].

А яна вартая ўвагі не толькі навукоўцаў-філолагаў, але таксама і гісторыкаў, і даследнікаў рэлігійнага жыцця на Беларусі ў другой палове XIX ст. Першыя, апрача аналізу моўна-стылёвых асаблівасцяў твора, мусяць супаставіць яго з шэрагам іншых тэкстаў гэтага жанру. Прынамсі, з *Гутаркай Данілы са Сцяпанам*, якую лагойскі аўтар відавочна ведаў і нават запазычыў асобныя сюжэтна-кампазіцыйныя прыёмы. Так, у абодвух гутарках героі, сышоўшыся ў зацішным месцы («подъ парканомъ» альбо "пад мурам"), абмяркоўваюць надзённыя праблемы жыцця (скасаванне паншчыны альбо русіфікацыю касцёла); і ў адным, і ў другім выпадку яны згадваюць знаныя ім падзеі мясцовага жыцця, называюць крыўды і несправядлівасці, з якімі ім даводзіцца сутыкацца, але не "бачаць" галоўнага віноўніка іхняга няшчасця: селянін і 1850-х, і 1870-х гг. такі ж самы цёмны і забіты, гэтак, як і раней, шчыра верыць у добрага цара, якога ашуквае тутэйшае начальства ("Вотъ братка, якъ яны падлыгаць умеюць, / Передъ Царомъ ў вочи на насъ плесьци смеюць!" альбо "Яны усе рапартуюць Цару гэтак пасылаюць / Што нашы людзі іх уклады дабравольна прынімаюць"). Падобныя і фінальныя часткі твораў: "Можабы и болей бъ пздур'ыў Сьцепанъ и Данило, / Але на пагибель – войта накруцило; – Якъ стаў загадъ строиць, якъ пачаў крычаць – / Мусили свой разгаворъ съ сабой перестаць" і "Ціха ты станавы з пісарам ідуць / Ніхай яны лепей прападуць / Чаго іх тут черці нагналі / Што яны тут гутарку перервалі".

Вядома, літаратуразнаўцы абавязкова адзначаць нізкі версіфікацыйны ўзровень аўтара *Гутаркі двух дзядоў*: складваецца нават уражанне, што ён зусім не ведаў не толькі тэорыі вершаскладання, але і элемен-

тарных ейных правілаў. *Гутарка двух дзядоў* – гэта, хутчэй, рыфмаваная проза, чым вершаваны тэкст.

А бясспрэчнаю вартасцю *Гутаркі двух дзядоў*, што ўяўляе, думаецца, вялікую цікавасць для гісторыкаў і культуразнаўцаў, з'яўляецца тэма твора: адлюстраванне ў беларускамоўным тэксце сітуацыі ў каталіцкім касцёле на Міншчыне ў 1870-я гг.

Мы не ведаем, наколькі абазнаным у таямніцах тагачаснае рэлігійнае барацьбы элітаў каталіцкага духавенства быў аўтар *Гутаркі*..., але ягоныя героі знаюць няшмат: "Хочуць ужо польскі язык зніштажыць / А з нашых касцёлаў царквы парабіць". Прычым, зрабіць гэта "хочуць" адно асобныя святары і дробнае мясцовае начальства. Зрэшты, аўтар вуснамі дзядоўстарцаў паведамляе самае істотнае. Адрасатам *Гутаркі*... зусім непатрэбнай была інфармацыя пра таго, хто "зніштажае" польскую мову ў касцёле (фактычна, апошнім бастыёне польскасці на беларускіх землях), хто збліжае каталіцызм з праваслаўем. Бо адрасат беларускамоўнага твора ўсё яшчэ верыў цару, які вызваліў іх.

Але ці мусіў аўтар апавядаць усю праўду (як гэта рабілася ў гутарках і вершах часоў Паўстання 1863 г.) пра тое, як развіваліся падзеі ў Віленскай дыяцэзіі, пачынаючы з канца 1860-х гг., калі Аляксандар II стварыў камісію, якая падрыхтавала праграму дзеля скасавання польскае мовы ў касцёлах. Дадзеная пастанова цара ўзнікла як вынік дзейнасці асобных кіраўнікоў віленскае капітулы Антона Нямекшы, Пётра Жылінскага і Эдварда Тупальскага.

Уладзіслаў Талочка (1887–1942) у каментарах да публікацыі фрагментаў успамінаў Юльяна Цытыюса (1820–1898) на падставе аповедаў сучаснікаў расказаў пра ролю А. Нямекшы ў гэтай справе:

> Пасля дэпартацыі біскупа Красінскага ў Нямекшы з'явілася думка ўвесці ў дадатковае касцельнае набажэнства рускую мову і праз гэта атрымаць высокія пасады. Каб выканаць свой план, праз тую хатнюю настаўніцу ён завёў знаёмства з губернатарам Панюціным [Талочка 2022, № 15: 13].

Менавіта ён, А. Нямекша, выдаў у 1869 г. *Требникъ* на расейскай мове, які ўтрымліваў тэксты традыцыйных каталіцкіх набажэнстваў, апрача св. Мшы, якая адпраўлялася на лаціне. Падрыхтаваныя былі таксама казанні па-расейску, касцельны спеўнік, катэхізіс і малітоўнік для вернікаў. Аднак толькі нязначная колькасць святароў (60 з 600) згадзілася ўвесці расейскую мову ў касцельнае набажэнства. Гісторыкі касцёла сцвярджаюць, што важную ролю ва ўзмацненні супраціву русіфікацыі адыграў учынак ксяндза Станіслава Пятровіча, здзейснены ім 25 сакавіка 1870 г. [Radman 2001: 225].

Вось як пра гэта піша У. Талочка:

> Вялікі розгалас атрымаў факт мужнага выступу супраць русіфікацыі касцёла кс. Пятровіча, пробашча касцёла св. Рафала і дэкана горада Вільні. <...> Калі была зроблена гэтая падрыхтоўчая праца, трыумвірат

> загадаў дэкану Вільні кс. Пятроўскаму[1] ў дні Унебаўзяцця Н. П. М. 1870 г. (па іншай інфармацыі, на Звяставанне) увесці рускую мову ў касцёлы Вільні. Пятроўскі адмыслова са спазненнем даслаў гэты загад ксяндзам, каб яны не маглі яго выканаць, нават калі пажадалі б гэта зрабіць.
> На свята ўся капітула і віленскі губернатар прыбылі ў касцёл св. Рафала, каб прысутнічаць на казанні віленскага дэкана, якое павінна было даць пачатак справе і паказаць прыклад іншым. <…> Калі падчас святочнага набажэнства дэкан узышоў на амбон, дык замест казання па-руску, выклаў вернікам ўсю гісторыю русіфікацыі касцёла і як дэкан папярэдзіў пра небяспеку. У канцы зазначыў, што найбольшую віну нясуць прэлаты, якія прадаліся ўраду, чым нават сам урад. Самым драматычным момантам у казанні быў яго канец, калі кс. Пятровіч на амбоне спаліў на свечцы рускі *Трэбнік*, кажучы людзям аб прадажных прэлатах: "Хай агонь ператворыць у нішто ўсю іхнюю працу!"[2] [Талочка 2022, № 15: 13].

Спробы русіфікаваць касцёл, вядома, працягваліся, але пасля ўчынку кс. С. Пятровіча больш актыўны стаў супраціў, святары, нягледзячы на рэпрэсіі касцельных уладаў і царскай адміністрацыі, адмаўляліся ўводзіць расейскую мову ў набажэнства ксяндзы, пратэставалі вернікі, у тым ліку – парафіяне касцёла ў вёсцы Корань Лагойскага павета і касцёла ў Лагойску. Больш за тое, святары і вернікі ведалі, што рымскі папа не згадзіўся на ўвядзенне расейскае мовы ў касцёл і асудзіў ксяндзоў і кіраўніцтва касцёла на Беларусі (у першую чаргу, адміністратара Магілёўскае дыяцэзіі Юзафа Максіміляна Станеўскага, 1795–1871), якія гэта робяць.

Якім чынам і калі рукапіс трапіў у калекцыю Ядвігі Раманоўскае (1920–2011), звестак не захавалася. Архівісты датуюць яго: "1880-я гг.", але вельмі сумнеўна, што гэта адпавядае праўдзе. Па-першае, цяжка дапусціць, каб асоба, звязаная з каталіцкім касцёлам, у XIX ст. занатавала *Гутарку*... грамадзянскім пісьмом (кірыліцаю). Па-другое, выкарыстанне літары "ў", а таксама шэраг іншых асаблівасцяў пісьма сведчыць, што рукапіс узнік у нашаніўскую эпоху. Думаецца, невядомы перапісвальнік у XX ст. запісаў ад В. Корзюка-Залескага *Гутарку*..., якая была напісаная ў 1870-я гг. Датаванне твора (9 мая 1877. Лагойск) і ягонае аўтарства (Леапольд Драздоўскі) паходзіць ад ўсё таго ж В. Корзюка-Залескага.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: БДАМЛіМ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), ф. 394 [*Калекцыя дакументаў па гісторыі культуры, сабраная Раманоўскай Ядвігай Юльянаўнай*]; воп. 1, адз. зах. 28 [*"Гутарка двух дзядоў. 9 мая 1877. Лагойск". Ананімная вершаваная аповесць. Рукапіс Л. Драздоўскага*], ар. 1–2v.

---

[1] Відавочна, С. Пятровічу.

[2] За сваё выступленне кс. С. Пятровіч быў высланы ў Архангельскую губерню, дзе знаходзіўся 24 гады.

|1r|

# Гутарка $2^{х}$ дзядоў

Гаворана 9 мая 1877 г.
у мяст. Лагойску.
Адзін называўся Лукаш, парафіи Каренскай[1]
а другі называўся Тамаш парафіи Гаенскай[2]

Раз дзе на дарозе спаткаўшыся
І так з сабой прывітаўшыся
Тамаш каже Нех бэндзя Езус Хрыстус пахвалёны[3]
Лукаш – На векі векау хай будзя увяльбёны
Гдзе бываў што ~~чуваў~~ на свеце чуваў
Ат мірам сабе валачуся нідзе дабра ня відаў
Нечым цяпер браце хваліцца
Бо ўжо ў касцеле забараняюць Богу маліцца
Чаго нават і у ва сне ня снілася
Тое цяпер на свеце парабілася
Хочуць ужо польскі язык зніштажыць[4]
А з нашых касцёлаў царквы парабіць
А ведаеш што Тамаш
Пойдзім разам на кермаш
Бо сянні Мікола[5] добра ты кажеш Лукаш
Я так вельмі рад што з добрым челавекам спаткаўся
Быццам жыўцом у неба дастаўся
Я цябе палюбіў як брата раднога
Бо ты хваліш Пана Бога
Бо якога цяпер челавека спаткаеш
Хоць ты Яго зусім ні знаеш

---

[1] Маецца на ўвазе парафія пры касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшае Панны Марыі (1730–1943) у вёсцы Корань Лагойскага павета. На каталіцкіх могілках гэтае вёскі пахаваныя ў 1902 г. Дамінік Луцэвіч, Казік, Сабіна і Гэлена Луцэвічы, бацька, брат і дзве сястры Янкі Купалы.

[2] Гаворка ідзе пра парафію пры касцёле Нараджэння Найсвяцейшае Дзевы Марыі і Святога Казіміра ў Лагойску. Касцёл у в. Гайна быў зачынены ў 1865 г. [гл. Jelski 1882, III: 9], а парафія далучана да лагойскае.

[3] Літара “л” у гэтым слове напісана як “l”. Падобнае назіраецца і ў шэрагу іншых выпадкаў.

[4] Першапачаткова было: *уніштажыць*.

[5] Вясновы Мікола адзначаўся 9/22 мая.

Усякі цябе трасцай[1] абсылае
Хоць йон да цябе нічога ні мае
Чорт іх хіба ведле[2] з іхным выразам
Ніхай яны прападуць з гутаркай разам
Каже Лукаш да Тамаша
Сянні ў касцеле здэцца будзе Мша
Ат сядзем сабе тут пад мурам
Людзі[3] люлькі пакурым,
Аб свайо жыцьце[4] і веру трохі пабздурым
Ты браце курыш а я нюхаю
То ты хіба пагамоніш а я паслухаю
Бо я на гэта вельмі ні здаўся
Хоць за многа па свеці шатаўся
Аніхай сабе і гэтак будзе
Як то мой Тамаш асудзе
Ах ведама ты браце дарагі Тамаш
Ня ў чым што цяпер дабра ні маш
Як то на даўнейшае ўспамнécца
То кроўю сэрцэ з жалю абальецца
Прыдзеш бывала да касцёла проста[5] як у неба
Усякі павіннасць знае што Богу маліцца трэба
Ружанец годзінкі усе у касцеле спеваюць
Также на арганах Бога, Найсвеншую Матку выхваляюць
Ксендз як выйдзе людзей спавядаць
Міна яго прыемная проста анельска пастаць
Малых дзетак катахізму і пацер навучае
Кап зналі што Бог іх на свеце хавае[6]
Штоб 10 Боскіх прыказань пілнавалі
Сваіх бацькоў і старшых людзей шанавалі
Што-б Бога верна і шчыра малілі
А лгаць і красці ніколі ні учылі
Тады і у полі гусцей і лепш радзіла
Добра было жыць аж успомніць міла
Ні было у нас такой распусты крадежы
Разбою і здзірства пьянства і грабежы
Ніхай хто ідзе шлюб ці пахарон гадзіць
Пытаецца можа ты бедны ці маеш чым заплаціць

---

[1] Здравствуйте (*заўвага перапісвальніка*). Так беларусы ў той час успрымалі на слых расейскае «здравствуйте».
[2] Так у арыгінале. В. Шукеловіч расчытаў гэтае слова як “ведае”.
[3] Так у арыгінале. В. Шукеловіч расчытаў гэтае слова як “трохі”. Магчыма, “Ходзі”.
[4] Спачатку было напісана, відаць: *браце*.
[5] Літара “т” у гэтым слове напісана як “t”. Падобнае назіраецца і ў шэрагу іншых выпадкаў.
[6] Гадуе, выхоўвае.

А калі скажа бедны і грошы ні мае
То йон дарма павенчае і пакойніка пахавае
Яшче тут быў Лазаревіч[1] хоць росту малога
Я на яго ні скажу і слова благога
Можна было неяк з ім меркавацца
Можна было шлюбы браць, дзяцей хрысціць і спавядацца
Хоць йон быў трохі і хціў на грошы
|1v| Але да набаженства быу прыкладно харошы.
Але што ж! па ім нейкаго Юргевіча[2] прыслалі
Штоб ні мы ні добрые людзі ні зналі
Што хадзіў да папа рускіе пацеры вучыцца
А пастараму ні хацеў Богу маліцца
Як запяюць людзі у касцеле то йон ад працэсіи адрекаецца
Бывала як чорт крыжа чураецца
Прыдзе да касцёла приступе да аўтара
Мэрам то чорт чы якая з пекла пачвара
Галава заўседы як дзерць[3] расчахрана
Хтобы першы раз угледзіеў хрысціўся б як ад шатана
А каго злове у свае нядзвежые пазуры
То абдзярэ челавека жыўцом са скуры
А сам на гарэлку жыдом прапівае
Начыне пабье якое толькі мае
Бацьку йон з хаты што дзень выганяе
І з астатніх слоў па маскоўску лае
І сам ня успомне што йон вырабляе
Людзей за Боскае стварення ні мае
Дзякуй Богу што яго пазбылі
Але што калі яшче горшаго набылі
Тамаш каже адкуль ты яго знаеш

[1] Гаворка, відаць, пра Антона Лазарэвіча (каля 1836 – ?), які ў 1871 г. быў пробашчам Мядведзіцкае парафіі ў Слуцкім павеце (сёння: Ляхавіцкі раён), а пасля нейкі час – Лагойскае парафіі [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1873, ч. 1: 105; *Памятная книжка Минской губерніи на…* 1875, ч. 1: 151].

[2] Юзафа Юргевіча, які ў 1877 г. быў пробашчам Лагойскага касцёла. За згоду спяваць песні і прамаўляць казанні па-расейску да свайго заробку (230 руб.) атрымліваў дадатак – 370 руб. [гл.: Radwan 2001: 227]. Юзаф, магчыма, брат ці сваяк Яна Юргевіча (каля 1840 – ?). Апошні ў 1872 г. быў пробашчам Радашковіцкае парафіі, а з 1877 г. – візітатарам і слуцкім дэканам (адміністратарам касцёла св. Антонія ў Слуцку) [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1878. ч. 1: 190] і актыўна займаўся русіфікацыяй касцёла [Смалянчук 2001: 71].

[3] Спасылаючыся на даследаванні Валянціны Лемцюговай, Жанна Сіпліваня піша: "У старажытныя часы праца земляроба пачыналася з выбару месца для падсекі. Распрацаваныя ў лесе і пастаянныя землі-ўчасткі мелі самыя разнастайныя назвы: *новіна, старына, дзерць, ляда, пасека, чарцёж (чарцяж), дворышча, селішча, навоз, памёт* і пад." [Сіпліваня 2013: 180].

Што ты яго горшым называеш
Хтож браце мой шельмы ні пазнае
Хіба хто ў галаве розуму ні мае
Йон же Лумпіцкі[1] брадзяга завецца
Сюды едзе адтуль які чорт узарвецца
Завалокся первей быў да Кракава
Але й там яму было усё аднакава
Пярехреста скора і там пазналі
Ні раўнуючы як сабаку адтуль пагналі
Многа дзе злачынец па свеце басцяўся
А нарешце да Барысава прыблукаўся
Шельма ў шельмы[2] трохі парабкам пабыў
А за тое парахвію сабе зарабіў
А як у Лагойску гаспадаром застаўся
То хванабэрьи бэз шчоту набраўся
Бо ужо ні вяліць к сабе хадзіць бэз дакладу
І сам чорт ня дойдзе з ім ладу
Йон на тое паганец[3] забыўся
Як па свеце усюды валачыуся
Як па свеце быц таго ваўка ганялі
І прыстання нігдзе ні давалі
А цяпер у касцеле усіх па маскоўску лае
Людзей за Божа стварэння ні мае
Помніш ты браце яго дурную работу
Што йон зрабіў у вялікую суботу[4]
Як зачалі у касцеле святые песні спеваць
То йон выскачыўшы і давай іх усцішаць
Крычыць па маскоўску штоб йон лепей на жывот
Як жаба зялёная раскрыўшы свой рот
Але ніхто яго крыку ні спужаўся
То йон нідавярак да станавога пасачаўся[5]
Станавы такіж самы абезьян
Надзеўшы даўгі свой жупан
Ды і блудзіць узад і ўпярод па касцеле
Кап хто запытаўся па якім йон дзеле
Але на пагібель сам нікога не спазнаў
Дык сотнікаў у памацнікі узяў
Бегалі па касцеле як сабакі пашалеўшы
Ці каторые часамі па тры дні ня еўшы

---

[1] Звестак пра ксяндза Лумпіцкага выявіць не ўдалося. Але, тут, відаць, памылка перапісвальніка: маецца на ўвазе Станіслаў Лямпіцкі (гл. ніжэй).
[2] Гаворка пра Іосіфа Пятроўскага, дэкана Барысаўскага павета (гл. ніжэй).
[3] В. Шукеловіч расчытаў гэтае слова як "пляму".
[4] Вялікая Субота ў 1877 г. прыпала на 31 сакавіка.
[5] Магчыма, *пачасаўся*.

Усім у вочы загледалі
А людзі скупые по кусочку хлеба ні далі
А штоб яны хоць па яечку ахвяравалі
Можаб яны так і не брэхалі
Бо і сабаку калі хто хлебам пацешэ
То йон тагды здалёку брэшэ
Ніхай хто кій пакаже або памахае
То йон бреше са злосці зямлю зубамі хватае
Ніхай толькі брадзяга сцеражэцца
|2r| Ні адзін кол на галаве застанецца
Яго гэта і мешалка ні абароне
Як дзед па спіне кастылем збабоне
З намі ні з парахвіанамі ня будзе губарнатарам пастрашаць
Абы людзі ня відзелі то і сам будзе маўчаць
Яны тут роўные з ксяндзом сабраліся
Адкуль яны у чорта на нашу галаву ўзяліся
Ксендз Лемпіцкі[1] сотнік Храпавіцкі
А станавы Вечорка[2]
{ *Глядзі на адвароце*[3]
[Першы пьяніца Намэкша[4]
Другі злодзей пераваротнік Жылінскі[5]
Трэці злодзей і разбойнік Сенчыкоўскі Мінскі[6]

---

[1] Ксёндз Станіслаў Лямпіцкі (каля 1842 – ?), магістар Санкт-Пецярбургскае рымска-каталіцкае духоўнае акадэміі, служыў з 1866 г. У 1872 г. быў дэканам слуцкім [*Духовенство Виленской католической епархии на 1872 год*, online], а з 1876 г. выконваў абавязкі пробашча Ігуменскага касцёла [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1878: 184]. У якасці пробашча Лагойскае парафіі ў даступных нам крыніцах ён фіксуецца толькі з 1881 г. [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1881: 185]. Але, відаць, ужо ў 1877 г. быў пераведзены з Ігумену ў Лагойск.

[2] Станавы прыстаў 2-га стана (Лагойскага) Грыгоры (?) Вячорка быў на данай пасадзе афіцыйна з 10 снежня 1877 г. [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1878: 189]. Але, відавочна, мог заняць яе раней у сувязі з вакатам.

[3] Заўвага перапісвальніка. Наступныя сем радкоў перапісвальнік занатаваў пасля асноўнага тэксту і яшчэ аднаго даданага фрагмента на адвароце аркуша.

[4] Гаворка пра Антона Нямекшу (каля 1824–1878), ксяндза, доктара тэалогіі, прафесар Санкт-Пецярбургскае рыма-каталіцкае духоўнае акадэміі (1851–1860). З 1861 г. займаў адказныя касцельныя пасады ў Вільні (прэлат, дэкан, пробашч касцёла св. Яна).

[5] Маецца на ўвазе адзін ініцыятараў русіфікацыі касцёла на беларускіх землях Пётар Жылінскі (1817–1887), кіраўнік Віленскае дыяцэзіі. У 1876 г. ён, каб прыспешыць русіфікацыю касцёлаў былое Мінскае дыяцэзіі, падзяліў яе на два візітатарствы – Мінскае і Слуцкае на чале з Фердынандам Сенчыкоўскім і Янам Юргевічам адпаведна.

[6] Гаворка пра дэкана мінскага і адміністратара Троіцкага касцёла Фердынанда Сенчыкоўскага (1837–1907), які займаў гэтую пасаду з 1 студзеня 1871 г. Адзначаны ордэнам св. Ганны і св. Станіслава III ступені, а таксама медалю

Чацверты у Барысаве сабакар і лайдак Пятроўскі[1]
Так сама юдаш здрайца і нахлебнік маскоўскі
Што найгоршаго лотра ці найгоршага ката
Абіраюць на дзекана альбо на пралата].

Кап яны марне прапалі каб ім было горка
Стараюцца народ ад касцёла адбіць
А хто ж будзе тагды убогіх дарыць
Можа яны нам што дадуць
Што яны людзям думаюць ніхай самі зьядуць
Духоўным нібы называецца
А з чужой крыўды нажываецца
Зараз у касцеле возьме брехаць
Кап толькі бедных абдзіраць
Бо ужо ~~у~~ свята ці нядзеля
Ціха глуха у касцеля
Ці свята ці будні дзень
Ці Коляды ці хоць Вялікдзень
Нічога ані ні тут ні пазнаеш
Дарма толькі челавек ногі набіваеш
Як адазвецца да людзей як да мядзьведзя Скамарох
Дык усе людзі як дужы за парог
Бо хто ж будзе слухаць каму гэта міла
Чаму іх халера лепей ні ўдушыла
Засцірагай Боже скорай лепей смерцьцю
Кап ні прышлося бэз споведзі ўмерці
Тамаш каже за гэтым спавядацца треба
Бо Бог ня прыме да споведзі душы да неба
Лепш раз у год к добраму ксяндзу дастацца
Чым у пярехреста што дзень спавядацца
Бо яны ж гэта да ліха духавенства
Гэта настаяшчая гарэзія[2] і адшчапенства
Святы Айцец даўно на іх клятву узлажыў[3]

---

«Въ память усмиренія польскаго метяжа 1863–1864 г.» [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1875: 74].

[1] Маецца на ўвазе Іосіф Пятроўскі (Піотровскій), дэкан Барысаўскага павета, адміністратар Барысаўскага касцёла (меў залаты наперсны крыж, на пасадзе з 19 жніўня 1871 г. [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1875: 151]. На службе з 1858 г., на пасадзе настаўніка рэлігіі Барысаўскага павятовага вучылішча з 1873 г., закончыў курс у Санкт-Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі [*Памятная книжка Минской губерніи на…* 1878: 199].

[2] Ад польск. *herezja* – *ерась*.

[3] Рымскі папа Пій (Піус) IX (1792–1878) у 1847 г. падпісаў канкардат з Расіяю, але з тае прычыны, што імперыя не выконвала дамову, у 1866 г. скасаваў яго, а ў наступным годзе кананізаваў Язафата Кунцэвіча (1580–1623). Магчыма, якраз гэтыя дзеянні Апостальскае сталіцы сталіся падставаю для аўтара гутаркі, каб сказаць пра ўскладзеную анафему.

Кап іх Бог на свеце болей не мнажыў
Яны ж на тое ні хочуць уважаць
Стараюцца начальству падлагаць
Што да смерці яму верна будуць служыць
Па маскоўску шлюбы даваць і дзяцей хрысціць
Мала гэтага дык яшче прысягаецца
Што да смерці сваей веры вырэкаецца
Каліб ты хацеў начальству верна служыць
То треба было ранец ружжо на сябе узлажыць
Ды ісці з непрыяцелям на поле ваяваць
Ані людзей з Божаго касцела выганяць
А калі ты сукенку Хрыстусову на сябе узлажыў
То треба каб Богу ужо верне служыў
А за Цара павінен Богу маліцца
Но ні каталіку па руску хрысціцца
Бо язык рускі польскі лацінскі панімае
Ну пераваротаў ніколі ні жадае
І Цар также гэта усё панімае
Што з пераваротніка ніколі дабра ні мае
Ні даждуць яны зараз каркі скруцяць
Усяго свету ні ашалапуцяць
Да пары будзе збан ваду нясці
Прыдзецца ім некалі торбамі трасці
Ім гэта дарма ні мінецца
Бо ваўку крыўда ўсягды адрыгнецца
Што злівалі людскіе слёзы
Ні адзін наймецца пасвіць жыдоўскіе козы
А каторы крапчэйшы той мядзведзя павядзець
Бэз хлеба злачынец ня будзе сядзець
А некатары пьяніца бэз пары загіне
Знайдзіць яго нехта на горкай асіне
Ні прывыкшы змаленства жыць у бядоце
То ні адзін сабе жыццё укароце
|2v| Нібы людзям гарэлку піць баронюць
А самі бутэлькамі ды келішкамі што дзень дзвонюць
А як у карчму к жыду забярецца
Дык як жаба гразі ці чаго інше набярэцца
По шынках яго пагібель заўседы носе
А да хворага і сам чорт ні упросе
Ішче брадзяга гэны лаецца
Што бэз дакладу к яму кожны шляецца
Арганістага аблавушным чортам бэз языкім называе
Крычыць на увесь касцёл што ні тое йграе
Гэты і арганісты Пятроўскі
Настаяшчы падхлебнік маскоўскі
Йон ужо польскага языка выракаецца

Як ідзе на хоры услед за сабой запіраецца
Баіцца каб ні зачалі па польску співаць
Кап ні узялі падаўнейшаму памагаць
Нешта сам сабе пад нос як чмель мармоче
А па даўнейшаму святых песень співаць ні хоче
Усіх ужо аплутала шатанская пакуса
Усякі адрекаецца для хлеба куса
І тыб браце ня лепшы б быў
Кап ты на яго мейсцы пабыў
Цярпіць і йон ад гэтага недавярка
Абрыдла і яму што дзень гэна сварка

{ [1]

[Паслухай браце Лукаш
Што у нашаго начальства толку німаш
Што вяляць касцелы на церквы забіраць
І толькі язык і нашу веру ~~на церкв~~ касаваць
Што ім наша вера робе кап таго запытаўся
Чаго яны так зазлуваліся
Ніхай бы яны жыдоў і татараў на жыдоўскую веру паварачалі
Сказалі бы што Хрыстуса наслядавалі
А то як бы хто работы ні мае
З рекі ды у реку ваду пераліваe
Так сама і гэта добрых ксяндзоў адусюль павыганялі
І самі черці троны біскупскіе пазанімалі
Верных ксяндзоў адусюль павыганялі
А тут шельмаў злодзеяў недавяркаў панасылалі
Каторы у касцеле па руску гаворэ і пяець
То таму і жалаваньне большае даець
Калі Бога і святой веры вырэкаецца
Такі чынам і абліччам вызначаецца
Ох не браце ты аб гэтым блудзіш
Ты напрасна аб гэтым начальства і цара судзіш
Штоб йон хацеў насілкам нашу веру касаваць
То гэта мусіла бы так стаць
А то йон аб гэтым і зусім ні знае
А начальства як хоче так і выпраўляе
Бог высока Цар далека
Нашых горкіх слёз ня відзе Яго вока
А гэтые паганцы здзекаваюцца над намі
Як каліcці паны над сваімі мужыкамі
Яны усе рапартуюць Цару гэтак пасылаюць
Што нашы людзі іх уклады дабравольна прынімаюць]

[1] Наступныя трыццаць радкоў перапісвальнік уставіў пасля асноўнага тэкста.

Але я горшы на ксяндзоў жаль маю
І ні напрасна хоць за вочы лаю
Што яны за грошы малітвы адракліся
Кап яны па смерці у пекла дасталіся
Хто прыступіцца да споведзі кожнаго аблае
Крычыць што йон за іх споведзі ~~ад~~ ніколі адпачынку ні мае
Пайшоў бы лепей да Бэркі ці да Лейбы ды упіўся
Спакойна пад лаўкаю за памыйніцай заваліўся
І адпачываў бы там сабе у райскай раскошы
Упіўшыся за люцкія крывавые грошы
Ціха ты станавы з пісарам ідуць
Ніхай яны лепей прападуць
Чаго іх тут черці нагналі
Што яны тут гутарку перервалі
Тым часам сталі на мшу дзваніць
А дзяды пачалі Бога хваліць
Прашчай Лука прашчай Тамаш
Рэшту пагаворым як будзім ісці на кірмаш

Састаўлена Леапольдам Драздоўскім
Запісана ад В. Корзюка-Залесскага[1]
Гутарка $2^{x}$ дзядоў[2]

---

[1] Занатавана алоўкам іншаю рукою.
[2] Тое самае. Тытул дапісаны на вольным месцы пасля тэксту.

# Пра Ялегі Пранціша Вуля, ягоную жонку і брата

## 1

Высланыя ў маі-чэрвені 1864 г. з краю Элігі Францішак Карафа-Корбут і ягоны брат Вільгельм у снежні гэтага ж года апынуліся ў Тобольску, дзе павінны былі разлучыцца: Элігі-Францішак (звыкла яго называлі Франц) мусіў кіравацца «на поселение в более отдаленные места Сибири», а Вільгельм застацца «на житье» у тагачаснай сталіцы Сібіры. Аднак, прагнучы не пакідаць васемнаццацігадовага брата без апекі, Э.Ф. Карафа-Корбут просіць табольскага губернатара Аляксандра Дэспата-Зяновіча (1828–1894) пакінуць іх абодвух «в Тобольске или об отправлении <…> вместе в Сибирь». А. Дэспат-Зяновіч перанакіраваў просьбу Корбутаў да генерал-губернатара Заходняе Сібіры Аляксандра Дзюгамаля (1801–1880), які – у сваю чаргу – звярнуўся па тлумачэнне ў Дэпартамент выканаўчае паліцыі. Відаць, Міністэрства ўнутраных спраў дазволу не дало. Вільгельм застаўся ў Тобольску, а Элігі Францішка накіравалі ў Аёкскую воласць Іркуцкае губерні [Хаўстовіч 2014: 243–246; Хаўстовіч 2021: 310–311].

Маўрыцы Карафа-Корбут разам з жонкаю Антанінаю і нявесткаю Ганнаю, што выехалі з Віцебска 4 верасня 1864 г., мусілі таксама апынуцца ў Тобольску, але ці ўдалося ім спаткацца ўсім разам, – мы не ведаем. Хутчэй за ўсё – не. Маўрыцый павінен быў ехаць у прызначанае яму Усолле [гл.: Lasocki 1937: 333], Антаніна або засталася ў малодшага сына ў Тобольску, або памерла ў дарозе, Ганна адшукала мужа ў Аёкскай воласці.

З успамінаў Карнэля Зялёнкі (1838–1914), якога выслалі ў вёску Ялоўка, вядома, што ў другой палове 1860-х гг. Э.Ф. Карафа-Корбут жыў у вёсцы Куяда. Прынамсі, так вынікае з наступнага фрагменту:

> W czasie debaty nad tem przyszli odwiedzić nas koledzy z Kujady, między tymi Franciszek Korbut, profesor wyższej szkoły w Wilnie, z którym żona jego dobrowolnie przyszła. Ona niezwykłej dobroci osoba, uważała nas wszystkich, jakbyśmy do jej rodziny należeli. Do każdego z nas odzywała się po imieniu, dodając wyraz „obywatelu", a my wszyscy do niej „obywatelko". Przed chwilą radziliśmy, że Korbut najlepiej wyuczyć mnie potrafi po rosyjsku – a wtem jakby na zawołanie i on wchodzi.
> – Mowa o wilku a on tu! – odzywam się.
> – Oj, nicowaliście mnie, jak widzę!
> – Przeciwnie jest – mówię – uradziliśmy, że ty najlepiej potrafisz mnie na kacapa przenicować.
> – Zagadkami mówicie – nic nie rozumiem…
> <…> ja sprowadziłem się do Korbutów i w jednym miesiącu poduczyłem się tyle po rosyjsku, że od biedy mogłem prowadzić księgi [Zielonka 1913: 144–145].

Такім чынам, пэўны час Корбуты жылі ў Куядзе. К. Зялёнка не павінен быў тут памыліцца. Асабліва ўлічваючы тое, што ён яшчэ раз у іншым месцы ўспамінаў згадвае пра беларускага паэта і ягоную жонку. Пададзім гэты фрагмент цалкам, бо ў ім шэраг цікавых назіранняў мемуарыста:

> Tam też bez osłony charakter każdego wystąpił, odkryła się dusza. Poznałem ludzi z wielkiem sercem i zaparciem się. Co za śliczny, prawy charakter takiego Franciszka Korbutta albo Dyonizego Henkla i wielu innych! Henkel czuwał nad nami, pracował nad naszą kolonią. Schadzaliśmy się na jego pouczające odczyty[1]. On założył pismo, ochrzczone przez nas „Ogniwo". Kto miał jaki talent literacki, próbował swych sił, pisząc artykuły, które na zebraniu odczytywał. Artykuły takie, zebrane w jeden zeszyt, stanowiły jeden numer „Ogniwa"[2]. Nad odczytanym artykułem czyniło się uwagi, a krytyka taka była bardzo dla wszystkich pouczającą. <…> Nie długo żyliśmy takiem życiem, musiało się nasze kółko rozbić dla chleba, bo gdy nie czyniono nam trudności w wyszukaniu zajęcia, każdy starał się znaleźć sobie pracę, odpowiadającą jego zdolnościom lub jaką mógł dostać. I tak Korbut założył w Kujadzie sklep, a jego żona „obywatelka" piekła smaczny chleb, który posyłała do Irkucka, gdzie chętnie kupowano [Zielonka 1913: 188–189].

Тут, відавочна аповед ідзе пра аёкска-ялоўска-куядскі перыяд жыцця К. Зялёнкі і ягоных калегаў, пра пачатковы этап высылкі Э.Ф. Карафа-Корбута. Але як доўга ён жыў у Куядзе? Калі пераехаў у Іркуцк?

Выяўленыя ў апошні час Антонам Францішкам Брылём у Дзяржаўным архіве Іркуцкае вобласці матэрыялы дазваляюць удакладніць звесткі пра шосты год высылкі беларускага паэта: ягонае прозвішча трапіла ў *Исповедные росписи* Петрапаўлаўскае Куядскае праваслаўнае царквы. Складаліся яны, відаць, на пачатку 1871 г., ахоплівалі ўвесь 1870 г. Паводле дакумента, Франц Карафа-Корбут (45 гадоў), ягоная жонка Ганна (46 гадоў)[3] і бацька Маўрыкій (69 гадоў) жылі ў весцы Захал[4] Аёкскае воласці. Да вышэйназванае царквы былі прыпісаныя вайскоўцы, сяляне, пасяленцы, «инородцы», а таксама палітычныя ссыльныя вёсак Куяда, Ялоўка, Захал, Рудаўка, а таксама невялічкіх акалічных слабодаў – усяго 400 двароў, у якіх жыло 2500 асобаў. Высланых паўстанцаў налічвалася трынаццаць: апрача Карафа-Корбутаў гэта: Франц Пячора (40 г.)[5], Эдуард Пячора (50 г.), Станіслаў Дураноўскі (30 г.), Аўгуст Каскевіч (30 г.) – усе ў вёсцы Куяда; Лука Кальчэўскі (43 г.) – у вёсцы Захал; Адольф Дашкевіч (37 г.)[6], Леў Дамброўскі

---

[1] Д. Гэнкель (1842–1920) жыў у вёсцы Аёк, якая знаходзілася ў пятнаццаці вёрстах ад Куяды.

[2] Магчыма, удзел Э.Ф. Карафа-Корбута ў падрыхтоўцы рукапіснага (?) часопіса „Ogniwo" спрычыніўся да таго, што беларускі паэт атрымаў магчымасць працаваць у рэдакцыі „Gazety Polskiej", сурэдактарам якое ў 1873–1897 гг. быў якраз Д. Гэнкель.

[3] Адзначым: Ганна была старэйшая за мужа на адзін год.

[4] Размешчана паміж вёскамі Куяда і Ялоўка.

[5] Вядома, што да паўстання Ф. Пячора служыў у канцылярыі магілёўскага цывільнага губернатара.

[6] Шляхціц Мінскага павета.

(33 г.)[1], Юльян Свянецкі (32 г.), Баляслаў Нарбут (39 г.)[2] – у вёсцы Ялоўка; Рудольф Гаржаноўскі (46 г.) – у вёсцы Бургаз [ГАИО, 50–0–1779: 219v].

У лютым 1872 г. Карафа-Корбуты ўжо будуць у Іркуцку [Kalinowski 1978, t. I, cz. 1: 390, 408; Хаўстовіч 2014: 247], а яшчэ праз пяць гадоў – у панядзелак 31 студзеня /12 лютага 1877 г. ступяць на варшаўскі брук, каб у гэты дзень пасяліцца ў гатэлі Польскім і шукаць сяброў ды працу ў сталіцы Прывіслянскага краю [Anonim 1877, nr 34; Хаўстовіч 2022: 268–269].

**2**

Блізу дваццаці гадоў Элігі Францішак Карафа-Корбут [*Franciszek Korbutt*, online] разам з жонкаю Ганнаю з Талвінскіх [*Anna Tołwińska*, online] жылі ў Варшаве, якая, відаць, была абраная з прычыны забароны на вяртанне ў родныя мясціны. Але хіба не толькі. Мы ўжо пісалі, што ў сталіцы Царства Польскага знаходзіліся, магчыма, сваякі паэта з боку маці, Антаніны з Сабалеўскіх [Хаўстовіч 2021: 314]. Праўда, дакументальных пацвярджэнняў пра тое, што Карафа-Корбуты мелі блізкую радню ў Варшаве ў нас пакуль не было. І толькі цяпер, калі ў перыёдыцы ўдалося выявіць некралог „Anny z Tołwińskich Franciszkowej Korbuttowej" [*Nekrologia* 1915, nr 2: 5], з'явілася магчымасць упэўнена казаць пра варшаўскія сваяцкія сувязі сям'і беларускага паэта.

На жаль, пахавальная метрыка жонкі Э.Ф. Карафа-Корбута хіба не захавалася[3]. А яна магла б засведчыць, як зваўся брат Ганны[4], што дало б магчымасць дакладна вызначыць да роду якіх менавіта Талвінскіх належала жонка паэта[5].

Ганну хіба не пахавалі побач з мужам, які памёр на дваццаць гадоў раней. Відаць, своечасова не было зарэзерваванае „miejsce grzebalne" ці адразу жонка паэта ведала, што спачываць ёй належыць у „grobie rodzinnym" Талвінскіх.

Вось толькі „Tołwińscy" мелі на Павонзках ажно некалькі „grobów rodzinnych". І невядома, ці былі яны аднаго роду. А не маючы дадатковых

---

[1] Шляхціц Ковенскага павета.

[2] Шляхціц Лідскага павета.

[3] У пахавальнай метрыцы Яна Талвінскага, які памёр у Варшаве 17.10.1930 г., пазначана, што нябожчык „emeryt, lat osiemdziesiąt mający, we wsi Spieszyn powiatu Bielskiego urodzony, syn Grzegorza i Anieli, małżonków" [APW, zespół UMZ-1930, online]. Пра смерць сведчылі, відаць, дзеці – Ян і Генрыета Талвінскія. Нельга выключаць, што Grzegorz Tołwiński быў сынам Яна і Петранэлі Талвінскіх [*Jan Tołwiński*, online], магчыма, братам Ганны Карафа-Корбут.

[4] У пахавальных метрыках абавязкова пазначаліся тыя асобы, якія сведчылі пра смерць свайго крэўнага ці знаёмага.

[5] Цікава, што гербоўнікі на фіксуюць шляхецкага роду Талвінскіх. Прынамсі, на тэрыторыі Аўгустоўскае губерні [гл.: Sęczys 2018].

звестак, не магчыма дакладна сказаць, дзе пахавалі памерлую ў 1915 г. Ганну.

Вераемна, Ганна Талвінская паходзіла з роду, прадстаўнікі якога пахаваныя ў сектары „J” (kwatera J). Мяркуем па тым, што сярод прадстаўнікоў кожнага пакалення гэтага роду абавязкова быў Ян [гл.: *Jan Józef Tołwiński*, online; *Akt zgonu*, online]. А мы памятаем, што ў расейскіх следчых дакументах часоў Паўстання 1863 г. жонка Э.Ф. Карафа-Корбута называлася Ганнаю Іванаўнаю [Кісялёў 1994: 127]. Такім чынам, пазначаная ў даведніках магіла, якая знаходзіцца ў сектары J, шэраг 4, месца 30–31 (kw. J, rząd 4, m. 30–31), можа быць месцам вечнага спачыну блізкіх сваякоў Ганны [*Tołwińscy*, online].

Ян Юзаф Талвінскі (1830–1911), сын мытнага надстражніка Яна[1] і Петранэлі Скельц, паходзіў з горада Уладыславаў[2] Аўгустоўскае губерні[3]. Пазней ён апынуўся ў Варшаве, дзе быў „urzędnikiem do pisma dziesiętego okręgu Straży Wewnętrznej”, а ў 1862 г. узяў шлюб з Мартаю Крэчыньскаю. „Grób familijny Jana Tołwińskiego” ўзнік у 1893 г. Відаць, у свае 60 гадоў „były urzędnik inwalidów weteranów wojsk polskich, obywatel m. Warszawy, kawaler orderów” паклапаціўся пра месца пахавання для сябе і сваіх нашчадкаў. Характэрна, што пахаваныя тут толькі ягоныя дзеці, унукі і праўнукі. А вось дзе пахаваная ягоная жонка Maria Marta Felicja Krzczyńska[4] (1844–1921) – невядома; ейнае імя на помніку „grobu familijnego” адсутнічае[5]. Ян Талвінскі, магчыма, – старэйшы брат Ганны.

Стрыечным (?) братам Ганны Карафа-Корбут мог быць таксама Канстанты Талвінскі[6], які памёр у Варшаве ў 1908 г. і пахаваны ў сектары 217 (kw. 217, rz. 6, m. 1–4). Дадзенае „miejsce grzebalne” – яшчэ адзін „grób rodzinny” Талвінскіх на Павонзках [*Konstanty Tołwiński*, online]. Тут, у адрозненне ад „grobu familijnego Jana Tołwińskiego”, пахаваныя не толькі прамыя нашчадкі роду, але і іхнія сямейнікі.

„Grób rodzinny” Талвінскіх знаходзіцца таксама і ў сектары 29 (kw. 29, rz. 6, m. 6), дзе пахаваныя Antoni Tołwiński (1865), Julianna Tołwińska (1892), Halina Tołwińska (1922) і, магчыма, іншыя прадстаўнікі роду [*Antoni Tołwiński*, online].

---

[1] У дакументах прозвішча падаецца таксама і як Tołowiński [APW, zespół 0161d, 1862, online].

[2] Сёння – Кудзіркас Наумесціс (Kudirkos Naumiestis) Марыямпольскага павета Літвы.

[3] Звесткі ўзятыя намі з шлюбнае метрыкі Яна Юзафа Талвінскага і Марты Феліцыяны Крачынскае [гл.: APW, zespół 0161d, online].

[4] У асобных дакументах ейнае дзявочае прозвішча падаецца як Kreczyńska.

[5] Ейнае прозвішча, гэтак жа як і прозвішча жонкі Э.Ф. Карафа-Корбута, пазначана ў спісе тых, пра каго вядома, што пахаваны на Павонзках, але на помніках іхнія імёны адсутнічаюць [*Warszawa, cm. Powązkowski*, online].

[6] Канстанты Талвінскі паходзіў з горада Марыямпаль Аўгустоўскае губерні. Ягоны сын Мікалай (1856–1924) вучыўся ў Пецярбурзе, а пасля працаваў у Варшаве архітэктарам [APW, zespół 0158d, 1885, online; *Mikołaj Tołwiński*, online].

На жаль, іншых сыноў умоўнага Яна Талвінскага, бацькі Ганны Карафа-Корбут, якія б жылі ў 1910-х гг. у Варшаве і маглі браць удзел у пахаванні жонкі беларускага паэта Ялегі Пранціша Вуля, у даступных нам дакументах мы пакуль не выявілі.

**3**

Пэўную цікавасць маюць таксама дакументы, датычныя даты і месца пахавання Вільгельма Карафа-Корбута, брата беларускага паэта. Пра тое, што В. Карафа-Корбут памёр і пахаваны ў Варшаве мы ведалі, адшукаўшы ў 2018 г. на Павонзках ягоную магілу (kw. 215, rz. 5, m. 29). Відаць, свае апошнія гады ён жыў, меркавалі мы, з сям'ёю сына Браніслава [Хаўстовіч 2019: 232]. Аднак, як сведчыць некралог у газеце „Kurjer Warszawski" [*Nekrologja* 1928, nr 233: 12], у Варшаве знаходзілася таксама ягоная дачка, а г. зн. Вільгельм Карафа-Корбут пасля смерці жонкі мог быць пад ейнаю апекаю.

Дзе і калі памерла Браніслава з Вінчэўскіх Карафа-Корбут, жонка Вільгельма, мы не ведае. Але нашую ўвагу прыцягнула пахавальная метрыка Браніславы Корбут, якая памерла ў Варшаве ў 1911 г.:

> Состоялось въ Варшавѣ въ приходѣ Св. Креста Апрѣля девятаго – двадцать втораго дня тысяча девятьсотъ одиннадцатаго года въ одиннадцать часовъ утра. Явились: Францишекъ Лукашекъ прикащикъ и Стефан Опелинскій чиновникъ совершеннолѣнія жительствующіе въ Варшавѣ и объявили, что здѣсь въ Варшавѣ подъ номеромъ тысяча пятьсотъ двадцать девятымъ а, по улицѣ Шпитальнай сего дня въ семь часовъ утра умерла: Бронислава Корбутъ (Bronisława Korbut) замужняя капиталистка, шестидесяти однаго года отъ роду, мѣста урожденія неизвестнаго, дочь Дымитрія (Dymitrego) и неизвестной по имени матери, супруговъ. По удостовереніи о кончинѣ Брониславы Корбутъ актъ сей прочтенъ объявляющимъ Нами и ими подписанъ [APW, zespół 0158d, 1911, online].

Больш дакладна: нас зацікавіла не толькі тое, што гэтак жа (Браніслава Корбут) павінна была называцца і жонка Вільгельма Карафа-Корбута і што яна магла наведвацца ў Варшаву, спыняючыся ў гатэлі (?)[1]. Найважнейшым было тое, як «прикащикъ» і «чиновникъ» ахарактарызавалі нябожчыцу – «замужняя капиталистка», г. зн. багатая кабета, якая па справах (?) апынулася ў чужым горадзе ўдалечыні ад родных і блізкіх. А мы памятаем, што пра В. Карафа-Корбута пісала на падставе архіўных матэрыялаў Эльжбета Каміньска, аўтарка кнігі *Судзеньскае паўстанне і Сібірскія выгнаннікі*:

> Po zwolnieniu wrócił po latach do Irkucka i zaangażował swoją firmę w budowę kolei zabajkalskiej. Zarobił na tym przedsięwzięciu sporo pieniędzy.

---

[1] Вуліцу Шпітальную ў Варшаве на пачатку XX ст. цалкам забудавалі новымі камяніцамі, а г. зн. Браніслава Корбут не магла жыць у доме сваіх бацькоў.

Jeszcze w 1910 roku, mieszkając w Witebsku, procesował się z Drogą Żelazną Zabajkalską o należny mu milion zł [sic!] [Kamińska 2005: 241].

Такім чынам, жонку будаўніка Забайкальскае чыгункі маглі ў Варшаве прымаць за "капіталістку", а значыць, у нас ёсць падставы сцвярджаць, што пахавальная метрыка Браніславы Корбут датычыць Браніславы з Вінчэўскіх Карафа-Корбут і адначасна прызнаць, што звесткі, якія Э. Каміньска падае ў біяграме В. Карафа-Корбута сапраўды належаць жыццяпісу брата беларускага паэта.

Друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле:

№ 1. *Nekrologja*. 1915. „Kurjer Warszawski" nr 2 (2. 01): 5.

№ 2. APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół 1214d [*Akta Stanu Cywilnego Parafii św. Barbary w Warszawie, 1928c*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=1214d&se=&sy=1928c&kt=1&plik=1390-1395.jpg&x=360&y=227&zoom=1 [1.11.2023].

№ 3. *Nekrologja*. 1928. „Kurjer Warszawski" nr 233 (23.08): 12.

**№ 1**

**Ś. ✝ P.**
**Anna z Tołwińskich**
**Franciszkowa Korbuttowa**
opatrzona św. Sakramentami, po długich i ciężkich cierpieniach zasnęła w Bogu dnia 1-go stycznia 1915 r., przeżywszy lat 80.

Pogrążeni w głębokim smutku brat i rodzina zapraszają krewnych, przyjaciół i życzliwych na nabożeństwo żałobne do dolnego kościoła WW. Świętych (na Grzybowie) dnia 3-go b. m., t. j. w niedzielę, o godzinie ***10-ej*** rano, a następnie na eksportację zwłok, zaraz po skończonem nabożeństwie, na cmentarz powązkowski do grobu rodzinnego.

Osobne zaproszenia rozsyłane nie będą.

*Пераклад*

**Св. ✝ П.**
**Ганна, народжаная Талвінская,**
**Францішкова Корбутава**
асвечаная святымі сакрамэнтамі пасля доўгіх і цяжкіх пакутаў спачыла ў Богу 1 студзеня 1915 г. ва ўзросце 80 гадоў.

Глыбока засмучаны брат і сям'я запрашаюць сваякоў, сяброў і добразычліўцаў на адпяванне ў ніжнім касцёле Усіх Святых (на Гжыбове) 3-га дня гэтага месяца, г. зн. у нядзелю, ***а 10-й*** гадзіне раніцы, а пасля, адразу пасля набажэнства, на экспартаванне праху на Павонзкі да сямейнае магілы.

Асобныя запрашэнні рассылацца не будуць.

**№ 2**

1390. Działo się w Warszawie dnia dwudziestego trzeciego sierpnia tysiąc dziewięćset dwudziestego ósmego roku o godzinie jedenastej. Stawili się: Juljan Wiśniewski, handlowiec i Jan Lutosiński, służący, pełnoletni, zamieszkali w Warszawie i oświadczyli: że w Warszawie pod numerem czterdziestym dziewiątym przy ulicy Wspólnej w dniu wczorajszym o godzinie dwudziestej umarł Wilhelm Karaffa-Korbutt, lat osiemdziesiąt pięć mający, emeryt, urodzony w Witebsku, syn Maurycego i Antoniny z Sobolewskich małżonków Karaffa-Korbutt, wdowiec. Po przekonaniu się o śmierci Wilhelma Karaffa-Korbutta, akt ten przeczytany, przez nas i jednego świadka podpisany został.

*Пераклад*

1390. Гэта адбылося ў Варшаве дваццаць трэцяга жніўня тысяча дзевяцьсот дваццаць восьмага года ў адзінаццаць гадзінаў. З'явіліся: Юльян Вішнеўскі, купец, і Ян Лютасінскі, слуга, паўнагадовыя, што жывуць ў Варшаве, і заявілі, што ў Варшаве, у [доме] пад нумарам сорак дзявятым пры вуліцы Вспульнай памёр учора ў восем гадзін вечара Вільгельм Карафа-Корбут, васьмідзесяці пяці гадоў, пенсіянер, народжаны ў Віцебску, сын Маўрыцыя і Антаніны, у дзявоцтве Сабалеўскай, Карафа-Корбутаў, удавец. Пераканаўшыся ў смерці Вільгельма Карафа-Корбута, гэты акт мы прачыталі і падпісалі. Падпісаў яго таксама адзін сведка.

**№ 3**

**Ś. † P.**
**Wilhelm Karaffa-Korbutt**
**Powstaniec oraz syn powstańca z r. 1863,**

opatrzony św. Sakramentami, po długich cierpieniach, oddał Bogu ducha w dniu 22 sierpnia 1928 roku, przeżywszy lat 85.

Nabożeństwo żałobne w kaplicy kościoła św. Barbary (na Koszykach) odbędzie się dnia 25 b. m., w sobotę, o godz. 9-ej i pół rano, poczem nastąpi wyprowadzenie zwłok na cmentarz powązkowski; o czem zawiadamiają krewnych, kolegów, znajomych i przyjaciół pozostali w głębokim smutku

CÓRKA, SYN i SYNOWA.

*Пераклад*

**Св. † П.**
**Вільгельм Карафа-Корбут**
**паўстанец і сын паўстанца 1863 г.**

асвечаны св. сакрамэнтамі, пасля доўгіх пакутаў аддаў душу Богу 22 жніўня 1928 г. ва ўзросце 85 гадоў.

Паніхіда адбудзецца ў капліцы касцёла св. Барбары (на Кошыках) 25 дня гэтага месяца, у суботу, а 9:30 раніцы, пасля чаго цела будзе экспартаванае на Павонзкі, пра што родным, калегам, знаёмым і сябрам паведамляюць у глыбокім смутку

ДАЧКА, СЫН і НЯВЕСТКА.

# Бібліяграфія


Александровіч Сцяпан. 1957. *В.І. Дунін-Марцінкевіч і польская крытыка*. "Літаратура і Мастацтва" 30 ліст.

Александровіч Сцяпан. 1960. *Старонкі братняй дружбы: артыкулы пра літаратурныя сувязі*. Мінск.

Александровіч Сцяпан, Александровіч Вольга. 1978. *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў*. Мінск.

Ананім. 1921. *Беларуская Энэіда*. "Вольны сьцяг" № 4 і 5.

Ананім. 1926a. *Энэіда навыварат* (10–13). У: Дзяржынскі Уладзіслаў. *Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.* Менск.

Ананім. 1926b. *Энэіда навыварат* (637–640). У: Ластоўскі Вацлаў. *Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі*. Коўна.

Ананім. 1940. *Энеіда навыварат* (6–12). У: Купала Янка (рэд.). *Беларуская літаратура XIX ст.: Зборнік тэкстаў*. Мінск.

Ананім. 1950. *Энеіда навыварат* (5–13). У: Пшыркоў Юльян (рэд.). *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*. Скл. Васіль Барысенка, Міхась Ларчанка, Любоў Фіглоўская. Мінск.

Ананім. 1962. *Энеіда навыварат* (88–93). У: Аванесаў Рубен (рэд.). *Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы: вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў*, частка другая. Мінск.

Ананім. 1966. *Энеіда навыварат* (21–30). У: Казбярук Уладзімір (уклад.). *Выбраныя творы XIX і пачатку XX стагоддзяў*. Мінск.

Ананім. 1971. *Энеіда навыварат* (7–13). У: Александровіч Сцяпан, Лойка Алег, Рагойша Вячаслаў (уклад.). *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*. Мінск.

Аноним. 2011–2019. *К[ороткевич] Ипполит Васильевич: Краткие биографические сведения* [online] https://three-arms-k.narod.ru/B_Ippolit_V_K.htm [дата доступу: 20.07.2023].

Аноним. 2020a. «*Куда, любезный, так пустился*?» (171). У: Брыль Антон Франтишек. 2020. *Русскоязычные произведения Викентия Ровинского в рукописном отделе Российской государственной библиотеки*, "Асоба і Час" № 9: 171.

Аноним. 2020b. *Ц-й, искусный врач…* У: Брыль Антон Франтишек. 2020. *Русскоязычные произведения Викентия Ровинского в рукописном отделе Российской государственной библиотеки*, "Асоба і Час" № 9.

Аноним. 2020c. *Разговор суеверных соседей: кума с кумою*. У: Брыль Антон Франтишек. 2020. *Русскоязычные произведения Викентия Ровинского в рукописном отделе Российской государственной библиотеки*, "Асоба і Час" № 9: 171–173

Анонимъ. 1836. *Отчетъ Императорскаго Московскаго университета съ 1го Января 1835го по 1е Января 1836го* [online] https://viewer.rsl.ru/ru/rsl01003402818?page=72&rotate=0&theme=white [дата доступу: 06.06.2023].

Анонимъ. 1845. *Отрывокъ изъ Энеиды на изнанку на Бѣлорусскомъ крестьянскомъ нарѣчіи* (33–39). У: «Маякъ современнаго просвещенія и образованія» т. XXIII, кн. XLV: *Смѣсь*.

Ахрыменка Павел. 1973. *Летапіс братэрства: Аб беларуска-ўкраінскіх фальклорных, літаратурных і тэатральных сувязях*. Мінск.

Баграновіч Ірына. 1998. *Старонка духоўнай культуры Полаччыны: Вытокі рукапіснай хрэстаматыі Б.І. Эпімах-Шыпілы* (237–241). У: *Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў*. Мінск.
Баграновіч Ірына. 1999. *Жывы струменьчык адраджэння: Браніслаў Эпімах-Шыпіла і селігорская бібліятэка Вінцэнта Мяніцкага*. "ЛіМ" № 2 (15 студз.).
Баграновіч Ірына. 2001. *Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння*. Мінск.
Барысенка Васіль. 1957. *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*. Мінск.
Бас Ізраэль. 1969. *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*. Мінск.
Баўтовіч Міхась. 2013. *Спадчына Мяніцкіх*. У: *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі (1–3 лістапада 2012 г.): У дзвюх частках*. Полацк, І: 17–40.
БДАМЛіМ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), ф. 66 [*Бэндэ Лукаш Апанасавіч*], воп. 1, спр. 564 [*ЭНЕІДА. Запіс паэмы з спіска І.І. Сразнеўскага. (Бібліятэка Акадэміі навук БССР). Сшытак*], арк. 2–10v.
БДАМЛіМ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), ф. 66 [*Бэндэ Лукаш Апанасавіч*], воп. 1, спр. 1157 [*Пісьмо з пекла Мікалая І з наказам свайму сыну рускаму імператару Аляксандру ІІ*. Сатырычны твор на польскай мове. Да дакумента прыкладзены тэкст перакладу на беларускую мову. Рукапіс].
БДАМЛіМ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), ф. 66 [*Бэндэ Лукаш Апанасавіч*], воп. 1, спр. 1256 [*Б.І. Эпімах-Шыпіла. "Беларуская хрэстаматыя". Аўтограф*].
БДАМЛіМ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), ф. 394 [*Калекцыя дакументаў па гісторыі культуры, сабраная Раманоўскай Ядвігай Юльянаўнай*]; воп. 1, адз. зах. 28 [*"Гутарка двух дзядоў. 9 мая 1877. Лагойск". Ананімная вершаваная аповесць. Рукапіс Л. Драздоўскага*], ар. 1–2v.
Белинский Виссарион. *Сочинения Александра Пушкина. Статья первая* [online] https://web.archive.org/web/20100112191327/http://az.lib.ru/b/belinskij_w_g/text_0120.shtml [дата доступу: 03.02.2024].
Бодянскій Іосиф. 1837. *О народной поэзіи славянскихъ племенъ: разсужденіе на степень магистра Философскаго факультета перваго отделенія*. Москва [online] https://www.prlib.ru/item/353265 [дата доступу: 03.12.2023].
Брыль Антон Франтишек. 2020. *Русскоязычные произведения Викентия Ровинского в рукописном отделе Российской государственной библиотеки*. "Асоба і Час" № 9: 164–166.
Вергилий Публий Марон. 1770. *Еней. Героическая поема…* [online] https://arheve.org/read/maron-pv/eney-geroicheskaya-poema-publiya-vergiliya-marona/1 [дата доступу: 03.02.2024].
Виргилій Публій Маронъ. 1775. *Еніды книга перьвая съ латинскаго на россійскій языкъ переведена Васильемъ Санковскимъ*. Санктпетербургъ.
Виргилій Публій Марон. 1781. *Еней. Героическая поема…* Переведена съ латинскаго Гномъ Петровымъ. [Песни 1–6. Санктъ-Петербургъ].
Вергилий Публий Марон. *Еней. Героическая поэма* [online] https://rvb.ru/18vek/poety18veka/01text/vol1/07petrov/234.htm [дата доступу: 03.02.2024].
Віталёва Валянціна. 2003. *Ушачы* (19–20). У*: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*. Мінск. Т. 6, ІІ.
ГАИО (Государственный архив Иркутской области), ф. 50 [*Иркутская духовная консистория Священного Синода, г. Иркутск Иркутской губернии*], оп. 0 [*Опись особо ценных дел постоянного хранения (1718–1915 гг.)*], д. 1779 [*Исповедные росписи церквей Иркутского округа: Троицкой Кудинской, Иннокентьевской Котинской, Успенской Оекской, Петропавловской Куядской, Петропавловской Тугутуйской, Михайло-Архангельской Харатской... (1.01.1870 – 31.12.1870*).

Гарбачова Вольга. 2006. *Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг. на Беларусі: Біябібліяграфічны слоўнік*. Мінск.
Гарэцкі Максім. 1924. *Гісторыя беларускае літэратуры. Выданьне трэцяе (папраўленае)*. Вільня.
Гарэцкі Максім. 1926. *Гісторыя беларускае літаратуры*. Выданне чацьвертае. Перапробленае. Менск.
Грынчык Мікола. 1969. *Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі*. Мінск.
Грынчык Мікола. 1973. *Шляхі беларускага вершаскладання*. Мінск.
*Гутарка двух дзядоў*. 2007 [online] https://kamunikat.org/knihi.html?pubid=16698 [дата доступу: 28.01.2024].
Даль Владимир. *Толковый словарь Даля* [online] https://slovardalja.net/word.php?wordid=4310 [дата доступу: 03.02.2024].
Дашкевичъ Николай. 1899. *Малорусская и другія бурлескныя (шутливыя) Энеиды*. «Кіевская старина» т. LXVII (сентябрь): 145–188.
Дашкевичъ Николай. 1901. *Старѣйшій списокъ Малороссійской Енеиды И.П. Котляревскаго* (33–42). У: *Чтенія въ Историческомъ обществѣ Нестора лѣтописца*. Кн. 15. Кіевъ 1901.
Дементьев А. 1955. *Журналистика и критика сороковых годов [XIX века]* (743–774). У: *История русской литературы в 10 т*. Т. VII. Москва-Ленинград [online] http://feb-web.ru/feb/irl/il0/il7/il7-743-.htm [дата доступу: 01.02.2024].
*Духовенство Виленской католической епархии на 1872 год* [online] http://www.petergen.com/bovkalo/sp/wilno1872.html [дата доступу: 28.01.2024].
Житецкій Павелъ. 1899–1900. *Энеида И.П. Котляревскаго и древнѣйшій списокъ ея*. «Кіевская старина» т. LXVII (октябрь): 1–30; (ноябрь): 127–166; (декабрь): 312–336; т. LXVIII (январь): 16–45; (февраль): 163–191; (мартъ): 312–336.
Земкевіч Ромуальд. 1918. *Увага*. "Варта: Беларускі літэратурно-грамадзянскі, навучно-гістарычны і эканамічны штомесячнік з ілюстрацыямі пад агульнай рэдакцыей Язэпа Варонко" № 1: 22.
Карамзин Николай. *Виргилиева Энеида, вывороченная наизнанку. Часть I. Санктпетербург, в типографии И.К. Шнора, 1791 года* [online] http://az.lib.ru/k/karamzin_n_m/text_0870.shtml [дата доступу: 08.02.2024].
Карскій Ефимій. 1903. *Бѣлоруссы*. Т. I: *Введеніе въ изученіе языка и народной словесности, съ приложеніемъ двухъ картъ*. Варшава.
Карскій Ефимій. 1908. *Бѣлорусская Энеида на изнанку: Съ приложенемъ текста сохранившихся отрывковъ: Изъ XVIII т. Сборника Харьковскаго Историко-Филологическаго Общества, изданнаго въ честь профессора Н.Ф. Сумцова*. Харьковъ.
Карскій Ефимій. 1922. *Бѣлорусы*. Т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени*. Кн. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*. Петроградъ.
Кісялёў Генадзь. 1971. *Загадка беларускай Энеіды*. Мінск.
Кісялёў Генадзь. 1978. *Пошукі імя: Манаграфія*. Мінск.
Кісялёў Генадзь. 1987. *Равінскі Вікенцій Паўлавіч* (442). У: *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 тамах*. Т. 4: *Н–С*. Мінск
Киселёв Геннадий. 1989. *Разыскивается классик...: историко-литературная дилогия*. Минск.
Кісялёў Генадзь. 1993. *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст*. Мінск.
Кісялёў Генадзь. 1994. *Хто вы, Карафа-Корбуты?* (120–147). У: Кісялёў Генадзь. *Радаводнае дрэва: Каліноўскі – эпоха – наступнікі*. Мінск.
Кісялёў Генадзь. 1995. *Равінскі Вікенцій* (114–115). У: *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 т*., т. 5: *Пестрак – Сяўрук*. Мінск.
Кісялёў Генадзь. 1996. *Слядамі Энеіды*, "Полымя" № 10.

Кісялёў Генадзь. 2001. *Равінскі Вікенцій Паўлавіч* (37–38). У: *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 т.*, т. 6, кн. 1: *Пузыны – Усая*. Мінск.

Кісялёў Генадзь. 2003. *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд. Мінск.

Кісялёў Генадзь. 2005. *Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы* Энеіда нававарат *і* Тарас на Парнасе. Мінск.

Кісялёў Генадзь. 2007. *Энеіда навыварат* (134–151). У: Мархель Уладзімір, Чамярыцкі Вячаслаў (рэд.). *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII – XIX стагоддзе*. Мінск.

Кісялёў Генадзь (уклад.). 1977. *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.* Мінск.

Котляревскій Иванъ. 1809. *Виргиліева Энеида на малороссійскій языкъ преложенная*… Вновь исправленная и дополненная противу прежнихъ изданій. Санктпетербургъ, часть первая.

Кушинъ Петръ. 1843. *Ге́цыки*. «Москвитянинъ: Учено-литературный журналъ» № 8: 383–412.

Лазарук Міхась. 1968. *Станаўленне беларускай паэмы: Жанр паэмы і некаторыя асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў першай палавіне XIX ст.* Мінск.

Лазарук Міхась, Семяновіч Антон (рэд.). 1998. *Гісторыя беларускай літаратуры: XIX – пачатак XX ст.*, пад рэд., выд. 2-е, дапрац. Мінск.

Ларчанка Міхась. 1958. *На шляхах да рэалізма*. Мінск.

Лойка Алег. 1989. *Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд, у 2 ч.*, ч. 1, 2-е выд., дапрац. і дап. Мінск.

Лойка Алег, Рагойша Вячаслаў (уклад.). *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., перапрац. і дап. Мінск.

Мазур Мария. *Язык российский и русский в русской лингвокультуре XVIII в.* [online] https://cyberleninka.ru/article/n/yazyk-rossiyskiy-i-russkiy-v-russkoy-lingvokultu re-xviii-v/viewer [дата доступу: 07.02.2024].

Майхровіч Сцяпан. 1959. *Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, выданне другое, папраўленае. Мінск.

Малаш Леаніла. 1989. *Ян Чачот* (108–125). У: Каханоўскі Генадзь, Малаш Леаніла, Цвірка Канстанцін. *Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму*. Мінск.

Мальдзіс Адам. 1966. *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемадзеянні ў XIX ст.* Мінск.

Мальдзіс Адам. 1969a. *Літаратура XIX ст.* (7–91). У: Барысенка Васіль (рэд.). *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, т. 2: *Літаратура XIX – пачатку XX ст.* Мінск.

Мальдзіс Адам. 1969b. *Падарожжа ў XIX стагоддзе: з гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры: Навукова-папулярныя нарысы*. Мінск.

Мальдзіс Адам. 1970. *Бясспрэчнае і гіпатэтычнае*. “Полымя” № 9: 226–231.

Марковський Михайло. 1926. Енеїда *Івана Петровича Котляревського*. “Записки історично-філологічного відділу”. Кн. IX: 78–155; кн. X: 48–74.

Марковський Михайло. 1927. *Найдавніший список* Енеїди *І.П. Котляревського й деякі думки про генезу цього твору*. Київ.

Мартысюк Вячаслаў. 2023. *Беларускія матэрыялы ў маскоўскай частцы архіва Восіпа Бадзянскага*. “Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні: зборнік навуковых прац.” Вып. 10: 252–270.

Н. О. [Николай Осипов]. 1800. *Виргиліева Энейда, вывороченная на изнанку*. Часть перьвая. Санктпетербургъ.

НГАБ (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі), ф. 2617, воп. 1, спр. 26.

Насовіч Іван. 1983. *Слоўнік беларускай мовы*. Мінск.

Невядомы аўтар. 2012. *Энеіда навыварат* (3–14). У: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3: *Літаратура першай паловы XIX стагоддзя*. Мінск.

*Окончившие курс Витебской гимназии: 1808–1883* [online] http://petergen.com/history/witgim.shtml [дата доступу: 21.01.2024].
Павловскій Иванъ. 1889. *Осипъ Максимовичъ Бодянскій въ его дневникѣ 1849–1852 гг.* «Русская старина» № 10: 123–141.
*Памятная книжка Витебской губерніи на 1865 годъ.* Санктпетербургъ.
*Памятная книжка Витебской губерніи на 1866 годъ.* Санктпетербургъ.
*Памятная книжка Витебской губерніи на 1878 годъ.* Витебскъ.
Памятная книжка Минской губерніи на 1845 годъ. Минскъ.
*Памятная книжка Минской губерніи на 1873 г.* Минскъ, ч. 1.
*Памятная книжка Минской губерніи 1875 г.* Минскъ, ч. 1.
*Памятная книжка Минской губерніи на 1878 г.* Минскъ. Ч. 1: *Отдѣлъ II. Справочныя свѣдѣнія*.
*Памятная книжка Минской губерніи на 1881 г.* Минскъ.
Піятуховіч Міхайла. 1990. *Рукапісы А. Рыпінскага* (218–234). У: *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў. Мінск.
Плуг Адам. 1918. *Кручаная баба*. "Варта: Беларускі літэратурно-грамадзянскі, навучно-гістарычны і эканамічны штомесячнік з ілюстрацыямі пад агульнай рэдакцыей Язэпа Варонко" № 1: 20–22.
Плуг Адам. 1920. *Кручаная баба*. "Часопісь: Беларускі грамадзка-палітычны, літэратурны і навучна-гістарычны штомесячнік з ілюстрацыямі" № 2 (6): 2–3.
Плуг Адам. 1992. *Кручаная баба*. "Спадчына" № 4: 15–17.
Плуг Адам. 1998. *Старая песня; Да Ігната Дамейкі; На смерць Уладзіслава Сыракомлі* (418–427). У: *Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя*. Мінск.
Плуг Адам. 2001. *Кручаная баба* (93–95). У: *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*. Мінск.
Плуг Адам. 2012. *Кручаная баба* (1035–1037). У: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 3: *Літаратура першай паловы XIX стагоддзя*. Мінск.
Плуг Адам. 2013a. *Жукаў Барок; Станіслаў Манюшка; В. Марцінкевічу, аўтару твораў на беларускай гаворцы; Кручаная баба; Нянька* (604–610). У: *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*. Мінск.
Плуг Адам. 2013b. *Споведзь* (504–585). У: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2. Мінск.
Прыгодзіч Мікалай. 2008. *Пад псеўданімам «Бѣлоруссъ К. К.»: Пра адну з публікацый Каятана Касовіча*. "Роднае слова" № 8: 41–43.
Равінскі Вікенцій. 1988. *Энеіда навыварат* (65–68). У: Лойка Алег, Рагойша Вячаслаў (уклад.). *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., перапрац. і дап. Мінск.
Равінскі Вікенці. 2000. *Энеіда навыварат* (31–38). У: Цвірка Кастусь (уклад.). *Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя*: *Хрэстаматыя*. Мінск.
Равінскі Вікенцій. 2001. *Энеіда навыварат* (49–57). У: Казбярук Уладзімір (уклад.). *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*. Мінск.
Равінскі Вікенцій. 2011. *Энеіда навыварат* (265–272). У: Курбанава С., Суша А., Галенчанка Г., Русак В., Зайцаў І., Лапо П. (уклад.). *Беларуская літаратурныя спадчына: Анталогія ў дзвюх кнігах*, кніга першая. Мінск.
Равінскі Вікенцій. 2013. *Энеіда навыварат* (55–63). У: Цвірка Кастусь, Шпакоўскі Іван, Антановіч Канстанцін (уклад.). *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*. Мінск.
Равінскі Вікеньці. 1922. *Беларуская Энэіда* (75–78). У: Гарэцкі Максім. *Хрыстаматыя беларускае літэратуры: XI век – 1905 год*. Вільня.
Ралько Іван. 1969. *Беларускі верш: Старонкі гісторыі і тэорыі*. Мінск.
Ралько Іван. 1986. *Верш і мова: Праблемы тэорыі і гісторыі беларускага верша*. Мінск.

РГАДА (Российский государственный архив древних актов, Москва), ф. 188 [*Рукописное собрание Центрального государственного архива древних актов (коллекция)*], оп. 1, д. 1394 [*Записи белорусского фольклора и материалы по языкознанию профессора Московского университета О.М. Бодянского. Разрозненные тетради*. Майхровскій Феодосій. *Слова употребляемые въ Смоленской Губерніи*)].
РГБ (Российская государственная библиотека), ф. 218 [*Собрание Отдела рукописей*], оп. 1 [*т. X, № 864–946: Отдельные (единичные) поступления за 1959 г.*], д. 894 [*Сборник историко-литературный о войне 1812–1814 гг.*].
Ровинский Константин. 2005. *Жизнь, как она прожита: Воспоминания, встречи, знакомства. Мысли, заметки* (259–267). У: Кісялёў Генадзь. *Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы Энеіда навыварат і Тарас на Парнасе*. Мінск.
Синицкий Геннадий. *Путь первого настоятеля Усвятской церкви* [online] https://dzen.ru/a/ZE-OvqG-L3EKSwcu?utm_referer=www.google.pl [дата доступу: 20.07.2023].
Сіпліченя Жанна. 2013. *Заняткі і гаспадарчая дзейнасць гарадзенцаў у люстэрку мікратапаніміі* (179–184) У: *Восьмыя Калеснікаўскія чытанні: зборнік матэрыялаў навуковай канферэнцыі*; пад агул. рэд. З.П. Мельнік. Брэст: БрДУ.
Смалянчук Алесь. 2001. *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй: Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях (1864–1917)*. Гродна.
Соколовъ Егоръ. 1905. *Библіотека Императорскаго Общества Исторіи и Древностей Россійскихъ*: Выпускъ второй: *Описаніе рукописей и бумагъ, поступившихъ съ 1846 по 1902 г.* Москва.
СПбФ АРАН (Санкт-Петербургский филиал Федерального государственного бюджетного учреждения науки Архива Российской академии наук), ф. 216 [*Срезневский Измаил Иванович, (1812-1880), филолог, славяновед, академик АН*], оп. 3 [*Собрание автографов разных лиц*], д. 376 [*Ров… В.П. «Энеида с малорусск. на Смоленский крестьянский яз. переложенная». Автограф. F°. 8 листов*].
СПбФ АРАН (Санкт-Петербургский филиал Федерального государственного бюджетного учреждения науки Архива Российской академии наук), ф. 216 [*Срезневский Измаил Иванович, (1812-1880), филолог, славяновед, академик АН*], оп. 3 [*Собрание автографов разных лиц*], д. 1167 [*Маркианович. Заметка о произношении в Мстиславском уезде Могилевской губ. Студенческая работа*].
Станкевіч Адам. 2008. *З Богам да Беларусі*. Вільня.
Стешенко Иванъ. 1898. *И.П. Котляревскій въ свѣтѣ критики*. «Кіевская старина» т. LXVII (июль – августъ): 83–151; (сентябрь): 267–316; (октябрь): 1–32.
Стешенко Иванъ. 1898. *И.П. Котляревский и Осипов и их взаимоотношения*. «Кіевская старина» т. LXVII (июль – августъ): 1–82.
Сыракомля Уладзіслаў. 1993. *Добрыя весці: паэзія, проза, крытыка*. Мінск.
Талочка Уладзіслаў. 2022. *Трыумвірат: Гістарычныя нататкі.* “Наша слова”, № 15: 11–15.
Трацяк Іван. 2012. *Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі: манаграфія*. Гродна.
Франко Іван. 1979. *Зібрання творів у 50-и томах*. Київ, т. 31: 317–320.
Хаўстовіч Мікола. 2004. *Энеіда навывараТ: спроба рэканструкцыі* (28–48). У: *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік*. Вып. пяты. Мінск.
Хаўстовіч Мікола. 2006. *Айчына здалёку і зблізку: Ігнацы Яцкоўскі і Аляксандар Рыпінскі*. Мінск.
Хаўстовіч Мікола. 2014. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*. Том першы. Warszawa.
Хаўстовіч Мікола. 2016. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*. Том другі. Warszawa.
Хаўстовіч Мікола. 2019. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*. Том пяты. Warszawa.

Хаўстовіч Мікола. 2021. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*. Том сёмы. Warszawa.
Хаўстовіч Мікола. 2022. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII – пачатку XX стагоддзя*. Том восьмы. Warszawa.
Хмяльніцкая Людміла. 2019. *Лёс інсургента: Дакументальная аповесць аб Аляксандру Рыпінскім і ягоным часе*. Мінск.
Цытовичъ. 1843. *Слова два о языкѣ и грамотности Бѣлой Руси*. «Маякъ»,т. IX, кн. XVII. Смѣсь: 33–38.
Шаўцоў Пятро. 1973. *Спрадвечнае*. Мінск.
Шафарикъ Павелъ. 1843. *Славянское народописание*, переводъ I. Бодянскаго. Москва.
Шукеловіч Віктар. 2007. *Некалькі слоў пра Гутарку двух дзядоў: Архіўная знаходка* (67–69) У: *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта*. Вып. восьмы. Мінск 2007.
Aftanazy Roman. 1992. *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej*. Wydanie drugie przejrzane i uzupełnione, t. II. Wrocław–Warszawa–Kraków.
A. Ch. 1890. *Szczawry*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. XI: 826.
A. J. S. [Szabrański Antoni Józef]. 1841. *Zbiory pieśni ludu z r. 1840*. „Biblioteka Warszawska", t. I: 162–165.
A. K. Ł[opaciński]. 1885. *Mienica*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. VI: 351.
A. K. Ł[opaciński]. 1892. *Uszacz*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. XII: 852.
*Akt zgonu* [online] http://localhost/mjm/aleksander_1911_322-327.jpg [дата доступу: 1.11.2023].
Ananim. 1918. *Biełaruskaj Eneida nawywarat*. "Krywičanin" № 1: 24–27.
*Anna Tołwińska: M.J. Minakowski, Genealogia potomków Sejmu Wielkiego* [online] https://www.sejm-wielki.pl/b/n.225668 [дата доступу: 1.11.2023].
*Antoni Tołwiński* [online] https://cmentarze.um.warszawa.pl/pomnik.aspx?pom_id=12751 [дата доступу: 1.11.2023].
Anonim. 1835a. *Krótkie zebranie nauki chrzesciańskiey dla wieśniakow mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego*. Wilno.
Anonim. 1835b. Rec.: *Eneida Wirgiliusza przewrócona przez Blumauera, z niemieckiego zaś na polski przełożona, przez S. B. – Kraków. Nakładem i drukiem D.E. Friedlina. 1834 roku, str. 245*. „Wizerunki i roztrząsania naukowe", cz. VI: 139–145.
Anonim. 1838a. *Nowiny literackie z Wilna*. „Tygodnik Petersburski" nr 32 (22 kwietnia / 4 maja): 178.
Anonim. 1838b. *Rozmaitości: Xiążki polskie, wydane w Wilnie, w Grudniu 1837 i w Styczniu 1838 roku*. „Tygodnik Petersburski" 1838, nr 33 (26 kwietnia / 8 maja): 185.
Anonim. 1838c. *Doniesienia literackie: Z „Tygodnika Petersburskiego"*. „Tygodnik Literacki" nr 9 (28 maja): 72.
Anonim. 1838d. *Literatura: Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Wilno 1837 u Józefa Zawadzkiego w 8ce przedmowy kart VIII tekstu 106 (Udzielono)*. „Tygodnik Petersburski" nr 41 (24 maja / 5 czerwca): 235–236.
Anonim. 1838e. *Literatura: Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Wilno 1837. (Ciąg dalszy. Patrz N 41)*. „Tygodnik Petersburski" nr 44 (3 / 15 czerwca): 252–254.
Anonim. 1838f. *Literatura krajowa: Pieśni wieśniacze z nad Niemna, Wilno 1837.* „Tygodnik Literacki" nr 14 (2 lipca): 108–109.
Anonim. 1838g. *Literatura krajowa: Pieśni wieśniacze z nad Niemna, Wilno 1837 (Ciąg dalszy).* „Tygodnik Literacki" nr 15 (9 lipca): 117–119.
Anonim. 1838h. *Literatura krajowa: Pieśni wieśniacze z nad Niemna, Wilno 1837 (Dokończenie).* „Tygodnik Literacki" nr 16 (16 lipca): 125–127.
Anonim. 1856a. *Kronika Warszawska i Krajowa*. „Gazeta Codzienna" nr 248 (10/22 września).

Anonim. 1856b. *Przegląd Tygodniowy*. „Kronika Wiadomości Krajowych i Zagranicznych" nr 163 (10/22 września).
Anonim. 1856c. *„Zapowiedziany przez nas…"*. „Kurjer Warszawski" nr 248 (10/22 września).
Anonim. 1877. *Przyjechali do Warszawy w dniu wczorajszym.* „Wiek: Gazeta polityczna, literacka i społeczna", nr 34 (1/13 lutego).
Anonim. 1881. *Od Redakcyi.* W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. II: XI.
Anonim. 1883. *Kublicze*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. IV: 833–834.
Anonim. 1902a. *Selihory*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. XV. Cz. 2: 576.
Anonim. 1902b. *Uszacz*. W: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. Warszawa. T. XV. Cz. 2: 675.
APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół 0158d [*Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej św. Krzyża w Warszawie, 1885b*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=0158d&sy=1885b&kt=2&plik=268.jpg [дата доступу: 2.11.203].
APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół 0158d [*Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej św. Krzyża w Warszawie, 1911*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=0158d&sy=1911&kt=3&plik=178-183.jpg [дата доступу: 1.11.2023].
APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół 0161d [*Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Św. Jana Chrzciciela w Warszawie, 1862*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=0161d&se=&sy=1862&kt=2&plik=080-081.jpg&x=125&y=173&zoom=2 [дата доступу: 1.11.2023].
APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół 1214d [*Akta Stanu Cywilnego Parafii św. Barbary w Warszawie, 1928c*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=1214d&se=&sy=1928c&kt=1&plik=1390-1395.jpg&x=360&y=227&zoom=1 [дата доступу: 1.11.2023].
APW (Archiwum Państwowy m. st. Warszawy), zespół UMZ-1930 [*Akta stanu cywilnego parafii rzymskokatolickiej Świętej Trójcy, Warszawa-Solec, 1930*] [online] https://metryki.genealodzy.pl/index.php?op=pg&ar=1&zs=1215d&se=&sy=1930&kt=3&plik=184-189.jpg&x=2372&y=0&zoom=1 [дата доступу: 1.11.2023].
Bahdanowicz Iryna. 1998. *Rękopiśmienne zbiory Wincentego Mienickiego w Białoruskim Państwowym Archiwum-Muzeum Literatura i Sztuki*. „Białostocczyzna" nr 4: 21–27.
Binkowska Dagmara. 2015. *Wileńskie czasopisma literackie pierwszej połowy XIX wieku w zbiorach Biblioteki Gdańskiej*. „Libri Gedanenses", vol. 31/32: 79–101.
Blumauer Alois. 1784–1788. *Virgils Aeneis travestirt*. Wien.
Blumauer Johannes Aloisius. 1783. *Abentheuer des frommen Helden Aeneas, oder Virgils Aeneis travestiert*. Band I–III. Frankfurt.
Blumauer Alois. 1834. *Eneida Wirgiliusza przewrócona przez* ... Z niemieckiego zaś na polskie przełożona przez S. B. Kraków 1834.
Bruchnalski Wilhelm. 1906. *Emilia Platerówna jako folklorystka*. „Lud: Organ Towarzystwa ludoznawczego we Lwowie" t. XII: 183–186.
Bruchnalski Wilhelm. 1922. *Materjały i notatki etnograficzne: Z „Pamiętnika" M. Marksa, witebszczanina*. „Lud: Organ Polskiego towarzystwa etnologicznego, wydawany przez Polskie towarzystwo ludoznawczego we Lwowie" t. XXI: 136–153.
Chotomski Ferdynand. 1818. *Publiusza Virgiljisza Marona. Enejdy trawestowanej początek. Arma virumque cano*… „Tygodnik Polski i Zagraniczny". T. 3, nr39: 1–13 (289–301).
Czarnowska Marya. 1817. *Zabytki mitologii sławianskiey w zwyczajach wieyskiego ludu na Białej Rusi dochowywane*. „Dziennik Wileński" t. 6: 396–408.
[Czeczot Jan]. 1837. *Piosnki wieśniacze z nad Niemna. We dwóch częściach*. Wilno.
[Czeczot Jan]. 1839. *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny*. Wilno.

